

Станіслаў Шушкевіч

# Маё жыццё,

## крах і ўваскрашанне СССР

*Прысвячаецца тым,*
*каму наканавана лёсам*
*вярнуць Беларусь у Еўропу, –*
*беларускай моладзі.*
*Вучыцеся на нашых памылках,*
*не будзьце празмерна даверлівымі.*



*Я, Станіслаў Шушкевіч, выказваю шчырую падзяку Фонду Ельцына, Slovak Aid (Slovak Agency for International Development Cooperation), Міністэрству замежных справаў Славакіі і Амбасадзе Славакіі ў Мінску. Менавіта яны падтрымалі і заахвоцілі мяне — пенсіянера, пазбаўленага пенсіі антыканстытуцыйным дэкрэтам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №16 ад 9 верасня 1997 года, да напісання гэтай кнігі.*

*Станіслаў Шушкевіч*

Станіслаў Шушкевіч

# Маё жыццё,
## крах і ўваскрошанне СССР

Мінск – – – 2013

УДК
ББК
Ш

Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць спадарам А. Жукаўскасу
і А. Арцем'еву за дапамогу ў выданні кнігі.

Скарочаны аўдыё-варыянт кнігі можна слухаць і спампаваць
з сайта Радыё Свабода: www.svaboda.org

**Шушкевіч, С.**

Ш Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР / С. Шушкевіч. – Мінск : ,
2013. – 472 с., іл.

ISBN

Палітычная аўтабіяграфія спалучаная ў кнізе з ацэнкай і аналізам значных падзеяў, удзельнікам ці сведкам якіх быў аўтар. Абмінуўшы наменклатурныя прыступкі камуністычнай іерархіі, ён – універсітэцкі прафесар фізікі – апынуўся ў складзе палітычнай эліты спачатку безнадзейна зачаўрэлага СССР, а затым і на дзяржаўнай пасадзе першага кіраўніка незалежнай Беларусі. Магчыма, гэтым вызначаецца нетрывіяльная ацэнка аўтарам дзейнасці сусветна вядомых палітыкаў, грамадскіх, культурных і рэлігійных дзеячаў, з якімі звёў яго лёс, а таксама яго бачанне перспектыў палітычнага і геапалітычнага развіцця постсавецкай прасторы.

**УДК**
**ББК**

**ISBN**

# ЗМЕСТ

## IX. «КАЛІ Б ВЕДАЎ, З КІМ ЕДУ ...»
**або Адказ прэм'еру на ліст і кнігу**



## X. БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА, ВІСКУЛІ, 7-8 СНЕЖНЯ 1991 ГОДА



## XI. БЕЛАРУСЬ –ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ



## XII. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ПАЛІТЫКА

# Уступ

Усё ў гэтай кнізе – мой асабісты погляд. Лічыце, што перад кожным сцверджаннем стаяць словы: «на маю думку».

Зноў і зноў прыгадваю падзеі ў Белавежскай пушчы ў снежні 1991 года. Расіі, Украіне, Беларусі, як і ўсім рэспублікам СССР, якія афіцыйна абвесцілі аб сваім імкненні да незалежнасці, былі неабходныя неадкладныя перамены, трэба было вызначацца з прынцыпамі пабудовы сваёй дзяржаўнасці. Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын заставаўся самым уплывовым прагрэсіўным лідэрам саюзнага, а нават і сусветнага маштабаў. Ад першага з'езду народных дэпутатаў СССР ён заставаўся паслядоўным прыхільнікам дэмакратычных пераўтварэнняў у Савецкім Саюзе, не імкнуўся будаваць адносіны з рэспублікамі з пазіцый «старэйшага брата».

Па маім запрашэнні 7 снежня 1991 года ў Белавежскую пушчу з'ехаліся афіцыйныя прадстаўнікі трох суб'ектаў СССР. Яны ж былі і паўнапраўнымі прадстаўнікамі рэспублік, якія прынялі дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Мы ўсе, хто сабраўся ў пушчы, усведамлялі заганы савецкага ладу, аднак, не было поўнага адзінадушша ў тым, што трэба адкінуць, што пакінуць, якімі павінны быць новаўвядзенні. Ужо ў Віскулях мы зразумелі, што абавязаныя зрабіць тое, чаго нельга не зрабіць, і адклалі на потым многае з таго, дзеля чаго з'ехаліся. Тамсама былі сфармуляваныя прымальныя для ўсіх умовы найбольш шчыльнай з магчымых формаў адзінства постсавецкіх краінаў.

Выніковы міжнародны прававы дакумент – Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў – прайшоў праверку на сталасць і быў на працягу чатырох дзён ратыфікаваны парламентамі краінаў-удзельніцаў сустрэчы. Праз 13 дзён да яго далучыліся яшчэ восем суб'ектаў СССР, кіраўнікі якіх сабраліся спецыяльна для гэтага ў Алма-Аты. Усе яны падпісалі Пагадненне аб стварэнні СНД і папрасілі лічыць і іх заснавальнікамі Садружнасці.

Кансэнсус тройкі пашырыўся да кансэнсуса адзінаццаці. Заставаліся шанцы на далучэнне да яго Грузіі, чаго не прыйшлося доўга чакаць.

Рашучыя, міратворчыя па сваёй сутнасці захады кіраўнікоў 11 новых дзяржаваў вымусілі Прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова 25 снежня 1991 года добраахвотна пайсці ў адстаўку з пасады кіраўніка ўжо неіснуючай краіны. Упершыню ў свеце адбыўся бяскроўны

распад імперыі. Імперыі больш магутнай, чым любая іншая са зніклых раней.

20 гадоў не супакойваюцца тыя, хто шкадуе аб распадзе СССР, дзе існаваў Гулаг, дзе кіравалі лідэры, якія ўчынілі злачынствы супраць чалавечнасці. Часам падаюць галасы і тыя, хто называе распад СССР «трагедыяй», «злачынствам», скіраваным супраць брацкага адзінства савецкіх народаў.

Разам з тым на сустрэчах на вышэйшым узроўні абвяшчаюцца іншыя заявы. 20-годдзе СНД, напрыклад, было ўрачыста адзначанае ўсімі краінамі Садружнасці, хоць шмат што з дэкларыванага на самітах забываецца і па старой савецкай традыцыі не выконваецца. Нават значна менш дэмакратычная ў параўнанні з Еўрапейскай канвенцыяй Канвенцыя СНД аб правах і асноўных свабодах чалавека, падпісаная ў Мінску 26 траўня 1995 года сямю краінамі СНД, не стала нормай у гэтых краінах. Правы чалавека абмяжоўваюцца ў іх значна больш, чым Канвенцыя дазваляе.

На жаль, невыкараняльныя ў СНД і цэнтраімклівыя сілы, як і прэтэнзія Расіі на ролю «старэйшага брата». Не падабаецца ўладам краінаў СНД і класічная дэмакратыя. Расійская ўлада, напрыклад, спарадзіла сваю дэмакратыю – «суверэнную». Не пасуе ўладам Садружнасці і Еўрапейская хартыя па муніцыпальным самакіраванні. Беларусь наогул адмовілася ад мясцовага самакіравання, а Расія да беларускага варыянту наблізілася.

Будзем лічыць згаданыя і многія іншыя праблемы часовымі цяжкасцямі пераходнага перыяду – ад «развітога сацыялізму» да сапраўднай свабоды і дэмакратыі, дзе шануецца нацыянальная годнасць і чалавечая годнасць наогул. На жаль, сённяшнія асобныя кіраўнікі краінаў СНД не праводзяць эфектыўную самастойную палітыку дзеля дабрабыту сваіх грамадзянаў. Некаторыя чакаюць падказак ад нашчадкаў тых, хто доўга кіраваў іх рэспублікамі і ад чыёй апекі яны пазбавіліся дзякуючы Белавежскаму пагадненню. Яны задаволеныя сваім палітычным статусам і замест цяжкай штодзённай палітычнай дзейнасці дзеля людскога дабрабыту робяць усё, каб утрымацца пры ўладзе. Супакойваюць людзей дэмагагічнымі сентэнцыямі накшталт: «У тых, хто жадае аднавіць СССР, няма розуму, а ў тых, хто не шкадуе аб яго распадзе, няма сэрца».

Каб такія кіраўнікі чыталі разумныя кнігі, то ведалі б, што гэтыя словы былі сказаныя Уінстанам Чэрчылем зусім з іншай нагоды...

# І. ПРА МОЙ РОД, СЯБЕ І НАШУЮ ЭЛІТУ

## Дзяды, бацькі, сям'я

Да 1997 года я вельмі ганарыўся сваім «рабоча-сялянскім» паходжаннем. Мой дзед па маці Людвіг Рамановскі працаваў чыгуначнікам на Лібава-Роменскай дарозе. Ён памёр, калі мне не было і трох гадоў, але я яго памятаю! Дакладней, памятаю яго боты, высокія халявы якіх перашкаджалі мне ўтульна сядзець у яго на каленях пасля таго, як я ў садзе каля нашай маленькай хаткі апёк сваю голую нагу аб гарачую самаварную трубу. Дзед супакойваў мяне і казаў, што калі б я, як ён, быў у ботах, то апёку не здарылася б.

Пазней суседкі неаднойчы гаварылі дзедавай удаве – маёй бабулі:

– Францішка, ты шчаслівая, пражыла з Людвігам цікавае жыццё, нарадзіла 12 дзяцей, была жонкай чалавека з добрым заробкам – кандуктара.

Бабуля іх рашуча папраўляла:

– Обер-кандуктара!

Што такое «обер», я зразумеў пазней, а ў той час лічыў дзеда вельмі важным начальнікам на чыгунцы. Рэаліі ж былі простыя: дзед у любое надвор'е ездзіў з чырвоным газавым ліхтаром у хвасце таварнага цягніка.



*Мой дзед Людвіг Антонавіч*



*1949 год. Мая бабуля Франя, фатаграфаваў я сам*



*Дзед і бабуля з малодшай дачкой Ядвігай*



СВИДѢТЕЛЬСТВО.

По указу ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА,

С.-Петербургъ.

*1912 год. Пасведчанне аб прызнанні дзеда Людвіга «в потомственном дворянском достоинстве»*

Добра памятаю галоўную матэрыяльную каштоўнасць з дзедавай спадчыны – кішэнны гадзіннік «Буре» ў цяжкім чыгунным корпусе. Бабуля вельмі ім даражыла і старанна захоўвала, як рэліквію, але ў час фашысцкай акупацыі памяняла на хлеб і аполец сала для мяне і сястры. Такія гадзіннікі меліся толькі ў чыгуначнікаў-машыністаў, а дзеду ён дастаўся як узнагарода за тое, што ён хутка і рашуча дзейнічаў, калі некалькі вагонаў нечакана адчапіліся ад таварнага цягніка і спыніліся. Дзед з ліхтаром пабег у зваротным кірунку і прадухіліў аварыю – спыніў наступны цягнік.

Трое з дванаццаці бабуліных дзяцей памерлі ў маленстве. Астатнія дзевяць выраслі і жылі на вялікім абшары – у Беларусі, Расіі, Літве і Польшчы.

Лёс некаторых з іх быў па-сапраўднаму трагічным. Адзін сын – Вацлаў – загінуў падчас Грамадзянскай вайны, другі – Фелікс – у першыя дні Другой сусветнай. Яго жонка Клава нарадзіла дачку Валю ў дарозе, калі пешкі ўцякала ад акупантаў з Мазыра і ўрэшце дабралася да горада Кургана.

Малодшая бабуліна дачка – Ядвіга – закончыла Педагагічны інстытут і працавала настаўніцай на Гомельшчыне. У час фашысцкай акупацыі яе муж – Сямён Караваеўскі – быў партызанскім камандзірам. Цяжарная Ядвіга, у акно вясковага дома згледзеўшы паліцаяў, хуценька залезла па лесвіцы на гарышча, не прыхапіўшы нават цёплай вопраткі. Паліцаі, здагадаўшыся, дзе яна хаваецца, прыбралі лесвіцу. Цётка Ядзя, злазячы з гарышча без лесвіцы, моцна ўдарылася і памерла падчас заўчасных родаў, пакінуўшы сіротамі трох маленькіх дзяцей. Круглымі сіротамі! Бо і муж яе загінуў праз некалькі дзён у баі.



*1949 год. Сваім уласным «Камсамольцам» я сфатаграфаваў дзеда Пятра*

У самым канцы мінулага стагоддзя мая сястра адшукала пасведчанне, згодна з якім у 1912 годзе наш дзед Людвіг быў «признан в потомственном дворянском достоинстве». Добра, што гэта адбылося ў постсавецкі час, бо раней нашчадкаў «дваранскіх фамілій» чакалі непрыемнасці.

Не маю сумневу ў адным – дзед мой быў звычайным працаўніком. Усё зробленае ягонымі рукамі было простым, моцным і надзейным. Як і бабка Франя, ён лічыў працу крыніцай дабрабыту і ніколі не ставіўся пагардліва ні да якой справы. Калі дзедава здароўе не дазволіла яму працаваць на чыгунцы, ён пайшоў у лазеншчыкі: прымаў і выдаваў вопратку ў грамадскай лазні, прыбіраў мыйнае памяшканне і гардэроб. Бабка Франя да 91 года свайго жыцця хадзіла з мехам па траву для сваёй казы, малако якой заставалася важкім дадаткам да бюджэту нашай сям'і.

Дзеда з боку бацькі – Пятра Іосіфавіча Шушкевіча – памятаю з пачатку вайны. Яго жонка – Разалія Вікенцьеўна – памерла, калі мне не споўнілася і двух гадоў. Сям'я іх была шматдзетная, і лёс таксама раскідаў іхных дзяцей па ўсім Савецкім Саюзе.

Зіму 1941–1942 гадоў я правёў у дзеда Пятра ў вёсцы Шчытомірычы за 14 кіламетраў (на той час) ад Мінска. Непасрэдна перад пачаткам вайны дзед закончыў будаваць новы дом з вялікімі вокнамі і драўлянай падлогай. Дом стаяў пры самай дарозе Мінск–Слуцк. Відавочна, гэта і спрычынілася да таго, што акупанты выгналі дзеда з сям'ёй з дома, і ён вярнуўся ў старую хату пад саламянай страхой, грунтоўна прагнілую, з двума маленькімі акенцамі і глінабітнай падлогай.

Пасярэдзіне хаты стаяла вялікая печ. Баба Вера – жанчына, з якой дзед ажаніўся ў 1939 годзе, – пякла ў печцы вельмі смачныя бліны з



*1912 год. Мая бабка Разалія і дзед Пётр са сваімі дзецьмі Броняй, Стасем (маім бацькам), Бронюсем і Вацлавам (на пярэднім плане)*

жытняй мукі на заквасцы. Закваскай служыла невялікая порцыя цеста, знарок пакінутая ў драўлянай дзежачцы ад папярэдняга замесу.

Раз на два тыдні баба Вера пякла на той жа заквасцы хлеб. Пасля таго, як печ добра прапальвалася, яна выстаўляла на чыста падмецены адмысловым венікам пячны под цеста авальнай формы, пляскала па ім драўлянай лапатай і закрывала заслонку. Праз гадзіну-паўтары з печы даставаліся вялікія чорныя боханы. І колькі б ні пераконвалі мяне сёння, што цяперашні крамны хлеб смачнейшы, я ніколі не паверу...

У горадзе ў тую зіму было вельмі галодна, а ў вёсцы – даволі сытна. Часта на снеданне пякліся бліны, на абед варыліся крупнік, бацвінне або капуста, прыпраўленыя скварачкамі, на вячэру быў акраец хлеба і кубак малака.

З настойлівай падказкі маці я, сямігадовы, стараўся дапамагаць дзеду Пятру і бабе Веры. Праўда, у дзедавай хаце мяне без маіх мінскіх вулічных сяброў і хатняй бібліятэкі адольваў сум. Дзедавы кніжкі засталіся ў новым доме, куды заходзіць было забаронена, а сюды, у старую хату, ён змог забраць толькі самае патрэбнае – календары калгасніка за добры дзесятак гадоў, Біблію на царкоўна-славянскай мове і часопісы «Пчеловодство» – таксама гадоў за дзесяць. Усё гэта было патрэбна дзеду, заўзятаму садоўніку, сад і пасека якога былі вядомыя далёка за межамі Шчытомірычаў. Але дзедавы часопісы і кніжкі мяне не захаплялі.

Да незабыўных успамінаў дзяцінства я адношу і вясковае лета 1942 года. У большасці двароў у Шчытомірычах не было тады коней. Калгасных аддалі чырвонаармейцам падчас адступлення. У дзеда была кабыла Машка, якую, наадварот, чырвонаармейцы аддалі яму. Дзед



*1933 год.*
*Мая маці –*
*Гэлена Раманоўская*

упрасіў іх Машку не прыстрэльваць, калі яна зламала нагу. Ён вылечыў яе, раячыся са сваім сябрам, што меў нейкі досвед у ветэрынарыі. У выніку Машка хоць і моцна кульгала, але добра дапамагала ў сялянскай гаспадарцы.

Мяне ж кабыла аднойчы страшэнна зняважыла. Калі я, ускараскаўшыся Машцы на спіну, накіраваў яе да вадапою – невялічкай сажалкі, яна так моцна нахіліла галаву да вады, што я з'ехаў па конскім загрыўку ў ваду. Пад вечар усёй вёсцы стала вядома, што кульгавая Машка ледзь не ўтапіла гарадскога няўмеку – малога Шушкевіча – у сажалцы, глыбіня якой даходзіла да вушэй, калі стаяць на галаве...

Мае бацькі – маці Гэлена Раманоўская і бацька Станіслаў Шушкевіч – былі інтэлігентамі ў першым пакаленні, дзецьмі беларускіх сялянаў, але, як пазней высветлілася, абое паходзілі са збяднелай шляхты. Яны вучыліся ў адной студэнцкай групе і атрымалі дыпломы філолагаў – выкладчыкаў беларускай, рускай і польскай моваў. Маці і бацька даволі паспяхова займаліся пісьменніцкай дзейнасцю і былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў СССР: маці – у 1934-м, бацька – у 1935 годзе. У той час яны шчыра верылі, што ў Савецкім Саюзе ствараецца самае справядлівае грамадства на зямлі. Фактычна, яны праслаўлялі сацыялістычны лад і вучылі ненавідзець яго ворагаў. Рыфмавалі ілюзіі – як напіша пазней адзін паважаны журналіст.

Пісьменніцкі білет маці, падпісаны Максімам Горкім, захаваўся і з'яўляецца сямейнай рэліквіяй. Білет бацькі сканфіскавалі пры арышце ў канцы 1936 года, калі ён быў асуджаны як «вораг народа».

Пасля арышту бацькі маці імгненна была звольненая з працы ў Радыёкамітэце як палітычна ненадзейная і страціла магчымасць зай-




маца літаратурнай дзейнасцю. Яе выключылі з Саюза пісьменнікаў і з камсамола – на сходзе, якім кіраваў камсорг паэт Аркадзь Куляшоў. Галоўным аргументам паслужыла анкета, дзе маці ў графе «сямейнае становішча» напісала «замужняя».

– Не можа лічыцца камсамолкай тая, якая лічыць сваім мужам ворага народа, – падвёў вынікі старшыня сходу Аркадзь Куляшоў.

Нідзе ў Мінску маці не прымалі на працу. Страціўшы ўсякую надзею, яна пайшла ў КДБ, дамаглася там сустрэчы з нейкім службоўцам і заявіла:

– Я адсюль нікуды не пайду. Забірайце і мяне ў турму, бо я нідзе не магу ўладкавацца на працу. Мне няма чым карміць сына і маці, я не маю ніякіх сродкаў і зберажэнняў.

Службовец, як расказала маці праз многа гадоў маёй ужо дарослай сястры Ірыне, аказаўся на рэдкасць ветлівым. Прызначыў час, калі маці павінна была прыйсці да яго наступным днём, і дадаў:

*1966 год.*
*Мой бацька –*
*Станіслаў Пятровіч*
*Шушкевіч*



– Ідзіце дамоў і не рабіце ніякіх глупстваў.

На другі дзень службовец паведаміў маці, што ў мінскай школе № 17 патрэбен настаўнік рускай мовы і літаратуры. Неўзабаве яе прынялі на працу.

Такі паварот лёсу стаўся для маці радасным: ёсць праца, будзе і заробак, будзе чым карміць дзяцей. Але былі падставы і для неспакою. Па-першае, каб пацвердзіць свой прафесіяналізм, ад яе патрабаваліся немалыя высілкі. Да гэтага часу і на радыё, і ў пісьменніцкай практыцы маці карысталася толькі беларускай і польскай мовамі. Адпаведна, як ёй здавалася, яна лепш ведала беларускую і польскую мастацкую літаратуру. Па-другое, 17-я школа была за добрых шэсць кіламетраў ад дому. Трамвай, на якім можна было даехаць амаль да самай школы, часта псаваўся, і, баючыся спазніцца, маці часцей за ўсё дабіралася на працу пешкі.

Аб тым, што маці была вельмі добрай школьнай настаўніцай рускай мовы і літаратуры, мне не раз гаварылі яе былыя вучні. Сярод іх і вядомы кардыёлаг акадэмік НАН Беларусі Георгій Іванавіч Сідарэнка. Ён і падумаць не мог, што выкладанне рускай мовы і літаратуры было для маці новай справай і патрабавала нялёгкай штодзённай падрыхтоўкі. Прышчапляючы сваім вучням (а таксама і мне) любоў да вялікай рускай літаратуры, маці зрабіла ўсё, каб я не пайшоў па шляху гуманітарных навук, бо была ўпэўненая, што на такой дарозе мне пагражае лёс бацькі.

У 1954 годзе бацька быў цалкам рэабілітаваны і ў 1956-м вярнуўся з Сібіры ў Мінск. У тым жа 1956-м я стаў выпускніком фізіка-матэматычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Бацька не затаіў ні крыўды, ні жадання помсціць тым, хто бессаромна хлусіў, робячы з яго ворага народа. Ён проста не падаваў ім рукі, а сустрэўшы суддзю, які беспадстаўна яго асудзіў, параіў яму звольніцца з пасады, што той імгненна і зрабіў. Мне ж ён заўсёды нагадваў, што камуністычная ідэя – самая цудоўная ў свеце, і што трэба толькі пільнаваць, каб да кіраўніцтва партыяй пад выглядам прыхільнікаў камунізму не дарваліся нягоднікі. Бацька быў рамантыкам. У маім разуменні ўсё стала на належнае месца пасля перабудовы і галоснасці. Толькі за год да смерці, як мне здалося, бацька ўсвядоміў сапраўдную сутнасць камуністычнай ідэалогіі.

Самым надзейным і верным мне чалавекам заўсёды была сястра Ірына. Яна скончыла фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і ўсю сваю працоўную дзейнасць звязала з адным заводам. Ніколі нікога не асуджала, ніколі ні з кім не сварылася. Здольная дамовіцца з кім заўгодна, яна, аднак, ніколі не ішла на саступкі, што зневажалі б яе чалавечую годнасць.

Я па-добраму ёй зайздросціў.

Ірына пераняла традыцыю, перададзеную ў свой час бабкай Франяй нашай маме, – двойчы на год, на калядную Вігілію і Вялікдзень, збіраць усю нашу радню і самых блізкіх нам людзей. У яе ўтульнай ма-



*З дачкой Аленай і ўнучкай Стасяй*

ленькай «хрушчоўцы» ўсім нам было добра дзякуючы яе незвычайнай дабразычлівасці. А якія смакоцці гатавала для нас Ірына разам з мужам Валерам! Не хапіла ёй толькі здароўя дажыць да вігілійнай вячэры 24 снежня 2012 года, на якую яна ўсіх нас запрасіла. Сястра раптоўна памерла 22 снежня 2012 года – проста за жалобным сталом, прыехаўшы з пахавання нашага з ёю стрыечнага брата Віктара Більдзюкевіча. Так у апошні дзень свайго знаходжання на зямлі Ірына «сабрала» ўсіх сяброў і родных на свае памінкі, якія адбыліся 24 снежня...

Час ідзе, учарашняя малеча – мая ўнучка Стася – стала студэнткай. Яна лёгка засвоіла англійскую мову, якую так і не змог вывучыць дзед.

*Дзве Ірыны – мае сястра і жонка*





*У дзяцінстве сын Станіслаў быў улюбёнцам цесця і цешчы, цяпер – амаль прадпрымальнік*

Бегла гаворыць па-англійску, някепска – па-польску, па-італьянску, па-нямецку.

Дачка першай у нашым родзе займела сур'ёзную музычную адукацыю – закончыла кансерваторыю. Жонка ўвесь час "помсціць" мне за першую ў яе жыцці чацвёрку, якую яна атрымала, здаючы мне іспыт на трэцім курсе. Да гэтага ў яе былі толькі пяцёркі. Прымушае мяне выключаць тэлевізар у час снедання, есці без солі, сцвярджаючы, што ўсё гэта ідзе мне на карысць.

Светлай памяці цесць – удзельнік Сталінградскай бітвы, танкіст, і цешча – настаўніца, ніколі не ведалі лепшага занятку, чым бавіцца



*1985 год. Бацька з унукам – маім сынам Station Станіславам*

з унукам – маім сынам. Хлопчыку гэта падабалася, і ён плаціў ім узаемнай любоўю. Толькі аднойчы ў жыцці я бачыў, як сын мой няўцешна плача. На пахаванні дзеда Кузьмы ён нёс падушачку з дзедавымі ўзнагародамі і без перапынку ліў на іх слёзы.

Бязмежна любіў унука і другі дзед – мой бацька. Ён больш рэдка з ім бачыўся, бо жыў даволі далёка, але калі дзед з унукам сустракаліся, то іх цяжка было разлучыць.

Сын вырас, закончыў універсітэт, спрабуе стаць бізнесоўцам. Набівае гузы, атрымлівае першыя перамогі. Упарты, хоча сцвердзіцца ў справе, якая для ўсіх нас, астатніх родных, застаецца малазразумелай. Сын на адно пакаленне глыбей, чым я, ведае свой радавод, непараўнальна лепей вандруе ў Сеціве. На жаль, не ведаю, што любіць болей, матчыну радзіму – Расію, ці бацькаву радзіму – Беларусь, але ў тым, што любіць адну і другую, сумневу няма. Пасля другога года навучання ва ўніверсітэце ездзіў падчас вакацый на заробкі ў ЗША. Паездку апраўдаў і нават нешта зарабіў. Я ж быў шчаслівы, калі яго першымі словамі пасля вяртання былі:

– Ніколі больш нікуды на заробкі не паеду. Буду працаваць тут, у Беларусі.

## Пра сябе: храналогія і статыстыка

Я нарадзіўся 15 снежня 1934 года ў Мінску. У 1951 годзе з медалём закончыў сярэднюю школу, у 1956-м – фізіка-матэматычны факультэт універсітэта, у 1959-м – аспірантуру Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР. У 1963 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1970-м – доктарскую, у 1972-м атрымаў званне прафесара, у 1982-м – званне заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР, у 1986-м атрымаў Дзяржаўную прэмію, у 1988-м – прэмію Савета Міністраў СССР, у 1991-м абраны членам-карэспандэнтам Нацыянальнай Акадэміі навук.

Пад маім навуковым кіраўніцтвам паспяхова абараніліся 33 кандыдацкія дысертацыі па фізіка-матэматычных і тэхнічных навуках. З'яўляюся аўтарам звыш 150 навуковых прац, двух падручнікаў і некалькіх акадэмічных дапаможнікаў для студэнтаў універсітэтаў, 7 манаграфій, аўтарам 73 вынаходніцтваў (разам з суаўтарамі). У савецкі час быў візіт-прафесарам у замежных універсітэтах – Люблянскім (Югаславія), Ягелонскім (Польшча), Енскім (ГДР), дзе чытаў лекцыі па ядзернай электроніцы і радыёспектраскапіі. Удзельнічаў у многіх міжнародных навуковых канферэнцыях і сімпозіумах як у СССР, так і ў Югаславіі, ГДР і Польшчы.

У 1966 годзе быў прызначаны прарэктарам па навуковай працы Мінскага радыётэхнічнага інстытута, у 1970-м вярнуўся ва ўніверсітэт, дзе ў 1972-м стаў загадчыкам кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Назва кафедры падкрэслівала, што студэн-

ты вывучаюць тут ядзерную фізіку ў мірных мэтах, што было вельмі важным для навучання на ёй студэнтаў з замежжа, а іх прайшло праз кафедру вельмі многа.

У 1985 годзе, застаючыся загадчыкам кафедры, быў прызначаны прарэктарам па навуцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (тады – імя У.І. Леніна).

Адразу пасля катастрофы ў Чарнобылі, калі сутнасць таго, што там адбылося, старанна ўтойвалася, мы зарэгістравалі высокі ўзровень радыеактыўнасці паветра ў Мінску і зрабілі аналіз спектра радыеактыўнага выпраменьвання, што дазволіла адназначна сцвярджаць – недзе на ядзерным рэактары адбылася буйная аварыя.

Рэакцыя на мае звароты ў кіраўніцтва Акадэміі навук і Савета Міністраў БССР была тыпова савецкай: «Не сейце паніку, нічога сур'ёзнага не здарылася!». Відавочна, і гэта праз пэўны час падштурхнула мяне перайсці ад фармальнай грамадскай працы да сур'ёзнай, а пасля і да грамадска-палітычнай і палітычнай дзейнасці. Недарэчныя паводзіны савецкага чынавенства, якое выконвала ўказанні партыйнага кіраўніцтва, вялі да непапраўных памылак у ахове здароўя людзей. Гэта не магло не выклікаць справядлівага абурэння. Супрацоўнікі кафедры і я палічылі сваім грамадзянскім абавязкам тлумачыць усюды і ўсім сутнасць таго, што здарылася, і прапагандаваць метады і спосабы найбольш бяспечнага пераадолення наступстваў ядзернай катастрофы.

Праз тры дні пасля чарнобыльскага выбуху – 29 красавіка1986 года – я адчыніў для свабоднага наведвання дзверы адной з лабараторый сваёй кафедры, дзе спачатку супрацоўнікі ўніверсітэта, а пасля і ўсе, хто жадае, маглі праверыць узровень радыеактыўнасці рэчаў, а яшчэ праз дзень-два – і радыеактыўнасць харчовых прадуктаў. Магчымасць падобных замераў была ў той час у Беларусі вялікай рэдкасцю, але абсталяванне кафедры і высокая кваліфікацыя яе супрацоўнікаў дазволілі наладзіць такія замеры імгненна.

У 1989 годзе мяне абралі народным дэпутатам СССР. На з'ездах у Крамлі я ўвайшоў у Міжрэгіянальную дэпутацкую групу (МДГ), у ліку сустаршыняў якой былі Б.М. Ельцын і акадэмік А.Дз. Сахараў. Галоўнай мэтай МДГ было прагрэсіўнае мірнае рэфармаванне СССР у прававую дэмакратычную дзяржаву з рынкавай эканомікай.

У 1990 годзе я быў абраны народным дэпутатам БССР, а пасля – першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Адразу ж асудзіў як спробу дзяржаўнага перавароту з мэтай камуністычнага рэваншу жнівеньскі путч 1991 года ў Маскве (ГКЧП) і выказаў падтрымку Барысу Ельцыну.

У пачатку верасня 1991 года беларускі парламент абраў мяне на вышэйшую службовую пасаду краіны – Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР.

У пачатку снежня 1991 года, усведамляючы бессэнсоўнасць адраджэння СССР з «чалавечым тварам», я стаў арганізатарам сустрэчы ў Белавежскай пушчы лідэраў Расійскай Федэрацыі, УССР і БССР сумесна з кіраўнікамі і кампетэнтнымі чальцамі ўрадаў і экспертамі. Мэта – сумесны пошук выхаду з напружанай унутранай эканамічнай сітуацыі ў Беларусі і суседніх рэспубліках. Там, у пушчы, усім нам стала абсалютна ясна, што без праўдзівай дакументальнай канстатацыі рэальнага стану рэчаў ніякія прагрэсіўныя пераўтварэнні немагчымыя. Удзельнікі сустрэчы палічылі непрымальнымі парады кіраўнікоў і вядучых палітыкаў буйнейшых краінаў свету пайсці па шляху, настойліва прапанаванаму ў вядомай прамове Буша-старэйшага ў Кіеве ў тым самым 1991 годзе. У сваім выступе, які журналісты іранічна назвалі «катлетай па-кіеўску», ён настойліва заклікаў «адмовіцца ад нацыяналізму» і ўсім заставацца ў Савецкім Саюзе.

У Белавежскай пушчы мы вырашылі афіцыйна канстатаваць тое, што здарылася: прызнаць, што СССР як геапалітычная рэальнасць і суб'ект міжнароднага права не функцыянуе як нармальная дзяржава, іншымі словамі – спыняе сваё існаванне. Мы пастараліся знайсці найбольш шчыльную форму супрацоўніцтва складовых частак СССР і пераўтварыць Саюз у Садружнасць Незалежных Дзяржаваў (СНД).

Пазней неаднаразова падкрэслівалася і стала агульнапрызнаным, што менавіта там, у Белавежскай пушчы, быў распрацаваны, узгоднены і падпісаны дакумент, які дазволіў прадухіліць сілавыя захады ўтрымання рэспублік у складзе СССР, прадухіліць крывавы варыянт непазбежнага распаду Савецкага Саюза на самастойныя дзяржавы на ўзор югаслаўскага.

Адразу пасля вяртання ў Мінск мне ўдалося пераканаць парламент ратыфікаваць Пагадненне аб утварэнні СНД.

На сустрэчы ў пушчы я заявіў аб згодзе Беларусі вывесці са сваёй тэрыторыі ўсё стратэгічнае і тактычнае ядзернае ўзбраенне без перадумоваў і кампенсацыі, бо выдатна разумеў, што наяўнасць ядзернага арсенала ў Беларусі – пагроза існаванню беларусаў як нацыі. У мяне не было ніякага сумневу ў тым, што я пераканаю Вярхоўны Савет прыняць такое рашэнне. Урэшце так і сталася. Усе неабходныя міждзяржаўныя пагадненні ў справе вываду ядзернай зброі з Беларусі былі без затрымкі падпісаныя беларускім бокам, і да канца 1995 года ўся ядзерная зброя пакінула Беларусь.

Улетку 1993 года старая партыйная наменклатура ачуняла ад страху, народжанага жнівеньскім 1991 года путчам, і паспрабавала зняць мяне з пасады вышэйшай службовай асобы ў краіне. Але пры галасаванні ў парламенце ёй не хапіла шасці галасоў. У студзені 1994 года ёй гэта ўдалося.



*6 чэрвеня 2010 года Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ ўручыла мне ордэн «Крыж Вітаўта»*

У 1995 годзе я быў ізноў абраны ў першым туры дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. Але не прайшло і двух гадоў, як прэзідэнт Лукашэнка з дапамогай вышэйшых расійскіх кіраўнікоў, якія спецыяльна прыехалі ў Мінск «замірыць» прэзідэнта з Вярхоўным Саветам, разагнаў беларускі парламент і ўсталяваў дыктатуру. Імперцы старой камуністычнай закваскі – старшыні расійскай Думы і Савета Федэрацый Селязнёў і Строеў, а таксама расійскі прэм'ер Чарнамырдзін даволі лёгка, як кажуць, абвялі вакол пальца Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага і падпісалі дакумент, які дазволіў Лукашэнку атрымаць неабмежаваную ўладу. Пра гэта рэдка ўспамінаюць, але не грэх напомніць, што асістэнтамі Шарэцкага на перамовах Лукашэнкі з расійскімі «замірэнцамі» былі Генадзь Карпенка і Сяргей Калякін, а старшыня Канстытуцыйнага Суда В.Г. Ціхіня нават паставіў на ганебным дакуменце свой подпіс.

Што да мяне, то апошні дыктатар Еўропы не ўтойвае тут сваю паталагічную нянавісць: ён пазбавіў мяне пенсіі, нікому не дазваляе прыняць мяне на працу ў Беларусі. Калі зразумеў, што я здольны падарожнічаць і зарабляць на жыццё працай у замежных універсітэтах Расіі, ЗША, Польшчы, Украіны, Паўднёвай Карэі, Францыі, Японіі, Швецыі, а таксама даводзіць да замежнікаў праўду аб сённяшняй Беларусі, чарговым разам парушыў канстытуцыю і забараніў мне выезд з краіны.

Пры ўсім гэтым я не маю намеру адмаўляцца ад палітычнай дзейнасці. З 1997 года ўзначальваю партыю «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада». Атрымаў некалькі прэстыжных

міжнародных узнагародаў за дзейнасць, скіраваную на дэмакратызацыю і адстойванне правоў чалавека.

У 1997 годзе мне прысуджаная Міжнародная ўкраінская прэмія імя Піліпа Орліка; у 2005-м – прэмія імя Яна Новака-Ёзераньскага ў Польшчы; у чэрвені 2010-га я быў узнагароджаны вышэйшым ордэнам Літоўскай Рэспублікі – за садзеянне дэмакратычным пераўтварэнням у Літве ў 1989–1994 гадах. Фонд памяці ахвяраў камунізму ўзнагародзіў мяне Медалём Свабоды імя Трумэна-Рэйгана. Цырымонія ўручэння адбылася 26 сакавіка 2012 года ў Вашынгтоне ў фондзе «Спадчына».

Мяне не пакідае надзея пераўтварыць дыктатарскую Беларусь на чале з кіраўніком, які прыслухоўваецца пераважна да ўласных інстынктаў, у дзяржаву, годную яе народа. Пераўтварыць эвалюцыйным шляхам, як гэта адбылося з СССР.

## Пра сябе: споведзь саўка

Савецкага Саюзу няма, а савецкі чалавек застаўся. Гэта факт. Жартаўнікам, якія не заглыбляюцца ў сутнасць рэчаў, ёсць дзе папрактыкавацца. Чалавек разумны, сцвярджаюць яны, з'явіўся на Зямлі тысяч семдзесят гадоў таму, чалавек савецкі – гадоў семдзесят. Суіснуюць сёння на планеце чалавек разумны і чалавек савецкі, скарочана – савок. Ён навучаны ненавідзець іншых за тое, што яны лепшыя за яго. Усе багацці ён лічыць набытымі несумленным шляхам, атачэнне – варожым, перакананы, што светлую будучыню яму перашкодзілі пабудаваць дэмакраты.

Тэрмін «савок» прыдумалі савецкія дысідэнты. Як быццам, не крыўдны і не лаянка, а характарызуе чалавека і стыль яго жыцця. У ім усё: і непрыманне, і ганьбаванне, і дакор, і сарказм, і пахвальба за цярпенне. Мовазнаўцы адносяць такія тэрміны да пеёратыўных, якія выяўляюць адмоўную ацэнку, неўхваленне, ганьбаванне, іронію і нават пагарду. У «саўка» – нічога агульнага з традыцыйнай грознай зброяй бальшавікоў – ненарматыўнай лексікай, а ён яе перамагае!

Саўкамі я лічыў многіх, але не сябе, аднак з часам зразумеў, што як і большасць грамадзянаў СССР, мала чым ад сярэднестатыстычнага саўка адрозніваюся. Не хапіла у мяне смеласці адкінуць уласную саўковасць, як рабілі гэта мужныя сумленныя людзі. Захапляўся падобнымі людзьмі, але сам не быў здольны на такі ўчынак. Усяму савецкаму ў сабе знаходзіў апраўданне. Стаў чальцом КПСС? Дык на такой, прабачце, пасадзе апынуўся, беспартыйнаму на ёй працаваць немагчыма.

Надарыўся выпадак – пайшоў ва ўладу. Стаў першым без інтрыгаў і хлусні. Мог, як савок, падмяць іншадумцаў, але не падмяў. Зразумеў – апраўдваць саўковасць далей – злачынства. Ачуняўшы ад страху пасля разгрому каммуністычнага путчу, саўкі толькі аб гэтым марылі...

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі, першым падпісаў Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў. Першым прапанаваў зрабіць Беларусь без'ядзернай. І зрабіў! А да 54 гадоў нават не падумваў мець дачыненне да палітыкі. Партыйных функцыянераў лічыў абсалютна няздольнымі займацца карыснай працай – фізікай, тэхнікай, гісторыяй, філалогіяй, будаўніцтвам, сельскай гаспадаркай. Саспеў, здавалася, для канчаткова развітання з уласнай саўковасцю, але яна жывучая і час ад часу дае аб сабе знаць.

Меў зносіны з моцнымі гэтага свету. Што да асобных з іх, зразумеў, хто яны такія. Яны розныя. Хачу тое-сёе нагадаць аб іх людзям, каб менш памыляліся. Перакананы, нам не прыйсці да еўрапейскай беларускай Беларусі без адраджэння нацыянальнай інтэлігенцыі – людзей любой нацыянальнасці, але высокай унутранай культуры, якіх так люта знішчалі бальшавікі, якіх сёння ліквідуюць іх нашчадкі, па-ранейшаму падмяняючы інтэлігентаў *людзьмі разумовай працы*...

Але аб гэтым – пазней.

## Беларусь, беларусы, эліта

Гісторыя Беларусі, якую даводзілі ў школах і ВНУ да людзей ад пакалення маіх бацькоў да пакалення маіх дзяцей, мае мала агульнага з сапраўднай гісторыяй маёй краіны. Аднак, засеўшы ў галовах трох-чатырох пакаленняў, яна і сёння вызначае светапогляд большасці беларускіх грамадзянаў. Раскажу коратка аб тым, як я разумею знакавыя падзеі гісторыі Беларусі.

Станаўленне беларускай дзяржаўнасці пачалося ў канцы першага тысячагоддзя. Горад Полацк як цэнтр княства згадваецца ў летапісах з 862 года. Цікавая дата! За год да гэтага – у 861-м – наўгародцы прадэманстравалі ўласную няздольнасць кіраваць сваім княствам і запрасілі княжыць варагаў. З тае пары Расія адчувае комплекс непаўнацэннасці ў справе дзяржаўнага будаўніцтва. Толькі аднойчы, а менавіта 12 чэрвеня 1991 года, расійскі народ абраў кіраўніка расійскай дзяржавы – прэзідэнта Барыса Мікалаевіча Ельцына. Але нават яго тытанічнага здароўя і вынослівасці не хапіла, каб зацвердзіць такі парадак рэчаў на наступны час. Адчуваючыя комплекс непаўнацэннасці, прэзідэнцкае атачэнне згуртавалася і прымусіла Ельцына прызначыць пераемніка, а той, выхаваны ў старых імперскіх традыцыях, вярнуў усё ў старое рэчышча. Сёння не народ, а адміністрацыйны рэсурс вызначае, каму кіраваць Расіяй.

І Беларусь, на жаль, не служыць сёння прыкладам годнай дзяржаўнасці. Прычынай таму, перш за ўсё, стала тое, што ў 1996 годзе ў Мінск з мэтай зруйнаваць беларускі парламентарызм і надзяліць Лукашэнку дыктатарскімі паўнамоцтвамі прыехалі расійскія кіраўнікі Селязнёў, Строеў і Чарнамырдзін. Яны добра разумелі, што для

расійскай улады значна лягчэй вырашаць пытанні з самазахопленым дыктатарам, чым з абраным народам парламентам.

Беларусы – нашчадкі палітычных традыцый адной з найбуйнейшых сярэднявечных еўрапейскіх дзяржаваў – Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Але сёння як у Еўропе, так і на іншых кантынентах, многія памылкова атаясамліваюць ВКЛ з сучаснымі літоўцамі, хоць, напрыклад, беларуская мова доўгі час была ў ВКЛ дзяржаўнай, а літоўская – ніколі. На беларускай мове напісаны і Статут Вялікага Княства Літоўскага – свайго роду Канстытуцыя ВКЛ. Беларускаму хрысціянству крыху больш за 1000 гадоў, літоўскаму – за 500.

Маскоўскія цары, блаславёныя праваслаўнымі патрыярхамі, шмат разоў хадзілі на Беларусь вайной, рабавалі, знішчалі, палілі, пакідаючы пасля сябе руіны і пажарышчы. Расійскія памешчыкі папаўнялі шэрагі сваіх прыгонных сотнямі тысячаў працавітых беларускіх сялянаў. Нават «тишайший» (паводле гісторыка В. Ключэўскага) і «дабрэйшы чалавек слаўнай душы рускай» цар Аляксей Міхайлавіч падчас 13-гадовай вайны з Рэччу Паспалітай (1654–1667) забіў або пагнаў у незваротны палон больш за 50% трохмільённага тады Краю – 1 550 000 чалавек. Па іншых ацэнках страты дасягнулі 1 800 000 чалавек. Больш за чвэрць свайго насельніцтва страціла Беларусь у вайне Пятра I са шведамі, падчас Напалеонаўскай вайны, падчас Першай і Другой сусветных войнаў.

Крыху болей за 200 гадоў таму, пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай, Беларусь трапіла ў склад Расійскай імперыі. Беларуская мова была забароненай, паўстанні беларусаў супраць расійскіх прыгнятальнікаў тапіліся ў крыві.

Аслабленне антыбеларускага прэсінгу адбылося ў пачатку 1900-х гадоў, калі рэвалюцыйны рух Расіі стаў пагражаць манархіі. Тады ў сталіцы беларускай культуры – горадзе Вільні, у які пасля сталінскага пераносу межаў у 1939-м з Каўнаса была перанесеная сталіца Літоўскай ССР, пачала выдавацца беларуская газета «Наша ніва», друкаваліся беларускія кнігі, падручнікі, календары.

25 сакавіка 1918 года была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Яе прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Літва, Польшча, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславакія, Эстонія. Адбыўся абмен консульствамі паміж БНР і Украінскай Народнай Рэспублікай (УНР). Дзень абвешчання БНР стаў днём адраджэння сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

БНР неадкладна зруйнавалі бальшавікі, але менавіта яна адыграла паважную ролю у справе стварэння незалежнай беларускай дзяржавы. БНР перашкодзіла бальшавікам ажыццявіць іх планы – стварыць на землях, заселеных беларусамі, 5-7 заходніх абласцей (губерняў) у складзе Расійскай Федэрацыі. Пасля хай сабе і кароткачасовага існавання Беларускай Народнай Рэспублікі яе ліквідацыя была б занадта

яскравым пацверджаннем фальшывасці ленінскага «права нацый на самавызначэнне».

Рада БНР у выгнанні, як спадкаемца стваральнікаў БНР, існуе і сёння. У адпаведнасці са сваім статутам яна перадасць свае паўнамоцтвы ўраду Беларусі, сфармаванаму на падставе свабодных і сапраўды дэмакратычных выбараў. Падобнага кшталту ўкраінская рада перадала свае паўнамоцтвы ўраду Украіны падчас прэзідэнцтва Леаніда Краўчука. У 1992–1994 гадах вяліся перамовы паміж прадстаўнікамі Рады БНР і ўрада Рэспублікі Беларусь, і рыхтавалася аналагічная перадача паўнамоцтваў. Працэс быў спынены пасля разгону Вярхоўнага Савета 13 склікання.

1 студзеня 1919 года бальшавікі стварылі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР), якая ў 1922 годзе стала адной з заснавальніцаў СССР. У склад БССР увайшла тэрыторыя, значна меншая за тую, якая была заселеная беларускамоўным насельніцтвам. Беларускія землі без згоды Беларусі і надалей служылі «разменнай манетай» для суседніх краінаў пры ўладкаванні тэрытарыяльных спрэчак. Той самы пакт Рыбентропа-Молатава, згодна з якім незалежная Літва стала рэспублікай у складзе СССР, і якім справядліва абураліся літоўскія палітыкі, не выклікаў у тых жа палітыкаў ніякіх пярэчанняў па далучэнні да Літвы беларускіх земляў.

Пасля кароткачасовага, у 1920-я гады, аслаблення ганенняў на ўсё беларускае бальшавікі пад сцягам барацьбы з нацыяналізмам і контррэвалюцыяй прыступілі ў пачатку 30-х гадоў да знішчэння беларускай *інтэлігенцыі*. У 1937–1939 гадах былі расстраляныя і сасланыя ўглыб Расіі дзясяткі тысячаў найбольш дасведчаных і адукаваных беларусаў. Дакументальна пацверджана, што толькі пісьменнікаў, публіцыстаў, гісторыкаў, філолагаў, якія пісалі на беларускай мове, было расстраляна больш за 370. Прыкладна столькі ж «пішучых інтэлігентаў» было расстраляна ва Украіне і ў Расіі, у якіх насельніцтва было больш адпаведна ў 5 і 15 разоў, чым у Беларусі. А калі да названай вышэй лічбы дадаць страту кожнага чацвёртага беларуса ў вайне з фашыстамі, то цяжка не пагадзіцца з думкай асобных навукоўцаў, што беларуская нацыя была за апошнія стагоддзі генетычна знявечаная.

## Маскоўскія стаўленікі

Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў першыя гады савецкай улады вызначаліся выключнай дбайнасцю і мэтанакіраванасцю. Маскоўскія эмісары знішчылі большую частку беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі – больш за 90% яе эліты, а таксама найбольш дасведчаных і таленавітых прадстаўнікоў беларускай партыйна-савецкай наменклатуры. Чысткі ішлі адна за другой. На месца Чарвякова, Ігнатоўскага, Крыніцкага прыходзілі Мяснікян, Берман, Цанава, Гамарнік, Гей...

Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то найбольш адданыя Маскве кіраўнікі Беларусі, такія, як П.К. Панамарэнка – першы сакратар ЦК КП(б)Б у 1938–1947 гады, фактычна прасілі Сталіна дазволіць ажыццявіць генацыд беларусаў. Народны паэт Беларусі Якуб Колас пазней успамінаў, як у Мінску, а пасля і ва ўсіх гарадах Беларусі, людзей арыштоўвалі толькі за тое, што яны гаварылі на сваёй роднай мове.

21 лістапада 1938 года Панамарэнка адправіў Сталіну ліст «Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках». Этнічны кубанец, невук у беларускай літаратуры і мовазнаўстве, ён паведамляў правадыру прамым тэкстам: хачу ўсіх, хто лічыць сябе беларусам і набраўся нахабства пісаць і гаварыць па-беларуску, арыштоўваць, катаваць, расстрэльваць...

Я знарок не перакладаю фрагменты гэтага ліста на беларускую мову і прыводжу іх слова ў слова:

*«Враги народа, пробравшиеся в свое время к партийному и советскому руководству Белоруссии, ставившие целью отторжение Белоруссии от Советского Союза и организацию «самостоятельного» Белорусского государства под протекторатом Польши, прилагали много усилий для идеологической подготовки этого отторжения... Работали они умело. Матерых националистов, «щирых белоруссов» вербовали сразу и вводили в курс задач-идей...*

*Наиболее крупную контрреволюционную националистическую работу провел союз «советских» писателей Белоруссии, идейно возглавляемый всегда десятком профашистских писателей (в том числе известные Янка Купала и Якуб Колас), и всегда для прикрытия (в том числе и сейчас) имевший у руководства коммунистов. В этом союзе несправедливой критикой, клеветой, издевательством, пренебрежением затравили не одного честного коммуниста и беспартийного писателя. Здесь разлагали литературное движение, здесь боролись с советской властью под видом борьбы за эту власть. Здесь ненависть ко всему русскому доходила до болезненной истеричности. Здесь был центр-штаб национал-фашистской пропаганды. Здесь говорили о застое культуры и объясняли его тем, что белорусский и украинский языки близки к русскому, как языки славянские, и наиболее сильная славянская культура русская, их ассимилирует. Другое дело, говорили, Грузия, там язык совсем другой, руководители – свои, грузины, преданные своей грузинской культуре, не так, как в Белоруссии, где всегда «московские генерал-губернаторы».*

*Говорили о том, что русская культура действительно выше культур других союзных республик, но объясняли это тем, что русская культура выросла на костях малых народов.*

*Сама мысль о сближении белорусского и русского языков была ужасной. Янка Купала пустил крылатое выражение: «пока живе мова,*

*живе народ»... Пользуясь полной свободой, не стесняемые ничем, эти писатели монополизировали за собой право толкователей языка, право создания новых слов, терминов, лозунгов и т.д. Они перед этим пытались и внешне отдалить язык от русского...*

*Вся эта вражеская работа в области правописания, неразбериха, путаница, смесь в правилах определяют большую безграмотность оканчивающих школы. Позволю привести ряд примеров, слов и оборотов, имеющихся сейчас в белорусской литературе. Слово «подъем» заменено каким-то диким словом «уздым». Образование – адукацыя. Краски – фарбы. Борец – змагар. Отечественный – айчынны (от польского «ойчизна»). Правительство – урад??? Годовщина – гадавіна (белорусы говорят так в смысле «гад-гадюка»). Баня – лазня. Беспредельный, безбрежный, безграничный – бязмежны (пример сознательного обеднения языка). Безопасность – бяспечнасць (отсюда органы государственной безопасности – органы государственной беспечности). Слово товарищ заменено словом сябр. Друг – тоже сябр. Дружба – сяброўства. Благожелатель – зычлівец...*

*Крупный – буйны (отсюда крупный деятель – буйны дзеяч)... В лозунге «Пролетарии всех стран, соединяйтесь» слово «соединяйтесь» заменено словом «злучайцеся», а в народе «злучайцеся – злучка» все равно, что и по-русски «случайтесь – случка». Лозунг «Да здравствует годовщина Октябрьской революции» на белорусском языке – «Няхай жыве гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі» испохаблен от начала до конца. Белорусы говорят здравствуй, а «няхай» означает «пусть» в смысле пренебрежительного «так и быть». Гадавіна означает гада большого размера. Так и говорят: «Ух, якая гадавіна». Октябрь – кастрычнік. Но кастрыца – это не лён, а отбросы от льна...*

*...Получилось так, что вся эта кучка нацдэмовских заправил сохранилась до сих пор. Даже организационно, в Союзе писателей. Они печатали и печатают внешне патриотические стихи и произведения, насквозь фальшивые, необходимые для выражения советскости (их буквальное выражение). Янка Купала говорит, что всё, что он написал при Советской власти, не творчество, а дриндушки. Они говорят о том, что теперь литература сведена на роль придатка, разъясняющего или восхваляющего, что это не творчество, а иллюстрация. В литературе нельзя ничего ставить и решать, так как партия уже решила на много лет вперёд, план составлен, иллюстрируй то, что прошло...*

*Янка Купала недавно сказал: «Все наши карты биты, лучшие люди истреблены, надо самому делать харакири». (Он уже пытался один раз покончить с собой.) В другой раз он начал жаловаться (в своем кругу) на безудержную тоску, на то, что никакой Белоруссии он не видит вокруг себя, что его жизнь прожита даром, что он скоро умрет с такой же тоской о Белоруссии, с какой начинал свою жизнь в молодости.*

*Эти настроения растерянности, творческой пассивности, обреченности, характерны и для других белорусских писателей, отдавших жизнь (в разной степени) нацдемовщине. Конечно, среди них есть и такие, которых политические события последнего времени сильно отрезвили, и повернуть которых для честной работы возможно и необходимо. Сейчас уже пора сделать определенные выводы, показать свое отношение к ним и начать большую работу. Что, по-моему, нужно сделать?*

*...Решительно очистить литературу от произведений с национал-фашистской контрабандой (кое-что мы в этом направлении уже сделали), поднять литературную преданную молодежь, освежить литературу, укрепить руководство Союза писателей.*

*В отношении Янки Купалы, Якуба Коласа, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой «могучей кучки», узурпировавшей представительство от белорусской литературы всюду, в том числе и за рубежом, людей, творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично всю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающие их вплоть до связей с польской дефензивой.*

*В отношении Янки Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые; Якуба Коласа – 31 показание; Крапивы – 12 показаний и так далее. По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы, они, безусловно, подлежат аресту и суду, как враги народа. В частности, Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Коласа уже давно, но санкция пока не дана».*

– Якая пачвара! – усклікнуў адзін з студэнтаў на лекцыі, калі я бегла прачытаў некаторыя з гэтых радкоў. А далей дадаў:

– Вялікі Лермантаў роўна за сто гадоў да страшнага 1937-га сказаў пра такіх: «Не мог хранить он нашей славы, не мог понять в сей миг кровавый, на ч т о он руку поднимал».

Не мог зразумець таварыш Панамарэнка – ардынарны прымітыў і невук у пісьменніцкіх справах, замбаваны чалавеканенавісніцкай камуністычнай ідэалогіяй і пастаўлены кіраваць Беларуссю, чаму няма санкцыі арыштоўваць, расстрэльваць і катаваць тых, хто любіць свой край, хоча працаваць для яго дабрабыту, гаворыць на старадаўняй славянскай мове. Тым не менш, таварыш Панамарэнка гатовы быў праявіць пэўнае вялікадушша і дазволіць асобным пісьменнікам *«искупить свою вину перед Советской властью»*.

Якую віну? Ніякай віны не было. Сама камуністычная партыя задоўга да сканання СССР гэта прызнала. Аднак асабіста я не ведаю ні аднаго камуністычнага кіраўніка Беларусі – прыхільніка нацыянальнага адраджэння беларусаў. А пра кіраўнікоў КПСС і СССР і гаворкі

не магло быць. Калі першай асобай у Савецкім Саюзе стаў Хрушчоў, ён наогул абурыўся тым, што ў Мінску грамадзяне маюць смеласць гаварыць на незразумелай для яго мове. Па яго перакананні, усе тыя, хто крочыць да камунізму, павінны былі гаварыць па-руску.

У пасляваенныя гады тактыка дэбеларусізацыі змянілася. Дзякуючы працалюбству, арганізаванасці і дысцыплінаванасці беларускіх сялянаў і гараджанаў, Беларусь хутчэй за іншыя рэспублікі, у тым ліку – прыбалтыйскія, выйшла на высокі, па мерках СССР, узровень сацыяльна-эканамічнага развіцця. Але папярэднія рэпрэсіі і чысткі плюс самыя вялікія страты ў вайне не спрыялі беларусам прыняць ідэі прававой і нацыянальнай дзяржавы. Большасць грамадзянаў рэспублікі ўспрымала камуністычнае кіраўніцтва і савецкую ўладу не як мадыфікаванае каланіяльнае кіраванне, а як частку ўласнай гісторыі. Вайскоўцы з усяго Савецкага Саюза, выходзячы на пенсію, стараліся пасяліцца ў Беларусі, бо тут быў спрыяльны для іх нацыянальны клімат, у адрозненне, напрыклад, ад Эстоніі, Латвіі, Літвы.

Прыўладная наменклатура Беларусі пасля 1945 года ўсё болей разбаўлялася мігрантамі, страціла досвед самастойнага дзяржаўнага кіравання. Беларусы лічыліся на прасторах СССР самымі савецкімі людзьмі, больш савецкімі, чым рускія, і адчувалі з гэтай нагоды непрыхаваную гордасць. Але нават у наменклатурным асяроддзі працягвалася выдаленне найбольш здольных, патрыятычна арыентаваных партыйных функцыянераў. Іх пераводзілі ў Маскву, або на больш высокія пасады ў другія месцы Расійскай Федэрацыі. Там яны хутка паддаваліся асіміляцыі, пранікаліся вялікадзяржаўнай ідэяй, рабіліся больш заўзятымі шавіністамі, чым іх расійскія настаўнікі. Да пачатку гарбачоўскай перабудовы кіроўныя колы Беларусі ў большасці былі настроены антынацыянальна. Любая праява беларускасці ўспрымалася імі як нейкі рудымент мінулага. Такую ж лінію паводзінаў яны навязвалі насельніцтву Беларусі.

За савецкія часы побыт і народны характар беларусаў моцна змяніўся пад уздзеяннем савецкай прапаганды, калектывізацыі, індустрыялізацыі. Змяніліся псіхіка і светапогляд беларускага селяніна. Быў створаны новы тып чалавека, мала падобны па сваім духоўным абліччы на ранейшыя пакаленні. У духоўным сэнсе і беларуская вёска змянілася не ў лепшы бок. Часам цяжка паверыць, што сённяшнія грамадзяне Беларусі – нашчадкі тых беларускіх сялянаў, пра якіх пісаў архіепіскап Апанас Мартас, былы епіскап віцебскі і полацкі: *«Беларускія сяляне заўсёды адрозніваліся працалюбствам, вытрываласцю і любоўю да сваіх сем'яў. Гэтыя якасці моцна лучылі іх з роднымі агменямі і ўтрымлівалі перад ад'ездам у другія краі для пошуку працы і месцажыхарства... Па прыродзе сваёй беларускія сяляне міралюбныя, цярплівыя і дабрадушныя. Дзякуючы такія якасцям суседзі жылі ў міры, у святочныя дні наведвалі адзін другога, а ў бядзе ўзаемна дапамагалі».*

Большасць кіраўнікоў БССР прысылалася з Масквы і паслухмяна выконвала яе волю. Маскоўскія стаўленікі ўмела зводзілі чубамі прадстаўнікоў розных кланаў: мінскага з гродзенскім, гомельскага з брэсцкім і гэтак далей. Гарбачоўская перабудова і галоснасць спрыялі агаленню гэтых працэсаў і паскорылі крах верхніх эшалонаў партыйнай наменклатуры ў Беларусі.

## Эліта палітычная і творчая

Той даволі стракатай сумесі, якую прынята лічыць палітычнай элітай Беларусі, уласцівы комплекс непэўнацэннасці: яна не з'яўляецца актыўнай у адстойванні права на гістарычнае існаванне беларускай культуры, цывілізацыі, дзяржаўнасці. Яе прадстаўнікі ў лепшым выпадку штосьці ведаюць пра Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага, штосьці чулі аб прыдворных тэатрах Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, аб тэатры Зорыча ў Шклове. Асобныя яе прадстаўнікі толькі па хрэстаматыях савецкіх часоў знаёмыя з творчасцю Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Васіля Быкава.

Выняткам з большасці сталі грамадзяне, якія стварылі ў няпростым 1988 годзе Беларускі Народны Фронт (БНФ). Яны паспрабавалі ачысціць гісторыю Беларусі ад савецкіх, камуністычных і іншых скрыўленняў. Спачатку ім гэта ўдавалася. Прадстаўнікі БНФ здабылі амаль 10% месцаў у Вярхоўным Савеце 12 склікання. Разам з іншымі дэпутатамі – прыхільнікамі БНФ – па шэрагу ініцыятываў гэтая лічба часам павялічвалася ўдвая. Але старая дасведчаная партыйная наменклатура змагла іх перамагчы на даволі сумленных парламенцкіх выбарах 1995 года, а пасля і наогул выштурхнуць з гульні на палітычным полі.

Важкую ролю ў нацыянальным і духоўным адраджэнні краіны павінна была адыграць беларуская творчая інтэлігенцыя. Аднак большасць людзей, якія маюць падставы быць прылічанымі да гэтай катэгорыі грамадзянаў, паводзіла сябе пасіўна. Яны не прапанавалі замяніць навязаны камуністычнай сістэмай «маральны кодэкс будаўніка камунізму» адзінай прывабнай сістэмай базавых грамадзянскіх каштоўнасцяў і маральных арыенціраў.

За рэдкім выняткам у беларускай мастацкай літаратуры, кінематографе, жывапісе практычна адсутнічае захапляльны гісторыка-гераічны жанр, хоць гістарычная навука дала для падобнай творчасці найбагацейшы фактычны матэрыял. Беларускія пісьменнікі, дзеячы беларускай адукацыі і культуры рэдка ўспамінаюць аб нашай, больш старажытнай за расійскую, дзяржаўнасці, больш даўнім статусе беларускіх гарадоў, больш раннім і больш дэмакратычным пісаным праве, кнігадрукарстве, што апярэдзіла расійскае на 50 гадоў. У той жа

час сёй-той з вернападданніцкай стараннасцю адшуквае аргументы, якія апраўдваюць дзеячоў накшталт Аляксандра Суворава і Мураўёва-вешальніка.

Для большасці беларускіх пісьменнікаў гісторыя сваёй краіны пачынаецца з Другой сусветнай вайны, у лепшым выпадку – з часоў расійскай рэвалюцыі 1905 года. Тым самым яны міжволі працягваюць працаваць на ўмацаванне савецкай ментальнасці, а не імкнуцца выхаваць у маладога пакалення законнае пачуццё гонару за сваю Бацькаўшчыну і ўстойлівае імкненне зрабіць сваю Радзіму сучаснай, незалежнай, заможнай еўрапейскай дзяржавай.

На шчасце, ёсць у сучаснай беларускай літаратуры і вялікія постаці. На іх не павінны кінуць цень мае папярэднія разважанні. У першым эшалоне з вялікім адрывам ад астатніх – Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч. Баюся некага пакрыўдзіць, таму не буду пералічваць тых, хто, на маю думку, утварае другі эшалон. Яны, як і чацвёрка першых, – таленавітыя, працалюбныя, сумленныя, а таму – бяспраўныя. У сучаснай Беларусі сапраўдныя творцы недапушчальна дрэнна забяспечаныя матэрыяльна. У той жа час паслухмяная нелегітымнай уладзе пісьменніцкая большасць і сёння не дэманструе сваёй палітычнай адукаванасці.

Без стомы ўсіх павучаючы, пісьменнікі не спрабуюць разабрацца ў пачатках паліталогіі нават на ўзроўні падручнікаў сучаснай сярэдняй школы. Пры гэтым на рэдкасць дружна сышліся ў поглядах тыя, хто па-ранейшаму з «камуністычнай перакананасцю» славіць любую рэальную ўладу, і тыя, хто за крытыку савецкіх рэалій прыгрэты заходнімі грантамі, а нярэдка і наогул утульна ўладкаваўся за мяжой. Ва ўсіх сваіх праблемах гэтыя «інжынеры чалавечых душаў» лічаць вінаватымі народ і апазіцыю. Яны перашкаджаюць прагрэсіўнаму рэфармаванню Беларусі і міжволі з'яўляюцца хаўруснікамі сённяшняга кіроўнага рэжыму.

У савецкі час беларуская нацыянальная палітычная эліта ў большай ступені, чым эліты іншых рэспублікаў СССР і краінаў «сацыялістычнага лагера», была знішчаная фізічна, дэмаралізаваная і раз'яднаная. Яе ў значнай ступені генетычна збяднелыя ў сэнсе беларускасці нашчадкі з партыйнай наменклатуры былі прывучаныя да вернападданства Савецкаму Саюзу, Расіі, рускай мове, камуністычным ідэалам, паколькі доўгі час былі ізаляваныя фізічна і інфармацыйна ад прынятых у свеце цывілізаваных людскіх каштоўнасцяў. Пасля распаду СССР наменклатура пабаялася новых правілаў гульні, пабаялася цяжкасцяў авалодвання імі, цяжкасцяў навучання, пабаялася, што беларуская дзяржаўнасць парушыць яе звыклую прыналежнасць да эліты.

Няма і не можа быць сумневу ў тым, што беларуская апазіцыя не лепшым чынам змагаецца за змену палітычнай сістэмы і супрацьстаіць цемрашальству ўлады. Забываецца тое, што «палітычнай апазіцыі», у

нармальным сэнсе гэтага слова, у Беларусі няма і пры гэтым рэжыме не можа быць. Тым не менш, заўзятыя пісакі, у тым ліку і тытуляваныя пісьменнікі і журналісты, публіцысты, падкормленыя заходнімі грантамі, патрабуюць ад беларускіх грамадзянаў, якія захавалі мужнасць супрастаяць рэжыму, таго, што маюць права патрабаваць ад сваёй апазіцыі грамадзяне краінаў цывілізаваных. Гэтыя дзеячы паразітуюць на целе рэпрэсаваных рэжымам беларусаў і атрымоўваюць дапамогу за дэзінфармацыю Захаду, спароджаную іх палітычнай непісьменнасцю. Яны ніяк не могуць зразумець, што на іх радзіме няма ніякай прававой дзяржавы, што права адпрэчваецца кіроўнай хеўрай у кожным выпадку, калі яно пярэчыць яе інтэрэсам. Калі ж выкрываецца іх палітычная непісьменнасць, яны з гонарам заяўляюць: мы – людзі творчыя, мы па-за палітыкай.

Паўтаруся: апазіцыі ў Беларусі няма і не можа быць, бо, пачынаючы з 1996 года, няма выбараў, а апазіцыя, якая існавала ў Вярхоўным Савеце 13 склікання, была ліквідаваная разам з Вярхоўным Саветам. Ёсць людзі, пераважна бяспраўныя, абсалютна незабяспечаныя, пераследаваныя рэжымам, якія маюць мужнасць супрацьстаяць цемрашальству, уседазволу, беззаконню, прыніжэнню чалавечай годнасці нелегітымнай уладай. Іх і называюць апазіцыяй.

* * *

Беларусы – талерантныя і дабразычлівыя людзі, яны падобныя на французаў Праванса, пра якіх так вобразна сказаў Антуан дэ Сент-Экзюперы: «У Правансе, калі гарыць лес, усе, хто не свалата, хапаюць вёдры і рыдлёўкі». Агалцелай прапагандысцкай хеўры і сілавікам кіроўнага рэжыму ўдаецца пакуль ашукваць і стрымліваць многіх грамадзянаў Беларусі, але беларускі лес гарыць, і усё больш людзей усведамляюць гэта.

# II. БАЦЬКАЎШЧЫНА

## Мая малая радзіма – Камароўка

*Камароўка, Камароўка,*
*Дзе пачатак, дзе канец?*
*Шчырая мая сяброўка*
*І жыцця вянец.*
*Б. Сармант*

Люблю слова «бацькаўшчына» і дрэнна ўспрымаю «отечество». Не таму, што яно рускае, а таму, што многа гадоў запар чуў: *«Славься, отечество наше свободное»*, а свабодай у ім і не пахла. Бязглуздзіца ў беларускай песні аб радзіме, якою многія захапляюцца, нічым не лепшая: *«Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць»*. А навошта пазбаўляць права шчыра любіць Радзіму тых, хто і выехаць адсюль не меў і не мае ніякай магчымасці? Такіх жа большасць. Менавіта такія людзі, пазбаўленыя лёсам магчымасці наведаць розныя краіны, сталі для мяне ўзорам сапраўднага беларускага патрыятызму, прыкладам бязмежнай любові да Радзімы.

Дзяцінства і юнацтва я правёў у Мінску, пераважна на вуліцы Сляпянскай. Такой вуліцы сёння ў горадзе няма. Засталіся ад яе толькі старыя клёны і два двухпавярховыя будынкі з цэглы. На Сляпянскай і былі толькі гэтыя дзве мураванкі, астатнія дамы – драўляныя, праўда, адзін з іх – двухпавярховы. Называлі яго «звяздоўскім», бо некалькі кватэраў у ім займалі супрацоўнікі газеты «Звязда». Цагляныя дамы, у адным з якіх былі яслі, у другім – дзіцячы сад, мелі вадаправод і каналізацыю, у астатніх, у тым ліку і ў «звяздоўскім», усе выгоды размяшчаліся ў двары.

Для мяне, пасля знаёмства з Нью-Ёркам, аналагам маёй Сляпянскай, стаў знакаміты Брадвей, які наўскос і перпендыкулярна перасякае адну за другой шматлікія авеню і стрыт. Так і Сляпянская, павільваючы, наўскос перасякала Залатую Горку, Дрэваапрацоўчую, Бондараўскую, пакуль ёй не перагарадзілі шлях былая лесапілка і чыгуначныя веткі. Пачыналася Сляпянская метраў за дзвесце ад скрыжавання тагачаснай Савецкай і Даўгабродскай. Цяпер на месцы гэтага скрыжавання – стык вуліцаў Казлова і Машэрава. Карэнным мінчукам не па душы прыйшлося аддаленне Даўгабродскай ад Савецкай (і ад Сляпянскай!), і яны доўга называлі пачатак вуліцы Казлова «Казлабродскай».



*1947 год. Цэнтр Камароўкі, раздарожжа Лагойскі тракт – Савецкая*

Жыццё жыхароў Сляпянскай вуліцы не песціла. Прыстойнымі гаспадарамі лічыліся тыя, хто акрамя штодзённай меў яшчэ больш-менш акуратную святочную вопратку, заможнымі – тыя, хто меў свіней, або, як мы – казу, багатымі – тыя, у каго ва ўласнасці была карова, хто меў хату з бляшаным дахам. Такіх было толькі дзве сям'і.

Калі сёння, амаль 20 гадоў пражыўшы ў дзевяціпавярховым доме, я ў лепшым выпадку знаёмы і ведаю прозвішчы дзесяці жыхароў свайго пад'езда, то да фінскай вайны, як тлумачыла мне бабка, і да Айчыннай, як мог зразумець я сам, на вуліцы Сляпянскай усе ведалі ўсіх. Выняткі, зразумела, былі, але пры патрэбе вы маглі імгненна атрымаць усе патрэбныя вам звесткі пра тую ці іншую асобу ад вулічных падшыванцаў.



*1987 год. Плошча Якуба Коласа (былая Камароўка)*

На маё дзіцячае разуменне, Сляпянская вуліца была гарадской ускраінай, а сёння гэта цэнтр горада. Дом № 33, у якім я пражыў больш чвэрці стагоддзя, стаяў за пару соцень метраў ад месца, дзе сёння знаходзіцца помнік Якубу Коласу на ягонай жа плошчы. На месцы нашага дома – канцэртная зала філармоніі, дакладней, яе левы, тыльны кут.

Плошчы Якуба Коласа альбо нейкай іншай на яе месцы раней не было. Было раздарожжа, якое называлася, як і ўсё навокал, Камароўкай. Раздарожжа лічылася цэнтрам Камароўкі. Яго ўтварылі вуліца Савецкая, працягам якой пасля Камароўкі была вуліца Пушкіна, і яе адгалінаванні – Цнянская, Лагойскі тракт, Дрэваапрацоўчая (ператвораная спачатку ў Бульвар Луначарскага, а пасля ў Бульвар Мулявіна) і Красная. Пазней праз тутэйшае балота праклалі вуліцу Веры Харужай. Камароўскі крыты кірмаш узведзены там, дзе пасля вайны было невялічкае азерца, расло багавінне і летнімі вечарамі крумкалі жабы.

Сляпянская ішла на паўднёвы ўсход пад вострым вуглом да Савецкай. Людзі старэйшага пакалення гаварылі, што Сляпянская пачынаецца каля касцёла Святога Роха. Перад вайной касцёл засланілі ад Савецкай вуліцы шматпавярховым, але нетрывалым Домам спецыяліста, ад якога пасля пажару ў першыя дні вайны засталася толькі гара патрушчанай цэглы. Пасля вайны перад касцёлам узвялі больш моцны і больш высокі дом, каб канчаткова, надзейна засланіць перажытак мінулага ад вачэй тых, хто праходзіў ці праязджаў па галоўнай вуліцы Мінска.

Да вайны ўсе жыхары паўднёвай часткі Камароўкі і бліжэйшых вуліцаў – Бондараўскай, Дрэваапрацоўчай, Берасцянскай, Могілкавай, Высокай, Маляўшчынскай і іншых гаварылі на простай беларускай мове. «Звяздоўцы» гаварылі па-беларуску прыгожа, інтэлігентна. Мы да іх прыслухоўваліся, вучыліся ў іх. Руская мова лічылася мовай тых, хто займаўся «няпыльнай працай», а такіх тут амаль не было.

## Чэрвень 1941-га

Гэты летні месяц запомніўся мне на ўсё жыццё. За добрыя паводзіны і паслухмянасць на працягу цэлага тыдня, якія даліся мне вельмі няпроста, бабуля абяцала схадзіць са мной у нядзелю, 22 чэрвеня, у парк імя Горкага. Туды я і сам мог бы пайсці, адлегласць – каля кіламетра – не была вялікай дарогай для мяне і маіх сяброў у спакойным Мінску. Мне ж ужо шэсць з паловай! Але з бабуляй цікавей: купіць квіток на арэлі, карамельнага пеўніка на палачцы, а калі наогул не парушу яе наказаў і папярэджанняў, то і марозіва, хоць абавязкова патлумачыць, што прадукт гэта вельмі дарагі, шкодны, калі яго есці так, як я ем – хутка-хутка. Можна прастудзіцца і голас згубіць.

Тое, што раніцай па радыё абвесцілі аб пачатку вайны, – дробязь, вайна да Мінска не дойдзе. Так лічаць і мама, і бабуля. «Страна крепка и танки наши быстры, и наши люди мужеством полны.» Не дапусцяць!



*У год арышту бацькі*

Таму мы з бабуляй ідзем у парк. Там здзяйсняюцца ўсе мае мары – ад карамельнага пеўніка да марозіва, і нават болей. Мне ўдаецца ўгаварыць бабулю купіць квіток на тры стрэлы з духавой стрэльбы ў ціры. Аднак падстрэліць тоўстага буржуя з цыгарай, што дало б права на яшчэ тры стрэлы, мне не ўдаецца.

Дзіцячае свята ў парку імя Горкага ў дзень пачатку вайны – 22 чэрвеня 1941 года – пір падчас чумы! Але ўсведамленне гэтага прыйшло пазней. А тады...

Ні ў каго і думкі не было аб тым, што вайна можа дакаціцца да Мінска. Усе былі шчыра перакананыя, што толькі вар'ят адважыўся замахнуцца на Савецкі Саюз, і ён неадкладна будзе сурова пакараны. «Ведь от Москвы до британских морей Красная армия всех сильней!» Думаць інакш маглі толькі подлыя ворагі народа, але з імі, бадай, скончана. Шкада, праўда, што да іх таго-сяго памылкова прылічылі, але ў вялікіх справах такое, на жаль, можа здарыцца... Такімі былі разважанні абываталяў, простых людзей, замбаваных савецкай прапагандай.

Праз два дні фашысцкія бамбавікі падпалілі цэнтр горада, і вецер пагнаў агонь у бок Камароўкі. Трэба было ўцякаць ад агню і ад захопнікаў, і мы – мама, бабуля, сястра і я – пайшлі па Барысаўскім тракце на ўсход, узяўшы з сабой самае неабходнае, што маглі несці. Бабуля вяла на павадку казу. Ішлі два дні, начавалі на сенавале ў нейкай вёсцы. Прыканцы другога дня павярнулі назад, бо насустрач нам рухалася мноства такіх самых бедалагаў, як і мы. Яны ўцякалі ад нямецкага дэсанта, які высадзіўся наперадзе і перарэзаў шлях.

Мы былі перакананыя, што ад нашага дому засталося пажарышча, бо, адыходзячы, бачылі як гараць дамы з нумарамі 15 і 17 па нашым

баку вуліцы. Але вецер памяняў напрамак, і апошнім згарэлым на нашым баку быў дом з нумарам 19. На другім баку вуліцы пажар дайшоў да цаглянага будынку дзіцячага сада, які таксама ацалеў.

Бабка Франя заўсёды клапацілася аб жывёле. Пакідаючы дом, яна насцеж расчыніла хлеў і загародку з парсючком. Няхай, вырашыла, уцячэ з агню і камусьці спатрэбіцца. Вярнуўшыся, пайшла на пошукі свайго гадаванца і знайшла яго па спецыфічным парасячым віскаце ў хляве на Студэнцкім завулку – за паўкіламетра ад нашага дому.

На шосты дзень вайны – 28 чэрвеня – немцы ўвайшлі ў Мінск.

## Незабыўнае

Наўрад ці калі-небудзь я змагу забыць першыя дні фашысцкай акупацыі, павешаных маладзёнаў з шыльдачкамі на грудзях «Они стреляли по германским солдатам». Не забудуцца калоны галодных, змучаных палонных чырвонаармейцаў. Будзе помніцца і той, бясшкодны выбух у першым вагоне трамвая, на якім было напісана: «Только для немцев». Пасля таго выбуху фашысты схапілі і на вачах ва ўсіх расстралялі ні ў чым не вінаватых 50 выпадковых мінакоў. Пасля нейкай партызанскай акцыі немцы схапілі і маю маці, але горшага з ёй не адбылося. Яе кінулі ў лагер на вуліцы Шырокай.

Вайна – гэта жах і на фронце, і ў тыле, і на акупаваных землях. Маці, стараючыся адгарадзіць мяне ад ваенных жахаў, адправіла ў вёску Шчытомірычы – да дзеда Пятра.

Ёсць шэраг прычынаў любіць Камароўку і ганарыцца маёй зніклай Сляпянскай вуліцай. Ніхто з яе жыхароў не ўзрадаваўся прыходу фашыстаў, хоць не было на ёй дому, які б абышлі сталінскія рэпрэсіі. Пра ўсю Камароўку такога не скажаш. Знайшлася на ёй сям'я, якая вітала нямецкія войскі кветкамі. І адрас яе памятаю, і прозвішча, але... можа, не ўсе ў ёй былі вырадкамі, таму не называю ні імёнаў, ні адрасу.

У сярэдзіне ліпеня акупанты расклеілі на слупах загад «Об образовании еврейского жилого района в г. Минске». У гета прымусова перасялілі ўсе габрэйскія сем'і. Прыстойныя дамы габрэяў аддаваліся тым, хто пайшоў у паліцаі і ў іншыя прыслужнікі фашыстаў. На Сляпянскай вуліцы вызваленае жыллё было незайздроснай якасці, і яго занялі пагарэльцы або тыя, каго немцы выселілі, ствараючы гета. Адным з такіх перасяленцаў быў Гарык Шыфрын – хлапчук, на два гады старэйшы за мяне. Яму, ягонай сястры Рыце, брату Жэні і іх маці дасталася кватэрка ў доме 42. Маці Гарыка – армянка – цвердзіла, што муж яе, таксама армянін, прапаў без вестак. Аднак уся Сляпянская вуліца добра ведала, што бацька Гарыка – Юрый Шыфрын – габрэй, і згодна з вывешаным на слупах загадам неабходна паведаміць аб гэтым нямецкаму камандаванню. За прыхоўванне габрэяў кара была адна –






*1941 год.*
*Я бачыў такое на Камароўцы*
*і ў цэнтры Мінска*

расстрэл. І я яшчэ болей ганаруся вуліцай Сляпянскай, бо за тры гады акупацыі (!) ніхто з яе жыхароў Шыфрыных фашыстам не выдаў.

Генацыд, халакост... У апошнія дзесяцігоддзі камуністычнага панавання ў СССР, калі нагадвалі аб стратах у вайне, можна было пачуць.

– Чаму мы так многа гаворым аб стратах габрэяў? Рускіх жа ў вайне загінула болей, ды і іншых нацыянальнасцяў не меней.

І гэта – праўда. Праўда і тое, што мы прабачваем забойцам, катам, паклёпнікам, па даносах якіх расстрэльвалі невінаватых. Мы прабачваем халуям, што ўгодліва хлусяць дзеля паляпшэння або захавання свайго дабрабыту. Мы не заўжды выяўляем пагарду да тых, хто піша фальшывыя сведчанні супраць сапраўды прыстойных людзей, якія не дазваляюць сабе адступіць ад чалавечай годнасці і чалавечага гонару. Сорам глядзець, як маладых міліцыянтаў улада прывучае хлусіць на судовых працэсах, каб кагосьці асудзіць, фактычна, па палітычных матывах, але надаць працэсу крымінальны характар. Толькі ў сённяшняй Беларусі магчыма такое, каб малады міліцыянт пісьмова звінаваціў глуханямога ў непрыстойнай лаянцы. Улада прывучае тых, хто павінен бараніць людзей, да паклёпаў дзеля «парадку і стабільнасці».

Сапраўдная Радзіма пачынаецца з праўды, якой не абдзяліла вас маці, родныя, блізкія, суседзі. Галоўнае ў гэтай Радзіме – чалавек. А «была бы страна родная, и нету других забот» – радзіма не для чалавека, а для панавання ідэяў, нярэдка пачварных, што нясуць пагрозу самому чалавеку.

Нянавісць да людзей, у тым ліку і па нацыянальнай прыкмеце, заўжды была для беларусаў чужароднай. І колькі б ні кляліся камуністычныя функцыянеры, што яны сапраўдныя інтэрнацыяналісты, усё

гэта – хлусня. Дастаткова нагадаць данясенне сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі таварышу Сталіну ў першыя дні вайны: *«Настроение белорусов исключительно патриотическое... Должен подчеркнуть исключительное бесстрашие, стойкость и непримиримость к врагу колхозников в отличие от некоторой части служащего люда городов, ни о чем не думающего, кроме спасения шкуры. Это объясняется, в известной степени, большой еврейской прослойкой в городах. Их обуял животный страх перед Гитлером, а вместо борьбы – бегство...»*

Дзіўная логіка. Войска адступае, а дзеці, жанчыны, старыя людзі павінны змагацца з узброеным да зубоў ворагам! Адкуль было ведаць Панамарэнку, што габрэяў будуць забіваць толькі за тое, што яны – габрэі. У «Кароткім курсе гісторыі КП(б)» пра гэта не напісана, а іншыя крыніцы ведаў сапраўдны партыйны кіраўнік скарыстоўваць не абавязаны. Сапраўдны камуніст не абавязаны ведаць, што Гітлер прыйшоў да ўлады і настроіў немцаў ваяваць, пераканаўшы іх у тым, што ў Германіі ёсць вонкавы вораг – французы і ўнутраны вораг – габрэі, якія немцаў без літасці абіраюць. А ворагаў трэба знішчаць!

Да гэтай пары далёка не кожны зразумеў, што такое генацыд, што такое халакост. Да прымітыўнасці проста: ***генацыд*** (ад грэцк. *племя* і *забіць*) – найцяжэйшае злачынства супраць чалавечнасці, калі негра забіваюць за тое, что ён – негр; габрэя – за тое, што ён габрэй; мусульманіна – за тое, што ён мусульманін; católіка – за тое, што ён католік. ***Халакост*** (ад грэцк. *згарэць цалкам*) – жалоба і памяць аб габрэях, спаленых жыўцом, забітых, закатаваных нямецкімі фашыстамі і іх хаўруснікамі падчас Другой сусветнай вайны. Аб гэтым трэба памятаць сёння і заўсёды.



*2011 год. Выпускнікі 13-й мужчынскай рускай СШ Мінска 1951 года: Альберт Аляхновіч, Барыс Цынман, Пётр Любчэўскі, Станіслаў Шушкевіч, Ігар Грышын, Гарыгін Шыфрын (Гарык)*

 

*1948 год. Такімі былі мае першыя здымкі.*
*На левым – бацька каля нашага дома на вуліцы Сляпянскай;*
*на правым – я (у цэнтры)*
*з сябрамі Слаўкам і Эдзікам*

Калі я ўспамінаю Камароўку і сваю Сляпянскую вуліцу, якая перастала канчаткова існаваць у 1961 годзе, то імкнуся зразумець, чаму яе жыхары былі здольныя без гучных заклікаў праявіць сапраўдную грамадзянскую салідарнасць, да якой сёння глухія жыхары ўпарадкаванага Мінска? Няўжо крылатыя словы замежных публіцыстаў аб ментальнасці грамадзянаў СССР (*«нішто так не раз'ядноўвае людзей, як сацыялізм»*) правільна адлюстроўваюць стан рэчаў, створаны намаганнямі камуністычных ідэолагаў? Калі ж задумацца, то менавіта такое раздзяленне і патрэбна было, каб кіраваць краінай, у якой панавалі крывадушша, несправядлівасць, тэлефоннае права, у якой да апошніх дзён яе існавання хлусня асобаў вышэйшага рангу павінна была ўспрымацца, як чыстая праўда.

«Камароўска-Сляпянскую» салідарнасць і агульна-палітычны стан рэчаў я ўсвядоміў значна пазней, а вось жаданне займець свой уласны фотаапарат і самому рабіць здымкі не пакідала мяне ні на хвіліну.

Мой першы ўласны фотаапарат называўся «Камсамолец» і каштаваў шэсць рублёў. Сабраць на яго грошы мне ўдалося ў пачатку 1948 года. Дату добра памятаю – менавіта ў гэтым годзе вярнуўся з Гулагу бацька. У дзень сустрэчы я сфатаграфаваў яго новенькім «Камсамольцам» у двары нашага дома на Сляпянскай.

Бацька адразу паехаў працаваць настаўнікам у вёску Данілавічы Дзяржынскага раёна. Жыць і працаваць у Мінску яму было забаронена. Настаўніцтва ў Данілавічах таксама хутка закончылася. Праз тры месяцы бацьку вярнулі ў Сібір.

Фотарамяство я асвоіў самастойна, па кніжках – ад праяўкі плёнкі да кантактнага друку. Значна пазней займеў фотапавелічальнік і

вузкаплёначны апарат. Калі мой першы «Камсамолец» дазваляў зрабіць больш-менш якасныя здымкі толькі ва ўмовах добрага асвятлення, то ў студэнцкія гады я стаў уласнікам даволі прыстойнай фотатэхнікі. За працу ў піянерлагеры ўлетку 1952 года я атрымаў каля ста рублёў і набыў «Зоркий» – адзін з лепшых аматарскіх савецкіх фотаапаратаў таго часу. Праз паўгода займеў уласны фотапавелічальнік, і, хоць жыў у дамку без вадаправода, большасць аднакурснікаў друкавала фотаздымкі ў маёй «хатняй фоталабараторыі» – у адгароджаным дошкамі ў сенцах катушку.

## Школа, настаўнікі

У мае чатыры з паловай гады намаганні маці далі плён: я даволі бойка чытаў па-руску і па-беларуску і пачаў друкаванымі літарамі пісаць адказы на лісты бацькі з Сібіры. Бацька пісаў мне спачатку друкаванымі літарамі, а пасля і прапіснымі, але толькі па-беларуску. Я адказваў таксама па-беларуску. Вайна і акупацыя перапынілі нашу перапіску і зрабілі маімі галоўнымі падручнікамі выдадзеную ў год майго нараджэння – 1934-ы – дзіцячую кніжачку бацькі «Звярыны баль» і дзесяцітомнік «Малая советская энциклопедия» (МСЭ). Дзесяць тамоў МСЭ – самыя новыя і самыя прыгожыя кнігі на нашай хатняй аклеенай шпалерамі паліцы – дачакаліся бацьку і заставаліся як новенькія. Такім быў вынік намаганняў маці навучыць мяне паважаць і правільна захоўваць кніжкі. Тым не менш, пры самым паважлівым стаўленні «Звярыны баль» я растузаў дарэшты. Маці дазваляла мне браць з паліцы любую кніжку, але абавязкова вяртаць яе на тое самае месца.

Мая самаадукацыя, кіраваная маці, перайшла ў школьную стадыю ў верасні 1944 года. Маці і бабуля вырашылі паслаць мяне адразу ў чацвёрты клас, і я не адчуў ніякіх праблемаў з-за таго, што праграму за тры першыя засвоіў дома. Закончыў чацвёрты клас з пахвальнай граматай. Як і ўсе мае аднакласнікі, на ўсё жыццё запомніў цудоўнага педагога, маю першую настаўніцу – Таццяну Канстанцінаўну Мальцаву. Да гэтага часу для мяне застаецца загадкай, як гэтая сціплая, ветлівая жанчына змагла дамагчыся ад нас абсалютнай дысцыплінаванасці на ўроках і на многія гады закахаць у сябе ўвесь наш разнародны па ўзростах, па ступені маральнага і псіхічнага знявечання вайной клас. На нашай штогадовай традыцыйнай сустрэчы аднакласнікаў мы заўсёды ўздымаем чаркі за яе светлую памяць.

Мне шанцавала з настаўнікамі і ў старэйшых класах. Наша нязменная класная кіраўніца гістарычка Станіслава Міхайлаўна Петрушкевіч, выкладчык беларускай мовы і літаратуры Уладзімір Мікалаевіч Камар, матэматык Майсей Самуілавіч Эльперын, фізік Фініас Саламонавіч Баркан... Усіх памятаю і ўсім удзячны. Адмыслова хачу згадаць Марыю Іосіфаўну Марцуляніс – выкладчыцу рускай мовы і літаратуры. Мы ўсе

ёй таксама вельмі ўдзячныя, але зразумелі значнасць яе навукі ўжо пасля школы. Нярэдка яна траціла цярпенне і вымаўляла нам:

– Божа мой! Вы нават уявіць сабе не можаце, наколькі вы ўсе касналзыкія! Я павінна буду памерці ад сораму, калі вы некаму прызнаецеся, што я вучыла вас рускай мове! За што, за якія грахі я асуджаная на такую ганьбу?

Асабіста я назаўсёды захаваў у памяці яе хатняе заданне – вывучыць на памяць верш Лермантава «На смерць паэта». Заданне, відаць, мела на мэце нанесці рашучы ўдар па нашай сапраўды невынішчальнай касназыкасці. Аднак удар прыйшоўся ў першую чаргу па мне, і вось чаму.

На ўроку Марыя Іосіфаўна выклікала ўсіх па прозвішчах па чарзе ў алфавітным парадку – ад А да Я. Пакуль чарга дайшла да мяне, у журнале красавалася калонка з двоек, разбаўленая дзвюма-трыма тройкамі з мінусам. Я ж атрымаць кепскай адзнакі не мог па некалькіх прычынах.

Па-першае, маці вельмі любіла Лермантава. Чытаючы мне «Бялее ветразь адзінокі», маці тлумачыла мне, двухгадоваму, што такое мора і што такое ветразь. Тады ж я вывучыў гэты верш на памяць. Пазней я зразумеў: маці вельмі ўмела выкарыстоўвала ў выхаваўчых мэтах маё не вельмі памяркоўнае, але дбайна мной утойванае самалюбства. Яна як бы паміж іншым магла сказаць пры мне сваёй сяброўцы-настаўніцы Зоі Іванаўне Буцавіцкай:

– Ведаеш, Зоя, а мой ужо пасталеў, не толькі лермантаўскія вершы чытае, але і «Героя нашага часу» адолеў і, здаецца, тое-сёе ўцяміў.

Па-другое, асобныя радкі з «На смерць паэта», напрыклад, «а вы, надменные потомки, известной подлостью прославленных отцов...» і іншыя часта ўжывалі мае стрыечныя сёстры – Галя і Зося Більдзюкевічы – «паталагічныя» выдатніцы-гуманітарыі.

Па-трэцяе, я лёгка запамінаў і доўга захоўваў у памяці тое, што мне падабалася.

І вось я выходжу да дошкі і пачынаю:

*Отмщенье, государь, отмщенье!*
*Паду к ногам твоим, будь справедлив и накажи убийцу,*
*Чтоб казнь его в позднейшие века*
*Твой правый суд потомству возвестила,*
*И видели злодеи в том пример!»*

Клас замірае. Настаўніца Марыя Іосіфаўна ведае, а клас не ведае, што гэта эпіграф да лермантаўскага верша, якога няма ў многіх выданнях, у тым ліку ў школьнай хрэстаматыі.

Далей я пачынаў чытаць сам верш:

*Погиб поэт! – невольник чести –*
*Пал, оклеветанный молвой,*
*С свинцом в груди и жаждой мести,*
*Поникнув гордой головой...*



*1953 год. Сваім «Зоркім» я сфатаграфаваў сваю першую настаўніцу Таццяну Канстанцінаўну Мальцаву (на пярэднім плане) і маці Гэлену Людвігаўну Раманоўскую; яны выпадкова сустрэліся ў Калодзішчах, дзе я праходзіў ваенныя зборы пасля заканчэння другога курса*

І так без запінкі ўвесь твор да канца.

У маёй журнальнай клетачцы з'явілася тлустае «5», а пад ім у калонцы – яшчэ некалькі двоек.

Да сённяшняга дня мае аднакласнікі, хто можа, штогод збіраюцца разам. І не было яшчэ, каб хто-небудзь не ўспомніў, як аднойчы яны адлупілі мяне пасля ўрока.

– Заўжды памятай, Шушкевіч, не за тое мы тады надавалі табе кухталёў, што ты лепей за ўсіх нас вывучыў верш Лермантава, а за тваё выпендрыванне з эпіграфам.

Далёка не ўсё было ідэальна і з настаўнікамі. Мы жадалі справядлівасці, недалюблівалі бяздушша і фармалізм. Ніяк не маглі, напрыклад, зразумець, за што наша выкладчыца хіміі Ганна Натанаўна была ўзнагароджаная ордэнам Леніна, у чым былі яе «заслуги в коммунистическом воспитании подрастающего поколения». Тлумачыла яна новы матэрыял дрэнна, была крыклівай, нават істэрычкай. Заўсёды мела да нас прэтэнзіі, у нечым нас звінавачвала. Часам – справядліва, часцей – неабгрунтавана. Мы плацілі ёй узаемнасцю і не супраць былі ёй нашкодзіць. Аднойчы гэта ўдалося і мне.

Праходзілі мы тады шахцёрскія лямпы. Ганна Натанаўна растлумачыла, што вельмі даўно англічанін Гемфры Дэві прыдумаў лямпу з меднай сеткай, якая замацоўвалася ў верхняй частцы лямпавага полымя, дзякуючы чаму імавернасць выбуху метана змяншалася.

Падымаю руку.

– У чым справа?

– Прабачце, Ганна Натанаўна, я вось чытаў нядаўна часопіс «Знание – сила», дык там сказана, што раней за Дэві шахцёрскую лямпу з сеткай сканструяваў уральскі шахцёр Іван Пад'ялдыкін.

Нямая сцэна. Твар хімічкі робіцца белым, як палатно. І не дзіва. Якраз тады разгарнулася бязлітасная барацьба з «бязроднымі касмапалітамі – ідалапаклоннікамі перад Захадам». У расійскай гісторыі старанна адшуквалі тых, хто раней за знакамітых іншаземцаў зрабіў тое ці іншае адкрыццё або вынаходніцтва.

Паравоз прыдумалі браты Чарапанавы, а не Стэфенсан; радыё – Папоў, а не Марконі, і г.д.

– Сядай, Шушкевіч. Добра, што ты ўважліва чытаеш часопісы. Я абавязкова праверу ўсё адносна шахцёрскай лямпы. А пакуль давайце не будзем звязваць з ёй пэўныя імёны. Няхай будзе проста шахцёрская лямпа.

У перапынку мы давіліся ад смеху. Зразумелі – Ганна Натанаўна жыве ў іншым, чым мы, свеце і не арыентуецца ў нашым вучнёўскім слэнгу. Яна не зразумела, што ўяўны Пад'ялдыкін паходзіць ад папулярнага у нашым лексіконе «пад'ялдыкваць», або падколваць.

## Матчына мудрасць

Маці ніколі не давала мне наказаў быць дысцыплінаваным, добра вучыцца, узорна сябе паводзіць. Калі і наказвала штосьці, то я гэтага не памятаю. Але што мне ўбілася ў памяць, што было стымулам маіх учынкаў і дзеянняў, што ўрэшце прывяло да пэўных дзіцячых і юнацкіх дасягненняў, дык гэта яе ацэнка маіх равеснікаў. Яна ацэньвала іх толькі станоўча.

– Вось Гарык (той самы Шыфрын, мой аднакласнік, якога выратавала ад фашыстаў мая Сляпянская вуліца) абавязкова атрымае медаль, таму што сур'ёзны, працуе, вучыцца, а не гуляе ў футбол бляшанкай з-пад кансерваў.

Гарык, дарэчы, ганяў бляшанку не менш за мяне, але не пад нашымі вокнамі. Калі ж я спрабаваў гэта патлумачыць, маці пераходзіла да іншай, не менш балючай для мяне, тэмы.

– Калі б ён паводзіўся так, як ты, то не быў бы такім акуратным, незабруджаным. Ты паглядзі на сябе. Ты ж выцер сваёй вопраткай бруд з усіх сценак і платоў Камароўкі і прайшоўся па ўсіх лужынах.

Я спрабаваў узненавідзець Гарыка за яго, у маім разуменні, зброжку і чыстаплюйства, але, на жаль, разумеў, што маё самалюбства ад гэтага не выйграе. Ды і ўсіх аднакласнікаў, якіх маці рэгулярна ставіла мне ў прыклад, не ўзненавідзіш. Трэба было шукаць іншае выйсце. Заставалася скарыстацца з парадаў бабкі Франі. А яны найпрасцейшыя: бяры прыклад з тых, хто лепшы за цябе, вучыся ў тых, хто разумнейшы за цябе.

У пятым класе ўрокі пачалі праводзіць розныя выкладчыкі. Мне, як і іншым маім аднакласнікам, вельмі падабалася гуляць замест нелюбімых урокаў па пустках і незавершаных будоўлях недалёка ад школы. Сярод прагульшчыкаў я не быў лідэрам, але на сераднячка

цягнуў упэўнена. Пасняховасць мая пагоршылася, і я мог апусціцца да двоечніка, каб не Артэк.

Так, мяне, вартага на той час жалю троечніка, прэміявалі пуцёўкай у легендарны піянерскі лагер на паўднёвым беразе Крыма, куды, я быў упэўнены, пасылаюць толькі самых лепшых піянераў. Спрычынілася да гэтага маё юнкорства ў газеце «Пионер Белоруссии», якая стала пазней называцца «Зорькай». Прыцягнуў мяне да гэтай справы супрацоўнік рэдакцыі Валодзя, прозвішча якога я так і не ведаю. Ён, як і маці, выкарыстаў маё імкненне быць заўважаным.

Валодзя параіў мне апісваць наша школьнае жыццё-быццё, і я стаў даволі часта друкаваным у газеце аўтарам. Перад маім прозвішчам звычайна ставілася слова «юнкор», якое мне падабалася. Спачатку я саромеўся аднакласнікаў, і Валодзя параіў мне падпісвацца матчыным прозвішчам – «юнкор Стасик Романовский». Аднак кемлівыя аднакласнікі даволі хутка мяне вылічылі і, хоць я ніколі ў сваёй пісаніне не хлусіў, далі мне мянушку «юнбрэх». Справа ў тым, што рэдакцыя нярэдка ўпрыгожвала напісанае мною, робячы піянерскае жыццё больш цікавым і прывабным.

І вось у канцы сакавіка 1946 года мяне выклікаюць у настаўніцкую. Я чакаю папрокаў за пропуск заняткаў і абдумваю, як выкруціцца. Насамрэч усё не так сумна. Проста званілі з рэдакцыі і прасілі мяне як найхутчэй зайсці ў Дом друку да рэдактара «Зорьки» Анастасіі Мазуравай.

Бягу, стукаюся ў дзверы, заходжу.

– Добры дзень, Стасік. Дык вось ты які, адзін з лепшых нашых юнкораў. Нядрэнна пішаш, але, думаю, зможаш і лепей. Ды і з вучобай у цябе, я ўпэўненая, па-ранейшаму ўсё добра. Нябось, зноў цягнеш на пахвальную грамату? Валодзя цяпер у камандзіроўцы, але ён мне аб тваіх поспехах расказваў. Мы тут у рэдакцыі вырашылі прэміяваць цябе пуцёўкай у Артэк. Там ты будзеш весці дзённік і дасылаць нам свае запісы. Мы будзем іх друкаваць у газеце. Вось табе інструкцыя аб тым, якія патрэбныя даведкі, як здаць твае прадуктовыя і хлебныя картачкі, што узяць з сабой. Цягнік адпраўляецца праз два дні – 29 сакавіка ў 10.15. Усяго 50 чалавек з нашай рэспублікі – 48 піянераў і двое важатых. Едзеце праз Маскву, Харкаў, Сімферопаль асобным вагонам. Далей – аўтобусам. Бяжы дамоў, абрадуй маці.

Рэдактар, на шчасце, не рабіла паўзаў. Інакш, як ні сорамна хлусіць, я абавязкова пацвердзіў бы, што з вучобай у мяне ўсё па-ранейшаму.

## Артэк

Так патрапіў я на цэлых два месяцы – красавік і травень – ва Усесаюзны піянерскі лагер Артэк. З Сімферопаля дзяўчатаў павезлі аўтобусам у лагер Суук-су, хлопцаў – у лагер Верхні. Давялося здаць усю без вынятку вопратку, якую адразу накіравалі на дэзінфекцыю і сказалі,



*1946 год, травень. Сустрэча артэкаўцаў з маршалам Будзённым. Вышэй за ўсіх у левай частцы здымка – мая галава*

што вернуць у дзень ад'езду. Пасля была стрыжка пад «нулёўку», душ, агляд лекара. Кожны атрымаў бялізну і два камплекты вопраткі: парадную – з цёмна-сініх адпрасаваных доўгіх штаноў, беласнежнай кашулі «мараходкі» і бесказыркі, плюс звычайную штодзённую, колеру хакі – з штаноў на шлейках, што зашпільваліся ніжэй калена, курткі і кашулі. Потым усе мы апынуліся ў сапраўднай казцы – на абедзе!

Сталы – на чатырох. На кожным – хлебніца з белым і чорным хлебам. Еш, колькі хочаш. Ежа смачная, захацеў дабаўку – падымі руку. Такое мне ў той час і не снілася. Па хлебных картках утрыманцаў – мне, сястры і бабулі – выдавалі па 300 грамаў хлеба ў дзень, па мамінай – працоўнай – 500 грамаў. Сёння больш хлеба на чалавека ў дзень і не трэба, а тады хлеб быў галоўным прадуктам харчавання, яго заўсёды хацелася.

Шчаслівую казку, вядома ж, павінна нешта азмрочваць. Усе, хто прыехаў з Беларусі, павінны былі перад абедам прымаць рыбін тлушч. Некалькім з нас, аднесеным да найбольш схуднелых, у тым ліку і мне, трэба было прымаць і пячоначны экстракт – горкі-горкі сіроп колеру дзёгця. Ухіліцца ад гэтага абавязку было немагчыма. Не ўтойвалі артэкаўцы і тое, што не вельмі падабаецца ім хадзіць на заняткі ў школу, бо на паўднёвым беразе Крыма можна знайсці справы і больш вясёлыя. Я ж, наадварот, ставіўся да навучання ў школе вельмі сур'ёзна. Хацеў атрымаць даведку аб заканчэнні пятага класа з добрымі адзнакамі. У выніку мне выпісалі даведку без троек і амаль без чацвёрак, і ніколі ў далейшым школьным жыцці ў мяне больш не было праблемаў з па-



*1981 год. Трыццаць гадоў таму мы закончылі школу. Аднакласнікі (злева направа): Эдуард Еліневіч, Альберт Аляхновіч, Ігар Фокін, Уладзіслаў Барай, Леанід Keніс, Ілля Фрыдлянд, Уладзімір Рубежын, Гарольд Смірноў, Станіслаў Шушкевіч, Клім Сцепанчук, Пётр Любчэўскі, Абрам Затурэнскі, Леанід Котаў з нашай класнай кіраўнічкай Станіславай Міхайлаўнай Петрушкевіч каля нашай 13-й мужчынскай рускай школы. На гэтым месцы цяпер – 9-павярховы жылы дом*

спяховасцю. Насуперак змрочным прагнозам маёй маці, якія, трэба прызнаць, насілі чыста выхаваўчы характар, я нават медаль атрымаў, праўда, срэбны.

## Раздарожжа

Набліжалася заканчэнне школы. Маці вельмі хацела, каб я стаў лекарам. Яна і думкі не дапускала, каб я пайшоў па шляху навук гуманітарных. Маці ведала, што мяне захапляла прыгожае пісьменства, але перад вачыма быў лёс бацькі. Менавіта за літаратурную дзейнасць ён займеў ярлык «нацдэма». Таму маці настойвала: ніякіх гуманітарных навук, выбірай з прыродазнаўчых і дакладных. Да формулы прычапіцца цяжэй, чым да вершаў.

Што да літаратуры, то, прызнаюся, я нікому так не зайздрошчу, як майстрам слова. Не рыфмаплётам, не пісакам-прыстасаванцам, а творцам! Так ужо павялося, што ў школьныя гады я вызначыў свайго ўлюбёнага пісьменніка – Антона Паўлавіча Чэхава і да гэтай пары не памяняў сваёй прыхільнасці. А які багаты выбар сапраўдных майстроў беларускага мастацкага слова! Ад сапраўдных волатаў да тых, хто за сваё кароткае жыццё паспеў толькі на імгненне бліснуць прыгажосцю радкоў, пакінуўшы аб сабе памяць на стагоддзі. Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Ларыса Геніюш, Паўлюк Трус, Наталля

Арсеннева... І нават павешаны ў 26 гадоў Кастусь Каліноўскі – аўтар усяго двух вершаў. Але хіба ўсіх, хто любіў Беларусь і прыгожым пісьменствам яе ўславіў, пералічыш?

Аднак я ні на хвіліну не шкадую, што захапіўся радыёэлектронікай. Не аднойчы падыходзіў я да дзвярэй гарадской тэлефоннай станцыі на вуліцы Маркса, каб яшчэ і яшчэ раз прачытаць аб'яву аб прыёме навучэнцаў у Маскоўскі інстытут сувязі. Там была спецыяльнасць «тэлебачанне» – па маіх паняццях 1951 года – вяршыня радыёэлектронікі. І я паехаў у Маскву. На парадных дзвярах Інстытута сувязі вісела шыльдачка, на якой было напісана, што ў сувязі з рамонтам уваход у памяшканне прыёмнай камісіі з двара. Праз скрыпучыя дзверы па абшарпаным калідоры з непрыгляднай падлогай і непрыемным пахам я прабраўся ў залу прыёмнай камісіі. Успомніў дні «адкрытых дзвярэй» у мінскіх вучэльнях – Політэхнічным і Педагагагічным інстытутах, ва ўніверсітэце. Там усё было ўрачыста, нават утульна. Маё жаданне паступаць у маскоўскі Інстытут сувязі некуды раптоўна знікла, і я вярнуўся ў Мінск, так і не падаўшы дакументаў.

У родным Мінску мяне чакалі зусім іншыя прыгоды і выпрабаванні. Здавалася, студэнцкі білет ужо ў кішэні – медалістаў належала прымаць без уступных іспытаў, але калі я аднёс дакументы на фізіка-матэматычны факультэт універсітэта, пачалася новая эпапея.

Праз два дні мяне выклікалі і прымусілі тут жа, у памяшканні прыёмнай камісіі, перапісаць аўтабіяграфію. У маці быў вялікі досвед жонкі «ворага народа» і адчуванне таго, чым вымушаныя кіравацца крывадушныя чыноўнікі. Яна своечасова папярэдзіла мяне, на чым могуць злавіць. Альбо на нейкім дробным несупадзенні дадзеных у першым і другім варыянтах, альбо на дапушчаных у спешцы памылках і апісках. Тады скажуць: які ж ты медаліст?

Нікуды не заглядваючы, я хутка напісаў другі варыянт.

– Вы, відавочна, чарнавік у кішэні носіце.

– Не, у мяне памяць такая.

Кадравік, які муштраваў мяне, урэшце сказаў наўпрост:

– Фразу «бацька з сям'ёй не жыве» трэба расшыфраваць!

Такую фармулёўку параіла мне маці. Яна прадбачыла і такі паварот справы, таму я быў падрыхтаваны да імгненнага адказу.

– На жаль, не магу нічога дадаць да напісанага.

Пазней, аж да хрушчоўскай адлігі, мне прыйшлося не аднойчы запэўніваць правяральшчыкаў, што болей пра бацьку мне нічога невядома. Калі ж я апынуўся ў палітыцы, майстры чорнага піяру перакруцілі справу так, быццам «Шушкевіч калісьці адмовіўся ад бацькі». А тады, пры паступленні ва ўніверсітэт, мне давялося прайсці не адзін кабінет і нават не адзін раз быць выкліканым да самога рэктара. Усюды я паўтараў адно і тое ж: вы не маеце права адмовіць мне

ў залічэнні, савецкія законы для ўсіх аднолькавыя. Яны круціліся, як вужы на патэльні, бо ніякіх законных падставаў для адмовы не мелі, але лезлі са скуры, каб трымацца негалоснай устаноўкі: ненадзейных на фізіку не браць!

Фізіка ў 1951 годзе лічылася ў СССР вельмі важнай навукай. Савецкі Саюз у глабальным супрацьстаянні са Злучанымі Штатамі Амерыкі незадоўга да гэтага правёў выпрабаванні ядзернай і паскоранымі тэмпамі ствараў вадародную бомбу. Ці ж можна было ў стратэгічна важную сферу дапускаць сына ворага народу? З боем дамогся я залічэння, але кляймо давала аб сабе знаць.

У 1952 годзе мяне нечакана адхілілі ад удзелу ў шырока разрэкламаваным мотапрабегу Мінск-Кіеў, хоць я быў узорным чальцом секцыі мотаспорту ДТСААФ, лепш за іншых вывучыў гонар савецкага матацыклабудавання – ІЖ-49, умеў яго рамантаваць, урэшце стаў прызёрам адборачнага кросу. Але ярлык нядобранадзейнага засланіў усе мае спартыўныя рэгаліі, і рэктар І.С. Чымбург выкрасліў маё прозвішча са спісу ўдзельнікаў мотапрабегу. Не мог паступіць інакш чалавек, увесь навуковы багаж якога складаўся з рэдагавання кнігі шэфа беларускага КДБ Лаўрэнція Цанавы «Ленін і Сталін – арганізатары Беларускай ССР». Дасведчаныя людзі ведалі, што Чымбург не толькі рэдактар, але і аўтар кніжкі Цанавы. Так было прынята.

У тым самым 1952 годзе замест гісторыка КПСС Івана Савіча Чымбурга рэктарам прызначылі геолага Канстанціна Ігнатавіча Лукашова. Па ўзроўні навуковай і педагагічнай кваліфікацыі ён так кантраставаў з папярэднікам, што я адчуў сапраўдны гонар за ўніверсітэт і яго кіраўніцтва. З таго часу я заўжды ганаруся Беларускім дзяржаўным універсітэтам, аднак, гонар за яго кіраўнікоў часамі знікае, бо ў нас, у адрозненне ад сапраўды цывілізаваных краінаў, рэктар не абіраецца навуковай радай, а прызначаецца тымі (або тым), хто аб навуцы і адукацыі не мае ніякага ўяўлення.

І ўсё ж мае школьныя настаўнікі, акрамя фізіка Фініаса Саламонавіча Баркана, былі перакананыя ў тым, што я падамся ў гуманітарыі. А ўжо згаданая раней Марыя Іосіфаўна Марцуляніс амаль страціла прытомнасць, калі пры выпадковай сустрэчы я сказаў ёй, што паступіў на фізіку.

– Гэта жудасна! Навошта вам гэтая бяздушная матэрыя? Вы ж, без сумневу, маглі заняцца субстанцыямі адухоўленымі. Вам бы пайсці на філалогію, гісторыю, урэшце. Многія ў стане зразумець Архімеда, Піфагора і нават Эўкліда. А хто, скажыце, з вашых равеснікаў разумее Гамера, Арыстоцеля, Платона? Нам жа ўсім патрэбная мудрасць глыбокай старажытнасці, але чамусьці людзі, здольныя навучыцца разумець іх, гэтых вялікіх старажытных мысляроў, ідуць у фізікі.

Сумная, але непазбежная рэмарка. Марыя Іосіфаўна, якая так шмат дала мне і маім аднакласнікам, адышла ў іншы свет. Мы яе

памятаем, мы ўдзячныя ёй, мы ўспамінаем яе толькі добрым словам і як педагога, і як чалавека. Перажываем, што даймалі яе сваімі вучнёўскімі свавольствамі. Прабачце нам, Марыя Іосіфаўна. Я мог бы супакоіць Вас сёння тым, што не зусім адарваўся ад гуманітарыяў. Лёс звёў мяне з імі, а Ваша да мяне добрае стаўленне надавала мне ўпэўненасці і сілы, змушала думаць, што я здольны паразумецца і з імі. Баюся, што за тую гуманітарную навуку, у якой я вымушаны быў заўзята разбірацца, за паліталогію, Вы асудзілі б мяне не менш, чым за фізіку. Вы ж і ў змрочныя часы маглі сказаць, што ў палітыцы дасягаюць поспеху толькі крывадушныя і нахабныя.

## Гады студэнцкія

На першы курс аддзялення фізікі БДУ ў 1951 годзе залічылі 50 абітурыентаў – дзве групы па 25 чалавек. У адной групе былі толькі медалісты, у другой – толькі некалькі медалістаў, але час пацвердзіў: не было падставаў лічыць яе больш слабой. Да фініша – заканчэння ўніверсітэта – дайшлі 46: некалькі чалавек перавяліся ў другія ВНУ, адзін кінуў вучобу па ўласным жаданні, адзін памёр.

Паточныя лекцыі па грамадскіх навуках мы слухалі разам з матэматыкамі. Мы – фізікі – з гонарам заяўлялі, што мы з імі адной крыві, бо матэматыка – мова фізікі. Матэматыкі не спрачаліся. Да сённяшняга дня, мы – выпускнікі 1956 года – штогод сустракаемся разам, фізікі з матэматыкамі, толькі нашы і іх шэрагі парадзелі...



*1955 год. Так выглядалі мы пасля 4-га курса на вайсковых зборах. У другім шэрагу крайні злева – будучы народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, крайні справа ў апошнім шэрагу – я*

Выпуск фізікаў аказаўся на рэдкасць моцным. Ён даў 14 кандыдатаў навук, з іх 9 сталі дактарамі навук, трое – акадэмікамі, трое – членамі-карэспандэнтамі НАН Беларусі, 9 – прафесарамі. Галоўная асаблівасць нашага курса – мы аказаліся на рэдкасць з'яднанымі. Не без выняткаў, вядома ж, але вынятці былі рэдкімі, спарадычнымі. Мы і сёння застаемся дружным курсам.

Акрамя ўласцівай нам прагі ведаў добра вучыцца нас вымушалі правілы атрымання стыпендыі. Яна давалася толькі тым, хто займаўся на «добра» і «выдатна». Здавальняльная адзнака – тройка – была на нашым курсе з'явай рэдкай, бо, атрымаўшы яе, большасць аднакурснікаў не змагла б працягваць вучобу.

На першым-чацвёртым курсах у хлопцаў адзін з шасці рабочых дзён тыдня забірала спецкафедра. З нас рыхтавалі афіцэраў запасу – артылерыстаў.

Восем акадэмічных гадзінаў у тыдзень забіралі грамадскія навукі – гісторыя КПСС, навуковы камунізм, палітэканомія, дыялектычны матэрыялізм. Так што для фізікі і звязанных з ёю курсаў заставалася не так ужо многа акадэмічнага часу, асабліва для хлопцаў.

У гады майго студэнцтва, 5 сакавіка 1953 года, памёр Сталін. Некалькі маіх аднакурсніцаў горка плакалі з гэтай нагоды. Пасля кароткачасовай разгубленасці вышэйшага кіраўніцтва пачаліся адчувальныя змены. Да сярэдзіны лета 1953 года, калі на пасадзе кіраўніка краіны знаходзіўся Георгій Малянкоў, былі абвешчаныя закрытымі буйныя, берыяўскага пакрою, крымінальныя справы («ленінградская» і «лекараў»), праведзеная амністыя зняволеных за дробныя злачынствы. З сярэдзіны 1950-х гадоў пачалася хрушчоўская адліга, у час якой адбылася нязначная лібералізацыя палітычнай сістэмы, адносная дэмакратызацыя грамадскага жыцця, ледзь-ледзь прыадчыніліся дзверы для свабоды слова і творчай дзейнасці.

Праз тыдзень пасля пачатку апошняга ў маім жыцці студэнцкага семестра – 14 лютага 1956 года – адкрыўся XX з'езд КПСС. У сваім справаздачным дакладзе Хрушчоў пацвердзіў здзейсненую на працягу апошніх трох гадоў змену палітычнага курса, падкрэсліў адмову ад сталінізму ва ўнутранай і знешняй палітыцы, асудзіў злачынствы «клікі Берыі». Самай нечаканай была заява Хрушчова, якая супярэчыла ўбіванаму ў нашыя галовы выкладчыкамі грамадскіх навук палажэнню аб тым, што пралетарыят можа прыйсці да ўлады толькі рэвалюцыйным шляхам. Яны, гэтыя выкладчыкі, павінны былі цяпер засвоіць, што дзякуючы новым, спрыяльным для сацыялізму суадносінам сілаў у свеце, заваяванне ўлады ў «буржуазных краінах» можа адбывацца канстытуцыйным шляхам. Ім трэба было цяпер прапаведваць не непазбежнасць вайны з капіталістычным светам, а «мірнае суіснаванне», не аблайваць па-сталінску Югаславію, а заклікаць да пошуку шляхоў збліжэння з ёю. Іх «непахісныя» марксісцка-ленінскія перакананні



*1954 год. Студэнцкая дэлегацыя БДУ на святкаванні 300-годдзя «аб'яднання» Украіны з Расіяй у Кіеве каля помніка Багдану Хмяльніцкаму: І. Хаўратовіч, С. Шушкевіч, Р. Маленчанка, Я. Бабосаў*

імгненна змяніліся, і з тым самым імпэтам яны пачалі ўбіваць у нашы галовы новыя перакананні, як высветлілася, таксама марксісцка-ленінскія.

Мы цешыліся паслабленню цэнзуры. На курсе ўтварылася чарга з чытачоў часопіса «Новый мир» з аповесцю Аляксандра Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», раманам Уладзіміра Дудзінцава «Не хлебам адзіным», вершамі Леаніда Мартынава. Перасталі быць малавядомымі Яўгеній Еўтушэнка, Андрэй Вазнясенскі, Віктар Астаф'еў, Уладзімір Цендракоў, Бэла Ахмадуліна. У СССР і краінах сацыялістычнага лагеру былі выпушчаныя на свабоду і рэабілітаваныя многія палітычныя зняволеныя. Сярод іх быў і мой бацька, які ў 1956 годзе вярнуўся ў Мінск. Такім чынам, за час майго студэнцтва ў краіне і ва ўсім сацыялістычным лагеры адбыліся вялікія змены, у тым ліку адчувальныя ў палітычным жыцці. Наступны рашучы паварот генеральнай лініі КПСС, названы канцом адлігі, пачаўся ў 1964 годзе з прыходам да кіраўніцтва партыяй Л.І. Брэжнева

Адліга далася ў знакі і мне. З сына ворага народа я ператварыўся ў чалавека, бацька якога быў беспадстаўна рэпрэсаваны. Мяне абралі камсоргам курса, я даведаўся, як парткам забараняў маім аднакурснікам зрабіць гэта раней. Той жа парткам увесну 1954 года зацвердзіў мяне чальцом дэлегацыі ўніверсітэта на святкаванне

300-годдзя «ўз'яднання» Расіі з Украінай у Кіеве. Я пабываў на сапраўды натхняльных урачыстасцях у сталіцы УССР, пасябраваў з кіяўлянамі і студэнтамі з іншых гарадоў. Цікава заўважыць, што ўсе дэлегаты ад Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта сталі даволі вядомымі людзьмі ў Беларусі. Юзік Хаўратовіч – рэдактарам энцыклапедыі, Рыма Маленчанка – заслужанай артысткай, Яўген Бабосаў – акадэмікам.

Хрушчоўская адліга зрабіла мяне яшчэ больш савецкім, а бацька пасля вяртання з Сібіры толькі ўмацоўваў ва мне пачуццё гонару за нашу вялікую сацыялістычную радзіму. Ён заставаўся тым жа рамантыкам, якім быў у свае 17 гадоў, калі надрукаваў свой першы верш:

*Скамячу, як снежку,*
*Радасць я сваю*
*І шпурну з усмешкай*
*Сённяшняму дню.*

*Радасць мая звоніць*
*Словам маладым*
*Ад сялянскіх гоняў,*
*Ад сялянскіх ніў,*

*Ад дубоў шумлівых,*
*Ад вясковых хат,*
*Дзе жыцця імклівы*
*Крочыць новы лад...*

Здавалася б, у бацькі былі ўсе падставы ўзненавідзець гэты «новы лад», які забіў без усялякай віны дзесяткі бацькавых сяброў, які самога бацьку аддаў на катаванні і здзекі, загнаўшы ў такую глухмень, дзе ён неаднойчы быў на валасок ад смерці... Не! Прайшоўшы ўвесь шлях, бацька лічыў камуністычную ідэалогію правільнай і яшчэ да заканчэння хрушчоўскай адлігі ўступіў у 1964 годзе ў КПСС. А мне сказаў:

– Сацыялізм – мэта цудоўная, але нягоднікі прасочваюцца ў кіраўнікі і псуюць добрую справу. Трэба, каб у партыю ішлі прыстойныя людзі. З імі і сацыялізм сапраўдны пабудуем.

Знаходзячыся ў высылцы, бацька палюбіў Сібір, веліч яе прыроды, а больш за ўсё – сібіракоў. Калі вярнуўся ў Мінск, у яго невялічкім драўляным дамку на Горным завулку часта бывалі госці з Сібіры, пераважна людзі, з якімі ён разам працаваў у Кемераўскай вобласці. Мяне здзіўляла, што звяртаўся ён да іх на беларускай мове. Яны разумелі практычна ўсё і адказвалі яму – хто па-руску, хто па-украінску, а хто – амаль правільна – па-беларуску. Я даведаўся ад іх,

што і ў Сібіры бацька гаварыў па-беларуску, і гэта нікога не здзіўляла і не бянтэжыла. Рамантык, у марах і снах бацька заўсёды быў у Беларусі і не імкнуўся гэта ўтойваць.

У 1956 годзе, адразу пасля вяртання на радзіму, бацька пісаў:

*Зноў пабачыў цябе, Беларусь,*
*Непакорную,*
*родную,*
*шчырую,*
*блізкую.*
*Ты была мне заўсёды, ў любую пару,*
*І надзеяй, і марай, і шчасця калыскаю.*

І як быццам не было 20 гадоў зняволення і высылак! У 1957 годзе мой бацька працягваў лічыць сябе сынам занядбанага царызмам народа, які на дарогу да шчасця вывеў кастрычніцкі пераварот 1917 года (паводле тагачаснай тэрміналогіі – Вялікі Кастрычнік).

*– Хто ты такі? Адкуль? Ды з якога роду?*
*– Я з тых, што вякамі жыў бедна, гаротна,*
*Сын занядбанага адвечна народа...*
*.................................................*
*Бачыш, Радзіма ідзе дарагая*
*Дарогай Вялікага Кастрычніка!*
*.............................................*
*Зноў запытанні ляцяць неадвязна:*
*Хто ты? Адкуль? Ды з якога роду?*
*На ўвесь голас кажу, вымаўляю выразна:*
*Сын неўміручага беларускага народа!*

Я нярэдка задумваюся над ашаламляльнай сілай утапічных ідэяў. Аднак мяне заўсёды хвалюе пытанне, ці верылі ў іх тыя, хто ідэі тыя праводзіў у жыццё? А калі шчыра верылі, то чаму, як сумленныя людзі, не адракліся ад іх, усвядоміўшы іх утапічнасць? Або так, як і мой бацька, працягвалі быць «аблуднымі авечкамі», працягвалі шчыра верыць у нездзяйсняльныя ідэалы і працягвалі заклікаць людзей у іх верыць. Кіруючыся самымі добрымі намерамі, заклікалі ў тупік накшталт казарменнага камунізму, з якога няма бяскроўнага выхаду?

## Калі праца – задавальненне

Мне заўжды падабалася праца, вынікі якой можна ўбачыць і паказаць іншым. У жыцці ж было шмат справаў іншага кшталту. Не скажу, што я адчуваў задавальненне ад вучобы. Цешыўся, калі спазнаваў тое, што хацеў зразумець або асвоіць. Але нельга здаць іспыт, спазнаючы толькі тое, што цікава, таму з нецярпеннем чакаў часу, калі можна

будзе займацца тым, чым хочаш. Хутка ўсвядоміў: такі час ніколі не наступіць. Трэба ўмець яго знайсці, займаючыся тым, чым абавязаны займацца. Цудоўным адпачынкам ад нелюбімай працы альбо вучобы лічыў і лічу працу фізічную, эфектыўнасць якой залежыць не толькі ад досведу, але і ад кемлівасці. Люблю будаваць, майстраваць, маю ў сваім распараджэнні цудоўныя інструменты і прыстасаванні для справаў будаўнічых, сталярных і слясарных. У мінулым мне падабалася рамантаваць радыёапаратуру, прыймачы, тэлевізары, але сёння досвед такога кшталту нікому не патрэбен, перш за ўсё мне самому.

Студэнцкую стыпендыю я дарэшты аддаваў маці. Паступаць іначай, бачачы, як яна працуе ў трох месцах – дзённай, вячэрняй і пазменнай школах, плюс вядзе хатнюю гаспадарку ў доме без вадаправода і каналізацыі, – было б проста злачынствам. Познімі вечарамі маці доўга правярала вучнёўскія сшыткі. Класы былі перапоўненымі, і сшыткаў былі – горы. Маму адольвалі галаўныя болі – давала аб сабе знаць сур'ёзная чэрапна-мазгавая траўма. Маці няўдачна паслізнулася ў час зімовага мыцця бялізны каля вадаразборнай калонкі і вельмі моцна разбіла галаву. Выклікалі хуткую дапамогу, два тыдні рабіліся перавязкі. Участковая лекарка прадпісвала спакой, але маці лічыла, што яе спакой азначае змяншэнне настаўніцкай нагрузкі. Гэта канчаткова пасадзіла б сям'ю на мель, пакінуўшы нас зусім без грошай, якіх і так было мала. Маці працягвала многа працаваць.

Усе наяўныя грошы ляжалі ў вядомай усім у сям'і адкрытай шуфлядцы, але ні я, ні сястра, ні бабуля да іх не дакраналіся, хоць спакусаў,



*Ідуць касцы... Люблю і сёння пакасіць звычайнай касой*

на якія былі патрэбныя выдаткі, мелася навакол мноства. Яшчэ ў школе, пасля восьмага і дзевятага класаў, улетку я навучыўся разам з суседам Юрыкам зарабляць невялікія грошы, развозячы на кані ваду для паліўкі ў Батанічным садзе. Праца гэтая была не з лёгкіх, але мне падабалася. Цяжэй за ўсё было чэрпаць ваду з запруды вядром і заліваць у бочку на колах. А ўмяшчала яна літраў трыста. Затое, калі конь цягнуў павозку ў прызначанае месца, а пасля, калі працаўніцы злівалі ваду і рабілі паліўку, можна было з паўгадзіны адпачываць сярод прыгожых раслінаў.

Пасля першага курса ўсё лета працаваў старэйшым піянерважатым у дзіцячым лагеры фабрыкі імя Н.К. Крупскай, пасля трэцяга – акардыяністам у піянерлагеры ў Каралёвым Стане, дзе старэйшым важатым быў мой аднакласнік Альберт Аляхновіч – потым дацэнт Політэхнічнага ўніверсітэта.

Падзарабляў і па спецыяльнасці – лабарантам у фізічным кабінеце 12-й, а пасля і маёй роднай 13-й школы. Пачынаючы з другога курса, вёў у дзесятых класах 12-й школы ўрокі электратэхнікі. Якраз тады мужчынскія і жаночыя школы ператвараліся ў змешаныя, гэта значыць – у нармальныя, і ўводзілася політэхнізацыя навучання. У большасці школаў заняткі па электратэхніцы вялі настаўнікі-фізікі, але абедзве выкладчыцы фізікі 12-й школы ад правядзення гэтых заняткаў адмовіліся. Дырэктар школы не змог знайсці выкладчыка электратэхнікі, а я, прагледзеўшы праграму, прапанаваў яму свае паслугі. Ён ветліва папрасіў растлумачыць асноўныя палажэнні школьнай праграмы згаданым фізічкам, у фізкабінеце якіх я на паўстаўкі працаваў лабарантам. Пасля майго тлумачэння абедзве настаўніцы ізноў жа не захацелі выкладаць электратэхніку, але заявілі дырэктару, што я для гэтага падыхожу. Дырэктар расчуліўся і нават папрасіў завуча школы зрабіць расклад заняткаў такім, каб гэта добра спалучалася з маімі студэнцкімі абавязкамі.

Большасць маіх школьных настаўнікаў, здавалася, без вялікіх намаганняў маглі дасягнуць цішыні і дысцыпліны з першага свайго ўрока. Кожны рабіў гэта па-свойму. Я хацеў таго ж, але ведаў – перайманне не заўжды вядзе да поспеху. Тым больш, калі вучаніцы ў класе твайго ж узросту, а сярод хлопцаў, пераведзеных з мужчынскай школы, ёсць і старэйшыя. Дырэктар паабяцаў мне дапамагчы і зазірнуць у клас, калі шум у ім будзе працягвацца доўга. Я папрасіў яго ні ў якім разе не ўмешвацца.

Увайшоў у клас, прывітаўся, назваўся. Адказалі, ніякага шуму, і... кожны заняўся сваім. Мне здавалася, што я змагу захапіць клас анекдотамі-байкамі аб кароткім замыканні, страшылкамі аб трагічным выкарыстанні электрычных прыладаў, ленінскім словамі «савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны», эдысонаўскім спосабам размарожвання глыбока закапаных трубаў падземнага вадаправода –

з дапамогай электрычнасці. Усё марна! Я не ведаю, што рабіць далей. У кожнага на парце свае захапленні – адгорнуты сшытак, куды нешта пішацца, геаграфічная карта, на якой нешта адшукваецца з павелічальным шклом, ноты, над якімі робяцца дырыжорскія рухі.

– Вы што, у дырыжоры хочаце падацца?

– Не, я пасля заняткаў кірую нашым класным хорам, а цяпер рыхтуюся. Хочаце – заспяваем?

– А ноты навошта?

– А як жа без нотаў?

Бачу, што дзяўчынка наўрад ці разбіраецца ў нотах і пачынаю галосна, каб усе чулі, «рэзаць праўду-матку».

– Якія тут лічбы?

– Тры і чатыры.

– Правільна, тры чвэрці – вальс, а пры вашых памахваннях хору давядзецца скакаць «лявоніху». Я ў школе не вешаў настаўнікам локшынаў на вушы так прымітыўна. Дарэчы, простае электрычнае прыстасаванне можа замяніць такога, пакуль што неадукаванага, дырыжора, як вы. А цяпер паслухайце, што я хачу рабіць разам з вамі на ўроках электратэхнікі.

Новая «методыка» прыйшла мне ў галаву літаральна на ўроку. Разважаючы сур'ёзна, электратэхніка – прадмет, не вельмі патрэбны для школьнікаў. Даніна модзе – політэхнізацыя навучання. Эўрыка! Я ведаю, як захапіць вучняў без анекдотаў і плана ГОЭЛРО. І я прадоўжыў:

– Ведаю, што ацэнка па электратэхніцы ў атэстат не выстаўляецца. Але выстаўляецца ацэнка па фізіцы, ды і здаваць уступны іспыт па фізіцы ў ВНУ давядзецца многім. Прапаную пагуляць з вамі ў кошкі-мышкі. Сыходзім з таго, што раздзел фізікі «электрычнасць» – аснова электратэхнікі. Давайце на маіх уроках будзем рашаць задачы па фізіцы, з раздзелу электрычнасці, а калі камусьці вельмі захочацца, то і з любога другога раздзелу фізікі. Вы прапануеце задачу з любога падручніка або задачніка для школы, я спрабую рашыць яе на дошцы, выклікаўшы каго-небудзь з вас. Калі нават з маімі падказкамі ён не здолее гэта зрабіць, рашу я. Застаюцца тры просьбы. Першая – не тлумачыць па сакрэце ўсім наш з вамі метад вывучэння электратэхнікі. Другая – не вышукваць алімпіядных задачаў, страцім на іх многа часу. Трэцяя – прашу завесці новы тонкі сшытак, напісаць на яго вокладцы буйнымі літарамі «Электратэхніка», сваё імя і прозвішча.

– А як з адзнакамі?

– Тым, хто добра сябе праявіць каля дошкі, пастаўлю пяцёркі. У астатніх і чацвёркі могуць здарыцца.

Думаю, што настаўнікі і дырэктар ведалі аб сутнасці майго метада выкладання электратэхнікі. Ён усіх задавальняў. Пры сустрэчы з дырэктарам адбылася прыкладна такая размова:

– Цешуся, што вы знайшлі падыход да няпростых дзесятых класаў. Нам жа ў іх перавялі не лепшых хлопцаў з былой мужчынскай школы.

– Дзякуй на добрым слове, але не думаю, што вы перавялі ў былую мужчынскую вашых лепшых дзяўчатаў. А вучыць трэба ўсіх.

* * *

У пачатку 2000-х гадоў я ляцеў у Франкфурт-на-Майне. Побач са мной сядзела прыемная маладзіца.

– Прабачце, але я вас ведаю, і не толькі як першага кіраўніка незалежнай Беларусі, але і як настаўніка маёй маці, якая закончыла 12-ю мінскую школу. Яна ўжо на пенсіі, але добра памятае, як вы навучылі яе клас рашаць самыя складаныя задачы па фізіцы.

Мне прыемна было пачуць такое ад выпадковай спадарожніцы праз амаль 50 гадоў пасля таго, як я правёў у класе, дзе вучылася яе маці, не больш за дзесяць урокаў.

## Размеркаванне

У другім семестры пятага курса не было абавязковых для наведвання заняткаў. Лічылася, што я ўвесь час працую на радыёзаводзе (цяпер – аб'яднанне «Гарызонт») над сваей дыпломнай працай. Аднак акрамя гэтага я яшчэ ў маёй роднай 13-й школе замяняў выкладчыцу фізікі старэйшых класаў, якая атрымала адпачынак для здачы дзяржіспытаў як студэнтка-завочніца Педагагічнага інстытута.

Дырэктар школы Мікалай Міхайлавіч Струсевіч і завуч Яўгенія Сямёнаўна Левіна былі задаволеныя маёй працай. Аднак мае настаўніцкія дасягненні ў абедзвюх школах ледзь не вылезлі мне бокам, калі настаў дзень размеркавання выпускнікоў у БДУ.

Па паспяховасці (тут улічваўся агульны бал за ўвесь час навучання) я – сёмы, з дадаткам за студэнцкую навуковую працу – пяты. Пры 46 выпускніках – зусім нядрэнна, з'язджаць з Мінска не трэба, добрых месцаў хапае і тут. Але не падабаецца мне насмешлівы погляд прафесара Антона Нікіфаравіча Сеўчанкі – дырэктара Інстытута фізікі і матэматыкі Акадэміі навук БССР. Фактычна ён усё тут вырашае. Вось ён звяртаецца да мяне ці то жартуючы, ці то са знявагай:

– Скажы ты нам, Шушкевіч, колькі тваіх сваякоў працуе ў 12-й і 13-й школах? Адтуль да нас прыйшлі як пад капірку напісаныя чуллівыя лісты, каб размеркаваць цябе і ў 12-ю, і ў 13-ю школы. Яны, праўда, не маюць права звяртацца непасрэдна да нас у камісію, але ў нас вялікая заяўка Міністэрства адукацыі, і мы можам паслаць цябе ў любую з гэтых школаў. Выбірай!

Я падазраю, што прафесар жартуе, але, ведаючы яго непрадказальны характар, пачынаю не на жарты баяцца, каб так не сталася. Больш за тое, у яго ёсць падставы мяне не любіць, бо я не паслухаў яго пара-

ды, не запісаўся на яго любімую спецыялізацыю «оптыка» і адмовіўся пайсці да яго, як навуковага кіраўніка, у аспірантуру.

– Паважаны Антон Нікіфаравіч, няма ў мяне сваякоў ні ў адной з гэтых школаў. Я проста працаваў і там, і там. Відавочна, не зусім дрэнна працаваў, таму і прыслалі лісты, аб якіх я нічога не ведаю. Навошта ж вы накіравалі мяне на размову з загадчыкам лабараторыі вашага інстытута акадэмікам Міхаілам Аляксандравічам Ельяшэвічам? Ён пасля размовы са мной згадзіўся быць маім навуковым кіраўніком. Я хачу быць ягоным аспірантам.

Прафесар А.Н. Сеўчанка не здаецца:

– Але пісьмовай заяўкі акадэміка Ельяшэвіча няма.

– І не можа быць, Антон Нікіфаравіч. Ён, як і школа, не мае права звяртацца непасрэдна ў камісію і добра гэта ведае. Але ёсць месцы ў аспірантуры Інстытута фізікі і матэматыкі Акадэміі навук, дзе вы – дырэктар, а Міхаіл Аляксандравіч загадвае лабараторыяй.

– Бач ты, усё разнюхаў – і ў школах, і ў інстытуце. Добра, ідзі ў аспірантуру. Ельяшэвіч, праўда, чысты тэарэтык, табе мала падыходзіць, але ўсе сур'ёзныя фізікі-эксперыментатары ў Савецкім Саюзе яго ведаюць і паважаюць, а ён іх – тым болей. Лічы, што з навуковым кіраўніком табе пашанцавала.

# III. АКАДЭМІЯ–ЗАВОД–УНІВЕРСІТЭТ

## Аспіранцкія ваяжы і будні

Сярод легендаў аб адным з найвялікшых фізікаў XIX–XX стагоддзяў Эрнесце Рэзерфордзе ёсць і такая. Калі ён даваў свайму вучню заданне, той паспяхова яго выконваў, прыходзіў да настаўніка і пытаўся, што рабіць далей. Рэзерфорд яго выганяў. Не ведаю, ці гатовы быў паступіць падобным чынам мой навуковы кіраўнік акадэмік Ельяшэвіч, які выдатна ведаў гісторыю фізікі. Ён паставіў перад усімі супрацоўнікамі і аспірантамі задачу – засвоіць эксперыментальна рэгістрацыю сігналаў электроннага, ядзернага і ядзернага квадрупольнага рэзанансаў і ніколі болей не цікавіўся, як ідуць справы. Лічыў, відавочна, што гэта ўжо чыста нашыя праблемы. Пытанне, што рабіць далей, не ўзнікала: мы ледзь спраўляліся з тым, чаго нельга не рабіць.

У першы год аспірантуры ў адпаведнасці з непахіснымі савецкімі традыцыямі у мяне быў закладзены пэўны дэфект, ад якога я і да гэтага часу не магу пазбавіцца. Мой кіраўнік, калі даведаўся, што ва ўніверсітэце я вывучаў нямецкую мову, абавязаў мяне засвоіць англійскую, бо ўся грунтоўная навуковая перыёдыка па нашых напрамках – англамоўная. Сам ён дасканала валодаў англійскай, французскай і нямецкай мовамі. Такім быў вынік яго хатняга выхавання ў дарэвалюцыйным Санкт-Пецярбургу і Мюнхене, дзе ён нарадзіўся. Мне ж, ужо дарасламу, за дзевяць месяцаў трэба было засвоіць англійскую мову так, каб здаць іспыт на кандыдацкі мінімум. Іспыт я здаў і мову па-савецку засвоіў: даволі лоўка перакладаю навуковыя артыкулы па фізіцы. А ўспрымаю англійскую мову на слых вельмі дрэнна: мушу ўявіць, як гэта пішацца.

Навукова-тэхнічная задача, якую сфармуляваў шэф, была вельмі ёмкай, пад сілу вялікаму калектыву навукоўцаў і інжынераў з добрай вытворчай базай. Але мы зразумелі гэта пазней. Мне асабіста перад тым, як пачаць даследаванні, трэба было пабудаваць прыбор для вымярэння сігналаў электроннага спінавага рэзананса ці, як часцей тады называлі – электроннага парамагнітнага рэзананса, скарочана – ЭПР. Удалося разведаць, дзе ў Савецкім Саюзе такія спектрометры ёсць. Аказалася, што самаробны – толькі ў Маскве ў Фізічным інстытуце Акадэміі навук СССР (ФІАН) імя П.І. Лебедзева ў аддзеле прафесара А.М. Прохарава і спектрометр амерыканскай фірмы «Варыан» – у Інстытуце хімічнай фізікі АН СССР (ІХФ) у акадэміка М.М. Сямёнава.



*1957 год. Мой навуковы кіраўнік акадэмік М.А. Ельяшэвіч каля звышвысокачастотнага блока «майго» спектрометра ЭПР – першага ў Беларусі*

Я захацеў паехаць у ФІАН і ІХФ на некалькі дзён, каб разабрацца, што гэта за прылады. Супрацоўнікі аднесліся да майго жадання скептычна, сказалі, што аддзел ваганняў ФІАНа, які ўзначальвае Прохараў, сакрэтны і наведаць яго можна толькі з адмысловым допускам. А ў ІХФ трапіць яшчэ цяжэй.

Звярнуўся да Ельяшэвіча. Ён паабяцаў зайсці да начальніка першага аддзела, каб мне тэрмінова зрабілі допуск, і ўласнаручна напісаў два кароткія лісты Аляксандру Міхайлавічу Прохараву і Мікалаю Мікалаевічу Сямёнаву.

– Паедзьце разам з Патаповічам Аляксандрам Канстанцінавічам, і не на дзень-два, а тыдні на тры. Вывучыце там не толькі электронныя, але і ядзерна-рэзанансныя спектрометры.

Хутка я зразумеў, што асабісты ліст майго навуковага кіраўніка – допуск у любы аддзел любой патрэбнай для нашай працы навуковай установы СССР, і не прапускаў магчымасці гэта выкарыстоўваць. Акадэміка Ельяшэвіча – аўтара манаграфіі «Малекулярная спектраскапія» – настольнай кнігі кожнага фізіка, які мае дачыненне да спектраскапіі, сапраўды ўсе ведалі і шчыра паважалі.

Так мы з «працаголікам» Аляксандрам Патаповічам, маім цудоўным аднакурснікам, здольным працаваць многія дні і ночы запар без перапынку і стомы, трапілі амаль на месячную стажыроўку ў ФІАН АН СССР у лабараторыю Прохарава. Менавіта ў ФІАНе і ў

ІФХ мы сутыкнуліся з фізікай і фізікамі вышэйшага ўзроўню. Па пазнавальнасці наш месяц у Маскве быў варты года ў ардынарнай даследчай фізічнай лабараторыі.

Першы дзень нашага побыту ў ФІАНе супаў з днём штотыднёвага абыходу лабараторыі прафесарам Прохаравым. Заўважыў ён і нас. Падрабязна распытаў Патаповіча і мяне, з чым мы сутыкаліся ў эксперыментальных даследаваннях і якія маем намеры. Замацаваў за кожным куратара з ліку супрацоўнікаў.

Па маскоўскіх маштабах з ФІАНа да ІХФ рукой падаць, і мы не адзін раз наведалі Інстытут хімфізікі. Дырэктара – акадэміка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі 1956 года Мікалая Мікалаевіча Сямёнава – нам убачыць не ўдалося, і я перадаў ліст Ельяшэвіча аднаму з яго намеснікаў. І ў такім варыянце ліст стаў адмычкай для лабараторыі з фірмовым амерыканскім спектрометрам ЭПР.

Тады, у пачатку 1957 года, мы не здагадваліся, што і ў ФІАНе знаходзімся ў лабараторыі будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі, будучага акадэміка АН СССР, аднаго з «бацькоў» квантавай электронікі. Легенда аб тым, як Прохараў стаў акадэмікам і нобелеўскім лаўрэатам, наступная. Ён вырашыў кінуць займацца звышвысокімі частотамі – ЗВЧ і пераключыцца на лазеры (мы ж з Патаповічам у яго лабараторыі вывучалі ЗВЧ). Частка навуковага калектыву (таго самага, у якім мы стажаваліся) супрацьстаяла гэтаму. Загадчыку лабараторыі прыйшлося сапсаваць альбо паламаць прылады, якія забяспечвалі працу па старой тэматыцы. У выніку – скандал, і палова супрацоўнікаў звольнілася. Тыя, што засталіся, заняліся новай справай. Вынік – Нобелеўская прэмія за лазеры.

Мы з Аляксандрам вярнуліся ў Мінск. Зразумелі, што наступаць шырокім фронтам бессэнсўна, і пераканалі нашага шэфа сканцэнтраваць сілы на адным накірунку – электронным парамагнітным рэзанан-



*1976 год.*
*Як загадчык кафедры ганаруся, што мой былы навуковы кіраўнік акадэмік М.А. Ельяшэвіч чытае лекцыі студэнтам на «маёй» кафедры*



*1972 год. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі акадэмік Аляксандр Міхайлавіч Прахараў (у цэнтры) у лабараторыі кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Крайні справа – рэктар, прафесар А.Н. Сеўчанка, за ім прэзідэнт АН БССР акадэмік М.А. Барысевіч, дацэнт В.Л. Гурачэўскі*

се. З такім падыходам усе пагадзіліся, хаця пасля і жартам, і сур'ёзна я не раз чуў:

– Ты, Шушкевіч, і тут падмяў усіх пад сябе.

Я не апраўдваўся, бо ў статусе аспіранта «падмяць пад сябе» азначала вымусіць працаваць на маю дысертацыю, а гэтага не было і ў паміне, не была нават канчаткова вызначаная яе тэма. Мы ўсе многа працавалі, як гаворыцца, да сёмага поту, бо праца была шалёна цікавай. Браліся за складаныя задачы, імкнуліся паказаць, што здольныя іх рашаць. У лабараторыі панавалі толькі здаровае спаборніцтва і ўзаемадапамога.

Тры аспіранцкія гады праляцелі, як адно імгненне. Дысертацыю я так і не падрыхтаваў. Не да яе было. У дзень, калі я стаў аспірантам, абсталяванне двух невялікіх пакояў нашай лабараторыі складалі чатыры абшарпаныя сталы плюс пяць-шэсць не менш пашарпаных табурэтак. Супрацоўнікаў і аспірантаў, акрамя шэфа, таксама было чацвёра. Праз тры гады ў адабраным у гаспадарчых службаў складзе, у які яны ў свой час ператварылі чацвёртую частку вестыбюля галоўнага будынку акадэміі, – былі змантаваныя два пяцітонныя магніты, выробленыя адмыслова для нас ленінградскай «Электрасілай», уласнай канструкцыі і намі ж зробленыя электронныя стабілізатары тока гэтых гігантаў. Тут жа гетэрадзінны спектрометр ЭПР, мноства электронных прыбораў і прыладаў, якія забяспечвалі правядзенне фізічных даследаванняў. Карацей: нядрэнна абсталяваная фізічная лабараторыя, высокапрафесійны калектыў даследчыкаў.

Другі бок медаля – аспіранцкая стыпендыя 620 рублёў у месяц. Для навучэнца, які жадае атрымаць адукацыю, гэта цярпіма. А заробак

малодшага навуковага супрацоўніка пасля заканчэння аспірантуры – 820 рублёў, гэта слабавата. У маіх, значна менш паспяховых, аднакласнікаў заробак ужо па 1200, 1300 і нават 1400 рублёў, і прагрэсіўка ў многіх ёсць, і прэміяльныя. На заводах мае аднагодкі праз чатыры-пяць гадоў і кватэры атрымаюць, а ў Акадэміі навук без навуковай ступені з гэтым наогул беспрасветна. І хаця размеркаваўся я ў той жа інстытут, дзе быў аспірантам, а ён у гэты час аддзяліўся ад матэматыкаў і стаў Інстытутам фізікі, пасада малодшага навуковага супрацоўніка прыносіла 820 рублёў у месяц і толькі! І стала мне сумна. Малодшы навуковы – не аспірант. У рабочы час трэба быць на рабочым месцы. Мой рэальны даход скараціўся. Немагчыма падзарабіць ні ў ВНУ, ні нават у школе.

У гэты змрочны час прыходзіць да мяне Якаў Аронавіч Сляпян, у якога я праходзіў студэнцкую практыку ў цэнтральнай лабараторыі радыёзавода, якую ён узначальваў. Расказвае аб тым, што на радыёзаводзе створанае спецыяльнае канструктарска-тэхналагічнае бюро (СКТБ) – для распрацоўкі вымяральных прыбораў і прыбораў для навуковых даследаванняў. Ад імя кіраўніка СКТБ запрашае на працу, прапаноўвае аклад у два разы большы за мой, плюс прагрэсіўка 40%. Запэўнівае, што з маім характарам я без прагрэсіўкі не застануся.

– Што будзе распрацоўвацца ў вас у першую чаргу? – пытаюся я.

– Тое, што патрэбна ва ўсіх фізічных лабараторыях і што не лепшым чынам збіраюць у іх радыёаматары, – высокаадчувальны селектыўны ўзмацняльнік нізкіх частотаў, сінхронны дэтэктар. Вы і самі не раз гэтым займаліся. Планавы тэрмін распрацоўкі – год, калі з вашымі напрацоўкамі здаць датэрмінова, можна атрымаць міністэрскую прэмію.

Іншымі словамі, мне прапанавалі заняцца тым, што мне падабаецца, але за заробак амаль утрая большы. Я спакусіўся і пасля трох месяцаў на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка з акладам 820 рублёў стаў старэйшым інжынерам з акладам 1600 рублёў плюс 640 рублёў прагрэсіўкі, калі план паспяхова выконваўся.

## СКТБ радыёзавода

Гісторыя Мінскага радыёзавода, які насіў тады імя 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, а пасля стаў галоўнай часткай аб'яднання «Гарызонт», звязаная з маёй роднай Сляпянскай вуліцай. У будынкі лесапілкі паміж вуліцамі Савецкай, Бондараўскай (цяпер – Гікалы) і Сляпянскай у 1939 годзе перавезлі абсталяванне радыёзавода з Вільні, захопленай Чырвонай арміяй. Уваход у адміністратыўны корпус на першым паверсе быў якраз з вуліцы Сляпянскай. Цяжка адназначна сцвярджаць, на якіх умовах і чаму з той жа Вільні ў Мінск пераехалі працаваць на новым прадпрыемстве спецыялісты

па радыётэхніцы, пераважна габрэі. Так утварыўся Мінскі радыёзавод імя Молатава, дзе выраблялiся якасныя па савецкіх мерках радыёпрыймачы.

Пасля вайны завод даволі хутка аднавілі, бо яго не крануў у вайну пажар. Вярнуліся і некаторыя супрацоўнікі. Завод удасканальваўся і пачаў выпускаць прылады ваеннага прызначэння. Па негалоснай савецкай традыцыі на прадпрыемствах, дзе робіцца нешта для абаронных мэтаў, не дазвалялася высокая канцэнтрацыя габрэяў. Таму амаль усіх іх перавялі ў філію завода на вуліцы Чырвонай, якая хутка стала радыёзаводам з даволі прыстойнай рэпутацыяй, бо там выпускаліся добрай якасці (ізноў жа, па савецкіх мерках) прыймачы, радыёлы і тэлевізары. Стары радыёзавод пазбавіўся імя Молатава, стаў галоўным прадпрыемствам аб'яднання імя Леніна і пачаў выпускаць радыёвымяральную апаратуру і радыёэлектронныя прыборы, у тым ліку для ваенных мэтаў.

У СКТБ будучага «Гарызонта» сканцэнтравалася радыётэхнічная эліта прадпрыемства. Начальнік СКТБ – Веніямін Натанавіч Пумпянскі – атрымаў вышэйшую адукацыю ў Бардо. Само па сабе зразумела, што ён свабодна валодаў французскай мовай. Думаю, што і англійскую ведаў, бо некалькі разоў раіў мне паглядзець артыкулы ў амерыканскіх часопісах па тэматыцы, якой я займаўся.

Поўнай нечаканасцю для мяне стала тое, што навучыцца новаму ў СКТБ я змог, пераважна, у ветэранаў-самавукаў, якія фармальна не мелі не толькі вышэйшай, а часам і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Некаторыя з іх з непрыхаванай зняважай ставіліся да інжынераў – выпускнікоў радыётэхнічных ВНУ РСФСР і УССР, а таксама і да выпускнікоў майго роднага фізфака БДУ, бо лепей за іх ведалі, што і як трэба рабіць. Спачатку яны і да мяне аднесліся падобным чынам, а іх неафіцыйны лідэр Ізя Каплан мімаходам заўважыў, што ён ужо зрабіў макет прыбора, на распрацоўку якога ўзялі на працу і мяне.

Ізя быў чалавекам аўтарытэтным і сур'ёзным. На дзесяць гадоў за мяне старэйшы, удзельнік вайны з некалькімі вайсковымі ўзнагародамі, аўтар мноства вынаходніцтваў і рацыяналізатарскіх прапаноў, якія былі выкарыстаныя ў вытворчасці. Словаў на вецер ён не кідаў, таму я папрасіў у яго схему макета і літаральна праз некалькі гадзін праверыў яго характарыстыкі. Яны былі нядрэннымі і, што грэх утойваць, лепшымі за тыя, якіх мы дасягалі ў акадэмічнай лабараторыі. Ізя, праўда, меў лепшыя, чым мы, дэталі для камплектавання, але гэта не абясцэньвала вынікаў яго распрацоўкі, ды і схематэхнічнае рашэнне было ў яго іншае.

Я цэлую ноч прасядзеў над няхітрай схемай макета. Як бы пабудаваў яе тэарэтычную мадэль. Атрымоўвалася, што параметры макета можна значна палепшыць. Раніцою ў нас з Капланам адбылася прыкладна такая размова.



*1960 год.*
*На першамайскай дэманстрацыі падчас працы на радыёзаводзе*

– Ізя, дазволь мне тое-сёе перапаяць у тваім макеце, і ты ўбачыш, што характарыстыкі яго палепшацца.

– Усе разумнікі з вышэйшай адукацыяй, якія сядзяць з табой у пакоі, ужо спрабавалі гэта зрабіць. Не атрымалася.

– Але ў мяне акрамя вышэйшай яшчэ і аспірантура за плячыма.

– Насмяшыў. Добра, паспрабуй.

Вячэрняя прамова майго ранішняга суразмоўцы ўжо не ўтрымлівала пякучай іроніі і насіла чыста дабразычлівы характар:

– Ты, Станіслаў, першы знаёмы мне чалавек, які з дапамогаю аўтаручкі і кручкоў змог палепшыць схемнае рашэнне.

Прызнанне Капланам азначала прызнанне ветэранамі завода, а значыць, і астатнімі супрацоўнікамі. А што да кіраўніцтва СКТБ і іншага начальства, то яно да мяне адразу аднеслася станоўча. Аднак жа мая праца на радыёзаводзе зрабіла мяне вядомым не толькі ў СССР, але і за мяжою, па прычыне, якая не мела ніякага дачынення да радыётэхнікі, электронікі і наогул да маіх службовых абавязкаў.

## Мой і Сашын вучань – амерыканец Лі Харві Освальд

Чаго толькі ні напісалі пра мяне аматары сенсацый! Найбольш распаўсюджаная легенда, якую і сёння сёй-той узгадвае: *Шушкевіч – сексот. Па заданні КДБ ён пакінуў працу ў Акадэміі навук, дзе ўжо настукаў на ўсіх, на каго трэба. Яго спецыяльна ўладкавалі на радыёзавод, каб зрабіць з амерыканскага ўцекача-дэзерціра агента КДБ, які гатовы да выканання любога задання савецкіх спецслужбаў.*

Насамрэч падзеі развіваліся так. Падыходзіць да майго рабочага месца сакратар парткама эксперыментальнага цэха Лібезін. Запэўнівае, што не мае да мяне прэтэнзій за тое, што я адмовіўся даваць заключэнні на дзве рацыяналізатарскія прапановы рабочых эксперыментальнага

цэха, хоць раней за гэта сварыўся. А адмовіўся я што-небудзь пісаць таму, што «рацыяналізатары» ўвогуле не разумелі прынцыпа дзеяння схемаў, якія прапанавалі ўдасканаліць. Таму я і сказаў, што магу напісаць: «прапанавана – глупства». А гэта – прыніжэнне гегемона – рабочага класа, таму звярніцеся за рэцэнзіяй да каго-небудзь іншага.

– У мяне да вас зусім іншая справа, – працягваў Лібезін, – разглядайце яе як партыйнае даручэнне беспартыйнаму, як вашу грамадскую працу. Да вас усе ходзяць разбірацца з артыкуламі на англійскай мове, бо вы лепей за іншых яе ведаеце. Раз так, то падвучыце, калі ласка, рускай мове амерыканца, які працуе ў нашым цэху. Ён і сам мову крыху ведае, але трэба, каб ведаў лепей.

Унутрана я адразу ж пагадзіўся з прапановай. Для прыстойнасці выказаў пэўныя засцярогі. Маўляў, з сапраўднымі амерыканцамі ніколі не сустракаўся, ды і з англійскай мовай у мяне тугавата. Сакратар парткама мяне супакоіў.

– Усё калісьці бывае ўпершыню, а з мовай вам дапаможа Аляксандр Рубенчык. Вы яго яшчэ па ўніверсітэце ведаеце, добры працаўнік, ён таксама для іншых з англійскай перакладае. Утрох, так сказаць, усё адолееце...

Што я магу сказаць дакладна пра «майго вучня» Лі Харві Освальда? Нічога, акрамя таго, што ён не мой, а наш з Аляксандрам вучань, бо нам настойліва параіў Лібезін заўсёды быць разам. Было таксама катэгарычна забаронена пытацца, хто ён, адкуль, дзе жыў, як трапіў у Мінск. Тэмы заняткаў таксама не пабуджалі гаварыць адкрыта: надвор'е, горад, краіна, кірмаш, тэатр, кіно і г.д. Дзесятак не зусім маўклівых сустрэчаў стварае аб чалавеку пэўнае ўражанне. Больш за тое, я ледзь-ледзь ведаў яго і па цэху, дзе ён лічыўся слесарам. Баяўся, каб яго куратар – сапраўдны слесар-прафесіянал, як і большасць рабочых эксперыментальнага цэха, – не даручыў яму рабіць дэталі па маім заказе. Сапсуе.

Дык вось, усё гэта ўзятае разам не дазваляе мне паверыць выраку камісіі на чале са старшынёй Вярхоўнага суда ЗША Эрлам Уорэнам. Яна на працягу дзесяці месяцаў даследавала злачынства і прыйшла да высновы, што адзіночка Лі Харві Освальд стрэлам з вінтоўкі смяротна раніў 22 лістапада 1963 года прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Джона Кэнэдзі, калі той разам са сваёй жонкай Жаклін ехаў у картэжы па Элм-Стрыт у Даласе.

Я не адзінокі. Больш за 70% амерыканцаў не вераць у афіцыйную версію забойства. Маё перакананне ўзмацнілася пасля наведвання Даласа ў 2008 годзе. Так сталася, што ў мяне знайшліся два вольныя дні падчас побыту ў Канзасе ў Беларускім адукацыйным цэнтры ў Вінфілдзе, і мы з жонкай вырашылі здзейсніць аўтапрабег Вінфілд–Аклахома–Далас. За рулём змянялі адзін аднаго, таму дарога не заняла шмат часу.

Месца злачынства і музеі Даласа, у тым ліку музей «Шосты паверх», дзе растлумачана, як быў здзейснены смяротны стрэл, наведвае шмат турыстаў. Мы не сустрэлі сярод іх тых, хто б верыў у праўдзівасць версіі Эрла Уорэна.

## Вяртанне ў альма-матэр

Аб больш захапляльнай працы, чым у СКТБ радыёзавода, здавалася, нельга і марыць. Ды і калектыў супрацоўнікаў цудоўны. Разумная арганізацыя працы: мы ў лабараторыі распрацоўваем макет прыбора, нашаму макету канструктары надаюць належны выгляд на паперы, эксперыментальны цэх робіць узорны экземпляр прыбора. У лабараторыі ён наладжваецца, удакладняецца схема, і – на Дзяржкамісію і выпрабаванне.

Але фізікі нездарма сфармулявалі *«тэарэтычную мэрфалогію»*, на якую час ад часу прыходзіцца спасылацца. Закон Мэрфі – ***«калі нейкая недарэчнасць можа адбыцца, яна здарaецца»*** – мае шэраг наступстваў. Адно з іх: ***«калі справы ідуць добра, то нешта павінна адбыцца ў самай блізкай будучыні»***.

Справы ішлі добра. Мы здалі дзяржкамісіі нізкачастотны селектыўны ўзмацняльнік і сінхронны дэтэктар, былі патрэбныя літаральна ўсім, хто займаецца аптычнай спектраскапіяй і радыёспектраскапіяй. Прыступілі да выпуску невялікай партыі такіх прыбораў на нашым радыёзаводзе і перадачы іх вытворчасці на завод у Мураме.

Я быў упэўнены, што кіраўніцтва нашага завода зробіць заяўку на распрацоўку новай апаратуры для навуковых даследаванняў. Саюзнае міністэрства падштурхоўвала на такі крок. Але, кіруючыся сваім досведам, кіраўніцтва завода не хацела рызыкаваць і весці новыя распрацоўкі. Спакайней было суправаджаць вытворчасць даўняй прадукцыі і паляпшаць пакрысе яе характарыстыкі.

Мяне мучыла пытанне:

– Чаму завод з такім імпэтам дамагаўся атрымання сур'ёзных распрацовак раней, і чаму цяпер робіць усё, каб такіх заказаў не атрымаць?

Ізя Каплан шчыра здзівіўся, што я яшчэ не зразумеў «мудрасці» кіраўнікоў завода:

– Два гады таму яны схапіліся за новыя распрацоўкі, каб адкрыць новае структурнае падраздзяленне – СКТБ, атрымаць штаты, фонды, грошы на будаўніцтва. А цяпер – чым прасцей, тым лепей. Ты, Станіслаў, як я бачу, зусім нічога ў такіх справах не цяміш. Ты думаў, што мы ўвесь час будзем распрацоўшчыкамі новых прыбораў? Усё новае начальству да лямпачкі, ім абы не рызыкаваць.

Пасля гэтых словаў Ізі Каплана захацелася ўпасці ў адчай і беспрасветны смутак, але я не паспеў гэта зрабіць.

*А.Н. Пісарэўскі*



Мне патэлефанаваў Аляксандр Мікалаевіч Пісарэўскі, сказаў, што пераехаў у Мінск з Ленінграда, працуе ва ўніверсітэце і хацеў бы са мной сустрэцца. Пасля працы я заехаў да яго. Даведаўся, што ён запрошаны стварыць на фізічным факультэце кафедру ядзернай фізікі. Пачуў ад яго некалькі ўхвальных словаў на свой адрас. Зразумеў, што нехта з маіх знаёмых яму пра мяне расказаў, і раптам:

– А наогул, вы займаецеся глупствам. Ваша электроніка – учарашні дзень. Трэба ў любых справах пераходзіць на лічбавую.

Мне такі паварот справы, ды і сам Пісарэўскі, не спадабаліся, і я паспрабаваў яму пярэчыць.

– Паважаны Аляксандр Мікалаевіч, я таксама чытаю навуковыя і папулярныя часопісы і ведаю, што ў лічбавай электронікі цудоўная будучыня. Больш за тое, пяць гадоў таму нават у маёй курсавой былі лічбавыя элементы, мы і цяпер на заводзе іх не цураемся. Ведаю сутнасць працы тых, хто стварае ЭВМ «Луч» у Інстытуце фізікі, знаёмы з праблемамі, якія яны вырашаюць.

– А «Луч» яшчэ не выкінулі на сметнік? Я гавару пра іншую лічбавую, пра тую, якая з'яўляецца падмуркам ядзернай электронікі, пра самую высокахуткасную. За ёю – будучыня. Карацей: я прапаную вам заняцца сапраўднай справай і паклапачуся, каб вы зараблялі прыкладна столькі, колькі маеце ў СКТБ.

## Кафедра ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі

З чаго пачынаецца кафедра?

Грамадзяне, якія ў часы СССР сталі дарослымі, не маглі не засвоіць, што тэатр пачынаецца з вешалкі. Аб гэтым метадычна нагадвалі па радыё і тэлебачанні ўсе выступоўцы, якія прылічалі сябе да людзей творчых прафесій. Хоць з іх мала хто ведаў, дзе, калі і ў якім кантэксце аб

тэатральнай вешалцы выказаўся Канстанцін Сяргеевіч Станіслаўскі. А ўжо пра тое, што ён наогул не Станіслаўскі, а Аляксееў, і што галоўнае, зробленае ім для рускай сцэны, – не клопат аб вешалцы, а зацверджанне прынцыпаў рэжысёрскага тэатру, наўрад ці хто з наіўных тэлегледачоў здагадваўся.

У адрозненне ад тэатра кафедра пачынаецца з назвы.

Поўная назва кафедры, супрацоўнікам якой я стаў, вынесеная ў загаловак гэтага раздзела. Няцяжка зразумець, што пад гэтай назвай можа знаходзіцца ўніверсітэцкая структура шырокага профілю. Такога падыходу цярпець не могуць спецыялісты вузкага профілю, дзейнасць якіх накіраваная на глыбокае спазнанне пэўнай канкрэтнай навукі. Яны ведаюць літаральна ўсё ў вельмі вузкай галіне. Такіх вельмі трапна схарактарызаваў Бернард Шоў: *«Ведаюць усё аб нічым»*. Ён жа выказаўся і наконт прыхільнікаў альтэрнатыўнага захаплення: *«Ведаюць нічога аб усім»*.

Пры такой назве кафедры, якую прыдумаў А.М. Пісарэўскі, можна было апраўдаць многія віды дзейнасці і накірункі даследаванняў. Асабліва калі ўлічыць, што ўсе без вынятку віды энергіі на нашай планеце маюць ядзернае паходжанне: ад Сонца, якое разаграваецца тэрмаядзернай рэакцыяй, ад радыеактыўнага выпраменьвання Сусвету і ўнутранага разагрэву радыеактыўнасцю самой планеты Зямля.

Першае сфармуляванае загадчыкам кафедры заданне я мог бы выканаць сёння за некалькі гадзінаў з дапамогай сціплага персанальнага кампутара і ардынарнага стандартнага аналага-кодавага пераўтваральніка. Але тады... Я доўга шукаў даступнае параўнанне растлумачыць магчымасці электронных прыладаў пачатку 1960-х і пачатку 2010-х гадоў. Не прыдумаў нічога лепшага за наступнае.

Мы мелі тэхналогіі часоў Калумба. Пісарэўскі ж патрабаваў пабудаваць карабель, які пераадольвае акіян не за некалькі месяцаў, а за некалькі дзён. Наша першая электронная прылада была амаль поўнай копіяй тае, што распрацавалі ў 1961 годзе ў Ленінградскім электратэхнічным інстытуце імя Ульянава-Леніна (ЛЭТІ) пад кіраўніцтвам Валерыяна Арэставіча Вяземскага (дарэчы, апошняга з нашчадкаў вядомага расійскага шляхецкага роду Вяземскіх, які загінуў у авіякатастрофе пад Мінскам). Амплітудны шматканальны аналізатар (АМА) утрымліваў 160 электронных лямпаў, электронную памяць на патэнцыяласкопе – электралямпе памерам з пяцілітровы слоік, манітор – таксама электронную лямпу, крыху меншую за папярэднюю, і самапісец масай 12 кілаграмаў. Важыў АМА больш за 150 кілаграмаў, але мы ім вельмі ганарыліся, бо ўнеслі ў распрацоўку ЛЭТІ даволі многа ўдасканаленняў, і сам В.А. Вяземскі гэта прызнаў.

Пазней непасрэдна на кафедры было распрацавана мноства прыбораў і прыладаў, у аснову якіх быў пакладзены просты прынцып. На падразглядны аб'ект накіроўваецца выпраменьванне з да-



*1975 год. Выкладчыкі фізікі і радыёэлектронікі ВНУ СССР у лабараторыі кафедры ядзернай фізікі*

кладна вызначанымі характарыстыкамі. Водгук на такое ўздзеянне рэгістраваўся дэтэктарамі, сігналы якіх апрацоўвалі нашы электронныя прылады.

У нас была адчувальная перавага перад астатнімі. У той час мы стварылі сумесна з навукоўцамі і інжынерамі маскоўскага Інстытута прыкладной фізікі (ІПФ) самыя адчувальныя ў свеце прыймачы светлавога выпраменьвання – лічылі асобныя кванты!

Калі ў амерыканскім навуковым часопісе Review of Scientific Instruments з'явіўся першы ў замежным друку артыкул, прысвечаны падліку асобных квантаў (фатонаў), то пад яго загалоўкам была рэмарка: «Калі дадзены артыкул ужо быў накіраваны ў друк, аўтары знайшлі ў часопісе *«Приборы и техника эксперимента»* публікацыю, у якой рэалізаваны такі ж метад». Вось так адбылося афіцыйнае прызнанне нашага першынства.

Кафедра заняла прэстыжнае месца ў справаздачах універсітэта па, як гэта тады гаварылася, укараненні навуковых даследаванняў у вытворчасць, расла па колькасці супрацоўнікаў, бо мела мноства заказчыкаў даследаванняў па гаспадарчых дамовах. Заказчыкаў, па савецкіх мерках багатых, асобныя з якіх дзеля тэрміновай рапрацоўкі іх замоваў, перадавалі ўніверсітэту фонды, у тым ліку і фонды заработнай платы. Такая працэдура застаецца сёння абсалютна незразумелай, а ў той час яна дазваляла не толькі набыць пэўнае абсталяванне, але і павялічыць штат супрацоўнікаў.

Навуковы і педагагічны патэнцыял кафедры і абсталяванне яе лабараторый служылі падставай для працы супрацоўнікаў кафедры на факультэце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў ВНУ СССР пры БДУ (ФПК). На ФПК навучаліся такія ж выкладчыкі фізікі ўніверсітэтаў Савецкага Саюза, як і мы; і не было выпадку, каб нехта з іх сказаў, што ў нас мала чаму можна было навучыцца.

## Кандыдацкая, яе харкаўскі і сібірскі трыумф

У пачатку 1963 года загадчык кафедры паклікаў мяне і пачаў размову ў толькі яму ўласцівай манеры:

– Вашая справаздача па дамове з ВЧ (назваў нумар вайсковай часткі) цягне на доктарскую, а вы і кандыдацкую не зрабілі. Настаў час пытанне закрыць. Паколькі справа сакрэтная, пісаць прыйдзецца ў першым аддзеле. Думаю, што з вашым імпэтам двух тыдняў вам хопіць.

– Аляксандр Мікалаевіч, вы ж ведаеце, я цаню ваш гумар, а часам і пераймаю яго у вас. Месяцы два мне трэба...

– Сыдземся на адным, і кропка! Трэба ж і сапраўдныя справы не запускаць.

Так і дамовіліся. За месяц я напісаў, а яшчэ праз два месяцы абараніў кандыдацкую дысертацыю па фізіка-матэматычных навуках. Пасля гэтага Пісарэўскі практычна штодзень нагадваў, што ў мяне хапае матэрыялу на доктарскую і што я абавязаны яе пісаць. Я не спрачаўся і рабіў такія-сякія нататкі.

Мая кандыдацкая даўно перастала быць таямніцай, таму няма прычынаў утойваць яе тэму. Яна гучала так, як і заказаная нам па дамове праца: *«Фізічныя прынцыпы выяўлення выведвальных прыймачоў»*. Сам метад хоць і дазваляе выявіць прыймач у выключаным стане, але не такі ўжо хітры. Як і ва ўсіх нашых прыладах ядзернай электронікі, якія мы распрацоўвалі, пасылаецца сігнал-зонд, рэгіструецца і аўтаматычна аналізуецца водгук на яго. У маім выпадку зондам служыў радыёчастотны сігнал у дыяпазоне, у якім прыймач працуе.

Амаль усе нашы распрацоўкі былі вынікам калектыўных намаганняў, калі хочаце, калектыўнага мазгавога штурму, які нагадваў тэлевізійную гульню «Што, дзе, калі?», толькі пытанні прыдумвалі не разумнікі, а ставілі заказчыкі. Лёс працы з выяўленнем прыймачоў – іншы, гэта выпадак, калі менавіта ў мяне маланкай мільганула думка вечарам перад сном, і я раніцай бег у лабараторыю, каб як хутчэй праверыць уласную ідэю на практыцы. Аказалася, я дарэмна спяшаўся, баючыся, што нехта іншы мяне апярэдзіць. Тое, што на паверхні, нярэдка не заўважаюць. Лёс маёй знаходкі 1962 года – таму пацверджанне. Амерыканцы заявілі аб эфектыўнасці новага (для іх!) прынцыпа выяўлення радыёпрыладаў у часопісе Electronics толькі ў 1974 годзе.

У 1980 годзе я прыехаў у Харкаў – у вельмі прыстойную даследчую ўстанову да вельмі паважанага мною акадэміка. Знарок не ўзгадваю ні ўстанову, ні прозвішча навукоўца, бо баюся, што мае ўспаміны аб ім могуць быць вырваныя з кантэкста і непаважліва ў адносінах да яго патлумачаныя. А ён для мяне быў і застаецца бездакорным аўтарытэтам. Яго паводзіны мяне збянтэжылі.

– Вы чаго да мяне прыехалі, па водгук?

– Калі вы палічыце магчымым яго мне даць,

– Як я магу даць водгук нягодніку?

Тут акадэмік зрабіў паўзу і глядзіць на мяне з хітраватай усмешкай і, як мне здалося, дружалюбна. Значыць, жартуе. А раптам не? Маўчу. А ён працягвае.

– Так, так! Гэта першы і пакуль адзіны выпадак у маім жыцці, калі я прызнаю сваю навукова-тэхнічную паразу. Усё ж і ад сакрэтнасці бывае карысць. Добра, што мы не заявілі пра гэта на старонках навуковых часопісаў. А што да кадэбэшнікаў, то сакрэты яны ніколі нікому не выдаюць.

Менавіта пасля гэтых словаў я зразумеў, што акадэмік ведае маю 17-гадовай даўнасці працу. А ён дадаў:

– Водгук я вам, вядома ж, дам і зраблю гэта з задавальненнем.

Але гэта не апошняя карпаратыўная рэакцыя на маю знаходку 1962 года.

У 1997 годзе тэлефануе мне рэктар Томскага ўніверсітэта сістэмаў кіравання і рэгулявання (ТУСКР), прафесар Іван Мікалаевіч Пустынскі. Мы з ім здаўна супрацоўнічалі, зрабілі нямала сумесных працаў, даўно на «ты».

– Станіслаў, я паслаў табе запрашэнне на святкаванне 50-годдзя вышэйшай радыётэхнічнай установы адукацыі ў Сібіры. Білеты на самалёт да нас і назад табе таксама адправілі. Ты наш жаданы госць хоць бы таму, што мы да гэтага часу выкарыстоўваем твой падручнік, плюс тут некалькі кандыдатаў навук «тваёй гадоўлі». Але не гэта галоўнае. Будзеш прыемна здзіўлены. Я дамовіўся аб тваім візіце на завод, які да гэтага часу кляпае тваю распрацоўку.

Я і думаць не думаў, што нехта ў 1997 годзе можа «кляпаць маю распрацоўку», бо з 1991 года перастаў прафесійна займацца і фізікай, і радыёэлектронікай. Але аказалася, што сапраўды прадукуюць на заводзе, прычым не прыбор канца 1980-х, а распрацоўку пачатку 1960-х! На томскім заводзе я ўбачыў сімпатычны прыбор – канструктарскае ўвасабленне майго макета, які я дэталёва апісаў у справаздачы 1962 года, што стала папярэдніцай маёй кандыдацкай дысертацыі. Даведаўся: прыбор даўно выкарыстоўваецца вайскоўцамі.

Лепшага моманту «ўспомніць маладосць», пацвердзіць, што ёсць яшчэ порах у парахаўніцах і я яшчэ не зусім перастаў арыентавацца ў радыёэлектроніцы, прыдумаць было нельга. Фактычна, тут жа ў за-



*1997 год, Томск. З рэктарам ТУСКР прафесарам І.М. Пустынскім*

водскай вымяральнай лабараторыі я выступіў перад прафесіяналамі, з якімі ўдалося на дзіва добра паразумецца.

– Дарагія мае! Савецкая сакрэтнасць не заўжды ішла на карысць справе. Гады праз тры пасля маёй справаздачы, копія якой тут у вас выкарыстоўваецца, я ў час працы над сваёй доктарскай дысертацыяй прапанаваў іншы спосаб выяўлення прыймачоў. Ён разоў у 30-40 больш эфектыўны за той, на якім базуецца прыбор, што вырабляецца на вашым заводзе. Калі ў вас ёсць жаданне і цярпенне, то я магу за 10-15 хвілінаў давесці да вас яго сутнасць...

Знайшліся і жаданне, і цярпенне. У сутнасці метада разабраліся мы даволі хутка. Пасля кінулі некалькі папрокаў на адрас сакрэтчыкаў, якія ўтойвалі звесткі ад тых, каму аб іх абавязкова належала паведаміць. Выказалі сумнеў у тым, што нешта змянілася ў лепшы бок у цяпер ужо незалежных Расіі і Беларусі.

Ледзь я паспеў адказаць на пытанні, як мяне папрасілі зайсці ў дырэкцыю да гарадскога тэлефона. Званіў рэктар – прафесар Пустынскі.

– Каля прахадной цябе чакае аўтамабіль акадэміка Месяца – шэфа Інстытута фізікі атмасферы. Ён хоча паказаць табе інстытут. Скажу шчыра, мала хто атрымаў такое ганаровае запрашэнне. Трапіць у гэты інстытут наогул вельмі складана.

– Дзякуй, я вельмі цешуся, тое-сёе пра Генадзя Андрэевіча ведаю, але баюся, што мала. Не апынуцца б у няёмкім становішчы.

– Не бойся, ён мужык сапраўдны, сам убачыш. У 70-я гады ён быў прафесарам нашай ВНУ – ТУСКРа.

## Ахілесавая пята сібірскага акадэміка

Не знаходжу сіноніма да слова «легендарны».

Лічу, што мне сапраўды быў аказаны вялікі гонар: каля ўваходу ў Інстытут фізікі атмасферы (ІФА) мяне сустрэў ***легендарны*** акадэмік.

Генадзь Андрэевіч Месяц. Гэтае імя было вядомае кожнаму ў СССР, хто наўпрост або ўскосна сутыкнуўся з нанасекунднай імпульснай тэхнікай, хоць большасць працаў акадэміка мела сакрэтны характар. Адразу ж пры сустрэчы я паспрабаваў сказаць некалькі ветлівых словаў, паказаць, што знаёмы з дасягненнямі акадэміка, але фактычна спатыкнуўся.

– Генадзь Андрэевіч, дзякуй. Для мяне вялікі гонар быць запрошаным у ІФА яго стваральнікам і дырэктарам.

– Я ўжо не дырэктар, а ганаровы дырэктар. Па няцотных, ды і па цотных днях яго ўзначальвае адзін з маіх вучняў.

Наступным, няправільна ўспрынятым мною фактарам быў узрост акадэміка. Я чамусьці думаў, што ён за мяне старэйшы: худы, высокі, статны, абсалютна сівы і такі знакаміты. Высветлілася – маладзейшы за мяне на год і два месяцы. А якая няпростая біяграфія! Сын рэпрэсаванага. Маці пасля арышту бацькі выселеная з дому і вымушаная з малымі дзецьмі і свекрывёю шукаць прытулак у сваякоў. Школу закончыў з медалём, паступіў на радыётэхнічны факультэт Томскага політэхнічнага інстытута, аднак, вучыцца не змог: факультэт быў рэжымным. З адзнакай закончыў там жа энергетычны факультэт. У 30 гадоў атрымаў вучоную ступень доктара навук... А далей – найактыўнейшы ініцыятар і ўдзельнік стварэння навукова-даследчых цэнтраў у Сібіры і на Урале. Сярод яго вучняў – каля 40 дактароў навук, вядомыя акадэмікі і члены-карэспандэнты Расійскай Акадэміі навук.

І вось гэты легендарны акадэмік запрашае мяне прайсці да яго ў кабінет, а з кабінета – у пакойчык адпачынку. Там стаяў невялічкі столік, накрыты белай сурвэткай. Каля яго – два ўтульныя крэслы.

– Вы, я ведаю, без абеда, давайце перакусім.

Я падзякаваў за запрашэнне, сказаў, што можна абысціся і без пачастунку, што мне карціць глянуць на Інстытут. Генадзь Андрэевіч тым часам сервіраваў столік. Паставіў на яго з лядоўні імгненна запацелую пляшку лепшай гарэлкі тых часоў – «Сталічную», сталовыя прыборы, ёмкую пасудзіну з чырвонай ікрой, хлебніцу, масленіцу, салатніцу з гароднінай.

– Мая Ніна Андрэеўна (жонка) клапоціцца, каб у мяне ў лядоўні нешта было. Самі разумееце, не віно ж піць у трыццаціградусны мароз, а сёння каля гэтага.

Па-гаспадарску наліў у фужэры гарэлку, аднолькава абодвум.

Вядомыя мне акадэмікі такімі дозамі не пілі, і я чакаў стандартнага: прыгубіць і вельмі далікатна заўважыць:

– Шкада, што і вы толькі прыгубілі.

Тым болей, Томск – горад, дзе 17 гадоў кіраваў сакратар абкама Ягор Кузьміч Лігачоў – ініцыятар пачатай 7 траўня 1985 года безалкагольнай кампаніі ў СССР. Але Генадзь Андрэевіч спакойна выпіў да дна, па маёй прыкідцы – грамаў так 120-130. Сказаць пасля гэтага, што

я – непітушчы, не выпадала. Я таксама выпіў да дна, і мы грунтоўна закусілі. Пасля наступнага налівання пустая пляшка была пастаўленая на падлогу. Працэдура паўтарылася. Гасцінны гаспадар дастаў з лядоўні другую пляшку.

– Паважаны Генадзь Андрэевіч, ці не лішняе гэта для мяне – непрафесіянала ў такой справе?

– Па трэцяй – добрая руская традыцыя, тут у Сібіры – абавязковы мінімум.

Спадзяюся, што калі вы прачыталі назву гэтага раздзела, не падумалі, што ахілесавая пята акадэміка – выпіўка. Было абсалютна зразумела, як кажуць, у яго – ні ў адным воку. Я ж, як ні стараўся трымацца цвярозым, адчуваў, што пакрыўся юнацкім румянкам. Усё ж пацікавіўся, калі ж можна будзе паглядзець Інстытут?

– А навошта? Вы ж не дылетант. Убачыце лідары і шафы з электронікай. Лепей скарыстаць той малы час, які мы маем, і прадоўжыць пачатую размову тут. Ніхто не ўвойдзе і не перашкодзіць.

Я сустракаўся з некалькімі вучонымі суразмернага рангу, але так проста «па-сібірску» – ні з кім. Падчас размовы даведаўся аб цікавых дэталях расійскай постсавецкай навукі, аб ад'ездзе многіх навукоўцаў працаваць за мяжу. Сын акадэміка Вадзім, хоць і фізік, але больш вядомы як паэт і пісьменнік, таксама пераехаў у ЗША, унучка – у Новую Зеландыю.

Была, аднак, маленькая зачэпка, якая часткова магла растлумачыць цікавасць Генадзя Месяца да мяне, па вялікім рахунку несуразмернага па навуковых дасягненнях з ім, да таго ж, на той час – ужо былога навукоўца-фізіка.

У 1989 годзе ён жыў і працаваў у Свярдлоўску. КПСС губляла тады свой прэстыж і ўладу. Для падтрымкі сваёй рэпутацыі партыя выстаўляла аўтарытэтных прафесіяналаў у дэпутаты. Па ініцыятыве партыйных органаў акадэмік Генадзь Андрэевіч Месяц быў вылучаны кандыдатам у народныя дэпутаты СССР. Здавалася, ні ў каго не было шанцаў перамагчы на выбарах гэтага найвядомейшага вучонага і арганізатара навукі, уганараванага многімі самымі прэстыжнымі ўзнагародамі і прэміямі. Але аб вартаснай перадвыбарчай кампаніі акадэміка ніхто не паклапаціўся. Сапраўдны вучоны не дазволіў сабе быць папулістам і прайграў выбары. Народным дэпутатам СССР ад Свярдлоўскай нацыянальна-тэрытарыяльнай акругі абралі апазіцыйнага суддзю Леаніда Сяргеевіча Кудрына.

У канцы мінулага і ў пачатку новага тысячагоддзя мне было прыемна бачыць і чуць, што мой вялікі суразмоўца ў томскім Інтытуце оптыкі атмасферы стаў старшынёй Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Расіі, дырэктарам Фізічнага інстытута імя П.М. Лебедзева РАН. Акадэмік Месяц узначаліў той самы прэстыжны фізічны інстытут, дзе я праходзіў

стажыроўку ў чалавека, якога Генадзь Андрэевіч лічыць адным са сваіх настаўнікаў, у Нобелеўскага лаўрэата А.М. Прохарава.

Далейшае маё знаходжанне ў сібірскім Томску ішло па звычайнай для мяне, адпрацаванай да таго часу праграме. У перапоўненай актавай зале Томскага ўніверсітэта сістэмаў кіравання і радыёэлектронікі адбылася сустрэча з супрацоўнікамі і студэнтамі. Тэма сустрэчы, якая стала для мяне звыклай, – Белавежскае пагадненне і СНД. Сярод прысутных выкладчыкаў і студэнтаў чамусьці не знайшлося прыхільнікаў адраджэння СССР. Лейтматывам выступаў было: як добра, што разышліся мірна, і дай Бог Ельцыну сілы і розуму справіцца з кіраўніцтвам паранейшаму вялікай Расіяй.

* * *

Трохгадовае расстанне з кафедрай ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі не перапыніла дарэшты мае кантакты з ёю. Пра гэта – у наступным раздзеле кнігі. А далейшая рэмарка мае аднолькавае дачыненне да маёй працы на кафедры да і пасля расстання.

Калі ўспамінаю справы кафедры ад 1960-х да пачатку 1980-х гадоў, усведамляю – мы перажывалі час перадсмяротнага развіцця радыёэлектроннай схематэхнікі. Маючы вялікі досвед у вельмі для таго часу важнай галіне, мы былі здольныя пераўтвараць ядзерныя выпраменьванні ў электрычныя сігналы, рабіць электронныя прыстасаванні, якія апрацоўвалі гэтыя сігналы, і вырашаць такім чынам мноства прыкладных задачаў, іншымі словамі – знаходзіць ***прыватныя*** рашэнні ў кожным канкрэтным выпадку. Развіццё вылічальнай тэхнікі прывяло да знаходжання ***агульнага*** рашэння. Нашы прылады перасталі быць патрэбнымі, іх замяніў кампутар.

Як ні ўдасканальвай брычку – аўтамабіль лепей.

Кафедра своечасова адчула, з чым трэба заканчваць, што трэба перастаць у дэталях даводзіць да студэнтаў, і чаго нельга не даводзіць, хоць і самім выкладчыкам, і супрацоўнікам рабіць гэта было няпроста. Мы своечасова пераарыентаваліся. Часам – з болем.

Новае пакаленне спецыялістаў па радыёэлектроніцы глядзела на прафесіяналаў-схематэхнікаў як на на даўно аджылы рудымент. Дасяглае дасканаласці рамяство не ставарала перспектываў для творчасці. Трэба было пагадзіцца з крыўдным, але сапраўды праўдзівым папрокам: у электроніцы няма складаных пытанняў, ёсць дрэнныя кантакты.

# IV. МРТІ – ДОБРА, БДУ – ЛЕПЕЙ

## Новае прызначэнне

У самым пачатку 1966 года рэктар БДУ акадэмік А.Н. Сеўчанка сказаў мне:

– Цябе заўтра паклічуць у гаркам партыі, і не ўздумай там брыкацца. Я гэты ход прадумаў і правёў вялікую да яго падрыхтоўку. Табе прапануюць вельмі адказную пасаду, і ты імгненна атрымаеш кватэру. А тут у БДУ кватэра табе свеціць гады праз тры.

– Якую пасаду?

– Прарэктара па навуцы Радыётэхнічнага інстытута.

Шчыра кажучы, дзеля кватэры я пайшоў бы і на менш прэстыжную пасаду, бо жыць з «усімі выгодамі» ў двары, бегаць да вадаразборнай калонкі і падоўгу паліць печку, каб не прастудзіць маленькую дачку, мне абрыдла. Тым не менш, для прыстойнасці я крыху паяршыўся.

– Антон Нікіфаравіч, а як жа з доктарскай? На думку майго загадчыка кафедры, я набліжаюся да яе завяршэння.

– Ну і завяршай на новым месцы. Хто табе перашкаджае? Прарэктару выходзіць на абарону прасцей, чым старэйшаму навуковаму супрацоўніку або дацэнту. Я цябе таксама не збіраюся забываць. Дапамагу.

На наступны дзень я пачуў у гаркаме: вам аказваецца вялікі давер, вас накіроўваюць прарэктарам па навуцы ў самую прэстыжную ВНУ – МРТІ. Размову вёў сакратар гаркама Васіль Іванавіч Шарапаў. Ён зрабіў на мяне вельмі добрае ўражанне. Даў зразумець, што ў МРТІ вельмі дасведчаны рэктар, што ён дамогся запрашэння ў інстытут спецыялістаў з усяго Савецкага Саюза, але настала пара сур'ёзна заняцца ўмацаваннем інстытута мясцовымі кадрамі.

Папрасіў сакратарку злучыць яго з рэктарам Кавалёвым Іванам Сідаравічам, не спяшаўся падымаць тэлефонную трубку, калі сакратарка паведаміла, што рэктар на сувязі. Вытрымаў паўзу. Ветліва прывітаўся з рэктарам, а ў самым канцы размовы:

– Такім чынам, як дамаўляліся, неўзабаве да вас пад'едзе Шушкевіч.

Праз два дні я прыступіў да выканання абавязкаў прарэктара Мінскага радыётэхнічнага інстытута па навуковай працы.

Бюджэтнае фінансаванне МРТІ на навуковыя даследаванні было сціплым, хоць у пераліку на 1000 студэнтаў значна больш важкім, чым

фінансаванне іншых ВНУ. Гаркам і рэктар былі адной думкі: трэба як мага інтэнсіўней развіваць даследаванні па дамовах з радыётэхнічнымі прадпрыемствамі БССР. Я таксама быў прыхільнікам такога падыходу, аднак з адным маленькім удакладненнем: пашыраць узаемадзеянне на падставе гаспадарчых дамоваў з арганізацыямі, якія распрацоўваюць і прадукуюць новае і распараджаюцца вялікімі грашыма. А яны былі пераважна за межамі Беларусі.

На дзень пачатку маёй працы ў МРТІ фонд заработнай платы ўсяго інстытута па дамовах складаў трэцюю частку такога ж фонду кафедры, на якой я працаваў у БДУ. Пашырэнне сувязяў з прадпрыемствамі рэспублікі, на жаль, не абяцала сур'ёзных фінансавых паступленняў, таму я адправіўся найперш туды, дзе многа грошай, – у Маскву, Падмаскоўе, Ленінград. Падштурхоўваў на такія ж паездкі і выкладчыкаў МРТІ. Вельмі хутка ролі памяняліся: супрацоўнікі пачалі падштурхоўваць мяне, бо дадатковы заробак – лепшы стымул павышэння працоўнай актыўнасці.

Рэктар ставіўся да мяне падкрэслена добра, але стараўся нагрузіць мяне рознымі абавязкамі, у тым ліку і далёкімі ад прарэктарскіх, якія самі па сабе патрабавалі шмат часу. У шэрагу выпадкаў мне нельга было з ім не пагадзіцца, бо гэта дало б падставы лічыць, што я такую працу рабіць не здольны.

– Ведаеце, Станіслаў Станіслававіч, вы зробіце добрую справу, калі прачытаеце для студэнтаў чацвёртага курса квантавую электроніку. У нас пакуль няма каму яе чытаць, а яна ў ліку абавязковых па праграме Міністэрства вышэйшай адукацыі. Вы ж стажаваліся ў самога Прохарава – бацькі савецкай квантавай электронікі.

Ну як тут адмовішся?

Пасля падобным чынам мне быў навязаны курс «фізіка вакуума», хоць ні ў якога бацькі вакуумнай тэхнікі я не стажаваўся. Проста, як кожны фізік-эксперыментатар, працаваў з вакуумнымі ўстаноўкамі. У пэўным сэнсе я аказаўся скутым адносна паездак. Лекцыі нельга было пераносіць альбо адмяняць. Новыя для мяне курсы патрабавалі часу на падрыхтоўку, але рэктар не супакойваўся.

– Станіслаў Станіслававіч, дазвольце даць вам параду. Справаздачу інстытута па навуцы павінны пісаць вы асабіста. Кажу гэта вам, бо быў у вашай скуры – працаваў прарэктарам па навуцы.

Мяне, як кажуць, заела. І я вырашыў расставіць кропкі над «і», тым больш, нашу размову чулі і іншыя, а мне абрыдла атрымоўваць банальныя парады.

– Паважаны Іван Сідаравіч, дазвольце мне вырашаць, каму што рабіць у падпарадкаванай мне навукова-даследчай службе. Я падпісваю справаздачу і за яе адказваю, а як і кім яна напісаная, наўрад ці мае прынцыповае значэнне. Акрамя таго, мая галоўная задача, аб якой вы гаворыце на кожным рэктараце і сходах, – павялічэнне аб'ёма працаў

па дамовах. Я не так даўно тут працую, а гэты аб'ём вырас у некалькі разоў. Ведаю, у вас ёсць улюбёнцы ў НДС, яны сапраўды аж стогнуць ад мноства папераў для справаздачы міністэрству. Я ім спачуваю, але формы для справаздачы прыдумаў не я, іх патрабуе міністэрства. Нелагічна раіць, каб я аблегчыў іх працу за кошт занядбання прарэктарскіх абавязкаў.

## Ад беспартыйнасці да партыйнай інтрыгі

Пасля такой размовы апякунскіх парадаў я больш не чуў, а справаздачы інстытута па навуцы рэктар падпісваў без заўвагаў. Наўрад ці ён іх чытаў. Аднак мне – беспартыйнаму – пачалі паступаць выпіскі рашэнняў партыйнага бюро інстытута з рэкамендацыямі ўзмацніць, палепшыць, прыняць да ведама, у пэўны тэрмін інфармаваць партыйнае бюро... На паседжанні партбюро мяне не запрашалі. Тлумачылася гэта тым, што я – беспартыйны. Пры выпадковай сустрэчы я сказаў аб гэтым сакратару гаркама партыі В.І. Шарапаву.

Назаўтра бледны, як вышэйшай якасці папера, сакратар партбюро прыбег да мяне паведаміць, што дзякуючы яго і рэктара намаганням райкам выдзеліў месца для прыёма мяне ў партыю. Мне трэба было неадкладна ўзяць тры пісьмовыя рэкамендацыі ва ўніверсітэце, бо ў МРТІ я працую менш за год, і тутэйшыя супрацоўнікі не могуць рэкамендаваць мяне ў КПСС. Так у 1967 годзе я стаў кандыдатам, а ў 1968-м – уступіў у КПСС.

Я добра разумеў, што рэктар бачыць ва мне прэтэндэнта на яго пасаду. Хоць абсалютна шчыра паклаўшы руку на сэрца, я мог яму сказаць, што не думаю аб гэтым. Наўрад ці ён мне паверыў бы. Яго літаральна даводзіла да шаленства, калі я ў выступах не выказваў захаплення з нагоды яго асабістай навуковай дзейнасці. Такога проста не магло быць, бо я разумеў, чым ён займаецца. Ён выгодна адрозніваўся ад многіх запрошанных ім здалёк у МРТІ «карыфеяў» тым, што добра чытаў курс класічнай электрадынамікі для студэнтаў. Усе яго за гэта хвалілі. Быў сапраўдным мастаком у тым, што мы сёння называем піярам. А вось яго навуковая праца нагадвала рашэнне задачаў са студэнтамі на практычных занятках, спецыяльна прыдуманых для лепшага засваення лекцыйнага курса. Я ніколі не сказаў ні яму, ні камусьці іншаму ў МРТІ аб тым, як я ўспрымаю яго навуковыя «дасягненні», але, як чалавек разумны і дасведчаны, ён ведаў, як я ацэньваю ўзровень яго навуковасці.

Матэрыял для маёй доктарскай дысертацыі, з якім я прыйшоў у МРТІ, старэў і, як кажуць дактаранты, «пачынаў гніць». Страціць усе напрацоўкі азначала адкінуць сябе ў навуковым плане на некалькі гадоў назад. Я вырашыў праявіць актыўнасць. Штуршком стаў партыйны сход, на якім абралі новае партыйнае бюро інстытута, якое

ўзначаліў новы сакратар – загадчык кафедры тэхнічнай механікі Аляксандр Альбертавіч Шымковіч. На наступны пасля сходу дзень я з ім шчыра пагаварыў аб сваіх справах, выслухаў яго меркаванні, пасля чаго зайшоў да рэктара і папрасіў яго мяне не перабіваць.

– Паважаны Іван Сідаравіч, вашае ўлюбёнае выслоўе – «два мядзведзі ў адной бярлозе не ўжываюцца», якое вы ў кожным зручным і не зусім зручным выпадку паўтараеце, вымушае мяне задумацца над уласным лёсам. Вы рашуча супрацьдзейнічаеце таму, каб я напісаў доктарскую дысертацыю, бо бачыце ва мне «другога мядведзя». Бессэнсоўна вас пераконваць, што я не буду вашым канкурэнтам. Таму я прапаную вам здзелку. Вы даяце мне творчы адпачынак на напісанне доктарскай. Усе неабходныя для гэтага дакументы я падам вам на подпіс да канца дня. Я ж звальняюся па ўласным жаданні адразу пасля адпраўкі дысертацыі ў навуковую раду для абароны. Я гатоў сёння падаць аб гэтым заяву. Вы вельмі дасведчаны чалавек і вельмі лёгка абыграеце падзеі такім чынам, што я апынуся ў непрыгляднай ролі, калі падам заяву вам. Таму я цяпер пры вас гатовы падаць такую заяву чалавеку, якому давяраеце вы і я. Ён захавае яе да ўзгодненай даты.

Я не выключаў, што Іван Сідаравіч выкажа сумнеў, разыграе ролю без віны вінаватага, не згодзіцца на мой варыянт. Гатовы быў нават сказаць, што, калі не атрымаю творчы адпачынак, мне давядзецца быць больш справядлівым пры выказваннях аб рэктары і інстытуце... Але нічога не спатрэбілася. Рэктар нават пахваліў мяне.

– Я часам думаў, што ў вас мала рашучасці. Памыляўся. Але каму ж з тых, каму давяраю я, давяраеце і вы? Ці, раптам, не Цімафею Ярафеевічу, прарэктару па акадэмічнай справе?

Гэта было відавочным падбухторваннем, бо не любіў рэктар прарэктара Саладкова, ведаў пра мае добрыя з ім адносіны, таму мне нічога не заставалася, як пажартаваць:

– Цімафею Ярафеевічу я, зразумела, давяраю, як і вы, але ж не здзекавацца за гэта над ім. Для выкладчыка грамадскіх навук захоўваць таямніцу амаль палову года – непасільная задача. Ёсць іншая кандыдатура.

– Хто?

– Аляксандр Альбертавіч, новы сакратар партбюро.

– А ён згодны?

І тут у адпаведнасці з тым, як мы дамовіліся з Шымковічам, я крышачку пакрывіў душой.

– Давайце паклічам яго і запытаемся...

Калі мы трое – Іван Сідаравіч Кавалёў, Аляксандр Альбертавіч Шымковіч і я – у дэманстратыўна цудоўным настроі выходзілі з кабінета рэктара, наўрад ці мог нехта падумаць, што мы сплялі няпростую інтрыгу. У выніку я атрымаў творчы адпачынак, і не малы –

шэсць месяцаў. Напісаў і паспяхова абараніў у Маскве 13 траўня 1970 года ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце оптыка-фізічных вымярэнняў доктарскую дысертацыю. Пасля абароны напісаў новую заяву з просьбай аб звальненні з МРТІ, бо ўклаўся ў тэрмін больш кароткі, чым дадзены мне адпачынак. Вярнуўся ў свой родны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, на сваю кафедру, па якой праз год быў зацверджаны ў званні прафесара.

Пасля майго звальнення пазасталы «мядведзь» Кавалёў панаваў у сваёй «бярлозе» ўсяго сем месяцаў. У газеце «Вячэрні Мінск» на поўную старонку з'явіўся артыкул «Рэктар», дзе апісваліся яго дзеянні, несумяшчальныя з займанай пасадай. Яго падсядзелі тыя, хто дэманстраваў яму сваю штодзённую павагу, у адданасці якіх ён быў абсалютна перакананы. Я ж шчаслівы, што не распачаў у МРТІ барацьбу за адстаўку рэктара яшчэ і таму, што Кавалёў для Інстытута многа зрабіў, але не як навуковец, а як гаспадарнік.

Праца ў радыётэхнічным мне многае дала. Я зразумеў, напрыклад, які цудоўны ў параўнанні з МРТІ мой родны БДУ. Але і на сонцы ёсць плямы, і ў родным БДУ – недарэчнасці, у чым хутка давялося пераканацца.

## Ізноў альма-матэр

Упартая рэч – крылатыя словы. Сапраўды, нельга ўвайсці ў адну і тую ж ваду двойчы, нельга вярнуцца ў той самы ўніверсітэт, які пакінуў тры гады таму. Вяртанне ў БДУ было для мяне беспраблемным. Не ўзнікла цяжкасцяў ні з лекцыямі, ні з выкананнем цікавых даследаванняў па дамовах, ні з супрацоўнікамі кафедры, ні з дэканатам, ні з рэктаратам.

Аднак...

Рабілася ўсё больш зразумелым, што мой загадчык кафедрай, цяпер ужо доктар навук, прафесар трапіў у няміласць да кіраўніцтва ўніверсітэта. Гэтага трэба было чакаць, бо начальства звычайна не любіць ні занадта жвавых, ні вальнадумцаў. Але няміласць няміласцю, а справа справай. Акадэмічны працэс на кафедры – на зайздрасць іншым. Студэнтаў на спецыялізацыю запісваецца болей, чым выдзяляецца месцаў. Усё нармальна з навукай, публікацыямі, абаронай дысертацый, урэшце – са справамі палітыка-выхаваўчымі.

Ледзь я прызвычаіўся да старога, а ўсё ж новага месца, паклікаў мяне «дзед». Так цяпер усе называлі рэктара Сеўчанку, чаму ён не пярэчыў, а часам і радаваўся, бо лічыў такую мянушку мясцовым эквівалентам аксакала. Пытаецца дзеля ветлівасці пра жыццё-быццё. Папракае, што не пайшоў адкрыта супраць рэктара МРТІ Кавалёва. І гэта – больш для формы. Чакаю, калі дойдзе да справы. Нарэшце пачынае:

– Размова паміж намі. Дрэннага, як ведаеш, я табе ніколі не раіў. І цяпер не параю. Мы хутка абвесцім конкурс на пасаду загадчыка кафедрай ядзернай фізікі. Падавай дакументы. Цябе абавязкова выберуць.

– Антон Нікіфаравіч, я добра ведаю парадак выбрання і перавыбрання ў ВНУ па конкурсе. Кафедрай сёння загадвае прафесар Пісарэўскі. Кафедра прыстойная, як мне здаецца, па ўсіх паказчыках, таму спачатку на савеце павінна быць разгледжанае пытанне аб перавыбранні. Мне здаецца, што Пісарэўскага перавыберуць.

– Няхай табе гэта перастане здавацца. Рэктарат мае права абвесціць конкурс на выбранне. Патаемнае галасаванне па перавыбранні бывае ў выключных выпадках. Адкрыты конкурс лепей, ён больш дэмакратычны. Няхай і Пісарэўскі падае на конкурс. Савет патаемным галасаваннем вырашыць, засядзеўся ён у загадчыках ці не. Раз я табе кажу – падавай заяву, гэта азначае, што засядзеўся, і савет абярэ цябе.

– Паважаны Антон Нікіфаравіч, прабачце, я бульдозерам для выпіхвання Пісарэўскага служыць не буду. Я бываю ў яго дома, ён не толькі прафесар, але і станоўчы ва ўсіх дачыненнях чалавек, па святах і чарку магу з ім выпіць. На здраду я не пайду.

– Прычым тут здрада? Адкрыты сумленны конкурс! Горка пашкадуеш, калі не падасі заяву. Успомніш нашу размову, але будзе позна.

Праз некаторы час быў абвешчаны конкурс на выбранне. Дзед яшчэ раз параіў мне падаць заяву. Я адмовіўся. Рэктар знайшоў чалавека, які падаў заяву на пасаду загадчыка кафедрай ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі і забяспечыў выбранне гэтага чалавека. Выбранец быў нядрэнным фізікам, станоўча характарызаваўся, меў уплывовага бацьку рэспубліканскага значэння і ўзначальваў у Акадэміі навук мікраскапічную лабараторыю ядзернай фізікі. Думаю, ён і не ўяўляў, у што ўвязваецца. У параўнанні з яго лабараторыяй у Акадэміі навук кафедра была многафункцыянальным арганізмам, асобныя часткі якога працягвалі расці, дзякуючы шырокім сувязям з ВНУ, НДІ і прадпрыемствамі ўсяго Саюза. Ды і працаўнікі на ёй былі не лыкам шытыя. А што да выкладчыкаў, то з першых дзён працы з новым кіраўніком стала ясна: ён і ўяўлення не мае аб арганізацыі працэса навучання. Лекцыі яго таксама не маглі служыць узорам педагагічнай і навуковай дасканаласці.

На маю думку, новы загадчык меркаваў, што калектыў кафедры ўспрыме яго – супрацоўніка акадэмічнага інстытута – так, як выкладчыкі іншых кафедраў прымалі вядомых акадэмікаў, што пагаджаліся ўзначаліць кафедры на фізічным факультэце. Тут сапраўды з захапленнем віталі тых, каго можна было называць карыфеямі навукі, – акадэмікаў Міхаіла Аляксандравіча Ельяшэвіча, Аляксея Васільевіча Лыкава, Мікалая Мікалаевіча Сірату, Рэма Іванавіча Салавухіна, Барыса Іванавіча Сцяпанава, Фёдара Іванавіча Фёдарава. Ва ўсіх гэтых выпадках супрацоўнікі кафедраў з вялікім энтузіязмам

бралі на сябе бюракратычныя, арганізацыйныя і іншыя ненавуковыя справы, ведаючы, што высокая навуковая кваліфікацыя загадчыка дапаможа ім з лішкам пакрыць усё, укладзенае імі ў справу развіцця і станаўлення кафедры.

З ядзернай фізікай справы склаліся інакш. Ніхто па ўласным жаданні не браўся рабіць тое, што належала да службовых абавязкаў загадчыка. А што да навукі, то на кафедры працавалі выкладчыкі і супрацоўнікі, у якіх ён сам мог многаму навучыцца. Праўда, іх бацькі не займалі кіроўных пасадаў у БССР.

Калі ж на чацвёртым месяцы кіравання новага загадчыка стала зразумелым, што калісьці ўзорная структура пачынае развальвацца, ён звольніўся. Рэктар адразу ж загадам прызначыў мяне выканаўцам абавязкаў загадчыка кафедрай, а праз два месяцы я быў выбраны на гэтую пасаду па конкурсе і перавыбіраўся на яе да 1991 года.

* * *

Да гэтага часу не магу адказаць на пытанне, чаму рэктар універсітэта акадэмік А.Н. Сеўчанка выгнаў з БДУ, а тым самым і з Беларусі прафесара А.М. Пісарэўскага? Дарэчы, разам з Пісарэўскім ад'ехала з Мінска і яго жонка – Галіна Ахатаўна Шагісултанава – доктар хімічных навук, прафесар, выдатны педагог і навуковец. У Ленінградзе, куды яны вярнуліся, іх прынялі з радасцю. Прэстыжнасць навукова-даследчых установаў і ВНУ, якія прапанавалі ім працу, не выклікае пытанняў. Пасады, на якія іх абралі па конкурсах, – таксама.

Сёння я добра разумею, што Сеўчанка сваё рашэнне мусіў узгадніць з партыйнымі босамі рэспублікі і атрымаць дазвол на выгнанне прафесіяналаў-навукоўцаў, якіх дзесяць гадоў таму запрасілі наладзіць справу. Справа наладжаная, наладжаная вельмі прыстойна. Ёсць кафедра, якая забяспечвае курс «ядзерная фізіка» для ўсіх студэнтаў-фізікаў і змястоўны лабараторны практыкум па курсе. Спецыялізацыя студэнтаў ідзе па трох перспектыўных спецыяльнасцях: ядзерная фізіка, ядзерная электроніка і ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі. Працягваецца бурны рост кафедры. З яе вылучылася і стала самастойнай кафедра біяфізікі, вылучыліся лабараторыі і аддзелы, з якіх стварыўся НДІПФП – Навукова-даследчы інстытут прыкладных фізічных праблемаў. Калі шчыра жадаеш універсітэту развіцця, то кіруючыся якімі меркаваннямі можна выгнаць спецыяліста, які рапачаў добрую справу і працягваў паспяхова яе развіваць? Або гэта рашэнне больш высокага начальства? Выйшаў з-пад кантролю, не прыслухоўваецца да парадаў кіраўніцтва?

Пераканальнага адказу на гэтае пытанне я да гэтай пары не маю. Многія тлумачаць проста: Пісарэўскі – габрэй. А.Н. Сеўчанка не быў яўным антысемітам, але хвароба гэтая не магла яго не крануць, бо ён

увесь час круціўся ў высокіх партыйных колах. Калі гаворка ішла аб прыёме габрэя на працу, дзед мог запытацца: «А ці не занадта многа іх у вас?». Але я не ведаю выпадку, калі б нехта з кіраўнікоў падраздзяленняў, сапраўды жадаючы прыняць габрэя на працу, атрымаў бы катэгарычнае дзедавае «не!».

Больш верагодным я лічу ціск на рэктара Сеўчанку з боку Акадэміі навук. На пасадзе прэзідэнта там з 1969 па 1987 год працаваў Мікалай Аляксандравіч Барысевіч – вучоны-фізік, але найперш – дасведчаны камуністычны менеджэр, які здолеў падпарадкаваць сабе ў акадэміі ўсё і ўсіх. Наш універсітэцкі рэктар імкнуўся да такога ж стылю кіравання, але не змог стаць універсітэцкім «мафіозі». Пры ўсіх хібах яго не пакінулі чалавечнасць, прыстойнасць, сумленнасць і пачуццё справядлівасці. Барысевічу ж такіх якасцяў відавочна бракавала.

За акадэмічныя званні ў савецкі час добра плацілі. М.А. Барысевіч здолеў узяць у свае рукі выбранне ў акадэмікі і члены-карэспандэнты і цалкам кантраляваў гэты працэс, прычым навуковыя дасягненні прэтэндэнтаў адступілі на задні план перад асабістай адданасцю прэзідэнту акадэміі. Зразумела, што для грамадскасці ўсё падавалася ў іншым, абсалютна добрапрыстойным святле.

У сваю каманду Барысевіч уцягнуў і некалькі маіх аднакурснікаў. Двое з іх мне шчыра прызналіся, што, як ні крыўдна, яны часам вымушаныя ісці супраць сваіх перакананняў. Калі, напрыклад, на выбарах членаў-карэспандэнтаў пры патаемным галасаванні нехта з іх будзе галасаваць за мяне, то гэта стане дакладна вядома прэзідэнту Барысевічу, і таму, хто галасаваў, не паздаровіцца. Прадпісанні «мафіозі» (так называлі Барысевіча ва ўніверсітэце), як правіла, выконваліся моўчкі. Але маўчанне і напружанне часам шкодзяць здароўю. Двое згаданых маіх аднакурснікаў рана адышлі ў іншы свет. Не выключаю, што знаходжанне ў камандзе «мафіозі» і вымушаныя дзеянні насуперак сумленню адыход паскорылі. Не вынес несправядлівасці і, бясспрэчна, вельмі таленавіты фізік Валянцін Дзмітрыевіч Ткачоў, які многага дасягнуў і які сем гадоў узначальваў Беларускі політэхнічны інстытут. Усведамляючы, што Барысевіч не дапусціць яго выбрання акадэмікам, ён 16 лютага 1985 года скончыў жыццё самагубствам.

Што да мяне асабіста, то я быў абраны членам-карэспандэнтам пасля адстаўкі Барысевіча, калі прэзідэнтам Акадэміі навук стаў Уладзімір Пятровіч Платонаў – матэматык сусветнай вядомасці. Тым не менш, калі я стаў Старшынёй Вярхоўнага Савета – вышэйшай службовай асобай незалежнай Беларусі, – акадэмік Мікалай Аляксандравіч Барысевіч патэлефанаваў і папрасіў мяне яго прыняць. Калі б хтонебудзь быў сведкам нашай размовы, то ён вырашыў бы, што большага сябра, які шчыра жадае мне ўсяго самага лепшага і гатоў гэтаму спрыяць, у мяне не было і не магло быць. Да слова, Барысевіч цудоўна ўсведамляў усе складанасці пераходнага перыяду для вучоных і навукі.

Многае сказанае ім тады з гэтай нагоды паўплывала на мае дзеянні. Я шчыра падзякаваў яму за размову і карысную інфармацыю. А ў самым канцы...

– Станіслаў Станіслававіч, вам трэба балатавацца на наступных выбарах у акадэміі. Вас як навукоўца вельмі высока цэняць акадэмікі аддзялення фізікі і інфарматыкі.

– Паважаны Мікалай Аляксандравіч, я вельмі ўдзячны вам за добрыя словы на мой адрас. Але мой цягнік адышоў. Я не магу цяпер прысвяціць фізіцы ні хвіліны. Службовыя абавязкі адымаюць у мяне ўвесь час, а яны, на жаль, да фізікі не маюць ніякага дачынення.

Прызнаюся, мне вельмі хацелася папракнуць акадэміка ў той несправядлівасці, якую ў бытнасць прэзідэнтам ён насаджаў у Акадэміі навук, але гэта было б помстай. А з дзяцінства мяне вучылі не апускацца да ўзроўню таго, хто кіруецца пачуццём помсты.

## Аб карысці парадаў геніяў

Кажуць, што Эрнест Рэзерфорд, адзін з найвялікшых фізікаў свету, усе навуковыя працы якога прысвечаныя пытанням атамнага ядра, калі быў прызначаны кіраўніком Кавендышскай лабараторыі Кембрыджскага ўніверсітэта, сказаў: *«Ніколі не трэба спрабаваць аднавіць былую веліч»*.

Хутчэй за ўсё, ягоныя словы – даніна павагі тым, хто займаў пасаду кіраўніка Кавендышскай лабараторыі раней і праславіў яе сваімі навуковымі дасягненнямі. Імёны папярэднікаў Рэзерфорда вядомыя фізікам усяго свету: Дж. К. Максвел, Дж. У. Рэлей, Дж. Дж. Томсан. Сціплы Рэзерфорд, відаць, меў на ўвазе: не прэтэндую на поспехі, параўнальныя з дасягненнямі маіх папярэднікаў.

Мае права на жыццё і іншае разуменне словаў Рэзерфорда. Калі вы прымаецеся за справу, якая ледзь ліпее, не трэба працягваць яе ранейшымі спосабамі. Так ці інакш, але калі сёння ўспамінаюць Кавендышскую лабараторыю, то нагадваюць: яе ўзначальваў сам Эрнест Рэзерфорд!

Дзеянні вялікіх фізікаў – прыклад для пераймання, а болей – для асэнсавання. Нельга малпаваць. На першым пасля майго абрання паседжанні кафедры вырашылі не адраджаць былую веліч, яна ў маштабах нашага ўніверсітэта і так не зусім страчаная. Каб паспяхова развівацца, неабходна вызначыць крытэрыі, якія дазвалялі б самім ацэньваць дасягненні і хібы. У акадэмічнай працы вырашылі кіравацца надзейным старым падыходам – чым болей студэнтаў жадае спецыялізавацца на кафедры, тым лепей. З запісаных мы можам адабраць лепшых на вылучаныя на кафедры планавыя месцы.

З навукай – складаней. Бюджэтнае фінансаванне на навуку нікчэмнае. У яго межах можна ў лепшым выпадку разабрацца ў чужых



*1973 год. Рэктар БДУ У.М. Сікорскі, рэктар МГУ Р.В. Хахлоў і дырэктар НДІПФП пры БДУ (былы рэктар БДУ) А.Н. Сеўчанка на Кургане Славы пад Мінскам*

часопісных навуковых публікацыях і правесці навуковы семінар, каб пацвердзіць, што мы здольныя некаторыя з гэтых публікацый зразумець. Гэта неабходна, важна, але гэтага мала, каб лічыць кафедру ўніверсітэцкай. Трэба інтэнсіфікаваць пошук выгодных дамоваў і багатых заказчыкаў, пажадана па профілі кафедры. Не атрымаецца – дык хоць бы блізкіх да яе профілю.

У час майго дзяцінства маці толькі ёй адной вядомым спосабам укараніла навечна ў маю памяць выказванні ўлюбёных ёю пісьменнікаў, крытыкаў, публіцыстаў. Я ўспамінаю іх і сёння ў прыдатны да асэнсавання сітуацыі час. Звычайна, маці коратка тлумачыла, што за чалавек гэта напісаў, і прыводзіла, зноў жа, надоўга запамінальныя фрагменты яго біяграфіі.

Маці вельмі любіла рускага крытыка і публіцыста Дзмітрыя Іванавіча Пісарава, які загінуў у 28-гадовым узросце. Амаль чатыры гады свайго кароткага жыцця ён правёў у адзіночнай камеры Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе напісаў свае лепшыя артыкулы, у адным з якіх былі словы: *«Калі праца – задавальненне, жыццё – радасць»*.

Па вялікім рахунку наступныя 14 гадоў маёй працы на пасадзе загадчыка кафедрай ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце былі гадамі адносна бясхмарнымі і дакладна адпавядалі згаданым словам Пісарава. Я стараўся, каб гэты час быў такім жа і для супрацоўнікаў, аспірантаў і студэнтаў. Узрушэнні, бясспрэчна, здараліся, але яны не вялі да надзвычайных сітуацый. У 1986-м годзе шмат што змяніла Чарнобыльская катастрофа, але гэта асобная тэма, і пра яе – пазней.

У 1972 годзе рэктарам універсітэта стаў доктар філасофскіх навук Усевалад Міхайлавіч Сікорскі. Як і большасць фізікаў, я ніколі не ставіўся добра да выкладчыкаў гісторыі КПСС, але Сікорскі быў выняткам з правіла. У маёй памяці ён застаецца надзвычай сумленным і годным інтэлігентам, ворагам інтрыгаў і закулісных дзеянняў. Праўда, ён меў адзіны сур'ёзны недахоп – слабое здароўе. Даваў аб сабе знаць час знаходжання ў партызанскім атрадзе, шматразовыя пераахалоджанні, перанесены голад. Цяжка было яму цягнуць лямку рэктара, але ён цягнуў яе добрасумленна. Для мяне ён застанецца лепшым рэктарам маіх універсітэцкіх гадоў.

Адметны характар насіла праца з замежнымі студэнтамі. Часцей за ўсё яна дастаўляла радасць выкладчыкам і супрацоўнікам. Прыемна было бачыць, як учарашнія «немаўляты» і ў мове, і ў фізіцы грызуць навуку, сядзяць у лабараторыі ад раніцы да позняй ночы, звяртаюцца да выкладчыкаў і супрацоўнікаў з пытаннямі. Студэнтамі з ГДР, Чэхаславакіі, Кубы можна было захапляцца. Яны нічым не адрозніваліся ад лепшых савецкіх студэнтаў. Прымалі ўдзел у даследаваннях, асобныя з іх ад'язжалі суаўтарамі навуковых публікацый сумесна з супрацоўнікамі і аспірантамі кафедры.

Працавітасць в'етнамцаў была павучальнай для ўсіх, большасць з іх мела добрыя адзнакі. Рэдкім выняткам былі в'етнамцы, накіраваныя



*1982 год. Нашы рэкардсмены: 5 выкладчыкаў кафедры і 16 з 17 студэнтаў-кубінцаў, якія атрымалі дыпломы з адзнакай. 17-ты спазніўся і не трапіў на здымак*

на вучобу ў Савецкі Саюз за вайсковыя заслугі. Яны не мелі тых пачатковых ведаў, без якіх складана падступіцца да ўніверсітэцкага курса. Мы, як маглі, стараліся, каб яны ведалі хоць бы на тройку, і менш чацвёркі за такія веды не ставілі. Кубінцы, якія спецыялізаваліся на кафедры, паставілі ўніверсітэцкі рэкорд, я перакананы, на ўсе часы. У 1982 годзе яны атрымалі 17 дыпломаў выдатнікаў, так званых «чырвоных».

Але здаралася, і не раз-два, а параўнальна часта, што навучанне студэнтаў-замежнікаў вымушала развітацца з выкладчыцкім гонарам і годнасцю і дагаджаць ваяўнічаму невуцтву. Паскардзіцца не было каму. Ад нас патрабаваў гэтага дэканат, ад дэканата – рэктарат, ад рэктарата – міністэрства, далей – саюзнае міністэрства... Нават прыгадваць няёмка. Студэнта-замежніка нельга было пакінуць на другі год на тым жа курсе або адлічыць за непаспяховасць. Яны гэта ведалі. Дэканат абавязаны быў даваць ім дазвол на пераздачу заваленага іспыта або заліка колькі хацелі разоў. Далей працаваў лозунг – «няма дрэнных студэнтаў, ёсць кепскія выкладчыкі!».

Я паспрабаваў неяк прымусіць студэнта з Эфіопіі ўсвядоміць хоць бы нешта з майго лекцыйнага курсу. На пятую пераздачу ён прыйшоў да мяне ў кабінет загадчыка кафедрай з чарговым пісьмовым дазволам намесніка дэкана. Узяў білет і сеў за столік рыхтавацца. Я сказаў, што адыду хвілінаў на 15 і выслухаю яго пасля. Калі вярнуўся, а ён пачаў адказваць, мне не даваў спакою – пах. Пах, які я не ў стане пераносіць! Не ведаю, што гэта было за зелле, але я хуценька паставіў яму тройку і выратаваўся ўцёкамі ў калідор. Мая сакратарка – Алена Аляксандраўна Гарбачова – шчыра здзівілася, што я не ведаю такога афрыканскага, дакладней – эрытрэйскага спосабу здачы іспытаў. Пасля гэтага прыйшлося лепей клапаціцца аб уласным здароўі і перастаць прымаць пераздачы ў сваім кабінеце і іншых памяшканнях абмежаванага аб'ёму.

Найцяжэй было са студэнтамі з Лівіі. На шчасце, іх на кафедры было толькі чацвёра. Яны не мелі ніякіх адчувальных пачатковых ведаў, мала таго, не мелі жадання чаму-небудзь навучыцца. Усе чацвёра атрымоўвалі павышаную савецкую стыпендыю плюс 90 даляраў ЗША, як яны самі казалі, «ад Муамара Кадафі». Каб уявіць, якую цану тады мелі 90 даляраў, прывяду два прыклады. Самае лепшае піяніна Барысаўскай фабрыкі каштавала на той час 120 даляраў. Каб я хацеў купіць даляры, то за месячны прафесарскі заробак я набыў бы іх меней за 50, зразумела, толькі на чорным рынку. Па савецкіх законах гэта азначала – учыніць злачынства. Іншых спосабаў не было.

Вышэйшыя палітычныя меркаванні, сыходзячы з якіх і навучаліся ў СССР замежныя грамадзяне, не дазвалялі выкладчыкам негатыўна ацэньваць іх веды. Прыніжаліся не толькі выкладчыкі, але і ўся сістэма савецкай вышэйшай адукацыі. Тым не менш, і ў гэтай мінорнай музыцы часам гучалі мажорныя акорды.

– Ты што, не ведаеш, навошта табе іх прыслаў Кадафі? – пытаўся і сам жа адказваў на сваё пытанне мой калега, прафесар матэматыкі:

– Прыслаў, каб яны навучыліся рабіць атамную бомбу! А ты і твая кафедра праводзіце міралюбную палітыку. Вучыце іх так, каб яны ніколі яе не зрабілі.

## Каса і камень

З прызначаным у 1978 годзе новым рэктарам БДУ я пазнаёміўся на шэсць гадоў раней. Тады ён, рэктар Гомельскага ўніверсітэта, усімі праўдамі і няпраўдамі хацеў зрабіць мяне сваім намеснікам, прарэктарам па навуцы. Не памятаю дакладна, як ён выцягнуў мяне ў камандзіроўку ў Гомель, дзе доўга тлумачыў, што менавіта за Гомельскім універсітэтам самая светлая ў Беларусі навуковая будучыня. Выслухаўшы яго ўважліва, я цвёрда вырашыў, што ніколі, ні пры якіх абставінах не буду ў яго працаваць, бо самым блізкім да яго літаратурным персанажам быў у тагачасным маім уяўленні гогалеўскі Манілаў. Пазней я зразумеў, чаму кіраўніцтва рэспублікі шматкроць прызначала гэтага чалавека на высокія навуковыя і ненавуковыя пасады. Яго энергіяй можна было знесці велізарныя горы, якія перашкаджалі прагрэсу. Адзіная ўмова – каб гэтая энергія была накіраваная ў належным напрамку.

Невядома, куды скіруе нас провід Божы. Іду па тэлефонным званку сакратаркі новага рэктара БДУ – акадэміка Уладзіміра Аляксеевіча Белага, таго самага, які быў калісьці рэктарам універсітэта ў Гомелі. Іду на першае паседжанне пашыранага рэктарата.

У рэктарат я не ўваходжу, і запрошаны на яго, як і яшчэ некалькі загадчыкаў кафедрамі, пераважна агульнаўніверсітэцкімі. Бачу і іншых запрошаных – прадстаўнікоў парткама, камітэта камсамола, прафкама, грамадскасці. Рэктар гаворыць палымяную прамову аб непазбежным старэнні навуковых кадраў, аб тым, каб многае паскорыць, палепшыць, іншае – катэгарычна не дазволіць або, наадварот, усімі сіламі падтрымаць. Бачыўшы і не такое, бывалыя ўніверсітэтчыкі прытойвалі іранічныя ўсмешкі. У месцах, дзе гэта, на думку выступоўцы, патрабавала спачування, згодна ківалі галовамі. Пасля рэктар пачаў раздаваць канкрэтныя даручэнні прарэктарам і дэканам, а далей – чамусьці і мне.

Не памятаю дакладна, якім было гэтае даручэнне, але без усялякага сумневу яно было дробным і абсалютна несумяшчальным з маім статусам прафесара і загадчыка кафедрай. Акадэмік вырашыў у першы ж дзень зняважыць мяне публічна, я перакананы, за тое, што ў свой час я адмовіўся стаць яго намеснікам. Я ўстаў і вельмі спакойна, але так, каб усе добра чулі, запярэчыў:

– Паважаны Уладзімір Аляксеевіч, я не буду выконваць вашае даручэнне. Для такіх справаў у вас дастаткова тэхнічнага персаналу.

– Ну, дарагі мой, пры такім стаўленні да справы мы з вамі наўрад ці зможам працаваць разам.

– Не зможам, дык не зможам. Вы тут чалавек новы, а я – са студэнцкіх гадоў, і пакуль мог з усімі супрацоўнічаць. А цяпер, прабачце, я пакіну вас з тымі, сярод якіх вы, можа, знойдзеце больш падатлівых.

І пайшоў да сябе на кафедру.

Неўзабаве да мяне пачалі заходзіць тыя, хто прысутнічаў на рэктараце. Пасля майго дэмаршу У.А. Белы выказаў крайняе здзіўленне тым, што ёсць яшчэ супрацоўнікі, якія з першага дня яго рэктарства хочуць паставіць сябе ў выключныя ўмовы, але ён не мае намеру такое дапускаць. Агульнага адабрэння яго словы не выклікалі, і рэктарат скончыўся. Тыя, хто і раней ведаў У.А. Белага, мяне ледзь не віншавалі, сказалі – паступіў правільна і своечасова. Калі яму не супраціўляцца, ён будзе грузіць і грузіць, патрабаваць безумоўнага выканання ўсіх даручэнняў. І пры гэтым не абцяжарыць сябе глыбокім пранікненнем у сутнасць праблемы.

Прайшло два тыдні.

Тэлефануе сакратарка рэктара, але не перадае, як раней, загад.

– Злучаю вас з Уладзімірам Аляксеевічам.

– Добры дзень, Станіслаў Станіслававіч. Гэта Уладзімір Аляксеевіч Белы. Спадзяюся, не адарваў вас ад справаў тэрміновых?

– Добрага здароўя, Уладзімір Аляксеевіч. Не, не адарвалі. Я адзін у кабінеце і магу свабодна гаварыць па тэлефоне.

– Пытанне не зусім тэлефоннае.

– З задавальненнем зайду да вас у прызначаны дзень і час.

– Заходзьце цяпер.

Адчыніў дзверы рэктарскага кабінета і ледзь не ахнуў. Новая мэбля, новы селектар, як сёння сказалі б – сучасны дызайн. Рэктар выйшаў з-за вялізнага новага стала і працягнуў руку, як старому добраму знаёмаму.

– Мінулы раз мы тут абодва пагарачыліся. Давайце аб гэтым забудзем, як аб старой мэблі.

– Давайце забудзем.

– У мяне да вас новая, вельмі сур'ёзная справа. Я дамогся згоды Пятра Міронавіча Машэрава наведаць наш універсітэт. Адбудзецца гэта не раней, чым праз месяц. Але, самі разумееце, рыхтавацца трэба ўжо сёння. Акадэмічныя і даследчыя лабараторыі вашай кафедры будуць абавязковым элементам маршруту высокага госця. Паклапаціцеся, каб у яго засталіся аб іх і аб супрацоўніках самыя добрыя ўспаміны.

– З задавальненнем гэтым займуся. Толькі мэбля ў мяне на кафедры стараватая, і цяжка будзе засланяць яе ад вачэй высокага госця. Добра было б, каб гаспадарчая частка мне крыху дапамагла.

Мне здалося, рэктар нават узрадаваўся маёй просьбе. Націснуў клавішу новага селектара і загадаў прарэктару па адміністратыўна-гаспадарчай працы зайсці да мяне і ў межах магчымага дапамагчы.

З гэтага дня ў мяне ўсталяваліся з Уладзімірам Аляксеевічам Белым не проста добрыя, а нават сяброўскія адносіны. Яны працягваліся і пасля таго, як яго накіравалі на іншую працу, а ў БДУ ў 1983 годзе прыйшоў новы рэктар – акадэмік Леанід Іванавіч Кісялеўскі. Вяршыняй нашага рацыянальнага ўзаемаразумення стаў 1981 год, калі ўніверсітэт адзначаў сваё 60-годдзе. Тады Уладзімір Аляксеевіч, памятаючы мой упарты характар, папярэдне прынёс мне мноства прабачэнняў і папрасіў заняцца «непрафесарскай справай» – арганізаваць выставу «60 гадоў БДУ» ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры на вуліцы Янкі Купалы. Я пагадзіўся, а ён пасля гэтага дадаў: тады я абавязкова дамагуся, каб вам прысвоілі званне заслужанага.

Я арганізаваў юбілейную выставу. Дарэчы, справа гэтая мяне захапіла і дазволіла лепей спазнаць гісторыю БДУ. Рэктар выканаў сваё абяцанне: дамогся таго, каб у 1982 годзе мне было прысвоенае званне «Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР».

Добрае стаўленне рэктара да мяне пазітыўна адбівалася і на справах кафедры. Мы ўсе адчувалі радасць, калі рабілі яму нешта прыемнае. Удалося небанальным чынам 8 чэрвеня 1982 года павіншаваць Уладзіміра Аляксеевіча з 60-годдзем. Незадоўга да гэтага рэктар, даведаўшыся пра адно з маіх тагачасных захапленняў – збіранне гульнявых картаў –




*Узоры гульнявых картаў, якімі кафедра ядзернай фізікі ўзнагародзіла рэктара, акадэміка Уладзіміра Аляксеевіча Белага ў сувязі з 60-годдзем. Усе тузы ў калодзе – Белыя!*



*1978 год. Першы сакратар ЦК КПБ П.М. Машэраў на кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі БДУ. Справа ад яго рэктар, акадэмік У.А. Белы, прафесар С.С. Шушкевіч, прафесар У.Р. Барышэўскі, прарэктар У.Р. Івашын, злева – дэкан фізфака дацэнт І.П. Зяцькоў*

прывёз мне з замежжа сувенір – арыгінальную калоду картаў круглай формы. Вырашылі «выбіваць клін клінам» – зрабіць спецыяльна для яго калоду таксама круглых «універсітэцкіх» картаў, у якой усе тузы – з партрэтамі Белага, а каралі, дамы і валеты – універсітэцкая эліта. Караб для картаў таксама ўяўляў з сябе партрэт У.А. Белага ў атачэнні партрэтаў кіраўніцтва ўніверсітэта, за імі – дробненькія партрэты супрацоўнікаў кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Агульная колькасць асобаў на карабе – 60 – сімвалізавала юбілейную дату. Падарунак юбіляру спадабаўся, падставы ўспамінаць складаныя ў мінулым адносіны адпалі.

Але вернемся да візіту П.М. Машэрава.

Да Пятра Міронавіча немагчыма было ставіцца раўнадушна. Ён ні на каго не наганяў страху, умеў усім спадабацца. Яго не баяліся, а паважалі. У лабараторыях кафедры высокі госць задаваў змястоўныя пытанні, адчувалася, што вайна, партызанскі атрад, якім ён камандаваў, камсамольская і партыйная праца не сцёрлі ў яго памяці тое, што даў яму фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Уважліва выслухоўваў адказы. Не перабіваў, не спыняў адказчыка.

І не было для супрацоўнікаў кафедры больш змрочнага і жалобнага дня, чым 4 кастрычніка 1980 года, калі праз нейкі год пасля візіту ў БДУ Пётр Міронавіч Машэраў загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Параўнальных з ім кіраўнікоў Беларускай ССР ні да яго, ні пасля не было.

* * *

У новым тысячагоддзі ў жоўтай і жаўтаватай прэсе выключную абаяльнасць Машэрава пачалі звязваць з тым, што яго прапрадзед быў французам. У сапраўднасці так і было: шараговец напалеонаўскай арміі Машэра быў паранены, адстаў ад сваёй вайсковай часткі і застаўся у Беларусі. Аднак я не думаю, каб адна шаснаццатая доля французскай крыві стала вызначальнай для нараджэнца Віцебшчыны (Сенненскі раён) П.М. Машэрава.

## Цяга да падарожжаў

Мае ўніверсітэцкія калегі не прапускалі магчымасці пажартаваць не толькі з нагоды навучання студэнтаў-лівійцаў. Падставаў для жартаў было мноства. Напрыклад, заява на вучоным савеце аднаго прафесара-матэматыка:

– Ты мне прабач, Шушкевіч, але толькі на тваю кафедру набываюцца ва ўніверсітэце спальныя мяхі для навуковых даследаванняў у галіне ядзернай фізікі.

Помніцца, у адказ я не пажартаваў, адказаў сур'ёзна:

– Так, паважаныя чальцы савета. Набываюцца і спальнікі, і курткі, і энцэфаліткі, і спецыяльны абутак, і іншы рыштунак для навуковых экспедыцый, нават альпінісцкі рыштунак. Усё прадугледжана бюджэтам дамоваў і аплочваецца заказчыкамі. Мяне вы маеце права папракнуць толькі за тое, што ў загадчыка лабараторыі кафедры ядзернай фізікі Аляксандра Іванавіча Тузіна добрае сэрца і пакладзісты характар, і ён пазычае тое-сёе з рыштунку прадстаўнікам іншых падраздзяленняў і кафедраў, у якіх ніякія экспедыцыі не прадугледжаныя.

Неаднойчы мы сутыкаліся з тым, што ўтрымаць у якасці супрацоўнікаў кафедры маладых таленавітых людзей без навуковай ступені было цяжка. На вытворчасці, куды іх бралі з вялікай ахвотай, яны маглі зарабіць значна болей. А нам без іх было даволі рызыкоўна брацца за працу, якую трэба рабіць хутка і на належным узроўні. Самыя заўзятыя выканаўцы такіх працаў – каманда ўчарашніх выпускнікоў на чале з дасведчаным навуковым кіраўніком, звычайна – штатным выкладчыкам кафедры.

Чаго мы толькі ні прыдумвалі, каб на кафедры працавалі маладыя таленавітыя людзі! Усведамляючы, што студэнты – магутная сіла, калі плаціць ім паўстаўкі, мы рабілі дагаворны бюджэт на 70-80% паўставачным. Часам аддача асобных студэнтаў была суразмернай з аддачай штатнага супрацоўніка на поўнай стаўцы. Шукалі дамовы, паспя-



*1974 год.*
*У экспедыцыі на дызель-электраходзе «Савецкі Саюз». Рэйс Уладзівасток–Петрапаўлаўск-Камчацкі*

ховае выкананне якіх дазваляла камусьці з выканаўцаў падрыхтаваць і абараніць кандыдацкую дысертацыю. Нарэшце, выконвалі працы для вельмі далёкіх заказчыкаў – вулканолагаў Камчаткі, арганізацый Уладзівастока, Душанбэ, Тбілісі, Томска, Усолля-Сібірскага, Казані. Паездкі для наладкі на месцы распрацаваных намі даследчых установак і апаратуры былі ўлюбёнай справай усіх, асабліва маладых супрацоўнікаў, аспірантаў і студэнтаў.

Многа гадоў кафедра супрацоўнічала з геаграфічным факультэтам Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (МДУ), пасылаючы ў экспедыцыі МДУ ў Прымор'е выкладчыкаў, супрацоўнікаў, студэнтаў. Не абышлося і без стратаў: пяцёра ўдзельнікаў такіх экспедыцый пераехалі на працу ва Уладзівасток. Некаторыя з іх хадзілі пазней на даследчых караблях у экзатычныя экватарыяльныя краіны. Шукалі (і знаходзілі!) трапічныя расліны і водарасці для фармакалогіі і многае іншае.

Адметную і выключна станоўчую ролю ва ўсіх згаданых кафедральных справах адыграў дацэнт Аляксандр Міхайлавіч Люцко, альбо проста Саша, якога менавіта так называлі паміж сабой выкладчыкі і нават студэнты. Калі Саша па-сапраўднаму нечым захапляўся, усё астатняе для яго магло паблякнуць і не існаваць. Звычайна, кожнае яго захапленне ўрэшце надзяляла яго новымі годнасцямі і якасцямі. А захапленняў у яго было нямала. Пэўныя з іх адбіваліся добрым чынам і на ім, і на працы, іншыя – ускладнялі жыццё і Сашы, і супрацоўнікам. Калі праца ва ўніверсітэце пачала перашкаджаць яго захапленню альпінізмам і экстрэмальным турызмам, ён, не шкадуючы, кінуў выкладчыцкую працу, пераехаў ва Уладзівасток і дасягнуў там немалых поспехаў як навуковы супрацоўнік



*1974 год. Аляксандр Міхайлавіч Люцко ва Уладзівастоку*

Ціхаакіянскага інстытута геаграфіі (ЦІГ), дзе спалучаныя ў ім талент даследчыка і навыкі альпініста і турыста-экстрэмальшчыка прыйшліся вельмі дарэчы.

За няпоўныя 8 гадоў працы ў ЦІГ Саша надрукаваў шэраг навуковых артыкулаў, пабываў у многіх марскіх і сухаземных экспедыцыях, у найцікавейшых месцах свету. Але, урэшце, уся паўднёвая экзотыка адступіла перад яго чарговым захапленнем прыкладной ядзернай фізікай.

Аляксандр Міхайлавіч вырашыў асвоіць методыку і пабудаваць установку для вызначэння ўзросту арганічных рэчываў, замяраючы ўтрыманне ў іх радыеактыўнага вугляроду.

Усведамляючы ўсю фантастычную складанасць стварэння такога вымяральнага комплекса ў нашых умовах, я з радасцю вітаў і гэтае яго захапленне, і спалучаннае з ім жаданне вярнуцца ў Мінск на нашую кафедру. Трэба прызнаць, што ўсе мы – і выкладчыкі, і студэнты – выйгралі ад яго вяртання.

## Сахараўскі каледж

Калі адбыўся ядзерны выбух у Чарнобылі, Аляксандр Люцко апынуўся сярод найбольш запатрабаваных спецыялістаў, здольных не разважаць і заклікаць, як гэта рабіла чынавенства і партыйная наменклатура, а вымяраць, папярэджваць, раіць і браць на сябе адказнасць. Праблему Чарнобыля ён успрымаў комплексна і раней за іншых пераканаў кіраўнікоў Беларусі арганізаваць навучанне спецыялістаў па пытаннях радыяцыйнай бяспекі. Каго толькі ён ні прыцягнуў сабе ў паплечнікі! Сярод іх на першым этапе – жонка, а пасля 14 снежня 1989 года – удава акадэміка Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава Алена Бонэр, вядомыя савецкія і замежныя спецыялісты, напрыклад, прафесар Гарвардскага ўніверсітэта Рычард Уілсан. Уілсан узначаліў Міжнародны апякунчы камітэт, які заклікаў урад Беларусі стварыць у рэспубліцы вышэйшую навучальную ўстанову для падрыхтоўкі



*1989 год. Чальцы Апякунскага савета Сахараўскага коледжа з супрацоўнікамі кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі БДУ. Злева сядзіць – Аляксандр Люцко. У другім шэрагу паміж мной і прафесарам Рычардам Уілсанам – жонка акадэміка А.Дз. Сахарава Алена Бонэр*

спецыялістаў па радыяцыйнай бяспецы. Вынікам стала пастанова Савета Міністраў Беларусі ад 20 студзеня 1992 года аб стварэнні пры Беларускім дзяржаўным універсітэце Міжнароднага коледжа па радыеэкалогіі імя А.Дз. Сахарава. Пазней каледж стаў вышэйшай навучальнай установай на чале з рэктарам Аляксандрам Міхайлавічам Люцко.

Такімі былі ў савецкі час шляхі выкладчыкаў, супрацоўнікаў і выпускнікоў кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі. У час постсавецкі выпускнікоў кафедры пацягнула ў банкі



*1973 год. З Аляксандрам Люцко на Камчатцы, дзе на вулканалагічнай станцыі працавалі «нашыя» прыборы*

і фінансавыя карпарацыі, дзе яны спатрэбіліся як спрактыкаваныя праграмісты і электроншчыкі.

## Новы першы сакратар ЦК КПБ

На час рэктарства акадэміка Л.І. Кісялеўскага (1983–1990) выпалі вялікія грамадскія ўзрушэнні: агульнасаюзная антыалкагольная істэрыя, перабудова, галоснасць, Чарнобыль, Першы з'езд народных дэпутатаў СССР, ліквідацыя кіроўнай ролі КПСС. Мне давялося нямала патраціць нерваў, калі ўніверсітэт вырашыў наведаць Першы сакратар ЦК Камуністычнай Партыі БССР Мікалай Мікітавіч Слюнькоў. Вырашыў нечакана: вечарам патэлефанаваў яго памочнік і сказаў: «Заўтра ў 10.00 сустракайце».

Я, як заўсёды, доўга не пакідаў універсітэт пасля працы. Рабочы дзень прафесара не нармаваны. Пачынаўся ён у мяне ў 8 раніцы, а заканчваўся часам і ў 11 вечара. Тэлефануе рэктар, запрашае да сябе ў кабінет. Туды заходзяць тыя, хто затрымаўся, як і я, на службе, і выкліканыя з дому. Усе ўжо ведаюць аб нечаканым візіце. Маленькі перапалох... Падмесці, падчысціць, прыбраць – з гэтым проста. Дадзены загад прарэктару па адміністратыўна-гаспадарчых справах, выклікаюцца ўсе абавязаныя па службе карыстацца венікамі і швабрамі. Складаней – з універсітэцкімі справамі.

– Да вас на кафедру абавязкова прыйдзем, падрыхтуйцеся, калі ласка, самым добрасумленным чынам, – кажа мне рэктар і адпускае з тэрміновай нарады адразу ж пасля прыбіральшчыцаў і сантэхнікаў.

– Не турбуйцеся, Леанід Іванавіч, усё забяспечу.

Сказаць – сказаў, але добра разумеў, што праблемы ёсць. Слюнькоў – не проста вышэйшага рангу партыйны функцыянер і апаратчык. Ён прайшоў шлях ад інжынера да генеральнага дырэктара Мінскага трактарнага завода. З майго гледзішча гэта больш важкі фактар, чым усе яго цэкоўскія, партыйныя, дэпутацкія і дзяржпланаўскія рэгаліі. Акрамя таго – Герой сацыялістычнай працы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Згодна з нашай кафедральнай тэрміналогіяй, локшынаў яму на вушы не навесіш! Разам з тым, вельмі хацелася зрабіць добрае ўражанне і мімаходам атрымаць тое-сёе для кафедры. Слюнькоў жа раней працаваў намеснікам старшыні Дзяржплана СССР, добра ведае, адкуль бяруцца фонды на абсталяванне, а нам так не хапае сродкаў на матэрыялы і прыборы...

Аднак марам маім не суджана было збыцца. Мікалай Мікітавіч аказаўся выдатна падрыхтаваным да візіту, дэманстраваў добрае веданне праблемаў вышэйшай адукацыі, задаваў тон у гаворцы, ставіў змястоўныя пытанні і, практычна, не пакінуў месца для нашых просьбаў, тым больш аб дадатковых фондах.

– Вам і так многія зайздросцяць, а абсталяванне кафедры яскрава сведчыць, што і без мяне вы здольныя знаходзіць фонды. Працягвайце варушыць заказчыкаў дамовамі.

Прыкладна так заявіў Слюнькоў, калі я паспрабаваў заікнуцца аб фондах. Сказаў, што даследчыя і акадэмічныя лабараторыі яму спадабаліся, але больш за ўсё цешыць тое, што напісаны выкладчыкамі кафедры падручнік рэкамендаваны Міністэрствам вышэйшай адукацыі СССР для ўсіх універсітэтаў краіны. Не выключаю, што менавіта гэтая яго заява мела вызначальны ўплыў на Камітэт па Дзяржаўных прэміях, які прысудзіў аўтарам падручніка – дацэнту М.К. Яфімчыку і мне – Дзяржпрэмію БССР за 1986 год.

Быў і другі, здавалася б, пазітыўны ў адносінах да мяне вынік візіту: пасля ад'езду госця мяне запрасіў рэктар і сказаў, што М.М. Слюнькоў параіў яму прызначыць мяне прарэктарам універсітэта па навуковай працы. Рэкамендацыя Першага сакратара ЦК КПБ мела ў той час сілу загаду, і праз некалькі дзён я прыступіў да новай прарэктарскай працы.

Чаму ж рашэнне Слюнькова я лічу, «здавалася б», пазітыўным, інакш кажучы, для мяне непажаданым? Слюнькоў жа па прапанове рэктара пагадзіўся і з тым, што за мной застанецца кафедра.

Застанецца то застанецца, але я добра ведаў, што такое праца прарэктара па навуцы. Я ўжо «хадзіў у прарэктарах» у МРТІ і з-за гэтага гады на два пазней абараніў доктарскую дысертацыю. Але там была мэта – хутка атрымаць кватэру і перастаць штодзённа паліць печ, насіць ваду для прання пялюшак з вулічнай калонкі і карыстацца ўсімі «зручнасцямі» на двары. У той час кватэра для мяне была важней доктарскай.

Цяпер справа іншая. Універсітэт – гігант у параўнанні з Радыётэхнічным інстытутам. Сумленная праца на новай пасадзе наўрад ці дазволіць захаваць уласную кандыцыю ў навуцы. Займацца ўсім патроху – адміністраваннем, кафедрай, лекцыямі – не атрымаецца. Супакойвала тое, што да гэтага часу набылі навуковую сталасць мае вучні, а асобныя пайшлі далёка наперад. Наогул пад маім кіраўніцтвам паспяхова абароненыя 33 кандыдацкія дысертацыі. А на той час іх было больш за 20, і ўжо тады асобныя мае кандыдаты сталі дактарамі.

Я, вядома ж, прыстасаваўся да новай пасады. Пачаў знаходзіць і цікавае, і прыемнае ў не вельмі прывабнай адміністратыўнай справе, знаходзячы час для працы навуковай і выкладчыцкай. Але ўсё змянілася пасля тае бяды, якая звалілася на галовы людзей за сотні кіламетраў ад Мінска – ядзернай катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Прыярытэты прыйшлося пераразмеркаваць, галоўнымі на пэўны час сталі абсалютна новыя праблемы.



*1985 год. Першы сакратар ЦК КПБ М.М. Слюнькоў у лабараторыі студэнцкага практыкума кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энэргіі БДУ. У ягоных руках падручнік «Асновы радыёэлектронікі», напісаны мною сумесна з дацэнтам М. Яфімчыкам, за які ў 1986 годзе мы атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР*

У Беларусі было мала прафесіяналаў і проста адукаваных людзей, якія ўсведамлялі, што адбылося і чым гэта пагражае. Абставіны вымусілі мяне дзейнічаць па-новаму і нават сфармуляваць сваё новае жыццёвае крэда: ***перш за ўсё трэба рабіць тое, чаго нельга не рабіць!***

# V. ЧАРНОБЫЛЬ

## Як ва ўніверсітэце даведаліся пра Чарнобыль

Вестка аб сур'ёзнай аварыі на ядзерным аб'екце прыйшла на кафедру ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі фізічнага факультэта БДУ са сціплай лабараторыі студэнцкага практыкума па ядзернай фізіцы. З меркаванняў бяспекі для здароўя студэнтаў і выкладчыкаў у такіх лабараторыях выкарыстоўваюцца вельмі слабыя крыніцы радыеактыўных выпраменьванняў у спалучэнні з прыборамі высокай адчувальнасці. Правілы абыходжання з крыніцамі выпраменьванняў тут такія ж, як і ў працы з высокаактыўнымі рэчывамі. Кожная лабараторная работа – своеасаблівы трэнажор, прызначаны для набыцця навыкаў пастаноўкі ядзерна-фізічных эксперыментаў. Усё, акрамя крыніцаў радыеактыўнасці, такое ж як і ў даследчай лабараторыі: свінцовыя «цагліны» для заслоны ад выпраменьванняў, прыдатная для дэзактывацыі мэбля, а часам і спецыяльная вопратка і абутак.

І вось студэнтка паказвае выкладчыцы, якая добра ведае, што за лічбы пры вымярэнні павінны атрымацца, пратакол з вынікамі замераў. Выкладчыца з іранічнай усмешкай заўважае:

– Вы, міленькая, яшчэ раз уважліва прачытайце інструкцыю і зрабіце новыя замеры. Такія унікальныя вынікі на дадзенай устаноўцы ўдалося атрымаць толькі вам. Адшукайце, чаму замеры няправільныя, і пераканайцеся, што праўдзівыя вынікі будуць у многа разоў адрозніваецца ад вашых.

Студэнтка не з зацюканых. Інструкцыю яна прачытала, каліброўку прыбораў зрабіла, перамерала яшчэ раз, атрымала амаль такія самыя вынікі вымярэнняў. Ёй не хочацца выглядаць недасведчанай і пагадзіцца з папрокамі выкладчыцы.

– Калі вы сумняваецеся ў маёй дасведчанасці, то падыдзіце, калі ласка, да ўстаноўкі і пераканайцеся, што я маю рацыю.

Праз некалькі хвілінаў выкладчыца, лабарант, іншыя студэнты, што былі на занятках у лабараторыі, пераконваюцца: высокаадчувальныя дэтэктары для вымярэння радыеактыўнага выпраменьвання рэгіструюць анамальна высокі радыеактыўны фон. Для выкладчыцы стан рэчаў робіцца зразумелым – недзе адбыўся некантраляваны выкід радыеактыўнасці. Па нашых перакананнях таго часу, нікому і ў галаву не магло прыйсці, што выкід адбыўся за сотні кіламетраў ад Мінска.

Вецер паўднёвы. Найбольш імаверна, што аварыя адбылася ў Соснах – на даследчым рэактары Інстытута ядзернай энергетыкі (ІЯЭ). Тэлефануем у Сосны. Адказваюць: таксама рэгіструем фон, але ў нас ніякага выкіду не было. Крыніца недзе на поўдні. І ў ІЯЭ ў Соснах, і ў нас ва ўніверсітэце ўключаем усе наяўныя прыборы для аналізу спектраў выпраменьвання. Высвятляем: высокі радыеактыўны фон абумоўлены пераважна ёдам-131 і цэзіем-137. Тым, хто хоць трохі арыентуецца ў пачатках ядзернай энергетыкі, зразумела: адбыліся разгерметызацыя ядзернага рэактара і частковы выкід радыеактыўных рэчываў. Каля Мінска ядзерных рэактараў няма. Вецер паўднёвы. Там, адкуль ён дзьме, толькі Чарнобыльская АЭС.

Так да афіцыйнага паведамлення аб аварыі мы вылічылі яе месца і сутнасць, зразумелі, што аварыя сур'ёзная, але не маглі нават падумаць, што адбылася катастрофа глабальнага маштабу. Не выкід, а сапраўдны ядзерны выбух.

Поўная назва – кафедра ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі – ужывалася рэдка, часцей – кафедра ядзернай фізікі або проста КЯФ. Па спецыялізацыях «ядзерная фізіка» і «ядзерная электроніка», якія забяспечваліся КЯФ, усе віды навучання праводзіліся ў будынках універсітэта. Спецыялізацыю «ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі» забяспечвалі пераважна супрацоўнікі ІЯЭ АН БССР у Соснах. Менавіта там, у Соснах, за 14 кіламетраў ад БДУ (7 км ад кружной дарогі) праходзілі ўсе віды заняткаў студэнтаў 4-5 курсаў па гэтай спецыялізацыі – ад лекцый да даследаванняў на рэактары.



*1993 год. З М.С. Гарбачовым на Фольксвагене*

У лекцыйных курсах для ўсіх студэнтаў КЯФ разглядаліся пытанні ядзернай бяспекі, дэталёва аналізаваліся нечаканыя здарэнні і аварыі ў ядзернай энергетыцы, у тым ліку такія, як аварыя на амерыканскай АЭС «Three Mile Island» у 1979 годзе.

Як дзейнічаць у выпадках непрадбачаных выкідаў радыеактыўных рэчываў, было дэталёва даведзена не толькі да студэнтаў-ядзершчыкаў, супрацоўнікаў службаў і лабараторый ядзернага профілю, але і гаварылася ў інструкцыях штабоў грамадзянскай абароны (ГА) на ўсёй тэрыторыі СССР. Калі ж узарваўся 4-ты рэактар Чарнобыльскай АЭС, інструкцый штабоў ГА ніхто не кранаў, чакалі загадаў улады, дакладней, указанняў кіраўніцтва КПСС. Указанняў не было. Кіраваліся стандартным – ніякай панікі!

Не толькі дарослых, дзяцей выводзілі на святочныя шэсці і дэманстрацыі. А дзіцячая шчытавідная залоза ў дзесяць разоў меншая за залозу дарослага чалавека, і менавіта ў ёй канцэнтруецца радыеактыўны ёд-131, падвяргаючы гэты маленькі і вельмі важны орган высокай радыяцыйнай нагрузцы. Пры гэтым рэзка ўзрастае імавернасць захворвання ракам шчытавіднай залозы, што пасля і пацвердзілася.

## Чарнобыль і Гарбачоў

Нарэшце з'явіліся найвышэйшыя ўказанні і рэкамендацыі. Па ўсесаюзным тэлебачанні выступіў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. Яго выступ надрукавала газета «Праўда» ад 15 траўня 1986 года. Да гэтага выступу ён быў маім кумірам. З 1984 года я абагаўляў яго як кіраўніка дзяржавы і лідэра партыі. Ён прыемна ўразіў мяне на трансляванай па тэлебачанні на ўвесь Саюз прэс-канферэнцыі, калі без паперкі выступіў і адказваў на пытанні савецкіх і замежных журналістаў. За маё жыццё гэта быў першы Генеральны сакратар ЦК КПСС, які так сябе паводзіў. І гэта, калі на ўсіх узроўнях палітасветы нам працягвалі ўбіваць у галаву, што на вышэйшым дзяржаўным узроўні абавязкова павінен быць загадзя падрыхтаваны тэкст. Такое, на жаль, абавязковае патрабаванне пратакола!

І вось мой кумір – Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў – выступае па тэлебачанні ў траўні 1986 года.

Прабачце мне, дарагі чытач, за цытаты з яго выступу на мове арыгінала – рускай. Мой пераклад можа змікшаваць крывадушша выступоўцы.

*«Добрый вечер, товарищи! Все вы знаете, недавно нас постигла беда – авария на Чернобыльской атомной электростанции. Она больно затронула советских людей, взволновала международную общественность. Мы впервые реально столкнулись с такой грозной силой, какой является ядерная энергия, вышедшая из-под контроля.»*

Далей – праца, па сутнасці, вядзецца 24 гадзіны ў суткі, у яе ўключаныя літаральна ўсе партыйныя, савецкія, гаспадарчыя і іншыя органы.

*«Что же произошло? Как докладывают специалисты, в период планового вывода из работы четвертого блока мощности реактора внезапно возросли. Значительное выделение пара и последовавшая затем реакция привели к образованию водорода, его взрыву, разрушению реактора и связанному с этим радиоактивному выбросу.»*

Гэта хлусня, бо адбыўся ядзерны выбух.

*«Как только мы получили надежную первоначальную информацию, она стала достоянием советских людей, была направлена по дипломатическим каналам правительствам зарубежных стран.»*

І гэта хлусня, паколькі праўдзівая інфармацыя утойвалася і прыхарошвалася.

Далей у выступе гаварылася аб намаганнях па змяншэнні непажаданых наступстваў аварыі, аб арганізацыі бяспекі насельніцтва, аб эвакуацыі, аб загінулых, аб тым, што 299 чалавек змешчаныя ў шпіталь з дыягназам прамянёвая хвароба, аб прыцягненні лепшых навуковых і медыцынскіх сілаў, а таксама сучасных медыцынскіх сродкаў для дапамогі пацярпелым.

*«От имени ЦК КПСС и Советского правительства выражаю глубокое сочувствие семьям, родственникам погибших, трудовым коллективам, всем, кто пострадал от этой беды, кого постигло личное горе. Советское правительство позаботится о семьях погибших и пострадавших.»*

Далей – пра многае, аднак ні слова аб тым, што можна і чаго нельга рабіць людзям. Але: *«С полным основанием могу сказать – при всей тяжести случившегося ущерб оказался ограниченным в решающей мере благодаря мужеству и мастерству наших людей»*.

А яшчэ далей, як у рамане «Дванаццаць крэслаў», Астапа панесла:

*«Но нельзя оставить без внимания и политической оценки и то, как встретили событие в Чернобыле правительства, политические деятели, средства массовой информации некоторых стран НАТО, особенно США. Они развернули разнузданную антисоветскую кампанию. О чем только ни говорилось и ни писалось в эти дни... В общем, мы столкнулись с настоящим нагромождением лжи – самой бессовестной и злопыхательской. И хотя неприятно упоминать обо всем этом, но надо. Надо, чтобы международная общественность знала, с чем нам пришлось столкнуться. Надо для того, чтобы ответить на вопрос: чем же на самом деле была продиктована эта в высшей степени аморальная кампания? Её организаторов, конечно же, не интересовали ни истинная информация об аварии, ни судьбы людей в Чернобыле, на Украине, в Белоруссии, в любом другом месте, любой другой стране. Им нужен был повод для того, чтобы, уцепившись за него, попытаться опорочить Советский Союз, его внешнюю политику,*

*ослабить воздействие советских предложений по прекращению ядерных испытаний, по ликвидации ядерного оружия и одновременно смягчить растущую критику поведения США на международной арене, их милитаристского курса».*

Пасля – цэбар бруду на краіны «сямёркі», кіраўнікі якіх сабраліся ў Токіо.

*«О чем поведали они миру, о каких опасностях предупредили человечество? О Ливии, бездоказательно обвиненной в терроризме, а еще о том, что Советский Союз, оказывается, «недодал» им информации об аварии в Чернобыле. И ни слова о самом главном: как прекратить гонку вооружений, как избавить мир от ядерной угрозы. Ни слова в ответ на советские инициативы, на наши конкретные предложения о прекращении ядерных испытаний, избавлении человечества от ядерного и химического оружия, сокращении обычных вооружений.*

*Как все это понимать? Невольно складывается впечатление, что лидеры капиталистических держав, собравшиеся в Токио, хотели использовать Чернобыль как повод для того, чтобы отвлечь внимание мировой общественности от этих не удобных для них, но таких реальных и важных для всего мира проблем.*

*Авария на Чернобыльской станции, реакция на нее стали своего рода проверкой политической морали. Еще раз обнажились два разных подхода, две разные линии поведения.*



*1996 год, Сеул. Міхаіл Гарбачоў, Эдвард Хіт, Ірына Шушкевіч, Станіслаў Шушкевіч. Тут Гарбачоў гаварыў пра Чарнобыль зусім не тое, што ў траўні 1986-га*

*Правящие круги США и их наиболее усердные союзники – среди них я бы особо отметил ФРГ – усмотрели в происшествии лишь очередную возможность поставить дополнительные преграды на пути развития и углубления и без того трудно идущего диалога между Востоком и Западом, оправдать гонку ядерных вооружений. Мало того, была сделана попытка вообще доказать миру, что переговоры, тем более соглашения с СССР, невозможны, и дать тем самым «зеленый свет» дальнейшим военным приготовлениям...*

*Это еще больше укрепило нас в убеждении, что внешнеполитический курс, выработанный XXVII съездом КПСС, верен, что наши предложения о полной ликвидации ядерного оружия, прекращении ядерных взрывов, создании всеобъемлющей системы международной безопасности отвечают тем неумолимо строгим требованиям, которые предъявляет к политическому руководству всех стран ядерный век».*

Сёння, думаю, сорамна чытаць гэта і самому Гарбачову, які стаў вялікім змагаром за чалавечнасць, гуманізм і экалогію. Але тады ён быў перш за ўсё камуністам, і здароўе дзяцей, што дыхалі радыеактыўным ёдам, было для яго менш важным, чым інтарэсы КПСС, якая заўсёды мела рацыю і ніколі ні ў чым не была вінаватай.

Навуковыя кансультанты Гарбачова, дарадцы па ядзерных пытаннях – акадэмікі Анатоль Пятровіч Аляксандраў і Валерый Аляксеевіч Лягасаў – яны даўно там, у Чарнобылі. Шукаюць шляхі мінімізацыі негатыўных наступстваў катастрофы. Яны, сапраўдныя вучоныя сусветнага ўзроўню, не маглі яму раіць гаварыць такое. Значыць, і ён не адрозніваецца ў галоўным ад сваіх папярэднікаў на пасадзе Генеральнага сакратара: Хрушчова, Брэжнева, Андропава, Чарненкі. Усе яны – найперш камуністы, для якіх інтарэсы партыі ў тлумачэнні, напрыклад, Суслава і яму падобных вышэй за ўсё. Любую падзею яны стараліся выкарыстаць у палітычных мэтах, каб асудзіцьь подлых акулаў капіталізму, ЗША, НАТО, ФРГ, прапагандуючы такім чынам камуністычную ідэалогію. Пасля ўжо можа праслізнуць і нешта чалавечае: пачуцці, імкненні, гора, патрэбы. А можа і не праслізнуць.

Сутнасць выступу Гарбачова, тэкст якога разам з яго фотаздымкам заняў усю першую старонку газеты «Правда», падавалася коратка: *«Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў выступіў па тэлебачанні са зваротам да савецкага народу. У разгорнутым выступе ён расказаў аб наступствах катастрофы, заверыў грамадзянаў, што ліквідацыя наступстваў аварыі ідзе па плане»*. І ўсё!

Большасць маіх родных і блізкіх недалюблівалі чальцоў Палітбюро ЦК КПСС, асабліва старцаў, якія згубілі здольнасць эфектыўна працаваць. У значнай ступені такія ж адносіны былі і да партыйных іерархаў больш нізкага ўзроўню. Але толькі ў вузкім коле расказваліся пра іх показкі і смешныя гісторыі, дзе ім адводзілася роля самазадаволеных прыдуркаў.

Былі і выняткі з правіла. На маю думку, большасць беларусаў паважалі і нават любілі Кірыла Трафімавіча Мазурава, Пятра Міронавіча Машэрава, а беларускія інтэлігенты – і Ціхана Якаўлевіча Кісялёва. Першыя ўмелі сябе добра падаць, па сучаснай тэрміналогіі – валодалі мастацтвам піяру. Апошні быў удумлівым і нават мудрым працаголікам, пра што ведалі не толькі людзі з яго бліжэйшага атачэння. З саюзных лідэраў многім падабаўся Старшыня Савета Міністраў СССР Мікалай Іванавіч Рыжкоў – таксама працаголік, былы дырэктар сусветна вядомага Уралмаша.

Але вернемся да Чарнобыля.

## Злачынцы і без віны вінаватыя

На вялікі жаль, нашчадкі савецкага чынавенства і партыйнай наменклатуры ў звязцы з дужа актыўнымі, але не заўжды кампетэнтнымі змагарамі-эколагамі, не перашкодзілі таму, каб даволі шырока распаўсюдзілася меркаванне, што вінаватымі за чарнобыльскі выбух з'яўляюцца навукоўцы, а не камуністычныя метады эксплуатацыі рэактара, як устанавілі эксперты.

А лёс гэтых згаданых мною навукоўцаў – прыклад амаральных адносінаў грамадства з камуністычнай ментальнасцю да заслужаных, бязмерна таленавітых і высокамаральных людзей, іх асуджэнне за тое, што іх тварэнне стала крыніцай зла, хоць і не па іх віне.

Ахвярамі катастрофы сталі А. Аляксандраў і В. Лягасаў.

У жніўні 1986 года на канферэнцыі МАГАТЭ ў Вене Лягасаў выступіў з дакладам, дзе прааналізаваў прычыны аварыі на ЧАЭС



*А.П. Аляксандраў*



*В.А. Лягасаў*

і радыелагічныя наступствы катастрофы. Многія лічаць – ён быў звышпатрабавальны да сябе і адшукаў сваю долю віны ў Чарнобыльскай катастрофе. 27 красавіка 1988 года, на другія ўгодкі аварыі, яго знайшлі павешаным у сваім кабінеце. Перад смерцю ён запісаў на дыктафон расказ аб малавядомых фактах Чарнобыльскай катастрофы. Не выключаецца, што частка паслання была кімсьці наўмысна сцёртая.

Прэзідэнт Расіі Ельцын 20 верасня 1996 года прысвоіў Лягасаву (пасмяротна) званне Герой Расіі – за адвагу і гераізм, праяўленыя пры ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Акадэмік Аляксандраў памёр у 1994 годзе і пахаваны ў Маскве. А нарадзіўся ён на хутары Млынок каля сяла Вепрык на Кіеўшчыне. Яго стогадовы юбілей у 2003 годзе ніхто ва Украіне не заўважыў. Аб юбілеі тройчы Героя сацыялістычнай працы, прэзідэнта Акадэміі навук СССР, узнагароджанага шасцю ардэнамі Леніна, лаўрэата Ленінскай і чатырох Дзяржаўных прэмій, нарэшце, вялікага вучонага – аднаго з заснавальнікаў ядзернай энергетыкі – не ўспомнілі і ў Расіі.

Імя акадэміка Аляксандрава зрабілі ва Украіне сінонімам бяздушнага і некампетэнтнага савецкага таталітарнага рэжыма, а яго самога – галоўным вінаватым і адказным за Чарнобыльскую катастрофу. Новая Украіна фактычна адраклася ад свайго выдатнага сына, а на пэўны час і ад ядзернай энергетыкі. Быў накладзены мараторый на дабудову блокаў на Ровенскай і Хмяльніцкай АЭС, які цягнуўся 15 гадоў. Пазней блокі дабудавалі. Украіна страціла на маратрыі не менш за 2 млрд. даляраў ЗША.

Але ці была ў аварыі на ЧАЭС непасрэдная віна акадэміка Аляксандрава? Кампетэнтныя эксперты – аўтары афіцыйнага дакумента аб прычынах катастрофы – так не лічаць.

## Фукусіма і Чарнобыль

Наступствы найвялікшага ў гісторыі Японіі разбуральнага землятрусу і цунамі 11 сакавіка 2011 года, якія сталі прычынай буйнейшай аварыі на японскай АЭС «Фукусіма-1», спрыялі рашучаму ўзмацненню супрацьстаяння ядзернай энергетыцы ў свеце. Бадай, не менш, чым катастрофа на ЧАЭС.

З'явілася нямала заяваў грамадскіх арганізацый і ўплывовых палітычных дзеячоў аб тым, што ўсе без вынятку атамныя электрастанцыі – патэнцыяльныя крыніцы небяспекі для ўсяго чалавецтва. Як адзін з доказаў, прыгадвалася аварыя яшчэ 1979 года на АЭС Three Mile Island, калі для змяншэння рызыкі наступстваў былі эвакуяваныя 140 тысячаў чалавек, што жылі на суседняй з АЭС тэрыторыі.

Аварыя на Фукусіме сапраўды нагадвае катастрофу на амерыканскай Three Mile Island у 1979 годзе. Рамонт аварыйных насосаў прывёў там да спынення дзеяння сістэмы ахаладжэння рэактара. Пачаўся перагрэў цеплавыдзяляльных зборак, выдзяленне радыеактыўнай пары і вадарода, які мог спарадзіць выбух, але трагічных наступстваў удалося пазбегнуць.

Серыю выбухаў і пажараў на АЭС «Фукусіма-1» пачалі параўноўваць з катастрофай на ЧАЭС. Супярэчлівыя погляды аб ступені небяспекі пачалі выдаваць за спробу ізноў утаіць ад сусветнай грамадскасці страшную праўду. Аднак эксперты адразу сышліся ў прагнозах і заявілі: пры самым неспрыяльным развіцці падзеяў паўтарэння чарнобыльскага варыянту ў Японіі ўдасца пазбегнуць. Што і пацвердзілася. Спраўдзілася і тое, што частковае разбурэнне канструкцый АЭС, выкіды радыеактыўнасці ў атмасферу і павышэнне радыеактыўнага фону ў пацярпелым ад землятрусу рэгіёне непараўнальна меншыя, чым такія ж наступствы катастрофы на ЧАЭС. Не былі абгрунтаваныя і не абапіраліся на факты заявы аб пагрозе ядзернага выбуху.

Чым жа падобныя і чым адрозніваюцца Чарнобыльская і Фукусімская катастрофы? Адна і другая АЭС – станцыі аднаго пакалення. «Фукусіма-1» функцыянуе з 1971 года, ЧАЭС з 1977-га. Электрычная магутнасць ЧАЭС – 3800 МВт, японскай АЭС – 9000 МВт, г.зн. у 2,4 разы болей. На «Фукусіма-1» і «Фукусіма-2» (размяшчаецца праз 11 км на поўдзень) разам 10 энергаблокаў. Савецкая станцыя папрацавала да катастрофы 9 гадоў, японская – 40. Станцыі маюць шэраг тэхналагічных адрозненняў. На Фукусіме выкарыстоўваюцца кіпеневыя водныя рэактары BWR (Boiling Water Reactor) вытворчасці General Electric. Раней яны ніколі не былі прычынай маштабных аварый і лічацца найбольш бяспечнымі ў атамнай энергетыцы. ЧАЭС працуе на рэактарах РБМК-1000 («Реактор большой мощности канальный»). Хібы яго канструкцыі самі па сабе не сталі прычынай аварыі. Да выбуху прывялі грубейшыя памылкі персаналу. Тым не менш, на японскай АЭС прадугледжаны дадатковы ўзровень бяспекі – герметычная абалонка рэактарнай залы.

Ланцуговая ядзерная рэакцыя ў Чарнобылі запавольваецца графітавымі стрыжнямі, у Фукусіме – звычайнай вадой. Пераграванне і выпарванне графітавых стрыжняў на ЧАЭС прывялі да пажару ў рэактары. «Вадзяная канструкцыя» (ў Японіі) таксама не ідэальная, аднак, сыходзячая ад яе пагроза ў сотні разоў меншая, чым ад РБМК-1000.

Прычыны выбухаў на АЭС розныя. У Чарнобылі сітуацыя перастала быць кантраляванай падчас выпрабавання дадатковай сістэмы аварыйнага энергазабеспячэння. З выяўленымі пры праверцы недахопамі персанал справіцца не змог. Да выбуху ў Японіі

прыняла стыхія. Землятрус перавёў «Фукусіму» ў аварыйны рэжым. Цунамі – небывалай вышыні хваля – пераадолела ўсе ахоўныя дамбы, затапіла дызель-генератары і зруйнавала аварыйнае энергазабеспячэнне насосаў, што качаюць ваду ў рэактар. Сістэма ахаладжэння была парушаная, паліўныя стрыжні пачалі пераграваецца і плавіцца. У канструкцыі BWR прадугледжанае поўнае спыненне ядзернай рэакцыі шляхам выкарыстання вады, насычанай борам. Але ўласная незалежная сістэма энергазабеспячэння ў выніку затаплення хваляй перастала функцыяваць і зрабіла сітуацыю на станцыі напружанай. Неабходную для ахалоджвання і спынення ядзернай рэакцыі вадкасць пачалі дастаўляць верталётамі. Вялікі радыяцыйны фон скоўваў эфектыўнасць гэтай працэдуры і не дазволіў цалкам прадухіліць выбухі.

Чарнобыльскія выбухі мелі мала агульнага з японскімі. Яны прагучалі менш чым праз хвіліну пасля сігналу трывогі. На «Фукусіме» першы выбух здарыўся праз суткі пасля пераводу АЭС у аварыйны рэжым. Да гэтага часу рэактар быў адключаны, а насельніцтва эвакуяванае з небяспечнай зоны. Выбух на ЧАЭС справядліва параўноўваецца з выбухам атамнай бомбы – у атмасферу былі выкінутыя тоны радыеактыўных рэчываў. Японскі інцыдэнт прывёў да заражэння ў тысячы разоў меншага. Прэтэнзіі да японскіх уладаў з нагоды адсутнасці неабходнага аб'ёму даступнай інфармацыі беспадстаўныя і абсалютна непараўнальныя са спробамі савецкага кіраўніцтва замаўчаць праўду аб рэальных маштабах Чарнобыльскай катастрофы. Токіо, бясспрэчна, праводзіў палітыку ўціхамірвання грамадзянаў. Кіраўнікі дзяржавы і эксперты імкнуліся не драматызаваць сітуацыю і не прыспешваць панічныя настроі сярод насельніцтва. У адрозненне ад Міхаіла Гарбачова, які ў сваім выступе спрабаваў аслабіць грамадскую пільнасць, прэм'ер-міністр Японіі Наото Кан наўпрост заявіў: тое, што здарылася, – самая страшная катастрофа для краіны з часоў Другой сусветнай вайны. Такійская энергетычная кампанія (TEPCO), якая эксплуатавала «Фукусіму-1», таксама не ўтойвала праўды.

Японцы своечасова эвакуявалі насельніцтва ў радыусе 20 км вакол «Фукусімы», папярэдзілі аб павышэнні ўзроўню радыяцыі ў краіне. Для параўнання: улады СССР толькі на наступны пасля аварыі дзень пачалі эвакуацыю насельніцтва, што жыло побач з АЭС. Толькі праз двое сутак пасля аварыі на ЧАЭС, калі вецер прынёс радыяцыю ў Скандынавію, пачалося паступовае раскрыццё інфармацыі аб катастрофе. Краіна Саветаў традыцыйна не клапацілася аб здароўі сваіх грамадзянаў. 1 траўня 1986 года жыхары беларускіх і ўкраінскіх гарадоў выйшлі на святочныя дэманстрацыі, не маючы ніякага папярэджання аб магчымай небяспецы.

* * *

Паўгода спецыяльная парламенцкая камісія Японіі высвятляла прычыны катастрофы на АЭС «Фукусіма-1» і 5 ліпеня 2012 года апублікавала свой выніковы даклад. Асноўнай прычынай здарэння прызнаны чалавечы фактар. Абвінавачанні адрасаваныя ўраду краіны, органам нагляду за ядзернай энергетыкай, кампаніі-аператару станцыі ТЕРСО. На думку аўтараў даклада, усе яны дзейнічалі безадказна, з-за чаго «панеслі страты людзі і грамадства».

Заўважу, што парламент Савецкага Саюза – Вярхоўны Савет СССР – нават не стварыў парламенцкую камісію для даследавання прычынаў катастрофы на ЧАЭС.

# VI. У МАСКВУ, ДА ЎЛАДАЎ

## Маўзалей і Крэмль

Савецкі чалавек, які не імкнуўся наведаць маўзалей Леніна, па меншай меры, выклікаў падазрэнне. Мяне ж у маўзалей не цягнула, хоць вянкі да яго ўскладаў і да цела правадыра па сходах спускаўся, калі нас, прарэктараў па навуковай працы вядучых універсітэтаў СССР, штогод збіралі ў Маскве, дзе мы атрымоўвалі наказы як працаваць далей. Спачатку вядучымі лічыліся ВНУ з 8-мю і меней студэнтамі на аднаго выкладчыка, калі ж я прабіўся ў прарэктары, слова «вядучы» ніякіх перавагаў не давала і служыла пахвалой ВНУ з боку міністэрства.

Важным складнікам павышэння прарэктарскай кваліфікацыі і палітычнай свядомасці лічылася калектыўнае наведванне маўзалея. Тады мы мелі пэўныя прывілеі. Не трэба было стаяць у даўжэзнай чарзе. Для калектыўных наведвальнікаў па загадзя пададзенай заяве была свая, больш кароткая, чарга. Аб ухіленні ад наведвання не магло быць і гаворкі: лічылася б антысавецкім дэмаршам.



*1986 год. Прарэктары ўніверсітэтаў СССР у чарзе да маўзалея Леніна. Я таксама тут – перадапошні з левага краю*

Наведаць Крэмль я, наадварот, хацеў, але рэалізаваць сваё жаданне было цяжка. І вось у траўні 1987 года мяне, як старшыню Мінскай гарадской арганізацыі, абралі дэлегатам IX з'езда таварыства «Веды», і маё жаданне здзейснілася.

Быць старшынёй гарадской арганізацыі – справа ганаровая і нескладаная. Грамадская праца такога кшталту не патрабавала вялікіх затратаў часу. Амаль усе пытанні вырашаліся па тэлефоне. На рагу вуліцаў Камсамольская і Маркса ў мяне быў кабінет, прыёмная, сакратарка і шыльда з маім прозвішчам на дзвярах. Бываў я там рэдка і нядоўга – гадзіну-другую на тыдзень. Усю працу вяла мая намесніца – былая сакратарка райкама. На штатнай аплатнай пасадзе яна сядзела ў «маім» кабінеце, на «маім» крэсле і камандавала «маёй» сакратаркай. Сябры праўлення – пераважна ветэраны і былыя выкладчыкі грамадскіх навук – збіраліся тут раз у тры месяцы і ўхвалялі «маю» працу, зробленую маёй намесніцай. Толькі два-тры разы мая намесніца была не ў стане стрымаць атаку лектараў-марксістаў, якія жадалі павелічэння квоты чытаных імі ганарарных лекцый. Яна тэлефанавала мне і прасіла дапамагчы. Я даручаў ёй інфармаваць лектараў аб часе майго чарговага наведвання ў «свой» кабінет і запрасіць іх да мяне. Калі прыходзілі, тлумачыў, што яны добрыя лектары, але, на жаль, ёсць невырашальныя праблемы з грашыма. Прасіў прачытаць дзве-тры безганарарныя лекцыі, як гэта робяць іншыя, у тым ліку і я. Гарачыя пачуцці ўтаймоўваліся, і мы мірна разыходзіліся.

IX з'езд таварыства «Веды» праходзіў у Гранавітай палаце Крамля. Акрамя стандартных заклікаў накшталт «несці веды ў масы», «даеш перабудову», «сканцэнтраваць намаганні», «палепшыць, пашырыць, усебакова заахвочваць», я на ім нічога не пачуў. Іншая справа – сустрэчы з цікавымі людзьмі, імпрэзы і падзеі, якія суправаджалі з'езд. Дэлегаты ад БССР і іншых рэспублік былі «ўганараваныя» фатаграфаваннем у Гранавітай палаце сярод крамлёўскай раскошы. З тых, хто ў нас у рэспубліцы метадычна чытаў лекцыі па лініі таварыства «Веды», акрамя мяне на здымку толькі два чалавекі – акадэмік Хатылёва Любоў Уладзіміраўна і тады яшчэ член-карэспандэнт (пазней – акадэмік) Акадэміі навук БССР Бабосаў Яўген Міхайлавіч. Астатнія – партыйныя натхняльнікі і арганізатары лекцый для насельніцтва, якія самі на лекцыйнай трыбуне бывалі рэдка.

Запомніўся развітальны прыём для дэлегатаў з'езда на верхнім паверсе Палаца з'ездаў. Яго цяжка забыць таму, што прыём быў абсалютна безалкагольным – на ім адсутнічала нават піва. Гэта была проста буйнамаштабная паядалаўка смачных, вельмі рэдкіх у звычайным жыцці страваў пад доўгія тосты ў гонар КПСС, яе кіраўнікоў і кіраўнікоў таварыства «Веды». Чоканне фужэрамі з сокам і ліманадам мяне не захапляла. Раздражненне мусіў утойваць, бо выпусці яго на волю – і ў Крэмль больш не трапіш. Па-другое, дэлегаты з'езда былі меншасцю



*Дэлегаты IX з'езду Усесаюзнага таварыства «Веды». Аўтар кнігі – у трэцім шэрагу першы злева. Масква, Крэмль, 28 траўня 1987 г.*

ў натоўпе важных маскоўскіх персонаў, запрошаных на прыём. Сярод апошніх былі ветэраны з мноствам ардэноў і медалёў, якія, у адрозненне ад дэлегатаў, даволі гучна клялі безалкагольныя ініцыятывы сакратароў ЦК КПСС Лігачова і Гарбачова. Працытаваць дакладна іх саўкоўскія прамовы тут наўрад ці да месца. Пры замоўчванні нецэнзуршчыны яны гучалі прыкладна так.

– Гэта ж трэба, да чаго краіну давялі! Ганьба! Раней, калі на такім прыёме, я, прабачце, як і любы запрошаны, дазволіў бы сабе напіцца да непрытомнасці, то ніякіх непажадальных наступстваў гэта не выклікала б. Мяне акуратненька пасадзілі б у чорную "Волгу", адвезлі дамоў і яшчэ доўга дзякавалі б за тое, што я ўганараваў іх прыём сваёй прысутнасцю. А цяпер? Ні мне, ні астатнім – ніякай радасці. Давіся цытрусавымі і заядай асятрынай!

Са з'езду мы выходзілі праз крамлёўскую Спаскую браму і ішлі да гасцініцы «Расія», дзе нас пасялілі. Раптам я ўбачыў на спуску ад Краснай плошчы да Масква-ракі самалёт, падобны да нашага АН-2, але крыху меншы і прыгажэйшы. Падышоў да грамадкі цікаўных каля самалёта і запытаўся ў старэйшага, як мне здалося, з міліцыянтаў, якія сачылі, каб ніхто блізка да самалёта не падыходзіў і не кранаў яго.

– Ці не з неба ён зваліўся?

– Ну колькі вам, грамадзяне, трэба тлумачыць? Гэта рэквізіт са здымкаў прыгодніцкага фільма. Перакур цяпер у кіношнікаў, абедаць яны паехалі, а мы рэквізіт ахоўваем. Разыходзьцеся, калі ласка.

Я хуценька пайшоў сваёй дарогай. Назаўтра зразумеў: маскоўская міліцыя – з хітрынкай, больш прафесійная і далікатная, чым наша мінская. На тым самалёце ў Маскву, практычна, на Красную плошчу прыляцеў тады нямецкі пілот-аматар Маціяс Руст. У выніку каля трох дзесяткаў генералаў, якія мелі дачыненне да супрацьпаветранай абароны і якім юнак-аматар «падцёр нос», былі пазбаўленыя сваіх утульных камандзірскіх крэслаў.

У вестыбюлі гасцініцы «Расія» была ў мяне яшчэ адна няпростая сустрэча з беларускай дзіцячай паэткай Эдзі Агняцвет, якая прыехала на нейкую культурніцкую імпрэзу ў складзе вялікай дэлегацыі з БССР. Мая маці, бацька і Эдзі былі аднакурснікамі і закончылі літаратурны факультэт Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. Маці неаднойчы мне казала, што Эдзі Сямёнаўна – адзіная яе сяброўка, якая засталася з ёю ў самых добрых адносінах пасля зняволення бацькі. Некаторыя іншыя адвярнуліся ад жонкі «ворага народа», або проста перасталі заўважаць. А вось Эдзі не змяніла свайго стаўлення: сустракалася, прыходзіла да нас, маці – да яе і г.д. «Эдзі – прыстойны, вельмі вартасны чалавек», – гаварыла маці.

Потым з высылкі вярнуўся бацька і расказаў наступнае. У турме ад яго патрабавалі напісаць даносы на некалькіх чалавек. Абяцалі за гэта вызваліць. Бацька катэгарычна адмовіўся. Яго пачалі пераконваць: не будзь святым, усе так робяць. Маўляў, такі крок – узаемавыгодны. Усіх пастрашаць і адпусцяць на свабоду. Бацька не паверыў і працягваў адмаўляцца. Тады следчы паказаў даносы на яго, напісаныя Эдзі Каган (Агняцвет) і Алесем (Айзікам) Кучарам. Следчы сказаў: напішаш на ўсіх, выйдзеш на волю, усе разам зберыцёся і пасмяецеся ўволю. Мы ўсіх адпусцім і справы вашыя закрыем. Бацька адмовіўся.

Што мог адказаць я Эдзі Сямёнаўне ў вестыбюлі гасцініцы «Расія», калі яна перажывала: «Ну што ж гэта ваш тата пра мяне гаворыць?» Сказаў, што не магу быць суддзёй учынкаў маіх бацькоў. Мама на той час памерла, і ўспамінаць, што яна гаварыла пра Эдзі Сямёнаўну толькі добрае, мне не хацелася. Я і думкі не дапускаў, што бацька нешта прыдумаў. Такога з ім ніколі не было.

## Мае першыя, але паўторныя ў акрузе, выбары

Праз няпоўныя два гады пасля майго наведвання Крамля ў сакавіку 1989 года выбіраліся народныя дэпутаты СССР ад тэрытарыяльных і нацыянальна-тэрытарыяльных акругаў. Некалькі разоў на сходах мяне прапанавалі ўключыць у спіс кандыдатаў. Я заўсёды браў самаадвод, спасылаючыся на тое, што ў мяне сур'ёзная праца, якая мне падабаецца, і я хачу працягваць ёю займацца. Так выбары і закончыліся.

У Маскоўскай тэрытарыяльнай акрузе Мінска, у якую ўваходзілі Фрунзенскі і Маскоўскі раёны горада, дзе балатаваліся толькі два кан-

дыдаты, абодвух з трэскам правалілі. Разам яны набралі 15% галасоў. Аднаго – першага сакратара гаркама – правалілі мне на радасць. Я з ім грунтоўна палаяўся, калі ён пачаў мяне публічна папракаць і патрабаваў «зразумець, што няма падставаў сеяць паніку з-за Чарнобыля».

Перад пачаткам вылучэння кандыдатаў на паўторныя выбары на кафедры адбылася прыемная падзея – мы паспяхова завяршылі ўсе фармальнасці з выкананнем працы па заказе вайсковага інстытута. Як і заўжды ў падобных абставінах, без лішняга шуму і розгаласу мы сабраліся на кватэры аднаго з супрацоўнікаў (гэтым разам – у Аляксандра Міхайлавіча Люцко) адзначыць дасягненне. У той смутны, усё яшчэ безалкагольны час купіць бутэльку віна было сапраўднай праблемай, і мы ўзнімалі чаркі вельмі рэдка. Тым не менш, добры настрой палепшыўся і ад таго мінімуму алкагольных напояў, што нам удалося набыць. Неўзабаве пачаліся «прыколы».

– Прапаную тост за справядлівасць. Ніхто не пярэчыць? Давайце дзейнічаць так, каб справядлівасць узяла верх. Наш кафедральны гадунец Дзёма, дакладней Міхаіл Іванавіч Дзямчук, што падняўся да загадчыка аддзела навукі ЦК КПБ, абраны народным дэпутатам СССР. Зразумела, па партыйным спісе ад таварыства «Веды», але ці прачытаў ён дзе-небудзь па лініі гэтага таварыства хоць адну лекцыю? Шушкевіч узначальвае гарадскую арганізацыю «Ведаў» і такіх лекцый прачытаў мноства, заўважце, усе безганарарныя. Я прапаную вылучыць заўтра нашага загадчыка кафедры і прарэктара кандыдатам у дэпутаты па нашай Маскоўскай выбарчай акрузе, на тэрыторыі якой адбываецца гэтае ўрачыстае паседжанне. Патрабую, каб ён не ўзяў самаадвод. Прызнавайся, будзеш браць самаадвод? Калі возьмеш, адмаўляемся з табой піць нават піва цяпер і на ўсе часы.

Калі быць шчырым, мяне гэты тост пацешыў. Але выгляду я не падаў. Я заўсёды браў самаадвод, дэманстраваў, так бы мовіць, адсутнасць славалюбства. Нават калі і хацелася быць абраным, пагаджацца, што нехта выпадковы на сходзе вылучыць цябе, азначала б гэтае самае славалюбства публічна прадэманстраваць. А тут – сябры вымусілі, паабяцаў, не падумаўшы сур'ёзна, а цяпер павінен трымаць слова...

Я згадзіўся з аўтарам тоста, прапанаваў доўжыць «урачыстае паседжанне», паабяцаў самаадвод не браць.

Назаўтра на ўніверсітэцкім сходзе па вылучэнні кандыдатаў у бюлетэнь для патаемнага галасавання было ўнесена, дакладна не памятаю, 5 ці 6 прозвішчаў. Размеркаванне галасоў па галоўных прэтэндэнтах памятаю добра. За мяне – больш 450, яшчэ за аднаго прарэктара – 70. На трэцім месцы быў невядомы мне да таго дня Зянон Пазняк з прыкладна 50-цю галасамі. Ён не быў супрацоўнікам універсітэта і не прысутнічаў на сходзе, але ў БДУ працавалі людзі, якія вылучылі яго кандыдатуру і сказалі добрыя словы на яго адрас пры абмеркаванні кандыдатураў. Нягледзячы на перамогу, адчуванне маё было не лепшым. Стала сорам-

на за тое, што я нічога не ведаў пра беларускіх патрыётаў, пра Беларускі Народны Фронт (БНФ), пра Зянона Пазняка. Быў заняты справамі, далёкімі ад палітыкі.

Наступным ранкам я зразумеў, што сябры БНФ ёсць і на маёй кафедры. На маім стале з'явілася брашура «Адраджэнне: праграма БНФ». Дзіўна, але калі б не тая праграма, я, відавочна, быў бы яшчэ большым прыхільнікам БНФ. Усё, што ў праграме было сказана пра адраджэнне беларускай культуры, беларускай мовы, гістарычнай праўды зрабіла на мяне вялікае ўражанне, спадабалася і падабаецца да сёння. Але прапановы па рэфармаванні вышэйшай адукацыі, з якой было звязанае ўсё маё жыццё, дэманстравалі слабое веданне аўтарамі сапраўднага стану рэчаў, шляхоў іх паляпшэння і ўдасканалення, ліквідацыі недахопаў. Разам з тым прыемна было ўсведамляць, што ў Беларусі ёсць сапраўдныя патрыёты, якія любяць беларускую культуру і мову, супрастаяць прыніжэнню нацыянальнай годнасці беларусаў спосабамі, не накіраванымі супраць людзей іншых нацыянальнасцяў.

Выбарчая агітацыйная кампанія была кароткай і, разам з тым, вельмі інтэнсіўнай. Маімі канкурэнтамі былі пяць чалавек, з іх двое – вельмі годныя асобы – праваслаўны святар, настаяцель царквы на Вайсковых могілках, і стаўленік абкама партыі – дырэктар завода «Амкадор» Васіль Міхайлавіч Шлындзікаў.

Быў і сапраўдны нягоднік – прафесар, выпускнік Маскоўскага інстытута міжнародных зносінаў (МГИМО). Прозвішча яго і ўспамінаць не хачу, але выступы і абразы на адрас апанентаў уеліся ў памяць. Ён увесь час абліваў брудам і тых, хто меў рацыю, і вінаватых. І заўсёды як дадатак ішло: «Як вы адважыліся пайсці ў дэпутаты, не ведаючы дасканала ніводнай замежнай мовы»?

– Навошта вы робіце такія заявы, вы ж адукаваны чалавек? – запытаўся я неяк у яго.

– Дзеля самых простых людзей, а іх – большасць. Яны павінны ведаць, што я не рафінаваны чыстаплюй, хоць і МГИМО закончыў, а змагар! Вось убачыце, яны мяне выберуць.

Вынік быў сумны: набраў прафесар меней за 1% галасоў.

Сустрэчы з выбаршчыкамі можна было праводзіць дзе хочаш і калі хочаш. Арганізацыі, якія мелі актавыя залы, павінны былі даваць іх кандыдатам, калі ў патрэбны час там не было планавых імпрэзаў. Аб сустрэчы, напрыклад, у зале Тэатра музкамедыі, у клубе Кісялёва, у зале газавікоў на вуліцы Гурскага мае паплечнікі надзейна дамаўляліся па тэлефоне.

Здараліся забаўныя інцыдэнты. У зале на вуліцы Гурскага было раскладзена на крэслах, сталах, падваконнях безліч ўлётак, у якіх я паказваўся такой агіднай асобай, за якую прыстойны чалавек галасаваць не павінен.

Пачалася сустрэча. Зала – паўнюткая. Я выступіў, адказаў на пытанні. Выступілі другія кандыдаты. Устае рабочы з выгляду чалавек і звяртаецца да прэзідыума.

– Адкуль тут гэтая непрыстойная ўлётка?

Прэзідыум маўчыць. Пытанне паўтараецца:

– Адкуль у зале гэтая ўлётка і яшчэ пачкі такіх жа ў калідоры, каб мы іх разнеслі па ўсёй акрузе. Адкажыце, хто-небудзь з арганізатараў сустрэчы.

Устае прадстаўнік райкама партыі – трэці сакратар:

– Таварышы, вы ж ведаеце, у нас цяпер свабода слова, свабода меркаванняў. Відавочна, нехта вырашыў такім чынам давесці да вас свае меркаванні. Арганізатары сустрэчы да гэтай улёткі ніякіх адносінаў не маюць.

Да трыбуны з залы з рашучым выглядам рвецца жанчына. Яе прапускаюць. Яна ўжывае незразумелае мне да гэтага часу слова «лапідус». Я яго добра запомніў і з таго часу зрэдку ўжываю сам.

– Ах ты, лапідус пракляты! Я ж вось гэтымі рукамі па тваім загадзе друкавала гэтыя ўлёткі, як ты тлумачыў, каб нягоднікі да ўлады не дарваліся. А сапраўдны нягоднік – ты.

Што тут пачалося – словамі перадаць цяжка... Здараліся і іншыя прыгоды, якія раскрывалі непрыстойныя захады прадстаўнікоў партыйных структураў.

Урэшце я быў абраны, але афармленне дакументаў зацягнулася, і я прыляцеў у Маскву хоць і да пачатку з'езда, але пазней за іншых дэпутатаў. Мяне «падкінулі» ўрадавым самалётам разам з прэм'ерам Вячаславам Кебічам. Прэм'ер тлумачыў сваё спазненне вялікай занятасцю дзяржаўнымі справамі.

## Першы з'езд

Першы з'езд народных дэпутатаў СССР пачаўся ў 10 гадзінаў раніцы 25 траўня 1989 года. Яго ўдзельнікамі былі 2250 дэпутатаў: 750 – ад тэрытарыяльных акругаў, 750 – ад нацыянальна-тэрытарыяльных, 750 – ад грамадскіх арганізацый. З'езд як бы ўвасабляў ідэю саборнасці – прадстаўніцтва ўсіх слаёў насельніцтва, але, па сутнасці, КПСС трымала ў сваіх руках кантрольны пакет акцый. З цягам часу пакет худнеў, а на трэцім з'ездзе ўжо не дазволіў захаваць кіроўную ролю камуністычнай партыі.

Паўнамоцтвы з'езда былі найшырэйшымі. З'езд мог разглядзець любое пытанне, якое мела дачыненне да СССР, і прыняць па ім канчатковае рашэнне. Паседжанні трансляваліся па тэлебачанні і радыё ў жывым эфіры. Кіраваў з'ездам Старшыня Вярхоўнага Савета СССР. У першы ж дзень працы з'езда на гэтую пасаду быў абраны Міхаіл Гарбачоў. Спачатку меркавалася збіраць з'езд раз у год і выра-



*1989 год, чэрвень. Крамлёўскі палац з'ездаў. У першым шэрагу – дэпутаты з БССР*

шаць на ім найбольш важныя пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі Саюза ССР. Заканадаўчыя і кантрольныя функцыі перадаваліся фармаванаму з'ездам адносна невялікаму па колькасці Вярхоўнаму Савету СССР.

Дэпутат Юрый Дзмітрыевіч Чарнічэнка, выступаючы на з'ездзе, назваў прыхільнікаў Гарбачова «агрэсіўна-паслухмянай большасцю», а Гаўрыіл Харытонавіч Папоў адкрыта заявіў аб апазіцыі гэтай большасці і заклікаў да фармавання міжрэгіянальнай дэпутацкай групы – МДГ. 7 чэрвеня прайшло першае паседжанне МДГ. 29-30 ліпеня адбылася першая канферэнцыя МДГ, на якой быў абраны Каардынацыйны савет (КС), 5 сустаршыняў і прынятыя «Тэзісы да праграмы практычнай дзейнасці па рэалізацыі перабудовы». Сустаршынямі КС сталі Б.М. Ельцын, Ю.М. Афанасьеў, Г.Х. Папоў, В.А. Пальм, А.Дз. Сахараў, сакратаром – А.М. Мурашоў. У канферэнцыі ўдзельнічалі 268 чальцоў МДГ, у тым ліку ад БССР – Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Аляксандр Дабравольскі і аўтар гэтых радкоў. У іншых народных дэпутатаў з Беларусі не хапіла тады рашучасці ўступіць у МДГ.

На другой канферэнцыі МДГ у верасні 1989 года была прынятая платформа, у якой былі такія пункты, як адмена 6-га артыкула Канстытуцыі аб кіроўнай ролі КПСС, дэмакратызацыя выбарчай сістэмы, дэмакратычны закон аб друку, законы аб зямлі і ўласнасці, аб новай саюзнай дамове. Многія пункты платформы былі прынятыя III і IV з'ездамі народных дэпутатаў СССР. Шэраг чальцоў МДГ сталі вядомымі палітыкамі і дзяржаўнымі дзеячамі. Сярод іх, акрамя згаданых вышэй, А.А. Акаеў, Г.Э. Бурбуліс, А.І. Казаннік, К. Прунскене, А.А. Сабчак, С.Б. Станкевіч, Г.В. Старавойтава, У.А. Яварыўскі.



*1989 год. Народныя дэпутаты СССР У.І. Стальмашонак, В.У. Быкаў, С.С. Шушкевіч у Крамлёўскім палацы з'ездаў*

За мной на паседжаннях з'ездаў было замацаванае месца ў шырокім праходзе паміж шэрагамі крэслаў, з якога было зручна падыходзіць да мікрафона. Гэта дазволіла мне часцей за іншых падаваць «голас з залы». У сваю чаргу тэлекамера падавала выступоўцаў каля мікрафонаў буйным планам, таму ў Маскве і ў Мінску я не мог зрабіць і дваццаці крокаў, каб нехта не крыкнуў: глядзі, «дэпутацік» ідзе.

Чаму «дэпутацік» – не разумею і сёння. Як быццам – не маленькі.

## Што мелі, умелі і маглі народныя дэпутаты СССР

Народныя дэпутаты СССР былі надзеленыя даволі шырокімі паўнамоцтвамі, правамі і магчымасцямі. Большасць з іх не ўмела, а часам і не хацела імі карыстацца. Тое і другое было клапатлівым. Для дэпутатаў са стажам, іншымі словамі, для тых, хто быў дэпутатам у старыя савецкія часы, галоўным было чаканне партыйных рэкамендацый і іх бездакорнае выкананне. Да дэпутацкіх выплатаў і забеспячэння яны даўно прывыклі.

Перад пачаткам першага паседжання з'езда сакратар ЦК КПБ Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў паспрабаваў сабраць усіх беларускіх дэпутатаў, паінфармаваць іх аб агульных мэтах і задачах. Алеся Адамовіча і Васіля Быкава на сустрэчу не запрасілі, астатнія прыйшлі. А. Дабравольскі, Ю. Варонежцаў, В. Карняенка, М. Ігнатовіч, яшчэ некалькі дэпутатаў адразу абвесцілі: мы абраныя не ад партыі і не з дапамогай партыі, а хутчэй насуперак жаданню рэспубліканскага кіраўніцтва. Таму мы будзем выконваць наказы выбаршчыкаў і пакідаем сход. Адбыўся раскол. «Пратэстная група» аказалася крыху меншай, але, на жаль, да-

лёкай ад згуртаванасці. Асобныя яе прадстаўнікі нярэдка станавіліся на пазіцыі старых партыйцаў. Стан рэчаў рашуча змяніўся на карысць прыхільнікаў пераменаў толькі перад трэцім з'ездам народных дэпутатаў у сакавіку 1990 года.

Кожны народны дэпутат быў асобай недатыкальнай, меў штатнага памочніка, меў «дыван-самалёт» – права бясплатнага праезду пасажырскім цягніком, самалётам, водным і грамадскім транспартам па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза, імгненна атрымоўваў дыпламатычны пашпарт пры неабходнасці паехаць за мяжу. У дні з'ездаў дэпутатам выдаваліся сутачныя, якія і ў звычайных умовах былі важкімі, а ў крамлёўскіх буфетах – тым больш. На пісьмовы дэпутацкі запыт павінна была на працягу дзесяці дзён адказаць любая інстанцыя, у якую паступіў зварот. Генеральная пракуратура СССР абавязаная была даць пісьмовы адказ дэпутату не пазней за 30 дзён.

Я ператварыў стаўку памочніка дэпутата ў дзве паўстаўкі і залічыў на іх студэнтаў юрыдычнага факультэта БДУ – «паталагічную выдатніцу» і «афганца», які праходзіў вайсковую службу ў ДРА. Аб такіх памочніках можна было толькі марыць. Выдатніца рыхтавала па маёй просьбе лісты ў адпаведныя інстанцыі – на падставе зваротаў да мяне выбаршчыкаў. Пяць з іх – у Генеральную пракуратуру СССР. Па чатырох з гэтых пяці лістоў пратэст пракуратуры быў накіраваны ў суд! Перагляд справаў прывёў да вызвалення нявінна асуджаных. Поспех фантастычны! Звычайна, Генпракуратура станоўча рэагавала на 0,5–1 % накіраваных ёй заяваў.

Пазней мая цудоўная памочніца – Наталля Казырэнка – паехала ў Нью-Ёрк у Калумбійскі ўніверсітэт для ўдасканалення адукацыі. Я быў амаль упэўнены, што яна не вернецца ў Беларусь, і не памыліўся. У Беларусі, як у краіне, дзе пануе не закон, а ўказанне, высокакваліфікаваным юрыстам добрай працы не знайсці. Нядаўна я даведаўся, што «маю выдатніцу» нарасхоп запрашалі прэстыжныя фірмы, і цяпер яна ўзначальвае брытанскую юрыдычную фірму ў Маскве.

«Афганец» быў незамяняльным пры кантактах з праваахоўнымі органамі і з тымі, хто выдаваў сябе за «крутых». Наогул жа, народным дэпутатам СССР хапала правоў і магчымасцяў паводле законаў вырашаць жыццёва важныя праблемы выбаршчыкаў любога рангу. Мы шырока гэта выкарыстоўвалі.

# VII. ДАРОГА Ў ВІСКУЛІ

## Праблемы ў «сузор'і роўных»

Дарога ў Белавежскую пушчу, у Віскулі, да Садружнасці Незалежных Дзяржаваў выбрукаваная дэкларацыямі саюзных рэспублік аб дзяржаўным суверэнітэце. Дэкларацыі сталі водгукамі на ўсведамленне шырокімі коламі нацыянальных элітаў рэспублік сапраўднага стану міжнацыянальных адносінаў у Савецкім Саюзе. Завярэнням камуністычнай прапаганды аб непарушнай дружбе народаў СССР і братэрскім клопаце аб другіх народах вялікага рускага народа мала хто верыў і да перабудовы. Але нават пры далёкай ад праўды галоснасці ўсё цяжэй было ўтойваць ад людзей сапраўдны стан рэчаў у міжнацыянальных зносінах. Шыльда «турма народаў», справядліва павешаная бальшавікамі на царскую Расію, не горш дапасоўвалася і да Расіі бальшавіцкай – Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Для людзей раскрыліся канкрэтныя акцыі запалохвання, задушэння, акупацыі, экстрадыцыі і праследу па нацыянальнай прыкмеце. З'явіліся звесткі аб фактах жорсткага прыгнёту, уціску, рэпрэсій асобных нацый. У рэспубліках набываў усё большую папулярнасць заклік: пазбаўце нас ад вялікага сябра, а ад ворагаў мы самі пазбавімся. Рэспубліканскія эліты пачалі смялей выкарыстоўваць «ленінскае» права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення. Нарэшце, гэтыя самыя рэспубліканскія эліты, хоць і баязліва, пачалі заяўляць аб жаданні жыць у сваіх нацыянальных дзяржавах і самім вызначаць, як жыць.

Раней за іншых і найбольш рашуча пажадалі пазбавіцца ад апекі «старэйшага брата» рэспублікі Прыбалтыкі. У іх для гэтага было больш юрыдычных падставаў. Па-першае, краіны Захаду і ЗША ніколі не прызнавалі Літву, Латвію і Эстонію часткамі СССР. Іх землі лічыліся тэрыторыяй, акупаванай Савецкім Саюзам. Па-другое, насельніцтва гэтых краінаў добра памятала аб статусе незалежных краінаў да 1939 года. Па-трэцяе, як ні перашкаджаў Гарбачоў рассакрэціць пратакол да пакту Рыбентропа-Молатава, яго сутнасць стала вядомай З'езду народных дэпутатаў СССР. Злачынная дамова падзяляла свет на зоны інтарэсаў камуністаў і фашыстаў, і паводле яе, а не па «добраахвотным жаданні народаў», прыбалты былі гвалтам далучаныя да СССР.

Паступова большасць свядомага насельніцтва краіны даведалася, што і іншыя суб'екты СССР увайшлі ў Саюз зусім не

добраахвотна. Гэта атрымала адлюстраванне ў дэкларацыях аб суверэнітэце, прынятых усімі без вынятку рэспублікамі СССР, у якіх наўпрост або ўскосна ў сваіх страшных бедах яны звінавацілі Расію.

У Расійскай Федэрацыі, пераважна сярод рускіх і канчаткова абруселых іншародцаў, якія паводле Леніна сталі больш заўзятымі вялікадзяржаўнымі шавіністамі, чым самі рускія, панавала супрацьлеглая думка: хопіць карміць і забяспечваць грамадзянаў іншых рэспублік СССР, мы павінны паклапаціцца і пра сябе.

Паноўныя ў той час настроі на тэрыторыі СССР Захад назваў сепаратысцкімі, а прыняцце дэкларацый – парадам суверэнітэтаў. Захад спадзяваўся, што дэкларацыі так і застануцца дэкларацыямі на паперы.

## Бывала і лепей

Не ведаю, ці меў хто-небудзь з аўтараў-распрацоўшчыкаў дэкларацый аб суверэнітэце саюзных рэспублік пад рукой Дэкларацыю аб незалежнасці ЗША? Асабіста я шкадую, што не меў яе перад вачыма, працуючы над тэкстам Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

13 паўночна-амерыканскіх калоній абвесцілі ў 1776 годзе аддзяленне ад Вялікабрытаніі і заявілі, што яны цалкам вызваляюцца ад вернасці брытанскай Кароне і паводле права павінны быць вольнымі і незалежнымі.

14 саюзных рэспублік таксама заявілі ў 1988–1990 гадах, што яны вызваляюцца ад апекі «старэйшага брата» – Расійскай Федэрацыі, і таксама паводле права павінны быць вольнымі і незалежнымі.

Дэкларацыя аб незалежнасці ЗША растлумачыла прычыны, якія прымусілі аддзяліцца ад метраполіі, упершыню ў свеце абвясціла прынцып суверэнітэту як асновы дзяржаўнага ўладкавання. За народам прызнавалася права на паўстанне і зрынанне дэспатычнага ўраду. Абвяшчаліся асноўныя ідэі дэмакратыі: роўнасць людзей, права на жыццё, свабоду і на імкненне да шчасця.

Праз два з лішнім стагоддзі дэкларацыі аб суверэнітэце саюзных рэспублік выявілі меншую рашучасць і больш сціплую выразнасць. Дэкларацыя незалежнасці ЗША стала прызнаным помнікам амерыканскай літаратуры. Прынцыпы і ідэі выказаныя ў ёй цудоўнай мовай у кароткай і даступнай форме. Час пакажа, ці ёсць у дэкларацыях саюзных і аўтаномных рэспублік СССР тое, што можа быць аднесена да літаратурных, прававых або публіцыстычных шэдэўраў, але пакуль у падтрымку такой думкі ніхто не выказаўся.

Пазнаёмімся ў храналагічным парадку з асноўнымі палажэннямі дэкларацый аб суверэнітэце саюзных рэспублік СССР.

## Эстонія, 16 лістапада 1988 года (1)

16 лістапада 1988 года Вярхоўны Савет Эстонскай ССР прыняў чатыры дакументы. Важнейшы з іх – Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Эстонскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **«Аб суверэнітэце Эстонскай ССР»**. У ёй гаворыцца:

*«Эстонскі народ на берагах Балтыйскага мора апрацоўвае зямлю і развівае сваю культуру ўжо больш за пяць тысячаў гадоў. У 1940 годзе гамагенная ў нацыянальных адносінах, суверэнная Эстонская дзяржава стала складовай часткай Савецкага Саюза, пры гэтым было прадугледжанае захаванне гарантый суверэнітэту і росквіт нацыі. Аднак унутраная палітыка сталінізму і перыяду застою ігнаравалі гэтыя гарантыі і прынцыпы. У выніку на эстонскай зямлі для эстонцаў як карэннай нацыянальнасці склалася неспрыяльная дэмаграфічная сітуацыя, прыроднае асяроддзе ў многіх рэгіёнах рэспублікі апынулася ў катастрафічным стане, працяг дэстабілізацыі эканомікі адмоўна адбіваецца на жыццёвым узроўні ўсяго насельніцтва рэспублікі.*

*Вярхоўны Савет Эстонскай ССР бачыць толькі адзін выхад з цяжкага становішча – далейшае развіццё Эстоніі павінна адбывацца ва ўмовах суверэнітэту. Суверэнітэт Эстонскай ССР азначае, што ёй, яе вышэйшым органам улады, кіравання і судовым органам належыць вышэйшая ўлада на сваёй тэрыторыі. Суверэнітэт Эстонскай ССР адзіны і непадзельны. У адпаведнасці з гэтым далейшы статус рэспублікі ў складзе СССР павінен быць вызначаны Саюзнай дамовай».*

Далей у дэкларацыі і ў астатніх, прынятых у гэты ж дзень дакументах, заяўлялася аб нязгодзе з прапанаванымі папраўкамі ў Канстытуцыю СССР, якія *«скасоўваюць канстытуцыйнае права Эстонскай ССР на самавызначэнне»*, і аб надзяленні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Эстонскай ССР правам прадстаўляць інтарэсы рэспублікі пры падрыхтоўцы тэкста Саюзнай дамовы.

На дзесяты дзень пасля прыняцця згаданых дакументаў – 26 лістапада 1988 года – Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М.С. Гарбачоў падпісаў шматстаронкавы ўказ «Аб неадпаведнасці закона Эстонскай ССР «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Эстонскай ССР» і Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Эстонскай ССР аб суверэнітэце Эстонскай ССР Канстытуцыі СССР і Законам СССР». Указ па загадзе Гарбачова быў падрыхтаваны Веніямінам Фёдаравічам Якаўлевым на падставе Канстытуцыі і законаў СССР. Натуральна, прафесійны юрыст убачыў у дзеяннях эстонскіх заканатворцаў першую спробу раскалоць, калі хочаце, – пачаць разбурэнне СССР.

Указ навучаў эстонскіх таварышаў многаму. Галоўнае – не лічыць зямлю, нетры, лес, жылы фонд Эстоніі ўласнасцю ЭССР. Згодна з Канстытуцыяй СССР – гэта набытак усяго савецкага народа. Указ папракаў ізноў жа «эстонскіх таварышаў» за ўвядзенне панятку «прыватная

ўласнасць»: артыкулы 10 і 13 Канстытуцыі СССР такой уласнасці не прадугледжвалі.

## Літва, 18 траўня 1989 года (2)

Прыняццю Дэкларацыі аб суверэнітэце Літвы папярэднічалі крокі па спыненні прымусовай русіфікацыі. Указам ВС ЛССР ад 25 студзеня 1989 года літоўская мова была прызнаная асноўным сродкам зносінаў насельніцтва рэспублікі. На ёй абавязаныя былі весці справаводства ўсе вышэйшыя органы дзяржаўнай улады. Літоўскай мовай павінны былі валодаць усе без вынятку кіраўнікі і чыноўнікі.

18 траўня 1989 года Вярхоўны Савет Літоўскай ССР, дзейнічаючы па прыкладзе свайго паўночнага суседа, прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Літвы, у якой больш рэзка, чым эстонцы, асудзіў дзеянні СССР, савецка-германскі пакт 1939 года, занядбанне Дамовы Літвы з Савецкай Расіяй 1920 года, ігнараванне імкнення Літвы «нават да эканамічнай самастойнасці».

*«Літоўскі народ вякамі жыў тут, на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. У XIII стагоддзі ён стварыў сваю дзяржаву, стагоддзямі абараняў сваю свабоду і незалежнасць. У 1918 годзе ён адрадзіў сваю дзяржаўнасць, якая была прызнаная многімі краінамі свету... У 1939 годзе суверэнная Літоўская дзяржава была прымусова і незаконна далучаная да Савецкага Саюза, страціўшы палітычную, эканамічную і культурную самастойнасць... Вярхоўны Савет Літоўскай ССР бачыць выйсце з існуючага становішча толькі ў аднаўленні дзяржаўнага суверэнітэту, які ўжо сёння знаходзіць свой выраз у імкненнях літоўскага народа, з'яўляецца неад'емным правам народаў і можа быць здзейснены толькі ва ўмовах вольнага самавызначэння. Вярхоўны Савет Літоўскай ССР абвяшчае, што з гэтага часу ў Літоўскай ССР, з прыняццем папраўкі да артыкула 70 Канстытуцыі Літоўскай ССР, маюць сілу толькі прынятыя або ратыфікаваныя Вярхоўным Саветам Літоўскай ССР законы. У будучыні адносіны з СССР і іншымі дзяржавамі павінны ўсталёўвацца толькі на падставе міждзяржаўных дамоваў. Гэтыя спадзяванні людзей не накіраваныя супраць правоў і законных інтарэсаў народаў».*

Тут няма ўжо ні слова аб Саюзнай дамове. Як і ў выпадку з Эстоніяй, мае месца адкрытае дзеянне па разбурэнні СССР.

## Латвія, 28 ліпеня 1989 года (3)

У Дэкларацыі «Аб дзяржаўным суверэнітэце Латвіі» фактычна адсутнічаюць якія-небудзь запабяганні перад кіраўніцтвам і заканадаўствам СССР. Наўрад ці патрэбен каментар да прыведзенага ніжэй поўнага тэксту латвійскай дэкларацыі.

*«На працягу сямі стагоддзяў латышы падпадалі пад бязлітасны нацыянальны і сацыяльны прыгнёт, груба парушаліся правы латышскага народа на самабытнае развіццё і нацыянальнае самавызначэнне. Латышскі народ усё ж выжыў, выстаяў, захаваў сваю самабытнасць, сваю мову і нацыянальную культуру. Барацьба працоўных Латвіі за сацыяльнае вызваленне, нацыянальнае раўнапраўе і самавызначэнне ў 1917–1920 гадах дазволіла стварыць савецкую нацыянальную дзяржаўнасць, а таксама незалежную дэмакратычную рэспубліку, якую прызнала кіраваная Леніным Савецкая Расія і іншыя дзяржавы свету. У 1940 годзе на падставе дадатковага патаемнага пратакола да Пакта аб ненападзе ад 23 жніўня 1939 года, падпісанага Германіяй і Савецкім Саюзам, у выніку злачыннай сталінскай знешняй палітыкі, Латвійская Рэспубліка страціла свой дзяржаўны суверэнітэт. Латвійская Рэспубліка была далучаная да СССР. Сталінізм і пазнейшы адміністратыўна-камандны таталітарызм прывялі да заняпаду эканомікі і культуры Латвіі, а таксама да экалагічнаму крызісу, дэфармавалі нацыянальныя адносіны і дэвальвавалі агульначалавечыя каштоўнасці.*

*Вярхоўны Савет Латвійскай ССР, грунтуючыся на тым,*

*– што непрызнанне палітычнай, эканамічнай і культурнай самастойнасці прывяло да стварэння неспрыяльных умоваў для далейшага існавання латышскай нацыі,*

*– што ўсе людзі і народы маюць неад'емныя правы, да якіх належаць права на жыццё, на свабоду і імкненне да шчасця, сацыяльнага прагрэсу і паляпшэння ўмоваў жыцця,*

*– што ў адпаведнасці з нормамі сучаснага міжнароднага права, прызнанымі юрыдычна абавязковымі і Саюзам ССР, усе народы маюць права на самавызначэнне і ў сілу гэтага права свабодна вызначаць свой палітычны статус і свабодна забяспечваць сваё эканамічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё,*

*– што ўсе народы для дасягнення гэтых мэтаў могуць свабодна распараджацца сваімі прыроднымі багаццямі і рэсурсаміі, ніводзін народ не можа быць пазбаўлены прыналежных яму сродкаў існавання,*

*– што выйсце з маючай месца неспрыяльнай дэмаграфічнай, экалагічнай і эканамічнай сітуацыі для Латвійскай ССР магчымы толькі ў аднаўленні рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі,*

*– выконваючы волю народа Латвіі, абвяшчае:*

*1. Ад гэтага часу з прыняццем дадзенай Дэкларацыі развіццё Латвійскай ССР адбываецца ва ўмовах рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту ў яго дзяржаўна-прававым і міжнародна-прававым разуменні.*

*2. Суверэнітэт Латвійскай ССР адзіны і непадзельны. Народ Латвіі на сваёй тэрыторыі самастойна ажыццяўляе заканадаўчую, выканаўчую і судовую ўладу, што гарантуе росквіт як латышскай*

*нацыі, так і ўсіх нацыянальных і этнічных групаў, якія насяляюць тэрыторыю Латвіі.*

*3. Зямля, яе нетры, лясы, воды і іншыя прыродныя рэсурсы з'яўляюцца нацыянальным багаццем рэспублікі, якое належыць народу Латвіі.*

*4. Дзяржаўны статус Латвійскай ССР у складзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік вызначаецца дамовамі; новы прававы статус Латвійскай ССР неабходна заканадаўчым шляхам замацаваць у Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі Латвійскай ССР, у новых законах СССР і законах Латвійскай ССР (аб грамадзянстве, аб рэспубліканскай уласнасці і інш.), у змяненнях і дапаўненнях савецкага заканадаўства.*

*5. На тэрыторыі Латвійскай ССР прызнаецца зверхнасць законаў Латвійскай ССР. Законы СССР на тэрыторыі Латвіі ўступаюць у сілу толькі пасля іх ратыфікацыі вышэйшым органам дзяржаўнай улады Латвійскай ССР.*

*6. Адносіны Латвійскай ССР з другімі дзяржавамі ўсталёўваюцца на падставе дамоваў.*

*Вярхоўны Савет Латвійскай ССР заклікае народ Латвіі аб'яднацца на аснове дадзенай Дэкларацыі ў імя ператварэння нашай рэспублікі ў сапраўды суверэнную і прававую дзяржаву.»*

## Азербайджан, 23 верасня 1989 года (4)

Прынцыповае адрозненне прынятай у Баку дэкларацыі ад трох папярэдніх заключаецца ў тым, што Канстытуцыйны закон Азербайджанскай ССР ад 23 верасня 1989 года абвяшчае Азербайджанскую ССР суверэннай сацыялістычнай краінай **у складзе СССР**. Цытаваныя ніжэй вытрымкі з Канстытуцыйнага закона тлумачаць яго спецыфічнасць у параўнанні з дэкларацыямі прыбалтыйскіх рэспублік.

*«Суверэнітэт Азербайджанскай ССР выяўляецца ў самастойным ажыццяўленні Азербайджанскай ССР на ўсёй сваёй тэрыторыі вышэйшай заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады... Ахова суверэнных правоў Азербайджанскай ССР ажыццяўляецца Азербайджанскай ССР і Саюзам ССР.*

*Азербайджанская ССР самастойна вырашае ўсе пытанні, звязаныя з палітычным, эканамічным і сацыяльна-культурным будаўніцтвам у рэспубліцы, яе адміністратыўна-тэрытарыяльным уладкаваннем. Усялякае ўмяшальніцтва ў вырашэнне пытанняў, якія з'яўляюцца неад'емным правам Азербайджанскай ССР, павінна расцэньвацца як парушэнне яе суверэнных правоў.*

*Кампетэнцыя Азербайджанскай ССР абмежаваная толькі па пытаннях, добраахвотна дэлегаваных самой рэспублікай Саюзу ССР... Узаемаадносіны паміж Азербайджанскай ССР і Саюзам ССР будуюцца на дагаворнай аснове, сыходзячы з суверэнітэту СССР і*

*суверэнітэту Азербайджанскай ССР. Узаемаадносіны Азербайджанскай ССР з саюзнымі рэспублікамі будуюцца на прынцыпах раўнапраўя, супрацоўніцтва, узаемнай павагі суверэнных правоў і неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы адзін аднаго.*

*Суверэнітэт Азербайджанскай ССР распаўсюджваецца на ўсю тэрыторыю рэспублікі, якая ўключае Нахічэванскую АССР і Нагорна-Карабахскую аўтаномную вобласць, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай Азербайджана.*

*Тэрыторыя Азербайджанскай ССР непадзельная і не можа быць зменена без яе згоды, выказанай народным галасаваннем (рэферэндумам), што праводзіцца па рашэнні Вярхоўнага Савета Азербайджанскай ССР сярод усяго насельніцтва рэспублікі.*

*Азербайджанская ССР мае права свабоднага выхаду з СССР. Гэтае права рэалізуецца шляхам народнага галасавання (рэферэндума).*

*Азербайджанская ССР удзельнічае ў вырашэнні пытанняў, аднесеных да кампетэнцыі Саюза ССР у вышэйшых органах дзяржаўнай улады і кіравання СССР і другіх органах Саюза ССР. Гэтае права гарантуецца шляхам забеспячэння прадстаўніцтва Азербайджанскай ССР у органах дзяржаўнай улады і кіравання Саюза на аднолькавых умовах з іншымі саюзнымі рэспублікамі.*

*Зямля, яе нетры, лясы, воды і іншыя прыродныя рэсурсы Азербайджанскай ССР з'яўляюцца нацыянальным багаццем і належаць народу Азербайджана.*

*Народ Азербайджанскай ССР, прадстаўлены вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады і кіравання, валодае неад'емным правам распараджацца прыроднымі і матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі рэспублікі.*

*Азербайджанская ССР ажыццяўляе меры па забяспячэнні эканамічнай самастойнасці рэспублікі.*

*Азербайджанская ССР забяспечвае комплекснае эканамічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё на сваёй тэрыторыі, ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю ўсіх прадпрыемстваў, установаў і арганізацый на тэрыторыі рэспублікі.»*

Коратка: Канстытуцыйны закон пашырае правы рэспублікі ў складзе СССР, але не ўздымае пытання аб сапраўдным суверэнітэце. Відавочна, больш радыкальнаму падыходу перашкаджала ў той час сітуацыя ў Нахічэванскай АССР і Нагорна- Карабахскай аўтаномнай вобласці.

## Грузія, 9 сакавіка 1990 года (5)

Тагачасную сітуацыю з Грузіяй адназначна тлумачыць Пастанова Вярхоўнага Савета Грузінскай ССР ад 9 сакавіка 1990 года «Аб гарантыях абароны дзяржаўнага суверэнітэту Грузіі»:

*«Вярхоўны Савет Грузінскай ССР,*

*пацвярджаючы выснову Камісіі Вярхоўнага Савета Грузінскай ССР па пытаннях палітычнай і прававой ацэнкі парушэння дамовы, падпісанай паміж Грузіяй і Савецкай Расіяй 7 траўня 1920 года, прызнае, што ўвядзенне войскаў Савецкай Расіі ў Грузію ў лютым 1921 года і заняцце ўсёй яе тэрыторыі з'яўляліся з прававога гледзішча ваенным умяшальніцтвам (інтэрвенцыяй) і акупацыяй з мэтай зрынання існуючага палітычнага ладу, а з палітычнага пункту гледжання – фактычнай анексіяй;*

*асуджаючы акупацыю і фактычную анексію Грузіі Савецкай Расіяй як міжнароднае злачынства,*

*імкнецца ануляваць наступствы парушэння Дамовы ад 7 траўня 1920 года для Грузіі і аднавіць правы Грузіі, прызнаныя Савецкай Расіяй гэтай дамовай.*

*Вярхоўны Савет Грузінскай ССР абвяшчае незаконным і несапраўдным Саюзную рабоча-сялянскую дамову паміж ГССР і РСФСР ад 21 траўня 1921 года і Саюзную дамову аб утварэнні Федэратыўнага Саюза Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік Закаўказзя ад 12 сакавіка 1922 года і пастанаўляе:*

*Пачаць перамовы аб аднаўленні незалежнай Грузінскай дзяржавы, таму што Дамова аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік ад 30 снежня 1922 года з'яўляецца ў адносінах да Грузіі незаконнай».*

## РСФСР, 12 чэрвеня 1990 года (6)

Дэкларацыя З'езда народных дэпутатаў РСФСР ад 12 чэрвеня 1990 года «Аб дзяржаўным суверэнітэце Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспубліцы»:

*«Першы з'езд народных дэпутатаў РСФСР,*

*– усведамляючы гістарычную адказнасць за лёс Расіі,*

*– засведчыўшы павагу да суверэнных правоў усіх народаў, якія ўваходзяць у Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік,*

*– выказваючы волю народаў РСФСР,*

*урачыста абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі і заяўляе аб рашучасці стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву ў складзе абноўленага Саюза ССР.*

*1. Расійская Савецкая Федэратыўная Сацыялістычная Рэспубліка ёсць суверэнная дзяржава, створаная гістарычна аб'яднанымі ў ёй народамі.*

*2. Суверэнітэт РСФСР – натуральная і неабходная ўмова існавання дзяржаўнасці Расіі, якая мае шматвекавую гісторыю, культуру і ўсталяваныя традыцыі.*

*3. Носьбітам суверэнітэту і крыніцай дзяржаўнай улады ў РСФСР з'яўляецца яе многанацыянальны народ. Народ ажыццяўляе дзяржаўную ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы на падставе Канстытуцыі РСФСР.*

*4. Дзяржаўны суверэнітэт РСФСР абвяшчаецца ў імя вышэйшых мэтаў – забеспячэння кожнаму чалавеку неад'емнага права на годнае жыццё, свабоднае развіццё і карыстанне роднай мовай, а кожнаму народу – на самавызначэнне ў выбраных ім нацыянальна-дзяржаўных і нацыянальна-культурных формах.*

*5. Для забеспячэння палітычных, эканамічных і прававых гарантый суверэнітэту РСФСР зацвярджаецца:*

*паўната ўлады РСФСР пры вырашэнні ўсіх пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця, за выняткам тых, якія ёю добраахвотна перадаюцца ў распараджэнне Саюза ССР;*

*зверхнасць Канстытуцыі РСФСР і законаў РСФСР на ўсёй тэрыторыі РСФСР; дзеянне актаў Саюза ССР, якія ўступаюць у супярэчнасць з суверэннымі правамі РСФСР, прыпыняецца Рэспублікай на сваёй тэрыторыі. Рознагалоссі паміж Рэспублікай і Саюзам вырашаюцца згодна з парадкам, вызначаным Саюзнай дамовай.*

*выключнае права народа на валоданне, карыстанне і распараджэнне нацыянальным багаццем Расіі;*

*паўнамоцнае прадстаўніцтва РСФСР у іншых саюзных рэспубліках і замежных краінах;*

*права Рэспублікі ўдзельнічаць у ажыццяўленні паўнамоцтваў, перададзеных ёю Саюзу ССР.*

*6. Расійская Савецкая Федэратыўная Сацыялістычная Рэспубліка аб'ядноўваецца з другімі рэспублікамі ў Саюз на аснове Дамовы. РСФСР прызнае і паважае суверэнныя правы саюзных рэспублік і Саюза ССР.*

*7. РСФСР захоўвае за сабой права свабоднага выхаду з СССР у парадку, прадугледжаным Саюзнай дамовай і заснаваным на ім заканадаўстве.*

*8. Тэрыторыя РСФСР не можа быць зменена без волевыяўлення народа, выказанага шляхам рэферэндума.*

*9. З'езд народных дэпутатаў РСФСР пацвярджае неабходнасць істотнага пашырэння правоў аўтаномных рэспублік, аўтаномных абласцей, аўтаномных акругаў, роўна як краёў і абласцей РСФСР...*

*10. Усім грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія жывуць на тэрыторыі РСФСР, гарантуюцца правы і свабоды, прадугледжаныя Канстытуцыяй РСФСР, Канстытуцыяй СССР і агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права.*

*Прадстаўнікам нацый і народнасцяў, якія жывуць у РСФСР за межамі сваіх нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў або не маючым іх на тэрыторыі РСФСР, забяспечваюцца іх законныя палітычныя, эканамічныя і культурныя правы.*

*Грамадзяне РСФСР за межамі Рэспублікі знаходзяцца пад аховай і апекай РСФСР.*

*11. На ўсёй тэрыторыі РСФСР устанаўліваецца рэспубліканскае грамадзянства РСФСР. За кожным грамадзянінам РСФСР захоўваецца грамадзянства СССР.*

*12. РСФСР гарантуе ўсім грамадзянам, палітычным партыям, грамадскім арганізацыям, масавым рухам і рэлігійным арганізацыям, якія дзейнічаюць у рамках Канстытуцыі РСФСР, роўныя прававыя магчымасці ўдзельнічаць у кіраванні грамадскімі і дзяржаўнымі справамі.*

*13. Падзяленне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам функцыявання РСФСР як прававой дзяржавы.*

*14. РСФСР заяўляе аб сваёй прыхільнасці да агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і гатоўнасці жыць з усімі краінамі і народамі ў міры і згодзе, прымаць усе меры да недапушчэння канфрантацыі ў міжнародных, міжрэспубліканскіх і міжнацыянальных адносінах, адстойваючы пры гэтым інтарэсы народаў Расіі.*

*14. 15. Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі РСФСР, падпісання Саюзнай дамовы, удасканалення рэспубліканскага заканадаўства.*

***Старшыня Вярхоўнага Савета РСФСР Б.М. Ельцын».***

## Узбекістан, 20 чэрвеня 1990 года (7)

**Дэкларацыя «Аб суверэнітэце»:**

*«Вярхоўны Савет Узбекскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,*

*сыходзячы з гістарычнага досведу дзяржаўнага будаўніцтва і традыцый узбекскага народу,*

*забеспячэння кожнай нацыі права на самавызначэнне,*

*у імя вышэйшай мэты забеспячэння кожнаму чалавеку права на годнае жыццё,*

*глыбока ўсведамляючы гістарычную адказнасць за лёс народаў Узбекістана,*

*сыходзячы з міжнародна-прававых нормаў, агульначалавечых каштоўнасцяў і прынцыпаў дэмакратыі, абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Узбекскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.*

*1. Дзяржаўны суверэнітэт Узбекскай ССР ёсць зверхнасць дэмакратычнай дзяржавы Узбекскай ССР на ўсіх састаўных частках сваёй тэрыторыі і ва ўсіх знешніх зносінах.*

*2. Дзяржаўная тэрыторыя, мяжа Узбекскай ССР недатыкальныя і не могуць быць змененыя без волевыяўлення народа.*

*3. Дзяржаўная ўлада Узбекскай ССР ажыццяўляецца над усімі часткамі яе тэрыторыі і распаўсюджваецца на ўсё насельніцтва, якое пражывае на ёй.*

*4. Рашэнні Вярхоўнага Савета СССР набываюць сілу на тэрыторыі Узбекскай ССР толькі пасля іх зацверджання Вярхоўным Саветам Узбекскай ССР у адпаведнасці з Канстытуцыяй Узбекскай ССР.*

*5. У распараджэнне дзяржаўнай улады Узбекскай ССР уваходзяць усе пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі.*

*6. Узбекская ССР прызнае і паважае асноўныя прынцыпы міжнароднага права.*

*7. Узбекская ССР вызначае прынцыпы і ажыццяўляе палітычныя, эканамічныя, культурныя і іншыя зносіны з саюзнымі рэспублікамі і іншымі дзяржавамі на падставе дамоваў.*

*8. Узбекская ССР вызначае свой шлях развіцця, сваю назву, уводзіць дзяржаўную сімволіку: герб, сцяг, гімн.*

*9. Суверэнітэт Каракалпакскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі забяспечваецца Канстытуцыяй аўтаномнай рэспублікі; Узбекская ССР абараняе інтарэсы Каракалпакскай АССР у адпаведнасці з яе Асноўным Законам і Канстытуцыяй Узбекскай ССР.*

*10. Заканадаўчая ўлада Узбекскай ССР распрацоўвае законы і законапалажэнні, неабходныя для рэалізацыі дзяржаўнага суверэнітэту Узбекскай ССР, вызначае склад і структуру палітычнай і эканамічнай сістэмы Узбекскай ССР.*

*11. Вярхоўны Савет Узбекскай ССР заяўляе аб рашучасці стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву, вызначаную ўсенародным рэферэндумам, гарантуе прадстаўнікам усіх нацый і народнасцяў, якія жывуць ва Узбекскай ССР, іх законныя палітычныя, эканамічныя, этнічныя, культурныя правы і развіццё роднай мовы.*

*12. Дадзеная дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі Узбекскай ССР і новай Саюзнай дамовы».*

## Малдова, 23 чэрвеня 1990 года (8)

У Дэкларацыі Вярхоўнага Савета ССР Малдовы ад 23 чэрвеня 1990 года «Аб суверэнітэце Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Малдова» гаворыцца:

*«прызнаючы, што ўсе людзі роўныя і маюць неад'емнае права на жыццё, свабоду і дабрабыт,*

*усведамляючы сваю гістарычную адказнасць за лёс Малдовы, якая мае сваю гісторыю, культуру, традыцыі, якія вылічаюцца тысячагоддзямі,*

*паважаючы права на суверэннасць усіх народаў,*

*з мэтай устанаўлення права, абароны законнасці і сацыяльнай стабільнасці, выказваючы волю народа, урачыста заяўляе:*

*Савецкая Сацыялістыная Рэспубліка Малдова ёсць суверэнная дзяржава. Суверэнітэт ССР Малдова – натуральная і неабходная ўмова існавання дзяржаўнасці Малдовы».*

У 12 наступных артыкулах Дэкларацыі ўтрымліваюцца заявы аб тым, што носьбітам і крыніцай суверэнітэту з'яўляецца народ, што ССР Малдова – адзіная і непадзельная дзяржава, што зямля, яе нетры і іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі ССР Малдова з'яўляюцца ўласнасцю вылучна ССР Малдова... Вярхоўны Савет ССР Малдова ўстанаўлівае паўнату ўлады Рэспублікі Малдова пры рашэнні ўсіх пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця, зверхнасць Канстытуцыі і законаў ССР Малдова на ўсёй тэрыторыі ССР Малдова. Законы і іншыя нарматыўныя акты Саюза ССР дзейнічаюць у Малдове толькі пасля іх ратыфікацыі Вярхоўным Саветам рэспублікі. Дзеянне раней прынятых актаў, якія супярэчаць суверэнітэту Малдовы, прыпыняецца.

*«Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Малдова ў якасці раўнапраўнага суб'екта міжнародных зносінаў абвяшчае сябе дэмілітарызаванай зонай, актыўна садзейнічае ўмацаванню міру і бяспекі, непасрэдна ўдзельнічае ў еўрапейскім працэсе супрацоўніцтва і бяспекі і ў еўрапейскіх структурах... Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі ССР Малдова..., пазіцыяй ССР Малдова пры падрыхтоўцы і падпісанні Саюзнай Дамовы ў межах супольнасці суверэнных дзяржаваў».*

## Украіна, 16 ліпеня 1990 года (9)

Дэкларацыя «Аб дзяржаўным суверэнітэце Украіны» ад 16 чэрвеня 1990 года фактычна ўяўляе з сябе разгорнутую праграму пераўтварэння Украіны ў незалежную дзяржаву. Яна складаецца з прэамбулы і дзесяці раздзелаў:

I. Самавызначэнне ўкраінскай нацыі;
II. Народаўладдзе;
III. Дзяржаўная ўлада;
IV. Грамадзянства Украінскай ССР;
V. Тэрытарыяльная зверхнасць;
VI. Эканамічная самастойнасць;
VII. Экалагічная бяспека;
VIII. Культурнае развіццё;
IX. Знешняя і ўнутраная бяспека;
X. Міжнародныя зносіны.

Дзяржаўны суверэнітэт абвешчаны як зверхнасць, самастойнасць, паўната і непадзельнасць улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, а таксама незалежнасць і раўнапраўе ў знешніх зносінах.

Ніжэй прыводзяцца фрагменты Дэкларацыі, якія паказваюць, што Украіна мае намер будаваць суверэнную прававую дэмакратычную дзяржаву ў складзе СССР, якая прэтэндуе пры выхадзе з СССР на ўласнасць як на тэрыторыі самой Украіны, так і за яе межамі, прызнае перавагу агульначалавечых каштоўнасцяў над класавымі, прыярытэт агульнапрызнаных нормаў міжнароднага права перад нормамі ўнутрыдзяржаўнага права.

Адносіны з іншымі савецкімі рэспцублікамі будуюцца на аснове дамоваў, падпісаных на прынцыпах раўнапраўя, узаемапавагі і неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы.

Дэкларацыя вызначае пазіцыі рэспублікі пры падпісанні міжнародных пагадненняў. Прынцыпы Дэкларацыі аб суверэнітэце Украіны выкарыстоўваюцца для падпісання Саюзнай Дамовы.

*«Украінская ССР як суверэнная нацыянальная дзяржава развіваецца ў існуючых межах на аснове ажыццяўлення ўкраінскай нацыяй свайго неад'емнага права на самавызначэнне.*

*Украінская ССР ажыццяўляе абарону і ахову нацыянальнай дзяржаўнасці ўкраінскага народа...*

*Грамадзяне Рэспублікі ўсіх нацыянальнасцяў складаюць народ Украіны. Народ Украіны з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы.*

*Ад імя ўсяго народа можа выступаць выключна Вярхоўны Савет Украінскай ССР.*

*Украінская ССР ажыццяўляе зверхнасць на ўсёй сваёй тэрыторыі... Тэрыторыя Украінскай ССР у існуючых межах з'яўляецца недатыкальнай... Украінская ССР самастойна вызначае адміністратыўна-тэрытарыяльнае дзяленне Рэспублікі і парадак утварэння нацыянальна-адміністратыўных адзінак.*

*Украінская ССР самастойна вызначае свой эканамічны статус і замацоўвае яго ў законах. Народ Украіны мае выключнае права на валоданне, карыстанне і распараджэнне нацыянальным багаццем Украіны.*

*Украінская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці, у прыватнасці, у агульнасаюзных Алмазным і Валютным фондах, залатым запасе, якія створаныя дзякуючы намаганням народа Рэспублікі.*

*Украінская ССР самастойна стварае банкаўскую (уключаючы знешнеэканамічны банк), цэнавую, фінансавую, мытную, падатковую сістэму, фармуе дзяржаўны бюджэт, а пры неабходнасці ўводзіць сваю грашовую адзінку ...*

*Украінская ССР забяспечвае абарону ўсіх формаў уласнасці.*

*Украінская ССР мае права на пакрыццё шкоды, нанесенай экалогіі Украіны дзеяннямі саюзных органаў ...*

*Украінская ССР мае права на вяртанне ва ўласнасць народа Украіны нацыянальных, культурных і гістарычных каштоўнасцяў,*

*якія знаходзяцца па-за межамі Украінскай ССР ... Украінская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы ... Украінская ССР як суб'ект міжнароднага права ажыццяўляе непасрэдныя зносіны з іншымі дзяржавамі, падпісвае з імі дамовы, абменьваецца дыпламатычнымі, консульскімі, гандлёвымі прадстаўніцтвамі...»*

## Беларусь, 27 ліпеня 1990 года (10)

У тэкст Дэкларацыі ўнесеныя змены згодна з Законам БССР «Аб назве БССР і ўнясенні змяненняў у Дэкларацыю ВС БССР «Аб дзяржаўным суверэнітэце БССР» і Канстытуцыю БССР» ад 19 верасня 1991 года.

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 27 ліпеня 1990 г. № 193-Хі

**«Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь»**

*Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,*

*выказваючы волю народа Рэспублікі Беларусь,*

*усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,*

*пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцяў, якія жывуць у Рэспубліцы Беларусь,*

*засведчыўшы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,*

*лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным чальцом сусветнай супольнасці,*

*дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнародна-прававымі актамі,*

*урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь як зверхнасць, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.*

***Артыкул 1.***

*Рэспубліка Беларусь – суверэнная дзяржава, якая ўсталяваная на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасць беларускай мовы, зверхнасць народа ў вызначэнні свайго лёсу. Неад'емныя правы Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы рэалізуюцца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Рэспубліка Беларусь ахоўвае і абараняе нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа. Рэспубліка Беларусь мае свой герб, сцяг і гімн. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь з боку палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў ці асобаў пераследуюцца па законе.*

***Артыкул 2.***

*Грамадзяне Рэспублікі Беларусь усіх нацыянальнасцяў складаюць беларускі народ, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Яго паўнаўладдзе рэалізуецца непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады. Права выступаць ад імя ўсяго народа рэспублікі належыць выключна Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь.*

***Артыкул 3.***

*Дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь сцвярджаецца ў імя вышэйшай мэты – свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе міжнароднымі абавязацельствамі.*

***Артыкул 4.***

*Грамадзянства Рэспублікі Беларусь з'яўляецца неад'емнай часткай яе суверэнітэту. Рэспубліка ахоўвае гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзянаў, забяспечвае іх сацыяльную абароненасць. Яны знаходзяцца пад яе абаронай, будучы за межамі Рэспублікі Беларусь. Рэспубліка прымае ў грамадзянства і вырашае пытанне аб выхадзе з грамадзянства.*

***Артыкул 5.***

*Зямля, яе нетры, іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Рэспублікікі Беларусь, паветраная прастора з'яўляюцца ўласнасцю беларускага народа, якому належаць выключныя правы па іх валоданні, карыстанні і распараджэнні імі. Вызначэнне прававога рэжыму ўсіх відаў маёмасці адносіцца да выключнай кампетэнцыі Рэспублікі Беларусь. Рэспубліка Беларусь мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці адпаведна ўкладу беларускага народа і як рэспубліка – заснавальніца Савецкага Саюза, якая была яго правадзейным суб'ектам, мае права на сваю долю ад Алмазнага, Валютнага фондаў і залатога запасу СССР. Рэспубліка Беларусь стварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету рэспублікі, стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму, пацвярджае права ўласнасці на спецыялізаваныя банкі, якія знаходзяцца на яе тэрыторыі на момант прыняцця гэтай Дэкларацыі, арганізуе ўласныя падатковую і мытную службы, мае права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы.*

***Артыкул 6.***

*Тэрыторыя Рэспублікі Беларусь з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць зменена або выкарыстана без згоды Рэспублікі Беларусь. Усе пытанні аб межах вырашаюцца толькі на аснове ўзаемнай згоды паміж Рэспублікай Беларусь і сумежнымі суверэннымі дзяржавамі шляхам падпісання адпаведных дамоваў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.*

***Артыкул 7.***

*На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь устанаўліваецца зверхнасць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і законаў Рэспублікі Беларусь.*

*Усе грамадзяне і асобы без грамадзянства, дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, якія знаходзяцца або дзейнічаюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, абавязаныя выконваць заканадаўства Рэспублікі Беларусь.*

*Размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Беларускай ССР як прававой дзяржавы. Вышэйшы нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь, які прызначаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.*

***Артыкул 8.***

*Рэспубліка Беларусь самастойна ўстанаўлівае парадак арганізацыі на тэрыторыі рэспублікі аховы прыроды, выкарыстання прыродных рэсурсаў і забяспечвае народу рэспублікі экалагічную бяспеку.*

*Рэспубліка Беларусь мае права на пакрыццё шкоды, нанесенай ёй дзеяннямі саюзных органаў, саюзных рэспублік і іншых дзяржаваў.*

*Рэспубліка Беларусь патрабуе ад Урада СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі стратаў, звязаных з пераадоленнем наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.*

*Сваю свабоду і суверэнітэт Рэспубліка Беларусь у першую чаргу выкарыстоўвае на выратаванне народа Беларускай ССР ад вынікаў Чарнобыльскай катастрофы.*

***Артыкул 9.***

*Рэспубліка Беларусь самастойная ў вырашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання.*

*Рэспубліка Беларусь забяспечвае функцыяванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі. Нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца выключна ўласнасцю рэспублікі і яе грамадзянаў.*

***Артыкул 10.***

*Рэспубліка Беларусь мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь.*

*Рэспубліка Беларусь мае суверэннае права вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, службы ў органах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, вырашаць пытанні размяшчэння войскаў і ўзбраення на сваёй тэрыторыі.*

*Ніякія вайсковыя фармаванні іншых краінаў, іх ваенныя базы і пабудовы не могуць быць размешчаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без згоды яе Вярхоўнага Савета.*

***Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку – нейтральнай дзяржавай.***

***Артыкул 11.***

*Рэспубліка Беларусь самастойна ажыццяўляе правы на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі і свабодны выхад з гэтых саюзаў. Рэспубліка Беларусь прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дамовы аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаваў.*

***Артыкул 12.***

*Палажэнні гэтай Дэкларацыі рэалізуюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь шляхам прыняцця новай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь.*

## Туркменістан. 22 жніўня 1990 года (11)

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Туркменскай ССР

**«Аб дзяржаўным суверэнітэце Туркменскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі»**

*«Вярхоўны Савет Туркменскай ССР... абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Туркменскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі як зверхнасць, самастойнасць, паўнату і непадзельнасць улады рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі, незалежнасць і раўнапраўе ў знешніх зносінах.*

*1. Туркменская ССР – суверэнная нацыянальная дзяржава, якая ажыццяўляе ўсю паўнату ўлады на ўсёй сваёй тэрыторыі.*

*Туркменская ССР забяспечвае абарону і ахову нацыянальнай дзяржаўнасці туркменскага народа.*

*2. Туркменская ССР заяўляе аб імкненні стварыць гуманнае дэмакратычнае грамадства, у якім зверхнасць належыць закону.*

*Носьбітам суверэнітэту і крыніцай дзяржаўнай улады ў Туркменскай ССР з'яўляецца яе народ...*

*3. Дзяржаўны суверэнітэт Туркменскай ССР рэалізуецца ў імя вышэйшых мэтаў – забеспячэння кожнаму чалавеку правоў і свабодаў, абвешчаных Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, Канстытуцыяй Туркменскай ССР, Канстытуцыяй СССР і нормамі міжнароднага права.*

*4. Туркменская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка добраахвотна аб'ядноўваецца з іншымі рэспублікамі ў саюз на аснове Дамовы.*

*Рэспубліка захоўвае за сабой права свабоднага выхаду з Саюза ССР і правамоцнасць самой усталёўваць палітычны і эканамічны лад. Туркменская ССР пацвярджае сваё права ў ажыццяўленні паўнамоцтваў, добраахвотна перададзеных ёю ў распараджэнне Саюза.*

*1. На ўсёй тэрыторыі Туркменскай ССР устанаўліваецца вярхоўнасць Канстытуцыі і законаў Туркменскай ССР. Дзеянне актаў Саюза ССР, якія супярэчаць суверэннаму праву Туркменскай ССР, прыпыняецца вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі на ўсёй сваёй тэрыторыі. Дзяржаўная ўлада ў Туркменскай ССР ажыццяўляецца па прынцыпе яе падзелу на заканадаўчую, выканаўчую і судовую...*

*6. Тэрыторыя Туркменскай ССР у існуючых межах з'яўляецца недатыкальнай, не можа быць зменена або выкарыстана ў той ці іншай форме без волевыяўлення туркменскага народа.*

*7. На тэрыторыі Туркменскай ССР усталёўваецца рэспубліканскае грамадзянства з захаваннем грамадзянства Саюза ССР. Туркменская ССР забяспечвае роўнасць перад законам усіх грамадзянаў рэспублікі незалежна ад паходжання, сацыяльнага і маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, полу, адукацыі, мовы, палітычных поглядаў, рэлігійных перакананняў, роду і характару заняткаў, месцажыхарства і іншых абставінаў. Грамадзяне Туркменскай ССР за межамі рэспублікі знаходзяцца пад абаронай і заступніцтвам Туркменскай ССР, органы ўлады рэспублікі ствараюць ўмовы для задавальнення іх культурных і моўных патрэбаў.*

*Грамадзянам іншых саюзных рэспублік і замежных дзяржаваў, асобам без грамадзянства на тэрыторыі Туркменскай ССР гарантуюцца правы і свабоды, прадугледжаныя Канстытуцыяй Туркменскай ССР, Канстытуцыяй СССР і нормамі міжнароднага права.*

*8. Туркменская ССР самастойна вырашае ўсе пытанні ўнутранай і знешняй бяспекі рэспублікі. Рэспубліка вызначае парадак праходжання вайсковай службы грамадзянамі Туркменскай ССР, кантралюе забеспячэнне іх правоў і ўмоваў службы, выкарыстанне ў ваенных мэтах.*

*Туркменская ССР ставіць сваёй мэтай зрабіць тэрыторыю рэспублікі зонай, свабоднай ад ядзернай, хімічнай, бактэрыялагічнай і іншых відаў зброі масавай паразы.*

*9. Туркменская ССР ажыццяўляе непасрэдныя зносіны з іншымі дзяржавамі...*

*10. Зямля, яе нетры, паветраная прастора, водныя і іншыя прыродныя рэсурсы, якія знаходзяцца ў межах тэрыторыі Туркменскай ССР і марской эканамічнай зоны, з'яўляюцца нацыянальным здабыткам і ўласнасцю туркменскага народа і служаць матэрыяльнай асновай суверэнітэта рэспублікі. Народ Туркменістана мае выключнае права на валоданне, карыстанне і распараджэнне гэтым багаццем, а таксама ўсім створаным на тэрыторыі рэспублікі эканамічным і навукова-тэхнічным патэнцыялам.*

*12. ...Туркменская ССР самастойна ўстанаўлівае аб'ёмы здабычы і ўмовы паставак (вывазу) карысных выкапняў і сыравіны, ажыццяўляе рэгуляванне (ліцэнзаванне, кватаванне) знешнеэканамічнай*

*актыўнанасці, кіруе мытнай службай на тэрыторыі рэспублікі. Туркменская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай уласнасці, Алмазным, Валютным фондах і залатым запасе СССР.*

*14. Туркменская ССР утварае Нацыянальны банк...*

*15. Туркменская ССР забяспечвае... функцыяванне туркменскай мовы як дзяржаўнай мовы.*

*16. Нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Туркменскай ССР з'яўляюцца выключна ўласнасцю рэспублікі і яе народа. Туркменская ССР мае права на вяртанне ўласнасці народа Туркменістана, нацыянальных, культурных і гістарычных каштоўнасцяў, якія знаходзяцца па-за межамі рэспублікі...*

*Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі Туркменскай ССР, падпісання Саюзнай Дамовы, удасканалення рэспубліканскага заканадаўства.»*

## Арменія, 23 жніўня 1990 года (12)

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Армянскай ССР

**«Аб незалежнасці Арменіі»**

*«Вярхоўны Савет Армянскай ССР,*

*выказваючы адзіную волю народа Арменіі,*

*усведамляючы сваю адказнасць за лёс армянскага народа ў ажыццяўленні спадзяванняў усіх армянаў і аднаўленні гістарычнай справядлівасці,*

*сыходзячы з прынцыпаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і агульнапрызнаных нормаў міжнароднага права,*

*ператвараючы ў жыццё права нацый на свабоднае самавызначэнне,*

*грунтуючыся на сумеснай Пастанове Вярхоўнага Савета Армянскай ССР і Нацыянальнага Савета Нагорнага Карабаха ад 1 снежня 1989 года «Пра ўз'яднанне Армянскай ССР і Нагорнага Карабаха»,*

*развіваючы дэмакратычныя традыцыі ўтворанай 28 траўня 1918 года незалежнай Рэспублікі Арменія,*

*маючы на мэце стварэнне дэмакратычнага, прававога грамадства,*

*абвяшчае пачатак працэсу зацверджання незалежнай дзяржаўнасці.*

*1. Армянская ССР перайменоўваецца ў Рэспубліку Арменія, скарочана – Арменія.*

*Рэспубліка Арменія мае свой сцяг, герб і гімн.*

*2. Рэспубліка Арменія – суверэнная дзяржава, надзеленая вярхоўнасцю дзяржаўнай улады, незалежнасцю, паўнапраўем.*

*На ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Арменія дзейнічаюць толькі Канстытуцыя і законы Рэспублікі Арменія.*

*3. Носьбітам армянскай дзяржаўнасці з'яўляецца народ Рэспублікі Арменія, які ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы – на аснове Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Арменія.*

*Права выступаць ад імя народа рэспублікі належыць выключна Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Арменія.*

*4. Для ўсіх грамадзянаў, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Арменія, устанаўліваецца грамадзянства Рэспублікі Арменія. Армяне, якія пражываюць за межамі Рэспублікі Арменія, маюць права на грамадзянства Рэспублікі Арменія. Грамадзяне Рэспублікі Арменія знаходзяцца пад яе абаронай і заступніцтвам.*

*Рэспубліка Арменія забяспечвае свабоднае і раўнапраўнае развіццё сваіх грамадзянаў незалежна ад нацыянальнасці, расавай прыналежнасці і веравызнання.*

*5. У мэтах забеспячэння сваёй бяспекі і недатыкальнасці межаў Рэспубліка Арменія стварае падпарадкаваныя Вярхоўнаму Савету ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі.*

*Рэспубліка Арменія мае права на сваю долю ва ўзбраеннях СССР.*

*Рэспубліка Арменія самастойна вызначае парадак праходжання вайсковай службы сваімі грамадзянамі. Вайсковыя злучэнні іншых краінаў, іх ваенныя базы і пабудовы могуць размяшчацца на тэрыторыі Рэспублікі Арменія толькі па рашэнні яе Вярхоўнага Савета. Узброеныя Сілы Рэспублікі Арменія могуць быць выкарыстаныя толькі па рашэнні яе Вярхоўнага Савета.*

*6. Рэспубліка Арменія як суб'ект міжнароднага права праводзіць незалежную знешнюю палітыку, устанаўлівае прамыя адносіны з іншымі дзяржавамі, нацыянальна-дзяржаўнымі ўтварэннямі СССР, удзельнічае ў дзейнасці міжнародных арганізацый.*

*7. Нацыянальнае багацце Рэспублікі Арменія – зямля, нетры, паветраная прастора, водныя і іншыя прыродныя рэсурсы, эканамічны, інтэлектуальны, культурны патэнцыял – уласнасць яе народа. Парадак валодання, карыстання і распараджэння імі вызначаецца законамі Рэспублікі Арменія.*

*Рэспубліка Арменія мае права на сваю долю нацыянальнага багацця СССР, у тым ліку залатога запасу, Алмазнага і Валютнага фондаў.*

*8. Рэспубліка Арменія на аснове разнастайнасці відаў уласнасці вызначае прынцыпы і парадак сваёй эканамічнай дзейнасці, заснаўвае ўласныя грашовыя знакі, нацыянальны банк, фінансава-крэдытную сістэму, падатковую і мытную службы.*

*9. На сваёй тэрыторыі Рэспубліка Арменія забяспечвае: свабоду слова, друку, сумлення; размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў; шматпартыйнасць, раўнapраўе партый, дэпалітызацыю праваахоўных органаў і Узброеных Сіл.*

*10. Рэспубліка Арменія забяспечвае функцыяванне армянскай мовы як дзяржаўнай мовы ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі, стварае ўласную сістэму адукацыі, навукі і культуры.*

*11. Рэспубліка Арменія выступае за міжнароднае прызнанне генацыду армянаў 1915 года ў Асманскай Турцыі і Заходняй Арменіі.*

*12. Дадзеная Дэкларацыя служыць асновай для распрацоўкі Канстытуцыі Рэспублікі Арменія, унясення змяненняў і дапаўненняў у дзейную Канстытуцыю, дзейнасці дзяржаўных органаў, распрацоўкі новага заканадаўства Рэспублікі.»*

## Таджыкістан, 24 жніўня 1990 года (13)

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Таджыкскай ССР
**«Аб дзяржаўным суверэнітэце Таджыкскай ССР»**

*«Вярхоўны Савет Таджыкскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі...*

*урачыста абвяшчае суверэнітэт Таджыкскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і заяўляе аб рашучасці стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву.*

*1. Таджыкская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ёсць суверэнная шматнацыянальная дзяржава. Дзяржаўны суверэнітэт Таджыкскай ССР выяўляецца ў адзінстве і зверхнасці дзяржаўнай улады на ўсёй тэрыторыі Таджыкскай ССР і незалежнасці ў знешніх зносінах.*

*2. Грамадзяне Таджыкскай ССР, незалежна ад іх нацыянальнасці, складаюць народ Таджыкскай ССР, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Народ ажыццяўляе дзяржаўную ўладу як непасрэдна, так і праз прадстаўнічыя органы на аснове Канстытуцыі Таджыкскай ССР.*

*Ніводная палітычная партыя, грамадская, рэлігійная арганізацыя, масавы рух, група людзей або асоба не могуць выступаць ад імя народа Таджыкскай ССР. Гэта права належыць толькі Вярхоўнаму Савету Таджыкскай ССР.*

*3. Дзяржаўная ўлада ў Таджыкскай ССР ажыццяўляецца па прынцыпе яе падзелу на заканадаўчую, выканаўчую і судовую.*

*4. Таджыкская ССР на сваёй тэрыторыі самастойна вырашае ўсе пытанні, звязаныя з палітычным, эканамічным, сацыяльна-культурным будаўніцтвам, за выняткам тых, якія ёю дабраахвотна будуць перададзеныя Саюзу ССР.*

*5. На тэрыторыі рэспублікі усталёўваецца зверхнасць Канстытуцыі Таджыкскай ССР і законаў Таджыкскай ССР; дзеянне актаў Саюза ССР, якія ўступаюць у супярэчнасць з суверэннымі правамі Таджыкскай ССР, прыпыняецца Вярхоўным Саветам Та-*

*джыкскай ССР. Рознагалоссі паміж Таджыкскай ССР і Саюзам ССР з нагоды законнасці актаў вырашаюцца ва ўстаноўленым парадку.*

*Усе грамадзяне Таджыкскай ССР, асобы без грамадзянства, дзяржаўныя, грамадскія і рэлігійныя арганізацыі ажыццяўляюць сваю дзейнасць у адпаведнасці з Канстытуцыяй Таджыкскай ССР і законамі Таджыкскай ССР і знаходзяцца пад аховай закона.*

*Вышэйшы нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў на тэрыторыі рэспублікі ажыццяўляе пракурор Таджыкскай ССР, які прызначаецца Вярхоўным Саветам Таджыкскай ССР. Пракурор Таджыкскай ССР адказны і падсправаздачны Вярхоўнаму Савету Таджыкскай ССР.*

*6. Таджыкская ССР прызнае і паважае суверэнныя правы Саюза ССР і саюзных рэспублік, будуе свае ўзаемаадносіны з імі на аснове дамоваў, пагадненняў, можа мець сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў у другіх саюзных рэспубліках.*

*7. Таджыкская ССР захоўвае за сабой права свабоднага выхаду з Саюза ССР у парадку, які ўстанаўліваецца Саюзнай дамовай і заснаваным на ёй заканадаўстве.*

*8. У Таджыкскай ССР усе палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, масавыя рухі, якія дзейнічаюць у межах Канстытуцыі Таджыкскай ССР, з'яўляюцца раўнапраўнымі, ім ствараюцца ўмовы для ўдзелу ў кіраванні дзяржаўнымі і грамадскімі справамі.*

*9. На тэрыторыі Таджыкскай ССР усталёўваецца рэспубліканскае грамадзянства. Кожны грамадзянін Таджыкскай ССР адначасова з'яўляецца грамадзянінам СССР.*

*10. Таджыкская ССР гарантуе ўсім грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі, незалежна ад іх паходжання, сацыяльнага і маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, мовы, полу, палітычных поглядаў, рэлігійных перакананняў, роду і характару заняткаў, месцажыхарства і іншых абставінаў, усю паўнату правоў і свабодаў, прадугледжаных Канстытуцыяй Таджыкскай ССР, Канстытуцыяй СССР і агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права.*

*Таджыкская ССР праяўляе клопат і прымае меры па ахове і абароне інтарэсаў грамадзянаў Таджыкскай ССР, якія знаходзяцца па-за межамі рэспублікі.*

*11. Тэрыторыя Таджыкскай ССР з'яўляецца недатыкальнай і не можа быць зменена без згоды яе народа.*

*12. Таджыкская ССР мае выключнае права на валоданне, карыстанне і распараджэнне нацыянальным багаццем рэспублікі. Зямля, яе нетры і іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі рэспублікі з'яўляюцца выключнай уласнасцю Таджыкскай ССР.*

*13. Таджыкская ССР утварае спецыялізаваныя банкі, самастойна вызначае фінансавую, крэдытную і цэнавую палітыку.*

*14. Таджыкская ССР забяспечвае нацыянальна-культурнае адраджэнне таджыкскага народа, яго добрыя гістарычныя звычаі і традыцыі, а таксама гарантуе ўсім нацыянальнасцям, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі, грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя правы і іх свабоднае нацыянальна-культурнае развіццё.*

*15. Таджыкская ССР ажыццяўляе непасрэдныя зносіны з замежнымі дзяржавамі, падпісвае з імі дамовы эканамічнага, культурнага і навукова-тэхнічнага характару, абменьваецца дыпламатычнымі, консульскімі, гандлёвымі прадстаўніцтвамі, у выпадку неабходнасці прымае ўдзел у дзейнасці міжнародных арганізацый.*

*16. Таджыкская ССР з'яўляецца прыхільнікам агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права, вырашэння ўсіх рознагалоссяў палітычнымі сродкамі, паважае правы, свабоды і суверэнітэт усіх народаў і краінаў, імкнецца да сяброўства, братэрства і далейшага прагрэсу ва ўсім свеце.*

*17. Штогод адзначаецца 14 кастрычніка як Дзень утварэння Таджыкскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, абвешчаны выходным днём.*

*18. Сімвалы дзяржаўнага суверэнітэту Таджыкскай ССР – герб, сцяг, гімн – з'яўляюцца свяшчэннымі, іх недатыкальнасць ахоўваецца законам.*

*19. Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі Таджыкскай ССР, падпісання Саюзнай дамовы.»*

## Казахстан, 25 кастрычніка 1990 года (14)

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Казахскай ССР
**«Аб дзяржаўным суверэнітэце**
**Казахскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі»**

*«Вярхоўны Савет Казахскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, выяўляючы волю народа Казахстана...*

*абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Казахскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і прымае гэтую Дэкларацыю.*

*1. Казахская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ёсць суверэнная дзяржава, якая добраахвотна аб'ядноўваецца з іншымі рэспублікамі ў Саюз суверэнных рэспублік і будуе ўзаемаадносіны з імі на дагаворнай аснове.*

*Казахская ССР захоўвае за сабой права свабоднага выхаду з Саюза.*

*2. Казахская ССР прымае меры па ахове, абароне і ўмацаванні нацыянальнай дзяржаўнасці...*

*3. Тэрыторыя Казахскай ССР у існуючых межах з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць выкарыстаная без яе згоды...*

*4. Грамадзяне Рэспублікі ўсіх нацыянальнасцяў складаюць народ Казахстана, і ён з'яўляецца адзіным носьбітам суверэнітэту і крыніцай дзяржаўнай улады ў Казахскай ССР, ажыццяўляе дзяржаўную ўладу як непасрэдна, так і праз прадстаўнічыя органы на аснове Канстытуцыі Казахскай ССР...*

*5. Казахская ССР мае сваё грамадзянства і гарантуе кожнаму грамадзяніну права на захаванне грамадзянства СССР.*

*Грамадзянам, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі, гарантуюцца ўсе правы і свабоды, прадугледжаныя Канстытуцыяй СССР і Канстытуцыяй Казахскай ССР, безадносна да іх нацыянальнай і партыйнай прыналежнасці, паходжання, сацыяльнага і маёмаснага стану, полу, веравызнанні, роду заняткаў, месцажыхарства. Замах на грамадзянскае і нацыянальнае раўнапраўе караецца законам.*

*Казахская ССР гарантуе грамадскім, палітычным і рэлігійным арганізацыям, масавым рухам, якія дзейнічаюць у межах Канстытуцыі Казахскай ССР, роўныя прававыя магчымасці ўдзельнічаць у дзяржаўным і грамадскім жыцці...*

*1. Дзяржаўная ўлада Казахскай ССР валодае зверхнасцю, самастойнасцю, паўнатой унутры Рэспублікі, а таксама ў знешніх зносінах у межах, вызначаных Саюзнай дамовай.*

*Казахская ССР самастойна вырашае ўсе пытанні, звязаныя з палітычным, эканамічным, сацыяльным і нацыянальна-культурным будаўніцтвам у Рэспубліцы, яе адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаваннем, вызначае структуру і кампетэнцыю органаў дзяржаўнай улады і кіравання, а таксама сімвалы Рэспублікі.*

*2. Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы ажыццяўляецца па прынцыпе яе падзелу на заканадаўчую, выканаўчую і судовую...*

*Казахская ССР мае права прыпыняць на сваёй тэрыторыі дзеянне законаў і іншых актаў вышэйшых органаў Саюза, якія парушаюць суверэнныя правы і Канстытуцыю Рэспублікі.*

*8. У выключнай уласнасці Рэспублікі, складаючы аснову яе суверэнітэту, знаходзяцца зямля і яе нетры, воды, паветраная прастора, раслінны і жывёльны свет...*

*У Казахскай ССР забяспечваецца разнастайнасць і роўнасць формаў уласнасці і гарантуецца іх абарона...*

*9. Казахская ССР мае права ўтварыць Дзяржаўны нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету Рэспублікі, сваю фінансава-крэдытную сістэму, самастойна фармуе дзяржаўны бюджэт, арганізуе падатковую і саюзна-рэспубліканскую мытную сістэмы. Казахская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці.*

*10. Казахская ССР самастойна ўстанаўлівае парадак, арганізацыю аховы экалагічнага асяроддзя Рэспублікі, выкарыстання прыродных рэсурсаў, забяспечвае народу экалагічную бяспеку і*

*мае права забараніць будаўніцтва і спыніць функцыяванне на сваёй тэрыторыі любых прадпрыемстваў, установаў, арганізацый, іншых аб'ектаў, якія з'яўляюцца крыніцай экалагічнай небяспекі.*

*На тэрыторыі Рэспублікі забараняюцца выпрабаванне ядзернай зброі, будаўніцтва і функцыяванне выпрабавальных палігонаў для іншых відаў зброі масавага знішчэння (хімічнай, бактэрыялагічнай, біялагічнай і іншых).*

*Казахская ССР мае права на пакрыццё шкоды, прычыненай здароўю насельніцтва, прыроднаму асяроддзю і эканоміцы Рэспублікі дзеяннямі саюзных органаў, саюзных рэспублік і іншых дзяржаваў, а таксама дзейнасцю на яе тэрыторыі ядзерных і іншых палігонаў, аб'ектаў ваенна-прамысловага комплексу.*

*11. Прадстаўнікам нацый і народнасцяў, якія пражываюць у Казахскай ССР за межамі сваіх нацыянальна-дзяржаўных і аўтаномных утварэнняў, або якія не маюць іх на тэрыторыі Саюза, гарантуюцца прававая роўнасць і роўныя магчымасці ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.*

*Казахская ССР праяўляе клопат аб задавальненні нацыянальна-культурных, духоўных і моўных патрэбаў казахаў, якія пражываюць за межамі Рэспублікі.*

*10. Казахская ССР мае права на ўласныя ўнутраныя войскі, органы дзяржаўнай бяспекі і ўнутраных справаў, падначаленыя і падкантрольныя Вярхоўнаму Савету Казахскай ССР і Прэзідэнту Казахскай ССР. Рэспубліка мае права... вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, вырашаць пытанні размяшчэння войска і ўзбраення на сваёй тэрыторыі.*

*13. Казахская ССР мае права выступаць самастойным суб'ектам міжнародных зносінаў, вызначаць знешнюю палітыку ў сваіх інтарэсах, абменьвацца дыпламатычнымі і консульскімі прадстаўніцтвамі, удзельнічаць у дзейнасці міжнародных арганізацый, у тым ліку ААН і яе спецыялізаваных установаў. Рэспубліка будуе эканамічныя і гандлёвыя сувязі з замежнымі дзяржавамі на аснове ўзаемавыгодных дамоваў з захаваннем прынцыпаў дабраахвотнасці і раўнапраўя, самастойна вырашае пытанні знешнеэканамічнай дзейнасці.*

*14. Ахова суверэнных правоў Рэспублікі ажыццяўляецца Казахскай ССР і Саюзам...*

*15. Сімвалы дзяржаўнага суверэнітэту Казахскай ССР – герб, сцяг, гімн – з'яўляюцца свяшчэннымі, і ўсялякі здзек над імі караецца законам.*

*16. Дэкларацыя з'яўляецца асновай для падпісання Саюзнай дамовы, распрацоўкі новай Канстытуцыі Казахскай ССР, заканадаўчых актаў, якія рэалізуюць статус Рэспублікі як суверэннай дзяржавы.»*

## Кыргызстан, 15 снежня 1990 года (15)

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Кыргізстан

**«Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Кыргызстан»**

*«Вярхоўны Савет Рэспублікі Кыргызстан...*

*урачыста абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Кыргызстан, які азначае зверхнасць дзяржаўнай улады Рэспублікі на ўсёй тэрыторыі і незалежнасць у знешніх зносінах.*

***Артыкул 1.***

*Рэспубліка Кыргызстан – суверэнная дзяржава, якая ўсталяваная і развіваецца на аснове ажыццяўлення кыргызскай нацыяй свайго неад'емнага права на самавызначэнне, свабодны выбар усімі народамі Кыргызстана грамадскага і дзяржаўнага ладу, выказваць і абараняць інтарэсы грамадзянаў Рэспублікі ўсіх нацыянальнасцяў.*

***Артыкул 2.***

*Грамадзяне Рэспублікі ўсіх нацыянальнасцяў складаюць народ Рэспублікі Кыргызстан, які з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы...*

***Артыкул 3.***

*Кыргызская нацыя, якая дала назву Рэспубліцы, якая мае старажытную гісторыю, самабытную культуру, сваю мову, звычаі, традыцыі, клапоціцца аб захаванні цэласнасці свайго генафонду, этнасу, нацыянальнай дзяржаўнасці, культурнай і моўнай спадчыны на аснове дзяржаўнай палітыкі інтэрнацыяналізму, супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння, павагі да грамадзянаў усіх нацыянальнасцяў...*

***Артыкул 4.***

*Народ Кыргызстана ажыццяўляе вярхоўную ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы...*

***Артыкул 5.***

*Дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Кыргызстан забяспечваецца:*

*паўнатой дзяржаўнай улады Рэспублікі ва ўсіх сферах грамадскага жыцця...*

*правам добраахвотнага ўваходжання ў Саюз суверэнных рэспублік на аснове дамовы,*

*правам свабоднага выхаду з Саюза суверэнных рэспублік,*

*наяўнасцю сваёй дзяржаўнай мовы, герба, сцяга, гімна і сталіцы.*

***Артыкул 6.***

*Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы ажыццяўляецца на аснове яе падзелу на заканадаўчую, выканаўчую і судовую...*

***Артыкул 7.***

*Рэспубліка Кыргызстан мае сваё грамадзянства...*

*Усім грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі, гарантуюцца правы і свабоды, прадугледжа-*

*ныя Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і законамі Рэспублікі. Яны не могуць падпадаць пад дыскрымінацыю ў палітычных, эканамічных, сацыяльных адносінах па матывах паходжання, маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, колеру скуры, полу, адукацыі, мовы, роду і характару заняткаў, месцажыхарства, адносінаў да рэлігіі, палітычных і іншых перакананняў, прыналежнасці да партыяў ці іншых дейных у адпаведнасці з Канстытуцыяй грамадска-палітычных арганізацый.*

***Артыкул 8.***

*Палітычнае жыццё ў Рэспубліцы ажыццяўляецца на аснове прынцыпу плюралізму.*

*Усе палітычныя партыі, грамадска-палітычныя арганізацыі, народна-дэмакратычныя і іншыя масавыя рухі працуюць у межах Канстытуцыі Рэспублікі Кыргызстан. Стварэнне новых арганізацый ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі. Палітычныя і іншыя грамадска-палітычныя рухі, якія маюць антыканстытуцыйныя і антыграмадскія мэты, забараняюцца...*

***Артыкул 9.***

*Тэрыторыя Рэспублікі Кыргызстан у існуючых межах з'яўляецца недатыкальнай і не можа быць змененая і выкарыстаная без яе згоды.*

***Артыкул 10.***

*Рэспубліка Кыргызстан самастойна арганізуе сваё эканамічнае жыццё.*

*У Рэспубліцы дзейнічаюць разнастайныя формы ўласнасці, якія маюць роўны прававы статус, з'яўляюцца асновай фармавання і развіцця рынкавых адносінаў і накіраваныя на задавальненне перш за ўсё інтарэсаў грамадзянаў Рэспублікі. У межах не забароненай законам працоўнай дзейнасці даходы грамадзянаў не абмяжоўваюцца, і разам з гэтым ажыццяўляецца сістэма сацыяльнай абароненасці насельніцтва.*

*У Рэспубліцы Кыргызстан зямля, яе нетры, паветраная прастора, лес, воды, раслінны і жывёльны свет – усе прыродныя рэсурсы, культурныя і гістарычныя каштоўнасці, а таксама ўвесь эканамічны і навукова-тэхнічны патэнцыял, створаны народам Рэспублікі, з'яўляюцца яго нацыянальным здабыткам, выключнай уласнасцю...*

*Рэспубліка Кыргызстан мае права на сваю долю ў агульнасаюзным багацці адпаведна ўкладу народа Рэспублікі, у тым ліку ў Алмазным, Залатым і Валютным фондах.*

*Рэспубліка Кыргызстан самастойна стварае банкаўскую, цэнавую, фінансавую, падатковую сістэму, фармуе дзяржаўны бюджэт, пры неабходнасці ўводзіць сваю грашовую адзінку. Вышэйшай крэдытнай установай Рэспублікі з'яўляецца Нацыянальны банк Кыргызстана.*

*Артыкул 11.*

*Рэспубліка Кыргызстан забяспечвае на сваёй тэрыторыі ахову прыроды, рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў...*

*Артыкул 12.*

*Рэспубліка Кыргызстан ахоўвае і абараняе свае дзяржаўныя інтарэсы, мае органы ўнутраных спраў і дзяржаўнай бяспекі, мае права ствараць унутраныя войскі.*

*Рэспубліка Кыргызстан вызначае парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, вырашае пытанні знаходжання войскаў і ўзбраення на сваёй тэрыторыі ў межах Саюзнай дамовы.*

*Вытворчасць і выпрабаванне на яе тэрыторыі ядзернай, хімічнай або іншага віду зброі масавага знішчэння, а таксама захоўванне адходаў ядзернай энергетыкі не дапускаецца.*

*Артыкул 13.*

*Рэспубліка Кыргызстан з'яўляецца раўнапраўным удзельнікам міжнароднага зносінаў, актыўна садзейнічае ўмацаванню міру і міжнароднай бяспекі. Як суб'ект міжнароднага права Рэспубліка ажыццяўляе непасрэдныя зносіны з іншымі дзяржавамі, падпісвае з імі дамовы, абменьваецца дыпламатычнымі консульскімі, гандлёвымі прадстаўніцтвамі, прымае ўдзел у дзейнасці міжнародных арганізацый...*

*Артыкул 15.*

*Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі і прыняцця новай Канстытуцыі Рэспублікі Кыргызстан, законаў Рэспублікі і вызначае пазіцыі Рэспублікі пры падпісанні новай Саюзнай дамовы і міжнародных пагадненняў.»*

## Рэзюме

Усе рэспублікі СССР прынялі дэкларацыі аб суверэнітэце да канца 1990 года, многія з іх рашуча супярэчылі Канстытуцыі СССР і былі адкрыта супрацьпастаўленыя цэласнасці СССР, бо лічылі сваю канстытуцыю першаснай, а Канстытуцыю СССР фактычна аспрэчвалі. Цэнтр указамі, падпісанымі М. Гарбачовым, пастаянна ім пра гэта нагадваў і заклікаў выправіць рэспубліканскія акты, якія парушаюць саюзную канстытуцыю. Дэкларацыі аб незалежнасці і дакументы Цэнтра, якія абвінавачвалі рэспубліканскіх заканадаўцаў у парушэнні «святая святых» – Канстытуцыі СССР, сталі фактарамі, якія вызначылі пазіцыю вядучых палітыкаў Захаду да падзеяў на тэрыторыі СССР. Яны рашуча заявілі, што не прымаюць распаду СССР, што з'яўляюцца праціўнікамі сепаратызму. З кіраўнікоў дзяржаваў пасля Франсуа Мітэрана і Гельмута Коля найбольш недвухсэнсоўна выказаўся прэзідэнт ЗША Джорж Буш у Кіеве, заклікаючы УССР падпісаць саюзную дамову. Аднак

працэс, накіраваны на падзел СССР, спыніць было ўжо немагчыма. Не абяцалі поспеху і спасылкі на сакавіцкі рэферэндум аб захаванні адзінай краіны. Усе даўно ўсвядомілі крывадушнасць вынесенага на рэферэндум пытання, сфармуляванага ўсё тымі ж камуністычнымі ідэолагамі. У тое, што можна стварыць адзіны СССР з чалавечым тварам, у якім усе будуць шчаслівыя, ніхто не верыў. Трэба было заканчваць з крывадушнасцю і шукаць іншае вырашэнне праблемы, захоўваючы кантроль над працэсам непазбежнай трансфармацыі імперыі – Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

# VIII. НАРОДЫ МАЛАЛІКІЯ І ДА ІХ ПРЫРАЎНЯНЫЯ

## Дэкларацыі аўтаномій

Дэкларатыўная хваля не абмежавалася рэспублікамі СССР, а пакацілася і па аўтаномных рэспубліках і нават па аўтаномных абласцях. Усе яны таксама пажадалі стаць суверэннымі нацыянальнымі дзяржавамі, праўда, у большасці выпадкаў – у складзе абноўленых СССР і РСФСР. Першай аўтаномнай ССР, прадстаўнічая ўлада якой афіцыйна заявіла аб сваім дзяржаўным суверэнітэце, была **Паўночна-Асяцінская АССР**, якая ўваходзіць у склад РСФСР. Прынятая яе Вярхоўным Саветам «**Дэкларацыя ад 20 ліпеня 1990 года**» па змесце вельмі падобная на дэкларацыі саюзных рэспублік. ПА АССР абвясціла сябе суверэннай дзяржавай у складзе РСФСР і СССР, створанай народам Паўночнай Асеціі, *«у імя вышэйшых мэтаў забеспячэння кожнаму чалавеку неад'емнага права на годнае жыццё, свабоднае развіццё, павагі нацыянальнай годнасці і карыстання роднай мовай»*.

Дэкларацыя зацвярджала грамадзянства ПА АССР, герб, сцяг, гімн і сталіцу, дзяржаўнымі мовамі – рускую і асяцінскую, роўныя правы грамадзянаў рознай нацыянальнасці, зверхнасць законаў ПА АССР над расійскімі і саюзнымі, падзел уладаў, павагу да правоў чалавека, іншых дэмакратычных прынцыпаў. Дэкларацыя абвяшчалася асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі, удасканалення рэспубліканскага заканадаўства, падпісання дамоваў аб уваходжанні ў СССР і РСФСР.

* * *

Сутнасць Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Карэліі «**Аб дзяржаўным суверэнітэце Карэльскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі**» ад 9 жніўня 1990 года мала адрознівалася ад толькі што разгледжанай Дэкларацыі ПА АССР. Дадаткова ў ёй звернутая ўвага на неабходнасць удасканалення мясцовага самакіравання і на магчымасць змены *«дзяржаўна-прававога статусу ў парадку, які вызначаецца Федэратыўнай і Саюзнай дамовамі»*.

* * *

25 жніўня 1990 года Дэкларацыю **«Аб дзяржаўным суверэнітэце»** прыняў Вярхоўны Савет Абхазскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Згодна з ёй Абхазская Савецкая Сацыялістычная рэспубліка – суверэнная сацыялістычная дзяржава, створаная на аснове ажыццяўлення абхазскай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне. АССР валодае ўсёй паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі па-за межамі правоў, добраахвотна перададзеных ёю Саюзу ССР і Грузінскай ССР на падставе падпісаных з імі дамоваў.

Абхазская ССР мае свой герб, сцяг і гімн.

Грамадзяне Рэспублікі ўсіх нацыянальнасцяў складаюць народ Абхазіі – носьбіт суверэнітэту і крыніцу дзяржаўнай улады ў Абхазскай ССР. У Дэкларацыі канстатуецца падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў, перадачу усёй паўнаты дзяржаўнай улады на тэрыторыі Абхазскай ССР Вярхоўнаму Савету АССР. Законы Абхазскай ССР валодаюць зверхнасцю на ўсёй тэрыторыі Абхазскай ССР. Дзеянні актаў Саюза ССР і Грузінскай ССР, якія парушаюць суверэнітэт Абхазскай ССР і якія ўступаюць у супярэчнасць з яе правамі, прыпыняюцца вышэйшымі органамі заканадаўчай і выканаўчай улады Абхазскай ССР. Тэрыторыя Абхазскай ССР не можа быць зменена без яе згоды, усталёўваецца грамадзянства Абхазскай ССР, кожнаму грамадзяніну гарантуецца права на захаванне грамадзянства СССР.

Народ Абхазіі мае выключнае права на валоданне, карыстанне і распараджэнне нацыянальным багаццем Абхазіі. Зямля, яе нетры, паветраная прастора, водныя і іншыя прыродныя рэсурсы, якія знаходзяцца ў межах тэрыторыі Абхазскай ССР, прыродныя рэсурсы яе кантынентальнага шэльфа, увесь эканамічны і навукова-тэхнічны патэнцыял, створаны на тэрыторыі Абхазіі, з'яўляюцца ўласнасцю яе народа, матэрыяльнай асновай суверэнітэту Рэспублікі і выкарыстоўваюцца з мэтай забеспячэння матэрыяльных і духоўных патрэбаў яе грамадзянаў. АССР самастойна стварае банкаўскую, цэнавую, фінансавую, мытную і падатковую сістэмы, фармуе дзяржаўны бюджэт і валютны фонд рэспублікі, стварае нацыянальны банк.

Абхазская ССР пацвярджае права і забяспечвае ўмовы для вяртання на гістарычную Радзіму дэпартаванай часткі абхазскага народа. На тэрыторыі Абхазскай ССР дзяржаўнай мовай з'яўляецца абхазская мова, афіцыйнымі мовамі – абхазская, грузінская, руская. Дэкларацыя з'яўляецца асновай для новай Канстытуцыі Абхазскай ССР і вызначае пазіцыю Рэспублікі пры падпісанні Саюзнай дамовы і дамовы з Грузінскай ССР.

* * *

29 жніўня 1990 года быў абвешчаны **дзяржаўны суверэнітэт Комі ССР**. У Дэкларацыі гаварылася: *«Вярхоўны Савет Комі Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, выяўляючы волю шматнацыянальнага народа, які пражывае на тэрыторыі Комі ССР, у мэтах забеспячэння яго палітычных, эканамічных, прававых гарантый, а таксама неабходнасці захавання і развіцця шматвекавой культуры, мовы, традыцый і побыту народа Комі, заяўляе:*

*1. Комі ССР з'яўляецца суверэннай нацыянальнай дзяржавай, добраахвотна ўваходзіць у склад РСФСР і Саюза ССР на падставе падпісаных дамоваў, якія гарантуюць юрыдычнае і эканамічнае раўнапраўе ўсіх яе грамадзянаў, незалежна ад нацыянальнасці».*

У астатніх пунктах Дэкларацыі: сцвярджэнні аб крыніцы дзяржаўнай улады – народзе (грамадзяне ўсіх нацыянальнасцяў Комі ССР); аб праве скасаваць дамовы з РСФСР і Саюзам ССР і выхадзе са складу РСФСР і СССР шляхам рэферэндуму; аб зямлі, нетрах, паветранай прасторы, іншых прыродных багаццях як уласнасці народа; аб зверхнасці Канстытуцыі і законаў Комі ССР над заканадаўчымі актамі РСФСР і СССР. У Комі ССР прызнавалася раўнапраўнае функцыяванне дзвюх дзяржаўных моваў – комі і рускай, наяўнасць свайго герба, сцяга і гімна.

* * *

Дзяржаўны суверэнітэт **Татарскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі** быў абвешчаны 30 жніўня 1990 года Вярхоўным Саветам Татарскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Матывацыя:

*«усведамляючы гістарычную адказнасць за лёс шматнацыянальнага народа рэспублікі;*

*засведчыўшы павагу да суверэнных правоў усіх народаў, якія насяляюць Расейскую Федэрацыю і Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік;*

*адзначаючы неадпаведнасць статусу аўтаномнай рэспублікі інтарэсам далейшага палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага развіцця яе шматнацыянальнага народа»...*

Канстатавалася пераўтварэнне Татарскай АССР ў **Татарскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Татарстан**. Далейшыя палажэнні Дэкларацыі:

*«Зямля, яе нетры, прыродныя багацці і іншыя рэсурсы на тэрыторыі Татарскай ССР з'яўляюцца выключнай уласнасцю яе народа. Татарская ССР гарантуе ўсім грамадзянам, якія пражываюць на яе тэрыторыі, незалежна ад іх нацыянальнасці, сацыяльнага*

*паходжання, веравызнання, палітычных пераканання́ў, іншых адрозненняў роўныя правы і свабоды чалавека.*

*У Татарскай ССР гарантуецца раўнапраўнае функцыяванне татарскай і рускай моваў у якасці дзяржаўных, захаванне і развіццё моваў іншых нацыянальнасцяў.*

*У далейшым у якасці афіцыйнай назвы дзяржавы ў Канстытуцыі, іншых прававых нарматыўных актах дзяржаўнага жыцця ўжываць «Татарская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка».*

*Вышэйшы орган дзяржаўнай улады рэспублікі называць «Вярхоўны Савет Татарскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», а прынятыя ім акты – актамі Вярхоўнага Савета Татарскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.*

*Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі Канстытуцыі Татарскай ССР, развіцця заканадаўства Татарскай ССР, удзелу Татарскай ССР у падрыхтоўцы і падпісанні Саюзнай дамовы, дамоваў з РСФСР і іншымі рэспублікамі, вынясення найбольш важных пытанняў дзяржаўнага будаўніцтва Татарскай ССР і яе зносінаў з Саюзам ССР, РСФСР і іншымі рэспублікамі на абмеркаванне яе народа.*

*Канстытуцыя і законы Татарскай ССР валодаюць зверхнасцю на ўсёй тэрыторыі Татарскай ССР. Да прыняцця новай Канстытуцыі, іншых законаў і нарматыўных актаў Татарскай ССР на тэрыторыі Татарскай ССР працягваюць дзейнічаць законы і падзаконныя акты Татарскай ССР, РСФСР і Саюза ССР, якія не супярэчаць Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Татарскай ССР».*

Татарская дэкларацыя – адна з самых кароткіх. Праглядваецца імкненне рэспублікі паводзіць сябе годна і стаць паўнапраўнай (не проста аўтаномнай) рэспублікай у складзе СССР, атрымаць такім чынам права выхаду з СССР.

* * *

20 верасня 1990 года Вярхоўны Савет Удмурцкай АССР прыняў Дэкларацыю **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Удмурцкай Рэспублікі»**.

Галоўнае ў матывацыі:

*«падзяляючы абвешчаны Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце РСФСР прынцып забеспячэння кожнаму народу яго неад'емнага права на самавызначэнне;*

*лічачы, што існуючы прававы статус аўтаномнай рэспублікі супярэчыць паняццю аб сапраўдным суверэнітэце;*

*кіруючыся інтарэсамі шматнацыянальнага народа рэспублікі і*

*прымаючы на сябе адказнасць за яго далейшае палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае і духоўнае развіццё»,*

аб'вяшчаўся дзяржаўны суверэнітэт Удмуртыі як самастойнасць і паўната дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі.

Удмурцкая Аўтаномная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ператваралася ва Удмурцкую Рэспубліку. Адначасова заяўлялася аб рашучасці стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву ў складзе абноўленай Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Адносіны Удмурцкай Рэспублікі з РСФСР, Саюзам ССР і іншымі рэспублікамі павінны вызначацца Федэратыўнай дамовай, а таксама адпаведнымі міжрэспубліканскімі дамовамі і пагадненнямі.

Дамовы і пагадненні РСФСР, якія закранаюць інтарэсы Удмурцкай Рэспублікі, падпісваюцца з яе удзелам і з яе згоды.

Для забеспячэння палітычных, эканамічных і прававых гарантый суверэнітэту Удмурцкай Рэспублікі ўсталёўваліся:

1) паўната ўлады Удмурцкай Рэспублікі пры вырашэнні ўсіх пытанняў дзяржаўнага, эканамічнага і грамадскага жыцця, за выняткам тых, якія ёю дабраахвотна перадаюцца ў юрысдыкцыю РСФСР і СССР;

2) зверхнасць Канстытуцыі і законаў Удмурцкай Рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі;

3) прынцып зверхнасці законаў РСФСР і СССР, якія прымаюцца ў межах паўнамоцтваў, дабраахвотна перадаюцца рэспублікай РСФСР і СССР, на аснове Федэратыўнай і Саюзнай дамоваў.

Дэкларааныя поўная атрыбутыка суверэннай дзяржавы: права на валоданне, карыстанне і распараджэнне зямлёй, нетрамі, водамі, лясамі і іншымі прыроднымі рэсурсамі; самастойная фінансавая, крэдытная і інвестыцыйная палітыка, фармаванне свайго дзяржаўнага бюджэту...; забеспячэнне роўнай абароны ўсіх формаў уласнасці.

Гарантуецца раўнапраўнае функцыяванне рускай і удмурцкай моваў у якасці дзяржаўных, права на захаванне і развіццё моваў іншых нацыянальнасцяў.

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Якуцкай АССР ад 27 верасня 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Якуцкай-Саха Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі»** па змесце блізкая да дэкларацый аўтаномій, разгледжаных вышэй. Сваю спецыфіку маюць толькі некаторыя матывацыі становішча.

Вярхоўны Савет ЯАССР, адзначаючы, што статус аўтаномнай рэспублікі абмяжоўвае яе суверэнныя правы, не адпавядае асноватворным прынцыпам прававой дзяржавы, стаў тормазам

сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, лічачы рэспубліку раўнапраўным суб'ектам РСФСР і Саюза ССР..., дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і агульнапрызнанымі міжнароднымі прававымі актамі..., абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Якуціі і пераўтварае яе ў Якуцкую-Саха Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

Якуцкая-Саха сацыялістычная рэспубліка ў складзе абноўленай РСФСР утвораная ходой гістарычнага развіцця народаў, якія пражываюць на яе тэрыторыі ў экстрэмальных кліматычных умовах Крайняй Поўначы, дзейнічае ў адпаведнасці з прынцыпам самавызначэння на аснове свабоднага волевыяўлення яе грамадзянаў. Носьбітам суверэнітэту і крыніцай дзяржаўнай улады ў Якуцкай-Саха ССР з'яўляецца яе народ, які складаецца з грамадзянаў рэспублікі ўсіх нацыянальнасцяў. Паўнаўладдзе народа рэалізуецца на аснове Канстытуцыі Якуцкай-Саха ССР як непасрэдна, так і праз прадстаўнічыя органы – Саветы народных дэпутатаў. Ад імя народа выступае выключна Вярхоўны Савет Якуцкай-Саха ССР. Ніводная палітычная партыя, грамадская арганізацыя, другія групоўкі або асоба не маюць права выступаць ад імя народа.

Якуцкая-Саха ССР падпісвае з іншымі раўнапраўнымі суб'ектамі Федэральную дамову і разам з іншымі рэспублікамі ўдзельнічае ў Саюзнай дамове.

Якуцкая-Саха ССР валодае ўсёй паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі, за выняткам тых паўнамоцтваў, якія ёю даброахвотна, на аснове дамовы, перадаюцца РСФСР і Саюза ССР і ажыццяўляюцца з яе ўдзелам.

Як і ва ўсіх разгледжаных дэкларацыях, далей абвяшчаюцца ўсе складнікі суверэннай дзяржавы ў складзе РСФСР і СССР. Спецыфіка дэкларацыі абумоўленая кліматам Крайняй Поўначы і наяўнасцю малалікіх народаў.

*«Якуцкая-Саха ССР забяспечвае малалікім народам Поўначы Якуціі захаванне іх спрадвечнага асяроддзя пражывання, самакіраванне, палітычную і прававую роўнасць шляхам фармавання нацыянальна-тэрытарыяльных утварэнняў, стварае ім умовы для нацыянальнага, эканамічнага, культурнага і моўнага адраджэння. Прызнае мовы малалікіх народаў Поўначы афіцыйнымі ў месцах іх пражывання. Аснову эканамічнай сістэмы Якуцкай-Саха ССР складаюць разнастайныя формы ўласнасці, уключаючы прыватную і інтэлектуальную ўласнасць... Знешнеэканамічная дзейнасць усіх прадпрыемстваў і арганізацый, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, заснаваная на выкарыстанні яе уласнасці і прыродных багаццяў, рэгулюецца незалежна ад іх падпарадкаванасці законамі Якуцкай-Саха ССР... Якуцкая-Саха ССР мае права на самавы-*

*значэнне свайго нацыянальна-дзяржаўнага становішча на аснове волевыяўлення грамадзянаў Якуціі, сама вырашае пытанні свайго адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення..., выступае за абнаўленне і пастаяннае ўдасканаленне Савецкай федэрацыі як Саюза суверэнных сацыялістычных дзяржаваў... Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі Якуцкай-Саха ССР, падпісання дамовы з РСФСР, удзелу ў падпісанні Саюзнай дамовы, удасканалення рэспубліканскага заканадаўства.»*

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Бурацкай ССР ад 8 кастрычніка 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Бурація»** (у рэдакцыі ад 27 сакавіка 1992 г. № 213-ХН).

*«Вярхоўны Савет Рэспублікі Бурація,*

*выказваючы волю і інтарэсы шматнацыянальнага народа Бурацііі,*

*імкнучыся стварыць дэмакратычнае грамадства і пабудаваць прававую дзяржаву, усведамляючы адказнасць за лёс будучых пакаленняў, засведчыўшы павагу да нацыянальных правоў усіх народаў,*

*развіваючы і пашыраючы інтэрнацыяналізм,*

*ажыццяўляючы выхаванне грамадзянаў у духу даверу, дружбы і братэрства,*

*выступаючы за цэласнасць РСФСР,*

*прызнаючы, што ў цяперашні час прававы статус аўтаномнай рэспублікі стрымлівае развіццё эканамічнага, палітычнага, сацыяльна-культурнага патэнцыялу Бураціі,*

*лічачы Рэспубліку раўнапраўным суб'ектам Федэратыўнай і новай Саюзнай дамоваў,*

*дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнародна-прававымі актамі,*

*у імя вышэйшых мэтаў: забеспячэння кожнаму чалавеку неад'емнага права на годнае жыццё, свабоднае развіццё і карыстанне роднай мовай, а кожнаму народу – на самавызначэнне ў абраных ім нацыянальна-дзяржаўных і нацыянальна-культурных формах,*

*аб'яўляе адмову ад статусу аўтаномнай рэспублікі і прагалошвае дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Бурація як зверхнасць, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады Рэспублікі на сваёй тэрыторыі, незалежнасць яе ў знешніх зносінах (за выняткам паўнамоцтваў, дабраахвотна дэлегаваных РСФСР і СССР на аснове Федэратыўнай і Саюзнай дамоваў».*

У прыведзеных далей вытрымках з Дэкларацый аўтаномій прыводзяцца толькі матывацыйныя і спецыфічныя для гэтай канкрэтнай АССР часткі.

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Башкірскай АССР ад 11 кастрычніка 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Башкірскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».**

*«Вярхоўны Савет Башкірскай Аўтаномнай Савецкай сацыялістычнага Рэспублікі,*

*усведамляючы гістарычную адказнасць за лёс шматнацыянальнага народа рэспублікі,*

*прызнаючы прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцяў, прыроднага і сацыяльнага асяроддзя, правоў і свабодаў, замацаваных Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, іншых міжнароднаправавых актах,*

*паважаючы суверэнныя правы ўсіх народаў,*

*клапоцячыся аб эканамічным, сацыяльным, палітычным, духоўным развіцці народаў, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі,*

*лічачы рэспубліку суб'ектам Саюза ССР і абноўленай Расійскай Федэрацыі,*

*прымаючы пад увагу, што Башкірская рэспубліка была ўтвораная ў 1919 годзе ў складзе РСФСР на аснове пагаднення з цэнтральнай савецкай уладай,*

*знаходзячы, што статус аўтаномнай рэспублікі цяпер не забяспечвае ўсебаковага сацыяльна-эканамічнага развіцця Башкірыі...,*

*абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Башкірыі на ўсёй яе тэрыторыі ў існуючых межах і пераўтварае Башкірскую Аўтаномную Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў Башкірскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (Башкірская ССР) – Башкартастан.*

*У далейшым у Канстытуцыі, іншых прававых актах рэспублікі, у дзяржаўным і грамадскім жыцці дадзеную назву рэспублікі выкарыстоўваць у якасці яе афіцыйнай назвы.»*

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Калмыцкай АССР ад 18 кастрычніка 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Калмыцкай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».**

*«Вярхоўны Савет Калмыцкай АССР,*

*лічачы рэспубліку суб'ектам РСФСР, Саюза ССР і прызнаючы сучасны дзяржаўны статус аўтаномнай рэспублікі абмежавальным дзеля паўнавартаснай рэалізацыі яе правоў і паўнамоцтваў;*

*сыходзячы з права калмыцкага народа на свабоднае самавызначэнне і ўлічваючы імкненне народа Калмыкіі да сацыяльна-эканамічнага прагрэсу, культурнага адраджэння і кардынальнага павышэння ўзроўню жыцця;*

*выказваючы волю народа рэспублікі на правядзенне самастойнай эканамічнай і сацыяльнай палітыкі ў спалучэнні з інтарэсамі РСФСР і СССР;*

*абвяшчае Калмыцкую Аўтаномную Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку – Калмыцкай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай у складзе РСФСР;*

*урачыста абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Калмыцкай ССР на ўсёй яе тэрыторыі і заяўляе аб рашучасці стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву...*

*Калмыцкая ССР заяўляе аб сваім праве на змену дзяржаўна-прававога статусу ў парадку, які ўсталёўваецца Федэратыўнай і Саюзнай дамовамі, заснаваным на іх заканадаўстве і з улікам меркавання народа Калмыкіі...,*

*усталёўваецца звярхнасць Канстытуцыі Калмыцкай ССР і законаў Калмыцкай ССР. Законы РСФСР і СССР, прынятыя ў адпаведнасці з паўнамоцтвамі, дабраахвотна перададзенымі рэспублікай у юрысдыкцыю органаў улады РСФСР і СССР, маюць вышэйшую юрыдычную сілу на яе тэрыторыі.»*

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Марыйскай АССР ад 22 кастрычніка 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Марыйскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».**

*«Вярхоўны Савет Марыйскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,*

*усведамляючы гістарычную адказнасць за лёс шматнацыянальнага народа рэспублікі;*

*засведчыўшы павагу да суверэнных правоў усіх народаў, якія насяляюць РСФСР і Саюз ССР;*

*адзначаючы неадпаведнасць статусу аўтаномнай рэспублікі інтарэсам далейшага палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага развіцця яе шматнацыянальнага народа;*

*рэалізуючы неад'емнае права марыйскай нацыі, усяго народа рэспублікі на самавызначэнне;*

*імкнучыся стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву,*

*абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт рэспублікі і пераўтварэнне яе ў Марыйскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку – Рэспубліку Марый Эл.*

*Марыйская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка – суверэнная савецкая сацыялістычная дзяржава, створаная на аснове ажыццяўлення марыйскай нацыяй свайго неад'емнага права на самавызначэнне.*

*Дзяржаўны суверэнітэт Марыйскай ССР абвяшчаецца ў імя вышэйшых мэтаў – забеспячэння кожнаму чалавеку неад'емнага права на годнае жыццё, свабоднае развіццё і карыстанне роднай мовай, кожнаму народу – на самавызначэнне ў абраных ім нацыянальна-культурных формах...*

*У Марыйскай ССР раўнапраўна функцыянуюць марыйская, лугавая, горная і руская мовы ў якасці дзяржаўных моваў і забяспечваецца захаванне і развіццё моваў іншых нацыянальнасцяў, якія пражываюць на яе тэрыторыі...*

*Марыйская ССР захоўвае за сабой права на самавызначэнне і змяненне свайго дзяржаўна-прававога статусу. У Марыйскай ССР усталёўваецца зверхнасць Канстытуцыі і законаў Марыйскай ССР над законамі РСФСР і СССР, за выняткам тых, якія прынятыя ў адпаведнасці з паўнамоцтвамі, дабраахвотна перададзенымі рэспублікай у юрысдыкцыю РСФСР і Саюза ССР. Зямля, яе нетры, воды, паветраная прастора, расліннасць і жывёльны свет і іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Марыйскай ССР з'яўляюцца здабыткам народа Марыйскай ССР і абвяшчаюцца ўласнасцю Марыйскай ССР, якой належыць права імі валодаць, карыстацца і распараджацца.*

*Марыйская ССР мае права на пакрыццё шкоды, нанесенай ёй дзеяннямі саюзных і рэспубліканскіх органаў. Марыйская ССР заяўляе аб сваёй прыхільнасці да агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і гатоўнасці жыць з усімі народамі, якія насяляюць РСФСР, СССР, у міры і згодзе..., адстойваючы пры гэтым інтарэсы народа Марыйскай ССР.*

*Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі Канстытуцыі і развіцця заканадаўства Марыйскай ССР...*

*Да прыняцця новай Канстытуцыі, іншых законаў і нарматыўных актаў Марыйскай ССР на тэрыторыі Марыйскай ССР працягваюць дзейнічаць законы і падзаконныя акты Марыйскай ССР, РСФСР і Саюза ССР, а таксама Марыйскай АССР, якія не супярэчаць Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Марыйскай ССР.»*

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Чувашскай АССР ад 24 кастрычніка 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Чувашскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».**

*«Вярхоўны Савет Чувашскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,*

*выяўляючы волю і інтарэсы народа рэспублікі, які складаецца з яе грамадзянаў усіх нацыянальнасцяў,*

*адпавядаючы прынцыпам Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека,*

*паважаючы суверэнныя правы ўсіх народаў РСФСР і Саюза ССР,*

*прымаючы адказнасць за лёс чувашскай нацыі і ўсяго народа рэспублікі,*

*сыходзячы з неабходнасці захавання і развіцця культуры, мовы, традыцый і побыту чувашскай нацыі,*

*усведамляючы неадкладнасць пашырэння прававога статусу рэспублікі для далейшага палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага развіцця яе шматнацыянальнага народа,*

*імкнучыся стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву,*

*абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Чувашскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі як зверхнасць, самастойнасць і незалежнасць дзяржаўнай улады рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі.*

*Чувашская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка – суверэнная дзяржава, адзінае нацыянальна-дзяржаўнае ўтварэнне чувашскай нацыі. Чувашская ССР – суб'ект РСФСР і Саюза ССР на аснове ажыццяўлення чувашскай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне.*

*На тэрыторыі рэспублікі ўсталёўваецца зверхнасць Канстытуцыі Чувашскай ССР і законаў Чувашскай ССР. Законы Саюза ССР і РСФСР дзейнічаюць на тэрыторыі Чувашскай ССР, калі яны не супярэчаць Канстытуцыі Чувашскай ССР, Саюзнай і Федэратыўнай дамовам.*

*Дзяржаўнымі мовамі на тэрыторыі Чувашскай ССР з'яўляюцца чувашская і руская. Гарантуецца свабоднае развіццё моваў іншых нацыянальнасцяў, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі.*

*Чувашская ССР забяспечвае свабоднае культурнае развіццё чувашскай нацыі, іншых нацыянальнасцяў, садзейнічае нацыянальна-культурнаму развіццю асобаў чувашскай нацыянальнасці, якія пражываюць за межамі Чувашскай ССР.*

*Зямля, яе нетры, воды, лясы, раслінны і жывёльны свет, іншыя прыродныя рэсурсы з'яўляюцца ўласнасцю Чувашскай ССР. Рэспубліка ажыццяўляе рацыянальнае прыродакарыстанне на сваёй тэрыторыі, клапоціцца аб экалагічнай бяспецы насельніцтва.*

*Чувашская ССР вядзе знешнеэканамічную дзейнасць, наладжвае прамыя эканамічныя і культурныя сувязі з замежнымі дзяржавамі і фармуе уласны валютны фонд.»*

* * *

Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Чачэна-Інгушскай Рэспублікі ад 27 лістапада 1990 года **«Аб дзяржаўным суверэнітэце Чачэна-Інгушскай Рэспублікі».**

*Вярхоўны Савет Чачэна-Інгушскай Рэспублікі,*

*выяўляючы волю народа Чачэна-Інгушэціі,*

*усведамляючы гістарычную адказнасць за лёс чачэнскага і інгушскага народаў і іх нацыянальнай дзяржаўнасці,*

*паважаючы правы і інтарэсы прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцяў, якія пражываюць у Чачэна-Інгушэціі, у мэтах стварэння ўмоваў для паўнавартаснага палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця народа,*

*урачыста абвяшчае дзяржаўны суверэнітэт Чачэна-Інгушскай Рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі і заяўляе аб рашучасці стварыць дэмакратычную прававую дзяржаву.*

***Артыкул 1.***

*Чачэна-Інгушская Рэспубліка – суверэнная дзяржава, створаная ў выніку самавызначэння чачэнскага і інгушскага народаў. Суверэнітэт Чачэна-Інгушскай Рэспублікі – натуральнае і неабходнае існаванне дзяржаўнасці Чачэна-Інгушэціі.*

***Артыкул 2.***

*Дзяржаўны суверэнітэт Чачэна-Інгушскай Рэспублікі абвяшчаецца ў імя вышэйшых мэтаў забеспячэння кожнаму чалавеку неад'емнага права на годнае жыццё і свабоднае развіццё.*

***Артыкул 3.***

*Носьбітам суверэнітэту і крыніцай дзяржаўнай улады ў Чачэна-Інгушскай Рэспубліцы з'яўляецца яе шматнацыянальны народ, які ажыццяўляе дзяржаўную ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы на аснове Канстытуцыі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі.*

***Артыкул 4.***

*Усе грамадзяне рэспублікі незалежна ад іх паходжання, сацыяльнага і маёмаснага стану, рэлігійных перакананняў, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, полу, адукацыі, палітычных поглядаў, роду і характару заняткаў роўныя перад Законам Чачэна-Інгушскай Рэспублікі.*

***Артыкул 5.***

*Грамадзянам Чачэна-Інгушскай Рэспублікі і асобам без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыі Чачэна-Інгушэціі, гарантуюцца правы і свабоды, прадугледжаныя Канстытуцыяй Чачэна-Інгушскай Рэспублікі і агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права.*

*Прадстаўнікам усіх народаў, якія пражываюць у Чачэна-Інгушскай Рэспубліцы за межамі сваіх нацыянальна-дзяржаўных*

*утварэнняў, забяспечваюцца іх законныя палітычныя, эканамічныя, этнічныя і культурныя правы. Чачэна-Інгушская Рэспубліка праяўляе клопат і прымае меры па ахове і абароне законных інтарэсаў грамадзянаў Чачэна-Інгушскай Рэспублікі, прадстаўнікоў чачэнскага і інгушскага народаў, якія знаходзяцца па-за межамі рэспублікі.*

**Артыкул 6.**

*Чачэна-Інгушская Рэспубліка гарантуе ўсім грамадзянам, палітычным партыям, грамадскім і рэлігійным арганізацыям, масавым рухам, якія дзейнічаюць у межах Канстытуцыі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі, роўныя правы.*

**Артыкул 7.**

*Ніводная палітычная партыя, грамадская арганізацыя, а таксама групы або асобы не могуць выступаць ад імя народа Чачэна-Інгушскай Рэспублікі. Выключнае права выступаць ад імя народа Чачэна-Інгушэціі мае толькі Вярхоўны Савет — вышэйшы орган улады Чачэна-Інгушскай Рэспублікі.*

*Вярхоўны Савет можа прыняць да свайго разгляду любое пытанне дзяржаўнага і грамадскага жыцця рэспублікі.*

**Артыкул 8.**

*Падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Чачэна-Інгушскай Рэспублікі як прававой дзяржавы.*

**Артыкул 9.**

*Чачэна-Інгушская Рэспубліка заяўляе аб сваёй прыхільнасці да агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і гатоўнасці жыць у міры і згодзе з усімі народамі, прымаць меры па недапушчэнні канфрантацыі ў міжнародных, міжрэспубліканскіх і міжнацыянальных адносінах, адстойваючы пры гэтым інтарэсы народа Чачэна-Інгушэціі.*

**Артыкул 10.**

*Чачэна-Інгушская Рэспубліка лічыць недапушчальнымі праявы ў любой форме дыскрымінацыі асобы і актаў генацыду ў адносінах да любога народу. Асуджаючы праяўлены ў мінулым акт генацыду ў дачыненні да чачэнцаў і інгушоў і іншых народаў СССР, Чачэна-Інгушская Рэспубліка пакідае за сабой права на кампенсацыю маральнай і матэрыяльнай шкоды, учыненай рэспубліцы і яе народу ў 1944-1957 гадах.*

**Артыкул 11.**

*Зямля, яе нетры, паветраная прастора, водныя і іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі з'яўляюцца выключнай уласнасцю народа Чачэна-Інгушэціі, які мае неад'емнае і непадзельнае права на валоданне, карыстанне і распараджэнне імі. Увесь эканамічны і навукова-тэхнічны патэнцыял, створаны на*

*тэрыторыі рэспублікі, з'яўляецца нацыянальным здабыткам і складае эканамічную аснову яе дзяржаўнага суверэнітэту.*

**Артыкул 12.**

*Чачэна-Інгушская Рэспубліка вырашае пытанні аховы навакольнага асяроддзя, выкарыстання прыродных рэсурсаў і забеспячэння эканамічнай бяспекі і пакідае за сабой права на кампенсацыю шкоды, нанесенай рэспубліцы здабычай і перапрацоўкай нафты. Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці, а таксама асобы, незалежна ад іх грамадзянства, за парушэнні ўсталяванага парадку прыродакарыстання нясуць адказнасць у адпаведнасці з законам.*

**Артыкул 13.**

*На тэрыторыі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі дапускаюцца свабоднае прадпрымальніцтва, розныя формы гаспадарання на зямлі, іншая дзейнасць, не забароненая законам, якія прыносяць карысць народу Чачэна-Інгушэціі, якія задавальняюць яго матэрыяльныя і духоўныя патрэбы.*

**Артыкул 14.**

*У мэтах будаўніцтва дэмакратычнага грамадства, паспяховага функцыявання народнагаспадарчага комплексу, забеспячэння бяспекі, абароны, выяўляючы павагу да суверэнных правоў усіх народаў, прытрымліваючыся прынцыпаў самавызначэння нацый, дабраахвотнасці і раўнапраўя, Чачэна-Інгушская Рэспубліка, уступаючы ў дагаворныя адносіны з іншымі рэспублікамі, дзяржавамі і саюзам дзяржаваў, захоўвае ўсю паўнату ўлады на сваёй тэрыторыі.*

*Пытанні, аднесеныя да сучаснага вядзення суб'ектамі дамоваў, вырашаюцца на аснове раўнапраўя. Дамовы аб садружнасці, супрацоўніцтве з суверэннымі рэспублікамі, дзяржавамі, саюзам дзяржаваў Чачэна-Інгушская Рэспубліка будзе падпісваць толькі на аснове інтарэсаў народа Чачэна-Інгушэціі.*

**Артыкул 15.**

*Для забеспячэння палітычных, эканамічных і прававых гарантый суверэнітэту Чачэна-Інгушскай Рэспублікі усталёўваецца звярхнасць Канстытуцыі і законаў Чачэна-Інгушскай Рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі.*

**Артыкул 16.**

*Любыя спробы неканстытуцыйным шляхам змяніць дзяржаўны лад у Чачэна-Інгушскай Рэспубліцы з'яўляюцца найцяжэйшым злачынствам супраць яе народа.*

**Артыкул 17.**

*Тэрыторыя Чачэна-Інгушскай Рэспублікі не можа быць змененая і выкарыстаная без яе згоды. Чачэна-Інгушская Рэспубліка пацвярджае справядлівае патрабаванне інгушскага народа аб аднаўленні нацыянальнай дзяржаўнасці і неабходнасці вырашэння пытання вяр-*

*тання тэрыторый, якія належаць яму і адабраны ў выніку сталінскіх рэпрэсій: прыгараднага раёна і часткі тэрыторыі Малгабецкага раёна ў памерах іх былых межаў, а таксама правабярэжнай часткі г. Арджанікідзе (Уладзікаўказ).*

*Саюзная дамова будзе падпісаная Чачэна-Інгушскай Рэспублікай пасля вырашэння пытання вяртання адарваных тэрыторый Інгушэціі. Тэрытарыяльныя спрэчкі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі з іншымі рэспублікамі вырашаюцца толькі шляхам перамоваў. Чачэна-Інгушская Рэспубліка самастойна вызначае сваё адміністрацыйна-тэрытарыяльнае і нацыянальна-тэрытарыяльнае дзяленне.*

***Артыкул 18.***

*Чачэна-Інгушская Рэспубліка мае атрыбуты суверэннай дзяржавы: грамадзянства, герб, сцяг, гімн і сталіцу.*

***Артыкул 19.***

*Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі новай Канстытуцыі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі і ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця.*

* * *

Пра жаданне стаць суверэннымі дзяржавамі ці павысіць свой статус да ўзроўню Саюзнай Рэспублікі заявілі 26 аўтаномных утварэнняў СССР:

| | |
|---|---|
| Паўночная Асецiя – | 20 ліпеня 1990 г.; |
| Карэлія – | 9 жніўня 1990 г.; |
| Гагаузія – | 19 жніўня 1990 г.; |
| Абхазія – | 25 жніўня 1990 г.; |
| Рэспубліка Комі – | 29 жніўні 1990 г.; |
| Татарстан – | 30 жніўня 1990 г.; |
| Прыднястроўе – | 2 верасня 1990 г.; |
| Удмуртыя – | 20 верасня 1990 г.; |
| Паўднёвая Асецiя – | 20 верасня 1990 г.; |
| Якуція-Саха – | 27 верасня 1990 г.; |
| Чукоцкая аўтаномная акруга – | 29 верасня 1990 г.; |
| Адыгея – | 7 кастрычніка 1990 г.; |
| Бурація – | 8 кастрычніка 1990 г.; |
| Башкірыя – | 11 кастрычніка 1990 г.; |
| Комі-Пярмяцкая аўтаномная акруга – | 11 кастрычніка 1990 г.; |
| Ямала-Нянецкая аўтаномная акруга – | 17 кастрычнік 1990 г.; |
| Калмыкія – | 18 кастрычнік 1990 г.; |
| Марыйская АССР – | 22 кастрычніка 1990 г.; |
| Чувашыя – | 24 кастрычніка 1990 г.; |
| Горна-Алтайская аўтаномная акруга – | 25 кастрычніка 1990 г.; |
| Карачаева-Чаркесія – | 16 лістапада 1990 г.; |

Чачэна-Інгушская АССР – 27 лістапада 1990 г.;
Тува – 12 снежня 1990 г.;
Кабардзіна-Балкарыя – 30 студзеня 1991 г.;
Дагестан – 17 траўня 1991 г.;
Габрэйская аўтаномная вобласць – 17 траўня 1991 г.;

Чачэна-Інгушская дэкларацыя адрозніваецца ад усіх іншых тым, што ў ёй няма нават згадкі пра магчымасць уваходжання ў склад РСФСР або СССР.

* * *

## Рэзюме

Ці назаўжды забыліся аб прынятых дэкларацыях аўтаномныя рэспублікі, вобласці і акругі, ці яны пра іх яшчэ могуць успомніць? Падтрымаўшы і нават прызнаўшы дзяржаўнасць аўтаномных утварэнняў у іншых былых рэспубліках СССР, Расіі сёння цяжэй адкідваць прэтэнзіі на дзяржаўную незалежнасць шэрагу аўтаномій, якія ўваходзяць у РСФСР.

Трэба памятаць і нарэшце назваць сваім імем палітычную сітуацыю ў Расіі і на постсавецкай прасторы наогул. Разгром жнівеньскага путчу 1991 года быў перамогай той жа буржуазнай рэвалюцыі, якая адбылася ў лютым 1917 года. У 1917 годзе пазней перамог кастрычніцкі путч, бо для пераважнай большасці насельніцтва Расіі – сялянаў і гараджанаў, якія думалі па-сялянску, не былі прывабнымі буржуазныя каштоўнасці. Жнівеньскі разгром ГКЧП быў ажыццёўлены прыхільнікамі буржуазных каштоўнасцяў, тымі, каго вабіла да рынкавай эканомікі, да магчымасці справядлівага і замаскаванага пад справядлівымі лозунгамі ўзбагачэння. Гэта была перамога алігархаў і тых, каго мы называем сёння сярэднім класам, які Ленін называў буржуазіяй. Што ж тычыцца большасці насельніцтва Расіі і такіх рэспублік, як Беларусь, то гэтая большасць не прагне і сёння свабоды прадпрымальніцкай дзейнасці, бо ведае, што тутэйшыя дамарослыя палітыкі наўрад ці гатовыя стварыць і абавязаць выконваць законы, якія робяць прадпрымальніцкую дзейнасць і ўзбагачэнне прадпрымальнікаў карыснымі перш за ўсё для дзяржавы і грамадства.

Рост папулярнасці буржуазных каштоўнасцяў непазбежны, і калі імі пранікнецца большасць насельніцтва расійскіх аўтаномій, цяга да незалежнасці будзе ў многіх з іх не меншай, чым была ў гады прыняцця дэкларацый аб незалежнасці ў былых рэспубліках былога Савецкага Саюза.

# IX. «КАЛІ Б ВЕДАЎ, З КІМ ЕДУ ...», або Адказ прэм'еру на ліст і кнігу

## Кранальнае пасланне

Адной з праяваў геніяльнасці Уладзіміра Высоцкага было ўменне сказаць пра многае коратка і вобразна, а таму вельмі даходліва. Калі ўспамінаю пра справы ў Белавежскай пушчы, то так і хочацца прыгадаць радкі з вельмі папулярнай у савецкі час песні Высоцкага «Спадарожнік»: *«Если б знал я, с кем еду, с кем водку пью...»*. Іншымі словамі, калі б быў здольны ўявіць узровень крывадушша свайго найбліжэйшага «аднадумцы», то дзейнічаў бы інакш. Але час пацвердзіў: крывадушша жывучае, і яго майстроў не наведвае пачуццё сораму.

Улетку 2010 года я атрымаў ліст з прапановай паўдзельнічаць у напісанні кнігі аб стварэнні і дзейнасці СНД. Матывацыя прапановы была вельмі пераканальнай: быць суаўтарам, чые *«сведчанні могуць стаць неацэннай крыніцай праўдзівай, аб'ектыўнай інфармацыі, будуць спрыяць высвятленню аб'ектыўнай, праўдзівай сутнасці тых праблемаў, якія існуюць у Садружнасці ў цяперашні час»*. Ліст быў падпісаны кіраўніком Беларускага гандлёва-фінансавага саюза (БГФС) Вячаславам Францавічам Кебічам.

Я і думкі не дапускаў, што прапанова давесці да людзей праўдзівую інфармацыю можа сыходзіць ад чалавека, які ў 2008 годзе ў сваёй кнізе *«Искушение властью»* наплакаў вялікую лужыну слёз з нагоды скону КПБ-КПСС, без лішняй сціпласці прадставіў сябе вядомым на ўвесь свет палітыкам, з якім з савецкіх часоў лічацца кіраўнікі буйнейшых краінаў, звінаваціў мяне ва ўсіх смяротных грахах, маніпулюючы паклёпам, падрыхтаваным яго выбарчым штабам ў 1994 годзе.

Пасля беглага прагортвання *«Искушения властью»* жаданне чытаць кнігу ў мяне знікла, я зразумеў, навошта яна напісаная. Крытыка аўтара за жаданне прадэманстраваць адданасць нелегітымнаму кіраўніку Беларусі толькі спрыяла б дасягненню пастаўленай ім не зусім прыстойнай мэты, і на пытанні журналістаў з гэтай нагоды я адказваў прыкладна так:

– Добра, што Вячаслаў Францавіч, хоць і са спазненнем, зразумеў і паказаў у кніжцы, што яго сябрамі-паплечнікамі былі

У. Замяталін, П. Краўчанка, І. Антановіч і М. Мясніковіч – людзі, у якіх, шукай ні шукай, наўрад ці знойдзеш прыкметы чалавечай годнасці.

Ліст-зварот Кебіча да мяне як да *«бясцэннай крыніцы праўдзівай, аб'ектыўнай інфармацыі»* вымусіў усё ж кнігу прачытаць. Стала ясна: надыдзе час, і мне не ўдасца пазбегнуць дэталёвага тлумачэння, чаму я рашуча змяніў стаўленне да чалавека, якога паважаў і з якім, як мне здавалася, мы зрабілі добрую справу, вядомую ўсяму свету.

І вось час надышоў, не растлумачыць – нельга.

## Знаёмства

Я пазнаёміўся з Кебічам у год Чарнобыльскай катастрофы. Ён рабіў добрае ўражанне і як чалавек, і як высокапастаўлены чыноўнік – намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, Старшыня Дзяржплана БССР. У адрозненне ад іншых намеснікаў тагачаснага прэм'ера Міхаіла Васільевіча Кавалёва, у яго было мала снабізму, хоць хапала падставаў для таго, каб быць ганарлівым. Яго паслужны спіс уражваў: інжынер, галоўны інжынер, дырэктар станкабудаўнічага завода, які стаў ўзорна-паказальным у вытворчым і сацыяльным плане, пяць гадоў партыйнай працы ў гаркаме, абкаме і ЦК КПБ. На ўсіх інжынерна-менеджэрскіх пасадах ён дасягнуў поспеху. Лепш за іншых разабраўся, што такое Чарнобыль, і не прапаноўваў ніякіх партыйных наскокаў у вырашэнні праблемаў. З 1989 года быў народным дэпутатам СССР, знаходзіў спосабы не дэманстраваць публічна ў Крамлі, у Палацы з'ездаў партыйнага адзінства з чыста партыйнымі дэпутатамі ад БССР накшталт Я.Я. Сакалова, У.В. Грыгор'ева, У.М. Сямёнава, А.А. Малафеева, М.С. Ігрунова, А.І. Дубко, М.І. Дземянцея, У.І. Ганчарыка, В.І. Бурскага, У.Л. Бядулі.

Толькі праз некалькі гадоў я зразумеў, што ён валодаў выдатным талентам быць сваім як сярод партыйнай наменклатуры, так і ў асяродку дэмакратычна настроеных дэпутатаў, не зашораных догмамі КПСС.

Я не раз быў сведкам яго пераўвасаблення, але ніколі гэтага не асуджаў, думаючы, што інакш для карысці справы паступаць нельга. Не аднойчы ў маю бытнасць першым намеснікам старшыні ВС ён заглядаў да мяне ў кабінет. Калі я яму казаў, што падыманае ім пытанне не да мяне, а да Старшыні Вярхоўнага Савета М.І. Дземянцея, ён ветліва мяне спыняў, кажучы: «Я ведаю, да каго прыйшоў». Заставалася адно – пацвердзіць, што прыйшоў ён да таго, да каго трэба, і, не спасылаючыся на Кебіча, шукаць спосаб вырашыць са Старшынёй Вярхоўнага Савета ўзнятае прэм'ерам пытанне.

У пачатку верасня 1991 года М.І. Дземянцей вымушаны быў сысці ў адстаўку, бо хоць і вяла, але абсалютна выразна салідарызаваўся з ГКЧП. Паўстала пытанне пра абранне новага Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Выбары адбыліся 9 верасня. Кебіч і я былі вылучаныя кандыдатамі на гэтую пасаду і выйшлі ў другі тур галасавання. За мяне прагаласавала больш дэпутатаў, чым за Кебіча, але менш за палову ад поўнага спісачнага складу ВС БССР. Павінна было адбыцца паўторнае галасаванне. Калі б пры паўторным галасаванні ні Кебіч, ні я не набралі неабходнай колькасці галасоў, то мы абодва гублялі права балатавацца далей. У сітуацыі, якая склалася я, нягледзячы на маю перавагу па галасах, падумваў, ці не зняць мне сваю кандыдатуру, каб ВС не абраў старшынёй кагосьці зусім недарэчнага. Кебіча я лічыў тады лепшым з усіх астатніх магчымых прэтэндэнтаў на гэтую пасаду. Аднак Кебіч мяне апярэдзіў, сваю кандыдатуру зняў, аддаючы мне перавагу перад іншымі прэтэндэнтамі. Я палічыў яго ўчынак высакародным, падзякаваў і выказаў надзею на плённае супрацоўніцтва парламента і ўрада, які ён узначальваў. Пасля абрання мяне Старшынёй ВС я вельмі доўга быў перакананы ў тым, што мы разам добрасумленна працуем, прабачце за пафас, дзеля Беларусі.

Нямала дэпутатаў, супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, якія знаходзіліся ў даверлівых са мной адносінах, папярэджвалі мяне аб падвойнай гульні Кебіча, аб яго жаданні мяне скампраметаваць. Іх аргументы не здаваліся мне пераканальнымі. Спасылкі былі, пераважна, на гаворкі ў нецвярозым стане. Ніяк на гэта не рэагуючы, я шкадаваў толькі пра мноства падхалімаў у асяроддзі Вячаслава Францавіча, якія не стамляліся наліваць яму чарку за чаркай, што часам прыводзіла да заканчэння працоўнага дня кіраўніка ўрада апоўдні. Адно папярэджанне, праўда, запомнілася.

– Трымайцеся ад Кебіча далей, ён сам – яшчэ больш-менш, але бліжэйшыя падначаленыя такія, што дзеля заваёвы прыхільнасці шэфа могуць раздушыць, абылгаць, разжаваць і выплюнуць каго заўгодна. Калі яны становяцца чальцамі яго каманды, прыносяць прысягу на вернасць шэфу. Ён, у сваю чаргу, клянецца абараняць іх пры любых неспрыяльных паваротах лёсу.

Гэта палічыў сваім абавязкам сказаць мне супрацоўнік Саўміна, які пайшоў на пенсію. Я быў знаёмы з ім задоўга да таго, як абраўся дэпутатам. Ведаючы, што мафіёзны прынцып панаваў у Акадэміі навук і шэрагу ВНУ, я не заўважаў падабенства Кебіча з тамтэйшымі «мафіёзі» і працягваў лічыць яго лепшым з кіраўнікоў выканаўчай улады.

Прасвятленне наступіла пазней.

На жаль, я не раз памыляўся ў людзях; на шчасце, спачатку заўсёды думаў пра тых, у кім памыліўся, лепей. І зноў жа, на шчасце,

памылкі не былі доўгатэрміновыя. Адна з самых доўгіх – Кебіч, якому я верыў і з якім, як мне здавалася, мы разам спрычыніліся да важнейшай падзеі канца другога тысячагоддзя, сабраўшы ў Беларусі кіраўнікоў РСФСР, УССР і БССР і падпісаўшы ў Белавежскай пушчы Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў. Будзь Кебіч такім, якім ён мне здаваўся, з ім разам можна было б зрабіць шмат для Беларусі. Я атаясамліваў яго з лепшымі жыхарамі тых месцаў, адкуль ён родам, бо не раз пераконваўся, што вакол Валожына, Івянца, Пяршаяў, Ракава, Налібакаў жывуць такія ж людзі, як на маёй роднай Сляпянскай вуліцы і Камароўцы, – паважныя ў стасунках, добрасумленныя працаўнікі.

Наконт добрасумленнасці ўсіх я памыліўся.

## Ансамбль хлусаў

Лагічна лічыць, што кнігі пішуць аўтары, чые імёны надрукаваныя на вокладцы. Згодна з такім падыходам, кнігу *«Искушение властью»* напісаў Вячаслаў Францавіч Кебіч. Нярэдка людзі, якія займаюць высокае становішча ў грамадстве, наймаюць для напісання сваіх кніг літаратараў, запісваюць тэкст на дыктафон, атрымліваюць раздрукоўку, даводзяць матэрыял да ладу. У мяне ёсць знаёмыя, якія пісалі для кагосьці кнігі, г.зн. выконвалі літаратурны заказ. Ведаю і тых, за каго пісаліся кнігі. Я не асуджаю такі метад напісання, хоць усе без вынятку мае ўласныя спробы скарыстаць з дапамогі прафесійнага літаратара ці журналіста праваліліся, і ні ў адной маёй публікацыі няма ні радка, напісанага не мной. Як бы там ні было, за напісанае нясе адказнасць аўтар, г.зн. той, чыё імя стаіць на вокладцы, у тытрах або побач з загалоўкам.

Спачатку я не мог зразумець, па-першае, чаму ў кнізе самым бесцырымонным чынам няпраўдзіва падаецца інфармацыя пра падзеі, непасрэдным удзельнікам якіх быў сам Вячаслаў Францавіч? Па-другое, адкуль узяліся недарэчныя шматрадковыя паўторы з розным тлумачэннем іх сутнасці? Па-трэцяе, адкуль у кнігу такога дасведчанага, у добрым сэнсе гэтага слова, бюракрата пракралася безліч тэхнічных супярэчнасцяў (гл., напрыклад, стар. 313 і 316) і недакладнасцяў? Чаму аўтар прыпісвае мне ўдзел у імпрэзах і выступы ў месцах, ад якіх я быў за тысячу кіламетраў?

Усё становіцца на сваё месца, калі выказаць здагадку, што кнігу «Искушение властью» пісаў для Кебіча не адзін чалавек і што афіцыйны аўтар не начытваў усё на дыктафон, а проста фармуляваў заданні, на каго шукаць толькі кампрамат, на каго толькі пазітыў, не клапоцячыся аб чысціні крыніцаў інфармацыі і аб яе праўдзівасці. Нарэшце, самае галоўнае: не можа чалавек, які звінаваціў мяне ў публічнай нахабнай хлусні – адрачэнні ад бацькі і іншых смярот-

ных грахах, – звяртацца да мяне з афіцыйным лістом як да чалавека, чые *«сведчанні могуць стаць неацэннай крыніцай...»*. Значыць, Кебіч альбо падпісаў ліст, не чытаючы, але гэта малаверагодна – ліст кароткі, усяго дзесяць радкоў, альбо не чытаў уважліва кнігі, аўтарам якой ён лічыцца.

Ну навошта, здавалася б, непасрэднаму ўдзельніку падзеі пісаць у кніжцы няпраўду пра тое, што было ў Белавежскай пушчы 7-8 снежня 1991 года? Не падмахлёўваць, не ўпрыгожваць пісаніну пацешнымі жартамі-прымаўкамі, не выдаваць з сябе інтэлектуала, як гэта робіцца ў кнізе (параўнанне забароны КПБ-КПСС з учынкам Герастрата), а – хлусіць.

Адна справа, калі хлусяць рознага гатунку выдумшчыкі, надаючы сенсацыйнасць сваім публікацыям у жоўтай прэсе. Іншая справа – былы першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі. Ён горда заяўляе у сваёй кнізе: я апраўдваю хлусню толькі *дзеля выратавання* (стар. 216) і тут жа тлумачыць, як ён гэта разумее. А значыць – прысвойвае сабе права быць вышэйшым суддзёй, сам для сябе вырашае, калі можна хлусіць, калі – не.

Хлусню дзеля выратавання жыцця зразумець можна. І я прыводжу ў гэтай кнізе прыклады свядомай хлусні годных людзей, якія апынуліся па волі абставінаў ва ўмовах жахлівага выбару: хлусня або смерць блізкіх. Але хлусня дзеля захавання месца каля кармушкі, дзеля пасады, якая прыносіць прыбытак, дзеля захавання незаконна прысвоенай маёмасці – такое ж злачынства, як рабаваць або красці. Хлусіць, каб паказаць адданасць нелегітымнаму правадыру, дзеля асабістай выгоды, таксама дрэнна. Аднак хлусіць для асабістага дабрабыту, беспадстаўна ганьбіць тых, з кім быццам бы і справы нядрэнныя ўдалося зрабіць, – несумяшчальна са статусам прыстойнага чалавека.

Пісакам, нанятым Кебічам, думаю, удалося дагадзіць нелегітымнаму кіраўніку Беларусі. Той яшчэ раз пераканаўся, што правільна ашчаслівіў Вячаслава Францавіча, прызначыўшы яго палатачным дэпутатам і адарыўшы высокай пенсіяй. Аднак мудрасць, якая без лішняй сціпласці прыпісваецца ў кніжцы афіцыйнаму аўтару, не не пацвярджаецца яго разумнымі ўчынкамі. Наадварот, чытач раз-пораз сутыкаецца са спробамі прынізіць і абразіць іншых.

Тым не менш, у кнізе пераканальна паказана, што кіраўнікі выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 1994 года Вячаслава Кебіча – Пётр Краўчанка, Міхаіл Мясніковіч, Іван Антановіч і Уладзімір Замяталін – цалкам пазбаўленыя такіх чалавечых вартасцяў, як гонар і сумленне. Наш «усенародна абраны» вынікамі кебічаўскага «даследавання» павінен быць задаволены і можа цалкам спакойна браць любога з прадстаўнікоў чацвёркі ў

сваю каманду – у вышэйшым эшалоне патрэбныя менавіта такія. Прызначай на любую пасаду – не памылішся: будзе дзейнічаць не па законе, а па загадзе. Так з усімі чатырма і здарылася.

Варта прызнаць – усе гэтыя дзеячы, акрамя Замяталіна, людзі таленавітыя, адукаваныя і ўмеюць добра працаваць. Яны гатовыя на ўсё, але... дзеля дасягнення асабістых мэтаў, дзеля асабістай выгоды. А што да Замяталіна, то для ўласнай карысці ён пры наяўнасці «страхі» і на крымінал хадзіў! Заўважу яшчэ раз, характарыстыкі суб'ектаў чацвёркі – не мае, гэта ў сціснутай форме высновы самога Вячаслава Францавіча з яго кнігі «Искушение властью».

Узнікае законнае пытанне: Вячаслаў Францавіч, чаму ж уся гэтая, па характарыстыках і дэфініцыях, дадзеных у вашай кнізе – нечысць – узначаліла ваш выбарчы штаб, і вы гэта віталі? Чаму, нарэшце, і ў давыбарны час вы абапіраліся на гэтых людзей і бачылі ў іх сваіх аднадумцаў і паплечнікаў? Вы ж валодалі шырокімі магчымасцямі, і ў вас быў выбар. Але – менавіта такія дзеячы і патрэбныя былі вам. Зноў жа, вы добра і даўно ведалі, хто яны такія: адпетыя ашуканцы, правакатары, хлусы, пазёры без гонару і рэшткаў сумлення. У вочы, праўда, нікому з іх глядзець нельга, бо не схаваеш, што ілжывыя. Але навошта такая сентыментальнасць – глядзець у вочы?

А заданні якія вы ім давалі! Вайсковаму палітработніку Замяталіну, спецыялісту па прапагандзе, з мэтай дэзарыентацыі праціўніка – артыкул напісаць, які па-ленінску выкрывае, але ўтрымлівае хіба толькі 5% праўды. Астатняе – забойчая, старанна прыдуманая хлусня, якая мусіла звесці да нуля шанцы канкурэнта.

Замяталін вам у адказ:

– Кампрамат я прыдумаю і ў друк прасуну пад выглядам перакладу з замежнай газеты. Зраблю так, што камар носа не падточыць. Ніхто больш подла за мяне гэтага зрабіць не зможа, усё жыццё гэтым займаюся. Але артыкулаў пісаць я не ўмею. Для гэтага мне штат супрацоўнікаў патрэбен, які ў мяне раней быў.

– Ніякіх супрацоўнікаў, не той час. Патрэбен прафесіянал. Ды каб шчырай праўдай здавалася і за сэрца брала!

– Ведаю такога, але здзярэ многа!

– Нічога, раскашэлімся, калі сапраўды майстар. А завуць яго як?

– Сашкам завуць, Праханавым.

– Расійскі пісьменнік-камуніст Аляксандр Праханаў?

– Так!

– Гэты здзярэ!

І даручылі замовіць артыкул Праханаву, і замовілі, і заплацілі, і надрукавалі ў «Савецкай Б.», і перадрукаваць загадалі ва ўсіх га-

зетах. А атрымаўся пшык. Пшык, бо прымітыўны салдафон ваш Замяталін, хоць і палкоўнік запасу, але «местачковага ўзроўню» правакатар. Ён не дарос і да махінацый рэспубліканскага маштабу, а на інтэрнацыянальную замахнуўся.

Пасля гэтага вы расплакаліся ў кнізе, што не ведаеце, каму ён – Замяталін – нанёс большую шкоду. Шушкевічу, як задумвалася, ці Кебічу, як урэшце атрымалася. Не будзьце крывадушна плаксівым бальшавіком. Артыкул-паклёп не прынёс вам шкоды, тым больш, на электаральным полі. Паклёп тады вам дапамог, але канчаткова выкрыў вас у вачах тых, для каго вы так доўга і ўдала прыкідваліся высокамаральным чалавекам.

Міністр замежных справаў Пётр Краўчанка атрымаў ад вас іншае заданне.

– Адпраўляйся, Пеця, у ЗША, – сказалі вы яму, – пралезь на ўсе самыя высокія ўзроўні ДзяржДэпартамента, скажы, што выпадковы чалавек на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе Шушкевіч катэгарычна адмаўляецца ехаць у Штаты з візітам і наогул не разумее, што такое дзяржаўная служба, а тым больш – афіцыйны візіт. Таму няхай запросяць мяне – прэм'ера, у руках якога ўся рэальная ўлада.

Паехаў, пралез, сказаў, як загадалі. Але пастаўленай вамі задачы не выканаў. Вас не запрасілі нават проста так, не тое што з афіцыйным візітам. І не таму, што Пётр Кузьміч не стараўся, а таму што перад вамі яму лёгка было рабіць уражанне міністра-прафесіянала, а для клеркаў Дзяржэпартамента, якія на дробных ілгунах камуністычнага разліву зубы з'елі, ён быў тым, чым ёсць, – самазадаволеным функцыянерам, перакананым ва ўласнай рэспектабельнасці, які не разбіраецца нават у азах дыпламатычнага пратаколу.

Для рэалізацыі вашай задумкі трэба было пачынаць з Паўнамоцнага і Надзвычайнага амбасадара Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь Дэвіда Суорца. Вы ж заставаліся мудрым па-савецку: гаспадарнікам, а не палітыкам. Былі перакананыя, што калі дамовіцца з вярхамі, то нізы падпарадкуюцца. Амбасадар быў для вас персонай малой вагі. Вы нават імя яго пераблыталі ў сваёй кніжцы, назвалі Майклам. А ён Дэвід, Дэвід Суорц – першы амбасадар Злучаных Штатаў Амерыкі ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

У непрыстойным асяроддзі канчаткова губляюцца рэшткі ўласнай прыстойнасці. Вы сталі многа хлусіць. Не памыляцца, такое з кожным здараецца, а хлусіць. І не дзеля выратавання жыцця або чагосьці сапраўды каштоўнага, як у кніжцы напісана, а ў імя ўласнай выгоды і ўласнага дабрабыту.

Нікчэмнеюць перад вамі фантазёры-журналісты, якія былі далёка ад месца, дзе ствралася і падпісвалася Белавежскае

пагадненне. Яны з упэўненасцю відавочцаў паўтаралі, што ў кампаніі падпісантаў нікога цвярозага не было, што ўсе былі п'яныя. Іх зразумець можна, яны працавалі на сваіх, ласых да сенсацый, выдаўцоў. Вы ж спачатку не дапускалі ніякіх недакладнасцяў, правільна каментавалі тое, што адбылося ў Віскулях. Потым заўважылі, што праўда асабіста вам не на карысць. Па-першае, тутэйшы правадыр усе свае няўдачы і пралікі пачаў апраўдваць развалам Саюза. Па-другое, і Ельцын, пачынаючы з 1996 года, пад ціскам расійскіх прыхільнікаў імперыі стаў публічна рабіць выгляд, што шкадуе аб распадзе Саюза, а значыць, і аб Віскулях. Не ўлавілі вы, што гэта быў тактычны перадвыбарчы ход Ельцына. Ваш сябар Чарнамырдзін, сеўшы ў крэсла прэм'ера (у значнай меры дзякуючы Віскулям), таксама паплакаў з нагоды распаду...

Вы ўцямілі – вецер памяняўся. І завялі новую песню, амаль як Высоцкі пра Чэрчыля: гэта ўсё прыдумаў Шушкевіч у 1991 годзе. Вам выгодна так спяваць.

## Выбар лодкі

Такім чынам, унутраны фактар стаў вызначальным. Вы, Вячаслаў Францавіч, сталі ва ўсім, у чым толькі было можна, дагаджаць дыктатару, якога і чалавекам прыстойным ніколі не лічылі. Але сітуацыя «стабілізавалася» пад яго. Жорстка, подла, нават крывава, але – пад яго. Вы да новай сітуацыі прыстасаваліся. Усё, звязанае з дэбатамі па Белавежскай пушчы і ў саміх Віскулях, працэдуру падпісання Пагаднення і абвесткі аб гэтым перакруцілі так, што аспрэчваць вас – азначае стаць самому цемрашалам. Я не маю намеру рабіць гэта, проста даводжу да чытача праўду. Жывых сведак тых падзеяў – дастаткова. Пры сумневе ёсць у каго ўдакладніць. Дарэчы, усіх нас, жывых падпісантаў Пагаднення аб стварэнні СНД, сабрала ў сярэдзіне лютага 2011 года ў Кіеве на прыёме, арганізаваным расійскай амбасадай ва Украіне, удава Барыса Мікалаевіча Ельцына Наіна Іосіфаўна. Чаму яна Вас не запрасіла? Можа, кніжку Вашу прагартала, або расказалі ёй, якія небыліцы ў той кніжцы вы панапісвалі?

На тым прыёме Леанід Макаравіч Краўчук, Генадзь Эдуардавіч Бурбуліс, Вітольд Паўлавіч Фокін і аўтар гэтых радкоў зусім іншае, чым вы, пра Віскулі расказвалі і адзін аднаму ні ў чым не супярэчылі. Такой «неацэннай крыніцай» можаце быць і вы, Вячаслаў Францавіч, калі перастанеце мэтанакіравана дагаджаць камусьці хлуснёй.

Наблізьцеся да той высакароднасці, якой вы надзялілі сябе ў кніжцы! Бо ў маім разуменні вы па-ранейшаму таленавіты, працавіты чалавек, які, як кажуць, сам сябе зрабіў. Вы ішлі ад сахі,

ад вытворчасці да партыйнай працы, затрымаліся на ёй толькі пяць гадоў. Вярнуліся да гаспадарчай, і на вас узвалілі спачатку Дзяржплан, а потым і Саўмін. Цягнуць такія структуры цяжка, і чыстыя партыйцы, г.зн. работнікі ідэалагічнага фронту, ніколі на такое не ішлі. Па іх тэрміналогіі – да такога не апускаліся. А вы запрэгліся і цягнулі. Цягнулі нядрэнна на ўсіх тых пасадах, якія вядуць прыстойнага сумленнага чалавека да ранніх інфарктаў і інсультаў.

З такіх, як вы, атрымліваюцца лідэры нацыянальнага маштабу, калі яны разам з прыстойнымі паплечнікамі ўзбройваюць нацыю захапляльнай ідэяй і вядуць яе за сабой. Вы ж імкнуліся стаць лідэрам нацыі вельмі пакручастым шляхам. З аднаго боку, абапіраліся на камуністычную ідэю. Разам з тым, хацелі сцерці на груцу ўсіх астатніх, хто ёю ж кіруецца, а заадно і тых, хто імкнецца захапіць масы іншай ідэяй. Для гэтага вы і сабралі ў сваім штабе тых, у каго няма нічога святога, хто гатовы дзейнічаць па вашым загадзе, а не кіруючыся нейкай ідэалогіяй.

Я мог бы доўга расказваць пра тое, як шчыра паважаў вас не толькі з-за паходжання, але і як спрактыкаванага савецкага гаспадарніка, які зрабіў у савецкіх умовах з ардынарнага станкабудаўнічага завода імя Кірава ўзорнае прадпрыемства. Праўда, і вы не выстаялі пасля гэтага перад спакусай стаць партыйным босам. Вы – абсалютна няўстойлівы, вы зрываецеся. Часта зусім недапушчальным для мужнага чалавека чынам.

З першага знаёмства разумеючы, кім з'яўляецца Пётр Краўчанка, вы вырашылі, што менавіта такі чалавек вам патрэбны для асабістага прасоўвання, або, як цяпер кажуць, для ўласных прамоцый. Пазбавіцца ад яго, вырашылі вы, не будзе складана – пры тых уладных паўнамоцтвах, якімі вы рэальна валодалі. Краўчанка ж з сапраўднай стараннасцю выконваў толькі тыя вашы даручэнні, якія яму асабіста падабаліся і яму асабіста былі выгодныя. Калі я папрасіў свайго сакратара выправадзіць яго з майго кабінета за нахабства, апранутае ў форму прывабнай для мяне прапановы, ён паспеў выкрыкнуць, што сатрэ мяне ў пыл, абапіраючыся на той факт, што вы – прэм'ер-міністр – мяне таксама люта ненавідзіце, як і ён. Іншымі словамі, ён у эмацыйным парыве не проста выдаў вас, а вам здрадзіў.

У вас не атрымалася, і не магло атрымацца, Вячаслаў Францавіч, стаяць абедзвюма нагамі ў дзвюх розных лодках. У выніку вы аддалі перавагу старой, абжытай, добра вам вядомай лодцы партыйнай наменклатуры, перафарбаванай пасля забароны КПСС-КПБ у лукашэнкаўскі колер. Абсалютная ўлада ў ёй належыць стырнавому. Вы ішлі на ўсё, каб стаць такім стырнавым у выніку выбарчай кампаніі 1994 года. Пагадзіліся ўжываць любыя сродкі для дасягнення жаданага. Менавіта вы пайшлі і на прэвентыўныя

меры задоўга да выбарчай кампаніі, добра разумеючы, што я буду на выбарах дастаткова сур'ёзным вашым канкурэнтам.

Метады, якімі дзейнічалі вы, для мне заўсёды былі непрымальнымі, таму вашыя прэвентыўныя крокі далі вам пэўную перавагу. Але знайшоўся другі дзеяч, для каго вашыя прыёмы – кветачкі, а ягадкі – правакацыі тыпу самазамаху, знікненне людзей, расстрэл паветраплавальнікаў і ім падобныя – стандартныя метады атрымання жаданага выніку. Яму вы прайгралі толькі таму, што яго ўчынкі па ўсіх параметрах пераўзыходзілі вашыя.

## Сага аб цвіках

Пачатак быў такім: вы, Вячаслаў Францавіч, выказалі крайняе здзіўленне, даведаўшыся, што ў непрацоўныя дні і святы я працягваю ўласнымі рукамі будаваць лецішча на адной са 190 дзялянак, выдзеленых у 1986 годзе садова-агародніцкаму кааператыву ўніверсітэта за 55 кіламетраў ад Мінска. Маім калегам па ўніверсітэце і мне не ўдалося ў той час пераадолець супрацьстаянне горача любімага вамі лютага ворага капіталізму Анатоля Малафеева, які ўзначальваў тады Мінскую вобласць, і атрымаць участкі плошчай 8 сотак зямлі, як гэта было да яго. Усе мы атрымалі па 4 з паловай соткі.

Як было прынята ў грамадстве развітога сацыялізму, за кошт звужэння праездаў і пераносу агульных межаў давялі мы свае дзялянкі да 5 з паловай сотак на сям'ю. І я сапраўды будаваў домік, абыходзячы забароны таго ж Малафеева і яго ідэйных паплечнікаў, плошчай не 24 квадратных метры, а 36 кв. метраў, выдаючы лішнія 12 метраў за будучую адкрытую веранду. Таксама рабілі і ўсе астатнія.

Загарадныя будынкі ўніверсітэтчыкаў, авіятараў, завадчанаў і іншага савецкага люду ніяк не нагадвалі дачы абкамаўцаў, гаркамаўцаў, вышэйшых партыйных і ўрадавых чыноўнікаў. У кнізе вы прапануеце пабываць у гэтых сціплых людзей дома, у тым ліку ў Анатоля Малафеева, і пераканацца ў іх сціпласці. Не хітруйце, бываў я ў многіх дома, уключаючы вас, і прыкметаў аскетычнасці не заўважыў. Калі ж Малафееў прыехаў да мяне на лецішча з абкамаўскай «дачы» каля Негарэлага, то доўга не мог зразумець, чаму мы не ідзем у дом. Ён і думкі не дапускаў, што электрыфікаваная будка з дошак, у якой мы знаходзіліся, і ёсць маё лецішча.

Ажыццяўляючы лінію партыі па дэкапіталізацыі садова-агародных кааператываў, ён уяўлення не меў, супраць чаго выступае. А змагаўся ён насамрэч з мінімальнай утульнасцю, якую хацелі сваімі намаганнямі і пераважна сваімі рукамі стварыць у сваіх хат-

ках кааператыўшчыкі. Сорамна ўспомніць, як той жа А. Малафееў накіроўваў камісіі, якія забаранялі ў дачных дамках рабіць печкі, каб сагрэцца ў непагадзь і высушыць адзенне. Але нават будынкі, падобныя на павялічаныя раз у дзесяць вясковыя сабачыя будкі, абкамаўскія, райкамаўскія і іншыя камісіі абавязвалі ўкладваць у пракруставу лажніцу сфармуляваных Малафеевым, дакладней – горача любімай ім і вамі партыяй – нормаў і правілаў. Перавышэнне плошчы 24 квадратных метры і дапушчальнай вышыні вільчыка (5, 5 метра) пагражала парушальнікам пакараннем – аж да пазбаўлення партбілета.

Але «капіталізм», моўчкі ўзаконены для партыйна-ўрадавых актывістаў, прарастаў і на неэлітных садова-агародных дзялянках насуперак жаданням Малафеева і яму падобных.

Вы, менавіта вы, Вячаслаў Францавіч, параілі ашчаджаць мой каштоўны, як вы мелі ласку заўважыць, час і не траціць яго на нядзельныя і святочныя практыкаванні з сякерай і бетонамяшалкай. Прапанавалі скарыстаць права заказаць сякія-такія працы ў СКБ «з доследнай вытворчасцю» пры ўзначаленым вамі Саўміне. Гэта, маўляў, робяць усё кіроўныя і некаторыя іншыя супрацоўнікі, прычым усё законна, афіцыйна, паводле зацверджанага прэйскуранта і г.д.

Я спакусіўся і зрабіў заказ. Па ім для мяне сапраўды былі выкананыя сякія-такія працы. У прыватнасці, складзеная цагляная печ, пра забарону на якую да таго часу ўсе забыліся, бо знікла КПБ, што тую забарону прыдумала. Печку неўзабаве давялося разабраць, бо яна дымела і не грэла. Іншая справа – быў вельмі якасна патынкаваны і пафарбаваны пабудаваны маімі рукамі домік. І сёння, прыязджаючы на лецішча, заўсёды добрым словам успамінаю тынкоўшчыка Лёню. Ён па-майстэрску ліквідаваў і прыхаваў усе зробленыя маімі рукамі агрэхі. Выкананыя па замове працы былі цалкам аплачаныя наяўнымі па выстаўленым рахунку без усялякага прамаруджвання.

У мяне і ў думках не было, што вы, Вячаслаў Францавіч, глядзіце далёка ў будучыню і шукаеце чалавека, які змог бы прадставіць зробленае для мяне ў СКБ Саўміна як выкарыстанне майго службовага становішча ў карысных прыватных мэтах. Змушае, бачыце, Шушкевіч выканаўцаў ацаніць гэтыя працы ніжэй рэальнага кошту. Нажываецца за дзяржаўны кошт... Але для гэтага трэба было знайсці альбо абсалютнага невука, альбо стоадсоткавага нягодніка. І вы знайшлі чалавека, у якім гэтыя якасці на рэдкасць удала спалучаліся, дакладней – вылічылі яго, абапіраючыся на свой шматгадовы досвед кантактаў з людзьмі падобнага роду.

– Дарагі Аляксандр Рыгоравіч, – сказалі вы кіраўніку антыкарупцыйнай камісіі Лукашэнку, дарэчы, у прысутнасці

некалькіх дэпутатаў, – раю вам уважліва паглядзець усе дакументы аб фінансавых разліках за выкананне заказаў у СКБ дэпутатаў і кіраўнікоў Вярхоўнага Савета. Вы абавязкова знойдзеце там тое, што шукаеце.

І ён знайшоў страшны і такі мілы вашаму сэрцу кампрамат! На заказы Шушкевіча спісана 8 кілаграмаў цвікоў, хоць у саўгасе, якім кіраваў Лукашэнка, на гэта пайшло б не больш за пяць. Гэта ж прыклад страшэннай карупцыі!

– Дзякуй, паважаны Аляксандр Рыгоравіч, вы вельмі нам дапамаглі, – усклікнулі вы, паціскаючы руку старшыні антыкарупцыйнай камісіі пасля ягонага выступу, зноў жа, у прысутнасці шматлікіх дэпутатаў. Просты люд, лічылі вы, г.зн. бедны выбаршчык, адвернецца пасля такога выкрыцця ад распанелага за дзяржаўны кошт Шушкевіча і прагаласуе за Кебіча.

## Качка для «інтэлектуалаў»

Для больш-менш дасведчанага на вашу, Вячаслаў Францавіч, думку электарата і інтэлігенцыі патрэбная была іншая правакацыя, і вы запрасілі, як я ўжо заўважыў вышэй, прафесіянала-паклёпніка Уладзіміра Замяталіна, шчодра ўзнагародзілі бальшавіцкага трыбуна Аляксандра Праханава за яго, зноў жа, на вашу думку, разгромны артыкул на мой адрас ад імя выдуманага журналіста ў несапраўднай галандскай газеце...

Вы не толькі не перашкодзілі Замяталіну ўручыць гэты артыкул пад выглядам спецыяльнага матэрыяла ІТАР-ТАСС рэдактару «Советской Белоруссии» Ігару Асінскаму для тэрміновага друкавання, але, наадварот, узнагародзілі таварыша Замяталіна за знаходлівасць. А пасля ўсяго гэтага паплакаліся ў сваёй кнізе, што былі настолькі сумленным і праўдзівым, што нават не мабілізавалі адміністратыўны рэсурс і таму прайгралі прэзідэнцкія выбары 1994 года.

Вы, сім-тым паважаны яшчэ і цяпер Вячаслаў Францавіч, хацелі, каб усе гэтыя мяснііковічы-краўчанкі-антановічы-замяталіны і ім падобныя праявілі годнасць і высакароднасць, вас падтрымліваючы.

Святая наіўнасць!

Адміністратыўны рэсурс дзеля перамогі на выбарах вы не мабілізавалі не таму, што вам было сорамна, як вынікае з вашай кнігі, а таму, што ўся вашая каманда, больш правільна – хеўра братаноў, якую вы публічна выкрылі толькі ў 2007 годзе ў сваёй кнізе, – гэтым не займалася. Гэтыя братаны абкрадалі вас маральна і матэрыяльна, а пры вашым папушчальніцтве – і дзяржаву, але не дзеля вашай перамогі на выбарах, а дзеля сваёй ненажэрнай

карысці. Яны ўсім па сакрэце расказвалі пра вашае злоўжыванне алкаголем, і дарма ў вашым «Искушении властью» вы сцвярджаеце, што не пілі з гора. Пілі! І ратавала вас толькі тое, што вы не схільны да алкагольнай залежнасці, чаго б так хацелі вашыя «дабрадзеі», каб урэшце спыніць адносіны з вамі па зразумелай прычыне – як з неадэкватным, а па-простаму – канчаткова спітым чалавекам. Ці не здаецца вам, Вячаслаў Францавіч, што вы канчаткова прыпадобніліся да тых, каго так маляўніча асудзілі і выкрылі? Бо трэба ж! Цэлы раздзел кнігі пад вымоўнай назвай «Мне понятна твоя вековая печаль, Беловежская пуща», а са зместу яе вынікае толькі адно – вашае жаданне атрымаць пропуск у адміністрацыю прэзідэнта (стар. 30) ад таго ж Мясніковіча. Пропуск ён паабяцаў, а супрацоўнікам загадаў – каб і нагі Кебіча тут не было!

Вось вы паплакаліся перад дыктафонам і папрасілі Асінскага Ігара Мікалаевіча, аднаго са стваральнікаў вашай кнігі, напоўніць трагізмам і перажываннямі вашае дачыненне да Пагаднення аб стварэнні СНД. Ён, як таленавіты журналіст, узяў і напоўніў: прыцягнуў грэцкую і старажытна-рымскую міфалогію, абыграў пралік Ельцына ў Вярхоўным Савеце Беларусі, не забыўся на патрыятычныя фрагменты беларускай гісторыі, але даты і дзейных асобаў пакінуў у пададзеным вамі выглядзе.

А памяць у вас дае збоі. Гэта не старанна прадуманая нядбайнасць, не спосаб прыцягнуць увагу, а прабелы ў памяці. Навошта ж інакш называць амбасадара ЗША Майклам, калі ён быў і застаецца Дэвідам, Дэвідам Суорцам? Навошта пісаць, што 25 лістапада 1991 года ў Гарбачова ў Нова-Агарове сабраліся кіраўнікі сямі рэспублік, у тым ліку кіраўнікі Расіі, Беларусі, Украіны і Казахстана? Больш чым за месяц да гэтага, 20 кастрычніка 1991 года, у тым самым Нова-Агарове кіраўнікі, у тым ліку і я, без афіцыйных заяваў дамовіліся не сустракацца з Гарбачовым без скрайняй патрэбы. Калі хто-небудзь і парушыў гэтую дамоўленасць, то толькі не я. Вы ж прыпісваеце мне сакраментальныя заявы на сустрэчы, якой не было і не магло быць.

Ігар Мікалаевіч Асінскі, які лічыцца ў выходных дадзеных вашай кнігі рэдактарам, добрасумленна яе вам пісаў. Знайшоў у Сеціве (ці ў бібліятэцы) публікацыі пра тое, як рыхтавалася сустрэча ў Нова-Агарове 25 лістапада 1991 года, імёны запрошаных на яе. Але не мог знайсці і не знайшоў інфармацыі аб тым, што кіраўнікі рэспублік таемна дамовіліся на яе не ехаць. Большасць з іх, у тым ліку і я, паступілі ў адпаведнасці з дамоўленасцю. Пра гэта вы, Вячаслаў Францавіч ведалі, і такі падыход віталі.

Не я, як напісана ў кнізе, падтрымаў Ельцына 25 лістапада ў Нова-Агарове, мяне там у гэты дзень проста не было. Ужо калі быць дакладным, Ельцын падтрымаў мяне, бо ён выступіў другім

на Дзяржсавеце 20 кастрычніка 1991 года (а не 25 лістапада, як напісана ў кніжцы). Менавіта там, у Нова-Агарове, 20 кастрычніка я нарэшце змог выканаць вашую слёзную просьбу – запрасіць Прэзідэнта Расіі ў Белавежскую пушчу на паляванне, каб разам з вамі ўгаварыць яго дапамагчы Беларусі з нафтай і газам перад нялёгкай зімой.

І з Краўчуком вашыя пісакі наблыталі: менавіта вы папрасілі запрасіць Леаніда Макаравіча ў пушчу, бо ў нас з Украінай агульная праблема з энергарэсурсамі, казалі вы, – і разам нам будзе зручней адстойваць агульныя інтарэсы. Больш за тое, не сустракаўся я з Краўчуком пасля 8 снежня 1991 года ні ў Віскулях, ні ў пушчы, як напісана ў вашай кнізе. Сарвалася сустрэча. Ельцын не змог прыехаць, ды і я прыляцеў у Мінск з Франкфурта-на-Майне з нечакана вялікім спазненнем. Краўчук да гэтага часу з Віскулёў з'ехаў.

Калі ж зусім шчыра, то я б вельмі хацеў, каб шмат што выдуманае пра мяне і апублікаванае ў «Искушении властью» было праўдай. Якая найвышэйшая ацэнка эфектыўнасці майго палітычнага інтрыганства, прычым не на ўзроўні Астапа Бэндэра, а па меншай меры на ўзроўні Макіявелі і Рышэлье!

Гэта ж трэба – як пададзены Шушкевіч у вашай кніжцы!

Задумаў канстатаваць у афіцыйных дакументах факт спынення існавання СССР як геапалітычнай рэальнасці і як суб'екта міжнароднага права. Аблапошыў найвялікшага прыхільніка захавання Саюза, завадатара перабудовы – прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова. Запрасіў (ніхто не чакаў такога нахабства!) прэзідэнтаў Расіі і Украіны як быццам на паляванне. Выкарыстаў палкае жаданне першага стаць паўнапраўным гаспадаром Расіі і жаданне другога пацвердзіць вернасць вынікам украінскага рэферэндуму аб незалежнасці. Сабраў усіх у Белавежскай пушчы і змог адным махам вырашыць пытанне аб прызнанні незалежнасці Беларусі Расіяй, якая ад 1794 года без усялякіх абмежаванняў валодала беларускай тэрыторыяй і тапіла ў крыві ўсіх, хто парываўся незалежнасць Беларусі адстаяць. Знайшоў, так бы мовіць, спосаб суцешыць усіх беларускіх патрыётаў бяскроўным заваяваннем незалежнасці.

Акрамя таго, усё бездакорна легітымна. Усе суб'екты стварэння СССР – у наяўнасці. Закаўказская Федэрацыя знікла, не пакінуўшы спадчынніка. У наяўнасці і паўнамоцныя прадстаўнікі тройкі, надзеленыя сваімі канстытуцыямі правам падпісваць міжнародныя дамовы ад імя сваіх дзяржаваў. А з ратыфікацыяй як схітраваў! На пытанне дэпутатаў, як ідзе працэс ратыфікацыі ў Расіі, схлусіў, што расіяне ўжо ратыфікавалі пагадненне. Маўляў, толькі таму і Вярхоўны Савет Беларусі прагаласаваў за ратыфікацыю.

Хопіць хлусіць, Вячаслаў Францавіч, на гэтае пытанне я адказаў трохі іначай, чым напісана ў «Искушении властью».

Менавіта так, як сказаў мне Бурбуліс, якому я патэлефанаваў: усе камітэты расійскага парламента, якія прадставілі высновы спікеру, рэкамендуюць ратыфікаваць. Зрэшты, дзе было вашае меркаванне? Чаму сядзелі і маўчалі, як мыш пад венікам?

А цяпер паглядзіце, да чаго прывяло Белавежскае пагадненне праз 20 гадоў і чаго яно дазволіла пазбегнуць адразу ж пасля падпісання.

На другую частку пытання лепш за ўсё адказваюць дакументы, рашэнне аб апублікаванні якіх атрымаў ад рыксдага міністр замежных справаў Швецыі Карл Білдт. У дыпламатычных дакументах, пасланых шведскімі амбасадамі ў МЗС Швецыі да снежня 1991 года, выказваецца заклапочанасць наконт пагрозы грамадзянскай вайны на тэрыторыі Савецкага Саюза.

Мы ж з вамі, Вячаслаў Францавіч, складаем адну траціну тых сілаў, якія знайшлі спосаб і распад СССР канстатаваць, і вайну прадухіліць, не дазволіўшы падзеям развівацца па югаслаўскім сцэнарыі. Астатнія дзве траціны – гэта Ельцын, Бурбулис, Краўчук і Фокін, па 1/6 на кожнага. Не аддавайце мне сваю долю, сваю адну шостую. Мне не патрэбная 1/3, мне сваёй 1/6 досыць...

А прычына, па якой вы яе мне перадалі, – жаданне абтрасці рукі ад таго, чым можаце больш за ўсё ў жыцці ганарыцца. Ратуеце не чыёсьці жыццё, а імкнецеся захаваць сваё месца ля кармушкі, якой загадвае ваш даўно нелегітымны кіраўнік. Каб яму дагадзіць, усхваляеце камуністычныя парадкі і замшэлых цемрашалаў накшталт А. Малафеева. А ён – прымітыў, які забараняў людзям палепшыць сваё жыццё ўласнымі рукамі. Вы нават называеце мужным яго выступ з пенай на зубах з трыбуны парламенту ў абароне партыі і ідэалогіі, якая заслала трупамі бязвінных людзей прастору ад Брэста да Чукоткі, выгнала цэлыя народы са сваіх зямель і ўзаконіла калгаснае прыгоннае права ў сярэдзіне XX стагоддзя на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза.

Так, на вашу думку, шанцавала Беларусі на камуністычных кіраўнікоў, адным з якіх былі і вы! Такі мудры Панамарэнка, які душыў, рэпрэсаваў бязвінных. Добра, што хоць пра Цанаву не згадалі, як пра змагара з прыдуманымі контррэвалюцыянерамі.

Затое падзякавалі амаль усім вышэйшым камуністычным функцыянерам за клопат аб людзях! Не аб усіх, праўда, клапаціліся, аб кіроўных кадрах – абавязкова, але перш за ўсё – пра сябе. Які высокі іх культурны ўзровень, хоць і чыста камуністычны, але высокі! Як супрацьстаялі яны забароне дзейнасці КПБ у Вярхоўным Савеце! Ну проста інтэлектуалы і разам з тым – сакратары ЦК КПБ Міхаіл Лагір, Мікалай Дземянцей, Анатоль Малафееў! Паглядзіце на іх, прамовы паслухайце – не адарвацца. Нельга забыць і Мікалая Ігрунова. Спецыяльную падрыхтоўку чалавек прайшоў,

каб праявы нацыянальнага духу на карані душыць. А вось Ягораў Уладзімір Дзям'янавіч, згодна з кніжкай, – чалавек вельмі дрэнны, з падвойным дном.

Для вас, Вячаслаў Францавіч, дрэнны, бо гэта ж вы – з падвойным, а нават і з патройным дном! Ні Ягорава, ні вас я за гэта не папракаю: не магло быць у савецкі час ні прэм'ера, ні міністра-сілавіка без падвойнага дна. Але не любіце вы Ягорава за тое, што ён – інтэлектуал і нярэдка меў выдатна абгрунтаванае ўласнае меркаванне, адрознае ад вашага.

Выгодную пазіцыю шукаеце і лёгка знаходзіце, добра разумеючы разумовы прымітывізм вашага кіраўніка. Ганарыста адпрэчваеце Белавежскае пагадненне, пад якім паставілі свой подпіс. Выконваеце прапорцыю, абавязковую для савецкай, гебельсаўскай і сённяшняй беларускай дзяржаўнай прапаганды: 5% праўды і 95% хлусні. І ўсё ў гонар паноўнага кіраўніка.

## З кім вы адной крыві?

Замахвацца на памяць продкаў, Вячаслаў Францавіч, не дазвалялі сабе нават вашыя аднадумцы і паплечнікі па аднапартыйным розуме. Сцвярджаць, што я – Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч – вымушаны быў дзеля свайго выратавання публічна адмовіцца ад свайго бацькі, – подлая хлусня, на якую пайшлі толькі вы. Нагадаю: гэта аргумент з галандскага паклёпніцкага артыкула, спраектаванага Замяталіным. Але яго прозвішча пад артыкулам няма, а ваша – на вокладцы кнігі. Па мерках інтэлігентнага чалавека гаварыць такое – блюзнерства. Але справа звычайная для сапраўды савецкага камуніста, а ўся ваша кніга – пацверджанне таго, што вы ім былі і застаецеся.

У мяне заўсёды былі і ёсць прычыны ганарыцца сваім бацькам, а не толькі спачуваць яго цяжкай долі. Вам, Вячаслаў Францавіч, прасцей адмовіцца ад бацькі, які з вашых жа словаў у кнізе служыў у польскай арміі ці то шарагоўцам, ці то (!) канём. Майго ж ніхто не змог прымусіць і галаву схіліць перад уладным хамствам або невуцтвам, а вашага... У вясёлым стане, распавядаеце вы, жонка капітана загадвала вашаму татку станавіцца на карачкі і вазіць яе на сваёй спіне...

Але я не заклікаю вас стаць Паўлікам Марозавым, хоць у адносінах да сваёй радзімы і сваёй мовы вы ім даўно сталі. І не дзеля выратавання нечага жыцця, а з-за несуцешнага жадання заставацца прыкормленым. Жаданне не пакінула вас і пасля прайграных прэзідэнцкіх выбараў. Але набліжэнне да кармушкі абавязвала лісліваць новаму правадыру з такой шчырасцю, што пра сумленне трэба было забыць. І вы забыліся.

Майго бацьку і катаваннямі не вымусілі напісаць «заклад-ную» на супрацоўнікаў, сяброў і проста знаёмых, за якую абяцалі вызваленне з турмы тагачаснага КДБ. Мае продкі ніколі не гублялі чалавечую годнасць. Мне не трэба капацца для гэтага ў архівах, як вы абавязалі капацца галоўнага архіварыуса краіны, жадаючы знайсці нешта, што пацвердзіла б вашу высакародную радавітасць. Нічога не знайшоў архіварыус, а калі і знайшоў, то не тое, што вам хацелася атрымаць, таму ён, як ветлівы чалавек, сказаў, што не знайшоў.

Пералічваючы ў кнізе свае вартасці, вы так захапіліся, што не пакінулі месца для самакрытыкі, як гэта ў сапраўдных камуністаў прынята. Таму дазволю сабе вас дапоўніць. Яшчэ ў час вашага прэм'ерства тэлефануе мне незнаёмы чалавек. Наўрад ці я нашко-джу яму, раскрыўшы праз 19 гадоў сутнасць яго ўчынку.

– Не маглі б вы, Станіслаў Станіслававіч, да мяне пад'ехаць?

Пад'ехаў, сустрэліся, пазнаёміліся. Мы не можам, кажа, выка-наць загад нашага шэфа знішчыць увесь не накіраваны ў продаж наклад кніжкі пра вас А. і Л. Класкоўскіх «Пуцявіна лёсу». Яму ж загадаў гэта зрабіць сам Вячаслаў Францавіч Кебіч. Дык вось, мы падрыхтавалі акт, што кнігі пушчаныя пад нож з-за таго, што іх не купляюць, а самі кнігі хочам падарыць вам. Яны, мабыць, вам спа-трэбяцца і ў вашыя жыгулі змесцяцца.

Так я стаў уласнікам 1500 асобнікаў кніжак, якія не адзін год дарыў тым, хто цікавіўся маёй біяграфіяй.

Доўга я не мог зразумець, чаму вы так перакрыўляеце падзеі, якія адбыліся ў Белавежскай пушчы. З аднаго боку – я дзякаваць вам мушу за тое, што мне аднаму вы прыпісалі і ідэю там сабрацца, і ідэю Саюз разваліць. Дзякуй, але мне і таго, што ўдалося зрабіць асабіста мне, дастаткова, каб ганарыцца зробленым усё жыццё. Ды і нашчадкам ёсць што для гонару пакінуць.





*Вернасць традыцыям: Віктар Чарнамырдзін і Вячаслаў Кебіч; Леанід Брэжнеў і Эрых Хонэкер*

Вы ж – прагматык, які клапоціцца найперш пра свой сённяшні дабрабыт. Мякка, але пераканальна ўсхваляеце Лукашэнку, добра ведаючы яго сутнасць, якую калісьці адкрыта і правільна праклiналі. Хваліце ўсіх кіраўнікоў-камуністаў, забываючы, што з-за іх і такіх, як яны, мільёны людзей былі рэпрэсаваныя, знішчаныя, расстраляныя без усялякай віны. Вы ўсхваляеце лад, пры якім трэба было ўсё жыццё стаяць у чарзе на жыллё і не мець надзеі на нейкі прасвет, тым больш – на светлую будучыню. У той час большая частка прамысловасці рэспублікі працавала не на карысць сваіх грамадзянаў, а на непазбежную крывавую вайну з капіталістычным светам.

Апамятайцеся, дзецям і ўнукам вашым будзе за вас сорамна! Кажуць, што вам пішуць новую кніжку. Не давярайце такую працу камусьці, як у выпадку з «Искушением властью», вазьміце асадку або сядайце за кампутар і пакайцеся, гэта значыць – напішыце праўду і спіце спакойна, не пакутуючы ад згрызотаў сумлення.

Калі ж вы так прызвычаіліся да зручнай і выгоднай асабіста для вас версіі, то спачывайце далей, не вяртайцеся да ісціны. Запрасіце чальцоў вашага выбарчага штаба, якіх справядліва называеце ў кніжцы ашуканцамі, пазёрамі, хлусамі, і пачніце тост словамі:

– Мы з вамі, калегі, адной крыві!

# X. БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА, ВІСКУЛІ, 7–8 СНЕЖНЯ 1991 ГОДА

Калі ўспамінаю, хто з беларусаў быў разам са мной у Белавежскай пушчы, то, як і ў папярэдняй частцы, хочацца прыгадаць словы Высоцкага *«Если б знал я, с кем еду, с кем водку пью...»*. Гарэлкі ў Віскулях я, праўда, не паспрабаваў, хоць паводле пратаколу пры сустрэчах без гальштукаў гэта не забараняецца і нават садзейнічае размове, яна робіцца больш шчырай і больш выніковай. Галоўны герой папярэдняй часткі кнігі і галоўны тагачасны, як здавалася, мой аднадумец па віскулёўскай справе меў так шмат абліччаў, што і сёння з радасцю прышыў бы мне 58 артыкул і ўсцешыў бы свае крывадушша, дадаўшы: *«ничего, вы так молоды!»*.

Папракаць тых, хто раней і цяпер прытрымліваўся і прытрымліваецца іншага падыходу да падзеяў у Віскулях, амаральна. Кожны чалавек мае права на ўласнае меркаванне, мае права яго адстойваць і права яго змяніць, растлумачыўшы прычыну. Але інакш, чым здзекам з ісціны і блюзнерствам, я не магу назваць дзеянні тых палітыкаў высокага рангу, якія спрыялі прыняццю віскулёўскага пагаднення, горача яго віталі, а потым, баючыся страціць дробныя, па вялікім рахунку, выгоды, змянілі свае меркаванне на супрацьлеглае, угінаючыся перад паноўным кіраўніком.

## Запрашэнне

Найбольш энергічным і адданым справе чалавекам у нашым беларускім урадзе я лічыў тады прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Нам часцей здаралася гаварыць па тэлефоне, чым сустракацца, бо кабінеты нашыя былі ў розных будынках, і мы мелі па словах сувязістаў з КДБ сувязь без падслухоўвання двух тыпаў – сакрэтную «тройку» з трохзначнымі нумарамі і «вяртушку» з нумарамі чатырохзначнымі. Тым не менш, вырашылі займець яшчэ і наўпроставую сувязь, без набору нумароў: падымаю слухаўку я – спрацоўвае выклік у прэм'ера, і наадварот. Карыстаючыся нашай індывідуальнай, зноў жа без падслухоўвання па інфармацыі КДБ, сувяззю, мы з Вячаславам Францавічам пераканаліся, што аднолькава занепакоеныя надыходзячай зімой 1991 года.

– Вы ў вельмі добрых адносінах з Барысам Мікалаевічам Ельцыным, – не раз гаварыў мне Кебіч, – гэта трэба выкарыстаць для

абагрэву нашых грамадзянаў. Запрасіце яго на паляванне ў пушчу. Прымем, як належыць прыняць прэзідэнта Расіі, і, не сумняваюся, угаворым яго дапамагчы з нафтай і газам.

Я заўсёды пацвярджаў, што хачу менавіта так і паступіць, але зручных абставінаў нешта не надаралася. Вячаслаў Францавіч, у сваю чаргу, рэгулярна нагадваў: час не чакае, спяшайцеся.

І вось зручны выпадак здарыўся.

20 кастрычніка 1991 года Гарбачоў сабраў у Нова-Агарове Дзяржсавет і раздаў усім яго ўдзельнікам – кіраўнікам рэспублік – новы праект саюзнай дамовы. Усе доўга горталі старонкі праекта. Ніхто не прасіў слова. Доўга маўчаў і я, чытаючы раздрукоўку, зразумеўшы сутнасць прапановаў Гарбачова. Нарэшце мяне, як кажуць, заела, і я выступіў. Сказаў, прыкладна, наступнае:

– Паважаны Міхаіл Сяргеевіч. У мяне дзіўныя пачуцці. Дамова прадугледжвае аб'яднанне рэспублік у Канфедэрацыю. Але мне няёмка будзе дакладваць Вярхоўнаму Савету дакумент, у якім тэрміны не адпавядаюць ардынарным слоўнікавым вызначэнням. Нашыя дэпутаты – людзі пісьменныя, яны асудзяць мяне за некарэктнасці ў праекце дамовы, якая выносіцца на іх зацверджанне. Канфедэрацыяй у праекце называецца амаль унітарная дзяржава. Прэзідэнт у ім надзелены вельмі вялікай уладай. Іншымі словамі, атрымліваецца новы Савецкі Саюз, у якім замест Палітбюро ЦК КПСС – прэзідэнт.

Усе заціхлі, маўчыць і Гарбачоў. За сталом паседжання – людзі дасведчаныя і навучаныя трымаць паўзу. І тут устае Ельцын. У яго выступе было рашучае асуджэнне шэрагу пунктаў праекта з выніковай ацэнкай – праект непрымальны.

Ізноў маўчанне.

Раптам Гарбачоў устае і выходзіць. Старшынёўскае месца застаецца пустым. Праз хвіліну-паўтары, не ўстаючы, маўчанне парушае Іслам Карымаў:

– Вы, Станіслаў Станіслававіч, і вы, Барыс Мікалаевіч, пасварылі нас з Міхаілам Сяргеевічам. Знаходзьце яго і вяртайце ў старшынёўскае крэсла.

Усе чальцы Дзяржсавета察 заківалі галовамі ў знак згоды з Прэзідэнтам Узбекістана, а Барыс Мікалаевіч і я адправіліся шукаць Прэзідэнта СССР. Абставіны для рэалізацыі нашай з Кебічам задумкі аказаліся найпрыдатнейшымі.

Ідучы разам з Прэзідэнтам Расіі на пошукі Гарбачова, я і запрасіў Барыса Мікалаевіча на паляванне ў Белавежскую пушчу. Ён ахвотна пагадзіўся.

А Гарбачоў?

Знайшлі і Гарбачова. Гэта для мяне нова-агароўскія калідоры, залы і балюстрады – лабірынт. Для Ельцына – родная стыхія.

Міхаіл Сяргеевіч нават мінімальнага незадавальнення не выказаў, калі мы знайшлі яго каля вазы з садавінай. Дастаў пляшку каньяку – адборнага армянскага, наліў усім па чарцы, выпілі. І, як быццам нічога не здарылася, вярнуліся на паседжанне Дзяржсавета.

Мне хацелася як мага хутчэй паведаміць прэм'еру Кебічу, што Барыс Мікалаевіч пагадзіўся прыехаць у пушчу, аднак тэлефанаваць з Масквы і дзяліцца радаснай, на маю думку, навіной, я не рашыўся. Было дастаткова тых, хто мог перашкодзіць сустрэчы.

У Мінску мы падрабязна прааналізавалі сітуацыю, якая склалася. Кебіч яшчэ раз запэўніў мяне: пушча да прыёму гатовая. Абмеркавалі, што адбываецца ў Расіі. Разумелі: прэзідэнт Ельцын, як кажуць, на кані. Каб яшчэ больш палепшыць яго добрае да Беларусі стаўленне, трэба пры сустрэчы ненавязліва адзначыць, што мы цешымся яго поспехамі і што нашыя словы – не проста даніна ветлівасці, а ўсведамленне яго асабістых дасягненняў, яго знаходлівасці, яго сілы волі на вышэйшай пасадзе Расіі.

Што да мяне асабіста, то я сапраўды быў ад Ельцына ў захапленні, але ніяк не хацеў выглядаць простым шанавальнікам асобы першага Прэзідэнта сапраўды вялікай Расіі, ды і купалаўскае «я мужык, а гонар маю» з маёй галавы ніколі не выветрывалася. У Беларусі таксама было чым ганарыцца: пачалі з'яўляцца першыя парасткі рынкавага заканадаўства, дэкларацыя аб незалежнасці стала канстытуцыйным законам, зацвердзілі гістарычныя герб і сцяг, заняліся роднай мовай...

Нягледзячы на тэарэтычную падрыхтаванасць, сказаць расійскаму прэзідэнту кампліментарныя словы нікому з нас так і не ўдалося – ні ў пушчы, ні да пушчы. Усе размовы з Ельцыным насілі выключна дзелавы характар. Тым не менш, сітуацыя ў Расіі складалася спрыяльным для Беларусі чынам.

Сапраўды, Расія 12 чэрвеня 1991 года ўпершыню ў сваёй гісторыі ўсім народам абрала прэзідэнта. Ельцын перамог у першым туры, ніхто не быў сувымерны з ім па папулярнасці. У сваім выступе на ўрачыстасці з нагоды інаўгурацыі першы Прэзідэнт Расіі зрабіў заяву, прынцыпова новую ў параўнанні з тымі, з якімі выступалі ўсе вышэйшыя іерархі КПСС і СССР, калі траплялі на крамлёўскі сталец. *«Стагоддзямі дзяржаўныя інтэрэсы, як правіла, ставіліся вышэй чалавека, яго патрэбаў і памкненняў. Мы, на жаль, пазней, чым іншыя цывілізаваныя народы, усвядомілі, што дзяржава моцная дабрабытам сваіх грамадзянаў... У аснове адраджэння нашай дзяржавы – духоўнае разняволенне чалавека, сапраўдная свабода сумлення і поўная адмова ад любога ідэалагічнага дыктату.»*

## «Пашырэнне» запрашэння

З Барысам Мікалаевічам мы дамовіліся, што дату сустрэчы ўзгодняць нашыя службы. Супрацоўнікі Ельцына, як і мае, адразу ж пачалі адшукваць узаемапрымальны варыянт. Вячаслаў Кебіч прапанаваў запрасіць яшчэ і Леаніда Макаравіча Краўчука, калі, вядома, Барыс Мікалаевіч не будзе пярэчыць.

Я патэлефанаваў Ельцыну. Ён не пярэчыў, хутчэй, узрадаваўся. Запрашэнне Краўчука спарадзіла затрымку, бо 1 снежня ва Украіне павінны былі адбыцца прэзідэнцкія выбары, і кандыдат у прэзідэнты Л.М. Краўчук не мог пакінуць краіну падчас выбарчай кампаніі. Вырашылі сустракацца адразу ж пасля ўкраінскіх выбараў.

Навошта спатрэбіўся Краўчук?

Былі фактары за і супраць. Супраць – трохбаковыя дамоўленасці дасягаюцца больш складана за двухбаковыя. За – бо ў нас аднолькавая галоўная праблема – патрэба ў энерганосьбітах на зіму. Недарэчна ўчыняць нездаровую канкурэнцыю, спаборнічаць, хто здолее лепей дагадзіць Расіі, каб іх атрымаць. А разам – усё ўзаемапразрыста, зразумела. Другая прычына пашырэння складу ўдзельнікаў сустрэчы была абумоўленая тым, што многія галіны прамысловасці, асабліва буйныя энергаспажыўцы, павінны былі ведаць, што іх чакае ў энергазабеспячэнні ў блізкай перспектыве. Таму дэлегацыі на віскулёўскую сустрэчу камплектаваліся кіраўнікамі і прадстаўнікамі зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў.

Згаданыя і другія, менш важкія, фактары абумовілі прыезд у Белавежскую пушчу прадстаўнічых дэлегацый Расіі, Украіны і Беларусі, здольных хутка прымаць рашэнні на самым высокім дзяржаўным узроўні.

## Што заставалася ў свядомасці людзей

У снежні 1991 года Савецкі Саюз па інерцыі заставаўся краінай, дзе большасць працягвала думаць адно, гаварыць другое, а рабіць трэцяе. Адкрытасці было больш, чым у хрушчоўскія, брэжнеўскія або андропаўскія часы, але на самае святое – на краіну – не замахваліся. Прынятая ў кастрычніку 1961 года XXII з'ездам КПСС праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якая абавязвала будаваць камунізм, была перакрэсленая два гады таму з'ездам народных дэпутатаў СССР разам з кіроўнай роляй КПСС. Але яна не выветрылася з галоваў наіўных прыхільнікаў «самага справядлівага грамадства». Іх былі мільёны. Ды як можна было адразу адпрэчыць мару, з якой жылі дзесяцігоддзямі? *«Бяскласавы грамадскі лад з адзінай агульнанароднай уласнасцю на сродкі вытворчасці, з сацыяльнай роўнасцю ўсіх грамадзянаў, дзе разам з усебаковым развіццём*

*людзей выраступь і вытворчыя сілы на аснове пастаяннага развіцця навукі і тэхнікі, усе крыніцы грамадскага багацця пальюцца няспыннай плынню, і ажыццявіцца вялікі прынцып:* ***«Ад кожнага – паводле здольнасцяў, кожнаму – паводле патрэбаў».*** *Камунізм – гэта высокаарганізаванае грамадства свабодных і свядомых працаўнікоў, у якім умацуецца грамадскае самакіраванне, праца на карысць грамадства стане для ўсіх першай жыццёвай патрэбай, усвядомленай неабходнасцю, здольнасці кожнага будуць выкарыстоўвацца з найбольшай карысцю для народа.»*

Як можна было імгненна адмовіцца ад накрэсленага ў праграме КПСС раю на зямлі, прычым раю для ўсіх?!

*«Высокая камуністычная свядомасць, працавітасць і дысцыпліна, адданасць грамадскім інтарэсам – неад'емныя якасці чалавека камуністычнага грамадства.*

*Камунізм забяспечвае бесперапыннае развіццё грамадскай вытворчасці і павышэнне прадукцыйнасці працы на аснове хуткага навукова-тэхнічнага прагрэсу, узбройвае чалавека самай дасканалай і магутнай тэхнікай, падымае на велізарную вышыню панаванне людзей над прыродай, дае магчымасць усё больш і больш поўна кіраваць яе стыхійнымі сіламі. Дасягаецца вышэйшая ступень планамернай арганізацыі ўсёй грамадскай гаспадаркі, забяспечваецца найбольш эфектыўнае і разумнае выкарыстанне матэрыяльных багаццяў і працоўных рэсурсаў для задавальнення растучых патрэбаў грамадзянаў.*

*Пры камунізме не будзе класаў, знікнуць сацыяльна-эканамічныя і культурна-побытавыя адрозненні паміж горадам і вёскай; па ўзроўні развіцця прадукцыйных сілаў і характару працы, формах вытворчых адносінаў, побытавых умовах, ступені дабрабыту насельніцтва вёскі падымецца да ўзроўню горада. З перамогай камунізму адбудзецца арганічнае злучэнне разумовай і фізічнай працы ў вытворчай дзейнасці людзей. Інтэлігенцыя перастане быць асаблівым сацыяльным пластом, работнікі фізічнай працы па сваім культурна-тэхнічным узроўні падымуцца да ўзроўню людзей разумовай працы. Такім чынам, камунізм скончыць з дзяленнем грамадства на класы і сацыяльныя пласты, у той час як уся гісторыя чалавецтва, за выняткам першабытных часоў, была гісторыяй класавага грамадства. Дзяленне на процілеглыя класы вяло да эксплуатацыі чалавека чалавекам, класавай барацьбы і антаганізму паміж нацыямі і дзяржавамі. Пры камунізме ўсе людзі будуць мець роўнае становішча ў грамадстве, аднолькавы доступ да сродкаў вытворчасці, роўныя ўмовы працы і размеркавання і будуць актыўна ўдзельнічаць у кіраванні грамадскімі справамі. Сцвердзяцца гарманічныя адносіны паміж асобай і грамадствам на аснове адзінства грамадскіх і асабістых інтарэсаў. Запыты людзей пры ўсёй іх вялікай разнастайнасці будуць выказваць здаровыя, разумныя патрэбы ўсебакова развітога чалавека.»*

Заканчвалася больш чым 200-старонкавая праграма словамі: *«Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!»*.

Праграму павінны былі вывучаць усе грамадзяне СССР, а фінальныя словы і вызначэнне камунізму трэба было ведаць на памяць школьнікам, студэнтам вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў і шматлікім іншым катэгорыям грамадзянаў.

Як ні парадаксальна, але многія людзі ва ўсё гэтага прывыклі верыць, а некаторыя працягваюць і цяпер верыць у камунізм і ў тое, што яго перашкодзілі пабудаваць прагныя да нажывы капіталісты і няздольныя зразумець камуністычнае вучэнне дэмакраты.

## Салідарнасць VIP-персонаў сусветнага ўзроўню

На дзень сустрэчы ў пушчы не ўсе мы дакладна ўяўлялі палітычнае становішча ў свеце. Шмат што стала вядома пазней. Але тое, што найвядомейшыя палітыкі сусветнага ўзроўню – прэзідэнт ЗША Буш, канцлер Германіі Коль, прэзідэнт Францыі Мітэран і беспасадная ўжо, але па-ранейшаму ўплывовая ў Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр – рашучыя праціўнікі так званага сепаратызму, г.зн. падзелу СССР на незалежныя дзяржавы, ведала большасць тых, хто прыехаў у Віскулі. Усе згаданыя кіраўнікі і экс-кіраўніца вядучых капіталістычных краінаў лічылі, што ім зручней мець справу з адным Гарбачовым, чым з мноствам малапрадказальных новых лідэраў.

Не ўсе тыя, хто прыехаў у Віскулі, усведамлялі, чаму кіраўнікі найбуйнейшых дзяржаваў выступалі супраць дзялення СССР на часткі. Распад ужо, фактычна, адбыўся ў жніўні 1991 года – пасля разгрому ГКЧП. Але далейшы распад пагражаў быць некантраляваным. Прэзідэнт Францыі Франсуа Мітэран прадказваў:

*– Магчымасць гаварыць пра Савецкі Саюз у мінулым часе паставіла на парадак дня сакраментальнае пытанне: «Што далей?». Дэзінтэграцыя дзяржавы, крызіс улады, страта веры суправаджаюцца эканамічным спадам. Усё гэта можа прывесці да ўспышкі гневу насельніцтва, што зробіць практычна немагчымым кіраванне краінай, якая ўпадае ў анархію.*

Фармальна ўсё заставалася на сваіх месцах. Захад, як і ў пасляваенны сталінскі час, працягваў баяцца СССР. Еўропа шукала шляхі і формы аб'яднання. Галоўная палітычная мэта аб'яднання – атрымаць сілу для супрацьстаяння Савецкаму Саюзу. Пасля Другой сусветнай вайны адпраўным пунктам сталі словы Уінстана Чэрчыля з яго лекцыі ў Цюрыхскім універсітэце 19 верасня 1946 года: *«Было б страшнай катастрофай, калі б рускае варварства знішчыла культуру і незалежнасць старажытных дзяржаваў Еўропы»*.

А тут «рускія», г.зн. рэспублікі СССР, задумалі падзяліцца на мноства дзяржаваў, чатыры з якіх – з ядзернай зброяй. Захад думаў прыкладна так: пры іх прыроднай дзікасці яны будуць драпежыць адзін аднаго і, больш за тое, могуць уцягнуць у ядзерны канфлікт і нашыя цывілізаваныя краіны. Захад не верыў, што вайну пры распадзе СССР на часткі можна прадухіліць, таму ўсе кампетэнтныя палітыкі настойліва супрацьстаялі распаду СССР. Не будзе распаду – не будзе вайны.

Негатыўнае стаўленне краінаў Захаду да падзелу СССР было ў значнай меры абумоўлена іх разуменнем палітыкі Савецкага Саюза. Заходнія палітыкі, трохі ўведаўшы Гарбачова, разумелі, што выхаваць у заходнім духу некалькіх Гарбачовых будзе вельмі цяжка. А з адным – прасцей, ён ужо таму-сяму навучыўся. З іншымі – мноства дадатковых праблемаў, яны непахісныя партакраты, перакананыя, што СССР – ядзерная супердзяржава, што ўвесь свет супраць іх, што калі вораг не здаецца, яго знішчаюць, што грошы – не галоўнае. Яны – не з памочнікаў камбайнёраў. Калі са сваёй дагматычнай марксісцка-ленінскай упартасцю яны ўзначаляць новыя краіны, тым больш, новыя дзяржавы з ядзернай зброяй, то змогуць прынесці многа гора ўсяму свету.

У 2011 годзе міністр замежных справаў Швецыі Карл Білдт дамогся рашэння парламента на публікацыю на сайце шведскага МЗС дыпламатычных дакументаў, якія прыходзілі ў Стакгольм са шведскіх амбасадаў да 1991 года. Па існуючых у Швецыі правілах грыф сакрэтнасці здымаецца з такіх дакументаў праз 50 гадоў. Білдт папрасіў зняць праз 20. Самае істотнае «адкрыццё», якое можна зрабіць на аснове аналізу апублікаванай перапіскі, – відавочная боязь грамадзянскай вайны на тэрыторыі Савецкага Саюза, якая закране і іншыя краіны і, наогул, увесь свет.

Што да ўнутранага жыцця, то ўсё яшчэ фармальна існаваў Савецкі Саюз. Цэнтр губляў рэшткі ўлады. На праведзеным сумесна з выбарамі прэзідэнта Украіны рэферэндуме 1 снежня 1991 года за незалежнасць Украіны выказаліся 90,32% грамадзянаў, якія ўдзельнічалі ў галасаванні. Няцяжка было здагадацца, што доля тых, хто жадае незалежнасці ў іншых рэспубліках, прыблізна такая ж.

## Прылёт-прыезд

Самалёт з Прэзідэнтам Расіі Ельцыным і ягонай світай прыляцеў у Мінск раніцай 7 снежня. Расійскую дэлегацыю павезлі спачатку ў Заслаўе, дзе ўсе маглі адпачыць і падрыхтавацца да кароткачасовага пералёту на авіябазу ў Пружанах, а адтуль аўтатранспартам прыехаць у пушчу.



*1991 год, 7 снежня. Памятны для многіх выступ Барыса Ельцына ў Вярхоўным Савеце Беларусі. У прэзідыуме: В. Кебіч, У. Шаладонаў, С. Шушкевіч, Г. Бурбуліс, Я. Гайдар*

Планаваўся і выступ Барыса Мікалаевіча ў Вярхоўным Савеце. Дэпутаты спадзяваліся пачуць з вуснаў галоўнага расіяніна асноўныя палажэнні стасункаў Масквы з рэспублікамі СССР, якія прынялі дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.

З гэтым пунктам праграмы Ельцыну не пашанцавала. Яму прыйшлося апраўдвацца за грубы пралік тых, хто падрыхтаваў для яго старадаўнюю грамату, якую ён хацеў перадаць у якасці падарунка Вярхоўнаму Савету Беларусі. Старажытная грамата аказалася дакументам, які пацвярджаў імперскі характар Масквы, што ўмомант зразумелі высокаадукаваныя дэпутаты – прафесійныя гісторыкі. Яны гучна абвясцілі аб гэтым, пасля чаго пачуліся даволі дружныя воклічы абурэння. Зала стала некіраванай, і хоць Ельцын досыць хутка выйшаў, воклічы перасьледавалі яго і ў калідоры.

Здарэнне ў Вярхоўным Савеце мяне не ўзрадавала: ускладнялася рэалізацыя задуманага. У мяне, як у старшыні, на паседжанні не было маральнага права абараняць Барыса Мікалаевіча. Яго палітычная памылка была відавочнай, і не толькі дэпутаты ад БНФ мяне абгрунтавана абсвісталі б. Я шкадаваў аб няскладным пачатку дня, але палагодзіць сітуацыю быў не ў стане. Па свежых слядах у перапынку сесіі я не змог пагаварыць з Ельцыным, бо ён ужо з'ехаў, напэўна, у Заслаўе.

Я паехаў у аэрапорт. Акурат паспеў да прылёту Прэзідэнта Украіны Краўчука. Сустрэў Леаніда Макаравіча, павіншаваў

з перамогай на прэзідэнцкіх выбарах і павінен быў на сваім ЯК-27 ляцець разам з нашай дэлегацыяй на авіябазу ў Пружанах. Але вырашыў, што можна лёгка знайсці дадатковы час для размовы з Прэзідэнтам Украіны і напрасіўся да яго ў самалёт. Праўда, наша размова ў самалёце не стала крыніцай дадатковых звестак аб пазіцыі ўкраінскага боку.

У выніку ўсе самалёты прыляцелі на авіябазу, дзе праявіў сваю шчырасць і гасціннасць кіраўнік Брэсцкай вобласці Віктар Іванавіч Бурскі. Усе ўдзельнікі без прыгодаў прыехалі на былую базу адпачынку ЦК КПСС, якая перайшла ў распараджэнне ўрада БССР. Не ўзнікла ніякіх праблемаў і з размяшчэннем гасцей, хоць такой колькасці іх у Віскулях ніколі раней не было.

## Віскулі, дзень першы

У галоўным будынку былой рэзідэнцыі ЦК КПСС знаходзіліся апартаменты для самых ганаровых гасцей. Тры камплекты нумароў вышэйшай якасці былі прыкладна аднолькавай ступені камфортнасці, аднолькавага ўзроўню дызайну і амаль не адрозніваліся па плошчы. Два з іх былі прадстаўленыя адпаведна Ельцыну і Краўчуку. Я ўстрымаўся, каб займаць трэці, не выключаў, што рознае можа здарыцца, і пасяліўся ў двухпавярховым катэджы, які мне не менш падабаўся. Там жа пасяліліся двое маіх ахоўнікаў.

Увечары 7 снежня сабраліся ў апартаментах Ельцына. Акрамя кіраўнікоў дэлегацый ад Расіі прысутнічалі Генадзь Бурбуліс, Ягор Гайдар, Андрэй Козыраў, Сяргей Шахрай; ад Украіны – Вітольд Фокін і тры дэпутаты Рады; ад Беларусі – Вячаслаў Кебіч, Міхаіл Мясніковіч і Пётр Краўчанка.

Гаварылі пра нафту, пра газ, пра іншае, але няўмольна паўставала пытанне, якое па волі лёсу стала галоўным: што рабіць у рэальна існуючых умовах, калі ні Гарбачоў, ні які-небудзь уладны орган не кіруе Саюзам ССР?

Усё далейшае я запомніў з падрабязнасцямі па той простай прычыне, што не лепшым чынам ставіўся да Генадзя Бурбуліса, як і да ўсіх іншых філосафаў-марксістаў. Ні разу ні ад аднаго савецкага філосафа я не пачуў чагосьці такога, што не было б агучана ў чарговых закліках ЦК КПСС і Саўміна СССР, надрукавана ў «Кароткім курсе гісторыі КПСС» ці ва ўніверсітэцкіх дапаможніках, дзе тлумачыўся гэты «кароткі курс». А слова ўзяў менавіта філосаф – першы (і, відаць, апошні) дзяржсакратар Расійскай Федэрацыі Генадзь Эдуардавіч Бурбуліс:

– Спадарства, а ці не пагодзіцеся вы паставіць свой подпіс пад такім сказам: СССР як геапалітычная рэальнасць і суб'ект міжнароднага права спыняе сваё існаванне?

Я ледзь не папярхнуўся, бо сутнасць прапановы Бурбуліса ўцяміў імгнення, але ніколі не рашыўся б такое сказаць сам. Не буду ўтойваць, прапанова мне спадабалася. Адчуў сябе няёмка, што раней не лепшым чынам да Бурбуліса ставіўся. Я не стаў чакаць, пакуль хтосьці выкажацца, і сказаў суха:

– Я падпішу.

Следам усе прысутныя пацвердзілі, што гатовыя падпісацца пад словамі дзяржсакратара Расійскай Федэрацыі. Такім чынам, «марксіст-ленінец» – менавіта такія словы заўсёды ставіліся ў СССР перад словам «філосаф», калі гаворка ішла аб універсітэцкім выкладчыку або навуковым супрацоўніку, фактычна вызначыў, чым мы будзем займацца ў Віскулях увесь астатні час. Прысутныя ў апартаментах Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына раптам учынілі вялікі шум, бо пачалі тлумачыць адзін другому сутнасць зробленай прапановы. Тут жа ўпершыню я пачуў і часта паўторанае пасля аб Белавежскім пагадненні: «Мы абавязаныя рабіць тое, чаго нельга не рабіць»!

Гул галасоў перапыніла шматразовае ельцынскае: «Разумееш!».

– Косць, разумееш, маем добрую косць. Трэба нарасціць на яе мяса. Але нельга, разумееш, нечага пакінуць без увагі. Нішто не павінна павіснуць у паветры. Інакш нас добрым словам ніхто не ўспомніць. Перш за ўсё, ніхто не павінен палохацца таго, пра што мы заявім нашым грамадзянам і ўсяму свету. На першым месцы павінна быць стварэнне, а не разбурэнне. Мы павінны паказаць, разумееш, што існуе спосаб застацца еднасцю без крывадушнасці і знявагі правоў і свабодаў грамадзянаў па нацыянальнай і любой іншай прыкмеце. І хопіць гэтых «СС», разумееш: СССР, КПСС, а цяпер яшчэ ССГ – Садружнасць Суверэнных Дзяржаваў. Незалежных – разумееш? Садружнасць Незалежных Дзяржаваў!

Я радаваўся за Барыса Мікалаевіча. Ранішні выступ у Вярхоўным Савеце забыты, значыць, першасная мэта сустрэчы – шанец дамовіцца аб нафце і газе – застаецца. І хоць Ельцын не сказаў нічога такога, што не прагучала б падчас нашай агульнай размовы, але ён цудоўна ўсё абагульніў. Не трэба было даваць дадатковыя тлумачэнні тым, хто ўвайшоў у групу падрыхтоўкі праекта пагаднення. Тут жа ўзгаднілі, які адводзіцца на падрыхтоўку праекта тэрмін: поўная гатоўнасць – да заўтрашняга сняданку.

## Задумаліся: што творым?

Сфармаваная група распрацоўшчыкаў праекта пайшла займацца даручанай справай. На некаторы час адлучыўся і Кебіч – праверыць, ці няма праблемаў у нейкіх службаў. Трохі пазней і ён



*Фота Юрыя Лізунова (ИТАР-ТАСС)*

далучыўся да размовы. Засталіся – Ельцын, Краўчук, Бурбуліс, Фокін і я.

Што атрымлівалася? Мы вырашылі дэнансаваць дамову аб стварэнні СССР 1922 года. У гэтай частцы меркаванага пагаднення ўсё правільна, усё легітымна. Ельцын, Краўчук і я надзеленыя канстытуцыямі правам падпісваць міжнародныя дамовы ад імя нашых дзяржаваў. Падпісаныя дамовы адразу ж набываюць законную сілу, але наш абавязак неадкладна прадставіць іх на ратыфікацыю парламентамі. Калі парламенты ратыфікуюць дамовы, іх дзеянне працягваецца. Калі не – спыняецца.

СССР стварылі ў 1922 годзе Расійская Федэрацыя, Украінская і Беларуская ССР, а таксама Закаўказская Федэрацыя. Але апошняя ліквідаваная і не мае праваператаемніка. Значыць, рашэнне аб дэнансацыі прымаюць усе без вынятку існуючыя стваральнікі СССР. І тут усё легітымна.

Але нікуды не дзенеш новае «СС», дакладней, ССР – Саюз Славянскіх Рэспублік. З'яўляюцца ўсе падставы лічыць, што менавіта яго мы і ствараем. Ёсць магчымасць сітуацыю паправіць. Ведаем – у Маскву ляціць Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў. Ці не паклікаць яго да нас? Вырашылі – паклікаць! Ясная справа, лепш за ўсё гэта зрабіць Барысу Мікалаевічу.

Звязаліся з самалётам Назарбаева. З нашага боку сувязь была гучнай, і ўсе чулі размову. Ельцын інфармаваў аб тым, хто і дзе сабраўся, і запрасіў Прэзідэнта Казахстана прыляцець. Сустрэча,

маўляў, стане больш значнай. Як ні дзіўна, Нурсултан Абішавіч самым ветлівым чынам падзякаваў за запрашэнне, адразу ж пагадзіўся прыляцець пасля дазапраўкі самалёта ў Маскве.

Нашыя беларускія службы замітусіліся, адшукалі сцяг Казахстана, замацавалі яго з маёй згоды на мой «членавоз» ЗІЛ-117 і гатовыя былі сустрэць высокага госця на авіябазе каля Пружанаў. Тады я і падумаць не мог, што Назарбаеў неўзабаве пераменіць сваё рашэнне і не прыляціць у Віскулі. Забягаючы наперад, трэба сказаць, што пасля Назарбаеў неаднаразова заяўляў, што ні ў якім разе не падпісаў бы Белавежскае пагадненне, калі б быў разам з намі ў пушчы.

Вось зваліўся б на нашыя галовы!

Сувязь з самалётам Назарбаева больш наладзіць не ўдавалася. Па нейкіх іншых каналах было паведамлена, што Назарбаеў не можа вылецець з Масквы «па тэхнічных прычынах». Увогуле паводзіны прэзідэнта Казахстана да Віскулёў і пасля былі яскравай ілюстрацыяй вядомых словаў «Усход – справа тонкая». Цяжка зразумець, у чым была праўда Назарбаева. То ён заяўляў, што ніколі б не паставіў подпіс пад Белавежскім пагадненнем, то ўсяго праз два тыдні ў Алма-Аты тое пагадненне не проста падпісаў, але з вялікім энтузіязмам дамогся таго, каб не адносіць яго самога і Казахстан да далучэнцаў. Маўляў, трэба і яго лічыць адным з творцаў Пагаднення аб стварэнні СНД. Няўжо ўсходняя тонкасць заключаецца ў тым, што трэба па рознаму ставіцца да адной і той жа падзеі, знаходзячыся ў Беларусі, Расіі і Казахстане?

Ужо ў трэцім тысячагоддзі Гарбачоў расказаў у тэлеперадачы, чаму Назарбаеў не паляцеў у пушчу. Прэзідэнт СССР паабяцаў яму пасаду старшыні Вярхоўнага Савета ў абноўленым СССР.

## Позні вечар 7 снежня, лазня

Прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, на якім акрамя абавязкаў афіцыйнага прадстаўніцтва ляжаў цяжар гаспадарча-тэхнічнага забеспячэння сустрэчы, дзейнічаў па-савецку. У часы партыйных сустрэчаў савецкіх часоў друкарка і машыністка патрэбныя былі тут, як у лазні лыжы. Іншая справа – сама лазня. Без лазні сустрэчы на высокім узроўні у Віскулях не праходзілі.

Была не проста лазня, а лазня з кебічаўскім сюрпрызам. Аматараў саўны, як і тых, хто аддае перавагу парку з венічкам, чакала каманда дзябёлых масажыстаў на чале з амаль доктарам масажных, прабачце, медыцынскіх навук. На думку арганізатара лазні, масажысты здольныя былі зняць любы стрэс. Фактар для саміту немалаважны! Паноўны ў рэзідэнцыі з дня яе заснавання «цэкоўскі» гарэлачна-каньячны падыход быў заменены на



*1993 год, сакавік. Карыкатура з'явілася ў беларускім сатырычным часопісе «Вожык». Ачунялыя ад страху пасля жнівеньскага путчу 1991 года камуністы трактавалі Пагадненне аб стварэнні СНД як п'яную змову ў цёмным лесе*

масажны. Нягледзячы на безалкагольнасць, ён не меў нічога агульнага з ідыятызмам гарбачоўска-лігачоўскага сухога закону і агульнасаюзнай кампаніі па руйнаванні вінаробства і вінаградарства.

## 8 снежня

Раніца 8 снежня 1991 года не была ні імглістай, ні сівой. Была яснай. На прапанаванае ўсім паляванне адправіліся толькі Краўчук і Фокін. Паляўнічае шчасце ўсміхнулася прэм'еру Украіны, прэзідэнт стрэліў і... прамахнуўся. Але не знерваваўся, хутчэй, наадварот, увесь дзень дзейнічаў энергічна і мэтанакіравана.

Я ніколі не захапляўся паляваннем. У студэнцкія гады, узяўшы ў свайго калегі – заўзятага паляўнічага, які сядзеў са мной у лодцы, – стрэльбу, стрэліў і выпадкова трапіў у качку. Загубленую птушку мне да гэтага часу шкада. Аднак маю, значыць, нейкі паляўнічы досвед. Пытаюся ў егераў, якія рыхтавалі паляванне:

– Як жа так, адзін з лепшых паляўнічых Украіны нічога не падстрэліў?



*У гэтым будынку было падпісанае Белавежскае пагадненне аб стварэнні СНД*

– Ды мы і таму, і другому на доўгіх вяроўках кабанчыкаў прывязалі, але першы вяроўку стрэлам перабіў, а другі ў кабанчыка патрапіў.

Так і не ведаю да гэтага часу, егерскі гэта жарт ці праўда.

На сняданку большасць высокіх гасцей прысутнічала ад пачатку да канца, распрацоўшчыкі праекта пагаднення і эксперты – па чарзе і са спазненнем. Краўчук і Фокін спазніліся грунтоўна. Так ці інакш, усе добра паснедалі і дасхочу нагаварыліся.

Прыйшоў час разглядаць праект. Шэсць чалавек – першыя і другія асобы краінаў-удзельніцаў – паслядоўна, ад загалоўка да апошняга радка, разгледзелі 18 артыкулаў, прапанаваных распрацоўшчыкамі. У выніку 18 ператварыліся ў 14. Нешта аб'ядналі, нешта перанеслі ў іншыя артыкулы. Кожны артыкул дапрацоўвалі да таго часу, пакуль ні ў каго не заставалася ніякіх заўвагаў, ніякага сумневу. Эксперты-распрацоўшчыкі не ўтойвалі, што ладна прытаміліся, выслухоўваючы нашыя пажаданні і парады па ўдасканаленні прапанаванага праекта пагаднення. А прапановаў было шмат. Нешта здавалася не зусім зразумелым, нешта трэба было дадаць, тое-сёе адкінуць, змягчыць або, наадварот, узмацніць.

Пакорлівасць экспертаў была бездакорнай: выслухоўвалі, моўчкі сыходзілі дапрацоўваць і выпраўляць, вярталіся з чарговым удакладненым варыянтам.

У гэтай з гледзішча неспрактыкаванага назіральніка мітусні, у маёй свядомасці круцілася показка пра наравістасць Гарбачова, які раптам захацеў сесці за руль свайго службовага ЗІЛа і заехаў у Крэмль. На пытанне начальніка «хто там паехаў?» міліцыянт адказаў: «Не ведаю хто, але за рулём у яго быў сам Гарбачоў!».

Так і ў нас. На пасылках быў Ягор Гайдар. Ён быў лепшым з тых, хто знаходзіў фармулёўкі, якія здымалі ўсякія сумненні. За ім з малым адставаннем следаваў Сяргей Шахрай. Ды і ўсе астатнія працавалі выдатна, з максімальнай аддачай. У выніку паартыкульна і цалкам да гадзінаў 14–15-ці быў адзінагалосна зацверджаны тэкст пагаднення, якое падлягала падпісанню ў афіцыйнай абстаноўцы.

## Хто, калі, каму тэлефанаваў?

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў не стамляецца паўтараць, што яму – Прэзідэнту СССР – аб Белавежскім пагадненні сказалі пазней, чым прэзідэнту Злучаных Штатаў Амерыкі Джорджу Бушу.

Гэта няпраўда.

Я патэлефанаваў яму першаму, як мы ўтрох – Ельцын, Краўчук і я – дамовіліся. Патэлефанаваў па «тройцы», па тэлефоне, які знаходзіўся ў яго пад рукой. Патэлефанаваў значна раней, чым Ельцын Бушу. Але спачатку мне адказаў нехта іншы. Пачаў пытацца, хто тэлефануе, адкуль? Я прадставіўся. Суразмоўца вытрымаў паўзу, адказаў, што пастараецца злучыць мяне з прэзідэнтам. Пасля слухаўку ўзяў яшчэ нехта, і нарэшце: перадаю трубку прэзідэнту. Гарбачоў таксама вытрымаў паўзу. Я стаў яму дэталёва тлумачыць сутнасць падрыхтаванага для падпісання дакумента, але збянтэжыўся ад нечаканасці. Гарбачоў звяртаўся да мяне – на «вы». Раней было толькі «ты».

Бачачы, што я размаўляю па тэлефоне, і, натуральна, не прыслухоўваючыся да гутаркі, Ельцын пачаў тэлефанаваць Бушу. А размаўляў я яшчэ толькі з памочнікам. Ельцына ж злучылі адразу. Перакладаў размову Андрэй Козыраў, перакладаў гучна, прыклаўшы да вуха слухаўку паралельнага з ельцынскім апарата. Буш зарыентаваўся імгненна. Міхаіл Сяргеевіч, як у яго было прынята, пачаў ментарскім тонам мяне павучаць і сказаў, расцягваючы словы, прыкладна наступнае:

– А ці задумаліся вы аб тым, як успрыме вашыя дзеянні міжнародная супольнасць?

– Паважаны Міхаіл Сяргеевіч, тут усё ў парадку. Вось Барыс Мікалаевіч гаворыць аб маючым адбыцца падпісанні з Бушам, і той нармальна на ўсё рэагуе.

Далей у трубцы было маўчанне да сігналу «адбой».

Каля 16 гадзінаў Пагадненне было падпісанае ва ўрачыстай абстаноўцы перад журналістамі і тэлекамерамі.

Падпісанне Белавежскага пагаднення я лічу другой па значнасці падзеяй і для Беларусі, і ў маім жыцці. Прыводжу далей яго поўны тэкст, прыводжу таму, што шматкроць тыя, хто папракаў мяне за подпіс пад ім, само Пагадненне не чыталі. Яны не ведалі дэталёва, што яно ўтрымлівае, але па інерцыі, як было прынята ў Савецкім Саюзе, папракалі. А папракаць няма за што. Дакумент прызнаны сур'ёзнымі аналітыкамі «шэдэўрам легітымнай дыпламатыі канца другога тысячагоддзя».

## ПАГАДНЕННЕ
## аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў

Мы, Рэспубліка Беларусь, Расійская Федэрацыя (РСФСР), Украіна як дзяржавы-заснавальнікі Саюза ССР, якія падпісалі Саюзную Дамову 1922 года, менаваныя далей Высокімі Дамоўленымі Бакамі, канстатуем, што Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне.

Грунтуючыся на гістарычнай агульнасці нашых народаў і на ўсталяваных паміж імі сувязямі,

улічваючы двухбаковыя дамовы, падпісаныя паміж Высокімі Дамоўленымі Бакамі,

імкнучыся пабудаваць дэмакратычныя прававыя дзяржавы,

маючы намер развіваць свае адносіны на аснове ўзаемнага прызнання і павагі дзяржаўнага суверэнітэту, неад'емнага права на самавызначэнне, прынцыпаў раўнапраўя і няўмешвання ва ўнутраныя справы, адмовы ад прымянення сілы, эканамічных ці любых іншых метадаў ціску, урэгулявання спрэчных праблемаў пагаджальнымі сродкамі, іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права,

лічачы, што далейшае развіццё і ўмацаванне адносінаў дружбы, добрасуседства і ўзаемавыгоднага супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі адпавядаюць карэнным нацыянальным інтарэсам іх народаў і служаць справе міру і бяспекі,

пацвярджаючы сваю прыхільнасць мэтам і прынцыпам Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Хельсінскага Заключнага акта і іншых дакументаў Нарады па Бяспецы і Супрацоўніцтве ў Еўропе,

абавязваючыся выконваць агульнапрызнаныя міжнародныя нормы аб правах чалавека і народаў,

дамовіліся аб наступным:

**Артыкул 1.**

Высокія Дамоўленыя Бакі ўтвараюць Садружнасць Незалежных Дзяржаваў.

**Артыкул 2.** Высокія Дамоўленыя Бакі гарантуюць сваім грамадзянам незалежна ад іх нацыянальнасці ці іншых адрозненняў роўныя правы і свабоды. Кожны з Высокіх Дамоўленых Бакоў гарантуе грамадзянам іншых Бакоў, а таксама асобам без грамадзянства, якія пражываюць на яго тэрыторыі, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці ці іншых адрозненняў грамадзянскія, палітычныя, сацыяльныя, эканамічныя і культурныя правы і свабоды ў адпаведнасці з агульнапрынятымі міжнароднымі нормамі аб правах чалавека.

**Артыкул 3.**

Высокія Дамоўленыя Бакі, жадаючы спрыяць выяўленню, захаванню і развіццю этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай самабытнасці насяляючых іх тэрыторыі нацыянальных меншасцяў і ўзніклых унікальных этнакультурных рэгіёнаў, бяруць іх пад сваю ахову.

**Артыкул 4.**

Высокія Дамоўленыя Бакі будуць развіваць раўнапраўнае і ўзаемавыгоднае супрацоўніцтва сваіх народаў і дзяржаваў у галіне палітыкі, эканомікі, культуры, адукацыі, аховы здароўя, аховы навакольнага асяроддзя, навукі, гандлю, у гуманітарнай і іншых галінах, садзейнічаць шырокаму інфармацыйнаму абмену, добрасумленна і няўхільна выконваць узаемныя абавязацельствы.

Бакі лічаць неабходным падпісаць пагадненні аб супрацоўніцтве ў названых галінах.

**Артыкул 5.**

Высокія Дамоўленыя Бакі прызнаюць і паважаюць тэрытарыяльную цэласнасць адзін аднаго і недатыкальнасць існуючых межаў у рамках Садружнасці. Яны гарантуюць адкрытасць межаў, свабоду перамяшчэння грамадзянаў і перадачы інфармацыі ў рамках Садружнасці.

**Артыкул 6.**

Дзяржавы-чальцы Садружнасці будуць супрацоўнічаць у забеспячэнні міжнароднага міру і бяспекі, ажыццяўленні эфектыўных мераў па скарачэнні ўзбраенняў і ваенных выдаткаў. Яны імкнуцца да ліквідацыі ўсіх ядзерных узбраенняў, усеагульнага і поўнага раззбраення пад строгім міжнародным кантролем.

Бакі будуць паважаць імкненне адзін аднаго да дасягнення статусу бяз'ядзернай зоны і нейтральнай дзяржавы.

Дзяржавы-чальцы Садружнасці будуць захоўваць і падтрымліваць пад аб'яднаным камандаваннем агульную ваенна-стратэгічную

прастору, маючы адзіны кантроль над ядзернай зброяй, парадак ажыццяўлення якога рэгулюецца спецыяльным пагадненнем.

Яны таксама сумесна гарантуюць неабходныя ўмовы размяшчэння, функцыявання, матэрыяльнага і сацыяльнага забеспячэння стратэгічных узброеных сілаў. Бакі абавязваюцца праводзіць узгодненую палітыку па пытаннях сацыяльнай абароны і пенсійнага забеспячэння ваеннаслужачых і іх сем'яў.

**Артыкул 7.**

Высокія Дамоўленыя Бакі прызнаюць, што да сферы іх сумеснай дзейнасці, якая рэалізуецца на раўнапраўнай аснове праз агульныя інстытуты каардынавання Садружнасці, адносяцца:

– каардынацыя знешнепалітычнай дзейнасці;

– супрацоўніцтва ў фармаванні і развіцці агульнай эканамічнай прасторы, агульнаеўрапейскага і еўразійскага рынкаў, у галіне мытнай палітыкі;

– супрацоўніцтва ў развіцці сістэмаў транспарту і сувязі;

– супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, удзел у стварэнні ўсёабдымнай міжнароднай сістэмы экалагічнай бяспекі;

– пытанні міграцыйнай палітыкі;

– барацьба з арганізаванай злачыннасцю.

**Артыкул 8.**

Бакі ўсведамляюць планетарны характар Чарнобыльскай катастрофы і абавязваюцца аб'ядноўваць і каардынаваць свае намаганні па мінімізацыі і пераадоленні яе наступстваў. Яны дамовіліся падпісаць у гэтых мэтах спецыяльнае пагадненне, якое ўлічвае цяжар наступстваў катастрофы.

**Артыкул 9.** Спрэчкі адносна тлумачэння і прымянення нормаў гэтага Пагаднення падлягаюць вырашэнню шляхам перамоваў паміж адпаведнымі органамі, а пры неабходнасці – на ўзроўні кіраўнікоў Урадаў і Дзяржаваў.

**Артыкул 10.**

Кожны з Высокіх Дамоўленых Бакоў пакідае за сабой права прыпыніць дзеянне гэтага Пагаднення або асобных яго артыкулаў, паведаміўшы пра гэта ўдзельнікам Пагаднення за год.

Палажэнні гэтага Пагаднення могуць быць дапоўненыя або змененыя па ўзаемнай згодзе Высокіх Дамоўленых Бакоў.

**Артыкул 11.**

З моманту падпісання гэтага Пагаднення на тэрыторыях дзяржаваў, якія падпісалі яго, не дапускаецца прымяненне нормаў трэціх дзяржаваў, у тым ліку былога Саюза ССР.

**Артыкул 12.**

Высокія Дамоўленыя Бакі гарантуюць выкананне міжнародных абавязацельстваў, што вынікаюць для іх з дамоваў і пагадненняў былога Саюза ССР.



*1991 год, 8 снежня, Віскулі. Падпісанне Пагаднення аб стварэнні СНД. За сталом злева направа: В. Фокін, Л. Краўчук, С. Шушкевіч, В. Кебіч, Б. Ельцын, Г. Бурбуліс*

**Артыкул 13.** Гэтае Пагадненне не закранае абавязацельстваў Высокіх Дамоўленых Бакоў у дачыненні да трэціх дзяржаваў.

Дадзенае Пагадненне адкрытае для далучэння ўсіх дзяржаваў – чальцоў былога Саюза ССР, а таксама для іншых дзяржаваў, якія падзяляюць мэты і прынцыпы гэтага Пагаднення.

**Артыкул 14.**

Афіцыйным месцазнаходжаннем каардынуючых органаў Садружнасці з'яўляецца горад Мінск. Дзейнасць органаў былога Саюза ССР на тэрыторыях дзяржаваў – чальцоў Садружнасці спыняецца. Здзейснена ў горадзе Мінску 8 снежня 1991 года ў трох асобніках, кожны на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, прычым тры тэксты маюць аднолькавую сілу.

| *За Рэспубліку Беларусь* | *За РСФСР* | *За Украіну* |
|---|---|---|
| *С. Шушкевіч* | *Б. Ельцын* | *Л. Краўчук* |
| *В. Кебіч* | *Г. Бурбуліс* | *В. Фокін* |

## Марная засцярога, ратыфікацыя

Я аддаваў перавагу службовай «Волзе», бо яна была больш эканомнай, чым «мой» ЗІЛ-117, які з'ядаў 25 літраў бензіну на 100 кіламетраў прабегу. Аднак ЗІЛ прыйшлося прыгнаць у Віскулі для прадстаўнічага прыёму высокіх гасцей. І вось цяпер,



*13 снежня 1991 года згоду стаць стваральнікамі СНД пацвердзілі ў Ашхабадзе кіраўнікі Азербайджана, Казахстана, Кыргізстана, Таджыкістана, Туркменістана, Узбекістана. 21 снежня ў Алма-Аты. Нурсултан Назарбаеў канчаткова дамогся статусу аднаго з творцаў, а не далучэнца да Пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў*

калі яго трэба было адагнаць назад, я ўпершыню вырашыў праехацца ў лімузіне, створаным спецыяльна для чальцоў («членаў») Палітбюро ЦК КПСС і названым з гэтай нагоды «членавозам». Побач з кіроўцам сядзеў мой ахоўнік, метраў праз 50 наперадзе рухаліся міліцэйскія «Жыгулі» з «мігалкай». Іх таксама прыганялі ў пушчу для суправаджэння гасцей. Яны, як і мае ўласныя «Жыгулі», спажывалі на сотку літраў 11, «Волга» – літраў 15. Па старой звычцы гэтыя лічбы лезлі ў галаву, калі садзіўся ў лімузін.

Паехалі. Націснуў кнопку з падсветкай. Паднялася шкляная заслона паміж мной і кіроўцам ды ахоўнікам. Уключыў прыймач. Эфір быў запоўнены паведамленнямі аб калапсе СССР, якія метадычна паўтараліся. Гучалі прозвішчы Краўчука, Ельцына і Шушкевіча, прычым маё на розных мовах гучала з памылкамі. Міжволі падумаў: «Які я стаў паважны!». Аднак пыха імгненна знікла, калі ўспомніў, што еду ў сваю прафесарскую двухпакаёўку на тагачаснай ускраіне горада. У думках паспачуваў міліцыянтам, якія, змяняючыся кожныя 12 гадзінаў, стала дзяжураць на лесвічнай пляцоўцы майго паверха. Ізноў заважнічаў, успомніўшы, што на маё пытанне, навошта гэта трэба, атрымаў адказ кіраўніка сакратарыята Вярхоўнага Савета: так паводле закону належыць

ахоўваць жыллё першай асобы дзяржавы. Аднак было немагчыма стварыць ахоўніку ў звычайным жылым доме хоць бы мінімальныя прыстойныя ўмовы, і мая жонка вынесла на лесвічную пляцоўку дзве табурэткі: адну – каб сесці дзяжурнаму, другую – нешта пакласці.

Засынаючы ў раскошным салоне ЗІЛа, пачаў хвалявацца: як паставяцца дэпутаты да ратыфікацыі Пагаднення? Камуністаў жа ў Вярхоўным Савеце 82%, і хоць шмат хто з іх «лёг на дно», але могуць і ўсплыць.

На наступны дзень, пасля лямантацый Гарбачова наконт склікання з'езда народных дэпутатаў СССР для абмеркавання пытання аб утварэнні СНД, перадаю тэкст Пагаднення ў камісіі Вярхоўнага Савета і стаўлю пытанне аб ратыфікацыі ў парадак дня сесіі. Усе СМІ запоўненыя паведамленнямі пра падзеі ў Віскулях, але прэс-служба ВС распаўсюджвае заяву Гарбачова: *«Лёс шматнацыянальнай дзяржавы не можа быць вызначаны воляй кіраўнікоў трох рэспублік»*. Апомніўся. Тры месяцы таму прыкрыў з'езд, каб не перашкаджаў яму кіраваць, а цяпер хапаецца за яго, як за выратавальны круг.

А караван ідзе! 10 снежня на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь – толькі захопленыя выступы ў падтрымку Пагаднення, за яго ратыфікацыю. Найбольш памяркоўныя – выступы дэпутатаў ад БНФ, зусім стрыманы і, як заўсёды, павучальны – лідэра БНФ Зянона Пазняка, але таксама ў падтрымку ратыфікацыі. І адзін-адзіны выступ – з асуджэннем падпісання. Выступоўца – Валерый Гур'евіч Ціхіня, мой даўні знаёмы, юрыст, паважаны прафесар універсітэта, які падняўся па прыступках партыйнай іерархіі да пасады другога сакратара ЦК КПБ. Вынік галасавання: супраць ратыфікацыі – адзін, за ратыфікацыю – усе астатнія.

У той жа дзень – 10 снежня – Белавежскае пагадненне ратыфікавала Рада Украіны. 12 снежня рашэнне аб ратыфікацыі прыняў Вярхоўны Савет РСФСР (за – 188, супраць – 6, устрымаліся – 7). Такім чынам, і парламенты ўсіх трох краінаў пацвердзілі: дзейнічалі мы ў пушчы правільна!

Захад жа працягваў баяцца. Пагадненне, падпісанае ў Белавежскай пушчы, параўноўвалася з дэтанатарам, які мог справакаваць выбух: спарадзіць хваляванні і сур'ёзныя ўзброеныя канфлікты на тэрыторыі былога СССР. Афіцыйная канстатацыя спынення існавання Савецкага Саюза павінна была, на думку заходніх палітыкаў, неадкладна падштурхнуць прасавецкія сілы – партнаменклатуру, спецслужбы, генералітэт арміі – на стварэнне новага ГКЧП. Адно з яркіх пацверджанняў таму прагучала падчас візіту дзяржсакратара Расійскай Федэрацыі Генадзя Бурбуліса ў Францыю ў якасці спецыяльнага пасланніка прэзідэнта Расіі. 12 снежня

1991 года прэзідэнт Францыі Мітэран сказаў яму ў Парыжы, што ён з непрыхаваным хваляваннем чакаў вялікіх узрушэнняў на савецкай тэрыторыі. Але вось прайшло ўжо чатыры дні (!), і ўсё спакойна.

## Пасляслоўе

Прайшло 20 гадоў, і аб значэнні для Беларусі Пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў успамінаецца рэдка. Наша сённяшняя антыбеларуская па сваёй прыродзе ўлада прыклала нямала намаганняў, каб гэтую значнасць мінімізаваць. А калі называць рэчы сваімі імёнамі, то пасля падпісання рукою Прэзідэнта Расіі Белавежскага пагаднення і ратыфікацыі яго расійскім парламентам Расія ўпершыню з 1794 года афіцыйна прызнала незалежнасць памежнай з ёю тэрыторыі – сваёй калоніі Беларусі.

Прызнанне Расіяй незалежнасці Беларусі і Украіны ніяк не могуць пераждыць расійскія палітыкі імперскага кшталту. Яны ніяк не навучацца належным чынам кіраваць і планаваць развіццё дзяржавы, ніяк не могуць пазбавіцца ад даўняга комплексу сваёй дзяржаўнай непаўнавартаснасці, набытага тады, калі іх продкі паклікалі княжыць на наўгародскі пасад варагаў.

Так, 15 сакавіка 1996 года Дзярждума Расійскай Федэрацыі прызнае несапраўднай Пастанову Вярхоўнага Савета РСФСР «Аб дэнансацыі Дамовы аб утварэнні СССР», г.зн. фактычна адмяняе ратыфікацыю Белавежскага Пагаднення. Аднак расійскае заканадаўства не ўпарадкоўваецца гэтым рашэннем Думы, якое застаецца чарговым скалананнем паветра, а не законам, што, дарэчы, не пасуе вышэйшаму заканадаўчаму органу вялікай краіны.

Час ад часу пра Белавежскае Пагадненне ўспамінаюць клоўны ад палітыкі накшталт Жырыноўскага і чарговым разам скалынаюць паветра. Так, у сярэдзіне снежня 2011 года дэпутаты ад ЛДПР унеслі на разгляд Дзярждумы праект «Аб ацэнцы наступстваў развалу СССР» і прапанавалі «прыцягнуць да крымінальнай адказнасці асобаў, вінаватых у распадзе Саюза». Натуральна, выступаць з падобнымі заклікамі дзеля прыцягнення ўвагі абяздоленага электарату нескладана. Куды цяжэй думскім дэпутатам працаваць, напрыклад, над законамі, якія дазволяць скараціць колькасць расіянаў, якія знаходзяцца на мяжы беднасці. Яшчэ цяжэй ствараць заканадаўства, якое дазваляе атрыманыя Расіяй нафтадаляры інвеставаць у дабрабыт расійскіх грамадзянаў, а не ў павелічэнне раскошы распанелых да непрыстойнасці алігархаў.

З заклікамі і ў Беларусі справы ідуць лепш, чым з працай над заканадаўствам па дзяржаўным будаўніцтве. Нават асобныя неша-

раговыя прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту не прамінулі заявіць, што незалежнасць нам абсалютна нечакана паднеслі на сподачку. Не па «іхняму», бачыце, атрымалася – без крыві і пакутаў, таму гэта не чыёсьці дасягненне і наогул ніякая не незалежнасць. Нават Зянон Пазьняк, хоць і далікатна, але знайшоў спосаб кінуць цень на Белавежскае Пагадненне. Вельмі, маўляў, яно нагадвае новую саюзную дамову.

Процьма дамарослых палітолагаў – пераважна ўчарашніх выкладчыкаў гісторыі КПСС, марксістска-ленінскай філасофіі, навуковага камунізму і іншых ім падобных дысцыплінаў, – надрываючыся, паўтараюць, што незалежнасць звалілася на галаву Беларусі нечакана, як снег на галаву.

Супакойцеся, спадары! Тое, што вы ці вашыя папярэднікі не прыклалі да гэтага руку, не азначае, што незалежнасць нам нехта падараваў. За яе склалі галовы найвыдатнейшыя сыны Беларусі.

Але мала атрымаць незалежнасць дэ-юрэ, яе трэба зрабіць фактам. Незалежную дзяржаву трэба навучыцца будаваць цярпліва і паслядоўна. Этапы гэтага будаўніцтва не абыходзіліся і ў нас без крыві, без знікнення людзей. Няпроста выбіць са свядомасці мільёнаў рабскую пакорлівасць і падпарадкаванасць тым, хто прыходзіў да нас з аблічам найласкавейшых старэйшых братоў і нішчыў усё беларускае. Трэба навучыцца будаваць самім, а не толькі даваць парады іншым, як гэта рабіць. Перш за ўсё, трэба сабраць рэшткі беларускай інтэлігенцыі і іх нашчадкаў, якія выжылі ва ўмовах жудасных антыбеларускіх рэпрэсій. Трэба з імі радзіцца: як зрабіць Беларусь беларускай? Як прынята цяпер казаць, дарожную карту распрацаваць трэба сумеснымі намаганнямі.

Усе дзяржавы Еўропы – нацыянальныя, пабудаваныя на нацыянальнай ідэі. Абавязак беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі – зрабіць беларускую нацыянальную ідэю прывабнай для ўсіх грамадзянаў шматпакутнай Беларусі.

Канчатковая мэта – беларуская Беларусь.

Разумею, што тут і я пэўным чынам перайшоў да заклікаў. Але ў маім становішчы і ў становішчы тых, хто ў выніку злачыннага дзяржаўнага перавароту быў адхілены ад дзяржаўнага будаўніцтва, нягледзячы на тое, што быў надзелены дэпутацкім правам, наўрад ці можна зрабіць нешта іншае, чым прапаноўваць праграму, схему і прынцыпы прагрэсіўнага рэфармавання беларускай дзяржаўнасці.

20 снежня 2011 года ў Маскве прайшоў юбілейны саміт СНД, прысвечаны 20-годдзю далучэння да Пагаднення аб стварэнні СНД яшчэ васьмі рэспублік СССР. Тады – 21 снежня 1991 года – у Алма-Аты пад віскулёўскім дакументам паставілі свае подпісы яшчэ восем кіраўнікоў рэспублік СССР. Неўтаймоўнае

самалюбства Назарбаева не дазваляла яму лічыць сябе далучэнцам, і ён настояў на тым, каб у назве дамовы гаварылася *не пра далучэнне да СНД, а аб стварэнні СНД*, з чым падпісанты Белавежскага Пагаднення спрачацца не сталі. Ва ўсім свеце датай падпісання Пагаднення лічыцца 8 снежня 1991 года, а краінамі-падпісантамі – Беларусь, Расія і Украіна. Назарбаеву ж падабаецца іншая дата і іншая колькасць падпісантаў. Што ж, як кажуць, няхай цешыцца. Для гэтага ёсць юрыдычныя падставы, бо менавіта аб стварэнні СНД заяўлена і ў пагадненні, падпісаным у Алма-Аты 21 снежня адзінаццаццю кіраўнікамі постсавецкіх рэспублік.

Мірнае знікненне СССР і пазнейшае мірнае завяршэнне халоднай вайны разглядаецца сёння дасведчанымі палітолагамі як вялікае дасягненне легітымнай дыпламатыі XX стагоддзя. Дэкаланізацыя былых савецкіх рэспублік была мірнай у параўнанні з распадам Расійскай, Асманскай, Партугальскай і іншых імперый. За прамінулы час на постсавецкай прасторы азначыліся міждзяржаўныя межы, з'явіліся новыя палітычныя сістэмы. У канстытуцыях дзяржаваў дэкларуюцца прынцыпы прававых дзяржаваў, дэмакратыі і правоў чалавека. Насамрэч гэтыя сістэмы далёкія ад прынятых у сучасным цывілізаваным свеце стандартаў дэмакратыі.

Спачатку здавалася, што на постсавецкай прасторы складваецца канфігурацыя, не звязаная з адназначным дамінаваннем Расіі сярод зноў утвораных дзяржаваў. Гэта адпавядала духу і літары Белавежскага Пагаднення. Паступова, асабліва пасля завяршэння прэзідэнцтва Барыса Ельцына, Расія стала вяртаць сабе ўсе старыя кіраўнічыя і камандныя пазіцыі, выкарыстоўваючы падтрымку аўтарытарных кіраўнікоў. На снежаньскім 2011 года саміце ў Маскве адкрыта прагучалі вернападданніцкія прамовы Іслама Карымава і Алзамбека Атамбаева, якім ніхто не запярэчыў, пра тое, што менавіта Расія – па-ранейшаму цэнтр постсавецкай прасторы, і што ў зоне яе заступніцтва лагічна заставацца ўсім астатнім. Што Расія-заступніца навязвае дзяржавам-сатэлітам парадкі і прынцыпы не лепшага кшталту, ніхто на саміце не згадаў.

Расіі сваіх багаццяў мала. Яна хоча распараджацца ўсім патэнцыялам СНД, а ён велізарны: 16,4% сусветнай тэрыторыі і толькі 4,4% насельніцтва планеты, 20% сусветных запасаў нафты, 40% – прыроднага газу, 25% – вугалю, 10% – вытворчасці электраэнергіі, 25% – сусветных запасаў лесу, амаль 11% – сусветных водных рэсурсаў і 13% – ворных земляў. Мінулыя гады падштурхоўвалі Расію да пошуку такіх фарматаў інтэграцыі, якія сцвярджалі б яе зверхнасць, але адначасова заахвочвалі б краіны СНД уступаць у прапанаваныя ёю аб'яднанні. Дасягаецца гэта гарантыямі захавання ва ўладзе ў краінах СНД прарасійскіх кіраўнікоў аўтарытарнага

кшталту, з якімі прасцей дамаўляцца, чым з дэмакратычнымі рэжымамі. Гэта адна з прычынаў ператварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаваў у садружнасць дзяржаваў з аўтарытарнымі кіраўнікамі (амаль у Садружнасць дыктатураў).

Мноства дамоваў Расіі і Беларусі, у тым ліку 6 дамоваў аб саюзнай дзяржаве, пагадненні аб АДКБ, ЕўрАзЭС і Мытным саюзе таму яскравае пацверджанне. Прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў заявіў на снежаньскім саміце: «Не існуе ніякай альтэрнатывы СНД у якасці адзінай платформы для забеспячэння супрацоўніцтва зацікаўленых дзяржаваў ва ўсіх магчымых сферах узаемадзеяння, і хачу вас запэўніць, паважаныя калегі, што для Расіі такая пазіцыя будзе нязменнай».

Захаванне ролі Расіі як сістэмаўтваральнага элемента СНД магло б ісці па шляху мадэрнізацыі палітычнай сістэмы самой Расіі і краінаў СНД, дзяржаўнага кіравання аб'яднанняў любога роду на ўзор Еўрасаюза. Пры імперскіх памкненнях кіраўнікоў Расіі такое малаверагоднае. Альтэрнатыва – эканамічны дыктат Расіі, якая захоўвае эканамічную моц, дзякуючы нафтадалярам. Пакуль абвешчаны толькі лозунг: "Стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза – галоўная мэта расійскай вонкавай палітыкі». Афіцыйна не вызначаныя ні яго палітычныя, ні тэрытарыяльныя межы, але тое, да чаго расійская ўлада імкнецца, відавочнае – СНД бясспрэчна і цалкам, а далей як мінімум усе тыя, хто калі-небудзь быў у сферы расійскага ўплыву, павінны пад гэтым уплывам заставацца.

Краіны, якія ўвайшлі ў Арганізацыю дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ) – Арменія, Беларусь, Казахстан, Расія, Таджыкістан – уяўляюць з сябе дзяржавы з аўтарытарнымі рэжымамі і ўласцівымі ім непераадольнымі заганамі – карупцыяй, тэлефонным правам, неабавязковасцю выканання заканадаўства і г.д. У Беларусі намаганнямі Расіі замацаваны рэжым дыктатуры, Казахстан займеў пажыццёвага правадыра нацыі накшталт старых савецкіх чальцоў Палітбюро. Кыргызстан спрабуе ісці да дэмакратыі, але, мяркуючы па выступе на снежаньскім 2011 года саміце Алзамбека Атамбаева, на першым плане там усё тое ж вернападданніцтва Расіі, і наўрад ці гэта спрыяцьме дэмакратызацыі. Няўзброеным вокам відаць аўтарытарныя рэжымы ў Азербайджане і Таджыкістане, якія не ўваходзяць у АДКБ. Застаецца спадзявацца, што са шляху пабудовы нацыянальных дэмакратычных дзяржаваў не збочаць Малдова, Украіна і Грузія, якая развіталася з СНД.

Палітычна актыўная моладзь шукае больш шчыльнага і больш шырокага аб'яднання, чым СНД. Садружнасць мае немалы патэнцыял грамадскай падтрымкі. Яшчэ ў 1994 годзе ў Мінску прайшоў з'езд Партыі падтрымкі СНД, створанай ініцыятыўнай групай студэнтаў і выпускнікоў гістарычнага факультэта Беларускага

дзяржаўнага ўніверсітэта, каардынатарам якой быў Сяргей Шылаў. Мэта – садзейнічанне геапалітычнаму развіццю Садружнасці на аснове прынцыпаў еўрапейскага ліберальнага федэралізму, на падставе досведу Брытанскай Садружнасці Нацый і Еўрасаюза. Партыю не зарэгістраваў Мінюст Беларусі, а скаргу заснавальнікаў адхіліў Вярхоўны суд. С. Шылаў эміграваў у Расію.

Падчас прыватных і паўпрыватных сустрэчаў кіраўнікі вышэйшага рангу краінаў СНД, а ў першую чаргу – Расіі, не сарамеюцца агучваюць і абгрунтоўваць іншыя падыходы, на падставе якіх фактычна ажыццяўляецца дзяржаўнае кіраванне. Вось адзін з такіх падыходаў:

– Разнастайная ментальнасць і палітычная свядомасць грамадзянаў такой велізарнай шматнацыянальнай і шматрэлігійнай краіны, як Расія, не дазваляюць усталяваць у ёй класічны дэмакратычны лад. Механізм дэмакратыі належыць кантраляваць і карэктаваць з дапамогай надзейнай і добра інфармаванай структуры. Як найлепш такім патрабаванням адпавядае пераемніца КДБ – Федэратыўная служба бяспекі.

# XI. БЕЛАРУСЬ – ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ

## Першы візіт у ЗША

*«На ваеннай базе Эндрус у Вашынгтоне, дзе 21 ліпеня раніцай зрабіў пасадку самалёт з афіцыйнай дэлегацыяй Рэспублікі Беларусь, у тэрмінале на глобусе такая дзяржава адсутнічае. На яе месцы пазначана іншая – Беларуская савецкая рэспубліка» (БелаПАН, спецыяльна для Свабоды, №8, ліпень, 1993).*

З афіцыйным візітам у ЗША вельмі хацеў трапіць прэм'ер-міністр Вячаслаў Францавіч Кебіч. Для гэтага ён мабілізаваў усе падпарадкаваныя яму службы. Міністр замежных справаў Краўчанка, а па яго распараджэнні і іншыя высокія чыноўнікі МЗС, даверліва казалі амбасадару ЗША ў Беларусі Дэвіду Суорцу, што Шушкевіч не хоча ляцець з візітам у ЗША, а калі і паляціць, то гэта будзе марнатраўствам, бо ў яго нулявы досвед наладжвання міжнародных зносінаў. Краўчанка адмыслова злётаў у ЗША і сумесна з амбасадарам Беларусі ў ЗША Мартынавым наведаў усіх, да каго ўдалося напрасіцца на прыём у Дзярждэпартаменце. Пераконваў амерыканскі бок у мэтазгоднасці запрасіць прэм'ера і быў абсалютна ўпэўнены, што дасягнуў сваёй мэты.

У гэты час амбасадар Суорц патэлефанаваў майму памочніку і папрасіў мяне яго прыняць па зусім іншым пытанні. Прыём адбыўся. Прыканцы сустрэчы амбасадар ЗША спытаў:

– Чаму вы катэгарычна адмаўляецеся ад візіту ў Злучаныя Штаты?

– Упершыню пра гэта чую.

Прызнацца, я сказаў няпраўду. Незадоўга перад гэтым наш прадстаўнік пры ААН Генадзь Бураўкін знайшоў спосаб паінфармаваць мяне аб інтрыгах Пятра Краўчанкі, але я вырашыў не ўспамінаць пра гэта ў размове з Суорцам. Амбасадар працягнуў:

– Мой службовы абавязак паведаміць вам, што менавіта так інфармуе нашу амбасаду ваш міністр замежных справаў і ваш амбасадар у Вашынгтоне Мартынаў. Але я прасіў бы вас...

Тут я дазволіў сабе перабіць амбасадара:

– Не турбуйцеся, я нікому пра гэта не скажу і нікога ў гэтым не папракну. Дапамажыце, калі ласка, майму дарадцу акадэміку

[1] Матэрыялы з СМІ для гэтага раздзела падрыхтаваў Аляксандр Старыкевіч.



*Ліпень 1993 г. Пачатак афіцыйнага візіта ў ЗША*

Анатолю Міхайлаву, які днямі ляціць у Вашынгтон, сустрэцца ў Дзяржпартаменце з тымі, хто займаецца Беларуссю.

Міхайлаў, у якім мне, на жаль, прыйшлося пазней расчаравацца, здаваўся тады мне чалавекам высокай чалавечай годнасці. Свабодна валодаў англійскай, нямецкай і французскай мовамі. Сем гадоў працаваў у ААН і выдатна ведаў, што такое амерыканская бюракратыя. Мы нядрэнна супрацоўнічалі з ім у Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе ён пагадзіўся ўзначаліць кафедру «марксісцкай этыкі і эстэтыкі» пры ўмове, што ў яе назве застануцца два апошнія словы. Мне такі падыход спадабаўся. Праз шмат гадоў я даведаўся, што гэта быў ардынарны піярны крок, але аб гэтым – у раздзеле «Інтэлігенцыя і палітыка».

Міхайлаў злётаў у Вашынгтон у якасці майго афіцыйнага прадстаўніка, без лішняга шуму дэзавуяваў трызненні Пятра Краўчанкі там, дзе было неабходна. Праз дзён дзесяць амбасадар ЗША паінфармаваў мяне, што Дзяржпартамент ЗША накіраваў у наша Міністэрства замежных справаў запрашэнне на маё імя наведаць Злучаныя Штаты Амерыкі з афіцыйным візітам.

Пры такім павароце справаў Краўчанка разыграў ролю несправядліва пакрыўджанага, заявіў, што не можа суправа-

джаць мяне, паколькі падрыхтоўка візіту вялася без яго ведама. Прыйшлося растлумачыць міністру, што ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь знешнюю палітыку вызначае Вярхоўны Савет, а Міністэрства замежных справаў абавязанае рабіць усё магчымае, каб яе ажыццявіць. Калі ж ён не можа мяне суправаджаць, то гэта азначае толькі адно, што ён не мае адпаведнай кваліфікацыі і дасведчанасці ў замежных справах. Пры тых інтрыгах, якія ён плёў, я не лічыў сябе абавязаным тлумачыць яму нешта далікатна.

– Вам неабходна параіцца з прафесіяналамі – дыпламатамі, пратакалістамі і іншымі, што рабіць і як рабіць, – сказаў я яму, усведамляючы, што яго гіпертрафаванае самалюбства зробіць нас яшчэ большымі ворагамі. Краўчанка ж заявіў, што не можа несці адказнасць за візіт пры такім маім да яго стаўленні, і таму ехаць адмаўляецца.

Ён быў перакананы, што трымае ў руках усе рычагі, каб панізіць ранг візіту, бо ў такіх умовах я буду вымушаны запрасіць у дэлегацыю аднаго з яго намеснікаў. Забыўся былы сакратар мінскага гаркама КПСС па ідэалагічнай працы, што можна запрасіць і яго начальніка. Так функцыі міністра замежных справаў падчас візіту сталі абавязкам віцэ-прэм'ера Міхаіла Мясніковіча. Я растлумачыў яму, што паколькі ў нас з Краўчанкам ёсць пэўныя непаразуменні, то няхай той сядзіць дома, а мы паедзем і ўсё неабходнае зробім. Мясніковіч, як мне здалося, быў вельмі задаволены такім паваротам падзей. Не ведаю, чаму ён больш цешыўся, тым, што не едзе Краўчанка, ці тым, што едзе сам.

Дарэчы, як мне расказаў пазней наш прадстаўнік у ААН Генадзь Бураўкін, Краўчанка падчас свайго знаходжання ў Нью-Ёрку прымусіў супрацоўніка прадстаўніцтва Беларусі пры ААН адправіць ад імя прадстаўніцтва факс аб тым, што я адмаўляюся быць з візітам у Злучаных Штатах. Даволі цікавая і крыху іншая ад маёй версія таго, што адбылося, утрымліваецца ў інтэрв'ю тагачаснага прадстаўніка Беларусі пры ААН Генадзя Бураўкіна журналісту Аляксандру Старыкевічу.

*«Я выдатна памятаю, як рыхтаваўся візіт нашай дэлегацыі ў Амерыку. Справа ў тым, што на той час беларускай амбасады ў ЗША фактычна не было, і падрыхтоўкай візіту займаліся мы.*

*У чым быў наш козыр? Беларусь адмовілася ад ядзернай зброі без усялякіх папярэдніх умоваў. Аб гэтым у снежні 1991 года і ў Віскулях, і ў Алма-Аты заявіў Шушкевіч. Гэта быў проста геніяльны дыпламатычны ход, хоць Шушкевіч тлумачыў яго як фізік: дзеля забеспячэння бяспекі насельніцтва Беларусі.*

*Менавіта дзякуючы такой яго пазіцыі выспела ідэя запрасіць Шушкевіча як кіраўніка беларускай дзяржавы з афіцыйным візітам*

*у Амерыку. Аднак была адна загвоздка: Шушкевіч па фармальным статусе прэзідэнтам не з'яўляюўся, а прэзідэнт мае права афіцыйна запрасіць толькі прэзідэнта.*

*З іншага боку, Шушкевіч быў першай асобай у краіне. Запрашаць трэба, але як гэта зрабіць? Нарэшце з Дзярждэпам мы распрацавалі механізм, паводле якога Шушкевічу накіроўваюць запрашэнне кіраўнікі пэўных камісій. Дамовіліся, удакладнілі дэталі. І раптам прыязджае Краўчанка...*

*Між іншым, Краўчанка нам падаваўся проста ўнікальным міністрам замежных справаў. Як звычайна прыязджалі міністры замежных справаў іншых дзяржаваў? Яны знаходзіліся ў ЗША не больш, чым тыдзень – два дні да выступу, потым уласна выступ і праз дзень-два едуць дадому.*

*Краўчанка ж у нас жыў па тры месяцы! Усе дзівіліся: у чым справа? Тады казалі, што над ім у Беларусі нешта вісела, і ён проста хаваўся.*

*Хоць, трэба сказаць, пры маім вельмі крытычным стаўленні да Краўчанкі, ягоная энергія часам была на карысць Беларусі. Аднак не заўсёды.*

*Тым не менш, па сённяшні дзень лічу, што гэта была найгрубейшая памылка Стася* (мяне – С.Ш.), *што замест Краўчанкі ён узяў тады ў Штаты Мясніковіча. Нельга пагарджаць такімі рэчамі, як міжнародная практыка. Ну, калі цябе не задавальняе міністр, ты павінен здымаць яго з пасады, а калі не здымаеш – дык працуй.*

*Але што робіць Краўчанка, прыехаўшы ў ЗША: ён падгаворвае майго намесніка Сяргея Мартынава (пазней – міністр замежных справаў), той тэлефануе ў Дзярждэп і паведамляе, што трэба запрашаць не Шушкевіча, а Кебіча. Усё гэта робіцца за маёй спіной. Гэта найгрубейшае парушэнне! Я меў тады поўнае права ў 24 гадзіны адправіць Мартынава ў Мінск.*

*Вечарам таго ж дня мая сакратарка паведамляе, што са мной хочуць паразмаўляць прадстаўнікі Дзярждэпа. Я бяру слухаўку і чую па голасе, што людзі проста ў разгубленасці: такога ў міжнароднай практыцы яшчэ не было. Кажуць: нам патэлефанавалі і сказалі, што трэба перапісаць запрашэнне з Шушкевіча на Кебіча. Гэта ж усё мяняе! Кебіч жа – старшыня Савета Міністраў. Гэта ж іншы ўзровень! Трэба цалкам мяняць праграму.*

*Я спрабую высветліць, што ды як. Я ж таксама апынуўся ў недарэчным становішчы. Што мне ім сказаць: што наш міністр – ідыёт? Я пачынаю хітраваць: маўляў, трэба ўдакладніць, пачакайце, нічога пакуль не рабіце.*

*Кладу слухаўку і пачынаю наводзіць шмон: хто мог такое зрабіць? Высвятляецца – Мартынаў, мой намеснік. Я выклікаю яго: «Што,*

*засумавалі па доме? Надакучыла быць маім намеснікам? Як вы маглі, вы ж прафесіянал?». Той шчыра прызнаўся, што ўсё гэта было зроблена па прамым загадзе Краўчанкі.*

*Усю гэтую інфармацыю я пасля перадаў Стасю.*

*Калі наступным разам нам патэлефанавалі з Дзяржэдэпа, я паведаміў, што мы адклікаем гэтыя непадпісаныя мной дакументы. Так Стась прыехаў у ЗША.»*

Шмат каму сёння цяжка зразумець, чаму пры наяўнасці пацверджаных фактаў аб злоўжываннях Краўчанкі я не праявіў ініцыятывы, каб паставіць пытанне аб яго адхіленні ад пасады перад Вярхоўным Саветам? На жаль, нават пры гарачым маім жаданні адправіць яго ў адстаўку я не мог. Больш за тое, я ўпэўнены, што Краўчанка, маючы падтрымку Кебіча, правакаваў мяне сваім паводзінамі на пастаноўку мною перад парламентам пытання аб яго адстаўцы. Пераважная частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета магла б паверыць версіі, што гэта помста за непадтрымку міністрам маіх асабістых ініцыятываў па замежных паездках і г.д.

Я ішоў іншым шляхам, бо даўно ведаў Краўчанку і яго паплечнікаў. Ведаў яго да мяне стаўленне. Ведаў пра яго кульбіты ў адносінах да беларускай культуры і беларускай мовы. У 1986–1987 гадах на скліканых гаркамам нарадах, на якія запрашаўся і я як прарэктар універсітэта, ён папярэджваў, што «нацыяналісты імкнуцца разбурыць нашыя савецкія падмуркі». Калі ж адчуў, што вецер можа змяніць накірунак, стаў гарачым прыхільнікам беларускасці і нават мову беларускую ці то аднавіў у памяці, ці то вывучыў. Чалавек таленавіты – не адымеш. Амерыканская інтрыга была не адзінай непрыстойнай выхадкай Краўчанкі-міністра. Пазней я зразумеў, якімі б ні былі яго дзеянні супраць мяне, яго заўсёды падтрымае прэм'ер-міністр Кебіч.

Калі ў кастрычніку 1993 года да нас ехаў дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер, зноў паўстала пытанне, як яго прымаць. Было вырашана, што ён прыязджае да мяне як да першай асобы, а потым сустракаецца з Кебічам. Краўчанка пакрыўдзіўся: «Як гэта, ён – дзяржсакратар і я, фактычна, дзяржсакратар, а ён не сустракаецца са мной!». І не паехаў у аэрапорт сустрэць Крыстафера. Згодна з пратаколам гэта праява непавагі.

Мне тэлефануюць па спецсувязі, пытаюцца: што рабіць? Для пратакалістаў – праблема, яны не ведаюць, як паступіць. А мне параіцца няма з кім. Загадваю: «Едзьце да мяне!».

Як гаварыў калісьці мой дзед, пакручастыя пытанні трэба вырашаць проста, па-сялянску, кіруючыся здаровым сэнсам. Раз мы на больш нізкім, чым належыць па рангу, узроўні, сустрэлі адну з вышэйшых асобаў вялікай дзяржавы, у знак кампенсацыі павы-



*1994 год, студзень. Уорэн Крыстафер, Хілары Клінтан, Ірына Шушкевіч і Дэвід Суорц у Мінску*

шу я ўзровень яго прыёму мною – вышэйшай службовай асобай Рэспублікі Беларусь.

Замест таго, каб чакаць, як гэта належыць па пратаколе, дзяржсакратара ў сваім кабінеце, я выходжу з будынка Вярхоўнага Савета і сустракаю Крыстафера пры выхадзе з аўтамабіля.

– Прабачце, – кажу, – адбылося прыкрае непаразуменне, наш міністр замежных справаў не змог сустрэць вас па тэхнічных прычынах. Прыношу вам прабачэнні і запрашаю да сябе.

Размова ў нас атрымалася добрая, але ўсталяванню добразычлівых, амаль сяброўскіх адносінаў дапамагла яшчэ адна акалічнасць. Менавіта ў гэты дзень, 22 кастрычніка, у дзяржсакратара Крыстафера быў дзень нараджэння. Я пра гэта ведаў. Скончыўшы дзелавую частку, кажу:

– Спадар дзяржсакратар Злучаных Штатаў Амерыкі Уорэн Майнар Крыстафер, я ледзь-ледзь знаёмы з амерыканскімі традыцыямі. У вас прынята адзначаць імяніны. Але вы знаходзіцеся на беларускай зямлі. У нас прынята адзначаць дні нараджэння. Віншую вас з вашым днём нараджэння, жадаю здароўя, дабрабыту, поспехаў. Дазвольце, як у нас прынята, уручыць вам гэтыя ружы і запрасіць вас і ўсіх спадароў, якія суправаджаюць вас, на невялічкі пачастунак у мой пакой адпачынку.

Крыстафер не ўтойваў свайго задавальнення, падзякаваў, сказаў, што яму падабаюцца беларускія традыцыі, адзначыў нашую дасведчанасць, прайшоў у пакой адпачынку. За ім – усё ягонае су-

праваджэнне. Ён не дакрануўся ні да аднаго напою, ні да адной стравы, але яго каманда не пакінула ніякага сумневу ў тым, што ёй па гусце і беларуская кухня, і беларускае пітво.

Але вернемся да майго візіту ў ЗША.

Беларуская дэлегацыя была больш чым прадстаўнічая: прэзідэнт Акадэміі навук акадэмік Леанід Сушчэня, народны паэт Беларусі прафесар Ніл Гілевіч, прадстаўнікі ўрада на чале з Міхаілам Мясніковічам, старшыня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч, прадстаўнік прадпрымальнікаў Леанід Козік. Тады ён лічыўся ў першых шэрагах тых, хто мусіў актыўна пераўтварыць узначаленыя імі прадпрыемствы ў рынкавыя. Я фармаваў тады дэлегацыю так, каб яе ўдзельнікі былі здольныя па-дзелавому весці перамовы, а не ківаць галавой у знак згоды з кіраўніком дэлегацыі.

*«Злучаныя Штаты афіцыйнымі візітамі не здзівіш – вялікая і магутная краіна бачыла іх на сваім вяку дастаткова. Бачыць і сёння: гасцявая рэзідэнцыя Прэзідэнта – Блэйр-Хаўз – працуе амаль бесперапынна.*

*Тры дні ў ёй на тым тыдні былі, як вядома, беларускімі. Амерыканская сталіца прымала першую афіцыйную дзяржаўную дэлегацыю незалежнай Беларусі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам».*

***(«Народная газета», ліпень 1993 г.)***

Прыём ажыццяўляўся па самай высокай катэгорыі. Для мяне гэта было поўнай нечаканасцю: парад у мундзірах грамадзянскай вайны, 21 стрэл са старадаўняй гарматы, Да нас ставіліся як да роўных, хоць параўнаць краіну з 260-мільённым насельніцтвам і самай магутнай эканомікай у свеце з нашай маленькай краінай проста язык не паварочваўся. Тым не менш, карэктнасць была праяўлена надзвычайная.

***З успамінаў Юліі Бураўкінай:***

*«Не магу перадаць, з якой радасцю мы чакалі прыезду нашай дэлегацыі. Для нас тут, у ЗША, гэта была надзвычайная падзея. Гэта ж нашы! Ды не проста нашы, а кіраўнікі незалежнай дзяржавы!*

*Яшчэ тады, калі Беларусь стала суверэннай дзяржавай, падпісаўшы дэкларацыю аб незалежнасці, мы не знаходзілі сабе месца ад шчасця. Да гэтага хто мы былі там, у Амерыцы? Фактычна ніхто. А цяпер – прадстаўнікі незалежнай дзяржавы.*

*Мы жадалі як найхутчэй вывесіць наш сцяг, каб усе бачылі, што мы – незалежная дзяржава, але нават не ведалі, як ён павінен выглядаць. Зразумела, што бел-чырвона-белы, але ў якіх прапорцыях, якое адценне чырвонага?*

*Што вы думаеце, прыйшлося звяртацца па дапамогу да нашай дыяспары. Нарэшце, мы заказалі гэты сцяг. Потым яго ўласнаручна прасавалі.*

*Для нас усё гэта было вельмі важна. Таму і чакалі прыезду нашай дэлегацыі з асаблівымі пачуццямі.*

*Самалёт павінен быў прыляцець у адзінаццаць вечара. Мы загадзя прыехалі ў аэрапорт. Сядзім, чакаем. Адзінаццаць – няма. Дзве гадзіны ночы – няма. Тры...*

*Нарэшце а чацвёртай паведамляюць, што самалёт прызямліўся. Мы, не спаўшы, не еўшы, але імкнемся неяк выглядаць. Гэта ж дзяржаўны ўзровень. Разгарнулі плечы, паправілі бабачкі. Выходзім сустракаць на лётнае поле. Выстраіліся ўсе за Генадзем* (Бураўкіным – С.Ш.), *як мае быць па пратаколе. У грудзях б'ецца: «Нашы! Нашы прыляцелі!»*

*І вось адчыняецца дзверца самалёта. І што вы думаеце? Іншага слова я не магу падабраць – «вывальваюцца» нашы. Яны не галіліся двое сутак, твары апухлыя. А штаны якія! Непрасаваныя, вісяць долу.*

*Амерыканцы і пазней усё дзівіліся: «А што гэта ў вашых хлопцаў штаны на туфлі звешваюцца, яшчэ тры разы можна падкасаць». Нічога не скажу: Стась са сваёй жонкай выглядалі абсалютна прыстойна. Але ж як пасыпаліся гэтыя дэпутаты – адным словам, жах!*

*Амерыканцам, а там быў і Тэлбат, і яшчэ нехта з афіцыйных асобаў, ад гэтага відовішча, напэўна, зрабілася блага. Тэлбат нават перапытаў у Генадзя: «Гэта што, усё палітычныя дзеячы?»*

*А яны сабе вывальваюцца і лезуць да нас цалавацца. Памятаю, мяне Герасіменка так пацалаваў, што я не ведала, як потым будзе з маімі шчокамі. Ну і мы, зразумела, кінуліся да іх. Гэта ж свае!».*

## Пенсільванія авеню: Блэйр-Хаўз – Капітолій

Большая частка дэлегацыі была размешчаная ў Блэйр-Хаўзе – гасцявым доме Прэзідэнта насупраць Белага дома на Пенсільванія авеню. Увесь будынак быў аддадзены ў наша распараджэнне. Да нас у Блэйр-Хаўз прыязджалі кіраўнікі ўсіх міністэрстваў. Нам жа можна было хадзіць пешкі – проста на другім баку вуліцы Белы дом і Федэральная рэзервовая служба. Па нашай тэрміналогіі гэта Нацыянальны банк ЗША, незалежны ад ураду, што заўжды падкрэсліваецца.

На прыём у нашую амбасаду ў Вашынгтоне прыбылі высокія госці, сярод іх – дарадца Прэзідэнта ЗША па пытаннях краінаў СНД Строўб Тэлбат. Месяцам раней падчас сустрэчы ў Маскве ён падарыў мне кнігу, напісаную ім сумесна з Майклам Бесчласам, «At the highest levels» («На вышэйшых узроўнях») – з надпісам:



*1993 год. С. Шушкевіч і Строўб Тэлбат*

«Прэзідэнту Шушкевічу з вялікай павагай і надзеяй на самую паспяховую будучыню, ад аўтара». Тэлбат, відаць, быў перакананы, што я не буду яе чытаць, бо там на старонцы 450 напісана, што мне, як другаразраднаму ўдзельніку тройкі падпісантаў Белавежскага Пагаднення Ельцын і Краўчук наўмысна даручылі тэлефанаваць з пушчы Гарбачову і паведаміць аб сутнасці таго, што адбылося. Я і сапраўды цалкам кніжку не прачытаў, таму што не на такім узроўні валодаю англійскай мовай, але, знайшоўшы ў гласарыі сваё імя, хоць і зазіраючы ў слоўнік, старанна вывучыў усё, што мела дачыненне да мяне асабіста.

Калі мы з Тэлбатам прывіталіся, як старыя знаёмыя, я падзякаваў яму за тое, што ён знайшоў час зазірнуць да нас у амбасаду на ўрачыстасць. А пасля спытаўся:

– Вы сапраўды лічыце, што я другаразрадны палітык у параўнанні з астатнімі ўдзельнікамі сустрэчы ў Віскулях?

– Я ніколі так не лічыў і не лічу, але, папрацаваўшы шмат гадоў карэспандэнтам газеты «Таймс» у Савецкім Саюзе, прывык да савецкіх штампаў накшталт: першаразрадныя палітыкі – гэта сакратары ЦК КПСС і кампартый саюзных рэспублік, усе астатнія – другаразрадныя.

– Тады дзякуй, што вы не залічылі мяне ў кагорту сакратароў ЦК. Дзе-нідзе і такое здаралася,

Прыемнай нечаканасцю быў прыезд на прыём Альберта Гора. Звычайна, віцэ-прэзідэнт такія прыёмы не наведвае, хоць, само па



*1993 год. Альберт Гор на прыёме ў амбасадзе Рэспублікі Беларусь у ЗША*

сабе зразумела, запрашэнне яму накіроўваецца. Калі Гор пад'ехаў і нехта гучна пра гэта сказаў, амбасадар Расіі ў ЗША Уладзімір Пятровіч Лукін – дыпламат вышэйшай кваліфікацыі – гучна ўсумніўся:

– Гор? Памыляецеся, такога не бывае!

На шчасце, памыліўся Лукін, а ў мяне знайшоўся для Гора падарунак – слуцкі пояс ручной работы, натуральна, сучаснага вырабу, але са строгім захаваннем ткацкай традыцыі. Падарунак Гору спадабаўся, і ён не здымаў яго да канца прыёма.

Дарэчы, пра Прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта ЗША казалі тады так: Клінтан выступае, каб усім спадабацца; Гор – каб паслядоўна і дакладна давесці сутнасць справы да ўсіх слухачоў.

І гэта было праўдай.

Я добра памятаю размову з Горам у нашай амбасадзе.

– Злучаныя Штаты бачаць, – сказаў ён, – што ваша краіна Беларусь ідзе па шляху дэмакратызацыі, у ёй паважаюцца правы чалавека, выконваецца зверхнасць закона.

Такія словы сёння часта паўтараюцца, але тады пачуць такое ад віцэ-прэзідэнта ЗША было надзвычай важна. Гор заўважыў далей, што Злучаныя Штаты вітаюць такі падыход і будуць імкнуцца дапамагаць у гэтай справе. Але дэмакратычныя перамены ў Беларусі абавязаныя рабіць мы самі – яшчэ раз падкрэсліў ён. Калі ж гутарка перайшла да Белавежскай пушчы, Гор спытаўся:

– А вы не баяліся, што вас могуць арыштаваць?

Поруч са мной стаяў старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Эдуард Іванавіч Шыркоўскі, які рашуча заўважыў:

– Мы б гэтага не дапусцілі. Кантроль быў у нашых руках.

Такім быў адказ першага шэфа КДБ незалежнай Беларусі. Хоць праз некаторы час, стаўшы пенсіянерам і пераехаўшы ў Маскву, Шыркоўскі гаварыў зусім іншае і нават у адным з інтэрв'ю шкадаваў, што не арыштаваў нас у Белавежскай пушчы. Але там, у ЗША, старшыня КДБ паводзіў сябе так, як належыць паводзіцца чалавеку, які займаецца бяспекай суверэннай Беларусі. Ён жа сапраўды быў першым беларусам на пасадзе старшыні КДБ – спачатку БССР, а потым і Рэспублікі Беларусь.

*«Вынікі візіту – сапраўды беспрэцэдэнтныя для маладой беларускай дзяржавы. 59 мільёнаў даляраў у якасці бязвыплатнай амерыканскай дапамогі ў рамках закона Лугара-Нана нашмат пераважаюць рублёвы крэдыт, выпрашаны нядаўна Кебічам у Маскве. Гаворка пра сур'ёзныя гарантыі бяспекі з боку ЗША, якая вялася на найвышэйшым узроўні, зноў-такі моцна б'е па пазіцыі далучэння нашай рэспублікі да Дамовы аб калектыўнай бяспецы.*

*Амерыканскі бок узяў на вывучэнне шэраг праграмаў, распрацаваных у Міністэрстве абароны Беларусі – з мэтай выдзеліць у наступным фінансавым годзе 500 мільёнаў даляраў ЗША... Кіраўніцтва Злучаных Штатаў запэўніла, што ўлічыць зацікаўленасць Беларусі ў атрыманні сваёй справядлівай часткі ад продажу Расеяй ЗША*



*1993 год. З сенатарамі Лугарам і Нанам*



*2003 год, Сеул. Сенатар Лугар па-ранейшаму лічыць беларускую без'ядзернасць важнейшым фактарам агульнаеўрапейскай бяспекі*

*высокаўзбагачанага ўрану. Агульная выручка ад яго продажу складзе каля 10 мільярдаў даляраў. Колькі з іх будзе перададзена Беларусі – пакуль не канкрэтызавалася. Нарэшце, дасягнутая дамоўленасць аб амерыканскіх пастаўках у Беларусь у 1993-1994 гадах каля 150 тысяч тон збожжа і соевага бобу (траціна – бясплатна, астатняе – па нізкіх цэнах). Лёс іх, няма ніякіх сумненняў, не будзе падобны да лёсу шырока рэкламаванага летась казахстанскага збожжа, аплочанага беларускімі трактарамі і рабочай сілай, але дагэтуль так і не пастаўленага ў поўным аб'ёме».*

***(БелаПАН, спецыяльна для Свабоды, №8, ліпень 1993 г.)***

Перамовы вяліся аб тым, каб мець пэўную эканамічную падтрымку. Атрыманыя ў той час у выніку перамоваў 59 мільёнаў былі вялікімі грашыма. Мяне ж не пакідала пачуццё нашай беларускай рацыі ў пытанні ядзернага раззбраення. З майго гледзішча, тагачаснага і сённяшняга, вывад зброі масавага знішчэння – важнейшая зарука выжывання Беларусі як дзяржавы, а беларусаў як нацыі.

Калі клапоцішся аб сваім народзе, сваёй дзяржаве, сваёй нацыі, сваіх традыцыях і культуры, не трымай і не дазваляй размяшчэння ядзернай зброі – ні сваёй, ні чужой – на тэрыторыі сваёй краіны, асабліва на тэрыторыі такой невялікай краіны, як Беларусь.

З сенатарамі Лугарам і Нанам я сустракаўся і раней. Яны былі ў Беларусі разам з вялікай групай сваіх дарадцаў. Я ім сказаў:



*1993 год, Пентагон. Падпісанне дамовы аб ваенным супрацоўніцтве міністрамі абароны Паўлам Казлоўскім і Лесам Эспінам*

– Паважаныя сенатары, аўтары сусветна вядомага закона Лугара-Нана. Кангрэс прыняў прапанаваны вамі законапраект аб дапамозе тым, хто садзейнічае ядзернаму раззбраенню. Ні я, ні мае калегі не бачым, як у адпаведнасці з вашым законам можна дапамагчы Беларусі хоць бы адным мільёнам даляраў, хоць менавіта



*Сустрэча ў Пентагоне*



*1993 год, Блэйр-Хаўз. Сустрэча з бізнесменамі*

Беларусь узяла на сябе абавязацельства цалкам вывесці са сваёй тэрыторыі як стратэгічную, так і тактычную ядзерную зброю без усялякіх перадумоваў і кампенсацый. Вы, шаноўныя сенатары, як ніхто іншы, усведамляеце, што працэдура вываду – працэс, які патрабуе не толькі вялікай пільнасці, але і вялікіх фінансавых затратаў.

Пры ўсёй яго знешняй павольнасці сенатар Лугар адрэагаваў імгненна. Дэманстратыўна паглядзеў на гадзіннік і прамовіў:

– Спадар прэзідэнт, перад вамі каманды нашых з сенатарам Нанам дарадцаў – распрацоўшчыкаў гэтага закона. Мы з сенатарам Нанам даем ім 24 гадзіны, каб яны вызначылі, як дапамагчы Беларусі па прыдуманым імі законе.

Дарадцы справіліся з атрыманым заданнем. Першапачатковая дапамога склала 4,5 мільёна даляраў, наступная – 59 мільёнаў.

На Вярхоўным Савеце я неаднойчы гаварыў: ніякай кампенсацыі мы не павінны патрабаваць, таму што большай небяспекі для людзей Беларусі, чым ядзерная зброя на яе тэрыторыі, быць не можа. Вярхоўны Савет мяне падтрымаў. Тактычная зброя была выведзеная даволі хутка. Стратэгічную планавалася вывесці да пачатку 1996 года.

Міхаіл Мікалаевіч Чыгір – першы прэм'ер-міністр пасля абрання Лукашэнкі прэзідэнтам у 1994 годзе – расказаў мне,

што Лукашэнка, заняўшы вышэйшую пасаду ў дзяржаве, пачаў заўзята супрацьстаяць вываду стратэгічнай ядзернай зброі. Звычайна. Расія не пярэчыла яго выхадкам, а часам і патакала, бо ёй ад іх няма ніякай шкоды. Але тут... У Мінск прыехаў прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін і паставіў Лукашэнку на месца, даўшы зразумець, што ядзерныя ракеты – не цацкі, якімі можна забаўляцца.

– Ты хочаш вялікіх узрушэнняў? Усё падпісана, усё ратыфікавана парламентамі, таму нічога не можа быць зменена.

І зброя была вывезеная.

Падчас візіту ў ЗША адбыліся перамовы і з Федэральнай рэзервовай службай, сустрэчы з бізнесменамі. Камандуючы штабамі Паўэл (пасля – дзяржсакратар ЗША) падпісаў з міністрам абароны Паўлам Казлоўскім папярэдне парафаванае пагадненне аб узаемадзеянні ЗША з Беларуссю. Мы жартавалі: Паўэл з Паўлам прыйшлі да ўзаемаразумення.

Я ўвесь час імкнуўся, каб перамовы не зводзіліся толькі да прыемных размоваў і каб чальцы дэлегацыі былі на іх не сведкамі, а ўдзельнікамі. Звычайна, размова пачыналася са мной, а я часам прасіў адказваць на пытанні іншых чальцоў дэлегацыі. У справах навукі падключаўся Л. Сушчэня, у банкаўскіх справах – С. Багданкевіч, на тэмы культуры выказваўся Н. Гілевіч, пра эканоміку – М. Мясніковіч, пра бізнес – Л. Козік, муніцыпальныя пытанні я пераадрасоўваў А. Герасіменку. Каманда працавала на рэдкасць добра.

Цікавы выпадак адбыўся ў Капітоліі падчас афіцыйнага сняданку з сенатарамі і кангрэсмэнамі. Па дзейнай у ЗША традыцыі мяне папрасілі зрабіць пяціхвілінны выступ, і хвілінаў 12-15 я адказваў на пытанні. Калі ж пачаліся размовы ў кулуарах, да мяне падышоў вельмі прадстаўнічы кангрэсмен.

– Ведаеце, вы добра выступілі і адказалі на пытанні. Я даўно цікаўлюся вашай краінай і сачу за падзеямі ў Беларусі. Мне вашая краіна вельмі падабаецца. А калі вы скончылі з вашым Чаўшэску, я палюбіў яе яшчэ больш.

Мой перакладчык збянтэжыўся і паспрабаваў палагодзіць сітуацыю хітрым перакладам, але я нагадаў яму пра яго абавязкі і ён выправіўся, пераклаў словы кангрэсмена дакладна.

Што заставалася рабіць мне?

Падзякаваў кангрэсмэну за добрае стаўленне да Беларусі, пажадаў здароўя і даўгалецця.

Пасля я не раз сутыкаўся з тым, што памочнікі, дарадцы, сакратары сенатараў і кангрэсмэнаў – вельмі дасведчаныя людзі, кожны ў сваёй галіне: юрысты, фінансісты, эканамісты, міжнароднікі... А што да сенатараў і кангрэсменаў, то кур'ёзы з імі – не рэдкасць.

На трэці дзень нашага знаходжання ў Блэйр-Хаўзе да нас зазірнула гаспадыня – прыгожая, бездакорна апранутая, ветлівая жанчына.

– Прабачце, што я да вас звяртаюся, але прэзідэнт Клінтан загадаў нам выконваць усе вашыя пажаданні, а вы да гэтага часу нічога не пажадалі.

Побач са мной, у адведзеных нам з Ірынай апартаментах, знаходзіліся ў гэты час два акадэмікі – прэзідэнт Акадэміі навук Леанід Пятровіч Сушчэня і Анатоль Арсеньевіч Міхайлаў. Мы скончылі ўсе перамовы і пачыналі рыхтавацца да адлёту. Я вырашыў зрабіць працэс падрыхтоўкі больш прыемным.

– Ведаеце, мы даўно хочам нешта выпіць, нешта сур'ёзнае. Калі гэта ў рамках вашых магчымасцяў, будзем вельмі рады.

– Усё зразумела, – кажа гаспадыня і знікае.

Праз пяць-сем хвілінаў уваходзіць зноў жа вельмі мілавідная дзяўчына ў бялюткім фартушку і чэпчыку з падносам, на якім 24 вялікіх фужэры з віскі. Аднак у кожным – не больш за глыток, ну і «закуска» ў выглядзе арэшкаў, чыпсаў і іншай дробязі ў прыгожым срэбным посудзе.

Калі мы злілі змесціва 24 фужэраў разам, атрымаліся тры няпоўных. Выпілі. Маўчанне перапыніў Леанід Пятровіч:

– Скажу шчыра, амерыканскі бурбон вышэй усялякай пахвальбы. Толькі амерыканцы ўмеюць рабіць з кукурузы сапраўды




*2000 год, Вашынгтон. Ірына Шушкевіч перад Музеем амерыканскай гісторыі*

цудоўны віскі. Але, хлопцы, сумна на такой ноце завяршаць візіт. Я ехаў у ЗША, як у камандзіроўку і, вядома ж, сёе-тое прыхапіў з сабой.

Пайшоў і хутка вярнуўся з бутэлькай шатландскага «віскі з Мінска». Так усё стала на свае месцы.

* * *

У маёй жонкі як у першай ледзі была адмысловая, жаночая праграма візіту. У першы дзень ёй трэба было сустрэцца з Хілары Клінтан. Але здарылася няшчасце, і Хілары разам з прэзідэнтам Клінтанам з'ехалі на пахаванне блізкага ім чалавека. Яе дарадчыца – супрацоўніца выбарчага штаба Біла Клінтана – паведаміла пра гэта Ірыне.

З успамінаў маёй жонкі: *«Мне прапанавалі асобную жаночую праграму. Узгаднілі са мной, што менавіта я хацела б убачыць. Натуральна, мне хацелася ўбачыць як мага больш. «А вы не стоміцеся?» – турбаваліся гаспадары. «Ды што там стамляцца – усяго два-тры дні. Галоўнае – больш пакажыце!»*

*І вось я практычна з раніцы да позняга вечара ездзіла і хадзіла па Вашынгтоне. Было вельмі цікава. Наведалі Белы дом, шэраг музеяў, мастацкую галерэю і нават дэльфінарый.*

*На другі дзень нашага візіту сярод варыянтаў правядзення вольнага часу мне прапанавалі зрабіць прычоску ў цырульніка-стыліста, які абслугоўвае і Хілары Клінтан. Адмовіцца ад такой прывабнай спакусы было складана. Стыліст аказаўся вельмі цікавым чалавекам. Акрамя*



*2007 год, вашынгтонскі Музей астранаўтыкі. Каля спадарожнікавага тэлескопа Хабла*

*таго, што ён зрабіў выдатную стрыжку, мы змястоўна пагаварылі. Ён паказаў альбом з фатаграфіямі мадэляў свэтраў для мужчын, якія вяжа сам. Адчувалася, што ў чалавека выдатны густ і мастацкае ўяўленне.*

*Што да прычоскі, то ён зрабіў яе ў такім жа стылі, як было ў мяне. Але вельмі якасна. Карэктнасць была праяўленая выключная. У іх жа прынята прадумваць імідж першых асобаў дзяржавы. Відавочна, ён таксама палічыў, што мой стыль прадуманы, і не адважыўся што-небудзь змяніць. Падарунак быў сапраўды прыемны.*

*Увесь астатні час мы падрабязна вывучалі Вашынгтон».*

Пасля, калі я казаў пра планаваны візіт да нас кагосьці з кіраўнікоў замежных краінаў, мая жонка абавязкова пыталася, ці старанна мы прадумалі культурную праграму для жонкі высокага госця.

## Сустрэча з Клінтанам

*«У чацвер у Белым доме адбылася сустрэча прэзідэнта ЗША Біла Клінтана са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам, які знаходзіцца тут з афіцыйным візітым. «Я хацеў бы публічна падзякаваць кіраўніку Беларусі за падтрымку яго краінай рэжыму нераспаўсюджвання зброі, Дамовы СНУ-1, – заявіў прэзідэнт ЗША перад пачаткам гутаркі. – У нас будзе добрае партнёрства. Я чакаю, што яно будзе развівацца», – сказаў Клінтан».*

***ІТАР-ТАСС, «Народная газета»***

Усе дакументы для падпісання з прэзідэнтам Клінтанам былі загадзя старанна падрыхтаваныя, узгодненыя з усімі дзяржаўнымі амерыканскімі і беларускімі службамі. Ставячы на іх свае подпісы, мы толькі пацвярджалі, што ўсе яны набываюць юрыдычную сілу.

Пасля іх падпісання ўсе накіраваліся для размовы ў Авальную залу. Згодна з пратаколам знак павагі можа быць выказаны падарункам, адпаведным густу і звычаям прэзідэнта. Калі мы збіраліся ў Злучаныя Штаты, доўга думалі, што прывезці. Вядомы беларускі мастак Міхаіл Андрэевіч Савіцкі абяцаў напісаць карціну. Дакладнай дамоўленасці аб тым, што гэта будзе за карціна, не было. Чакалася, што Савіцкі напіша партрэт Хілары Клінтан. Натуральна, карціна мастака такога ўзроўню была б добрым падарункам, але творчыя людзі не заўсёды выконваюць дамоўленасці, бо ў адведзены час іх проста можа не наведаць муза. Так было і ў гэтым выпадку. У апошні момант Савіцкі сказаў, што карціну не напіша.

Прыйшлося ламаць галаву. Задумаліся, чым славіцца Беларусь? Вось у Швейцарыі тры пазіцыі: сыр, шакалад і гадзіннікі. А ў нас у Беларусі? Мне кажуць: бульба і шкло.

– Дык што, дранікі і фужэры павязем? А раптам прэзідэнт не п'е?



*Сустрэча ў Авальнай зале з Білам Клінтанам...*

І тады майстры ў Барысаве зрабілі шкляны кабінетны набор для пісьмовага стала. Павінен сказаць, атрымаўся ён вельмі прыгожым. Спалучэнне чырвонага з празрыстым рабіла яго сімвалам нашага дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга. І да таго, і пасля я нічога падобнага нідзе не бачыў. Адназначна – нашых барысаўскіх майстроў своечасова наведала муза.

Падарункі былі выстаўленыя на стале каля ўваходу ў Авальную залу. Я на іх нагледзеўся раней, таму ўважліва сачыў за рэакцыяй прэзідэнта. Клінтан – вельмі добра актор. Ён нетаропка ўсё агледзеў. Раптам замёр, твар яго заззяў, быццам стаяў ён перад восьмым цудам свету.



*І прадстаўнікамі адміністрацыі Белага дома*

– Гэта захапляльна, – кажа, – якія ў вас выдатныя майстры! Набор робіць цудоўнае ўражанне і будзе выдатна спалучацца з умовамі працы ў Белым доме.

Пасля была працяглая сумесная гаворка пра сітуацыю ў Беларусі, пра тое, да чаго Беларусь імкнецца і якія ў нас праблемы. Нам абяцалі падтрымку па тых пытаннях, дзе мы адчувалі цяжкасці. Усё запісвалася, і пасля ўсе вусныя абяцанні амерыканскага боку былі цалкам выкананыя. Па пратаколе гаворка павінна была доўжыцца 30 хвілінаў, а цягнулася гадзіну.

Якое ўражанне зрабіў Клінтан? Ён паводзіў сябе так, што падабаўся ўсім без вынятку. Гэта прыгожы чалавек, які вельмі спакойна, удумліва, немнагаслоўна гаворыць на любыя тэмы. Нават падчас абмену тэчкамі ён быў непаўторны. Гэта я выйшаў з такога асяроддзя, дзе, ну атрымаў ты дыплом прафесара ці лаўрэата Дзяржпрэміі, падзякаваў, паклаў у кішэню і ўсё. А там – не! Трэба публічна разгледзець, засяродзіць увагу на асобных дэталях, растлумачыць, паказаць.

Гісторыя, якая пазней здарылася ў прэзідэнта з Монікай Левінскі, для мяне была непрыемнай і абсалютна незразумелай. Гэты бок амерыканскай рэчаіснасці мне недаспадобы. Каб вышэйшага рангу пракурор патраціў 30 мільёнаў даляраў на расследаванне такога кшталту справы – вар'яцтва нейкае! Мне здаецца, асабістае жыццё на дзяржаўныя справы не ўздзейнічае такім чынам, каб марнаваць на падобныя "адхіленні" вялікія грошы тых, хто плаціць падаткі. У ЗША, ды і ва ўсім свеце, хапае жоўтай прэсы. Значна лепшы – французскі варыянт. Я з задавальненнем назіраю, што робіць і як паводзіць сябе сёння прэзідэнт Сарказі. Варты павагі і варыянт канцлера Шродэра: калі чацвёртая жонка з ім, а з трыма папярэднімі ён у добрых адносінах. Калі ж зусім сур'ёзна, то лепей за ўсё адна – на ўсё жыццё. Але жыццё пражыць – не поле перайсці.

*«Вяртаючыся ў Менск, Станіслаў Шушкевіч і іншыя высокапастаўленыя асобы з беларускай дэлегацыі не хавалі сваёй задаволенасці і вынікамі візыту, і аказаным ім у Вашынгтоне прыёмам. Амерыканцы сапраўды праявілі нечаканую для нас добразычлівасць і павагу. Сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі з Прэзідэнтам ЗША не проста адбылася, нягледзячы на тое, што якраз скончыў жыццё самагубствам сябар дзяцінства і супрацоўнік адміністрацыі Біла Клінтана, але і цягнулася даўжэй запланаванага праграмай візіту. А гэта, кажуць, вынятак са строгіх правілаў Белага дома. Сустрэча ў Пентагоне, па словах аднаго з беларускіх візіцёраў, мела «ашаламляльны характар». Нарэшце, што стала ўвогуле нечаканым для беларускай дэлегацыі, на прыём, арганізаваны амбасадай Беларусі ў Вашыгтоне, прыбылі дарадца*

*Прэзідэнта ЗША па пытаньнях краінаў СНД Тэлбат і віцэ-прэзідэнт Злучаных Штатаў Гор.*

*Зрэшты, па вялікім рахунку, дзіўным тут з'яўляецца толькі тое, што высокапастаўленыя беларусы лічылі гэткае стаўленне да сябе дзіўным. Відаць, нам яшчэ прывыкаць ды прывыкаць да цывілізаванага абыходжання...»*

***(БелаПАН, спецыяльна для Свабоды, №8, ліпень, 1993 г.)***

Мы сапраўды чакалі меншага. Я наогул заўсёды рыхтуюся да горшага. Думаў, як сябе паводзіць, калі будуць казаць, што вы такія бедныя, вы такія слабыя (а мы насамрэч такімі і былі), і як тут стрымацца, каб не агрызнуцца? Але такога не здарылася.

Што не атрымалася? Відавочна, можна было зрабіць гэты візіт яшчэ больш змястоўным. Мае рацыю Генадзь Бураўкін, лагічна было б, каб прысутнічаў і міністр замежных справаў – так прынята, каб МЗС дэталёва падрыхтавала ўсе пректы прапановаў, каб сумесна з іншымі дзяржаўнымі інстытутамі зрабіла адпаведныя разлікі. Але міністр Краўчанка не бачыў у такім падыходзе ўласнай выгоды, таму не абцяжарваў сябе працай дзеля краіны. Кантактуючы з сябрамі Беларускага Народнага Фронту і беларускай інтэлігенцыяй, ён часам мог публічна прачытаць з памяці радкі Ларысы Геніюш: *«Як жыць – дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім не жыць»*. Але насамрэч яго жыццёвае крэда іншае: нічым не грэбаваць і браць ад жыцця для сябе ўсё, што зможаш, інакш іншыя возьмуць і ўзрадуюцца.

І ўсё ж галоўным вынікам візіту ў ЗША я лічу тое, што пра Беларусь даведаўся свет. Пра нас да гэтага вельмі мала ведалі ў свеце. Куды ні паткнешся, заўсёды пыталіся: дзе тая Беларусь? Часам блыталі з Балгарыяй ці нават Бангладэш...

Пачатак на вышэйшым узроўні быў пакладзены, і трэба было ісці далей, працаваць на ўсіх накірунках і на ўсіх узроўнях. Усе нашыя прадстаўнікі – Міністэрства замежных справаў, фінансісты, эканамісты, бізнесоўцы, той самы Козік і Мясніковіч былі на ўзроўні задачаў, якія трэба было вырашаць Беларусі. Здавалася, яны разумелі, куды трэба ісці. Здавалася! Але далёка не ўсё збылося.

У Беларусі ўсталяваліся тады адносіны ўзаемадаверу і супрацоўніцтва са Злучанымі Штатамі.

А сёння?

Сорам, калі прэзідэнт ставіцца да вялікай дзяржавы як старшыня занядбанага калгасу да брыгадзіра. Калі вы лічыце палітыку няправільнай, ёсць падыходы, якія адпавядаюць этыцы міжнародных зносінаў. А тут – выгнанне амбасадара. На вялікі жаль, сённяшняя афіцыйная ўлада здольная панаваць (менавіта панаваць, а не кіраваць), застрашваючы людзей наяўнасцю мноства ворагаў – унутраных і знешніх.

А тады мы з годнасцю паказалі, што Беларусь – еўрапейская дзяржава. І нас прынялі як еўрапейскую дзяржаву, якая становіцца на ўласныя ногі, але знаходзіцца ў цяжкім эканамічным становішчы. Карацей кажучы, мы выйшлі ў свет, і хоць гэта быў дэбют, ён атрымаўся, даў плён. Даў плён, бо ў цэлай дэлегацыі не было ніводнага крывадушніка.

А што да вонкавага выгляду пэўных чальцоў нашай дэлегацыі, аб якім, відавочна, шчыра і праўдзіва выказалася ў прыведзеным вышэй інтэрв'ю Юлія Бураўкіна, то таксама шчыра заўважу:

– Дарагая Юля, у той час вы крышку адарваліся ад беларускіх рэалій. Яно і зразумела – даволі доўга жылі ў замежжы. Вы дастойна прадстаўлялі Беларусь. Прыгажосці вам не пазычаць. Вы, як і належыць жонцы дыпламата, неаднойчы былі з Генадзем Мікалаевічам на дыпламатычных прыёмах і іншых імпрэзах – у асяроддзі, дзе пануюць строгія нормы дыпламатычнага этыкету. Вы, прабачце, да іх прызвычаіліся.

А мы? Мы ў лепшым выпадку адпавядалі ўзроўню сярэднестатыстычнага беларускага чыноўніка. Большасць прыляцелых наогул ніколі не былі ў замежжы. Да таго ж, далася ў знакі бяссонная ноч, на 7 гадзін даўжэйшая за звычайную з-за змены часавага пояса і далёкія ад люксусовых умовы палёту. Апрача таго, многае, што для Вашынгтона на той час было нормай, у нас па інерцыі лічылася недапушчальным, а то і непрыстойным.

Я і сёння, калі гляджу, напрыклад, на здымак 1992 года маёй жонкі з жонкай прэзідэнта Германіі Рыхарда фон Вайцзэкера, то разумею, што адзенне Ірыны, набытае за 100 % майго тагачаснага месячнага заробку, і строй спадарыні Вайцзэкер, набыты, на маю думку, не болей, чым за 5-10 % заробку яе мужа, відавочна адрозніваюцца на карысць апошняй.

А вось па дзелавой кампетэнцыі дэлегатаў папрокаў ні ад каго не было і няма.

## Прэзідэнт Клінтант у Беларусі

Калі гаварыць шчыра, афіцыйны візіт Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Біла Клінтана ў Беларусь у студзені 1994 года – вынік маёй змовы з Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвідам Суорцам.

Я запрасіў Клінтана наведаць Беларусь з афіцыйным візітам падчас майго афіцыйнага візіту ў Вашынгтон. Ён абяцаў прыехаць і гатовы быў стрымаць слова. Цяжэй было мне застацца да моманту візіту паўнамоцным Старшынёй Вярхоўнага Савета – вышэйшай службовай асобай Рэспублікі Беларусь. Разумеючы, што візіт можа адбыцца толькі тады, калі амбасадар Суорц афіцыйна

паінфармуе Вашынгтон аб наяўнасці належных умоваў для прыёму прэзідэнта і суправаджаючых яго асобаў, я пастараўся пераканаць амбасадара ў тым, што такія ўмовы ў нас ёсць. Мы здольныя забяспечыць любы варыянт візіту: шматдзённы, шматгадзінны, лімітавана кароткі.

Мне як кіраўніку Вярхоўнага Савета была выдзеленая вялікая рэзідэнцыя ў Драздах – былы дом Першага сакратара ЦК КПБ Машэрава. Але я туды не пераехаў. Лічыў непрымальным займаць 560 квадратных метраў сям'ёй з трох чалавек. Калі 9 верасня 1991 года я быў абраны на вышэйшую дзяржаўную пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, мы жылі ў двухпакаёўцы на вуліцы Адоеўскага. Сваю сённяшнюю кватэру я атрымаў у снежні 1992 года. А тут прапаноўвалася перайсці з 37 квадратных метраў карыснай плошчы – на 560!

Калі мы з жонкай упершыню прыехалі ў адведзеную мне рэзідэнцыю, сямігадовы сын пачаў насіцца па паверхах і пакоях, мы яго ледзь адшукалі. Жонка заўпарцілася:

– Я сюды не пераеду, што ты са мной ні рабі. Будзем лепш ездзіць на наша лецішча, там усе суседзі – нашы знаёмыя, універсітэтчыкі, без комплексаў.

Так мы і зрабілі. Я нават узрадаваўся прапанове Ірыны, бо меў і свае думкі на гэты конт, пра якія жонцы не сказаў. Рэзідэнцыю трэба абслугоўваць: прыбіраць, падстрыгаць расліннасць. Жонка з гэтым не справілася б. Наняць абслугу пры заробку старшыні не вельмі проста. Усе высокапастаўленыя жыхары Драздоў ішлі на выкрут і рэкамендавалі мне зрабіць тое ж самае: залічыць на нейкую памяркоўна аплачваную пасаду чалавека (а то і двух) ва ўрадавай ці ў іншай дзяржаўнай структуры. Там гэтая асоба атрымлівала заробак, а рэальна была прыслугай у нейкага начальніка. Пагадзіся з такім падыходам і паспрабуй пасля гэтага застацца прынцыповым...

Але мне здалося, што я знайшоў выйсце, прыдумаў, як з карысцю для справы выкарыстоўваць былую машэраўскую рэзідэнцыю, дзе, дарэчы, ёсць басейн і саўна. Час ад часу мы сталі праводзіць там паседжанні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які складаўся з 23 дэпутатаў. Хапала там месца і для самога паседжання, і для размоваў (і змоваў) па інтарэсах і схільнасцях, і для зняцця стрэсу ў саўне і басейне.

Я падумаў, што дом гэты спатрэбіцца пры візіце амерыканскага прэзідэнта з сям'ёй, аховай і світай. Такі, ведаеце, беларускі «блэйр-хаўзік». Запрасіў Дэвіда Суорца, пахадзілі па пакоях, папарыліся ў лазні, паплавалі ў басейне. Падзяліўся з ім сваімі планамі, абмеркавалі дэталі магчымага візіту. Рэакцыя амбасадара была станоўчай:

– Пры наяўнасці такой рэзідэнцыі можа быць рэалізаваны любы варыянт візіту нашага прэзідэнта. Я паведамлю пра гэта ў Дзяржаўны дэпартамент.

* * *

А нада мной тым часам навіслі навальнічныя хмары.

Улетку 1993 года нашыя «маладыя ваўкі» – дэпутаты Дзмітрый Булахаў, Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька, Генадзь Карпенка, а таксама Леанід Сініцын, які прысвоіў сабе ролю іх аднадумца, – паўсюдна сцвярджалі, што я праводжу вельмі нерашучую палітыку. Кожны з іх быў упэўнены, што мае больш падставаў займаць пасаду старшыні, чым я. У той жа час старая дасведчаная наменклатура вырашыла паставіць на маё месца Дзмітрыя Арцыменю і падтрымлівала «маладых ваўкоў», каб яны дапамаглі «месца расчысціць».

Калі казаць шчыра, то непасрэдна на трыбуне Вярхоўнага Савета ў гэты цяжкі час мяне нечакана здаў член Прэзідыума, старшыня камісіі па нацыянальнай бяспецы Мечыслаў Грыб. Ён перастаў быць прыхільнікам запісанага ў Канстытуцыі імкнення Беларусі да нейтральнасці і далучыўся да тых, хто выступаў за ўступленне нашай краіны ў Дамову аб калектыўнай бяспецы СНД.

Мне супрацьстаяць такім аб'яднаным сілам было няпроста.

Варта прызнаць таксама, што Дзмітрый Канстанцінавіч Арцыменя быў моцным гаспадарнікам, разумным і дасведчаным кіраўніком. Ён пацвердзіў якасці кіраўніка дзяржаўнага маштабу, узначальваючы Гродзеншчыну. З загартаваных наменклатуршчыкаў ён, бясспрэчна, быў найбольш прыдатнай кандыдатурай на маё месца. Але яго застрэліў у Гродна забойца, наняты тымі, каму Арцыменя перашкаджаў разгарнуць свой злачынны бізнес. Вельмі верагодна, што Дзмітрый Канстанцінавіч сам меў дачыненне да не цалкам законнага бізнесу і падтрымліваў прадпрымальніцкі клан, які супернічаў з кланам, які паслаў да яго кілера. Так прымушае думаць знойдзеная пры ўскрыцці службовага сейфа Арцымені вялікая сума ў валюце. Яна ніяк не магла быць назапашаная з заробкаў на дзяржаўнай службе.

Забойства адбылося 20 верасня 1993 года ў 21.30. Аб трагедыі мне паведаміў старшыня КДБ Эдуард Ширкоўскі па новым сродку сувязі, які з'явіўся ў гэты дзень у маім службовым аўтамабілі, – мабільным тэлефоне. Пасля гэтага мяне доўга палохаў выклік мабільніка.

Забойца быў ідэнтыфікаваны беларускімі следчымі, але паспеў збегчы ў Расію, учыніць там новае злачынства і сесці ў расійскую турму. Усе нашыя намаганні экстрадаваць і судзіць яго ў Беларусі,

у тым ліку мае званкі Барысу Ельцыну і расійскаму генеральнаму пракурору Аляксею Казанніку, выніку не далі.

Трагедыя выклікала затрымку з маёй адстаўкай. Старая партыйная наменклатура, маючы сумесна з «маладымі ваўкамі» большасць у Вярхоўным Савеце, павінна была ўзгадніць новую кандыдатуру на пасаду старшыні, якую б гэтая большасць падтрымала. Наогул жа, канчаткова акрыялая ад страху пасля задушэння жнівеньскага путчу 1991 года камуністычная большасць працягвала жорстка адкідваць мае ініцыятывы і ў Вярхоўным Савеце, і ў Прэзідыуме. Было адмоўлена ў зацверджанні шасці прапанаваных мною кандыдатураў на пасаду першага намесніка, кандыдатуры старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю, кандыдатуры загадчыкаў аддзелаў сакратарыята ВС. Для хоць бы часовага утаймавання Прэзідыума я вымушаны быў прапанаваць на пасаду першага намесніка майго палітычнага працаўніка Вячаслава Кузняцова, выдатна ведаючы, што гэта за чалавек. Я не мог запрасіць на працу ў сакратарыят Прэзідыума адпаведнага ўзроўню спецыялістаў, патрабавалася згода Прэзідыума, а яе не было.

З іншага боку, група дэпутатаў ад Беларускага Народнага Фронту з маніякальнай упартасцю патрабавала, каб, карыстаючыся статусам старшыні, я ўнёс у парадак дня пытанне аб самароспуску Вярхоўнага Савета і прызначэнні датэрміновых выбараў. Усе звычайныя дэпутацкія ініцыятывы па гэтым пытанні Вярхоўны Савет адхіляў, а дэпутаты ад БНФ, у першую чаргу Зянон Пазняк, ці то не хацелі разумець, ці то патаемна жадалі, каб я выкарыстаў сваё асабістае права ўключыць пытанне аб самароспуску ў парадак дня, што вяло да маёй імгненнай адстаўкі. Насамрэч, Вярхоўны Савет абраў мяне старшынёй, а я стаўлю пытанне аб яго ліквідацыі – замест таго, каб шукаць шляхі эфектыўнай працы на карысць Беларусі...

У чэрвені 1993 года Вярхоўны Савет уключыў у парадак дня пытанне аб недаверы Старшыні. Мае незычліўцы мелі неабходную колькасць галасоў для маёй адстаўкі. Аднак на з'ездзе народных дэпутатаў СССР я сяму-таму навучыўся ў Лук'янава, які часцей за іншых вёў сесіі. Я не меў права выключыць з парадку дня пытанне аб вынясенні мне недаверу, але мог паставіць яго на галасаванне ў зручны для сябе момант. І такі момант наступіў. Паседжанне даўно пачалося, кворум быў, а некаторыя заўзятыя мае праціўнікі затрымаліся ў буфеце, святкуючы мой палітычны скон. Прагаласавалі. Для адстаўкі не хапіла шасці галасоў, і я распусціў парламент на летнія вакацыі. Так застаўся я на сваёй пасадзе, усведамляючы, што наступны раз пытанне аб недаверы ў парламенце пройдзе.

Напруга дасягнула свайго апагею ў канцы 1993 года. Якраз тады быў прызначаны саміт у Ашхабадзе. Я не сумняваўся, што калі

паеду туды і пакіну замест сябе Кузняцова, то ён зробіць усё, каб мяне скінуць і сарваць візіт Клінтана. Мне прыйшлося нават захварэць і легчы ў больніцу. Пры такім і нават больш дрэнным стане я ніколі ў больніцу не клаўся, а лячыўся працай з раніцы да вечара. Але на гэты раз усе падставы для больніцы – тэмпература, ціск, вынікі аналізаў – былі ў наяўнасці, і я лёг, папярэдне падпісаўшы распараджэнне аб прызначэнні Кузняцова кіраўніком дэлегацыі ў Ашхабадзе. У гэтай сітуацыі ён не мог туды не паехаць, а ў яго адсутнасць візіт Клінтана ў Беларусь было арганізаваць лягчэй.

А нават і без Кузняцова супрацьстаянне было фантастычнае. Старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі перайшоў ад папераджальных парадаў да афіцыйных крокаў. КДБ дасылае мне ліст: ва ўмовах, якія склаліся, камітэт не можа гарантаваць поўную бяспеку Клінтана ў Беларусі. Я тэрмінова запрашаю амбасадара ЗША Дэвіда Суорца.

– Як быць?

Абяцае хутка разабрацца ў сітуацыі. Просіць прыняць яго праз две гадзіны. Вяртаецца і ўсміхаецца проста ад дзвярэй кабінета:

– Не могуць яны, забяспечым мы!

КДБ мяняе кружэлку, дасылае новы ліст: нельга Клінтану ехаць у Курапаты. Па дарозе могуць быць снайперы. У камітэта няма неабходнай колькасці супрацоўнікаў, каб узяць пад кантроль увесь шлях следавання.

Я зноў клічу Суорца. На мой вусны запыт праз паўтары гадзіны атрымоўваю пісьмовы адказ амбасады: амерыканскі бок бярэ адказнасць за бяспеку прэзідэнцкага картэжа па дарозе ў Курапаты на сябе.

Чаму Камітэт дзяржаўнай бяспекі так рабіў?

Магу толькі здагадвацца. Шыркоўскі далёка не ўсё вырашаў у КДБ. Калі бяспеку сустрэчы ў Белавежскай пушчы ён гарантаваў і потым не раз пацвярджаў гэта, у тым ліку ў Злучаных Штатах Амерыкі ў размове з віцэ-прэзідэнтам Горам, то ў дадзеным, больш простым, выпадку нешта перашкаджала яму паступаць такім жа чынам. У Расіі Міністэрства бяспекі (МБ) у гэты час рэарганізоўвалася. За дваццаць дзён да візіту Клінтана – 23 снежня 1993 года – Ельцын падпісаў указ аб пераўтварэнні МБ у Федэральную службу контрразведкі (ФСК).

Маскоўскія змены ў сістэме бяспекі маглі адбіцца і на нашым КДБ, бо было б вялікай наіўнасцю меркаваць, што былы аддзел КДБ СССР – КДБ Беларусі – стаў за тры гады самастойным і цалкам незалежным ад Масквы. Не падабалася дзеячам ФСК Расіі тое, што на іхняй мове называлася заляцаннем Беларусі да ЗША, трэба было гэтаму перашкодзіць. Амерыканцы ж, відавочна, арыентаваліся ў тым, што адбываецца ў Расіі, і разумелі, што пагрозы, якія сыходзяць адтуль, носяць чыста ўмоўны характар і

разлічаныя на традыцыйную палахлівасць правінцыялаў, г.зн. супрацоўнікаў беларускага КДБ. Такая мая версія таго, што адбылося. Фактамі пацвердзіць я нічога не магу.

Такім чынам, нягледзячы на ўсе пагрозы, папярэджанні і «добрыя парады», Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан у Мінск прыляцеў.

Студзеньская газета «Свабода» (№ 3) падавала прылёт так:

*«Аб 11-й гадзіне сядае яшчэ адзін, гэтаксама выфарбаваны самалёт № 29000. ...Пад'язджае трап. Да яго крочаць С. Шушкевіч з жонкаю і амерыканскі амбасадар Д. Суорц. За імі спяшаюцца змерзлыя дзяўчаты ў фальклёрных строях, на галовах – штучныя вяночкі. Нейкі дзядзька ў моднай некалі ў Палітбюро шапцы-піражку нясе следам каравай.*

*З цэнтральнага трапа спускаюцца 5-6 чалавек, а следам сыходзіць прэзідэнт ЗША Біл Клінтан з Хілары. Сцэна прывітання (нас адддзяляе метраў 120, таму не так добра відаць). Вельмі хутка дзяўчаты з караваем кідаюцца бегма прэч. Спадары Клінтан ды Шушкевіч крочаць да ганаровай варты. Афіцэр з шабляй у белых похвах рапартуе па-расейску, шыхт раве «здравия желаем, господин президент!». Гучыць амерыкански гімн, а потым – «Мы, беларусы...»*

*Клінтан выглядае вельмі элегантна, ягоны плашч падобны, здаецца, да дырыжорскага фраку. Наш кіраўнік поплеч з ім глядзіцца пажылым, лысаватым, стомленым чалавекам у шэрым паліто».*

***(Газета «Свабода», №3, студзень 1994 г.)***

Дайшлі да газеты чуткі і аб перашкодах візіту. Сэнс перадаваўся газетай правільна, у дэталях не абышлося без блытаніны.

*«Наведванне Клінтанам Курапатаў сусветная прэса падала як самую галоўную навіну візіту амерыканскага прэзідэнта ў Мінск. За распаўсюд інфармацыі пра гэта варта падзякаваць у тым ліку і нашу наменклатуру. Сваімі бязмозглымі спробамі не дапусціць Клінтана ў курапацкі лес яны прыцягнулі яшчэ большую ўвагу прэсы, дапамаглі зрабіць Курапаты цэнтральнай падзеяй візіту.*

*А змагалася наменклатура адчайна. Мы даведаліся, што 13 студзеня Прэзыдыум ВС накіраваў у амерыканскую амбасаду пісьмовы зварот наступнага зместу: беларускія спецслужбы не могуць гарантаваць бяспеку Прэзідэнта Клінтана падчас наведвання ім Курапатаў; таму прапануем замест Курапатаў наведаць Курган Славы і ўсталяваць там мемарыяльны знак. Праз трыццаць гадзінаў амерыканцы далі адказ: калі вы не здольныя, то мы самі забяспечым гарантаваную бяспеку свайго Прэзідэнта».*

Праграма прыёму складалася з дзвюх частак. Мая жонка паехала з Хілары Клінтан знаёміць першую ледзі ЗША з дзеячамі культуры і развозіць гуманітарную дапамогу ў шпіталі і ваенныя часткі. У Злучаных Штатах ведалі пра Елізар'еўскі балет, а дачка Клінтанаў займалася ў балетнай школе, таму амаль уся жано-



*1994 год. У якасці гуманітарнай дапамогі Хілары Клінтан прывезла ў Беларусь дэфіцытныя лекі*

чая культурная частка звялася да кантактаў з балетнай трупай і яе кіраўніком Елізар'евым.

З інтэрв'ю Ірыны Шушкевіч журналісту Аляксандру Старыкевічу:

*«Хілары Клінтан зрабіла на мяне вельмі моцнае ўражанне. Спакойная, разумная, прывабная жанчына, імгненна ацэньвае сітуацыю і тонка адчувае становішча. Трымае сябе элегантна, нязмушана, з годнасцю першай ледзі вялікай краіны і ў той жа час вельмі проста. Муж і жонка Клінтаны прыляцелі з дачкой Чэлсі. У дзяўчынкі была і свая праграма: яна наведала балетную вучэльню – ёй гэта было цікава, бо яна сама займалася балетам. Увечары мы ўсе разам былі ў Оперным тэатры».*

Газета «Рэспубліка» пісала аб іншым:

*«Тым часам на праспекце Францыска Скарыны на ўсю моц кіпела праца. На прыдарожныя слупы ўмацоўваліся дзяржаўныя сцягі, а работнікі ДАІ ачышчалі дарогу ад прыпаркаваных машынаў. У Амерыцы іх, верагодна, вывозілі б спецыяльным пад'ёмнікам, а тут легкавушкі проста ўскрывалі, здымалі з ручнога тормазу і адцягвалі ў бок. Праспект у гэты час яшчэ не быў перакрыты, і мы накіраваліся на плошчу Перамогі. Выхад са станцыі метро працаваў толькі на скрыжаванні вул. Казлова, а плошча ўжо была абцягнутая па перыметры белай стужкай, уздоўж якой размяшчаліся супрацоўнікі МУС. Па міліцэйскіх рацыях чуліся ўказанні начальнікаў участкаў «забя-*

*спечыць захаванасць сцягоў». На маіх вачах адзін ліхач ускочыў на дах таксі і стаў уладальнікам «зорна-паласатага».*

*Жыхароў усіх кватэраў, якія выходзяць вокнамі на плошчу, напярэдадні абышоў ўчастковы. «Нам сказалі нікога не пускаць, вокнаў не адчыняць, а мы ўжо сяброў загадзя запрасілі, з балкона збіраліся паглядзець», – расказала гасцінная дама. – Цяпер давядзецца праз фіранку падглядаць, хоць і гэтага нам не рэкамендавалі».*

З аэрапорта ў горад я паехаў з Клінтанам у адным аўтамабілі. Ён захапляўся будоўлямі Мінска, упарадкаванасцю і чысцінёй горада, архітэктурным корпусам Політэхнічнага інстытута, які нагадваў ветразь. Прыехалі ў рэзідэнцыю на Вайсковым завулку для падпісання міждзяржаўных дамоваў. Працэдура падпісання дакументаў прайшла беспраблемна. Усё было загадзя падрыхтавана, выпраўлена і парафавана адпаведнымі службамі абодвух бакоў.

Наступны пункт праграмы быў, на маю думку, самым важным. Планаваўся выступ прэзідэнта Клінтана перад моладдзю ў галоўным корпусе Акадэміі навук. Калі за некалькі дзён да сустрэчы мне прынеслі «рассадку» запрошанных на сустрэчу, я ахнуў. Тры першыя шэрагі былі адведзеныя для ветэранаў вайны і працы, для прадстаўнікоў старэйшага пакалення, якія маюць несумненныя заслугі перад народам і дзяржавай.

Павага да ветэранаў, паважнае да іх стаўленне, клопат пра іх дабрабыт – наш святы абавязак. Спрабаваць жа рабіць з іх «веч-



*1994 год, студзень, Мінск. Падпісанне беларуска-амерыканскіх пагадненняў*



*1994 год, Мінск. Сустрэча з ветэранамі на Плошчы Перамогі*

на маладых» да месца ў песнях і тостах у іх гонар. У жыцці трэба ўсё ж даваць дарогу моладзі. І, як не раз здаралася ў далікатных сітуацыях, я спакойна папрасіў мяне ўважліва выслухаць.

– Мой загад такі: у трох першых шэрагах павінны знаходзіцца маладыя людзі, якія свабодна валодаюць англійскай мовай. У гэтых шэрагах не павінна быць ніякіх слухавак для сінхроннага перакладу. У нас дастаткова моладзі, якая свабодна валодае англійскай. Далей рабіце як заўгодна, але не забудзьце тых, каго ўжо запрасілі або абяцалі запрасіць. Незаслужана крыўдзіць людзей не трэба. Тым не менш, паспрабуйце як мага болей «амаладзіць» залу. Усё!

У выніку зала выглядала ўражліва.

Потым, калі я прыязджаў ва ўніверсітэты ЗША, Канады, вышэйшыя школы Францыі, Польшчы, Чэхіі і іншых краінаў, я сустракаў маладых людзей з першых шэрагаў на сустрэчы з Клінтанам. Звычайна яны самі падыходзілі да мяне. Самая шматлікая група – чатыры чалавекі – сталі дактарантамі ва ўніверсітэце Таронта, двое – у Дэнверы, па адным – у Гарвардзе і Калумбійскім універсітэце. На жаль, яны, як правіла, не спяшаюцца вярнуцца ў Беларусь – яны тут не запатрабаваныя.

А без такіх людзей цяжка ісці па шляху навукаёмістай вытворчасці, інавацый і нанатэхналогій. Але яны адчулі, што такое свабода, і іх не зацягнеш у пракруставу лажніцу непавагі правоў чалавека.

Мала хто ведаў пра тое, што наш урад, у прыватнасці прэм'ер Кебіч і міністр замежных справаў Краўчанка, настойвалі на тым, каб Клінтан выступіў перад калектывам аднаго з заводаў, і спрабавалі пераканаць амбасадара ЗША Дэвіда Суорца ўключыць у праграму знаходжання прэзідэнта ЗША ў Беларусі наведванне гадзіннікавага завода. Аднак амбасадар падтрымаў маю прапанову – сустрэцца з маладымі навукоўцамі і студэнтамі.

Аб запрошаных на сустрэчу газета «Рэспубліка» пісала:

*«На пляцоўцы ля ўваходу ў Акадэмію навук свой паёк адпрацоўваў сімпатычны сабачка з той жа службы бяспекі. Ён дзелавіта абнюхваў усе клумбы і падстрыжаныя напярэдадні кусты, шукаючы выбуховыя матэрыялы. У холе ўжо стаяла моладзь, якая прыйшла на сустрэчу з амерыканскім Прэзідэнтам. На маё пытанне, па якім прынцыпе ішоў адбор на гэтую сустрэчу, дзяўчаты з Інстытута замежных моваў са смехам адказалі: «Па экстэр'еры». Густ у сабачкі быў нядрэнны».*

Пачалася сустрэча з выступу маладога чалавека, які спачатку па-англійску, а затым па-беларуску вітаў Клінтана. Клінтан здзівіўся: «І што, далей будзе такі пераклад?». Я супакоіў яго: не, пераклад будзе сінхронны. Наш абмен простымі фразамі быў паказаны ў жывой трансляцыі, а потым у запісе, што спарадзіла міф пра тое, што я свабодна валодаю англійскай. На жаль, я ведаю яе па-савецку.

*1994 год, Акадэмія навук. Прэзідэнт Біл Клінтан выступае перад беларускай моладдзю*



Газета «Рэспубліка»:

*«Пачатак сустрэчы планаваўся на 14.30. Клінтан з Шушкевічам зайшлі ў залу ў 15.15. Насуперак маім чаканням, побач з прэзідэнтам не было ніводнага ахоўніка. Толькі перад сцэнай сталі 2 целаахоўнікі. Зрэшты, зала ў гэты час была ужо цалкам ачэпленая, а ўнутры сядзелі толькі правераныя, агледжаныя і абнюханыя людзі. Тым не менш, па гучнагаварыцелі ўсіх папярэджвалі, каб ніхто не ўскокваў з месцаў, калі Прэзідэнт пойдзе паціскаць рукі моладзі.*

*Сваю прамову Біл Клінтан пачаў з падзякі тым, хто прыйшоў на сустрэчу. «Я спадзяюся, што перакладчыкі працуюць добра, і вы мяне разумееце», – працягнуў прэзідэнт. Зала не адказала. «Не ведаю, як мне тлумачыць вашае маўчанне – так, ці не?» – спытаў Біл Клінтан. «Йес, йес», – адказалі з залы. Гаворка працягвалася роўна 15 хвілінаў. Пасля гэтага Біл Клінтан накіраваўся да першага шэрагу і пайшоў уздоўж яго, паціскаючы рукі ўсім, хто мог дацягнуцца. Забыўшыся на папярэджанне, народ з задніх шэрагаў рушыў наперад. Прэзідэнт не крыўдзіў нікога і не вельмі спяшаўся».*

Быў яшчэ адзін цікавы выпадак. На сустрэчу ў Акадэмію навук мы павінны былі ехаць у розных аўтамабілях. Клінтан запрашае мяне ў свой лімузін (аўтамабілі для прэзідэнта і аховы амерыканцы даставілі да прылёту Клінтана транспартным самалётам «Геркулес»):

– У мяне ў аўтамабілі мікрафон, і мы зможам звяртацца да людзей.

Я падсеў, і мы паехалі. Выкарыстоўваючы мікрафон, мы сапраўды некалькі разоў віталі людзей, якія акружылі праезджую частку, а потым працягнулі гутарку, дзякуючы выдатнай рускай мове амбасадара Суорца, які ехаў з намі.

Клінтан не паспрабаваў у нас ніякай прапанаванай ежы. У аўтамабілі ён дастаў «зсабойку» накшталт нашай студэнцкай, наліў Суорцу і мне кавы. Духмяны пах кавы спалохаў мяне. Я падумаў, што калі пап'ю моцнай кавы, то мецьму праблемы з сэрцам. А яно часціла так, што я пабойваўся зрабіць не ўсё так, як задумана.

– Шаноўны спадар Прэзідэнт, я проста баюся піць сапраўдную каву, бо і так хвалююся.

На што Суорц:

– Вы дарма думаеце, што Прэзідэнт у такім становішчы п'е сапраўдную каву. Дэкафінат гэта, а не кава.

Тады Клінтан, і гэта напэўна не спадабалася б нашым пратакалістам, прапануе мне нейкую вафліну ў шакаладзе ў прыгожай абгортцы. Я кладу вафліну ў нагрудны кішэнь. Салодкага зусім не хацелася, а адмовіцца – няёмка.

– Перадам гэта свайму сямігадоваму сыну, скажу, што такое ўжывае сам Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі!

* * *

Калі Клінтан адлятаў, я правёў яго ў аэрапорт «Мінск-2». Лічыў гэта сваім абавязкам. З прычыны ўдалага афіцыйнага візіту я нават забыўся ў той момант, што праз дзень-два мяне павінны зняць з пасады Старшыні ВС. Мяне гэта ўжо не хвалявала.

Пасля я з Клінтанам больш не сустракаўся, але праз 16 гадоў (!), у дзень майго 75-годдзя, ён прыслаў мне ліст-віншаванне. А вось з іншымі былымі прэзідэнтамі ЗША – Бушам-старэйшым, Фордам, Картэрам – я сустракаўся пазней неаднойчы – на канферэнцыях і сімпозіумах у Вашынгтоне, Нью-Ёрку, Сеуле.

## Куды ісці?

На сённяшнія беларуска-амерыканскія адносіны я гляджу з вялікім жалем. Беларускі бок спрабуе вырашаць палітычныя міжнародныя праблемы метадамі ўрэгулявання скандалаў на калгаснай свінаферме. Калі справа дайшла да таго, што вялікая дзяржава ўжыла пэўныя санкцыі, трэба тэрмінова задумацца, чаму так адбылося? Санкцыі жорсткія, але законныя. Па сутнасці справы было сказана: мы не хочам мець кліентаў з непрыстойнай рэпутацыяй. Гэта вельмі моцна закранула інтарэсы пэўных асобаў, прыгрэтых паноўным у Беларусі рэжымам. Той лямант, які яны ўчынілі, пацвярджае: санкцыі не ў дачыненні да Беларусі, гэта санкцыі ў дачыненні да іх.

А што зроблена ў адказ... Стрыманасць, праяўляная амерыканскім бокам, абгрунтаваная. Штаты заўсёды знойдуць спосаб паказаць, што з імі так абыходзіцца нельга. На жаль, адаб'ецца гэта не толькі на нашай уладзе, але і на людзях, якім гэтую ўладу цярпець абрыдла.

Толькі адзін маленькі прыклад. Пачалі супрацоўнічаць з Венесуэлай. Па рашэнні правадыра пачалі вазіць нафту за тры-дзевяць зямель, але хутка зразумелі відавочнае – у Расіі па любой цане купляць больш выгадна. Але магло мець месца і іншае супрацоўніцтва. Нашыя спецыялісты паехалі ў Венесуэлу шукаць і здабываць нафту. Узаемавыгодна! Трэба набыць абсталяванне – добра, грошы ёсць. Але амерыканскай фірме, якая яго выпрабляе, рэкамендавана не прадаваць. А купіць у іншых – праблема. Расійскае і кітайскае абсталяванне – не той якасці. Смяяцца будуць венесуэльцы, параўноўваючы яго з тым, на якім працуюць у іх амерыканцы. Няма куды беларускім нафтавікам ехаць, няма дзе прыстойна зарабіць.

Неразумная гэта справа – сварыцца з вялікай дзяржавай. Нават з вялікай Расіяй прасцей – там ведаюць характар і ўзровень

адзіны спосаб выратавання ад імперскай Расіі. Калі мы будзем нейтральнымі, яна можа стаць іншай, больш польскай. Наша нейтральнасць змякчае становішча – лепш становіцца і Расіі, і Польшчы, і Украіне, і Літве, і Латвіі.

Фактычна, у нас была вусная згода на нейтральнасць з боку Еўропы і ЗША. Вяліся размовы і з Расіяй. Трэба дзейнічаць так, каб Расія зразумела, што гэта лепшы, выгодны для яе варыянт. Рабіць з Беларусі анты-Чачню, пераконваць, што Беларусь марыць стаць часткай Расіі па сваёй волі, – абсурд. Беларусь ужо паспрабавала свабоды, паказала што застаецца еўрапейскай пасля двух стагоддзяў расійскага панавання і перажыве атручанне беларускай свабоды лукашызмам.

# XII. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ПАЛІТЫКА

## Палітыка і мастацтва

Так ужо зладкаваны свет, што найпрыстойнейшыя людзі могуць быць прылічаныя да злодзеяў, а ваяўнічыя невукі ўзысці на вяршыні ўлады. Не будзем зайздросціць невуку ці дурню, які паверыў ва ўласную веліч. Урэшце, праўда заўсёды перамагае. Хоць да таго часу амаль не застаецца ў жывых шмат каго, хто за гэтую праўду змагаўся, быў без прычыны абылганы, зняважаны, рэпрэсаваны. Так, на жаль, было заўсёды, таму і сталі папулярнымі сцвярджэнні: «палітыка – справа брудная», «палітыка робіцца бруднымі рукамі». Часам гэтыя выслоўі незаслужана прыклейваюць і тым, хто брудных метадаў заўсёды цураўся. Адсотак непрыстойных людзей сярод палітыкаў не большы, чым сярод людзей іншых заняткаў, але ў палітыцы яны проста больш заўважныя.

У канцы 80-х Гарбачоў увёў ва ўжытак запазычанае ім без спасылкі ў Макіявелі выслоўе: «Палітыка – мастацтва магчыма-



*2003 год, Прага.*
*З прэзідэнтам Чэхіі*
*Вацлавам Гавелам*

га». На з'ездах народных дэпутатаў СССР яму ніхто не пярэчыў, бо гэтымі словамі можна было апраўдваць няўдачы і Гарбачова, і з'ездаў. Калі ж над выслоўем задумацца, то атрымліваецца, што палітыка – гэта рабіць тое, што атрымліваецца, а не тое, што абавязваюць рабіць, напрыклад, розум, абавязак, сумленне. Можна трактаваць і інначай, як праслаўленне макіявелізма: для ўзмацнення дзяржавы дапушчальныя любыя сродкі – гвалт, забойства, здрада.

Віншуючы суайчыннікаў з новым 1990 годам, прэзідэнт Чэхаславакіі Вацлаў Гавел, фактычна спрачаючыся з Гарбачовым, але не ўпамінаючы яго імя, удакладніў: ***«Палітыка – мастацтва немагчымага»***. Пра гэтую прыхаваную спрэчку не гаварылася ў савецкіх сродках масавай інфармацыі, бо галоснасць галоснасцю, а ганьбіць імя генеральнага сакратара было справай па-ранейшаму небяспечнай. Кажучы пра палітыку як пра мастацтва, а не як пра амаральнае прыстасавальніцтва, Вацлаў Гавел нагадаў пра дзейнасць Яна Масарыка. Яна добра вядомая чэхам, але пра яе мала ведаюць у іншых краінах.

Таму нагадаю. Ян Масарык (1886–1946) – сын прэзідэнта Чэхаславакіі Томаша Масарыка (1850–1937). Ян меў мужнасць пакінуць пасаду амбасадара Чэхаславакіі ў Вялікабрытаніі на знак пратэсту супраць падпісання ў 1938 годзе Мюнхенскіх пагадненняў. Дакладней, змовы прэм'ера Вялікабрытаніі Чэмберлена, прэм'ера Францыі Дэладзье, Гітлера і Мусаліні аб перадачы Чэхаславакіяй Германіі Судэцкай вобласці. Сутнасць гэтай падзеі вельмі трапна схарактарызаваў Чэрчыль: ***«Англіі быў прапанаваны выбар паміж вайною і ганьбаю. Яна абрала ганьбу і атрымала вайну»***.

Як міністр замежных справаў чэхаславацкага ўрада ў выгнанні Ян Масарык дамогся прызнання гэтага ўрада афіцыйным Лонданам і дэнансацыі ў 1942 годзе брытанскім урадам Мюнхенскіх пагадненняў. Адначасова ён падтрымліваў добрыя адносіны з СССР. У ліпені 1941 года падпісаў пагадненне аб узаемадапамозе, паводле якога ў Савецкім Саюзе павінны былі ствараацца чэшскія ваенныя падраздзяленні, пазней – дамову аб сяброўстве з СССР. Пасля вайны Ян Масарык быў прызначаны міністрам замежных справаў у кабінеце Клімента Готвальда, дзе быў адзіным беспартыйным. Па афіцыйнай версіі ўладаў таго часу ён скончыў жыццё самагубствам. Больш верагодна, што яго смерць – справа рук савецкіх спецслужбаў. Калі вы трапіце ў Міністэрства замежных справаў Чэхіі, вам абавязкова пакажуць рэлііквію – кватэру Яна Масарыка, чалавека, які даказаў сваім жыццём, што палітыка – мастацтва немагчымага.

Вацлаў Гавел як чалавек творчы лічыў сапраўдную палітыку мастацтвам. Ён не мог падабацца ні савецкаму кіраўніцтву, ні

Гарбачову, ні тандэму Пуцін-Мядзведзеў. Але яго смерць 18 снежня 2011 года і пахаванне 23 снежня агалілі невылечныя язвы вышэйшага расійскага кіраўніцтва. Асабіста для мяне тагачасны прэзідэнт РФ Дзмітрый Мядзведзеў страціў апошнія рэшткі інтэлігентнасці і цывілізаванасці, накіраваўшы ў Паўночную Карэю спачуванні ў сувязі са смерцю дыктатара Кім Чэн Іра і не даслаўшы спачуванняў родным Гавела і ўсяму чэшскаму народу. Такой была помста Пуціна, волі якога пакорліва падпарадкаваны Мядзведзеў. А яму – Пуціну – з-за пазіцыі Гавела не была ўручаная ў 2011 годзе прэмія Квадрыга, заснаваная нямецкімі бізнесоўцамі. Гавел заявіў, што калі гэта здзейсніцца, то ён адмовіцца ад прэміі Квадрыга, уручанай яму ў 2009 годзе.

На пахаванне Вацлава Гавела прыляцелі прэзідэнт Францыі Нікаля Сарказі, прэзідэнт Германіі Крысціян Вульф, прэм'ер Брытаніі Дэвід Кэмеран, прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ, Лех Валэнса, Біл Клінтан і іншыя вядомыя людзі. З Расіі не прыехаў ніхто. А як жа інначай? Гавел неаднойчы заяўляў аб парушэннях правоў чалавека ў Чачні, аб палітычным складніку ў справе Хадаркоўскага, аб антыдэмакратычнасці расійскай мадэлі кіравання.

Рамесніцтва і творчасць, навука, палітыка і мастацтва. Людзі рознага ўзроўню інтэлігентнасці, адукаванасці і досведу па-рознаму бачаць размежаванне паміж гэтымі паняткамі. Што навука – гэта сфера чалавечай дзейнасці, функцыя якой – атрыманне і сістэматызацыя ведаў, мне было вядома задоўга да таго, як выпала шчасце стаць навукоўцам. Не буду ўтойваць, у палітыку я ўвайшоў значна раней, чым на ўзроўні рамесніка зразумеў, што гэта такое.

Дзіўнага тут мала, хоць для вывучэння дысцыплінаў так званых грамадска-палітычных у СССР адводзілася да 30% акадэмічнага часу ў любой ВНУ і на любой спецыяльнасці, у тым ліку і на фізіка-матэматычным факультэце ўніверсітэта, дзе я вучыўся. Ва ўніверсітэце па грамадскіх навуках у мяне былі толькі выдатныя адзнакі, а ў аспірантуры да іх дадаўся кандыдацкі мінімум па марксісцка-ленінскай філасофіі. Тым не менш, я абавязкова павінен быў кожныя 7-10 гадоў заканчваць гэтак званы вячэрні ўніверсітэт марксізму-ленінізму. Паспеў гэта зрабіць двойчы. Але з усёй тамтэйшай навукі запомнілася толькі наступнае: *марксісцкае вучэнне ўсемагутнае, таму што яно правільнае; партыя – розум, гонар і сумленне нашай эпохі* (г.зн. КПСС, іншых партый тады не было); *наша мэта – камунізм; палітыка – канцэнтраванае выяўленне эканомікі*. Паўтараю: што такое палітыка насамрэч, я так і не даведаўся, хоць па грамадска-палітычных навуках у мяне не было іншых адзнак, акрамя выдатных.

## Партыйная наменклатура і палітыка

З палітыкай і палітыкамі савецкага пакрою я ў працоўным парадку сутыкнуўся пасля Чарнобыля. Для мінімізацыі негатыўных наступстваў катастрофы патрэбныя былі кансультанты па пытаннях радыяцыйнай бяспекі на ўсіх узроўнях партыйнай і дзяржаўнай улады, патрэбная была вымяральная радыеметрычная апаратура і спецыялісты, здольныя ёю карыстацца. Практычна ўсе прафесіяналы такога профілю знаходзіліся ў БССР ва ўніверсітэце і двух інстытутах Акадэміі навук. Што да ўніверсітэта, то большасць з іх працавала на кафедры, якую я ўзначальваў. Гэта і абумовіла мае кантакты з высокапастаўленымі прадстаўнікамі партыйных і дзяржаўных органаў. На практыцы я зразумеў іх абавязкі: вырашаць толькі тыя задачы, якія даведзеныя дырэктыўнымі партыйнымі органамі, рэгуляваць адносіны паміж сацыяльнымі групамі, супакойваць людзей, адпрэчваць рашэнні, якія не на сто адсоткаў адпавядаюць лініі партыі, г.зн. камуністычнай ідэалогіі.

Такі падыход зрабіў партыйныя органы прытулкам для многіх бяздарнасцяў і пасрэднасцяў. Сапраўднаму камуністычнаму кіраўніку трэба было засвоіць толькі адно правіла: *план любым коштам*, такое правіла спускалася зверху і не падлягала абмеркаванню. Гэткі кіраўнік мог папракаць, караць усіх падначаленых, якія па розных прычынах хацелі б гэтае правіла парушыць. Калі ж ён сам не забяспечваў выкананне плана, то з ім маглі абысціся самым непажаданым для яго чынам.

Здавалася б, нядрэнная сістэма, калі планы разумныя. А яны могуць быць вельмі дасканалымі ў эпоху вылічальнай тэхнікі, якая дазваляе збіраць і хутка апрацоўваць гіганцкія аб'ёмы інфармацыі, неабходнай для абгрунтаванага планавання.

Аднак немагчыма прадугледзець усе збоі, не кажучы ўжо пра такія, як Чарнобыль. Таму і пайшло цывілізаванае чалавецтва па шляху самарэгулявання, канкурэнцыі, пастаяннай карэкцыі вытворчасці ў адпаведнасці з патрэбамі людзей і выразнікам гэтых патрэбаў – рынкам. На такім падыходзе базуецца рынкавая эканоміка. Яна, зразумела, не панацэя ад усіх хваробаў і бедаў, але – каласальны крок наперад у параўнанні з эканомікай планавай, рэгуляванай адміністратыўнымі метадамі, дзе па бязглуздай задумцы камуністычных ідэолагаў канкурэнцыю павінна было замяніць сацыялістычнае спаборніцтва. Навука эканоміка лічыць больш эфектыўнай рынкавую сістэму, якая вызваляе вытворцаў ад планавых путаў, дае ім свабоду эканамічнай дзейнасці. Такая лібералізацыя – пагібель для так званай планавай сацыялістычнай і любой іншай аўтарытарнай, дыктатарскай, таталітарнай палітычнай сістэмы.

На якое толькі вычварэнства ні ішлі пасля Чарнобыля вышэйшыя кіраўнікі БССР, каб забяспечыць вытворчасць харчавання на ўзроўні, блізкім да дачарнобыльскага! Перад імі была пастаўленая менавіта такая задача. І вось, засвоіўшы адзін-адзіны панятак па радыяцыйнай бяспецы, яны праявілі фантастычную вынаходлівасць, як усё ж скарміць насельніцтву, напрыклад, мяса, радыеактыўнасць якога ў дзесяць разоў большая за дапушчальную норму.

Адзін міністр БССР, якога характарызавалі як вельмі ўдумлівага і працавітага кіраўніка, так мне і кажа:

– У раёнах, не забруджаных выкідамі Чарнобыля, мы вырабляем ідэальна чыстае мяса. Хто нам перашкаджае рабіць фарш ці супавыя наборы з 90% гэтага мяса і 10% забруджанага? Змешанае мяса ўкладаецца па дапушчальнай радыеактыўнасці і ў нашыя, і ў міжнародныя стандарты.

Цярпліва спрабую растлумачыць міністру тое, што абавязаны ведаць кожны студэнт на нашай кафедры. Нельга так дзейнічаць, бо «размазванне» радыеактыўнасці не зменшыць галоўнага – атрыманай насельніцтвам калектыўнай дозы радыяцыі. Пры такім падыходзе тая ж агульная доза рацыяцыі будзе размеркаваная паміж большай колькасцю людзей. А ўсе дакладна вядомыя негатыўныя наступствы ўздзеяння радыяцыі на людзей вызначае менавіта калектыўная доза.

Для пераканальнасці паўтараю яшчэ раз: калектыўная доза пры такім падыходзе не зменшыцца, а памер негатыўнага ўздзеяння на людзей безумоўна вызначае калектыўная доза.

Але міністр не здаецца:

– Калі вы такі разумны, растлумачце мне, чаму мы не можам прадаваць насельніцтву мясны прадукт, радыеактыўнасць якога не перавышае дапушчальнай нормы?

Тлумачыць усё спачатку мне не хочацца, таму іду па іншым шляху – дамагаюся прыёма ў старшыні Дзяржплана, намесніка Старшыні Савета Міністраў. Той адразу ўсё зразумеў, сказаў, што ніякага змешанага мяса ў рэспубліцы рабіць не будуць, і словамі, якія я не адважваюся пераказаць, схарактарызаваў дзейнасць майго незгаворлівага апанента. Пачакаўшы, дадаў: не адзін ён у нас такі!

Так адбылася мая першая сустрэча сам-насам з Вячаславам Францавічам Кебічам, які стаў пазней першым прэм'ерам незалежнай Беларусі. Я быў у той час удзячны лёсу за тое, што ў кіраўніцтве рэспублікі ёсць такія людзі. Аднак выявілася, што я захапіўся вяршыняй айсбергу. Аб падводнай яго частцы я ўжо трохі расказаў у гэтай кнізе.

## Міжкласавая праслойка

Камуністычнай партыі патрэбныя былі вучоныя. Без іх шмат у чым не разабрацца. Без іх дзяржава існаваць і развівацца не можа. Разам з тым, вучоныя і наогул высокакваліфікаваныя людзі разумовай працы – кантынгент дастаткова небяспечны для беспераш-коднай рэалізацыі дагматаў КПСС, таму партыя праводзіла такую палітыку, дзякуючы якой інтэлектуалы практычна не мелі ўплыву на рэальную дзяржаўную палітыку.

Інтэлігенцыі ў сацыялістычным грамадстве была адведзеная смешная роля – роля міжкласавай праслойкі. Да простага люду наўмысна даводзілася, што людзі разумовай працы, у адрозненне ад рабочых і сялянаў, не ствараюць матэрыяльныя каштоўнасці, але іх спажываюць. Працоўныя масы ўспрымалі гэта як намёк ставіцца да вучоных і наогул людзей разумовай працы насцярожана, лічыць іх чымсьці накшталт утрыманцаў на целе народу. Калі пачыналася нейкая кампанія ганьбавання лекараў, кібернетыкаў, генетыкаў і нават мовазнаўцаў, масы адзінадушна яе падтрымлівалі і патрабавалі жорсткага пакарання для «вінаватых».

Навуковым работнікам з вучонымі ступенямі і званнямі выплочваўся даволі вялікі заробак. Партыйныя кіраўнікі не прапускалі магчымасці падкрэсліць, што ў таго ці іншага прафесара, а тым больш акадэміка, заробак большы, чым нават у сакратара абкама, гаркама ці райкама. І гэта было праўдай. Аляксандр Мікалаевіч Якаўлеў у сваёй кнізе «Прыцемкі» («Сумерки») паказаў, чым адрозніваліся партыйныя кіраўнікі ад вучоных з гледзішча аплаты іх працы. Некаторы час партыйцы мелі «канверты» – не абкладаную падаткамі даплату, заўсёды – сталы заказаў і іншыя магчымасці набыць тое, што звычайным грамадзянам ніколі не даставалася. Пакупніцкая здольнасць партыйнага заробку была высокай, часцей за ўсё – больш высокай, чым заробак вучоных.

Па волі лёсу мне прыйшлося шмат разоў бываць у Паўднёвай Карэі. Там любяць сцвярджаць: сярод адукаваных няма бедных. У любыя часы, нават у самыя цяжкія гады японскай акупацыі, сярод адукаваных паўднёвых карэйцаў сапраўды бедных не было. Падобная сітуацыя і ў іншых краінах. Пра людзей з вышэйшай адукацыяй у СССР такога не скажаш. Бедны інтэлігент – панятак менавіта савецкі. Само ж слова «інтэлігенцыя» з'явілася ў Расійскай імперыі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Брытанскіх, французскіх, нямецкіх або амерыканскіх інтэлігентаў не бывае. Там ёсць толькі інтэлектуалы.

Што ж гэта такое – інтэлігенцыя?

Інтэлігент – чалавек вялікай унутранай культуры, звычайна адукаваны, які не дазваляе сабе адступіць ад пэўных прынцыпаў.

Да іх найперш адносяцца справядлівасць і сумленнасць. Унутраная культура адрознівае інтэлігентаў ад проста адукаваных людзей. Менавіта гэтая якасць узведзеная ў ранг галоўнай пры вызначэнні панятку інтэлігенцыі ў сучасных расійскіх і іншых слоўніках і энцыклапедыях.

Вялікая савецкая энцыклапедыя (ВСЭ), якая стаяла на варце камуністычных ідэалаў, тлумачыла панятак «інтэлігенцыя» паводле Леніна. Да інтэлігентаў ён аднёс «...усіх адукаваных людзей, прадстаўнікоў вольных прафесіяў увогуле, прадстаўнікоў разумовай працы... у адрозненне ад прадстаўнікоў фізічнай працы». На пяці старонках (!) ВСЭ тлумачыцца панятак «інтэлігенцыя» (стар. 311-315, том 10), але там няма ніводнага слова аб вялікай унутранай культуры. Гэтую якасць камуністы крывадушна прысвоілі сабе, паўсюдна кажучы, што менавіта КПСС – розум, гонар і сумленне нашай эпохі.

Такі падыход дазваляў адвесці неаднароднай масе, названай Леніным інтэлігенцыяй, прыніжаную ролю міжкласавай праслойкі, якую павінны былі супакоіць словы з праграмы КПСС 1971 года: «Калі праца кожнага чалавека набудзе творчы характар, калі небывала падымецца навукова-тэхнічны і культурны ўзровень грамадства, тады інтэлігенцыя перастане быць асаблівай сацыяльнай праслойкай». А да гэтага «асаблівая сацыяльная праслойка» мусіла не разважаць, а выконваць загады партыі.

У 1990 годзе французскі журналіст і палітолаг Гі Сарман дакладна вызначыў палітычны аспект дзейнасці савецкай інтэлігенцыі: *«Савецкае грамадства надзвычайна пакутуе ад непадрыхтаванасці інтэлігенцыі да пазітыўнай гістарычнай ролі»*.

Сёння нават страшна ўявіць, на якія ўчынкі КПСС штурхала савецкіх вучоных, савецкіх інтэлігентаў. Былі да дасканаласці адпрацаваныя метады асуджэння, псіхалагічнага і маральнага ўціску вучоных, якія не жадалі быць бязмоўнымі рычагамі партыі. Прычым рабілася гэта рукамі саміх жа вучоных. Каб не быць галаслоўным, прывяду такі прыклад. Не супрацоўнікі КДБ, не акадэмікі грамадскіх навук (г.зн. прафесійныя марксісты-ленінцы), а гордасць савецкай навукі, сусветна прызнаныя акадэмікі – матэматыкі А.А. Дарадніцын і А.М. Ціханаў, мікрабіёлаг Г.К. Скрабін, Нобелеўскі лаўрэат фізік А.М. Прохараў – у чэрвені 1983 года публічна асудзілі акадэміка А.Дз. Сахарава, назвалі яго чалавекам непрыстойным, якому нянавісць засціць вочы, чалавекам, які не думае, які страціў гонар і сумленне.

Менавіта так яны схарактарызавалі таго самога Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава, які стаў сімвалам найвялікшых навуковых дасягненняў і чалавечай годнасці для ўсяго свету, імем якога названыя сотні вуліц і плошчаў у буйнейшых гарадах свету.

Не верыце? Чытайце. Вось той адкрыты ліст.

### *КОГДА ТЕРЯЮТ ЧЕСТЬ И СОВЕСТЬ*

*Открыв номер американского журнала «Форин афферс» и обнаружив в нем пространную статью академика Андрея Сахарова, мы взялись за ее чтение, ожидая, по правде говоря, всякого. Что Сахаров пытается очернить все, что нам дорого, что он клевещет на собственный народ, выставляя его перед внешним миром эдакой безликой массой, даже и не приблизившейся к высотам цивилизованной жизни, мы хорошо знали.*

*Сахаровское творение в «Форин афферс» нас тем не менее поразило. Как бы вступив в полемику с американским профессором из Стэнфордского университета С. Дреллом, который высказывается в пользу замораживания существующих ядерных арсеналов СССР и США, Сахаров призывает США, Запад ни при каких обстоятельствах не соглашаться с какими-либо ограничениями в гонке вооружений, ядерных в первую очередь. Он прямо-таки заклинает руководителей Вашингтона продолжать их милитаристский курс, курс на конфронтацию с Советским Союзом, на военное превосходство, доказывая, что Соединенные Штаты, НАТО не должны ослаблять гонку вооружений как минимум еще 10–15 лет.*

*Это может показаться неправдоподобным, но нижеследующее написано черным по белому. Сахаров умоляет тех, к кому он обращается, «не полагаться на благоразумие противника». Кто же этот «противник»? Советский Союз, страна, в которой он живет. Он предупреждает хозяев Америки: не верьте миролюбию социалистических государств. Открыто, не стесняясь, Сахаров одобряет планы США и НАТО по развертыванию американских «першингов-2» и крылатых ракет в Западной Европе – этого оружия первого удара, которое намереваются нацелить на нашу страну и другие социалистические государства. Один из его аргументов – если у Вашингтона будут ракеты MX, а это тоже всем известное оружие первого удара, – «Соединенным Штатам будет легче вести переговоры» с СССР.*

*Мы несколько раз возвращались к этим местам в статье Сахарова. И у нас появилось какое-то странное ощущение: да он ли это пишет? Ведь всё это мы уже много раз слышали, читали. Именно так говорит министр обороны США Уайнбергер. Так говорит президент Рейган. Это язык американских генералов и политиков-ультра. Сахарову не хватает только назвать СССР «исчадием зла» и объявить «крестовый поход» коммунизму – и его хоть сажай в Пентагон, в Белый дом.*

*И еще одно нам показалось невероятным. Сахаров – ученый. Ему предметнее видно и лучше известно, какими могут стать*

*последствия тех действий, к которым он призывает правительство страны, уже однажды испробовавшей на людях оружие массового уничтожения. Тогда США обрушили атомную смерть на японские города. Их правители хотели показать миру, и прежде всего нашей стране, какой силой они обладают. Сегодня Сахаров по существу призывает использовать чудовищную мощь ядерного оружия, чтобы вновь припугнуть советский народ, заставить нашу страну капитулировать перед американским ультиматумом. Да к какой стране и к какой «цивилизации» он себя относит и чего в конечном счёте добивается? И неужели он не понимает, что наращивание вооружений, к которому он призывает, несёт угрозу не только нашей стране, потерявшей в последней войне 20 миллионов человек, но всем без исключения народам, самой человеческой цивилизации?*

*И здесь мы начинаем думать о Сахарове уже не как об ученом. Что же он за человек, чтобы дойти до такой степени нравственного падения, ненависти к собственной стране и ее народу? В его действиях мы усматриваем также нарушение общечеловеческих норм гуманности и порядочности, обязательных, казалось бы, для каждого цивилизованного человека.*

*Мы знаем, что Сахаров ходит в больших друзьях у тех в Америке, кто хотел бы смести с лица земли нашу страну, социализм. Эти его друзья всё время поднимают шум о «трагической судьбе Сахарова». Не хотим сейчас говорить об этом беспредельном лицемерии. Нет, наше государство, наш народ более чем терпимы по отношению к этому человеку, который спокойно проживает в городе Горьком, откуда и рассылает свои человеконенавистнические творения.*

*Вот что вспомнилось. Ровно тридцать лет назад, в такие же летние дни, в США произошло одно из самых неправедных, постыдных событий XX века. Власти Америки казнили тогда учёных Этель и Юлиуса Розенбергов. Казнили, основываясь на нелепых, гнусных обвинениях. «Улики» сфабриковали секретные службы США. А, между прочим, в отличие от Сахарова, который призывает к ядерному шантажу против собственной страны, фактически к созданию условий для применения против нас первыми ядерного, оружия, Розенберги были не просто невинными людьми, ставшими жертвой безжалостного механизма американского «правосудия». Они еще и выступали за уничтожение смертоносного оружия. И вообще были честными, гуманными людьми.*

*Говорить о честности, когда человек по существу призывает к войне против собственной страны, трудно. Несколько столетий назад Эразм Роттердамский сказал, что лишь немногие, чьё подлое благополучие зависит от народного горя, делают войны.*

*Дело, конечно, не в Эразме Роттердамском. А в том, что и в его времена порядочным, думающим людям ненависть не застилала глаза и они не теряли чести и совести».*

*Академики*

*А.А. ДОРОДНИЦЫН,*
*А.М. ПРОХОРОВ,*
*Г.К. СКРЯБИН,*
*А.Н. ТИХОНОВ.*

А ці маглі акадэмікі адмовіцца падпісаць такі ліст? Або прызнацца, што не яны самі яго напісалі? Для гэтага трэба было мець мужнасць акадэміка Сахарава, а яна – адсутнічае ў асяроддзі тых, хто быў гвалтоўна зацягнуты ў цянёты згодніцтва і канфармізму. Тады, у 1983 годзе, калі ліст чатырох акадэмікаў быў апублікаваны ў «Известиях», Генеральным сакратаром ЦК КПСС быў Юрый Уладзіміравіч Андропаў – экс-старшыня КДБ з 15-гадовым стажам. Непадпарадкаванне магло каштаваць свабоды, а то і жыцця. А за ўратаванне жыцця – свайго і сваіх родных – ці варта асуджаць акадэмікаў?

## Беларускія рэаліі

Не варта асуджаць і вялікіх беларусаў, якія так ці іначай спрычыніліся да падтрымкі сталінскага дзяржаўнага тэрору. Але забываць, утойваць ад людзей іх учынкі, якія з пазіцыі нашых дзён ніяк нельга лічыць прыстойнымі, таксама наўрад ці трэба.

27 студзеня 1937 года ў Маскве пачаўся судовы працэс над 17 вядомымі бальшавікамі з «паралельнага антысавецкага трацкісцкага цэнтра». З іх 13 чалавек былі прыгавораныя да расстрэлу. Астатнія – да працяглых турэмных тэрмінаў. Натуральна, што судовы вырак віталі калектывы працоўных, сялянаў і інтэлігенцыі ўсяго Савецкага Саюза. Сесія Акадэміі навук БССР аднагалосна патрабавала «расстрэлу ўсёй банды фашыстаў». Праз дзень пасля пачатку працэса Янка Купала напісаў, а 3 лютага надрукаваў у газеце «Звязда» верш «Мала іх павесіць». Вось толькі невялікі ўрывак з 80-радковага верша:

*Мала іх павесіць*
*На сухой асіне,*
*Бо нават асіна*
*Ад сябе адкіне.*

*Дзерава адкіне,*
*Дзерава сухое,*

*Сябе не спаганіць*
*Поскуддзю такою...*

*Гандляры айчынай*
*Па чужым заказу...*
*Вынішчыць дашчэнту*
*Гэтую заразу!..*

*Хай пад сонцам знаюць,*
*Чым мы сёння сталі.*
*Мы падставім грудзі*
*За цябе, наш Сталін!*

Беларускія патрыёты, прыхільнікі творчасці Янкі Купалы адзінадушныя ў меркаванні, што паэта прымусілі напісаць такія чалавеканенавісніцкія радкі. Мне ж думаецца, што вялікі паэт быў не проста рамантыкам, як і большасць сапраўдных паэтаў, а рамантыкам, які шчыра верыў у ідэалы камуністычнай утопіі. Ён лічыў абгрунтаванымі высунутыя здраднікам абвінавачванні і з уласцівым яму паэтычным тэмпераментам гнеўна іх асудзіў.

* * *

Страшныя часы, калі дысідэнцтва пагражала высокаадукаваным людзям смерцю, саступілі месца эпосе менш жорсткай але, на жаль, не менш подлай. Дагаджаць уладзе для многіх стала ганебнай звычкай. Звычка гэтая і па сёння не выветрываецца з галоваў шмат якіх беларускіх навукоўцаў і людзей разумовай працы. На свядомасць карыфеяў навукі здольныя ўплываць толькі іх асабістыя ўзрушэнні. Калі ж такіх няма, іх звычка дагадзіць набывае часам гіпертрафаваныя формы.

Беларусы з гледзішча некаторых палітолагаў у СССР былі самым савецкім народам. Сёння асобныя нашыя акадэмікі па ўзроўні вернападданніцтва ўладзе, якая парушае канстытуцыю і законы, апярэдзілі сваіх калегаў на ўсёй постсавецкай прасторы. Некаторыя з іх так і засталіся марксістамі-ленінцамі, хоць іх ідэалагічны прабацька Карл Маркс лічыў запабяганне самай агіднай рысаю.

Пасля перабудовы асобныя вучоныя, у тым ліку і акадэмікі, пайшлі ў палітыку. У большасці выпадкаў – каб унесці новыя ідэі, прапановы, праграмы для ўдасканалення дзяржавы і грамадства, для паляпшэння дабрабыту людзей. У Вярхоўным Савеце 12 і 13 скліканняў былі акадэмікі, прафесары, дактары навук, дацэнты, кандыдаты навук і прыкметныя вучоныя без ступеняў і званняў. Нікому з іх не магу закінуць іншы папрок, акрамя ўжо прыгаданых

вышэй словаў Гі Сармана пра *непадрыхтаванасць да пазітыўнай палітычнай ролі*. Гэты папрок я прымаю і на свой рахунак.

Аднак са знікненнем інфармацыйнай ізаляванасці трэба было чакаць ад інтэлігентаў калі не прасвятлення, то хоць бы крытычнага аналізу сваёй пазіцыі, асэнсавання свайго абавязку перад грамадствам, сваёй палітычнай ролі. На жаль, усё засталося па-старому, сучасныя інтэлігенты застаюцца ў межах ленінскага вызначэння і ідуць служыць невукам, якія дарваліся да ўлады.

Нагадаю, як дэпутат ВС акадэмік Яўген Фёдаравіч Канапля, спрабуючы хоць неяк паўплываць на прыняцце палітычных рашэнняў, развесіў у зале паседжанняў Вярхоўнага Савета мноства плакатаў з табліцамі і графікамі, якія паказвалі, як уздзейнічае Чарнобыльская катастрофа на здароўе грамадзянаў Беларусі. Высакародныя памкненні акадэміка адчувальнага ўплыву на дэпутатаў не займелі. Атрымаўся дыялог глуханямога са сляпым. Прынятыя пазней заканадаўчыя акты базаваліся больш на эмоцыях, чым на навуковых дадзеных. Але ў таго-сяго след у душы застаўся. Каб такі падыход працягваўся сістэматычна – вынік быў бы бяспрэчным.

Мне хочацца прывесці прыклады непадрыхтаванасці інтэлігенцыі творчай і навукова-тэхнічнай да пазітыўнай палітычнай ролі, але пры гэтым яе заўзятага жадання займацца палітыкай. Хоць вучоныя павінны лепш за іншых ведаць, што палітычная дзейнасць абавязвае папярэдне нешта зразумець у паліталогіі. Яны ж, звычайна, набіваюць гузы на ілбах, працуючы метадам спробаў і памылак. Ідучы ва ўладу, яны маюць рацыю, калі лічаць, што іх інтэлектуальны патэнцыял несувымерна вышэй таго прымітывізму, які дэманстравалі ўсяму свету асобныя вышэйшыя кіраўнікі СССР і БССР. Гэта сапраўды так, але ж мы не ведаем палітычнай кваліфікацыі тых, хто кіраваў рэальна, застаючыся ў ценю. Тым не менш, тэлевізійныя трансляцыі з'ездаў народных дэпутатаў СССР і парламентаў рэспублік сяго-таго ўмацавалі ў думцы, што ленінскае выслоўе пра кухарку, якая можа кіраваць дзяржаваю, – ісціна. А калі кухарка можа, то акадэмікі таксама павінны ўмець.

## Спакуса для акадэміка

Не ўцяміў прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук (НАН) акадэмік Аляксандр Паўлавіч Вайтовіч, што насамрэч ўяўляла з сябе зробленая яму ў 2000 годзе прапанова ўзначаліць так званы Савет Рэспублікі. Не зразумеў, што гэта спосаб зрабіць вакантным пасаду прэзідэнта НАН, на якую ён быў абраны па статуце НАН Беларусі патаемным галасаваннем у 1997 годзе. Не задумаўся кіраўнік акадэміі і над тым, які палітычны орган даручаецца

яму ўзначаліць, якое значэнне гэтага органа. Калі б задумаўся і прачытаў канстытуцыю, зацверджаную на нелігітымным рэферэндуме, то зразумеў бы, што орган гэты бутафорскі і служыць толькі для ўхвалення ініцыятываў і дзеянняў прэзідэнта краіны. Паводле Гі Сармана – праявіў непадрыхтаванасць да пазітыўнай палітычнай ролі. Славалюбства затуманіла розум. Нездарма кампетэнтныя псіхолагі сцвярджаюць: адсотак людзей, што здзяйсняюць неразумныя ўчынкі, прыкладна аднолькавы сярод рабочых, сялянаў, прафесараў, дворнікаў, акадэмікаў і г.д.

Прасвятленне, зразумела, настала, але з затрымкай. А да гэтага было вялікае самазахапленне і захапленне ад прызначэнняў на такія ж непатрэбныя пасады ў міждзяржаўных маштабах: акадэмік Вайтовіч стаў старшынёй Міжпарламенцкай Асамблеі ЕўрАзЭС, намеснікам старшыні Міжпарламенцкай Асамблеі СНД (усё – 2001–2002 гг.). Потым зацьменне розуму часткова прайшло, і акадэмік пачаў выказваць незадавальненне і нават дазволіў сабе не згадзіцца з нейкім сцверджаннем прэзідэнта.

Забыўся, няўдзячны, што, дагаджаючы Лукашэнку, стаў акадэмікам НАН Беларусі (1996), лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996), Прэзідэнтам НАН (1997), атрымаў ордэн Францыска Скарыны (1998). Забыўся і быў пакараны: 28 ліпеня 2003 года Лукашэнка адклікаў Вайтовіча з пасады спікера верхняй палаты парламента.

Акадэмік не на жарты абурыўся, перайшоў у апазіцыю і нават заявіў аб нелегітымнасці прэзідэнта. Не пакаяўся, праўда, за тое, што нямала напаскудзіў, каб дагадзіць усё ж таму нелегітымнаму прэзідэнту. І ў мяне прабачэння не папрасіў за тое, што дзеля дэманстрацыі сваёй адданасці Лукашэнку ў 1998 годзе сваім асабістым рашэннем, заявіўшы прэзідыуму НАН, што я з гэтым згодзен, пазбавіў мяне – члена-карэспандэнта НАН – акадэмічных выплатаў. Зрабіў усё гэткім жа непрыстойным чынам, як і Лукашэнка, які пазбавіў мяне пенсіі. У сапраўднасці ж, калі Вайтовіч патэлефанаваў мне і пачаў размову аб фінансавых цяжкасцях акадэміі, я адказаў, што не ў стане супрацьдзейнічаць яго моцнаму жаданню дагадзіць правадыру.

Дзеянні Лукашэнкі адносна мяне можна растлумачыць: ён помсціць за тое, што я абсалютна абгрунтавана ніколі не ўспрымаў яго як прыстойнага або інтэлігентнага чалавека. А вось матывацыя Вайтовіча была чыста акадэмічная: *Шушкевіч адышоў ад навукі*. Сам жа ён адышоў ад навукі як чысты адміністратар значна далей, ва ўсялякім выпадку, нікому ў галаву не прыйшло запрасіць яго як вучонага з лекцыяй у які-небудзь прыстойны ўніверсітэт, як запрашалі мяне ў расійскія, украінскія, Варшаўскі, Ягелонскі, Уроцлаўскі, Ельскі, Калумбійскі і нават Гарвардскі. Затое ў

лапідарнай палітычнай творчасці акадэмік Вайтовіч дасягнуў поспеху. Апублікаваў некалькі вялікіх артыкулаў у апазіцыйных газетах, назваў кіроўны рэжым дыктатурай, чаго не заўважаў, знаходзячыся на пасадах спікера верхняй палаты і прэзідэнта НАН.

Лукашэнка 20 чэрвеня 2004 года зрэагаваў на выступы Вайтовіча па-калгаснаму: *«Праблема ў тым, што гэтыя ўсе былыя плюс пенсіянеры, якія вельмі паспяхова гадамі сядзелі каля кармушкі Лукашэнкі, – Вайтовічы, Краўчанкі, Казуліны і іншыя – яны ж рохкалі каля тае кармушкі, узмацнелі, сталі на ногі, пракраліся або занялі проста здрадніцкую пазіцыю»*.

Усе, каго Лукашэнка па-хамску аблаяў, не палічылі вартым уступіць з ім у дыскусію, лічачы, што гэта будзе зневажальным для іх чалавечай годнасці. Вайтовіч жа гэтага не зразумеў і 8 верасня 2004 года адказаў Лукашэнку:

*«Адносна Вашых зневажальных і хлуслівых заяваў на мой адрас адкажу коратка: не, не і не. Не «рохкаў ля кармушкі Лукашэнкі» і не карыстаўся ёю, «узмацнеў і стаў на ногі» без Вашай дапамогі (яшчэ ў той час, калі Вас за межамі арганізацый, дзе Вы працавалі, ніхто не ведаў), не «краў», не «займаў здрадніцкай пазіцыі», не «ішоў у апазіцыю», не ўчыняў «глупства за глупствам». За ўсе грошы, якія я атрымліваў, працуючы ў акадэміі і ў Савеце Рэспублікі, распісваўся, так што лёгка падлічыць, колькі меў гэтых грошай; у акадэміі атрымліваў больш, чым у Савеце Рэспублікі!»*.

Заўважце, усе звароты да паклёпніка – у другой асобе і з вялікай літары.

Далей адбываліся падзеі, якія няпроста зразумець. Вайтовіч паспрабаваў удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2006 года. Не пацягнуў. Сышоў з дыстанцыі, назваўшы смешную прычыну: «каб не падыгрываць Лукашэнку». Далей – параіў прэм'ер-міністру Сідорскаму прыняць на сябе паўнамоцтвы прэзідэнта «з прычыны нелегітымнасці Аляксандра Лукашэнкі». Не перастаў важнічаць. Аб'явіў сябе лідэрам Міжнароднага грамадскага руху «Супрацоўніцтва і прагрэс» (студзень 2007 г.), праз месяц – старшынёю грамадскага аб'яднання «Прававая ініцыятыва». Потым сцішыўся, паслухаўшы парады не дражніць нелегітымнага, бо той можа даць адпаведную каманду. Падобныя каманды сам Вайтовіч у свой час дагодліва выконваў у адносінах да іншых: пазбавіць права працаваць у навуцы і атрымліваць акадэмічныя.

## Іншы акадэмічны шлях

Іншым шляхам пайшоў другі акадэмік. Яму было лягчэй, бо ён быў сапраўды таленавітым. Тое, што давалася Вайтовічу ў навуцы праз працяглую ўседлівасць і карпатлівую працу, ён хапаў

хутка: заўсёды быў выдатнікам, нават ленінскім стыпендыятам, бліскуча скончыў універсітэт, атрымаў чырвоны дыплом і ў далейшым дасягнуў вялікіх вышыняў у навуковай працы. Стаў доктарам, прафесарам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР, акадэмікам. Падрыхтаваў больш за 20 кандыдатаў навук, некаторыя з іх пазней сталі дактарамі.

А ў сэнсе лістатворчасці... Калі працавітаму акадэміку Аляксандру Вайтовічу для выказвання свайго погляду патрэбная, як мінімум, газетная паласа, то экстравагантнаму акадэміку Анатолю Рубінаву для дасягнення вызначанай мэты неабходная няпоўная старонка. Вось узор яго лапідарнага стылю:

*«Уважаемый Александр Григорьевич!*

*От души поздравляю с Вашей великолепной победой! С победой всего нашего народа! Это был важнейший и решающий момент для всех нас, для всей нашей страны! Это было то, что называется «момент истины», оценивающий прошлое и определяющий будущее. Блестящие результаты референдума убедительно показали, что наш народ в своем подавляющем большинстве поддерживает Ваш курс, Ваши идеи, Ваши непрестанные усилия по налаживанию всех сторон жизни нашего общества. Если страна продолжит этот курс еще лет пятнадцать, то можно быть спокойным за ее будущее – наше общество и наше государство окрепнут экономически и политически настолько, что станут менее зависимы от личности руководителя. И пусть тогда Президент страны сменяется каждые пять лет – это уже не сможет сбить страну с установившегося пути развития. Но ближайшие пятнадцать лет смена руководителя была бы чрезвычайно опасной и рискованной для будущего нашего государства. И хотя все мы понимаем, что для Вас это неимоверная нагрузка – и психологическая, и интеллектуальная, и чисто физическая, но таков выбор истории, такова уж Ваша судьба от рождения...*

*Победа на референдуме вдохновила всех Ваших сторонников, всех, кто честно работает на благо нашей Беларуси. Желаю Вам, Александр Григорьевич, на долгие годы сохранить присущую Вам неисчерпаемую энергию, мудрость и страстное желание привести наш народ и нашу страну к счастью и процветанию.*

*Председатель ВАК А. Рубинов».*

Які ліслівец!

І ўсё гэта пры поўным разуменні, што адрасат груба парушыў Канстытуцыю, растаптаў дэмакратыю, мае дачыненне да знікнення вядомых палітыкаў!

А дзеля чаго?

Дзеля дробнай асабістай выгоды, дзеля набліжэння да ўлады, што, бясспрэчна, павінна адбіцца на асабістым дастатку і дабрабыце. Рубінаў цалкам падпадае пад ленінскае вызначэнне інтэлігента. Чалавек разумовай працы, але, на жаль, не чалавек высокай унутранай культуры.

З аўтарам працытаванага вышэй ліста лёс звёў мяне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў 1955 годзе, калі я быў на апошнім, а ён на першым курсе фізічнага факультэта.

Мы з аднакурснікам Уладзімірам Казушчыкам з першых студэнцкіх дзён гралі ў аркестры народных інструментаў універсітэта на чатырохструнных домрах. Па мерках нашага аркестра мы з Валодзем былі някепскімі музыкамі. Ва ўсялякім разе, кіраўнікі аркестра – сапраўдныя прафесіяналы Георгій Іванавіч Жыхараў і Міхаіл Аркадзьевіч Лісіцын – не толькі не мелі да нас прэтэнзій, але нават хвалілі.

І вось прыходзіць новенькі. Валодзя і я адразу зразумелі: ён грае лепш за нас. Простыя творы грае з ліста. Мудры Міхаіл Аркадзьевіч адразу ж ставіць нам яго ў прыклад. Вось, маўляў, чаго дасягаюць стараннем і працавітасцю. Я са свайго боку цешуся, бо магу цяпер прыпыніць бесперспектыўныя, па маім перакананні, намаганні засвоіць канцэрт Будашкіна для домры з аркестрам народных інструментаў. Лісіцын прымушаў мяне гэты канцэрт развучваць, на маю думку, для таго, каб задаволіць маё славалюбства; казаў, што я магу гэта зрабіць, трэба толькі кожны дзень працаваць. Але я лічыў, што не развучу гэты вельмі сур'ёзны твор. Цяпер жа, натуральна, канцэрт Будашкіна павінен быў стаць задачаю для новенькага, у якога, у адрозненне ад мяне, самавучкі, – за плячыма музычная школа, а ў наяўнасці – лепшая тэхніка ігры.

Шмат гадоў я быў сведкам навуковых дасягненняў Анатоля Рубінава, аж да абрання яго ў 1991 годзе акадэмікам. Нашыя каляровыя фотаздымкі як паспяховых выканаўцаў задачаў, пастаўленых XXVI з'ездам КПСС, аказаліся ў 1986 годзе на суседніх старонках кніжкі «Ритмы созидания». У той час кожны здымак у такой кніжцы і подпіс пад ім павінны былі ўзгадняцца з ЦК КПБ. Пад здымкам Рубінава яго прозвішча чамусьці не называлася, а ўся пахвальба была на адрас установкі «Гном-2», каля якой ён быў сфатаграфаваны. Подпіс пад другім здымкам ухваляў нашу кафедру, майго намесніка Яўгена Фурсу і мяне.

Потым Рубінава пацягнула ў палітыку. Улетку 1992 года тэлефануе мой дарадца акадэмік Анатоль Міхайлаў і пытаецца, ці можа ён зайсці да мяне ў кабінет Старшыні Вярхоўнага Савета разам з акадэмікам Рубінавым.

Я з задавальненнем іх прыняў – акадэмікаў, сапраўдных (па маім тагачасным перакананні) вучоных, вядомых не толькі ў Беларусі.

Гаварылі пра цяжкасці Акадэміі навук, навуковых устаноў і ВНУ краіны, абмяркоўвалі магчымыя шляхі пераадолення цяжкасцяў. Потым ці то жартам, ці то сур'ёзна завялі гутарку аб тым, як добра, калі фізікі і наогул прыродазнаўцы трапляюць у палітыку. Узгадалі акадэміка Сахарава. Але мэты візіту я не ўцяміў да таго часу, пакуль Міхайлаў не параіў мне знайсці для Рубінава, калі я сапраўды яго высока цаню і паважаю, нейкую высокую дзяржаўную пасаду.

Анатоль Мікалаевіч не адмаўляўся. Паведаміў, які ён гарачы патрыёт Беларусі, прыхільнік дэмакратыі, рынкавай эканомікі, правоў чалавека, свабоды слова, веравызнання і г.д. Для мяне было поўнай нечаканасцю яго жаданне развітацца з навукай. Без лішняга пафасу магу сказаць, што Рубінава я лічыў гонарам беларускай навукі, імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб такія вучоныя не пакідалі навуку з-за цяжкасцяў пераходнага перыяду.

Не тоячы здзіўлення, я разгаварыўся. Расказаў Рубінаву пра тое, аб чым стрымліваўся гаварыць адкрыта з кім-небудзь, акрамя родных і самых блізкіх сяброў, аб тым, як я, дзякуючы жартаўлівасці сваіх сяброў, выпадкова трапіў у палітыку.

– Зваротнай дарогі, Анатоль Мікалаевіч, няма, – патлумачыў я суразмоўцу, – палічаць здраднікам.

Шчыра жадаючы акадэміку дабра, прапанаваў, калі ён не супраць, пагаварыць аб жыцці і абмеркаваць узнятае ім пытанне ў іншых абставінах. Ён згадзіўся, прапанаваў сустрэцца ў яго дома.

Там гаспадар праявіў сябе выдатным кулінарам і ні словам не абмовіўся пра сваё жаданне атрымаць высокую дзяржаўную пасаду. Прызнаюся, я ізноў усцешыўся. Захавае ўсё ж для навукі светлую галаву!





*1986 год. Фотаздымкі з кнігі «Ритмы созидания»*

Пасля гэтага мы практычна не сустракаліся, нават на сесіях Нацыянальнай Акадэміі навук, на якія я проста перастаў хадзіць, калі вучоных пазбавілі права не толькі абіраць кіраўніка акадэміі, але і называць яго прэзідэнтам.

У 2002 годзе Рубінаў быў прызначаны на пасаду старшыні Вышэйшай атэстацыйнай камісіі (ВАК). Я палічыў, што такую пасаду ён, як сапраўдны вучоны, мае права займаць, і што яго прызначэнне будзе садзейнічаць належнай ацэнцы прэтэндэнтаў на вучоныя ступені і званні ў Беларусі. Неўзабаве пасля гэтага я ехаў за рулём аўто і затармазіў перад светлафорам на скрыжаванні вуліцаў Багдановіча і Кісялёва. Убачыў Рубінава ў службовай машыне побач з кіроўцам – таксама каля адчыненага вакна. Павітаўся і павіншаваў з прызначэннем. Гэтая сустрэча была апошняй, ва ўсялякім выпадку, з тых, калі мне было прыемна яго бачыць.

Далейшыя падзеі пацвердзілі, што я зноў памыліўся ў чалавеку. Па-першае, з'явіўся свайго роду эталон ліслівасці – прыведзены вышэй ліст. Па-другое, сталі вядомымі факты незацверджання дысертацый па палітычных матывах. Каб дагадзіць правіцелю і іншым антыбеларусам, Рубінаў, у прыватнасці, «зарубіў» доктарскую дысертацыю старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алеся Пашкевіча, якая была паспяхова абароненая ў БДУ на самым кампетэнтным у Беларусі Вучоным савеце па філалогіі. Ёсць і іншыя пераканальныя прыклады ненавуковага падыходу Рубінава да справаў навукі на пасадзе старшыні ВАК.

Далей – болей. Рубінаў пачаў распрацоўваць антыбеларускую, антыдэмакратычную дзяржаўную ідэалогію, хоць, згодна з Канстытуцыяй, ідэалогіі, абавязковай для грамадзянаў, у Беларусі не павінна быць. І калі міністраў і вышэйшых чыноўнікаў-сілавікоў прынята сёння называць цэрберамі кіроўнага рэжыму, то Анатоль Мікалаевіч цалкам заслугоўвае таго ж звання ў галіне ідэалогіі.

На пытанне, чаму раней я так высока цаніў Рубінава ва ўсіх адносінах, адказваю, што вельмі дрэнна яго ведаў і ўспрымаў такім, якім ён лоўка прыкідваўся. Прыкладам, я не бачыў яго непамернага славалюбства. А Рубінаву захацелася стаць яшчэ і паэтам: ён надрукаваў кніжку таго, што лічыць вершамі. А ці ёсьць гэта прыгожым пісьменствам – мяркуйце самі:

*Ох, народ ты наш, народ,*
*Ох, народище!*
*Из полтысячи пород –*
*Одна породища!*

*Наш один – за ихних двух,*
*Только дай борща...*

*И раз в двадцать крепче дух*
*Из туалетища!*

Калі б не газета «Народная воля» ад 20 верасня 2011 года, то прапусціў бы адну немалаважную дэталь. У час фінансавага крызісу ў краіне, калі часта падвышаюцца цэны, а беларускі рубель абясцэньваецца ў адносінах да трывалых валютаў, кіраўнік верхняй палаты так званага парламента Рубінаў у крамы не ходзіць, грошай не лічыць і не ведае, колькі іх у яго. Так, прынамсі, ён заявіў карэспандэнту. Ленін аб такіх казаў: страшэнна далёкія яны ад народа. Акадэміку можна прабачыць, палітыку – не.

## «Універсітэцкі» варыянт

У 2001 годзе мой родны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт адзначаў сваё 80-годдзе. Я, натуральна, быў у той час у апазіцыі да кіроўнага рэжыму і вельмі здзівіўся, атрымаўшы запрашэнне на юбілейнае паседжанне ў лепшую залу Мінска – Тэатр оперы і балета. Запрашэнне было размашыста падпісана рэктарам прафесарам А.У. Казуліным.

На паседжанне я вырашыў не ісці, хоць вельмі хацелася сустрэцца з даўнімі сябрамі і знаёмымі. Вырашыў не ісці, бо ведаў А. Казуліна гадоў дваццаць: спачатку як сакратара камітэта камсамола ўніверсітэта, а потым як выкладчыка і сакратара партбюро факультэта прыкладной матэматыкі. Я вельмі добра да яго ставіўся, калі сам працаваў ва ўніверсітэце, але пазней мае адносіны змяніліся. Я лічыў, што Казулін уцёрся ў давер да Лукашэнкі і, не маючы ні навуковых, ні педагагічных заслугаў, стаў рэктарам універсітэта. Як педагог і вучоны ён, на мой погляд, не ішоў ні ў якое параўнанне са сваімі папярэднікамі: К.І. Лукашовым, А.Н. Сеўчанкам, У.М. Сікорскім, У.А. Белым, Л.І. Кісялеўскім, Ф.М. Капуцкім. Не імпанавала мне і тое, што Казулін вельмі дрэнна валодаў беларускай мовай. Менавіта па гэтай прычыне Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета 12 склікання, узначаленая паэтам Нілам Гілевічам, адмовілася падтрымаць яго прызначэнне на пасаду міністра адукацыі. Але для Лукашэнкі няведанне беларускай мовы было фактарам станоўчым, і ён указам ад 28 жніўня 1996 года прызначыў Аляксандра Уладзіслававіча рэктарам БДУ.

Шмат якія мае ўніверсітэцкія калегі, пераважна фізікі і матэматыкі, якія ведалі, што мне было дасланае запрашэнне на юбілейную ўрачыстасць, на другі дзень далі мне зразумець, што я дзейнічаў правільна. Нагаварылі шмат прыемнага. Маўляў, я па-ранейшаму адчуваю фальш, не трапляю ў расстаўленыя ў

пасткі. Каб я там быў, Казулін мог бы сказаць, што ўсе – і ўлада, і апазіцыя – яго вельмі любяць, а для калектыву ўніверсітэта гэта вельмі станоўчая характарыстыка.

Хай рэктар здаволіцца тым, што ахмурыў мітрапаліта Філарэта, які прыйшоў на юбілей і незнарок зрабіў яго праваслаўным, назваўшы ў сваім выступе Аляксандрам Уладзіміравічам, а не Уладзіслававічам. Бо, што тут казаць, ад такога імя па бацьку каталіцызмам папахвае. Хай цешыцца тым, што сам рэктар Маскоўскага ўніверсітэта быў на ўрачыстасці, і што яго, Казуліна, сяброўства і старшынёўства ў самаабвешчаных акадэміях і таварыствах вымяраецца ўжо лічбай, сувымернай з колькасцю ўзнагародаў у Брэжнева.

– Ты ж ведаеш, – гаварыў адзін з маіх знаёмых, – Казулін сам лекцый па-ранейшаму не чытае і заняткаў са студэнтамі не праводзіць, але паглядзі, як апісвае яго наша шматтыражка: *«Внёс существенный вклад в становление системы образования независимого белорусского государства, был инициатором её реформирования и перевода на инновационный путь развития. Один из авторов закона «Об образовании» Республики Беларусь. Никогда не прерывал научной работы, защитил докторскую диссертацию по новым образовательным технологиям»*. Але ўсім добра вядома, што ў матэматыцы Казулін на доктара не цягнуў. Таму ён і дагаджаў Лукашэнку, бо той зрабіў яго і доктарам, і прафесарам педагагічных навук – і ўсё гэта без манаграфій і сур'ёзных навуковых публікацый. Ды і наогул ён застаецца пазёрам, працуе толькі на сябе, а ўніверсітэт занядбаны. Над прапановай зрабіць БДУ нацыянальным беларускім універсітэтам адкрыта насміхаецца. Выслужваецца, адлічваючы прыстойных студэнтаў па палітычных матывах. І абранне сваё на аб'яднаным Савеце ў мінулым годзе наладзіў толькі дзеля таго, каб паказаць, што ён не прызначэнец Лукашэнкі, а абраны Саветам рэктар, якога ўсе любяць і паважаюць. Павер, гэта яму не даруецца, бо Лука папулярных душыць. Папулярным мае права быць толькі сам Лука. Мясніковіч у Акадэміі навук такі самы «вучоны», як і Казулін, але хітрэйшы, і не збірае навуковы савет дзеля свайго абрання, хоць надзелены дзеля гэтага ўсімі паўнамоцтвамі.

Спачатку мне здавалася, што мой сябар крыху перагінае, маючы за душой, відаць, нейкую асабістую крыўду на рэктара. Паспрабаваў запярэчыць, але пераканаўся, што так думаюць усе без вынятку мае даўнія знаёмыя-універсітэтчыкі.

Дык што ж адбывалася з Казуліным да і пасля юбілею?

Акрылены фантастычна высокім кар'ерным узлётам, Аляксандр Уладзіслававіч вырашыў не проста замацавацца на дасягнутым узроўні, аісці далей. Ён захварэў той жа хваробай, што і, як іх

тады называлі, «маладыя ваўкі» ў Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га склікання – Дзмітрый Булахаў, Віктар Ганчар, Генадзь Карпенка, Анатоль Лябедзька і Леанід Сініцын. Кожны з іх лічыў, што мае права прэтэндаваць на значна большае, чым тое, чаго ўжо дасягнуў.

У пачатку новага тысячагоддзя Аляксандр Казулін адчуў, што можа быць падтрыманы тымі маскоўскімі інтэлектуаламі, да меркавання якіх прыслухоўваецца расійская ўлада. Ён пачаў бессаромна піярыцца, забыўшыся, што ў прыдворным статку нельга падымаць галаву вышэй за астатніх набліжаных да «ўсенародна абранага».

Аляксандр Уладзіслававіч становіцца акадэмікам Акадэміі адукацыі Рэспублікі Беларусь (аказваецца, ёсць і такая!), акадэмікам Міжнароднай Акадэміі вышэйшай школы (і такая ёсць), віцэ-прэзідэнтам Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў, старшынёй Таварыства «Беларусь–Аўстрыя», старшынёй Савета рэктараў ВНУ Беларусі. Застаючыся рэктарам БДУ, становіцца міністрам, уваходзіць у прэзідыум Нацыянальнай Акадэміі навук, дамагаецца тытула ганаровага прафесара Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М.В. Ламаносава.

Адзін з вядомых расійскіх інтэлектуалаў, старшыня Савета па знешняй і абароннай палітыцы Расіі (расійская абрэвіатура – СВОП) Сяргей Аляксандравіч Караганаў сказаў мне ў прыватнай гутарцы пасля сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай дэмакратычнай апазіцыі ў Маскве:

– У вас у Беларусі вымалёўваецца цікавая сітуацыя. На змену самабытнаму і часам неадэкватнаму лідэру можа прыйсці сапраўды высокаадукаваны лідэр.

На маё пытанне, хто ён, гэты лідэр, прамога адказу не было. Але даволі хутка я зразумеў, што адказаць павінен быў я сам: Казулін. Уплывовыя чальцы СВОП растлумачылі мне гэта прамым тэкстам. Аказваецца, Казулін даўно з імі ў кантакце, добра сябе падаў, і яго тут цэняць.

Паспяховае раскручванне Казуліна ў расійскіх прыўладных колах не магло застацца незаўважаным. А падставу для прэвентыўнага і рашучага стрымання патэнцыйнага канкурэнта, хай сабе і падтрыманага з расійскага боку, знайсці няцяжка. Яе знайшлі неадкладна. 17 лістапада 2003 года ўказам прэзідэнта Казулін быў вызвалены ад пасады рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў сувязі са скандалам вакол унітарнага прадпрыемства «Унидрагмет БДУ».

### У ролі нявінна пацярпелага

Такім чынам Аляксандр Уладзіслававіч займеў над галавой німб рэпрэсаванага і пацярпелага за добрыя справы. Як таленавіты

менеджэр ён добра разумеў, што ў новых умовах і ў новай якасці губляць яму ўжо няма чаго. «Усенародна абраны» ніколі яго больш не палюбіць, таму ёсць толькі адзін шлях застацца навідавоку – дамагчыся лідэрства ў апазіцыі.

Дарэчы, тут кляймо рэпрэсаванага патрэбнае, як нідзе. Яно як бы пацвярджае, што ім адзначаны даўно змагаецца за дэмакратыю, правы чалавека і дзяржаўную незалежнасць Беларусі. З другога боку, лепш быць першым у Егіпце, чым другім у Рыме. Акрамя таго, апазіцыі абяцаюць падтрымку і Усход, і Захад, калі яна аб'яднаецца. Яна ж займаецца непатрэбшчынай. Выпрацоўвае прынцыпы, рэгламент, парадак справядлівага аб'яднання і г.д.

Не распыляючыся на дробязі, Казулін абвяшчае сябе самым галоўным аб'яднальнікам усіх сацыял-дэмакратаў, збірае сімпатызуючых яму прадстаўнікоў ад усіх дзейных сацыял-дэмакратычных партый, называе гэтае зборышча аб'яднальным з'ездам сацыял-дэмакратаў і 10 красавіка 2005 года абіраецца на ім старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Пасля гэтага «пашырае» аб'яднанне і ў тым жа годзе абвяшчае сябе заснавальнікам і каардынатарам грамадзянскай ініцыятывы агульнанацыянальнага руху «Воля народу», хоць да гэтага часу ніхто так і не ведае, што гэта быў за рух, і хто ў яго ўваходзіў.

У гэтым жа годзе праз дастаткова празрыстыя дэмакратычныя працэдуры на выніковым Кангрэсе дэмакратычных сілаў павінна было адбыцца абранне лідэра аб'яднаных дэмакратычных сілаў (АДС), які пасля афіцыйнага абвяшчэння выбараў аўтаматычна рабіўся кандыдатам у прэзідэнты ад АДС.

Перадкангрэсавая кампанія па вылучэнні кандыдатаў на ролю лідэра аб'яднанай апазіцыі і дэлегатаў магла непажаданым для дыктатуры чынам ускалыхнуць Беларусь. Улады ўсіх узроўняў са скуры лезлі, перашкаджаючы правядзенню выбарчых сходаў. Памяшканні для сходаў нельга было здабыць ні за якія грошы. Калі ж забарону ўдавалася пераадолець, прыязджаў нарад міліцыі і патрабаваў неадкладна вызваліць залу, бо «паступіў сігнал» наконт міны... У Светлагорску, Віцебску і іншых месцах сходы ў прыватных памяшканнях забаранялі на аснове «заявы суседзяў» аб верагоднай бойцы. Падсылаліся правакатары з абсалютна апушчаных людзей, якія ў непрабудна п'яным стане сапраўды спрабавалі такія бойкі ініцыяваць. Даводзілася дзівіцца, як «доблесная міліцыя» можа выкарыстоўваць у якасці сваіх пасланцоў такі зброд. У Маладзечне ў памяшканні, дзе знаходзіліся офісы партый, была абвешчаная тэрміновая вучэбная трывога, і бравыя брандмайстры то разматвалі, то змотвалі даўжэзныя шлангі.

Нягледзячы на ўсе перашкоды, Кангрэс сабраўся. Па выніках рэгіянальных сходаў выбіраць кандыдата ў прэзідэнты трэба

было з чацвёркі: С.І. Калякін, А.У. Лябедзька, А.У. Мілінкевіч і С.С. Шушкевіч. Я адразу ж зняў сваю кандыдатуру, бо прыязджаў на рэгіянальныя сходы толькі для таго, каб прыцягнуць да іх як мага больш увагі і выканаць рашэнне Цэнтральнай Рады маёй партыі – Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ). Рада палічыла нелагічным займацца выбарамі і не вылучаць сябра партыі для ўдзелу ў выбарчай кампаніі. Менавіта гэты фактар і абумовіў маё вылучэнне ад партыі. На Кангрэсе, апярэдзіўшы ў другім туры Анатоля Лябедзьку на 8 галасоў, перамогу атрымаў Аляксандр Мілінкевіч. Пасля паспяхова праведзенай кампаніі па зборы подпісаў ён і стаў кандыдатам у прэзідэнты ад АДС.

Аднак аб'яднаныя дэмакратычныя сілы раскалоў Аляксандр Казулін: у снежні 2005 года ён таксама сабраў неабходную колькасць подпісаў і быў зарэгістраваны кандыдатам у прэзідэнты. Пры маім насцярожана-адмоўным стаўленні ў той час да Казуліна я вымушаны быў прызнаць, што яго выступ па тэлебачанні быў у шмат разоў больш уражлівым, змястоўным і лагічным, чым выступ Мілінкевіча. У выбарчай кампаніі і пасля яе ён праявіў зайздросныя змагарскія якасці. Дапускаю, што Лукашэнка стаў па-сапраўднаму баяцца Казуліна ў статусе апазіцыянера. І яму не каштавала асаблівых намаганняў схаваць суперніка ў турму. За актыўнае выкрыццё паўсюдных фальсіфікацый пры падліку галасоў сатрапы правадыра вынеслі Казуліну адпаведны прысуд – пяць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

## Перманентны лідэр

У адрозненне ад Казуліна Мілінкевіч фактычна і пальцам не паварушыў, каб выкрыць татальную фальсіфікацыю вынікаў галасавання на выбарах 2006 года, але палічыў сябе лідэрам апазіцыі на ўсе часы. Тым больш, што Казулін сеў у турму.

Пасля прэзідэнцкай кампаніі 2006 года Мілінкевіч ездзіў па Еўропе і не пярэчыў, калі менавіта яго ўспрымалі як лідэра, атрымліваў кампліменты і буйныя грашовыя прэміі. Наіўныя еўрапейцы атаясамлялі яго з тымі змагарамі за правы чалавека і за дэмакратыю, якіх у Беларусі разганяюць, саджаюць, збіваюць, штрафуюць, пазбаўляюць працы і пенсій.

Усведамляючы, што палітыка Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі пацярпела правал, Мілінкевіч не пераставаў нахвальваць мудрых кіраўнікоў ЕЗ, якія вырашылі палітыку бізуна змяніць на палітыку перніка. Ён нястомна выказваў салідарнасць з Бенітай Ферэра Вальднер і Хаўерам Саланай, калі тыя забыліся пра свае чатыры патрабаванні да дыктатара, сфармуляваныя ў 1999 годзе на саміце АБСЕ ў Стамбуле, і пра дэталізацыю іх да 12 ўмоваў

у 2006 годзе. Нават Лукашэнка расчуліўся, даведаўшыся пра мілінкевічаўскую трактоўку сітуацыі ў Беларусі і аб яго рэкамендацыях апазіцыі і Захаду. Неяк нават падзякаваў Аляксандру Уладзіміравічу Мілінкевічу, назваўшы яго «канструктыўным апазіцыянерам».

А трактоўка гэтая простая, як граблі, але толькі для наіўных, не ўнікаючых у сутнасць праблемы абываталяў. Грунтуецца яна на лозунгу: «Усе войны заканчваюцца перамовамі і мірам, таму я за дыялог». Забыўся прыгрэты замежжам палітык свежай выпечкі, што войны заканчваюцца і безумоўнай капітуляцыяй.

Былы адзіны кандыдат у прэзідэнты ад аб'яднаных дэмакратаў на выбарах 2006 года так і не знайшоў у сабе смеласці стварыць сваю партыю або ўступіць у іншую і стаць на шлях адкрытай палітычнай барацьбы з дыктатарскім рэжымам. Спакайней быць у няўрадавай арганізацыі, непартыйнай, якая не мае палітычных мэтаў. І ўладзе яна не перашкода, і замежную фінансавую дапамогу законна атрымліваць можа, і мець смелую назву «За свабоду» ніхто не забараняе.

Пераважна на сваім сайце, паколькі іншыя СМІ яго раскусілі і не вельмі шанавалі, Мілінкевіч стаў выдаваць сябе за гэткага аналітыка-міратворца, палітолага, здольнага зрабіць найглыбейшы аналіз дасягненняў і правалаў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2006 года, калі ён быў афіцыйным лідэрам аб'яднаных дэмакратычных сілаў і калі, дзякуючы менавіта яго лідэрству, усё рабілася правільна. Выказаў глыбокую крыўду з нагоды таго, што апазіцыя не хоча аб'ядноўвацца, зразумела, пад яго лідэрствам. Напалоханы падзеямі 19 снежня 2010 года, спачатку ўвайшоў у Раду аб'яднаных дэмакратычных сілаў (студзень 2011 года). Неўзабаве ўбачыў, што магчымае аб'яднанне не пад яго кіраўніцтвам, хуценька з Рады выйшаў, звінаваціўшы ўсіх астатніх у нежаданні трывала аб'ядноўвацца.

Ён вельмі задаволены сабой і ўпэўнены, што заваяваў сваёй бездакорнай дзейнасцю права павучаць усіх беларусаў, як Ленін бальшавікоў. Прывяду ў пацверджанне гэтых словаў цытаты з артыкулаў Мілінкевіча.

*«Ці можа сёння дэмакратычная апазіцыя захапіць палітычную ініцыятыву і пакласці канец рэжыму, заняпад якога бачны нават школьнікам?*

*Не, пакуль не можа. Але яна здольная гэта зрабіць пры ўмове, што выпрацуе прывабнае, зразумелае і пераканальнае для большасці беларусаў бачанне краіны і будзе па-сапраўднаму народнай».*

Ну, чым не Ленін? І далей.

*«Сённяшні стан апазіцыі можна вызначыць як ашаломленасць, пахмелле пасля эйфарыі ды ілюзій і пэўную дэзарыентацыю. Прычына*

*гэтага – далёка не лепшыя паводзіны саманадзейных лідэраў, якія па розных прычынах своеасабліва паводзілі сябе падчас выпрабаванняў. Па-чалавечы, гуманістычна, можна і трэба іх зразумець, даравацьім, але палітычная планка заўсёды павінна быць высокай – гэта ў інтарэсах нашага народа і будучыні краіны. Таму што прыніжаная планка вядзе да дэградацыі і ўседадазволу. А ў палітыцы трэба навучыцца адказваць за свае заявы, дзеянні, саюзы і сродкі, якія атрымліваеш, асабліва, калі яны з «невядомых» крыніцаў і іх задача – наняць палітычных шабашнікаў на сумнеўныя эгаістычныя або небеларускія мэты».*

На Леніна Мілінкевіч тут ужо не падобны, хутчэй – на Кісу Вераб'янінава, інструктаванага Астапам Бэндэрам. Таму не буду стамляць чытача празмерным цытаваннем палітычных трактатаў, сэнс якіх зводзіцца да таго, што выбарчая кампанія 2006 года і яе лідэр Мілінкевіч былі лепшымі, чым усе разам узятыя кандыдаты ў прэзідэнты ў кампаніі 2010 года.

Дужа жадаючы заставацца галоўным лідэрам апазіцыі для замежжа, Мілінкевіч па-ранейшаму арыгінальнічае. У самой Беларусі ён, фактычна, перашкаджае надзейнаму аб'яднанню ўсёй дэмакратычнай апазіцыі па той простай прычыне, што лічыць сябе самым лепшым яе лідэрам за ўсе часы.

Але як глядзіцца за мяжой!

## «Маладыя ваўкі» і генерал міліцыі

Ёсць нямала супярэчлівых меркаванняў адносна мінулага і будучыні. Два найбольш распаўсюджаныя: хто старое згадае, таго ліха шукае; новае – гэта добра забытае старое. Другое, на маю думку, дазваляе вучыцца на памылках мінулага і не паўтараць іх.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12 склікання лічылі сябе вельмі разумнымі літаральна ад самага першага паседжання, калі старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі, старшыня Камітэта народнага кантролю БССР Міхаіл Лагір так і не змог правесці першае «арганізацыйнае» паседжанне парламента. Дэпутаты-філолагі адразу ўспомнілі, што старажытнае рускае слова «лагир» азначае сякера.

– Гэта ж трэба, была яго воля – сякерай сек, а калі галава спатрэбілася – хвост падціснуў. І такія неразумныя дзеячы займалі высокія пасады! Мы ім пакажам!

Так у спрошчаным выглядзе ўспрынялі першае паседжанне многія дэпутаты. Але хутка пераканаліся, што «паказаць» не так проста. Абралі старшынёй ВС БССР Мікалая Іванавіча Дзямянцея, які няшмат чым ад Лагіра адрозніваўся.

Трэба адзначыць, што група дэпутатаў ад Беларускага Народнага Фронту (БНФ) з захапленнем працавала на карысць

Беларусі. Зразумела, кіруючыся сваім разуменнем, што для краіны з'яўляецца дабром. Група мела аўтарытэтнага высокаадукаванага лідэра – Зянона Пазняка і безумоўна яму падпарадкоўвалася. Ніхто з дэпутатаў ад БНФ не рабіў заяваў, не ўзгодненых з Пазняком. Ён быў бясспрэчным для дэпутатаў ад БНФ аўтарытэтам ва ўсіх адносінах: палітычных, нацыянальных, навуковых, адукацыйных, маральных. Аднак у яго не было досведу працы з людзьмі, і гэта заўважалася. Ягоная непахіснасць не заўсёды была дарэчнай, а ганарыстасць – нават шкоднай. Спрабаваў вылучацца Алег Трусаў, але, паколькі ні пра што іншае, акрамя сваіх прадбачанняў і ўласнай значнасці не гаварыў, яго хутка аблажылі, нагадаўшы, што Вярхоўны Савет і БНФ – не партгрупа арганізацыі, дзе ён быў парторгам камуністаў.

Найбольшыя амбіцыі мелі тыя, каго назвалі «маладымі ваўкамі». Яны працавалі на сябе. Кожны з іх быў абсалютна несувымерны ва ўсіх адносінах з лідэрам БНФ Зянонам Пазняком, хоць прэтэнзій і амбіцый у іх было нямала. Разам яны лічылі сябе сілай, здольнай перамагчы ў Вярхоўным Савеце ўсіх, нават групу БНФ на чале з Пазняком. Дзмітрый Булахаў, Анатоль Лябедзька, Віктар Ганчар, Генадзь Карпенка і Леанід Сініцын (ён далучыўся пазней) мелі прыблізна аднолькавыя вартасці, таму ніхто з іх не мог стаць у сваім коле лідэрам. Прыдумалі нядрэнную на першы погляд схему – паклікаць на месца лідэра чалавека, які відавочна саступаў бы кожнаму з іх па інтэлекце. Знайшлі такога. З кемлівасцю ў яго было няважна, але палітычнай волі – не пазычаць. Вырашылі: мы будзем мазгавым цэнтрам, а ён будзе прымітыўным, але надзейным выканаўцам. У выканаўцы павінна было хапіць розуму, каб зразумець, што без каманды ён – ніхто!

Пачалі дзейнічаць.

Спачатку вырашылі месца расчысціць – прыбраць Шушкевіча. Хаўруснікаў у гэтай справе было больш чым дастаткова: большасць старых наменклатуршчыкаў з самім Кебічам, плюс дэпутаты-аграрыі – старшыні калгасаў, вульгарныя вясковыя камуністы на чале з Уладзімірам Гаркуном. Іх так і называлі – чырвоныя памешчыкі... У наступ пайшлі не гуртам, а па чарзе, на розных паседжаннях, пры кожным зручным выпадку, без уключэння ў парадак дня.

Пачаў Булахаў. Выступае і даводзіць, што ўсе праблемы з-за мяне – Старшыні Вярхоўнага Савета. Таму ён, дэпутат Булахаў, не мае іншага выйсця, як скласці дэпутацкія паўнамоцтвы. І сапраўды кладзе на трыбуну дэпутацкае пасведчанне.

Разумею, што блефуе. У мяне – два варыянты. Першы – даручыць адпаведнай камісіі разабрацца ў сітуацыі і ўнесці прапанову, другі – проста паставіць на галасаванне. Вырашаю, што другі для

мяне лепшы, бо камісія можа прапанаваць, улічваючы складанасць сітуацыі, у парадак дня і пытанне аб даверы мне. Стаўлю на галасаванне прапанову задаволіць просьбу Булахава. Не праходзіць. Складанне паўнамоцтваў не прымаецца. Для мяне – не параза, але адлік пачаўся: адзін – нуль на карысць «маладых ваўкоў».

Наступны – Карпенка. Паглядзіце, кажа, з кім маем справу. Шушкевіч – фактычна пенсіянер, ён амаль дасягнуў пенсійнага ўзросту, а паводле розуму ён даўно пенсіянер. Хай сыходзіць на пенсію. Ён падчас вайны на мінскіх пажарышчах козы пасвіў, няхай вяртаецца да старога занятку.

Далей – Ганчар. Выступае грунтоўна, з размахам, бліскучы прамоўца. Маўляў, Шушкевіч патакае, каб пра яго складаліся міфы. Я бяруся выкрыць усю гэтую міфалогію. Далей фармулюе ім жа прыдуманыя, але праўдападобныя міфы і каменя на камені не пакідае ад самім жа прыдуманага.

Які адвакат прападае – думаю я.

Але мяне ў дыскусію аб міфатворчасці не ўцягнеш, я падобнае не раз праходзіў. Успамінаю ўлюбёнае выслоўе майго сябра матэматыка: магу, але не буду даказваць, што я не вярблюд. Большасць жа дэпутатаў пляскае ў ладкі, ухваляючы гнеўныя філіпікі на мой адрас. Думаюць, што я пачну апраўдвацца.

У гэты ж час на тое ж кола таго ж млына льецца вада старшынёй камісіі па нацыянальнай бяспецы Мечыславам Іванавічам Грыбам. У мяне былі тады ўсе падставы назваць яго здраднікам, але, седзячы ў крэсле спікера Вярхоўнага Савета, рабіць такое было няёмка, і я стрымаўся.

Сутнасць справы паводле Грыба: на некалькіх міжнародных сустрэчах на высокім узроўні я адмовіўся падпісваць дакумент аб уступленні Беларусі ў ваенны саюз у рамках СНД, матывуючы гэта палажэннямі нашай Канстытуцыі аб тым, што Беларусь імкнецца да нейтральнасці. Ва ўсіх без вынятку выпадках, калі пры гэтым прысутнічаў М. Грыб, ён мяне падтрымліваў. І гэта было лагічна, таму што нельга, імкнучыся да нейтральнасці, уступаць у ваенныя саюзы.

А тут выступае на сесіі Вярхоўнага Савета і кажа зусім іншае! Пытаюся ў яго:

– Як жа вы, Мечыслаў Іванавіч, так хутка змянілі сваё меркаванне на супрацьлеглае?

– Так вырашыла большасць чальцоў камісіі па нацыянальнай бяспецы, якую я ўзначальваю.

– А сваё меркаванне ў вас ёсць?

– На гэтае пытанне я не абавязаны адказваць!

Як гаворыцца, прыплылі. Перакананні, калі гэта выгодна, адыходзяць на задні план. Але я думаю, што іх і не было. Проста,

калі было выгодна, Грыб мяне падтрымліваў. А тут сітуацыя мяняецца не на маю карысць. Не галавой ён гэта разумее, а старым міліцэйскім нюхам, генерал міліцыі ўсё ж! Ды і становішча ў Расіі падказвае дыстанцыявацца ад Шушкевіча.

Дыстанцыяваўся.

Пасля разгрому жнівеньскага 1991 года путчу ў Маскве Ельцын прызначыў левы ўрад на чале з Я.М. Прымаковым. Значыць, і нам пара ўспомніць, што першапачаткова ў нашым парламенце было 82% камуністаў. Няхай частка з іх свядома адраклася ад марксізму-ленінізму, але большасці гэта невыгодна! Бо амаль усе кіроўныя работнікі не па-савецку працаваць не ўмеюць.

Лёс «маладых ваўкоў» вядомы. Віктара Ганчара, як найбольш харызматычнага і папулярнага за межамі парламента, відавочнага прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, ліквідавалі фізічна. Не выключаю, што і Карпенку дапамаглі сысці з жыцця. Версія аб тым, што і Булахаў сам скараціў сваё жыццё, запабягаючы перад Лукашэнкам, вельмі праўдападобная. Славалюбу, яму не хапала першых роляў, ён пачаў піць. І хутка памёр пры абставінах, пра якія тут не варта нагадваць. Астатнія «маладыя ваўкі» небяспекі для ўлады не ўяўлялі і не ўяўляюць.

## «Куды вецер вее, туды голле гнецца»

Гэтыя словы з беларускай народнай песні – мяккі варыянт рускага «трымай нос па ветры».

У СССР можна было стаць вучоным у галіне грамадскіх навук, пахваліўшы камуністычныя дагматы або пакрытыкаўваўшы заходнюю немарксісцкую філасофію, паліталогію, эканоміку. Самыя бяздарныя, а такіх да грамадскіх навук прыліпала нямала, выбіралі першы шлях. Больш разумныя ішлі па другім шляху. А пранырлівыя спрытна спалучалі і тое, і другое – у надзеі атрымаць доступ да крамольных першакрыніцаў у спецсховах або ў закрытых аддзелах бібліятэк. Для асабліва старанных магла прыадчыняцца жалезная заслона – іх выпускалі за мяжу, як правіла, даўшы заданне за кімсьці сачыць.

Такім чынам, калі ты, напрыклад, філосаф і хочаш нешта ў гэтай краіне мець, ганьбі на чым свет стаіць заходніх філосафаў! Дакажы, што твае перакананні адпавядаюць патрабаванням камуністычнай партыі, якой ты служыш.

А з якой стараннасцю служылі! Не падкапаешся. Калі б, як кажуць, не натапталі, то заставаўся б і я ў поўным няведанні, хто ёсць хто. Але патрапіла мне ў рукі кніжачка, выдадзеная ў далёкім 1962 годзе – «Философия осуждённых». Яе аўтар А.А. Міхайлаў – тады таленавіты малады філосаф, выпускнік БДУ 1961 года. Але

якая ў выпускніка ўжо тады была ўчэпістая бальшавіцкая хватка! На вокладцы ў дужках – тлумачэнне: экзістэнцыялізм – рэакцыйная плынь у сучаснай буржуазнай філасофіі. Як і патрабавала камуністычная ідэалогія.

Каб быць сваім для камуністычных ідэолагаў, аўтар кніжкі, крытыкуючы экзістэнцыялізм, мусіў забыцца, што зарадзіўся гэты напрамак у Расіі ў пачатку ХХ стагоддзя (гл. «Новы вялікі энцыклапедычны слоўнік», Масква, 2006, стар. 1388). Ён мусіў ведаць, што «сучасная эпоха – эпоха гіганцкіх сусветна-гістарычных зменаў. Яе асноўным зместам з'яўляецца заканамерная змена капіталізму сацыялізмам, заняпад і загніванне капіталізму, бесперапыннае развіццё і ўмацаванне сусветнай сацыялістычнай сістэмы». А потым абавязкова дадаць: «Не выпадковым таму з'яўляецца і той факт, што філасофія экзістэнцыялізму ўзнікла ў Германіі, дзе больш рэзка выявіліся эканамічныя і палітычныя супярэчнасці». Ну не змагацца ж з тым, што зарадзілася ў Расіі!

А ў мяне ў галаве ізноў круціцца: «Калі б ведаў, з кім еду...». Таму не здзіўляйцеся, чытачы, што я аналізую змест маленькай кніжкі пяцідзесяцігадовай даўніны. Такіх былі тысячы...

У канцы 1980-х і ў пачатку 1990-х я пазнаёміўся з зусім іншым Міхайлавым. Анатоль Арсеньевіч раптам выявіўся як вялікі знаўца заходняй філасофіі. Расказаў мне, як цяжка яму гэта далося. Шмат гадоў, працуючы за мяжой, па драбніцах збіраў філасофскія артыкулы і кнігі, зрабіў тысячы ксеракопій, каб быць на ўзроўні патрабаванняў часу. Я ў сваю чаргу стараўся, як мог, каб ён узначаліў ва ўніверсітэце кафедру. Думаў, што нарэшце на змену артадаксальным марксістам прыходзіць знаўца і прыхільнік заходняй філасофіі, асабліва Шапенгаўэра, якому, як ён мяне запэўніў, прысвечаныя яго шматлікія навуковыя артыкулы. А якая грамадзянская пазіцыя! Прыхільнік прававой дзяржавы, дэмакратыі, правоў чалавека, рынкавай эканомікі. Нічога не абсалютызуючы, лічыць неабходным прасоўвацца менавіта ў гэтых напрамках. Як было не запрасіць такога, ды яшчэ знаўцу замежных моваў, у дарадцы. Запрасіў і, павінен сказаць, доўга заставаўся задаволены яго працай.

А ў той даўняй кніжцы, што трапіла мне ў рукі толькі ў 2011 годзе, – усё наадварот. Зневажаюцца Е. Корэт, К. Ясперс, М. Хайдэгер, Р.М. Рыльке, Ж.П. Сартр, А. Камю, А. Мальро, Э. Кастэлі. Двое з іх, дарэчы, сталі лаўрэатамі Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Іх творы адпавядалі канонам экзістэнцыялізму. Над адным з іх – Жанам-Полем Сартрам – Міхайлаў у сваёй кніжцы нават злітаваўся: *«У апошні час ён прымае актыўны ўдзел у барацьбе за мір і дэмакратыю. Значную эвалюцыю зведалі і яго погляды на марксізм-ленінізм, хоць ён і не вызваліўся цалкам ад сваіх ранейшых спробаў «паляпшэння» марксізму пры дапамозе экзістэнцыялізму».*

Паважаны Анатоль Арсеньевіч, я не філосаф, але, як любы пісьменны чалавек, асновы экзістэнцыялізму разумею. Экзістэнцыялізм надае найвялікшае значэнне свабодзе. Паводле Сартра, быць свабодным – азначае быць самім сабой, несці цяжар свабоды, калі ты асоба. Чалавек асуджаны быць свабодным. Стаць «як усе» можна толькі коштам адмовы ад сябе як асобы.

Насуперак вашай здагадцы, Сартр не вызваліўся ад экзістэнцыялізму, таму і быў у 1964 годзе ўганараваны Нобелеўскай прэміяй па літаратуры *«за багатую ідэямі, прасякнутую духам свабоды і пошукамі ісціны творчасць, якая аказала вялікі ўплыў на наш час»*. Здавалася б, якое прызнанне, якое шчасце для аўтара – атрымаць найпрэстыжнейшую прэмію ў свеце! А Жан-Поль Сартр ад прэміі адмаўляецца, хоча застацца абсалютна свабодным, ніякі марксізм і ніякую іншую ідэалогію ён не жадае паляпшаць, не жадае, каб яго «ператварылі ў грамадскі інстытут», лічыць, што статус нобелеўскага лаўрэата толькі перашкодзіць яго свабоднай дзейнасці.

Дадумваючы за Сартра, Міхайлаў усхваляе тое, што належала ўсхваляць у савецкі час: *«Рэчаіснасць абвяргае філасофію экзістэнцыяналізму, як і абвяргала дзесяткі іншых папярэдніх ідэалістычных тэорый. Пераможнае шэсце марксісцка-ленінскіх ідэй па ўсім свеце, поспехі сацыялістычнай сістэмы вядуць да вызвалення шырокіх народных мас ад уплыву буржуазнай ідэалогіі. Толькі вучэнне марксізму-ленінізму адказвае на запыты нашага часу, заваёўваючы мільёны розумаў ва ўсіх краінах»*.

Праўда, я не чуў, каб цяпер Міхайлаў дэманстраваў супрацоўнікам і студэнтам ЕГУ сваю адданасць марксізму-ленінізму ці пакаяўся ў тым, што навязваў яе людзям раней.

У мяне часта пытаюцца.

– Якія памылкі вы зрабілі?

Адказваю:

– Я некалькі разоў памыляўся ў людзях; успрымаў іх як вельмі годных, прынцыповых, добрасумленных, адданых навуцы або іншай добрай справе. Некаторымі нават захапляўся. Супакойвае мяне толькі тое, што ў пераважнай большасці выпадкаў мне ўсё ж шанцавала на людзей прыстойных, сумленных, некрывадушных.

Прыкра, што памыліўся ў Міхайлаве. З іншых частак гэтай кнігі, якія я перапісваць не маю намеру, вынікае, што ставіўся я да яго добра. Запрасіў быць маім дарадцам падчас старшынёўства ў Вярхоўным Савеце, высока цаніў яго адукаванасць і не раз давяраў яму адказныя даручэнні. Не адмаўляю, што спрыяў стварэнню і развіццю Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў значнай меры з-за даверу да Міхайлава і хацеў бачыць яго рэктарам. Толькі падчас дзесяцігоддзя ЕГУ ўсвядоміў, што карабель плыве ў

антыбеларускім напрамку. На юбілеі гучалі выступы па-ангельску, па-нямецку, па-французску, па-руску, па-італьянску, але ніводнага слова не было сказана па-беларуску. Пасля ўрачыстага паседжэння я вырашыў моўчкі сысці, але не стрымаўся. Сказаў пры ўсіх:

– Манкуртаў вы сабралі ў ЕГУ, Анатоль Арсеньевіч.

Сказаў, бо закраўся ў мяне сумнеў. Ці не вырашыў рэктар дагадзіць «усенародна абранаму» дзеля выратавання ЕГУ, над якім навіслі хмары? Прамым прызнаннем – нельга, нашкодзіць у стасунках з заходнімі фундатарамі. А дэманстрацыяй таго ж, што рабіў наш нелегітымны прэзідэнт – пагардлівым стаўленнем да беларускай мовы – можна. Да таго ж, у выкладчыках ЕГУ апынуліся тады тыя, каго да студэнтаў і падпускаць нельга. Напрыклад, І.В. Катляроў – інжынер-механік па адукацыі і сацыёлаг-ліслівец па прызванні.

Запабяганне перад уладаром не дапамагло. ЕГУ быў выгнаны з Мінска і атрымаў прапіску ў Вільні. Міхайлаў перастаў паўсюдна тлумачыць, што ЕГУ па-за палітыкай, стаў выдаваць сябе на Захадзе і ў ЗША апазіцыянерам. У выніку ЕГУ атрымаў нядрэнную падтрымку на Захадзе як рэпрэсаваная ў Беларусі інстытуцыя. Прасцей кажучы, апазіцыянеры супрацьстаялі рэжыму, арыштоўваліся, падпадалі пад эканамічныя рэпрэсіі, збіваліся на пікетах, а Міхайлаў, не заязджаючы ў Беларусь, на міжнародных форумах выдаваў сябе за пакутніка, спакойна ўладкаваўшыўся на еўрапейскім заробку ў еўрапейскай Вільні. Пасля слушных папрокаў злёгку паклапаціўся пра тое, каб у ЕГУ былі прыкметы беларускасці, але далёка не ў той меры, як гэта мае быць у беларускім Еўрапейскім гуманітарным універсітэце на выгнанні. Манаполія на рэктарства ў ЕГУ таксама не нагадвае Еўропу. Акадэмік Міхайлаў кіруе ўніверсітэтам даўжэй, чым кіруе Беларуссю Лукашэнка. Такога ў Еўропе няма.

## Сухі астатак

Няпроста з нашай інтэлектуальнай элітай будаваць нацыянальную еўрапейскую дзяржаву, рэфармаваць палітычную сістэму дзеля дабрабыту краіны і ўсіх яе грамадзянаў. Нішто яе, гэтую эліту, надзейна не аб'ядноўвае. Яе прадстаўнікі насамрэч клапоцяцца аб сваім асабістым дабрабыце, не дэманструюць высокай унутранай культуры, забываюць пра абавязак, гонар, годнасць, правы чалавека, дэмакратыю.

Цяжка народу з такой элітай.

На шчасце, як бы ні імкнуліся ўлады абалваніць новае пакаленне, ізаляваць яго ад крыніцаў інфармацыі сёння немагчыма. На іх, маладых, надзея. Іх кідаюць у турмы, выганяюць з ВНУ, збіваюць, запалохваюць.

Але яны выстаяць і пераможуць!

# XIII. АБ УНІВЕРСІТЭТАХ І ВНУ, СТУПЕНЯХ І ЛЕКЦЫЯХ

Мая альма-матэр – Беларускі дзяржаўны універсітэт (БДУ). Тут я вучыўся, працаваў, адсюль пайшоў у палітыку. Магу параўноўваць яго з іншымі ўніверсітэтамі, перш за ўсё, з універсітэтамі СССР. Па саюзных мерках ён лічыўся добрым універсітэтам, а яго прыродазнаўчыя факультэты і шэраг кафедраў гэтага ж профілю – вельмі добрымі. Не ведаю такога, каб на навуковых міжнародных канферэнцыях супрацоўнікі ўніверсітэта – матэматыкі, фізікі, хімікі, біёлагі, географы, філолагі – адчувалі сябе непаўнацэннымі. Думаю, што гэтае сцвярджэнне справядлівае і ў адносінах да іншых навук, але проста я не сутыкнуўся з такімі прыкладамі, якія гэта пацвярджаюць. Ганаруся сваім універсітэтам, факультэтам, кафедрай. У БДУ – большасць тых, хто без доўгіх прадмоваў разумее мяне і каго разумею я. У час вучобы і працы ў БДУ мне пашчасціла наведаць шмат знакамітых ВНУ Савецкага Саюза, удзельнічаць у навукова-метадычных канферэнцыях па вышэйшай адукацыі, пазней – наведаць мноства замежных універсітэтаў. Сваім дзецям, унучцы, сябрам і знаёмым я ніколі не раіў пайсці вучыцца ў нейкі іншы ўніверсітэт, калі накірунак, які іх цікавіць, прадстаўлены ў БДУ.

У многія ВНУ і ўніверсітэты, пра якія мне хочацца расказаць, я трапіў па запрашэнні прачытаць лекцыі або дзякуючы спрыяльнаму збегу абставінаў, якія падштурхоўваліся маёй дапытлівасцю. Вельмі хацелася паглядзець, што ўяўляюць з сябе навучальныя ўстановы, вядомыя ва ўсім свеце. Практычна не здаралася, каб я не выявіў у кожнай ВНУ чаго-небудзь павучальнага і карыснага для сябе асабіста і для сваёй працы. І не толькі педагагічнай. Я ніколі не прапаноўваў свае паслугі ў якасці лектара або даследчыка, ініцыятыва заўсёды сыходзіла ад тых, хто запрашаў.

### Люблянскі

У 1965 годзе загадчык маёй кафедрай літаральна прымусіў мяне даслаць даклад на «Ampere-colok» – міжнародную навуковую канферэнцыю па даследаванні атамаў і малекул радыёчастотнымі метадамі. Канферэнцыя павінна была адбыцца ў Югаславіі. Я быў упэўнены ў безнадзейнасці задумкі туды трапіць і ўпіраўся, як мог, бо не хацеў займацца доўгай і нуднай працай па падрыхтоўцы

матэрыялаў для адпраўкі. Але Аляксандр Мікалаевіч Пісарэўскі настояў на сваім.

Накіраваць ліст у аргкамітэт канферэнцыі ад сябе асабіста лічылася ў той час амаль што дзяржаўным злачынствам. А для таго, каб адправіць за мяжу старонку тэзісаў даклада ад імя ўніверсітэта і паўстаронкавую анкету з кароткай інфармацыяй пра сябе (прозвішча, імя, месца працы, пасада, адрас), трэба было падрыхтаваць велізарную колькасць папераў і даведак для пацвярджэння, што тэзісы не ўтрымліваюць дзяржаўнай таямніцы. Акрамя таго, трэба было ўласнаручна запоўніць у трох асобніках шматстаронкавую брашуру з дадзенымі пра сябе і блізкіх сваякоў, напісаць вельмі падрабязную аўтабіяграфію – таксама ад рукі і таксама ў трох асобніках. Усё гэта я зрабіў. Ліст з тэзісамі і анкетай быў адпраўлены канцылярыяй універсітэта ў аргкамітэт канферэнцыі ў Югаславію.

Я быў прыемна здзіўлены, калі хутка, прыкладна праз месяц, прыйшоў адказ: тэзісы будуць надрукаваныя, вы запрашаецеся на канферэнцыю ў Любляну. Аднак Міністэрства вышэйшай і спецыяльнай адукацыі СССР зацвердзіла для паездкі ў Любляну групу з 5 чалавек, у якую я не трапіў. На канферэнцыю мусілі ехаць супрацоўнікі маскоўскіх і ленінградскіх ВНУ, у тым ліку і тыя, хто не накіраваў на канферэнцыю ні дакладу, ні тэзісаў.

Я абурыўся, паскардзіўся рэктару ўніверсітэта акадэміку Антону Нікіфаравічу Сеўчанку.

– Не здзіўляйся, гэта звычайная практыка, – сказаў ён, – паспрабую табе дапамагчы.

Рэктар напісаў прыватны ліст міністру вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР Вячаславу Пятровічу Елюціну, з якім, па яго словах, быў добра знаёмы асабіста.

– Паедзеш у Маскву да сваіх заказчыкаў, зайдзі ў міністэрства да майго добрага сябра (назваў імя), які мае доступ да міністра. Ты сам ніколі да міністра не дойдзеш, а калі і дойдзеш, то ўсё сапсуеш.

Мне даволі часта прыходзілася ездзіць у Маскву ў камандзіроўкі, і я адразу ж туды падаўся. Зайшоў і да «добрага сябра», якому рэктар ужо патэлефанаваў. Сябра ліст прачытаў, зморшчыўся і загадаў мне зайсці праз дзень. У прызначаны час ён на месцы адсутнічаў, але яго сакратар сказала мне вяртацца ў Мінск, таму што маё пытанне «ў прынцыпе вырашанае», у чым я, шчыра кажучы, сумняваўся.

Але нездарма гаворыцца – няма ліха без дабра!

У Мінску я даведаўся, што па праграме абмену лектарамі з замежнымі краінамі міністэрства выдзеліла Белдзяржуніверсітэту месца для паездкі ў Югаславію ў Люблянскі ўніверсітэт. Тэрмін паездкі – месяц, а не пяць дзён, як для ўдзельнікаў канферэнцыі.

– Паважаны Антон Нікіфаравіч, – кажу я рэктару Сеўчанку, – каму чытаць лекцыі ў чэрвені, калі ў студэнтаў сесія?

Рэктар, якія шмат разоў бываў за мяжою, добра ведаў тамтэйшыя парадкі і імгненна мяне супакоіў:

– Знойдзецца каму, гэта іх справа. Самае галоўнае, што канферэнцыя ў чэрвені, а ты ж на яе імкнуўся. І каб мяне там не падвёў – паводзь сябе па-савецку сціпла і з годнасцю. «Абкатку» патрэбна прайсці без заўвагаў тых, хто за табой прыглядваць будзе. А такія заўсёды ёсць. Справаздача аб паездцы павінна быць без затрымкі і, як кажуць, узорна-паказальная. Гэта ж твая першая паездка, калі што не так, будзе апошняй. Югаславія – краіна амаль капіталістычная, памятай гэта. Правілы ж такія: там табе іх прафесарскі аклад дадуць месячны, дык ты глядзі, галавы не губляй, атрымаўшы гурбу грошай.

Рэктарскія стрыманыя парады не ішлі ні ў якое параўнанне з тым, што я ў вялікай грамадзе выслухаў у адным з будынкаў ЦК КПСС у Маскве. Інструктаж праводзіўся асобна для тых, хто ехаў да капіталістаў, і для тых, хто ад’язжаў у краіны сацыялістычнага лагера. Югаславія на інструктажы прыраўноўвалася да краіны капіталістычнай.

Рэктар усё прадбачыў правільна. Я сапраўды «прайшоў абкатку»: адчытаў лекцыі, зрабіў даклад на канферэнцыі, пытанні задаваў і пры абмеркаванні сказаў некалькі словаў. Усё дзеля таго, каб «наглядчык» не паведаміў, што я паводзіў сябе пасіўна. Пасля канферэнцыі выступіў на семінары ў люблянскім ядзерным цэнтры «Джозэф Стэфан», мяркуючы, што «наглядчык» быў і там, хоць на семінары я быў адзіным чужаземцам. Дык вось, няхай паведаміць, што я стараўся і што мяне і далей можна пасылаць за мяжу. Незабыўнымі сталі паездкі па Югаславіі, на якія я патраціў амаль усе атрыманыя ў Люблянскім універсітэце грошы. Аклад прафесара быў там разы ў тры большы, чым аклад універсітэцкага прафесара ў СССР.

Люблянскі ўніверсітэт (ЛУ) быў у той час адзіным універсітэтам у Югаслаўскай Рэспубліцы Славенія, адным з старэйшых і буйнейшых ВНУ Югаславіі. Ён быў заснаваны як езуіцкі коледж у 1595–1596 гадах, рэарганізоўваўся ў 1809 і 1919 гадах. Атрымаў статус універсітэта ў 1919 годзе, г.з. на два гады раней майго роднага БДУ.

Размяшчаўся ўніверсітэт у самым цэнтры Любляны. Спецыялісты-фізікі рыхтаваліся на факультэце прыродазнаўчых навук і тэхналогіі. З кіраўніцтвам факультэта я дамовіўся аб тым, што – яны ў Югаславіі, а я ў СССР – будзем хадайнічаць аб абмене студэнцкімі групамі паміж БДУ і ЛУ па спецыялізацыі «ядзерная фізіка». Аб тым, наколькі гэта было на той час няпроста,



*2008 год. Галоўны корпус Люблянскага ўніверсітэта*

можна меркаваць па дзвюх датах: дамоўленасць была дасягнутая ў 1966 годзе, а першая (і апошняя!) група з васьмі студэнтаў кафедры ядзернай фізікі з «наглядчыкам» ад парткама БДУ Алай Станіславаўнай Каспяровіч выехала з Мінска ў Любляну ў 1974-м.

Абсалютнай нечаканасцю было для мяне стаўленне славенцаў да Напалеона. Да яго помніка ўвесь час прыносілі жывыя кветкі. У час французскага кіравання ў 1810 годзе тут быў заснаваны першы ўніверсітэт, які, аднак, неўзабаве, быў зачынены. У свядомасці славенцаў, з якімі мне давялося мець справы, жыла легенда пра Напалеона як чалавека, які вельмі высока цаніў славенцаў. Яму прыпісваюцца словы, быццам бы сказаныя пасля заваявання тутэйшых мясцінаў: «Ілірыя (г.з. Славенія) заслугоўвае сваёй дзяржаўнасці!»

З майго гледзішча, у Югаславіі было шмат добрага, чаго ў нас або проста не было, або лічылася дурным тонам, а то і забаранялася. Мне, напрыклад, падабалася, што вуліцы і памяшканні былі ў параўнанні з нашымі чыстымі ад лозунгаў і плакатаў з заклікамі выконваць, перавыконваць, будаваць камунізм і памятаць, што партыя – наш рулявы. За месяц знаходжання ў краіне я ўбачыў толькі адно вялікае пано ў зале гарадской ратушы з заклікам, які не адразу змог перакласці. Лозунг прызначаўся для маладзёнаў і абвяшчаў: «Танцуючы, не наступай на ногі партнёру!»

Падабалася і тое, што абмеркаванне сур'ёзных пытанняў на навуковых семінарах ва ўніверсітэце вялося ў надзвычай натураль-

ных абставінах. На сталах былі не толькі вада, кава і гарбата, але і віно, і нават віньяк. Праўда, я ні разу не бачыў, каб алкагольны напой нехта ўжываў несімвалічна.

На першым пленарным паседжанні міжнароднай навуковай канферэнцыі не абышлося без кур'ёзу. Нягледзячы на спякоту, усе «трымалі форму», былі ў манішках і гальштуках, многія – у навушніках для сінхроннага перакладу. І вось калі паседжанне ўжо пачалося, у залу ўваходзяць два суб'екты ў пацёртых шортах, а адзін з іх яшчэ і з патламі даўжэзнымі. Больш за тое, садзяцца не ў крэслы, а на прыступкі ў цэнтральным праходзе, хоць вольных месцаў у зале хапае.

Ну, думаю я, валацугі нейкія, зараз іх адсюль з трэскам турнуць, як зрабілі б у нашым універсітэце. Ажно не – ніхто і ўвагі не звяртае. А патлаты яшчэ і пытанні дакладчыку пачаў задаваць, і вядоўца папрасіў яго падысці да мікрафона, каб пачулі перакладчыкі-сінхраністы ў шкляных кабінах.

Высветлілася, што «валацугі» – вядомыя канадскія вучоныя Букмастэр і Скоўэл. На прапанаваным імі прынцыпе «малой мадуляцыі» я разам з супрацоўнікамі лабараторыі радыеспектраскапіі Інстытута фізікі АН БССР яшчэ ў аспіранцкія гады пабудаваў парамагнітна-рэзанансны спектрометр.

Да гэтага часу не ведаю дакладна, разыгралі мяне мае люблянскія калегі, або завялі туды, дзе мне не дазволена было знаходзіцца? Двое маладых навукоўцаў, адзін – супрацоўнік Інстытута ядзерных даследванняў «Джозеф Стэфан», другі – прафесар універсітэта, запрасілі мяне ў нядзелю на рыбалку. На мае словы аб тым, што я не ведаю, як лавіць рыбу наогул, а тым больш спінінгам, адказалі, што пара вучыцца. Уручылі мне спінінг з рэдкаю ў той час безінерцыйнаю шпулькаю. Павучылі трохі закідваць на роўнай, пакрытай невысокай травою, пляцоўцы, і – у дарогу на маленькім фіяце югаслаўскай зборкі.

Ехалі доўга. Прыпыніліся ў гарах і пайшлі па беразе невялікай рачулкі супраць плыні, закідваючы блешню ў падыходзячых, па іх меркаванні, месцах. Я ішоў апошнім і таксама спрабаваў закідваць там, дзе і яны. Заблытваўся ў лёсцы, за што меў ад сваіх калегаў «кампліменты», бо да мяне ніхто не ўмудрыўся зрабіць «бараду» на безінерцыйнай шпульцы. Адну рыбку – маленькую стронгу – мае калегі ўсё ж злавілі. Потым мы падышлі да навяснога мастка, перайшлі па ім на другі бок рачулкі і прадоўжылі свае справы: хто закідванне, а хто разблытванне.

Гадзіны праз паўтары мае калегі злавілі яшчэ тры стронгі, і ўжо не зусім маленькія.

– Бачыш, – кажа больш удачлівы, – на італьянскім беразе рыбка ловіцца лепей.

– Чаму на італьянскім?

– Мяжа з Італіяй тут па рэчцы праходзіць. Перайшоўшы масток, мы выйшлі на італьянскі бераг. Але ты не бойся. Калі нас выявіць італьянскі памежнік, а мы не адыдземся ад берага больш, чым на 200 метраў, то ён толькі паставіць у нашых пашпартах штэмпель аб тым, што мы наведалі італьянскую турыстычную зону. І ў тваім пашпарце таксама паставіць.

Такі штэмпель, падумаў я, будзе прамым доказам грубейшага парушэння атрыманых мною ў ЦК КПСС інструкцый. І добра, калі я паплачуся толькі тым, што мяне не выпусцяць больш за мяжу, а магу і з працай развітацца...

Хутчэй змотваць вуды! Дакладней – лёску на шпульку спінінга. І да мастка. Жаданне злавіць рыбку і паказаць, што і я сёе-тое магу, знікла.

На шчасце, да аўтамабіля мы вярнуліся без прыгодаў.

## Ягелонскі

У старэйшы ўніверсітэт Усходняй Еўропы – Ягелонскі ў польскім Кракаве – я паехаў увесну 1974 года па праграме Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР «Абмен выкладчыкамі і студэнтамі ВНУ Савецкага Саюза і краінаў народнай дэмакратыі». Я павінен быў прачытаць там лекцыі на модную ў той час тэму – ядзерная электроніка.

Спецыялізацыю «ядзерная фізіка» забяспечвала ў Ягелонскім універсітэце кафедра прафесара Казімежа Гратоўскага. Вельмі шырокую вядомасць меў у той час яго родны брат – кіраўнік тэатра і рэжысёр Ежы Гратоўскі. Шэраг спектакляў ён паставіў па творах, не вельмі вітаных у сацыялістычным лагеры, у неадаптаваным для гэтага лагеру выглядзе. Сярод іх «Каін» Байрана, «Містэрыя-Буф» Маякоўскага, «Дзяды» Міцкевіча, «Акропаль» Выспянскага, «Трагічная гісторыя доктара Фаўста» Марло і многае іншае. У той няпросты час Ежы Гратоўскі трыумфальна падарожнічаў са сваімі пастаноўкамі літаральна па ўсім свеце. Але зайздросціў я не брату-тэатралу, а брату-фізіку. Казімеж Гратоўскі, як і кожны прафесар Польшчы, меў права раз у пяць гадоў выехаць на працяглую стажыроўку для падвышэння кваліфікацыі практычна ў любы замежны навукова-даследчы інстытут ці ўніверсітэт, які згаджаўся яго прыняць. Для навукоўцаў у СССР гэта было нязбыўнай марай.

Я прыехаў у Кракаў, калі прафесар Гратоўскі толькі што вярнуўся з даследчага цэнтра ў Льежы і не стамляўся расказваць пра славутасці гэтага трэцяга па памерах горада Бельгіі – месца паломніцтва хрысціянаў і проста аматараў старадаўняй архітэктуры.

Будучы наскрозь савецкім, я ў адпаведнасці з інструктажом, атрыманым перад паездкаю ў ЦК КПСС, абавязаны быў не захапляцца тым, аб чым расказваў напэўна ж інфіцыраваны буржуазна-капіталістычным вірусам прафесар. Якая мне справа, што недзе ёсць мноства цікавых сабораў і цэркваў!

Я павінен быў увесь час памятаць аб тым, што прыехаў чытаць лекцыі, дзе мусіў абавязкова згадваць аб перавагах сацыялізму, і павышаць сваю кваліфікацыю ў галіне фізікі і педагогікі вышэйшай школы.

Вельмі моцнае ўражанне зрабілі на мяне прывезеныя Гратоўскім з Льежа рэкламныя праспекты электроннай апаратуры для навуковых даследаванняў. Тое, што давалася нам тытанічнымі намаганнямі па выбіванні фондаў, здабыванні дэфіцытных дэталяў, у выніку мантажу ў прымітыўных умовах універсітэцкіх і іншых майстэрань, у Бельгіі можна было адкрыта набываць і выкарыстоўваць. Ашаламлялі, праўда, цэны. Але калі Казімеж Гратоўскі па вялікім сакрэце расказаў аб заробках французскіх навукоўцаў, аб бюджэце лабараторый, кошт прыбораў перастаў здавацца завоблачным.

Разам з тым, мне было прыемна ўсведамляць, што вучэбныя і навуковыя лабараторыі «маёй» роднай кафедры ў Мінску абсталяваныя даволі прыстойна. Нягледзячы на мноства «самаробак», нашыя прыборы дазвалялі зрабіць працэс даследаванняў і навучання змястоўным і эфектыўным – на ўзроўні найноўшых дасягненняў навукі. Таму недасягальнасць гарадоў накшталт Льежа для мяне не



*1975 год. Дырэктар Інстытута ядзерных даследаванняў у Бранавіцах, прарэктар Ягелонскага ўніверсітэта па навуцы і прамоцыях прафесар Адам Стшалкоўскі ў лабараторыі вучэбнага практыкума кафедры ядзернай фізікі БДУ*

была крыўднай, і я знаходзіў прычыны ганарыцца тым, што параметры асобных нашых «саматужных» прыладаў нават перавышалі параметры фірмовых вырабаў.

Найбліжэй я сышоўся ў Кракаве з прафесарам Адамам Стшалкоўскім – дырэктарам Інстытута ядзерных даследаванняў у Бранавіцах, тых самых прылеглых цяпер да Кракава малапольскіх Бранавіцах, у якіх разгортваецца дзеянне драмы Станіслава Выспянскага «Вяселле». Яе аўтар, які пражыў усяго 38 гадоў, памёр у 1907-м, але наўрад ці можна знайсці ў Польшчы чалавека, які не ведае яго як мастака і драматурга. І Бранавіцы па-ранейшаму найбольш вядомыя тым, што аб іх пісаў Выспянскі, а не тым, што там знаходзіцца ядзерны даследчы цэнтр.

Пра гэта з гумарам казаў мне прафесар Стшалкоўскі, які пазней стаў прарэктарам Ягелонскага ўніверсітэта па навуцы (і па прамоцыях, г.зн. па прасоўванні чаго-небудзь або каго-небудзь). Ён прыязджаў да мяне на кафедру ў Мінск, як казаў, каб перакanацца, што і на савецкіх запчастках і інтэгральных схемах можна ствараць выдатную даследчую апаратуру. А ў прафесара Гратоўскага я пераняў і, асабліва не агалошваючы, увесь час выкарыстоўваў метад прыёма іспытаў. Не агалошваў таму, што такая «прафесарская самастойнасць» забаранялася чыноўнікамі. Як мне здаецца, яна забароненая і сёння пісанымі правіламі прыёму і выстаўлення адзнак. На мой погляд, гэтая забарона – спараджэнне тых часоў, калі чыноўнік, а тым больш партыйны функцыянер, былі перакананыя ў сваёй усебаковай кампетэнтнасці, у сваім праве загадваць прафесарам і дацэнтам, як правяраць студэнцкія веды.

Сутнасць метада такая. На апошнюю перад экзаменацыйнай сесіяй кансультацыю вы запрашаеце не толькі тых студэнтаў, у каго ёсць пытанні па прачытаным вамі курсе, але і ўсіх жадаючых паспрабаваць датэрмінова здаць іспыт на «выдатна». Кансультацыя ідзе як звычайна, але калі задаецца сур’ёзнае пытанне, вы пытаецеся, хто з прысутных студэнтаў можа даць на яго поўны адказ. Таму, хто адкажа, вы адрасуеце новае пытанне. Два-тры змястоўныя адказы, і вы прапануеце дасведчанаму студэнту:

– Прыходзьце ў дзень іспыту з заліковай кніжкай, я не буду вас экзаменаваць, а проста пастаўлю «выдатна».

Студэнты, як вядома, заўсёды гатовыя на хітрыкі. За гэта іх грэх караць, але не грэх паказаць, што яны вас не абдурылі, а проста развесялілі. Прыемна пачуць праз 20-25 гадоў пасля выпуску ад былога студэнта такія словы:

– Ведаючы ваш метад прыёму на «выдатна», мы загадзя падрыхтоўвалі некалькі пытанняў і, натуральна, вычарпальных адказаў на іх. Вы ж мне сказалі, што я цягну толькі на моцную чац-

вёрку, але за добра прадуманую рэжысуру дадалі адзін бал. Дык вось, гэты ваш бал я памятаю ўжо 20 гадоў і буду памятаць усё жыццё. Паверце мне, я апраўдаў яго з лішкам сваёй працай.

* * *

Але вернемся да Ягелонскага ўніверсітэта.

Рыхтуючыся да ад'езду з Мінска, я пашкадаваў, што яшчэ не выйшаў з друку том Вялікай савецкай энцыклапедыі са словамі на літару «Я», дзе можна было б знайсці інфармацыю аб Ягелонскім універсітэце. Але маё саўкоўскае пачуццё падказвала: не могуць цэнзары дапусціць тэрмін «Ягелонскі», звязаны з чужой для савецкага чалавека каралеўскай дынастыяй, калі яго можна нечым замяніць.

І не памыліўся.

У 13 томе ВСЭ знайшоў артыкул «Кракаўскі універсітэт», які пачынаўся словамі: *«Ягелонскі ўніверсітэт, старэйшы ўніверсітэт у Польшчы, адзін з першых дзяржаўных універсітэтаў у Цэнтральнай Еўропе. Заснаваны ў 1364 Казімірам Вялікім, у 1400 рэарганізаваны Уладзіславам Ягайлам (адсюль і назва) на ўзор Парыжскага ўніверсітэта. Росквіт вучэбнага і навуковага жыцця прыходзіцца на канец 15 і пачатак 16 стагоддзяў. Універсітэт меў факультэты тэалагічны, юрыдычны, медыцынскі і вольных навук. Ён быў адзінай вышэйшай школай у Польшчы».*

Далей энцыклапедычная даведка паведамляла: у сярэдзіне 16 стагоддзя навучанне ва ўніверсітэце набыло царкоўна-схаластычны характар, у час фашысцкай акупацыі (1939–1944) ён быў зачынены, а шмат якія прафесары арыштаваныя, у 1942 годзе ўніверсітэт арганізаваў навучанне ў падполлі, пасля вызвалення Кракава аднавіў сваю працу. У 1971–1972 вучэбным годзе ў склад універсітэта ўваходзілі факультэты: юрыдычны, філасофіі і гісторыі, філалагічны, матэматыкі і хіміі, біялогіі і геаграфіі. Бібліятэка ўніверсітэта, заснаваная ў 1364 годзе, налічвала звыш 1 млн. тамоў.

Усе іншыя даступныя мне савецкія крыніцы не ўтрымлівалі нейкай цікавай дадатковай інфармацыі аб Ягелонскім універсітэце, і я спазнаваў і ўніверсітэт, і Кракаў на месцы, як кажуць, навобмацак. Шмат што адкрыў для сябе ў чытальных залах бібліятэкі, іншае – у набытых у самім Кракаве кнігах.

На ўсё жыццё запомніў нядзелю 13 чэрвеня 1974 года, калі я вырашыў прайсціся па вуліцах горада. Два тыдні знаходжання ў ім моцна распалілі маю цікаўнасць. За апошнія 17 дзён хацелася больш-менш прыстойна пазнаёміцца хоць бы з тым, што прынята называць вяршыняй айсберга: з славутымі мясцінамі, унесенымі ў турыстычныя рэкламныя праспекты.

Калі выйшаў на вуліцу, то зразумеў: планы давядзецца мяняць.

Мора людзей павольна рухалася па невядомым мне ў той час маршруце да невядомай мне тады мэты. Шэсце было добра арганізаванае. З абодвух бакоў калоны шырынёю ў праезджую частку вуліцы на адлегласці 7-8 метраў адзін ад другога ішлі манахі (магчыма, святары) у сутанах, трымаючы ў руках тоўстую вяроўку. Яны быццам бы фармавалі калону. Іншыя людзі ў сутанах неслі дынамікі, узмацняльнікі, мікрафоны.

Пытацца, што адбываецца, было няёмка. Усе, акрамя мяне, гэта ведалі, і не хацелася выглядаць, як кажуць у Расіі, сібірскім валёнкам.

Я, нарэшце, зразумеў, што гэта «фэст» ці хросны ход вернікаў. Шэсце прасоўвалася да часовых алтароў, узведзеных спецыяльна да гэтага свята. Каля кожнага алтара, якіх аказалася чатыры, рух спыняўся, і ўсе слухалі фрагмент Евангелля, а потым пропаведзь мітрапаліта Караля Вайтылы. Асабіста для мне ўсе яго пропаведзі былі бязмежна цікавымі, надзённымі і адназначна пацвярджалі, што прамоўца – чалавек неардынарны, аўтарытэтны, усімі паважаны, што ўсе рады яго слухаць і слухацца.

Змест адной з пропаведзяў, прамоўленай з алтара з выглядам на Калегіум Новум – галоўны будынак Ягелонскага універсітэта, я не забыўся да гэтага часу. Казаць такое па маім у той час савецкім разуменні здавалася надзвычай небяспечным, рызыкоўным, у першую чаргу для самога прамоўцы. Дзяржаўныя і партыйныя ўлады абвінавачваліся ім у благіх адносінах да ўніверсітэта, да адукацыі і выхавання, у крывадушнасці, ілжывасці і амаральнасці, ва ўмяшанні ў справы Ягелонскага ўніверсітэта, акт аб заснаванні якога выдаў 12 траўня 1364 года кароль Казімір Вялікі, атрымаўшы на гэта дазвол Папы Рымскага Урбана V. Намаганнямі каралевы Ядвігі ўніверсітэт у 1397 годзе атрымаў ад Папы Рымскага Баніфацыя XIX права адчыніць тэалагічны факультэт. Але недасведчаныя ўлады не хочуць пра гэта ведаць, і тэалагічнага факультэта ў Ягелонскім універсітэце сёння няма.

Праз чатыры гады – у 1978-м – мітрапаліт Кракава Караль Вайтыла стаў Папам Рымскім Янам Паўлам II. Усёй сваёй дзейнасцю ў Ватыкане Ян Павел II пацвердзіў свой статус найвялікшага гуманіста на стыку тысячагоддзяў. Паставіць з ім побач каго-небудзь проста немагчыма.

Я ж вельмі ганаруся тым, што ў снежні 1993 года мне было ўручана асабістае пасланне Яна Паўла II, у якім Яго Святасць дзякаваў Вярхоўнаму Савету і Ураду Беларусі за адраджэнне ў нашай краіне свабоды веравызнання. Больш за ўсё ў пасланні мне спадабаліся словы аб тым, што каталіцкая царква зробіць усё магчы-



*2007 год. З Яго Высокадастойнасцю кардыналам Казімірам Свёнткам на прыёме ў амбасадзе Польшчы*

мае, каб каталікі Беларусі звярталіся да Бога на роднай беларускай мове, і каб ўсе святары ведалі родную мову беларускага народа.

Нельга ў гэтай сувязі не сказаць добрых словаў і пра таго, хто прывёз мне гэтае пасланне з Ватыкана, пра чалавека з легенды – мітрапаліта Казіміра Свёнтка, якому ў 1994 годзе Ян Павел II прысвоіў самы высокі тытул у каталіцкай царкве – званне кардынала. З 1991 года ён быў першым мітрапалітам новастворанай Мінска-Магілёўскай мітраполіі і Апостальскім адміністратарам Пінскай епархіі.

Калі Казіміру Свёнтку было 3 гады, яго сям'ю саслалі ў Сібір. У перыяд пераследу вернікаў ён быў арыштаваны, асуджаны да вышэйшай меры і кінуты ў камеру смерці. Вайна перашкодзіла прывесці прысуд у выкананне, аднак у 1944 годзе – новы арышт і 10 гадоў катаржнай працы ў Сібіры, за Палярным кругам, каля Варкуты. Вызваліўшыся ў 1954 годзе, Свёнтак прыехаў у Пінск і аддаваў усе сілы дзеля адраджэння духоўнасці, аднаўлення і рэстаўрацыі касцёлаў, узмацнення пазіцыі каталіцкай царквы ў Беларусі. І так адбывалася да самага ягонага скону 21 ліпеня 2011 года.

* * *

Мой другі візіт у Ягелонскі ўніверсітэт у 1987 годзе зусім не быў падобны на першы ў 1974-м. Каб трапіць у Кракаў, мне не давялося запаўняць безліч папераў і праходзіць інструктаж у

ЦК КПСС. Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР павінна было ўключыцца ў працэс палітычных і эканамічных пераменаў, ініцыяваных Гарбачовым і названых перабудовай. Было рэкамендавана пашыраць сувязі паміж ВНУ, і Ягелонскі ўніверсітэт быў вызначаны ў якасці партнёра Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ва ўніверсітэт-партнёр на старты праверaны лад накіроўваліся ўсё тыя ж ледзь не партыйныя дэлегацыі для падпісання дамоваў аб супрацоўніцтве. Звычайна – у складзе трох чалавек: прадстаўнік парткама, камітэта камсамола і адміністрацыі. Мой рэктар – прафесар Леанід Іванавіч Кісялеўскі – чамусьці не пажадаў узначаліць дэлегацыю ў Кракаў і сфармаваў яе з двух чалавек – сакратара парткама БДУ прафесара Мікалая Іосіфавіча Юрчука і мяне.

Мы прыбылі ў Кракаў, калі ў СССР заканчваўся пачатковы перыяд перабудовы. Ён характарызаваўся прызнаннем асобных недахопаў палітыка-эканамічнай сістэмы СССР і спробамі выправіць іх некалькімі буйнымі кампаніямі адміністратыўнага характару. Антыалкагольная кампанія, паскарэнне, барацьба з непрацоўнымі даходамі, дзяржпрыёмка... Чаго толькі ні выдумлялі вышэйшыя партыйныя кіраўнікі, але ўсё заставалася па-старому. Аднак гэта быў зацішак перад навальніцаю, якая пачалася са слова «галоснасць». Упершыню яно прагучала якраз перад нашым прыездам у Кракаў.

Палякі не захапляліся перабудовачнымі лозунгамі, тым не менш, прасунуліся ў рэальным рэфармаванні грамадства далей за нас. Прывезены намі праект дамовы аб супрацоўніцтве не задавальняў кіраўнікоў ЯУ. Яны катэгарычна не пагадзіліся са словамі, якія для нас у той час заставаліся абавязковымі ў дакументах такога кшталту: «Выконваючы рашэнні такога-та з'езда КПСС і такога-та пленума ПАРП (Польскай аб'яднанай рабочай партыі)» і г.д. У Польшчы 1987 года, а тым больш у інтэлектуальных колах, ужо не было ні бяздумнага шанавання камуністычнай партыі і яе ідэалогіі, ні асуджэння прыватнай уласнасці. Да такога стану мы прыйшлі значна пазней. Польскі бок рашуча патрабаваў ачысціць тэкст дамовы аб супрацоўніцтве ад ідэалогіі і партыйнасці.

Прыйшлося толькі цешыцца, што Мікалай Юрчук быў зусім не «парткамычам», а сапраўдным прафесарам матэматыкі, і што яго ніхто не ўспрымаў у ЯУ як партыйнага кіраўніка, таму працэс «ачышчэння» дамовы ад ідэалагічных штампаў прайшоў бесканфліктна. У выніку дамова была падпісаная, а мы з Мікалаем Іосіфавічам у сім-тым разабраліся і сяму-таму навучыліся. Як кажуць сёння, вярнуліся ў БДУ больш прасунутымі. Гэта датычыла і звестак пра сам Ягелонскі ўніверсітэт, якія ўжо тады не фільтраваліся класавай цэнзурай.



*1987 год, Кракаў, Ягелонскі ўніверсітэт. Польскі і беларускі бакі гатовыя да падпісання дамовы аб супрацоўніцтве*

Ужо не замоўчвалася, што акрамя Мікалая Каперніка і Францыска Скарыны ЯУ закончылі кароль Ян III Сабескі, Караль Вайтыла (Ян Павел II), пісьменнік-фантаст Станіслаў Лем, кінарэжысёр Кшыштаф Занусі, лаўрэат Нобелеўскай прэміі паэтка Віслава Шымборска і брытанскі гісторык Норман Дэвіс – пазней мой добры знаёмец.

Сёння цяжка падлічыць, колькі разоў мне давялося бываць у Ягелонскім універсітэце – на канферэнцыях, сімпозіумах і з лекцыямі. Але трэцяе наведванне ў 1993 годзе запомнілася добра і надоўга. Яно было часткаю праграмы майго афіцыйнага візіту ў Польшчу на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Выступ перад выкладчыкамі і студэнтамі ЯУ прызначылі ў галоўным будынку ўніверсітэта – у Калегіум Новум.

* * *

Звычайна, выступы кіраўніка дзяржавы падчас афіцыйных візітаў рыхтуюцца Міністэрствам замежных справаў і ўзгадняюцца з камісіяй па замежных справах парламента. Напярэдадні візіту тэкст разам з дапрацаванай праграмай знаходжання прадстаўляецца выступоўцу для канчатковай праўкі. Аднак, на шчасце, наша Міністэрства замежных справаў да такога ўзроўню на той час яшчэ

не дарасло і прадставіла па маёй просьбе толькі даведку аб гісторыі і стане нашых двухбаковых адносінаў з Польшчай.

На шчасце таму, што я цярпець не магу ні лекцый, ні выступаў, чытаных з паперкі, хоць неаднойчы рэкамендаваў маладым выкладчыкам кафедры напісаць поўны канспект чытанай студэнтам лекцыі. Не павінна быць больш за 8 старонак тэксту і формулаў, у выключным выпадку – 10. Пры гэтым дадаваў: увайшоўшы ў аўдыторыю, пакладзіце канспект перад сабой на кафедру і пераканайцеся, што ў вас няма патрэбы яго разгортваць, калі вы сапраўды валодаеце матэрыялам. Дастаткова мець перад сабой адзін аркуш фармата А4 з планам лекцыі, ключавымі словамі і формуламі.

Сёння на лекцыях шмат у чым дапамагае кампутар і спалучаны з ім праектар, але ні ў якім выпадку ён не павінен замяняць галаву, г.зн. служыць крыніцаю інфармацыі для самога лектара!

* * *

Выходжу на трыбуну ў самай вялікай зале Ягелонскага ўніверсітэта ў Калегіум Новум. У першых шэрагах шмат твараў, лёгка пазнаваных, хоць з часоў маёй працы ў ЯУ прайшло 18 гадоў! Ну як тут строга адпавядаць пратаколу і прытрымлівацца падрыхтаванага тэксту?

Паводжу сябе так, як раіў маладым лектарам. А правільную даваў параду! Цалкам спакойны, бо перада мною акуратна аддрукаваны поўны тэкст выступу па-польску, правераны і ўдакладнены добрым знаўцам польскай мовы. Пачну збівацца – адгарну і дачытаю. Але гэта не спатрэбілася. Адносіны залы да Беларусі, што стала на шлях незалежнасці, добразычлівыя, а я – яе афіцыйны прадстаўнік!

Пасля заканчэння выступу – пытанні, мора пытанняў. Найбольш – аб Белавежскім пагадненні, аб Віскулях. Аб тым, як мы з Ельцыным і Краўчуком рашыліся на такі крок – заявіць усяму чалавецтву, што няма больш монстра, які пагражаў свету ядзернымі ракетамі, выганяў цэлыя народы са сваіх зямель, катаваў свой уласны народ у Гулагу. Як хапіла мужнасці ўзяць на сябе адказнасць за мірны пераход ад прымусовага аб'яднання – СССР – да добраахвотнай Садружнасці Незалежных Дзяржаваў. У кароткіх рэмарках з месца – нагадванне аб тым, што Белавежская пушча – беларускае і польскае агульнае багацце.

Фінал даваў усе падставы напісаць аб выступе і сустрэчы так, як гэта рабілася ў савецкіх газетах: бурныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю, раздаюцца выгукі: *«Niech żyje Białoruś!»*, *«Жыве Беларусь!»*.

Аднак у Мінску паралельна з высокай адзнакай візіту і выступу ў Ягелонскім універсітэце не абышлося без крытыкі. Пры першай

жа сустрэчы з Зянонам Пазняком я пачуў ментарскі павучальны голас:

– Вы зрабілі чарговую грубую палітычную памылку, выступіўшы ў Ягелонскім універсітэце на польскай мове. Нельга так дагаджаць заходняму суседу, з якім у нас няпростая гісторыя.

Я нічога не адказаў, але, шчыра кажучы, здзівіўся. Зянон Станіслававіч афіцыйна ўваходзіў у дэлегацыю, як, дарэчы, і Васіль Быкаў. І яны абодва ніякіх заўвагаў не рабілі.

Па нашай просьбе польскі бок адшукаў на кракаўскіх Ракавіцкіх могілках магілу беларускага паэта Алеся Гаруна. Мы наведалі могілкі, пераканаліся, што магілу даглядаюць, усклалі кветкі.

Што ж адбылося пасля?

А куфэрак адчыняўся проста. Давялося яшчэ раз пераканацца, што скрайнія правыя і скрайнія левыя з вялікай ахвотай аб'ядноўваюцца, калі знаходзяць агульнага ворага. У дадзеным канкрэтным выпадку сышліся ў поглядах старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазняк і тагачасны міністр замежных справаў Пётр Краўчанка, які меў багаты досвед служэння справе КПСС як сакратар Мінскага гаркама партыі па ідэалогіі і як памочнік сакратара ЦК КПБ. Менавіта ён, вярнуўшыся з Польшчы, пераконваў чальцоў фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце ў тым, што я здрадзіў інтарэсам Беларусі, «забыўшыся пра тое, што дзяржаўная мова ў нас – беларуская».

Акрамя задавальнення сваёй асабістай да мяне непрыязні Краўчанка дэманстраваў такімі дзеяннямі сваю адданасць прэм'ер-міністру Вячаславу Кебічу, паказваў наколькі ён умелы, можа без усялякіх падставаў стварыць «кампрамат» на мяне і настроіць супраць мяне БНФ. Сам жа Кебіч увесь час выдаваў сябе за майго вялікага сябра, ніколі не дазваляў сабе зрабіць нават малыя заўвагі на мой адрас. Працуючы на перспектыву, на тое, каб з дапамогаю старой наменклатуры атрымаць прэзідэнцкае крэсла, Кебіч меў патрэбу ў дапамозе менавіта такога чалавека – знешне інтэлігентнага, адукаванага, актыўнага і разам з тым не абцяжаранага паняткамі маралі, гонару і праўдзівасці.

Не абвінавачвайце мяне за тое, што назваў Пятра Кузьміча Краўчанку чалавекам без сумлення і гонару. Значна раней за мяне гэта зрабіў у сваёй кніжцы «Искушение властью» сам першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі Вячаслаў Кебіч, бо і яго Краўчанка ўрэшце «дапёк». У мяне ж такі погляд на яго сфармаваўся даўно.

## Польшча, недзяржаўная адукацыя

Калі з-за помслівасці нашага прэзідэнта і чарговага парушэння ім канстытуцыі я быў пазбаўлены прызначанай мне паводле

закона пенсіі, своечасова прыйшла прапанова заснавальніка прыватных вышэйшых школаў бізнесу Кшыштафа Паўлоўскага прачытаць у гэтых школах лекцыі. Запытаўся наконт тэматыкі. Паўлоўскі адказаў:

– Вызначыць тэмы і колькасць лекцый павінны вы самі. Вучэбныя планы школаў у Новым Сончы і Тарнове складзеныя паводле прынцыпу навучання ў чыкагскім National-Louis University. У гэтых планах прадугледжаныя лекцыі вядомых палітыкаў. Як правіла, яны самі прапаноўваюць і тэмы, і колькасць лекцый.

Тым лепш, падумаў я, рыхтавацца практычна не трэба. Раскажу аб тым, што добра ведаю. Але ў хуткім часе зразумеў, што ўсё не так проста, трэба ж будзе абгрунтаваць і Паўлоўскаму, і студэнтам, што мае меркаванні маюць прынцыповае значэнне для сучасных палітычных рэаліяў. І гэта ва ўмовах поўнай свабоды мас-медыя і доступу да Сеціва. У выніку падрыхтоўка да лекцый аказалася больш працаёмкай і складанай, чым у выпадку канкрэтна прапанаванай тэматыкі.

Падчас знаходжання ў Новым Сончы ў мяне была магчымасць разабрацца ў тым, што зрабіў Кшыштаф Паўлоўскі ў Польшчы, і параўнаць яго дзейнасць са зробленым прыхільнікамі недзяржаўных ВНУ ў Беларусі. Сам Паўлоўскі – выпускнік Ягелонскага ўніверсітэта, фізік, кандыдат навук Горна-металургічнай акадэміі ў Кракаве, дзейнічаў, як належыць бізнесмену. Вывучыў попыт, зразумеў, што атрымліваць дыплом нядаўна створанай ВНУ наўрад ці нехта захоча. Пачаў з малога, стаў рыхтаваць сакратароў бізнесменаў. Тэрмін навучання – тры гады. Дамовіўся з National-Louis University ў ЗША, што будзе кіравацца іх праграмамі, плюс невялікі дадатак мясцовай спецыфікі.

Першы год навучання – засваенне англійскай мовы, з другога курса – англійская становіцца асноўнай моваю навучання. На некаторыя заняткі і на выпускныя экзамены запрасіў спецыялістаў з таго ж National-Louis University, каб яны пераканаліся, што студэнты праграму іх амерыканскага ўніверсітэта засвоілі. У выніку афіцыйна падпісаных з амерыканскім універсітэтам пагадненняў каледж Паўлоўскага ў Новым Сончы і Тарнове выдаваў дыплом амерыканскага ўніверсітэта. У створаныя Паўлоўскім вучэбныя ўстановы пацягнуліся не толькі грамадзяне Польшчы, але і замежныя студэнты, у прыватнасці, маладыя людзі з ЗША, якія за значна меншую плату, чым у Амерыцы, маглі атрымаць амерыканскую адукацыю, а дзеці грамадзянаў ЗША польскага паходжання маглі не толькі засвоіць праграму National-Louis University, але і польскую мову ўдасканаліць. Немалаважную ролю адыграў і той фактар, што пражыванне ў Новым Сончы або Тарнове абыходзіцца значна танней, чым не толькі ў ЗША, але і ў Варшаве, Уроцлаве, Кракаве і іншых вялікіх гарадах.

Заняткі праводзіліся ў выкупленым за параўнальна невялікія грошы адміністратыўным будынку былога завода жалезабетонных вырабаў, які збанкрутаваў пасля апрабавання новых тэхнагогій у будаўніцтве. Будынак быў разумна мадэрнізаваны. Мяне ж уразіла літаральна стэрыльная чысціня холаў і калідораў на ўсіх шасці паверхах.

– Як вам гэта ўдаецца? – запытаў я ў рэктара Паўлоўскага.

– Гэта мой маленькі сакрэт, але вам я яго адкрыю. Сямейны падрад. Усе калідоры і холы на ўсіх паверхах прыбірае адна жанчына, калі яна адлучаецца – яе дачка. У іх адна-адзіная, але вельмі сучасная машына для вільготнай прыборкі, практычна бязгучная. Прыбіраюць у час лекцый, адпачываюць у перапынках. Два паверхі за лекцыю, і так увесь дзень. Таму чыста.

І як тут ні пасмяяцца над модным у савецкі час выразам: «Чыста не там, дзе прыбіраюць, а там, дзе не смецяць».

Ці можа быць такая прыватная вучэбная ўстанова ў Беларусі?

Пры сённяшнім светаглядзе, адукаванасці і менталітэце нашых чыноўнікаў і заканадаўцаў – ні ў якім разе. Чыноўнікі захочуць кантраляваць, правяраць, навязаць ідэалагічныя курсы, увесці пасаду прарэктара па ідэалагічнай працы, абавязаць атрымаць ліцэнзію на права выдання дыплома. Усё гэта пры належным законе аб адукацыі і належным яго выкананні – мітусня.

Дзяржава не можа быць гарантам якаснай адукацыі ў канкрэтнай навучальнай установе. Разумнаму кіраўніку такое і ў галаву не прыйдзе. Прэзідэнт ЗША не гарантуе якасці адукацыі ў Гарвардзе, Ельскім, Калумбійскім ці Каліфарнійскім універсітэтах, аб гэтым клапоцяцца самі ўніверсітэты. Прэзідэнт ЗША або Францыі не ўручае дыпломы дактарам навук, хоць усе гэтыя прэзідэнты былі выдатнымі студэнтамі. Наш жа, які наўрад ці быў выдатнікам у студэнцкія гады, уручае. Смешна. Але для сатрапаў каля трону – вышэйшая ступень захаплення: сам прэзідэнт палічыў магчымым...

## Польшча, сталіца

У 1997 годзе рэктар Варшаўскага ўніверсітэта прафесар Уладзімеж Сівінскі даслаў мне ліст-запрашэнне прачытаць лекцыю пра Садружнасць Незалежных Дзяржаваў. Яна праходзіла ў самай вялікай аўдыторыі ўніверсітэта – Рыцарскай зале. Студэнтаў на лекцыі, на мой погляд, амаль не было. Зала была цалкам запоўненая людзьмі больш сталага веку. Атмасфера ў зале была вельмі дабразычлівай, пытанні задаваліся ў ветлівай форме. Натуральна, што мне ўсё гэта спадабалася, і ў далейшым я імкнуўся не адмаўляцца ні ад аднаго запрашэння Варшаўскага ўніверсітэта,

хоць з-за майго падарожніцкага стылю жыцця гэта не зусім проста было рабіць. Здараліся накладкі.

Пачынаючы з 1998 года, я рэгулярна чытаў лекцыі ў летніх міжнародных маладзёвых школах, арганізаваных пры ВУ чалавекам, добра вядомым усяму ўніверсітэту і далёка за яго межамі, – Янам Маліцкім. Ён узначальвае ў Польшчы і фінансаваную польскім урадам Праграму Каліноўскага – заняткі і ўсе іншыя формы навучання і побыту ў Польшчы студэнтаў з Беларусі.

Гісторыя Варшаўскага ўніверсітэта – прыклад бязлітаснага задушэння польскага патрыятызму расійскім самадзяржаўем. Універсітэт быў заснаваны ў 1816 годзе і адчынены 20 верасня 1817 года – пры Аляксандры I. Пасля Лістападаўскага паўстання 1830 года ўніверсітэт быў зачынены. Як універсітэт ён адкрыўся ізноў толькі пры Аляксандры II у 1869 годзе, пры гэтым яго статут стаў тыповым статутам расійскіх універсітэтаў – ніякіх элементаў самакіравання. Руская мова прымусова панавала ва ўніверсітэце, усё справаводства да 1917 года вялося толькі на рускай мове.

Пасля 1917 года пачалі вяртацца еўрапейскія падыходы. Тэрмін паўнамоцтваў рэктара ўніверсітэта – тры гады. Ён можа быць пераабраны на другі тэрмін толькі адзін раз. У студзені 2005 года я атрымаў запрашэнне ад новага рэктара выступіць на «рэктарскім семінары» ў новай, самай вялікай зале ВУ, якая тады яшчэ не мела назвы.

Большасць слухачоў – студэнты. Вёў семінар рэктар – генетык з сусветнай вядомасцю, прафесар Пётр Венгленскі. Я ізноў быў




*Абвестка аб маёй лекцыі ў Варшаўскім універсітэце*



*2005 год, студзень. Прэзідыум рэктарскага семінара Варшаўскага ўніверсітэта. Другі справа – рэктар ВУ прафесар Пётр Вянгленскі*

усцешаны ўвагаю залы і цёплым прыёмам. Пасля гэтага семінара, які фундаваў клуб бізнесменаў Варшавы, я неаднаразова чытаў лекцыі ў летніх маладзёвых школах. У мяне нават склаўся тандэм з прэзідэнтам Літвы Валдасам Адамкусам – ён чытаў уступную інаўгурацыйную лекцыю на англійскай мове, я – фінальную, на польскай. Такія працоўныя мовы сучасных маладзёвых школаў у Варшаўскім універсітэце.

## Аб каталіцкім універсітэце і «маім помніку»

Абрэвіятура KUL вядомая кожнаму грамадзяніну Польшчы. Гэта першыя літары назвы Каталіцкага ўніверсітэта імя Яна Паўла II ў Любліне – Katolicki Uniwersytet Lubelski Jana Pawła II. Аднак мала хто ведае, што да з'яўлення і станаўлення KUL маюць дачыненне Санкт-Пецярбург і расійскія рэвалюцыі.

Падчас маёй працы ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве ў 1974 годзе я жыў у аспіранцкім інтэрнаце «OLIMP» у адным з двух пакояў так званага бокса. На два асобныя пакоі была адна «лазенка» з умывальнікам, ваннай і душам. У другім пакоі бокса жыў стажор з KUL – юрыст Адам Гансяроўскі. У маленькім агульным уваходным пакойчыку мы міжволі сутыкаліся, бо прыкладна ў адзін час адыходзілі і прыходзілі з універсітэта. У выніку пазнаёміліся і пачалі заходзіць адзін да другога на гарбату, а то і на глыток віна.

Адам быў адным з тых рэдкіх ідывідуумаў, да якіх чамусьці абсалютна без усялякіх падставаў пранікаешся даверам. Мы даволі часта шчыра абменьваліся думкамі.

Аднойчы размова зайшла аб святарах, і я «паплакаўся», што адчуваю за сабою вялікую віну за не лепшым чынам выкананую перадсмяротную просьбу майго дзеда – Пятра Іосіфавіча Шушкевіча. Адам папрасіў расказаць падрабязней.

Дзед у канцы 1951 года перадаў праз маю стрыечную сястру Валю, што вельмі хоча мяне бачыць, і я прыехаў да яго ў вёску. Ён загадаў мне яго не перабіваць і даць магчымасць выказацца.

– Сыны мае Бронісь і Франак загінулі на фронце, твой бацька Стах гніе ў Сібіры, твой дзядзька Вацэк – у Карэлію на будаўніцтва завербаваўся, Янак – самы малодшы, хоць і працавіты, але толькі армію адслужыў, у глушы недзе, таму мысліць па-тутэйшаму, па-вясковаму. Другая справа – ты з Валяю. А просьба ў мяне сур'ёзная. Хачу, каб пахавалі мяне на нашых вясковых могілках па праваслаўным абрадзе і абавязкова са святаром.

Я паспрабаваў было нешта ўставіць. Маўляў, аб чым ты, дзед, табе жыць ды жыць. Але ён не дазволіў і працягваў:

– Дык вось, абавязкова са святаром. Я – праваслаўны, і хачу быць пахаваны як праваслаўны. І не спрачайся, не кажы, што мне паміраць яшчэ рана.

Ваяўнічы атэізм таго часу, навязаны камуністычнай партыяй, вымушаў вернікаў хаваць свае погляды, каб не страціць працу або наогул не быць прылічанымі да ворагаў народа. Знайсці святара было няпроста.

Праз тры месяцы – у лютым 1952 года – дзед памёр, а наша з сястрою папярэдне зробленая падрыхтоўчая праца дала вынік: святара ў траскучы мароз прывезлі. Прывезлі на кані з вёскі Слабада, што кіламетраў за 50 ад дзедавай вёскі Шчытомірычы. І хоць абсалютна недапушчальна так казаць і думаць у дзень пахавання, але сястра Валя і я былі шчаслівыя: дзедаў запавет быў выкананы!

Аднак цешыліся мы рана. Пахаванне са святаром у 1952 годзе было падзеяй небывалай. Калі б камітэт камсамола, парткам ці дэканат майго ўніверсітэта ведалі, што я маю дачыненне да яго арганізацыі, то я б куляй вылецеў са студэнтаў, а сястра Валя – з «няпыльнай» працы. З такімі «несвядомымі» тады толькі так і абыходзіліся. Але пасля пахавання адбылося зусім нечаканае.

Знойдзены за краем свету святар усім спадабаўся і паводзіў сябе бездакорна. Адмовіўся ўвайсці ў хату, пакуль не будзе выраблены і пастаўлены каля труны крыж. Махаў кадзілам, голасна і вельмі доўга маліўся ў хаце і ў траскучы мароз на могілках. Аднак на памінках пасля пахавання... напіўся так, што не мог ісці. Як сноп саломы, кінулі мы яго ў сані, захуталі ў аўчыну, і сусед па-

вёз яго назад у Слабаду. Я ж успрыняў гэта як абразу памяці майго сапраўды праваслаўнага дзеда-верніка.

Па вялікім рахунку я, відаць, памыляюся. З кожным можа здарыцца непрадбачанае. Шмат, вельмі шмат каму я дараваў і горшае. Але памяць дзеда грукоча ў маё сэрца, да гэтага часу крыўдна.

Слухаючы мяне, Адам не прамовіў ні слова, потым заўважыў:

– Падчас маёй вучобы ў KUL цяперашні мітрапаліт Кракава Караль Вайтыла быў там прафесарам этыкі і маральнага багаслоўя. Не думаю, што хто-небудзь з яго вучняў, наогул з каталіцкіх святароў, манахаў, манашак, служыцеляў касцёла можа праявіць маральную неахайнасць. Мы захоўваем маральнасць і духоўнасць толькі дзякуючы касцёлу. Хопіць таго, што ў нас, ды і ў вас, улада далёкая ад маральнасці і духоўнасці.

Я хацеў было, у адпаведнасці з атрыманымі ў ЦК КПСС інструкцыямі, папрасіць не абагульняць, але падумаў, што застукаць нас няма каму, мы толькі ўдваіх. Адам працягнуў:

– Калі вы ўбачыце дзе-небудзь у Польшчы нецвярозага ксяндза, неакуратную манахіню, служыцеля касцёла ці манаха, або пачуеце ад іх грубае слова, то лічыце, што каталіцызм скончыў сваё існаванне на польскай зямлі, што мы – католікі – не заслугоўваем дастойнага жыцця, што нармальнай Польшчы ніколі не будзе...

З той пары, вось ужо амаль сорак гадоў, я прыглядаюся да служыцеляў каталіцкага касцёла ў Польшчы, а апошнія 20-25 гадоў і да ксяндзоў у Беларусі, і пранікаюся перакананнем, што Адам меў рацыю. Яны – палякі – прыйшлі, а мы – грамадзяне Беларусі – ідзем і абавязкова прыйдзем да нармальнага жыцця.

А плямы ёсць і на сонцы.

Адам быў цікавым расказчыкам, вельмі любіў свой KUL, параўноўваў яго з другім універсітэтам Любліна, які носіць імя найвыдатнейшай полькі Марыі Складоўскай-Кюры.

Ад яго я даведаўся, а ў далейшым удакладніў, што KUL быў і застаецца ўніверсітэтам недзяржаўным і нерэлігійным, які дае адукацыю ў галіне тэалогіі, кананічнага права і кіравання, а таксама ў галіне гуманістыкі, грамадзянскіх, прыродазнаўчых навук, матэматыкі, права і эканомікі.

Заснаваны KUL у 1918 годзе пасля закрыцця ў Санкт-Пецярбургу каталіцкай семінарыі. У аргкамітэт па стварэнні ўніверсітэта ўваходзілі знакамітыя польскія інтэлектуалы. Яны лічылі сваім абавязкам забяспечыць фармаванне новай каталіцкай інтэлігенцыі для зноўку незалежнай Польшчы шляхам глыбокага вывучання як рэлігійных, так і навуковых дысцыплінаў у духу гармоніі навукі і веры. Канферэнцыя архіепіскапаў Польшчы на чале з нунцыем Акіле Раці, які пазней стаў папам Піем XI, 27 ліпеня 1918 года ўхваліла план аргкамітэта па стварэнні ўніверсітэта ў

Любліне, а ў чэрвені 1922 года ўніверсітэт пераехаў у будынак былога дамініканскага кляштара.

Падчас фашысцкай акупацыі Польшчы ўніверсітэт быў зачынены і зноў адчыніўся 21 жніўня 1944 года – пасля вызвалення горада савецкімі войскамі.

Другая люблінская ВНУ – дзяржаўны Універсітэт імя Марыі Кюры-Складоўскай (Uniwersytet Marii Curie-Skłodowskiej) быў заснаваны камуністычнымі ўладамі Польшчы ў 1944 годзе. Задумваўся ён як канкурэнт KUL, фінансаваўся дзяржавай і павінен быў пераўзысці KUL ва ўсіх адносінах, зацьміць яго. Тым не менш, грамадзяне Польшчы праявілі дастойную салідарнасць і не далі прынізіць ні KUL, ні кінуць цень на новы ўніверсітэт, якому было прысвоена імя адной з самых выдатных полек – двойчы лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі Марыі Кюры-Складоўскай. Адзін дзень у тыдзень усе касцёлы камуністычнай Польшчы збіралі ахвяраванні на функцыяванне KUL, і ён выжыў. Сёння абодва ўніверсітэты плённа супрацоўнічаюць.

У 2003 годзе мяне запрасіў у Люблін на паліталагічную канферэнцыю легендарны прафесар KUL Ежы Клачоўскі – герой антыгітлераўскага Варшаўскага паўстання, які шматразова праявіў надзвычайную асабістую мужнасць і страціў у бойцы з фашыстамі руку. Ён старшыняваў тады на пленарным паседжанні канферэнцыі па палітычных праблемах Усходняй Еўропы і чытаў лекцыі ў летняй палітычнай школе Варшаўскага ўніверсітэта. Я таксама быў удзельнікам канферэнцыі і лектарам.

Клачоўскі прапанаваў працягнуць размову на канферэнцыі ў KUL, пасля чаго я пачаў бываць у Любліне часцей.

У канцы траўня 2009 года рэктар KUL, прафесар Станіслаў Вільк накіраваў мне ліст, у якім паведаміў, што Каталіцкі ўніверсітэт імя Яна Паўла II рапачаў працэдуру па прысваенні мне звання ганаровага доктара KUL – за актыўную дзейнасць па збліжэнні народаў. У лісце гаварылася, што ўрачыстасці па ўручэнні дыплома ганаровага доктара адбудуцца 1 ліпеня ў галоўным корпусе ўніверсітэта ў межах святкавання 440-годдзя падпісання Люблінскай уніі.

Я ж знаходзіўся ў той час у Польшчы ў Кашаліне і пра ліст нічога не ведаў. У Кашалін перамясцілася тады арганізаваная Еўрасаюзам выстава «Тэрмаядзерны сінтэз». Мяне запрасілі прачытаць там інаўгурацыйную лекцыю. І вось 4 чэрвеня 2009 года, уваходзячы ў самую вялікую аўдыторыю Кашалінскага політэхнічнага інстытута, каб пачаць лекцыю, я ўбачыў на вялізным кампутарным экране віншаванне з прысваеннем мне звання доктара Honoris Causa Каталіцкага ўніверсітэта імя Яна Паўла II ў Любліне. Так сталася, што пра гэта паведаміў ужо не толькі інтэрнэт-сайт KUL, але і СМІ Польшчы.

Шэсць чалавек былі ўганараваныя званнем доктара Honoris Causa Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне ў дзень 440-годдзя падпісання Люблінскай уніі:

Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус,
Прэзідэнт Эстоніі Тоомас Гендрык Ілвес,
Прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка,
Прэзідэнт Польшчы Лех Качынскі,
Прэзідэнт Латвіі Валдзіс Затлерс,
Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

З іх на ўрачыстасці ў Люблін прыбылі толькі чацвёра – Адамкус, Юшчанка, Качынскі і я. Адсутныя ўзнагароджаныя накіравалі ў Люблін сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў. Па запрашэнні прэзідэнта Леха Качынскага наша чацвёрка і ўпаўнаважаныя прадстаўнікі Залтэрса і Ілверса прыляцелі з Варшавы на ваенную авіябазу недалёка ад Любліна. Прычым, на тым самым самалёце ТУ-154, які 10 красавіка 2010 года разбіўся пад Смаленскам, пазбавіўшы жыцця каля ста чалавек. Цяжка і балюча пра гэта ўзгадваць і ў Польшчы, і ў Расіі, і ў Беларусі. Сумнавядомая Катынь, дзе на загад Сталіна былі расстраляныя тысячы польскіх афіцэраў, працягвае збіраць свае ахвяры. Праклятае месца адабрала жыцці людзей простых і людзей шырокавядомых – выдатных прадстаўнікоў польскай палітычнай, ваеннай, дзелавой і рэлігійнай эліты. Беларусь страціла ў гэтай катастрофе



*2009 год, Варшава. У Каралеўскім замку з Прэзідэнтам Польшчы Лехам Качынскім*

сваіх уплывовых сяброў – прэзідэнта Леха Качынскага, яго жонку Марыю, прэзідэнта II Рэчы Паспалітай на эміграцыі Рышарда Качароўскага, які перадаў сімвал прэзідэнцкай улады II Рэчы Паспалітай дэмакратычна абранаму Прэзідэнту III Рэчы Паспалітай Леху Валэнсу. Больш за дзесяць чалавек, што загінулі ў катастрофе, я добра ведаў асабіста. Памяць аб іх – назаўсёды ў маім сэрцы.

Вяртаючыся да працэдуры ўзнагароджання дыпломамі ў KUL, адзначу, што праводзілася яна ў строгай адпаведнасці са старажытнымі еўрапейскімі ўніверсітэцкімі традыцыямі. Перад пачаткам урачыстага паседжання ўсе тыя, каго ўзнагароджвалі, апранулі падараваныя ім доктарскія мантыі і шапачкі. Паслядоўнасць узнагароджванняў была праведзеная ў парадку лацінскага алфавіта – ад Адамкуса да Залтэрса. Рашэнне сената ўніверсітэта аб узнагароджанні і фармулёўкі з дыпломаў зачытваў на лаціне рэктар, прафесар Station Станіслаў Вільк. Дзейнасць кожнага з узнагароджаных асвятляў у сваім выступе лаўдатар (ад лацінскага laudator – хваліцель, панегірыст). Я вельмі ганаруся, што ў маім выпадку гэта быў узгаданы вышэй легендарны прафесар Ежы Клачоўскі – герой Варшаўскага паўстання, дырэктар Інстытута Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Кожнаму ўзнагароджанаму былі ўручаныя дыплом, факсімільная копія Люблінскай уніі ў натуральную велічыню, зашклёная ў драўлянай акантоўцы, і памятныя сувеніры Любліна і KUL.

Не абышлося і без інцыдэнтаў. У час пешага пераходу ўдзельнікаў урачыстасцяў на цэнтральную плошчу Любліна сярод тысячаў грамадзянаў, якія віталі шэсце, была арганізаваная група чалавек з 50-60 з лозунгамі і плакатамі, якія заклікалі прэзідэнта Украіны Ючшанку пакараць украінцаў, вінаватых у злачынствах на польскай зямлі падчас Другой сусветнай вайны.

Я ішоў побач з Віктарам Андрэевічам і бачыў яго рэакцыю. Ён зусім перастаў быць падобным на таго Віктара Ючшанку, з якім я сустракаўся шмат разоў, напрыклад, у 1997 годзе, калі ён быў старшынёй Нацыянальнага банка Украіны, і мы абодва былі ўзнагароджаныя прэстыжнай міжнароднай прэміяй імя Піліпа Орліка. На ўсю ноч ён затрымаў тады на працы некалькіх супрацоўнікаў банка і з захапленнем разам з імі расказваў, якім чынам Украіна  забяспечвае стабільнасць нацыянальнай валюты. Гэтая і наступныя сустрэчы пераканалі мяне ў яго найглыбейшай прыстойнасці, чалавечнасці і ўзорным украінскім патрыятызме.

Ідзем мы, і ў мяне ўзнікае натуральнае жаданне неяк супакоіць Віктара Ючшанку, які, трэба сказаць, трохі занерваваўся.

– Пакаранне – гэта ж справа суда і праваахоўных органаў, – кажу яму я, – а законы, па якіх можна караць – прэрагатыва парламента.




*Ганаровая табліца пры ўваходзе ў KUL*

– Калі нацыя падымаецца з каленяў, – адказвае Юшчанка, – несправядліва прыніжаныя і абражаныя людзі, на жаль, патрабуюць пакарання тых, каго яны лічаць вінаватымі ў сваіх пакутах, тымі ж метадамі, якімі іх саміх ставілі на калені.

Наш трохі падпсаваны настрой, выкліканы пратэстантамі, працягвае яшчэ некаторы час пагаршацца, а потым хутка ідзе на папраўку на радаснай святочнай плошчы, дзе з прамоваю выступіў мэр Любліна і з вельмі кароткімі прывітаннямі ўсе чацвёра ўзнагароджаныя. Да пачатку свайго выступу пасвятлеў і Прэзідэнт Юшчанка. Плошча з захапленнем вітала яго кароткую змястоўную прамову. Асабліва горача быў прыняты выступ Прэзідэнта Польшчы Леха Качынскага. Потым мы ўсе накіраваліся ва ўніверсітэт, дзе адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі, умураванай у сцяну галоўнага будынку KUL. На ёй высечаныя імёны ўсіх дактароў Honoris Causa, якія атрымалі гэтае званне ў гонар 440-годдзя Люблінскай уніі.

Так я ўвайшоў у кагорту тых, каму пры жыцці адкрылі помнік.

## Таямніца, якую сем гадоў захоўвала жонка

Так ужо вядзецца: калі ў цябе ёсць улюбёны занятак, то абавязкова знойдуцца перашкоды, каб ім займацца. Мой улюбёны занятак – прымаць гасцей у сябе дома, але толькі ў дзень нараджэння ніхто не перашкаджае мне рабіць гэта так, як мне падабаецца.

З канца 90-х віншаванні мне даводзілася прымаць часцей па тэлефоне. Менавіта ў дзень нараджэння я аказваўся дзе-небудзь далёка ад дому. Так было і ў 1999-м. 12-17 снежня мне ў адпаведнасці з даўно ўзгодненым са мною акадэмічным планам прыйшлося чытаць лекцыі ў прыватнай эканамічнай школе ў Варшаве. Увечары 15 снежня, у дзень свайго нараджэння, я запрасіў некалькіх сваіх сяброў у невялікую кавярню ў цэнтры горада паблізу ад гатэля, у якім жыў.

У час нашага сціплага застолля афіцыянт паклікаў мяне да тэлефона (мабільнікаў у той час амаль не было), маўляў, тэлефануе жонка. Такога я не чакаў. Знайсці мяне па тэлефоне за мяжой, у кавярні, пра якую ведалі толькі запрошаныя! Але жонка не стала тлумачыць, як знайшла мяне, і запатрабавала тэрмінова вярнуцца ў Мінск, бо ў яе на руках квіткі на самалёт і запрашэнне для мяне за акіян на ўмовах, «якія мне і не сніліся».

У выніку 19 снежня 1999 года я прыляцеў у Вашынгтон і стаў стажорам-даследнікам у Цэнтры Вудра Вільсана. Чаму і як я туды трапіў, мне стала вядома толькі ў 2007 годзе, хоць жонка, як яна тады ж растлумачыла, абяцала захоўваць таямніцу толькі пяць гадоў.

Паступова асэнсаваўшы, што такое Цэнтр Вудра Вільсана (ЦВВ), я запытаў у намесніка дырэктара па даследніцкай працы спадара Ван Дзюзана, подпіс якога быў на запрашэнні:

– Чаму вы мяне сюды запрасілі? Я ж не падаваў просьбы на атрыманне стыпендыі, а конкурс у вас вялікі і правілы жорсткія: на стыпендыю «могуць прэтэндаваць даследнікі, якія валодаюць выдатнымі здольнасцямі і ўнікальным досведам», а я нават гуманітарнай адукацыі не маю.

Адказ быў вычарпальным:

– Гэта распараджэнне спадара дырэктара Лі Гамільтана, а яго думку нельга ставіць пад сумнеў. У яго больш чым трыццацігадовы досвед кангрэсмена.

Але запытаць пра гэта ў спадара Лі Гамільтана я не адважыўся і падумаў, што з цягам часу ўсё высветліцца. Прытрымліваючыся прыказкі «падараванаму каню ў зубы не заглядаюць», я супакоіўся. Адмовіцца ад стыпендыі, якая ў даляравым эквіваленце амаль у 20 разоў перавышала мой заробак на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета, я, а тым больш мая жонка, палічылі абсалютна нелагічным. У выніку да 28 красавіка 2000 года я жыў і працаваў у Вашынгтоне.

Маючы шчодрую амерыканскую стыпендыю, ніяк не мог прызвычаіцца да вымушанага амерыканскага марнатраўства. У тым жа даляравым падліку прадукты харчавання каштавалі разоў у 7-8 даражэй, чым у Мінску. Месячная плата за кватэру, якую я быў абавязаны зняць, была 1000 даляраў у месяц. Так што ў ЦВВ грошы лёгка да мяне прыходзілі і яшчэ лягчэй мяне пакідалі.

Перашкодаў пры жаданні адлучыцца з Вашынгтона не было, і я злётаў за гэты час на канферэнцыю ў Токіо, потым у Чыкага і Таронта – з публічнымі лекцыямі. Па запрашэнні выступіў з дакладамі ў прэстыжных Гарвардскім і Калумбійскім універсітэтах. Сустрэўся з амерыканцамі беларускага паходжання ў Нью-Ёрку, Саўт Рыверы, Чыкага і іншых месцах. Ды і сам Вашынгтон з яго музеямі, галерэямі, помнікамі і архітэктурай быў маім чарговым універсітэтам.

Іншымі словамі, мае вандроўніцкія памкненні былі задаволеныя тут, як ніколі раней. Дарэчы, чатыры месяцы і адзін тыдзень стажыроўкі былі самым працяглым маім расстаннем з родным Мінскам.

Адна з мэтаў стажораў-даследнікаў Цэнтра Вудра Вільсана – «садзейнічаць разуменню важных палітычных працэсаў сучаснасці ва ўзаемадзеянні з палітычнымі дзеячамі ў Вашынгтоне і з супрацоўнікамі Цэнтра». Адрозненне паміж статусамі супрацоўніка і стажора ў былых савецкіх і ў большасці постсавецкіх паліталагічных даследніцкіх установах відавочнае. Паспрабуй сёння сказаць, што беларуская дзяржаўная ідэалогія складаецца з недарэчнасцяў, і ты у той жа час вылеціш з больш-менш утульнай гуманітарнай установы Беларусі. А будзеш дэманстраваць вернападданніцтва, усхваляць правадыра – станеш шанаваным у прыдворных колах. Больш за тое, пры наяўнасці таленту халуя зможаш трапіць у нікому непатрэбныя Савет рэспублікі або палатку – на «стыпендыю», як генерал Мікалай Чаргінец, акадэмік Анатоль Рубінаў ці прыдворны журналіст Павел Якубовіч.

А ў ЦВВ трэба падрыхтаваць справаздачу «ў галіне гуманітарных навук па нацыянальных і міжнародных праблемах, улічваючы развіццё дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці, а таксама асэнсоўваючы асноўныя выклікі, перад якімі стаяць ЗША і іншыя краіны свету».

Трэба – дык трэба. З маёй негуманітарнай адукацыяй гэта няпроста, але я цвёрда вырашыў – зраблю ўсё, каб не адрознівацца ад тых, хто трапіў у ЦВВ па конкурсе. Хоць стажаваліся тут выпускнікі дыпламатычных і паліталагічных аддзяленняў самых прэстыжных універсітэтаў свету, якія бліскуча праявілі сябе на дастаткова высокіх дзяржаўных пасадах і ў грамадска-палітычнай дзейнасці глабальнага маштабу. Віцэ-прэзідэнты ЗША (Альберт Гор), дзяржсакратары (Мадлен Олбрайт), міністры ці намеснікі міністраў

замежных справаў Расіі і многіх іншых еўрапейскіх, азіяцкіх, афрыканскіх і лацінаамерыканскіх краінаў.

Стажор ЦВВ – вольны чалавек, адзіны яго абавязак – адзін раз у тыдзень не прапускаць без папярэджання навуковы семінар. Да паслугаў стажора – бібліятэка з вольным доступам да кніг і перыёдыкі. У яе можна прыходзіць у любы час дня і ночы: індывідуальная картка ID («айдзі») аўтаматычна адчыняе ўсе дзверы. Гэтая ж картка дазваляе з 8 да 23 гадзін прыходзіць у адведзены вам офіс з цудоўным кампутарам і тэлефонам для бясплатных званкоў у любы штат ЗША.

У рэкрэацыі на трэцім «стажорскім» паверсе сядзіць увесь час усмешлівая Лінзі – дабразычлівая сакратарка, абстаўленая дысплеямі, факсамі, тэлефонамі і найсучаснейшымі капіявальнымі прыладамі. З яе дапамогай кожны стажор можа бясплатна патэлефанаваць у любую краіну, бясплатна адправіць пасылку, але толькі з кнігамі і толькі на свой хатні адрас.

Апошняй магчымасцю я захапіўся звыш меры, бо выявіў вельмі цікавую асаблівасць амерыканскага жыцця. Кнігі ў ЗША дарагія. Але ёсць гіганцкія крамы-склады, якія ў нас зваліся б букіністычнымі, бо яны гандлююць патрыманымі кнігамі. Звычайна, у такіх крамах прадаюцца кнігі ў добрым стане, а іхні кошт вызначае супрацоўнік-гандляр па адных яму вядомых правілах. Калі вы палічыце, што названы кошт вам не па кішэні, маеце права адмовіцца ад пакупкі.

Адкуль жа бяруцца такія кнігі?

Усё растлумачыў мне прафесар універсітэта ў Балтымары з рускім імем – Бакунін Андрэй Мсціслававіч, які не меў, аднак, ніякіх сваяцкіх адносінаў з вядомым марксістам. Яго малалетняга бацьку, асірацелага ў 1918 ці ў 1919 годзе, прыняў у сваю сям'ю нейкі расійскі чыгуначны начальнік, выхаваў як сына і перавёз у Амерыку. Я пазнаёміўся з Бакуніным на семінарах ЦВВ. Дзякуючы яго бездакорным рускай і англійскай мовам, а таксама тактоўнасці, я адчуваў сябе побач з ім не пасіўным сведкам таго, што адбывалася, а актыўным удзельнікам спрэчак, семінараў і спатканняў. Ён надзвычай дакладна адчуваў словы і думкі выступоўцаў, якія не даходзілі да маёй неангламоўнай свядомасці, і шэптам тлумачыў мне на чысцюткай рускай мове сутнасць выступу. Падчас перапынкаў шмат расказваў пра сябе. Лічыць сябе амерыканцам, эмігрантам у другім пакаленні, вельмі ганарыцца расійскім паходжаннем, адданы традыцыям расійскіх інтэлігентаў. Ведае парадкі на постсавецкай прасторы. Сітуацыю з кнігамі выклаў так:

– Я не магу паступаць як большасць амерыканцаў. Для мяне развітанне з кнігаю – цяжкая страта, хоць я выдатна разумею,

што амерыканцы дзейнічаюць правільна. Гэта адно з наступстваў развітога рынку працы. Вы пераязджаеце на новае месца жыхарства – па сямейных абставінах, на больш высока аплатную або на больш упадабаную працу. Амерыканцы, як правіла, не перавозяць у новы дом ці кватэру лядоўню, пральную і сушыльную машыны, грувасткую мэблю і... большасць кніг. Адвозяць іх у бліжэйшую амерыканскую «букіністычку» і прадаюць за вельмі сціплую цану. Часам увогуле аддаюць бясплатна, кіруючыся меркаваннем: я прачытаў, хай іншыя прачытаюць.

А далей у вельмі далікатнай форме спадар Бакунін папракнуў мяне ў марнатраўстве пры набыцці кніг для ўнучкі, якая была тады дашкольніцай, і для сына, які заканчваў школу і вырашыў паступаць на эканамічны факультэт універсітэта.

– За практычна такія ж слоўнікі з цудоўнымі малюнкамі і кнігі па эканоміцы, якія я бачыў у вашым офісе, у краме скарыстаных кніг вы заплоціце не па 30-40 даляраў, а па 3-5, а то і па даляры-два. Можам заўтра паехаць у такую краму. Я дапамагу вам там зарыентавацца і саступлю багажнік майго б'юіка для транспартавання набытага.

– Андрэй Мсціслававіч, не магу адмовіцца і з удзячнасцю прымаю вашую прапанову.

Так з'явіліся 17 пасылак з кнігамі, адпраўленыя мною ў Мінск. Нягледзячы на налепкі «BOOKS ONLY» і штамп Цэнтра Вудра Вільсана, амаль усе яны былі распакаваныя беларускай мытнай службай, абы як запакаваныя ізноў з дадаткам акта: «недазволеных укладанняў няма».

Запомнілася сустрэча з донарамі ВВЦ у сакавіку 2000 года. Найбольш уплывовaю асобай на сустрэчы была элегантная жанчына паважнага веку – сястра памершага ў 1978 годзе 38-га віцэ-прэзідэнта ЗША Губерта Хамфры-малодшага (Hubert Humphrey, Jr.). Як малады сенатар, Хамфры праславіўся афарыстычнымі словамі сваёй прамовы перад канвенцыяй Дэмакратычнай партыі ЗША ў 1948 годзе: ***«Прыйшоў час Дэмакратычнай партыі ўпэўненым крокам выйсці з цемры правоў штатаў на яркае святло правоў чалавека»***.

Сястра Хамфры нязменна называла мяне Шушкавіч (з націскам на «у») і запытала, чаму я прыехаў без жонкі. Не дачакаўшыся заканчэння майго адказу, звярнулася да маладога чалавека, які яе суправаджаў.

– Майкл, зрабіце ўсё неабходнае, каб жонка прэзідэнта Шушкавіча неадкладна прыляцела сюды.

Як толькі донары паехалі, Майкл не прыйшоў – прыбег да мяне ў офіс з перакладчыкам і стаў літаральна ўпрошваць мяне неадкладна патэлефанаваць жонцы, каб яна як мага хутчэй прыляцела ў Вашынгтон.

– Мы вернем ёй усе выдаткі на пералёт туды і назад па любым маршруце, калі трэба – сустрэнем у аэрапорце.

Я запэўніў Майкла, што жонка з радасцю прыляціць без усялякіх затрымак, і што я патэлефаную яму адразу ж пасля яе прыбыцця ў Вашынгтон. У выніку ўсё так і адбылося. 27 сакавіка мая Ірына прыляцела ў Вашынгтон. Адзінае, чаго ніяк не мог зразумець Майкл, як мая жонка ўмудрылася набыць квіткі на цягнік Мінск–Масква (туды і назад) і на самалёт Масква-Вашынгтон (таксама туды і назад) за нейкіх 800 даляраў. Мне ж Ірына патлумачыла ўсё даходліва і проста:

– Гэта ў цябе тут вялікая стыпендыя. А мы там жывем, як і раней. І 800 даляраў – фантастычныя грошы! Мне няпроста было іх пазычыць. А яшчэ цяжэй – у іх укласціся. На шчасце, цяпер не турыстычны сезон, і праз інтэрнэт я знайшла мноства ільготных варыянтаў, з якіх выбрала самы танны.

Пры сваёй пазасталай савецкай ментальнасці я доўга не мог зразумець, навошта сястра Хамфры запрасіла маю жонку. Пасля аплаты Майклам панесеных жонкай выдаткаў аб ёй ніхто і не ўспомніў. Калі я падзяліўся з Ірынай сваімі думкамі, то атрымаў адказ, першую частку якога лепей не ўзгадваць:

– Савок ты! Цывілізаваныя людзі заўсёды ездзяць у цывілізаваныя краіны з жонкамі, калі ў стане іх паездку аплаціць. Абмежаваўшы неабавязковыя выдаткі, ты і сам мог запрасіць мяне сюды за сваю стыпендыю. Вось табе і падцерлі нос...

За тры месяцы – да прылёту Ірыны – я вельмі добра разабраўся ў тым, як сплянаваны і пабудаваны Вашынгтон і яго бліжэйшае наваколле, і мог гадзінамі паказваць тутэйшыя архітэктурныя і ландшафтныя цікавосткі жонцы. Яна ж аказалася значна лепшым, чым я, знаўцам мастацкіх галерэяў і культурных цэнтраў. Гэта быў «сухі астатак» ад яе індывідуальнай жаночай праграмы ў сталіцы ЗША падчас майго афіцыйнага візіту ўлетку 1993 года. Яе тады не толькі правезлі і правялі па найбольш вядомых музеях і мастацкіх галерэях, але і надарылі вялікай колькасцю праспектаў, кніжак і іншых інфармацыйных матэрыялаў. У адрозненне ад мяне Ірына пасля вяртання ў Мінск не адвезла іх на лецішча, а грунтоўна вывучыла. Таму з яе прыездам наш побыт у Вашынгтоне стаў яшчэ больш цікавым.

29 красавіка 2000 года пасля паспяхова абароненай мною справаздачы аб зробленай у ЦВВ працы мы разам з Ірынаю вярнуліся ў Мінск.

* * *

Толькі ў 2007 годзе жонка адкрыла мне таямніцу, якую абавязалася захоўваць пяць гадоў. Высветлілася, 15 снежня 1999 года

яе запрасіў да сябе амбасадар ЗША ў Рэспубліцы Беларусь спадар Дэніэл Спекхард.

– Спадзяюся, што вы ўмееце захоўваць таямніцы, – сказаў ён. – Тое, аб чым я вам скажу, можна расказваць каму хочаце, але толькі праз пяць гадоў. Мы маем звесткі, што ваш муж можа знікнуць так, як зніклі міністр Захаранка і дэпутат Ганчар. Вось вам квіток на самалёт і запрашэнне для вашага мужа ў Вашынгтон. Адлёт 19 снежня.

## Аб Гарвардзе, Сахараўскім коледжы і шатландскім віскі

Тэарэтычна я пазнаёміўся з Гарвардскім універсітэтам у 1989–1992 гадах. Гэтаму, сам таго не ведаючы, пасадзейнічаў дацэнт кафедры ядзернай фізікі Аляксандр Міхайлавіч Люцко, запрасіўшы прафесара Гарвардскага ўніверсітэта Рычарда Вільсана ў апякунскі савет Сахараўскага коледжа ў Мінску. Вільсан у размовах на розныя тэмы часта згадваў аб Гарвардзе і ўвесь час падкрэсліваў, што галоўная перавага гэтага ўніверсітэта – набор навучэнцаў паводле здольнасцяў, без увагі на статус іх бацькоў і магчымасць плаціць за навучанне. Калі я ўдакладніў, што галоўнае – веды ці здольнасці, ён падкрэсліў: здольнасці і працавітасць. Гэта прычыны, веды – вынік.

– Выдаткі на навучанне і пражыванне часткова і нават цалкам могуць быць пакрытыя за кошт мэтавых стыпендый і пазыкаў. Каля 70% студэнтаў Гарварду атрымліваюць наўпроставую фінансавую дапамогу ад універсітэта. У іх ліку – замежныя студэнты. А вось здольнасцяў не дадасі, яны ад Бога, – казаў прафесар Вільсан.

Як гарачы прыхільнік падтрымкі таленавітай моладзі, ён пераконваў мяне, што нельга камплектаваць студэнцкія групы па сацыяльных, маёмасных, нацыянальных і ім падобных прыкметах, што інвестыцыі ў адукацыю менавіта таленавітай працавітай моладзі – шлях да росквіту любой краіны, у тым ліку і Беларусі.

– За сотні гадоў мы ў Гарвардзе засвоілі менавіта такі падыход, захоўваем яго і стараемся ўдасканальваць. Шукаем і знаходзім спалучэнне таленту і працавітасці.

Многія мае калегі і я таксама хацелі б навучыцца правільна ацэньваць здольнасці абітурыентаў, але ў лепшым выпадку назіраем толькі іх веды ці кемлівасць. Таму, слухаючы прафесара Вільсана і не маючы ніякіх падставаў яму не верыць, я лавіў сябе на думцы, што хацеў бы пабываць у яго альма-матэр, гэтай цытадэлі навукі і адукацыі – Гарвардзе і зразумець, як дасягнулі яны такіх ашаламляльных вышыняў і сталі не проста старэйшым прыватным універсітэтам ЗША, але і ўніверсітэтам з сусветнай вядомасцю і славай.

Лёс аказаўся да мяне прыхільным. Я пабываў у Гарвардзе, і не аднойчы!

Першае запрашэнне ў гэты ўніверсітэт прыйшло ў пачатку 2000 года, калі я быў стажорам-даследнікам у Вашынгтоне. У тэлефоннай слухаўцы гучаў чысцюткі рускі голас без усялякага акцэнту:

– Я Аляксей Буланаў, аспірант Гарвардскага ўніверсітэта з Расіі, быў два дні таму ў Ілінойсе і слухаў вашае інтэрв'ю для рускага радыё Чыкага. Патэлефанаваў на радыё і здабыў нумар вашага тэлефона. Мой навуковы кіраўнік і дырэктар рускага цэнтра Гарвардскага ўніверсітэта хацелі б запрасіць вас сюды з лекцыяй аб сустрэчы ў Белавежскай пушчы ў 1991 годзе. Я тэлефаную вам па іх даручэнні.

Як кажуць у Адэсе, злётаць у Амерыцы з Вашынгтона ў Гарвард не цяжэй, чым фунт разынак з'есці. Менавіта так сказала мне па тэлефоне з Чыкага, запрашаючы ў гэты горад для інтэрв'ю і публічнай лекцыі Марта Лідас – энергічная адэсітка, якая даўно пераехала ў ЗША і змяніла сваё доўгае габрэйскае прозвішча на прозвішча свайго мужа-грэка.

– Запрашайце, – адказваю аспіранту з Расіі, які пакуль яшчэ Аляксей, але хутка стане Алексам. Тут так прынята. Называю яму нумар «свайго» факса, дакладней – факс-машыны ва ўсеагульнай улюбёнкі сакратаркі ЦВВ Лінзі. І літаральна праз паўгадзіны яна прыносіць мне запрашэнне з апісаннем як, куды і калі прыляцець, хто сустрэне, як і кім будуць кампенсаваныя выдаткі і выплачаны ганарар.

Лячу ў Бостан, за 6 кіламетраў ад яго – Кембрыдж, у ім галоўныя будынкі Гарвардскага ўніверсітэта. На выхадзе з аэрапорта ў натоўпе сустраканцаў стаіць невысокі малады чалавек з двухметровым кіем, да верху якога прышпіленая паперка са словамі STANISLAW SHUSHKEVICH. Гэта Аляксей, ён прыехаў за рулём аўтамабіля, каб адвезці мяне ў Рускі цэнтр Гарварда.

Па дарозе слухаю расказ Аляксея аб тым, што такое Гарвард. Большую частку таго, аб чым ён гаворыць, я ўжо ведаю. Пачуў ад прафесара Вільсана і прачытаў у кнігах бібліятэкі ЦВВ.

Але лічбы ўражваюць. Старэйшы ўніверсітэт Амерыкі заснаваны ў 1636 годзе, больш за 6 тысячаў студэнтаў, больш за 12 тысячаў аспірантаў. Сярод выпускнікоў – 8 прэзідэнтаў Злучаных Штатаў, сярод навучэнцаў і супрацоўнікаў – 49 лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі. 75 нобелеўскіх лаўрэатаў былі звязаныя з універсітэтам як студэнты, выкладчыкі ці супрацоўнікі.

Мне ж у гэтым свяцілішчы навукі трэба прачытаць дзве лекцыі – адну для супрацоўнікаў Рускага цэнтру, другую, з перакладам, для тых, хто прыйдзе па аб'яве на ўніверсітэцкім сайце.

На першай лекцыі мяне прадставіў вядоўца – намеснік дырэктара цэнтра. У кампліментарным тоне расказаў маю біяграфію і дадаў:

– У зале – 47 чалавек, што для мяне нечакана многа, бо супрацоўнікаў цэнтра тут толькі трыццаць. Але ўваход у нас вольны, і я рады вітаць усіх, хто нашымі справамі цікавіцца.

Я ж, у адрозненне ад вядоўцы, не проста здзіўлены, а шакаваны. Не яго словамі, а тым, што ў першым шэрагу сядзіць Клара Саламонаўна Рукшына, якая ў першыя дні майго прарэктарства ў БДУ літаральна дапякла мяне сваімі няспыннымі наведваннямі. Я ведаў, што яна зусім нядаўна эмігравала ў ЗША, але не мог сабе ўявіць, што яе ўзялі на працу ў гэты найвядомейшы ў свеце гадавальнік прэзідэнтаў і нобелеўскіх лаўрэатаў – Гарвард.

* * *

Наўрад ці ведае Клара Саламонаўна Рукшына, што да паспяховай абароны ёю доктарскай дысертацыі ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук СССР у канцы 80-х мела дачыненне мая бабка Франя ці Францішка Рафаілаўна Раманоўская (Камейша), якая памерла ў 1964 годзе.

А гэта так!

Бабка, сапраўдная хрысціянка-каталічка, увесь час вучыла мяне шукаць у людзях добрае і нагадвала пра гэта ў кожным зручным выпадку.

– Знайсці ў чалавеку дрэннае вельмі лёгка, лягчэй, чым добрае, яно на паверхні, – казала бабка Франя, – а ты шукай добрае, яно заўсёды ёсць, але схаванае. Толькі тады людзей любіць будзеш, толькі тады зможаш шчаслівым стаць.

У выпадку з Кларай Саламонаўнай пошук добрага быў задачай не з лёгкіх. Яе страшэнна не любілі на кафедры. Не любілі як чалавека, але паважалі як спецыяліста. Яна закончыла Інстытут замежных моваў, вольна валодала англійскай, абараніла кандыдацкую дысертацыю па гісторыі. Выкладала, была патрабавальнай, але студэнты на яе не скардзіліся. Лічылі справядлівай.

На кафедры склалася звычайная, часта сустраканая ў нашых ВНУ сітуацыя, калі выкладчык кафедры, на якой няма дактароў навук, спрабуючы абараніць доктарскую дысертацыю, як бы кідае выклік усім астатнім. Астатнія стыхійна аб'ядноўваюцца дзеля супрацьстаяння. Заслухоўваюць прэтэндэнта на кафедры і рэкамендуюць яму дапрацаваць, выправіць, палепшыць, бо не да твару кафедры рэкамендаваць да абароны «няспелую» дысертацыю. Такое «заслухоўванне» можа безвынікова паўтарацца шмат разоў.

Кафедра адпрэчвала ўсе намаганні Рукшыной прадставіць да абароны яе доктарскую дысертацыю, і з першага майго працоўнага дня ў якасці прарэктара па навуковай працы я быў вымушаны выслухоўваць яе скаргі з гэтай нагоды.

Запрасіў загадчыка кафедры, на якой Рукшына працавала, перагаварыў з выкладчыкамі. Усе адзінагалосна выказаліся: якая там дысертацыя, бязглуздзіца, і толькі! Наперакладала з англійскай мовы чужых думак і тэкстаў і выдае за свае.

А Клара Саламонаўна атакоўвае. Прыносіць мне свае публікацыі, просіць прачытаць фрагменты дысертацыі.

– Дык я ж не спецыяліст у гістарычнай навуцы, па вялікім рахунку нічога ў ёй не разумею.

– Гэта яны, Станіслаў Станіслававіч, не хочуць нічога разумець у гістарычнай навуцы, пераказваюць студэнтам старыя байкі, не бачаць новага. А вы зразумееце!

Чарговым разам абяцаю падумаць, як ёй дапамагчы. Прызнаюся, што не вельмі ўяўляю, як гэта зрабіць. Клара Саламонаўна сыходзіць, а я пачынаю гартаць і выбарачна чытаць старонкі пакінутага рукапісу... Добры стыль, выразныя азначэнні, дастаткова лаканічныя фармулёўкі. У яе можна павучыцца таму, што я ўвесь час патрабую ад сваіх аспірантаў: калі ў вас ёсць думка, не размазвайце яе на старонку. Умясціце ў абзац!

Праз дзень сакратар зноў паведамляе: дацэнт Рукшына просіць яе прыняць.

Запрашаю, прашу не перабіваць:

– Паважаная Клара Саламонаўна, я не магу ўмешвацца ў ваш канфлікт з калектывам кафедры хоць бы таму, што не выпадае лічыць мяне адмыслоўцам у гістарычнай навуцы. Зноў жа, я не магу ўсумніцца ў навуковай дасведчанасці вашых калегаў. У бліжэйшыя дні я пастараюся дамовіцца з кампетэнтнай арганізацыяй, каб там прайшла ваша перадабарона. Мне па пасадзе дадзена на гэта права, і я падпішу вам ліст у гэтую арганізацыю без афіцыйнага прадстаўлення кафедры.

– Прабачце, але ў Мінску няма ні арганізацыі, ні навуковага савета, якія не прыслухоўваліся б да голасу маіх незычліўцаў.

– Я гэта даўно зразумеў і не маю намераў шукаць такую арганізацыю ні ў Мінску, ні ў Беларусі. Але калі вы ў гэтай арганізацыі, прабачце за грубасць, праваліцеся, то крыўдуйце самі на сябе і не звяртайцеся больш да мяне ніколі.

– А калі не правалюся?

– Тады з вас пляшка сапраўднага віскі.

Прыехаўшы ў Маскву, тэлефаную старшыні самага прэстыжнага савета па абароне дысертацый дадзенага профілю, якога ніколі не бачыў і не ведаю. Называю сябе, прашу мяне прыняць. Адказвае – прыязджайце. Тлумачу, што, парушаючы агульнапрынятыя этычныя нормы, хачу накіраваць у іхні савет дысертацыю без перадабароны ва ўніверсітэце, дзе яна падрыхтаваная.

Смяецца, просіць не спасылацца на размову з ім, не называць яго прозвішча. Кажа, што я вельмі далікатны, што не бачыць

у маім дзеянні парушэння нейкіх нормаў, што незалежна ад таго, ці была недзе перадабарона, ці не была, без перадабароны ў іхнім інстытуце савет дысертацый не разглядае.

А далей – казка для дарослых пра брыдкае качаня.

Дысертацыю Клары Саламонаўны прымаюць да абароны ў Маскве, у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук СССР. Даволі хутка адбываецца яе паспяховая абарона. Наступныя падзеі раскручваюцца так, хоць распачынай крымінальную справу аб карупцыі.

Клара Саламонаўна прыязджае да мяне на лецішча з элегантным пакетам несавецкага паходжання. А ў ім – літровая (!) пляшка сапраўднага шатландскага віскі.

І вось прайшло гадоў дзесяць, і я бачу Клару Саламонаўну ў Гарвардзе. Бачу не як абываталя, які выпадкова зазірнуў на адкрытую лекцыю, а як паўнапраўнага супрацоўніка самага прэстыжнага ўніверсітэта, супрацоўніцу самога Рычарда Пайпса – сусветна вядомага прафесара-гісторыка.

Якімі ж не заўважанымі мною і кафедраю якасцямі павінна была валодаць гэтая жанчына, каб так працаўладкавацца за акіянам! Відаць, у Гарвардскім універсітэце, ды і ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук у Маскве, здольныя зусім па-іншаму, чым у нас у Мінску, ацаніць навуковыя дасягненні. Там не спрабуюць іх абясцэньваць з-за таго, што аўтар дасягненняў некаму не падабаецца.

Мая першая лекцыя ў Гарвардзе закончылася звычайна, як і іншыя лекцыі за мяжой. Было шмат пытанняў. Але, пераважна, не па галоўнай тэме, а аб тым, што наогул адбываецца на постсавецкай прасторы, і куды ідуць былыя рэспублікі Савецкага Саюза.

Пасля лекцыі і кава-паўзы з супрацоўнікамі Рускага цэнтра Клара Саламонаўна палічыла сваім абавязкам паказаць мне Гарвард, за што я да гэтага часу ёй вельмі ўдзячны, значна болей, чым за пляшку.

Прагульваючыся па начных вуліцах кампусаў Гарварда, я даведаўся, што самымі непрыступнымі нават для вельмі таленавітых абітурыентаў лічацца ва ўніверсітэце медыцынскі і юрыдычны факультэты: паступіць сюды надзвычай складана. Самыя папулярныя праграмы падрыхтоўкі бакалаўраў – праграмаванне, мікраэлектроніка і робататэхніка. Сярод магістарскіх праграмаў найбольшую цікавасць выклікаюць эканоміка і фінансы.

Для лепшых студэнтаў юрыдычнага факультэта заснаваныя спецыяльныя стыпендыі, у іх ліку і самая прэстыжная – стыпендыя імя акадэміка Сахарава. У Вышэйшай школе кіравання пры ўніверсітэце, якая носіць імя Джона Ф. Кенэдзі, існуе конкурс на стыпендыі для атрымання магістарскай ступені ў галіне дзяржаўнага адміністравання.

Нешта падобнае, як вядома, заўсёды было і ў нашых ВНУ: імянныя стыпендыі для лепшых студэнтаў, заняткі па

індывідуальным плане. Але ў нас наўрад ці калі-небудзь здарыцца такое, каб у любы час сутак вы змаглі зазірнуць у бібліятэку, напрыклад, у аддзел перыёдыкі, знайсці без чыёй-небудзь дапамогі і прачытаць свежыя газеты з любой краіны свету. У тры гадзіны ночы, калі я з чыстай цікавасці зайшоў у чытальную залу перыёдыкі бібліятэкі Гарвардскага ўніверсітэта, то апынуўся там зусім не самотным і змог, праўда, з дапамогай бібліятэкара, знайсці «Народную волю» і любую беларускую рэспубліканскую газету трох-пяцідзённай даўніны. Усё ў гэтай зале настолькі проста арганізавана і размешчана, што пры наступным наведванні дапамога супрацоўніка бібліятэкі мне наўрад ці спатрэбіцца.

Раней лічылася, што савецкія людзі чытаюць больш за ўсіх астатніх у свеце. Магчыма, гэта так і было. Але вось умовы для чытання ў амерыканцаў значна лепшыя. Узяць у бібліятэцы кнігу ці здаць патрабуе мінімальных платаў часу. Выбіраеш у бібліятэцы кнігу, у білет чытача ўпісваецца дзень яе атрымання і дата, да якой кнігу трэба вярнуць. Вярнуць можна ў любы дзень і ў любы час дня і ночы. У бібліятэку заходзіць не трэба, з аўтамабіля выходзіць таксама не трэба. Кантэйнер-прыёмнік, які нагадвае павялічаную ў разоў пяць паштовую скрыню з адтулінай на ўзроўні шкла аўтамабіля, размешчаны ўпрытык да праезджай часткі вуліцы каля бібліятэкі. Кінуў у яго кнігу, і едзь далей.

Бібліятэкі ў ЗША бясплатныя, але за затрымку кнігі звыш дазволенага часу плаціцца штраф, і вельмі вялікі.

* * *

Другім разам я прыехаў у Гарвард у 2005 годзе. Ізноў не абышлося без нечаканасцяў. Рускі цэнтр застаўся на тым самым месцы, захоўваў даўнія традыцыі, але займеў новую назву – Дэвідсан-цэнтр. Ён стаў так называцца ў памяць пра чалавека, паводле тэстаменту якога цэнтру былі перададзеныя вялікія грошы. Пры такой «не нацыянальнай» назве прасцей зразумець, чаму тут раўназначнай па статусе можа быць украінская і беларуская тэматыка. Менавіта ўкраіназнаўцы былі ініцыятарамі майго другога запрашэння ў Гарвард. У зале на сустрэчы са мною была вялікая група ўкраінцаў з канадскага Таронта, якія разам са сваімі гарвардскімі калегамі радаваліся, здаўшы ў друк чарговы том іх сумеснай працы – Украінскай энцыклапедыі.

**Канектыкут, Нью-Хэвен, Ельскі ўніверсітэт**

Мне пашчасціла быць лектарам у трох універсітэтах ЗША, што ўваходзяць у гэтак званую Лігу плюшча, – Гарвардскім, Ельскім і

Калумбійскім. Назву лізе дала расліна, што абвівае старыя будынкі ўніверсітэтаў. Усяго ў гэтым нефармальным аб'яднанні восем коледжаў і ўніверсітэтаў. Іх пазіцыі ніколі не апускаюцца ніжэй пятнаццатага радка ў рэйтынгу часопіса U.S. News and World Report.

Адпраўляючыся ў паездку, заўсёды шукаю ў Вялікай савецкай энцыклапедыі (ВСЭ) інфармацыю аб гарадах і ўстановах, дзе давядзецца пабываць. Для мяне і сёння невядома, чаму ў ВСЭ няма ні слова пра Ельскі ўніверсітэт (ЕУ). Не згадваецца ён і ў артыкуле аб штаце Канектыкут, у якім ЕУ знаходзіцца. Магчыма, таму, што ў ім не так шмат студэнтаў (на сёння – 5300). Але ён, безумоўна, элітны, і аспірантаў у ім больш, чым студэнтаў – 6100! Ды і заснаваны ён раней за Маскоўскі ўніверсітэт – у 1701 годзе. Магчыма, аб ЕУ няма згадкі ў ВСЭ таму, што на яго гербе надпіс «Святло і Ісціна» дадзены не толькі па-лацінску («Lux et Veritas»), але і на іўрыце?

Так ці іначай, але ў легендарны Ельскі ўніверсітэт я трапіў. Трапіў, дзякуючы знаёмству з вядомым амерыканскім пісьменнікам, двойчы лаўрэатам Пулітцэраўскай прэміі Рычардам Роўдсам – аўтарам кніг аб стварэнні ядзернай і вадароднай бомбаў. Ён у сваю чаргу даўно супрацоўнічаў з маім даўнім знаёмым Юрыем Арэхвам – беларусам, народжаным ў Мінску і воляю лёсу закінутым у Амерыку.

Юра па адукацыі – фізік-ядзершчык, у 1986 годзе, працуючы ў Аргонскай нацыянальнай лабараторыі ЗША ў наваколлі Чыка-



*2003 год, бухта Сан-Францыска. Ірына і я на мемарыяльным ветразёвіку з пісьменнікам Рычардам Роўдсам і яго жонкай Джынджэр*

га, так зажадаў пабываць на сваёй радзіме – Беларусі, што дамогся ад свайго кіраўніцтва стажавання на ўзначаленай мною кафедры ў БДУ.

Стажоры заўсёды выступаюць з дакладам на навуковым семінары. Юра выступіў на беларускай мове. Такім чынам, у 1986 годзе, упершыню ў пасляваеннай гісторыі ў БДУ адбыўся першы беларускамоўны навуковы семінар па фізіцы. Мы, зразумела ж, не сказалі яму пра гэта, стараліся па-беларуску задаваць пытанні і па-беларуску весці дыскусію. Атрымалася нядрэнна. У некаторых выпадках дапамагла англійская, пасіўнае веданне якой было асноўным прынцыпам вывучэння моваў у савецкіх ВНУ.

Добрай беларускай мове Юру навучылі бацькі, якія пасля вайны доўга вандравалі па Еўропе і ўрэшце атрымалі грамадзянства ЗША. Бацька Юры – Аркадзь Арэхва, жывучы ў Заходняй Беларусі, сябраваў з Максімам Танкам, які ўжо тады быў вядомым паэтам.

Да майго прыезду ў ЦВВ Юра пераехаў на працу ў прыгарад Вашынгтона Сільвер Спрынг – у Федэральную службу кантролю за ядзернымі рэактарамі. У Вашынгтоне і адбылася наша сумесная з Юрам сустрэча з Рычардам Роўдсам. Многія мае амерыканскія справы былі спланаваныя менавіта падчас гэтай сустрэчы. Найперш Рычард сказаў, што ён упаўнаважаны запрасіць мяне з лекцыямі аб сустрэчы ў Віскулях у сваю альма-матэр – Ельскі ўніверсітэт, прафесарам якога з'яўляецца. Калі я згодзен, мне будзе накіраванае афіцыйнае запрашэнне. Я, натуральна, з радасцю



*1988 год. Юры Арэхва ў гасцях у Максіма Танка – даўняга сябра свайго бацькі. Здымак мой – С. Ш.*

згадзіўся і ўвосень 2000 года прыляцеў у Нью-Ёрк, дзе мяне чакаў аўтамабіль, каб адвезці з аэрапорта JFK (Джона Фітцджэральда Кэнэдзі) у Нью-Хэвен, да якога па амерыканскіх мерках рукою падаць – 130 кіламетраў.

Мне хацелася адразу ж забіць некалькі зайцоў, што звычайна не атрымліваецца, але тут удалося. Рэч у тым, што раней у Ельскі ўніверсітэт перабралася мая цудоўная аднакурсніца, якую ўсе мы, выпускнікі фізфака Белдзяржуніверсітэта 1956 года, іначай, як Іначка, не завем да сённяшняга дня.

Дык вось, нашая чароўная Іначка (дзявочае прозвішча Курылава) неаднойчы ў студэнцкія гады заяўляла, што абавязкова звяжа свой лёс з нейкай далёкай будоўляй камунізму. Потым гэтае захапленне згасла, і таленавітая Іначка бліскуча абараніла ў Маскве дысертацыю, вывучыла англійскую мову і пераехала са сваім чарговым і вельмі разумным, як і ўсе папярэднія, мужам у ЗША. Там, у адрозненне ад менш таленавітых эмігрантаў з кандыдацкай (па-заходняму – доктарскай) ступенню, яна не пайшла мыць посуд або няньчыць чужых дзяцей, а палічыла сябе вартай стаць супрацоўніцай Ельскага ўніверсітэта. І, ведай нашых, стала!

Даведаўшыся, што я запрошаны ў «Yale University», яна сустрэла мяне ў аэрапорце, прыехаўшы туды на аўтамабілі разам са сваім мужам, каб па дарозе «нагаварыцца дасхочу, нікому не перашкаджаючы, пакуль муж Валодзя будзе круціць стырно».

Па дарозе я даведаўся, што ў Ельскім універсітэце 12 кампусаў і дзевяць факультэтаў.

Кожны кампус уключае ў сябе сталовую, бібліятэку, пакоі для заняткаў і залу для сходаў, займае цэлы гарадскі квартал, ствараючы, як напісана ў рэкламным праспекце, «непаўторную атмасферу студэнцкага жыцця».

Самы вядомы сёння факультэт – медыцынскі, заснаваны ў 1810 годзе, у якім працавалі на момант майго наведвання сем нобелеўскіх лаўрэатаў. Найвялікшыя конкурсы на факультэты мастацтваў, дзе рыхтуюць музыкаў, мастакоў і акцёраў. Самымі папулярнымі сярод абітурыентаў лічацца кафедры біялогіі, хіміі і біяхіміі, фізікі, астраноміі, матэматыкі і аховы навакольнага асяроддзя. Найбольш прэстыжныя аспіранцкія спецыяльнасці – біямедыцына, прыкладная хімія, інжынерныя навукі, вылічальная тэхніка, геафізіка, малекулярная біяфізіка.

Студэнтаў і супрацоўнікаў, якія валодаюць рускай мовай, у Ельскім універсітэце дастаткова, і мая першая лекцыя ішла без перакладу, хоць аўдыторыя чалавек на 200 была практычна запоўненай. Некалькі чалавек разам з Рычардам Роўдсам сядзелі каля грамадзянкі Канады ўкраінскага паходжання Галіны Грынь, запрошанай з Таронта ў якасці выкладчыка сучаснай украінскай



*2000 год, Ельскі ўніверсітэт. Злева направа: Валодзя Волаг з жонкай Інай Голуб (мая былая аднакурсіца Іна Курылава), аўтар кнігі, Галіна Грынь, пісьменнік Рычард Роўдс і кіраўнік акадэмічнага аддзела ЕУ*

мовы. Яна цудоўна ведала рускую мову і дапамагала сваім суседзям мяне зразумець.

Пасля лекцыі Галіна была маім гідам і перакладчыкам, паказала і расказала мне шмат чаго цікавага. Высветлілася, напрыклад, што адна з прызначаных для візіт-прафесараў кватэраў, у якой мяне пасялілі і дзе я з непаўторным хваляваннем цэлы вечар грэўся каля старажытнага каміна пры святле не менш старажытных электрыфікаваных кандэлябраў, зусім не старая. А старадаўнія кандэлябры, перароблены (на мой погляд) у электрычныя люстры, зусім не кандэлябры, а звычайныя электрычныя свяцільні. Сам будынак таксама зусім не стары, хоць і нагадвае асабняк 17–18 стагоддзяў. Архітэктар пабудаваў яго і мноства іншых будынкаў універсітэта ў 30-я гады мінулага стагоддзя, аднак усе яны сваім выглядам нібы падказваюць: паглядзіце, якія мы старажытныя, але якія якасныя! Наогул, 30-я гады мінулага стагоддзя былі гадамі бурнага развіцця старадаўняга Ельскага ўніверсітэта. На вырабе зброі і здабычы нафты мясцовыя бізнесмены зараблялі вялікія грошы і шчодра аплочвалі рахункі ўніверсітэта, неабходныя для яго ўдасканальвання і развіцця.

– Як вы думаеце, што гэта такое? – запыталася Галіна Грынь, калі мы пад'ехалі да будынка, што нагадваў па форме і памерах пяціпавярховую «хрушчоўку».

– Думаю, што гэта не «хрушчоўка», будынак просты і сімпатычны, хоць і без вакон.

– Памыляецеся, гэта сценаў у ім няма – суцэльныя вокны, але не са шкла.

Хоць я і фізік, але спачатку не зразумеў, навошта такія агромністыя дарагія вокны, ды яшчэ з белага мармуру немалой таўшчыні

Высветлілася, што ўсё вельмі проста. Мы пад'ехалі да ўнікальнага корпусу бібліятэкі ўніверсітэта – сховішча і чытальных залаў старажытных кніг і рукапісаў. Гэтыя ўнікальныя кнігі і рукапісы катэгарычна не пераносяць ультрафіялетавага выпраменьвання. Змяняюць пад яго ўплывам колер, дэструктуюцца ці проста крышацца, выцвітаюць. А мармур паглынае цалкам шкодны для старадрукаў ультрафіялет, не ствараючы перашкодаў для выпраменьвання, бачнага чалавечым вокам. Таму днём у бібліятэцы сонечна і цёпла, але – ніякага ўльтрафіялету.

Ельскі ўніверсітэт скончылі пяць прэзідэнтаў ЗША: Тафт Уільям Говард (1909–1913), Форд Джэральд Рудольф (1973–1974), Буш Джордж Герберт Уокер (1989–1993), Клінтан Уільям Джэферсан (1993–2001), Буш Джордж Уокер (2001–2009). З двума з іх – з Бушам-старэйшым і Білам Клінтанам – мне давялося неаднойчы сустракацца падчас іх прэзідэнцтва, а з Бушам-старэйшым і пасля.

Але, відаць, самым вядомым выпускніком Ельскага ўніверсітэта быў вынаходнік і мастак Сэмюэл Морзэ, імя якога носіць вынайдзеная ім азбука. Яна вельмі шырока выкарыстоўвалася ў тэлеграфіі і наогул у электра- і радыёсувязі больш за 100 гадоў і параўнальна нядаўна саступіла сваё месца лічбавым камунікацыйным сістэмам.



Калі Галіна Грынь сказала мне, што яна запрошаная ў Ельскі ўніверсітэт для працы са студэнтамі, якія займаюцца па індывідуальных планах, я не адразу ўцяміў, у чым заключаецца яе праца, таму што ў нас па індывідуальных планах, звычайна, займаюцца студэнты з выдатнай паспяховасцю, якія добра сябе праявілі ў даследчай працы. Ды і наогул, індывідуальны план – дастаткова рэдкая форма заахвочвання тых, хто, займаючыся самастойна, здольны засвоіць больш, чым прадугледжвае праграма асобных лекцыйных курсаў і звязаных з імі семінараў і практычных заняткаў.

У Ельскім універсітэце – наадварот, па індывідуальным плане займаюцца толькі тыя, хто недастаткова падрыхтаваны, каб стаць паўнапраўным студэнтам. За такія заняткі трэба плаціць. Часам вельмі шмат. Універсітэт жа запрашае для працы з такімі навучэнцамі высокакваліфікаваных педагогаў. І яны праводзяць заняткі з групамі па 2, 3, максімум 4-5 чалавек, а часам і зусім індывідуальна.

## Найбуйнейшы ў амерыканскай сталіцы

Вышэйзгаданыя навучальныя ўстановы ЗША рознымі шляхамі дамагаюцца высокага ўзроўню адукацыі, якая адпавядае патрэбам часу. У якасці яшчэ аднаго прыкладу зусім коратка прыгадаю пра буйнейшую ў амерыканскай сталіцы і самую дарагую па аплаце за навучанне прыватную ВНУ ЗША – Універсітэт Джорджа Вашынгтона. Ён створаны рашэннем Сената ў 1821 годзе. У 2008 годзе плата за навучанне ў ім складала 38 000 даляраў у год. Тут навучаліся ў той час 24 500 студэнтаў, 13 700 аспірантаў, працавалі 2 060 выкладчыкаў. У 2012 годзе плата за навучанне дасягнула 50 000 даляраў у год. Праўда, вельмі таленавітыя маладыя людзі з небагатых сем'яў могуць атрымаць тут адукацыю за меншую плату і нават бясплатна. Для гэтага распрацаваныя строгія крытэрыі ацэнкі ўзроўню забяспечанасці сем'яў студэнтаў і крытэрыі ацэнкі іх здольнасцяў і працавітасці.

Ва ўніверсітэце – тры кампусы: гарадскі, які пачынаецца за паўкіламетра ад рэзідэнцыі Прэзідэнта ЗША – Белага дома, прыгарадны і сельскі. У кожным з іх мноства даследчых інстытутаў. Адзін з іх – Інстытут даследаванняў Еўропы, Расіі і Еўразіі. У сферы яго інтарэсаў знаходзіцца Беларусь.

Акадэмічная і даследчая праца тут цесна звязаныя. І да той, і да другой заахвочваюцца навукоўцы, дзеячы культуры і мастацтва, дзяржаўныя дзеячы, палітыкі з ЗША і замежжа.

Мне пашчасціла – у 2000 і 2012 гадах і я быў удастоены гонару быць у гэтым універсітэце запрошаным лектарам.

# XIV. АБ «МАІМ» ЗАМЕЖЖЫ

Люблю падарожнічаць, а што да адпачынку, то падарожжа – найлепшая яго форма. У часы Савецкага Саюза жаданне ўбачыць свет за межамі СССР служыла падставай для вельмі пільнага вывучэння падарожніка. Я ж сем разоў пакідаў межы СССР. Пашанцавала: пабываў у Югаславіі (1966), тройчы ў Польшчы (1974, 1987, 1988) і тройчы ў ГДР (1975, 1976, 1978), па дарозе ў Югаславію цэлы дзень правёў у венгерскім Будапешце. Афіцыйна ўсе паездкі былі дзелавымі: 5 разоў для чытання лекцый (двойчы гэта спалучалася з навуковымі канферэнцыямі); раз – для ўдзелу ў навуковай канферэнцыі; раз – для падпісання дамовы аб супрацоўніцтве з замежным універсітэтам.

Адпачываць за межамі СССР не меў намеру і не спрабаваў. Выязджаў на адпачынак за межы Беларусі, у месцы, якія цяпер сталі «блізкім замежжам». Тройчы – па пуцёўках, хоць не па душы мне такі адпачынак. Толькі ў Місхоры вытрымаў 24 дні і да гэтага часу ўспамінаю іх не лепшым чынам. Планаваў двойчы пабыць у санаторыі па 12 сутак, але атрымалася толькі аднойчы – у Сочы, другая спроба ў Юрмале сарвалася – у першую ж ноч трапіў на аперацыйны стол з апендыцытам.

Страшна не люблю па-за домам доўга знаходзіцца ў адным і тым жа месцы, снедаць, абедаць і вячэраць па раскладзе. Іншая справа – блукаць з заплечнікам і спальным мяшком у добрай кампаніі. Такіх вандровак у мяне адбылося безліч – у Беларусі, у Крыме, на Каўказе, на Паміры, у Прымор'і, на Камчатцы... Усе нягоды і цяжкасці забываюцца, эмоцыі толькі станоўчыя. А што да далёкага замежжа, то «мяшок развязаўся», пачынаючы з 1991 года.

## ФРГ
## (Ё. Раў, Ю. Шноор, Г. Шноор, М. Штольпэ, А.А. Сабчак, Р.М. Гарбачова, М.С. Гарбачоў, Г. Шродэр)

У пачатку верасня 1991 года адбыўся мой візіт у Дзюсельдорф – сталіцу зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Калі паездку пачалі рыхтаваць, я быў першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета, а паехаў туды ў рангу выканаўцы абавязкаў Старшыні ВС Беларусі. У нас усталяваліся вельмі добрыя адносіны з гэтай зямлёй, галоўным

чынам, па дзвюх прычынах. Па-першае, прэм'ер-міністрам там быў вялікі гуманіст, праўдзівы хрысціянін Ёганес Раў, па-другое, дзякуючы выдатнай жанчыне Юце Шноор, якая жыла ў Дзюсельдорфе. Яе муж – віцэ-прэм'ер і міністр унутраных справаў ва ўрадзе зямлі – Герберт Шноор шчыра прызнаўся, што дапамогай Беларусі ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія кіруе Юта. Не займаючы ніякай пасады, яна рабіла ўсё, каб дапамагчы дзецям Беларусі. Дзякуючы ёй, у Мінску з'явілася дзіцячая хірургічная клініка, абсталяваная па апошнім слове медыцынскай навукі таго часу.

Падчас першага наведвання ФРГ мне не хацелася быць дужа ветлівым з нямецкімі кіраўнікамі, бо ў маёй памяці не сцерліся злачынствы нямецкіх фашыстаў на беларускай зямлі. Відаць, прэм'ер Ёганес Раў гэта адчуў. Ён вітаў мяне кароткай прамовай, якую пачаў словамі:

– Перш за ўсё, карыстаючыся дадзенымі мне паўнамоцтвамі, я хачу папрасіць прабачэння ад імя грамадзянаў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў спадара Шушкевіча, а ў яго асобе – ва ўсяго беларускага народа за тыя злачынствы, якія чынілі мае суайчыннікі на беларускай зямлі.

Такога пачатку я не чакаў. Кароткая прамова прэм'ера мяне збянтэжыла. Я вырашыў змяніць тон свайго выступу на больш цёплы:

– Ваша высокадастойнасць спадар прэм'ер-міністр Ёганес Раў, паважанае спадарства! Дзякую Вам, спадар прэм'ер, за вашыя добрыя словы, за запрашэнне наведаць адну з самых вядо-



*1992 год. У парламенце Зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія з Ёганесам Раў*



*1992 год, Патсдам. З прэм'ерам зямлі Брандэнбург Манфрэдам Штольпэ*

мых і багатых земляў Федэратыўнай Рэспублікі Германія. Калі я быў дзіцем, для мяне словы «немец» і «вораг» былі сінонімамі. Але беларусы – цывілізаваныя людзі, еўрапейцы. Яны навучылі мяне адрозніваць Германію Гётэ і Шылера, Баха і Бетховена, Дзюрэра і Канта ад Нямеччыны, звязанай з імёнамі нелюдзяў, якіх я не хачу тут успамінаць. Лёс размясціў нашыя краіны непадалёку



*Прэм'ер Ёганес Раў на падараваным мне трэнажоры з гербам зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія*

адну ад другой, у адной частцы свету. Нам прызначана лёсам мець і развіваць добрыя, узаемапаважлівыя і ўзаемавыгодныя адносіны дзеля дабрабыту нашых грамадзянаў.

Усе афіцыйныя справы ў Дзюсельдорфе ўладкоўваліся добра, і я планаваў паляцець у Патсдам да прэм'ера зямлі Брандэнбург спадара Манфрэда Штольпэ. Высветліў, што спадар Раў такса-ма збіраецца да яго. Прапанаваў паляцець «маім» самалётам. Ён спытаў:

– Ці знойдзецца ў самалёце месца для невялікага падарунка асабіста вам ад зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія?

Я не мог зразумець, пра што ідзе гаворка, і спадар Раў запрасіў мяне ў суседні пакой. Там стаяў трэнажор.

– Я чуў, што вы любіце веласпорт. Але ў вас цяпер службовы аўтамабіль – вораг ровара, а гэты велатрэнажор не зойме ў кватэры шмат месца.

Не прызнавацца ж мне прэм'еру, што жыву я ў двухпакаёвай кватэры з жонкай і сынам, і такая раскоша як трэнажор ператворыць у паласу перашкодаў мой шлях да пісьмовага стала.

– Дзякую, месца знойдзецца.

У салоне нашага Ту-134 сабралася чацвёрка – Ёганес Раў, Герберт Шноор, Сяргей Сцяпанавіч Лінг і я. За цікавай размовай час палёту праляцеў незаўважана.

У Патсдаме я спытаў у намесніка прэм'ера Беларусі Лінга, ці не думае ён, што Раў зойме ў ФРГ больш высокую пасаду? Сяргей Сцяпанавіч адказаў імгненна: зойме абавязкова!

І сапраўды, 23 траўня 1999 года Ёганес Раў быў абраны прэзідэнтам ФРГ. На высокай пасадзе ён прадоўжыў сваю вялікую хрысціянскую місію, рабіў усё, каб грамадства было свабодным ад нянавісці і гвалту.

Можна доўга расказваць аб гасцінным Дзюсельдорфе, аб падпісаных падчас візіту пагадненнях, аб прадпрыемствах і банках, наведванне якіх уваходзіла ў праграму візіту, нарэшце, пра прыгажосць самога Дзюсельдорфа. Замест усяго гэтага я раскажу аб уражаннях і справах, навязаных мне Ютай Шноор.

Худзенькая невысокая спадарыня Юта, не прамаўляючы амаль ніводнага слова, не кідаючы яскравых поглядаў на тых, каго ёй трэба было прыцягнуць для вырашэння пытанняў, якія яна лічыла важнымі, у аднолькавай ступені паспяхова камандавала і прэм'ерам Раў, і сваім мужам – віцэ-прэм'ерам Шноорам, і, што грэх утойваць, мною. Пасля падпісання ўсіх афіцыйных дакументаў з кіраўнікамі зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія яна ўзяла мяне пад руку і сказала: «Хопіць губляць час на запэўніванні ўсіх у шчырай да іх павазе, паедзем займацца справай. Іначай можам не застаць у палаце тых, хто і мне, і вам вельмі патрэбны».

Аб якой палаце ішла гаворка і хто нам быў патрэбны, я спачатку нават не здагадваўся. Калі ж прыехалі, зразумеў – Гандлёвая палата, а ў ёй сабраліся «акулы дзюсельдорфскага прадпрымальніцтва». Юта прайшла да подыума, абменьваючыся поціскам рук і сяброўскімі пацалункамі, раз-пораз кідаючы: «Прывітанне, Ганс, Манфрэд, Франк ...». Узышла на подыум, прапанавала мне сесці ў суседняе крэсла і сказала кароткую прамову пра тое, што я зусім нядаўна стаў галоўным у краіне, дзе дзеці пацярпелі ад Чарнобыля і пазбаўленыя належнага медыцынскага абслугоўвання. Збянтэжаны, не ведаючы, што рабіць, яківаў галавой на знак згоды. Менавіта гэта ад мяне і патрабавалася.

* * *

Уся паездка ў Гандлёвую палату заняла хвілінаў сорак. Прагледзеўшы атрыманыя там чэкі, спадарыня Юта сказала:

– Мы з вамі сабралі мільён марак. Гэта, прыкладна, адна восьмая частка таго, што трэба, каб дзіцячая хірургічная клініка ў Мінску адпавядала сучасным стандартам. Як вам вядома, больш за палову гэтай сумы ўжо ёсць, астатняя будзе!

Праз год спадарыня Шноор арганізавала прыгон ў Мінск больш за 50 аўтамабіляў хуткай дапамогі, і яны былі перададзеныя кіроўцам



*У Дзюсельдорфе. Стаяць (справа налева): Юта Шноор, Герберт Шноор, перакладчык, Ірына Шушкевіч*

з усёй Беларусі перад будынкам Вярхоўнага Савета. Адзінае, чым мы маглі ёй аддзячыць у той няпросты час, была Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета...

І сумны фінал.

Вельмі хутка пасля ўсяго гэтага Юта Шноор памерла. Высветлілася, што яна даўно і цяжка хварэла, старанна ўтойваючы хваробу ад усіх, нават блізкіх сваякоў. Яна пакінула тэстамент, дзе напісала: не шкадуйце сродкаў на дапамогу дзецям, ні ў якім разе не прыносьце на маё пахаванне кветкі. Ахвяруйце прызначаныя для гэтай мэты грошы на дапамогу дзецям, якія маюць патрэбу ў падтрымцы.

Калі выйшаў на пенсію муж Юты Герберт Шноор, ён пераехаў з Дзюсельдорфа ў Патсдам – бліжэй да сваіх дарослых дзяцей і заняўся актыўнай дабрачыннай дзейнасцю. Яго асабісты ўнёсак у дапамогу дзіцячаму хірургічнаму цэнтру ў Мінску таксама вельмі важкі.

Пазней мне давялося пабываць у ФРГ шмат разоў. У тым жа Дзюсельдорфе, Боне, Франкфурце-на-Майне, Фрайбургу, Мюнхене, Вольфсбургу, Кёльне. Мог супаставіць, што змянілася ў Дрэздэне, Ляйпцыгу, Наўмбургу, Ене, Геры, Айзенаху, Альтэнбургу, Патсдаме, у параўнанні з тым, што я бачыў там у камуністычныя часы, калі амаль усе атрыманыя за сваю працу ў Ене грошы выдаткаваў на паездкі па ГДР.

Мабыць, больш за ўсё мяне ўразілі Дрэздэн, Ляйпцыг і Берлін. Мая ўлюбёная Сікстынская Мадонна Рафаэля ў карціннай галерэі Дрэздэна гэтак жа ашаламляе наведвальнікаў, сам Дрэздэн зусім іншы: па-ранейшаму чысты, але больш прыгожы і без помніка вайне – руінаў.

У Ляйпцыгу, куды мяне з жонкай запрасіў размешчаны там адзін з 22-х замежных Інстытутаў Польшчы, я выявіў зусім іншы вакзал і зусім іншы горад. Цалкам знікла брудная шэрасць будынкаў і агідны хімічны «гэдээраўскі» пах. Вакзал, знакаміты тупіковы Ляйпцыгскі вакзал перастаў быць толькі вакзалам, а стаў аднача-сова культурным і гандлёвым цэнтрам, дзе можна адпачыць і з'есці не толькі знакамітыя нямецкія каўбаскі пад не менш знакамітае нямецкае піва, але і паспрабаваць сапраўдныя беларускія дранікі, украінскі боршч і расійскую салянку.

Можна доўга расказваць і пра сённяшні Берлін. Немцы добра рэканструявалі будынак Рэйхстага, не прыбралі з яго надпісы, зробленыя савецкімі воінамі, а разумна ўпісалі іх у абноўлены будынак з новай залай паседжанняў парламента пад шкляным дахам.

Тым не менш, самае цікавае за мяжой – нечаканыя сустрэчы. Адна з іх адбылася ў Вольфсбургу, горадаўтваральнай асновай якога з'яўляецца аўтагігант Volkswagen. Кіламетраў за 20 ад яго размешчаны краязнаўчы музей, на тэрыторыю якога звезена



*1992 год, краязнаўчы музей паблізу Вольфсбурга. Анатоль Сабчак, Ірына і Станіслаў Шушкевічы*

мноства ветраных млыноў з усёй Германіі. Там я сустрэў Анатоля Сабчака – свайго даўняга знаёмага па з'ездах народных дэпутатаў, міжрэгіянальнай дэпутацкай групе і, на жаль, злёгку папсаваў урачыстасць у яго гонар.

Мэр Санкт-Пецярбурга, гарачы прыхільнік пераўтварэння свайго горада ў культурную сталіцу Расіі, Анатоль Аляксандравіч Сабчак меўся прэзентаваць выробленую нямецкімі майстрамі копію зніклага ў час ваяўнічага атэізму царкоўнага звона. Я нічога пра гэта не ведаў. Убачыўшы электрычную кнопку, вырашыў, што гэта ўключэнне падсветкі экспанатаў, якія хацелася лепей разгледзець, і націснуў на яе. Раздаўся гучны звон. Меркаваны сцэнар быў сарваны – звон зазваніў раней, чым дакументы аб яго перадачы ўручылі Сабчаку. Немцы збянтэжыліся, а Сабчак жартоўна шапнуў мне на вуха:

– Вы скарацілі працэдуру перадачы. Больш часу застанецца на вячэру.

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў пры сустрэчах у Вольфсбургу, наадварот, не жартаваў. Ён, мяркую, быў пакрыўджаны на мяне за заяву на прэс-канферэнцыі. Там на пытанне журналіста, як я стаўлюся да абрання Гарбачова старшынёй Зялёнага крыжа, я адказаў:

– Не разумею, каму прыйшло ў галаву абраць старшынёй сусветнага экалагічнага таварыства чалавека, які дазволіў сабе ў

траўні 1986 года па ўсесаюзным тэлебачанні казаць няпраўду аб Чарнобылі. Менавіта гэты яго выступ стаў прычынай шматлікіх згубных наступстваў катастрофы для здароўя грамадзянаў Беларусі, перш за ўсё для здароўя дзяцей. Камуністычны падыход і ў іншых выпадках пераважаў у дзейнасці Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова над падыходам экалагічным, ды і чыста чалавечым.

Аўтамабільны гігант Фольксваген арганізаваў 16-18 верасня 1992 года кангрэс аб'яднання IPI International Partnership Iniciative (Міжнародная партнёрская ініцыятыва) «Еўропа і свет на пераломе» (Europa und die Welt im Unbruch). На яго былі запрошаныя асобы, якія лічацца інтэлектуальнай элітай Еўропы, вядомыя бізнесоўцы, а таксама вядомыя палітыкі, такія, як Гарбачоў і будучы канцлер ФРГ Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў Герхард Шродэр. Тут можна было даведацца аб бачанні будучыні людзьмі адукаванымі і вельмі дасведчанымі. Усё гэта спалучалася з добра прадуманымі дзеяннямі арганізатараў па рэкламе прадукцыі фірмы Фольксваген.

Паказваючы машыны спецпрызначэння, прадстаўнік фірмы спытаў:

– Вас не палохае гэты аўтамабіль? Ён вельмі вялікі і можа служыць пажарнікам, будаўнікам, перавозчыкам спецыяльных грузаў



*1992 год, Вольфсбург, фірма Фольксваген. Раіса Гарбачова і Ірына Шушкевіч з нямецкімі прадпрымальніцамі*

у экспедыцыях па бездарожжы і г.д. Але кіраваць ім можа любы чалавек, які ўмее ездзіць на легкавым аўтамабілі. Не хочаце паспрабаваць? Прапаную вам ключы ад яго.

На маю думку, ён быў абсалютна ўпэўнены, што ніхто з жанчынаў, да якіх ён звяртаўся, на такую прапанову не згодзіцца. Адкуль яму было ведаць, што ў групу арыстакратаў і першых ледзі трапіла і мая жонка, якая да таго часу ніколі не вадзіла ніякага аўтамабіля, акрамя жыгулёў, але была абсалютна перакананай, што робіць гэта лепш за іншых.

– Я хачу паспрабаваць, – сказала яна па-ангельску, выхапіла ў прадстаўніка фірмы ключы і, зняўшы туфлі на высокіх абцасах, паднялася па прыступках у кабіну гіганта.

– Піліп, – звярнуўся я да кіроўцы, эмігранта з Эстоніі, які добра гаварыў па-руску і якога далі ў маё распараджэнне разам з шыкоўным лімузінам, – гэта вынік тваёй пахвальбы на яе адрас. Паехалі за ёй да таго слупа ці дрэва, да якіх яна даедзе.

Паехалі, але, на шчасце, нічога дрэннага не здарылася. Ірыне ўдалося даказаць, што велізарная машына цалкам ёй падуладная. Яна нават прыпаркавацца здолела прыкладна там, адкуль стартавала.

## Кітай
## (Цзян Цзэмін, Вань Лі, Лі Пэн)

Афіцыйны візіт у Кітай не быў падобны на ўсе іншыя візіты такога роду. На нашым Ту-154 мы прызямліліся ў Пекіне ў аэрапорце Шоўду ў 20-градусны мароз. Адразу ж усю дэлегацыю Беларусі «перасялілі» ў кітайскі ўрадавы Боінг-737, абсталяваны выключна багата і ўтульна. Пачалі падносіць удзельнікам дэлегацыі кітайскія сувеніры, прапаноўвалі вытанчаныя стравы кітайскай і еўрапейскай кухні. Я з жонкай знаходзіўся ў асобным, самым шыкоўным салоне. Нас абслугоўвалі дзве прыгожыя сцюардэсы ў кітайскіх нацыянальных строях. Пазней даведаўся, што і астатніх удзельнікаў дэлегацыі не пакрыўдзілі: яны ляцелі таксама не ў спартанскіх умовах. У мяне і раней не было ўстойлівага перакананння наконт рабоча-сялянскага характару ўлады ў Паднябеснай. У палёце ж ілюзіі на гэты конт канчаткова развеяліся, а астатняя частка візіту пацвердзіла, што раскоша кітайскім кіраўнікам вельмі даспадобы, і яны лічаць за гонар гэта прадэманстраваць.

Праз дзве гадзіны прызямліліся ў міжнародным аэрапорце Гаоці гораду Сямэнь у раёне Тайваньскае пратокі. Памятаючы студзеньскі холад Мінска і Пекіна, усе мы надзелі на сябе тое, у чым прыехалі, і выйшлі з самалёта ў вушанках і зімовых паліто.

глядзім, а насустрач ідуць кітайскія піянеры ў лёгкіх гарнітурах і сукеначках. Тэмпература паветра была +25 градусаў.

Гасцініца «Сямэнь», у якой нас размясцілі, выглядала па асноўных паказчыках на пяцізоркавую еўрапейскую. У мяне ў нумары была нават электрычная саўна, якую аддзяляла ад ваннага пакоя сцяна з маналітнага тоўстага шкла. Праўда, уключыць саўну не атрымалася ні ў мяне, ні ў гатэльных службоўцаў.

Пасля абеду паехалі глядзець Сямэньскі мост – шматкіламетровае збудаванне, якое злучае шчыльна заселены (больш за 20 тысячаў чалавек на кв. км) маленькі востраў Гуланьюй з мацерыком. Наведалі абутковую фірму «Цзылі» і кандытарскую фабрыку. Вечарам была вячэра ад імя ўрада Фунцзянь ў рэстаране «Мінсяо».

Такім чынам, перад асноўнымі сустрэчамі з кіраўніцтвам КНР нам паказалі, што такое ўзорная кітайская правінцыя і спецыяльная эканамічная зона. І правільна зрабілі, бо менавіта там можна было зразумець, што ўся Беларусь ужо стала свабоднай эканамічнай зонай. Паколькі ўсе грамадзяне Беларусі намаганнямі Вярхоўнага Савета атрымалі да таго часу больш эканамічных і палітычных правоў і свабодаў, чым кітайскія прадпрымальнікі ў свабодных эканамічных зонах КНР.

Наступнай раніцай працягвалася знаёмства з фірмамі – валізкавай, тэкстыльнай, электроннай. Адбылася экскурсія на востраў Гуланьюй. Паглядзелі, як на востраве плошчай 0,97 кв. км,




*Кітай. З 20-градуснага марозу Мінска і Пекіна – у 25-градусную спёку Сямэня*



*1993 год, 9 студзеня, Пекін. Са Старшынёй Усекітайскага Савета Народных Прадстаўнікоў Вань Лі на цырымоніі сустрэчы ў залі Хэйбэй*

з якіх толькі 3,6% раўніна, астатняе – скалістыя горы, жыве ажно 22 тысячы чалавек.

Увечары адляцелі ў Пекін. Вячэралі на борце самалёта. Па прылёце ўсю дэлегацыю размясцілі ў рэзідэнцыі «Дзяоюйтай», мяне з жонкай – у велізарным асабняку, злучаным цёплым пераходам з будынкамі, дзе знаходзіліся астатнія ўдзельнікі дэлегацыі.

Цяжка ўявіць нешта больш раскошнае і прыгожае, чым урадавая рэзідэнцыя КНР у Пекіне. Да гэтай паездкі я, часцей за ўсё з жонкай, размяшчаўся падчас афіцыйных і проста дзелавых візітаў у вядомых рэзідэнцыях – Блэйр-Хаўзе ў Вашынгтоне, ва ўрадавым гатэлі Петэрсберг каля Бона, у апартаментах Капакабана-палас ў Рыа дэ Жанейра, у старадаўніх арыстакратычных гатэлях Парыжа, нарэшце, у апартаментах для VIP-гасцей старажытнай сталіцы Японіі Кіёта. Кітайская рэзідэнцыя ашаламляла нават у параўнанні з імі.

Ведаючы памер свайго кроку, я хутка палічыў, што мне з Ірынай адведзена каля 1500 кв. метраў плошчы – з трыма працоўнымі кабінетамі, вялікай залай для сустрэчаў, сталовай, трыма спальнямі з выхадамі ў прыгожа аздобленыя ванныя пакоі, у адным з якіх быў невялікі басейн. Што да жонкі, то яна ніяк не магла пакінуць пераходы паміж усімі гэтымі заламі, якія язык не паварочваўся назваць калідорамі. У іх паўсюдна (8-10 студзеня!) квітнела адаптаваная да пакаёвых умоваў сакура – японская

вішня з пахучымі ружавата-белымі кветачкамі. У адным з рабочых кабінетаў таксама квітнела сакура, у астатніх былі невядомыя мне кітайскія вазоны.

Наступнай нядзельнай раніцай 10 студзеня планавалася наведванне Вялікай кітайскай сцяны, але яно не адбылося праз галалёдзіцу. Паехалі ў воласць Сіндзіцын, дзе вырошчвалася зеляніна ва ўсе часы года. Наведалі цяпліцы і, як нам сказалі, дамы кааператараў – кітайскіх «калгаснікаў». П'ючы з імі зялёную гарбату ў добраўпарадкаваных катэджах з гарачымі трубамі цэнтральнага ацяплення, усе мы ўсумніліся ў тым, што кааператары ў гэтых дамах сапраўды жывуць. Яны падоўгу шукалі і кубкі, і чайнікі, і заварку, і лыжачкі, і, падобна, не менш за нас здзіўляліся навакольнай абстаноўцы. Не трэба было быць псіхолагам, каб зразумець, што дэманстрацыя кааператарскага дабрабыту – проста спектакль.

Іншая справа – паездка ў Імператарскі палац «Гугун», дзе маштабы і раскоша робяць незабыўнае ўражанне, або ў Інстытут фізікі вялікіх энергій Акадэміі навук Кітая, куды я трапіў на наступны дзень і дзе стаў сведкам, ладжаных там эксперыментаў на паскаральніку сустрэчных пучкоў.

Цырымонія сустрэчы са Старшынёй Пастаяннага Камітэта (ПК) Усекітайскага Савета Народных Прадстаўнікоў (УСНП) Вань



*У Інстытуце фізікі вялікіх энергій Акадэміі навук Кітая*



*С Генеральным Сакратаром ЦК КПК Цзян Цзэмінем*

Лі ў зале Хэйбэй і прыём у Заходняй залі УСНП адпавядалі вышэйшай катэгорыі прыёму замежных гасцей.

Дзелавая ў дзяржаўным сэнсе частка паездкі складалася з перамоваў з прэм'ерам Лі Пэнам у асабняку «Фанфэйюань» рэзідэнцыі, дзе мы былі размешчаныя, і гутаркі з першай асобай КНР – Генеральным Сакратаром ЦК КПК Цзян Цзэмінем у яго рэзідэнцыі «Чжунаньхай».

* * *

Кітайская і беларуская прэса высока ацанілі вынікі візіту. Але дні праз тры пасля нашага вяртання з Кітая заходзіць да мяне адзін з супрацоўнікаў сакратарыята Вярхоўнага Савета.

– Станіслаў Станіслававіч, прабачце, але не магу ад вас хаваць чуткі, якія ходзяць сярод супрацоўнікаў і дэпутатаў. Відавочцы клянуцца, што бачылі, як з грузавога адсека Ту-154, які лётаў у Кітай, выгружалі скураную мэблю. Сцвярджаюць, што гэта вы набылі яе ў Кітаі для асабістых мэтаў, бо ніхто іншы не мог даць каманду загрузіць яе ў самалёт. Я кажу пра гэта вам, бо перакананы, што вы такога зрабіць не маглі.

– Дзякуй, паспрабую разабрацца.

Клічу да сябе начальніка сакратарыята Аляксандра Пятровіча Анціпенку. Ён пачаў гаварыць, яшчэ не зачыніўшы дзверы:

– Станіслаў Станіслававіч, такім устрывожаным голасам вы маглі выклікаць мяне толькі па адным пытанні. Так, так, так! Мэбля з Пекіна самалётам прывезеная ў абыход вас і мяне. Дасведчаны

чалавек (назваў імя, прозвішча, пасаду) дамовіўся з камандзірам экіпажа. Усё па правілах, перагрузкі самалёта не было. Факт устаноўлены, дзейныя асобы таксама, загадвайце, што рабіць.

Злосць вельмі павольна саступае месца разважлівасці. Калі на вышэйшым узроўні чыніцца такое, то што можна вытвараць у іншых дзяржструтурах? Калі шчыра і адкрыта растлумачыць усім, што адбылося, гэта будзе азначаць высцебаць самога сябе.

– Аляксандр Пятровіч, загад мой такі. Хай аматар скураной кітайскай мэблі аплаціць яе дастаўку паветраным транспартам з Пекіна ў Мінск па камерцыйным тарыфе. А шум падымаць не трэба, пра нас і так ідзе не лепшая слава.

Шэф сакратарыята ВС са мной пагадзіўся, сказаўшы, што грошай, за якія можна прадаць мэблю, адназначна не хопіць, каб аплаціць яе паветраную дастаўку з Паднябеснай. Затое аматар кітайскай мэблі запомніць, што жульніцтва караецца.

## Бразілія, Уругвай, Кабэ-Вердэ (Фернанду Калор ды Мелу, Лула да Сільва, Джордж Буш, Фідэль Кастра, выхадзец з Беларусі, пакістанскі прыём, Аляксандр Руцкой)

У 1806 годзе, ратуючыся ад войнаў Напалеона, у Бразілію перанёс свой двор партугальскі кароль Хуан VI. У 1821 годзе ён вярнуўся ў Партугалію, пакінуўшы сына Педру I віцэ-каралём Бразіліі. Той ў 1822 годзе адмовіўся падпарадкоўвацца парламенту Партугаліі і абвясціў незалежнасць Бразіліі. У 1889 годзе яго сын – кароль Педру II быў зрынуты ў выніку ваеннага перавароту. Бразілія перастала быць манархіяй і стала прэзідэнцкай рэспублікай. Вось, мабыць, і ўсё, што я ведаў аб Бразіліі, адпраўляючыся ў 1992 годзе на экалагічны саміт кіраўнікоў дзяржаваў у Рыа дэ Жанейра (Рыа).

Да бразільскага Рыа беларуская дэлегацыя дабіралася рэйсавым самалётам па даволі цікавым маршруце: Масква – Мальта – Саале (Каба-Вердэ) – Монтэвідэа. Спачатку самалётам Аэрафлота мы праляцелі над бразільскім Рыа і аргентынскім Буэнас-Айрэсам да ўругвайскага Монтэвідэа, а потым лаціна-амерыканскім Боінгам-747 прыляцелі з Монтэвідэа ў Рыа з пасадкай у Буэнас-Айрэсе. Маршрут быў не вельмі лагічным, бо па інерцыі з часоў СССР лічылася, што Аэрафлоту невыгодна лётаць у Рыа.

Саміт быў прысвечаны гарманічнаму развіццю чалавечай супольнасці і прыроды. На ім трэба было прыняць Парадак дня на XXI стагоддзе і аднесці экалагічны менеджмент да асноўнай дамінанты гарманічнага развіцця, а таксама зрабіць яго вышэйшым прыярытэтам для прамысловасці і прадпрымальніцтва. Для мяне

саміт стаў месцам цэлага шэрагу карысных і цікавых сустрэчаў і абмеркаванняў.

Пачалося ўсё з Монтэвідэа, дзе ў рэзідэнцыі расійскага амбасадара я даведаўся, што ва Уругваі на тры мільёны грамадзянаў прыпадае не менш за 19 мільёнаў быкоў, што пасвяцца ў прэрыях. Іх статкі перыядычна заганяюць у загоны і адвозяць на бойні. Далей на караблях-рэфрыжэратарах тушы плывуць у Амерыку і Еўропу. Даволі цікава таксама, што Уругвай, як і ўсе лацінаамерыканскія дзяржавы, – краіна каталіцкая. Але каталіцызм тут адмысловы. Касцёл наведваюць, па звестках расійскага амбасадара, не больш за 200 тысячаў чалавек, тым не менш, усе грамадзяне ўносяць ахвяраванні на патрэбы касцёлаў і лічацца добрасумленнымі хрысціянамі.

Другой нечаканасцю быў выхад з самалёта з цудоўным кандыцыяваннем ў 38-градусную спякоту і стоадсоткавую вільготнасць вячэрняга Рыа. Дарэчы, у самалёце, у салоне першага класа я быў адным са спадарожнікаў Генеральнага сакратара ААН Бутраса Бутраса Галі. З павагі да пасады і ўзросту я, натуральна, паспрабаваў прапусціць Генеральнага сакратара перад сабой. Ён, наадварот, прапускаў наперад мяне. Адбылася затрымка.

Тады Бутрас Галі растлумачыў:

– Я – вышэйшы чыноўнік (bureaucrat), а вы – высокі саноўнік (dignitary). Мой абавязак вас прапусціць першым.

Так метадам спробаў і памылак спазнаваліся мною асновы дыпламатычнага пратаколу.

Саміт адкрыўся наступным днём – 3 чэрвеня 1992 года. На яго прыехалі 114 кіраўнікоў дзяржаваў. Адкрываючы саміт і канферэнцыю, мой учарашні настаўнік правілаў добрага тону – Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі – адзначыў: «Ніколі раней у гісторыі будучыня вашых дзяцей, вашых унукаў, будучыня ўсяго жыцця ва ўсёй разнастайнасці не залежала ад таго, што вы робіце ці не робіце».

Вельмі эфектна вітаў саміт прэзідэнт Бразіліі Фернанду Калор ды Мелу. Малады і прыгожы, ён знаходзіўся на пасадзе прэзідэнта другі год, але праз кароткі час пасля саміту сам сышоў у адстаўку, ратуючыся ад імпічменту. Выступы кіраўнікоў дзяржаваў – прэзідэнта ЗША Джорджа Буша (старэйшага), прэзідэнта Францыі Франсуа Мітэрана, прэм'ера Вялікабрытаніі Джона Мэйджэра і іншых былі прынятыя на саміце дастаткова цёпла. Ніводзін выступ, аднак, не быў так успрыняты, як выступ Фідэля Кастра. Я да гэтага часу памятаю і, што самае дзіўнае, з'яўляюся прыхільнікам яго аргументацыі. Ён заклікаў краіны, якія развіваюцца, не згаджацца пакорліва, без фінансавай падтрымкі высокаразвітых краінаў, выконваць цалкам лагічныя і строгія экалагічныя патрабаванні.

– Вы разбагацелі, апаганілі зямлю прамысловымі адыходамі і атрутным дымам, а цяпер хочаце забараніць нам пакончыць з галечай і ўстаць на ногі. А мы проста хочам палепшыць наша жыццё тымі ж метадамі, як гэта рабілі вы. Нельга ў нашых краінах вырашыць за наш кошт нашыя і вашыя экалагічныя праблемы. Развітыя краіны павінны аказаць бязвыплатную падтрымку краінам, якія развіваюцца ў плане засваення экалагічна чыстых тэхналогій.

Не ўпэўнены, што зусім дакладна прывёў тут словы Кастра, але сэнс іх памятаю добра. Саміт бурна апладзіраваў лідэру Кубы. Большасць дэлегатаў усталі. Я таксама ўстаў. Кіраўнікі дзяржаваў – удзельнікі саміту – сядзелі ў парадку лацінскага алфавіту па назвах краінаў. Побач са мной знаходзіўся бельгіец, ён ускочыў і з захапленнем запляскаў у ладкі, але потым апамятаўся і сеў. Нельга прадстаўніку дэмакратычнай краіны захапляцца дыктатарам, якімі б лагічнымі не былі яго заявы!

На саміце былі зацверджаныя некалькі важных дакументаў: «Дэкларацыя Рыа па навакольным асяроддзі і развіцці», «Парадак дня на XXI стагоддзе» (Праграма 21); «Рамачная канвенцыя ААН аб змяненні клімату», «Канвенцыя ААН аб біялагічнай разнастайнасці» і інш. У сукупнасці яны ўтрымлівалі набор добрых пажаданняў: людзі павінны мець права на здаровае і плённае жыццё ў гармоніі з прыродай; ахова навакольнага асяроддзя павінна стаць неад'емным кампанентам працэсу развіцця і не можа разглядацца ў адрыве ад яго; задавальненне патрэбаў у развіцці і захаванні павінна распаўсюджвацца не толькі на цяперашняе, але і на будучыя пакаленні; паступовае выроўніванне ўзроўняў жыцця паміж краінамі, выкараненне беднасці і галечы належаць да ліку важнейшых задачаў сусветнай супольнасці; дзяржавы павінны адмовіцца ад мадэляў вытворчасці і спажывання, якія не садзейнічаюць устойліваму развіццю.

Праз 20 гадоў няцяжка пераканацца ва ўтапічнасці гэтых заяваў і ў абгрунтаванасці аргументаў дыктатара Фідэля Кастра. Канферэнцыя ААН «Рыа+20», якая адбылася ў чэрвені 2012 года, канстатавала: паўтара мільярда чалавек не маюць доступу да электрычнасці, два з паловай мільярды чалавек не маюць абсталяваных прыбіральняў, амаль мільярд штодня галадае, больш чым траціне ўсіх вядомых відаў пагражае канчатковае знікненне праз змену клімату... Калі мы хочам пакінуць нашчадкам прыдатны для жыцця свет, праблемы дэградацыі навакольнага асяроддзя трэба вырашаць цяпер.

Але вернемся ў 1992 год. Гаспадары саміту ў Рыа арганізавалі паездку беларускай дэлегацыі ў Петраполіс – былую рэзідэнцыю партугальскіх каралёў, якая знаходзіцца за 70 кіламетраў ад Рыа на вышыні кіламетра над узроўнем мора. Пабываўшы там, мож-

на зразумець, чаму гэтае месца называюць раем на зямлі. Яркае сонца, але не горача, нізкая вільготнасць, мора кветак, прыгожыя вілы патанаюць у зеляніне. Як сцвярджаюць бразільцы, тут самае вялікае казіно ў свеце, якое так і не пачало функцыяваць. У год заканчэння яго будаўніцтва (1947) парламент Бразіліі забараніў у краіне азартныя гульні. Тым не менш, круглая зала меркаванага казіно і палацавага тыпу гатэль побач уражваюць. Ходзіць неверагодная колькасць баек пра тых, хто здымае тут апартаменты і адпачывае. Нешта пэўнае сцвярджаць цяжка: кліентам гарантуецца поўная канфідэнцыйнасць.

Вядомая ва ўсім свеце выява Хрыста на гары і батанічны сад каля Рыа запомніліся нашай дэлегацыі сваёй велiччу. Да таго ж, гаспадаром мясцовай невялікай кавярні аказаўся выхадзец з Беларусі. Мы зайшлі ў яго аднапавярховы дом пад трысняговым дахам і атулены вечназялёнымі дрэвамі і папрасілі мінеральнай вады. Хацелася спатоліць смагу. Даведаўшыся, хто мы і адкуль, гаспадар праявіў гасціннасць: прынёс «ад установы» паднос з фужэрамі, напоўненымі пітвом, якое ў залежнасці ад кампаніі можна называць ромам, трысняговай гарэлкай ці самагонкай. А для мяне няма страшнейшага напою, чым цукровы самагон. Разы два ў жыцці мне давялося яго паспрабаваць, і я пасля гэтага літаральна суткі пакутаваў ад галаўнога болю. Што мне заставалася рабіць? Я ўнутрана вагаўся: пакрыўдзіць сімпатычнага, жыццярадаснага, гасціннага земляка, або змірыцца з будучым галаўным болем? Ат, была-не была. Крыўдзіць не будзем. Абвясцілі тост, чокнуліся фужэрамі з гаспадаром, выпілі. Да дна выпілі. Усё!

Гаспадар непрыкметна знік і адразу ж вярнуўся з другім падносам – з такімі ж фужэрамі, з тым жа напоем. Унутраныя перажыванні паўтарыліся, і пад дружнае «Жыве Беларусь!» мы паўтарылі прыемную працэдуру, падзякавалі гаспадару і хуценька пакінулі кавярню, спасылаючыся на спешку. Разумелі: трэці тур мог прывесці да абсалютна непажаданых наступстваў...

Аказалася, што бразільская трысняговая гарэлка – не раўня беларускаму цукроваму самагону. Ні ў каго, хто яе паспытаў, потым не балела галава! Хтосьці назаўтра рэзюмаваў:

– Эфект такі, як ад чыстай жытнёўкі!

* * *

Акрамя афіцыйнага выступу на саміце, тэкст якога наша Міністэрства па навакольным асяроддзі падрыхтавала мне так, што не прыйшлося ўносіць у яго адчувальныя папраўкі, у мяне адбыліся дзве індывідуальныя сустрэчы. Першая – непрацяглая – з прэзідэнтам Бушам, які наўрад ці спадзяваўся на пераабранне

ў сябе на радзіме; другая – з Фідэлем Кастра, які ў сваіх пераабраннях на Кубе ніколі не сумняваўся.

Буш быў бездакорна ветлівы, арыентаваўся ў беларускіх рэаліях, сказаў, што яму падабаецца арыентацыя Беларусі на дэмакратыю, правы чалавека і рынкавую эканоміку, што ён рады магчымасці пазнаёміцца са мной, чый подпіс стаіць пад Белавежскім пагадненнем. Канкрэтныя дзелавыя пытанні ў размове з прэзідэнтам ЗША не закраналіся.

З Фідэлем Кастра было прасцей. Мне падабаўся яго кубінскі патрыятызм, і я, хоць і даўно, але ўважліва, ад пачатку да канца, прачытаў кнігу пад назвай «Кубінская публіцыстыка», выдадзеную ў Савецкім Саюзе. Там быў вялікі артыкул майго суразмоўцы «Гісторыя мяне апраўдае». Абсалютна не крывадушнічаючы, я прызнаўся, што мне спадабаўся той яго артыкул і імпануе яго асабісты гераізм. Сказаў таксама пра свой удзел у навучанні кубінскіх студэнтаў у СССР, пасля чаго Кастра ўстаў, але не дазволіў падняцца з крэсла ні мне, ні перакладчыку. Шпацыруючы перад намі, ён расказаў пра сваё бачанне сітуацыі на Кубе і ў свеце, а таксама аб сваім жаданні мацаваць сувязі з Беларуссю. Працягваючы сядзець, я заўважыў, што паўчаравікі Кастра маюць вельмі высокі абцас, г. зн. хоць ён і высокага росту, але жадае здавацца яшчэ вышэйшым, сапраўдным гігантам. І гэта яму ўдаецца.

Экзотыка для мяне заўсёды прывабная. Менавіта за гэта я быў пакараны ў Рыа. Атрымаўшы запрашэнне ад кіраўніка дэлегацыі Пакістана на афіцыйны прыём у трапічным парку паблізу Рыа, я паехаў на яго. Сустрэў там некалькіх расіян і іншых прадстаўнікоў постсавецкіх краінаў. Прыём па невядомай нам тады пакістанскай традыцыі аказаўся безалкагольным. Пілі сокі і невядомыя мне раней напоі, заядалі таксама дагэтуль мне невядомымі парашкамі і гранудамі, насыпанымі на срэбныя падносы і падносікі. Трыма пальцамі трэба было захопліваць і класці ў рот насыпанае на вялікіх падносах. З зёлкамі на маленькіх падносіках так паступаць было небяспечна – апякалі.

У выніку ўсе «постсавецкія» пагадзіліся, што паступілі неабдумана, «здрадзілі Польшчы»: пайшлі не на польскі прыём, куды нас таксама запрашалі. Сыходзілі па-саўкоўску з няправільных пасылаў: палякі, маўляў, побач, шанец патрапіць на прыём да іх у будучыні яшчэ надарыцца, а Пакістан – экзотыка, цікава!

Гэта дасведчаныя кар'ерныя дыпламаты ідуць на прыём вырашаць пытанні, якія ў афіцыйнай абстаноўцы прасоўваюцца цяжка, а саўкі – папіць ды паесці «на халяву» ці пабачыць нешта да гэтага часу нябачанае. Не падняўся тады і я да ўзроўню цвярозых палітычных ацэнак, куды ісці трэба, куды – не варта. Потым,

у працэсе далейшай працы выправіўся, але ўсё тым жа нізкаэфектыўным метадам спробаў і памылак.

Цікавай часткай падарожжа ў Лацінскую Амерыку стала вяртанне. Трэба ж такому здарыцца, што якраз у гэты час у Рыа прыляцеў мой даўні знаёмец, на той час вельмі мною паважаны першы (і, як высветлілася пазней – апошні) віцэ-прэзідэнт Расіі Аляксандр Уладзіміравіч Руцкой. Ён заваяваў мае сімпатыі, калі ў Крамлі па-прасцяцку ўзяў мяне за лацканы пінжака і прыцішана сказаў:

– Ды я за Барыса Мікалаевіча (Ельцына – С.Ш.) жыцця не пашкадую!

Не паверыць яму было нельга. Герой Савецкага Саюза, гераічна злётаў у Фарос па Гарбачова, лётчык з чатырма сотнямі баявых вылетаў, двойчы збіты, паранены, уцёк ад маджахедаў у Афганістане...

І вось ён – віцэ-прэзідэнт Расійскай Федэрацыі – вяртаецца з Венесуэлы, куды лятаў з афіцыйным візітам, праз Рыа. Вырашыў зазірнуць на экалагічны саміт. Са мной паводзіць сябе, як са старым сябрам. Гаворыць не шэптам, як у Крамлі, а гучна, ва ўласцівай яму рашучай манеры:

– Якога д'ябла паважанаму Івану Сцяпанавічу Плюшчу – Старшыні Вярхоўнага Савета Украіны, у якой я нарадзіўся, і вам – нашаму з ім славянскаму брату, вяртацца рэйсавым самалётам? Запрашаю вас абодвух на мой урадавы ІЛ-62, значна больш дасканалы, чым ІЛ-62 рэйсавы. Прыляцім хутчэй і камфортней. Ды і пагаварыць у дарозе ёсць пра што. Новых уражанняў – процьма! Самае галоўнае – у акіяне на востраве Саале паплаваць зможам, пакуль самалёт заправіцца.

Адмаўляцца ад такой прывабнай прапановы мне і майму, без перабольшвання, добраму сябру – Івану Сцяпанавічу Плюшчу не было прычыны. Мы падзякавалі за прапанову і пагадзіліся. Зусім не да месца, падумаў я, успамінаць, што спачатку Аляксандр Уладзіміравіч гнеўна асудзіў Белавежскае пагадненне. Чаго ў жыцці палітыкаў ні бывае. Зразумеў жа потым, што памыліўся. Нечаканыя хады рабіў: фракцыю «Камуністы – за дэмакратыю», названую жартаўнікамі «Ваўкі – за вегетарыянства», стварыў, але ж яна дапамагла Ельцыну пры абранні прэзідэнтам. Кампартыю Расіі з чалавечым тварам стварыць спрабаваў... Зноў жа, не адзін ён быў ахвярай утапічнай ідэалогіі. Пераканаў я сябе ўрэшце, што другім чалавекам стаў віцэ-прэзідэнт Расіі... Пераканаў, як аказалася, ненадоўга.

Хвілінаў праз 15 пасля ўзлёту Аляксандр Уладзіміравіч запрасіў нас у салон у хваставой частцы самалёта. За столікам для пяці чалавек сядзеў ён, яго жонка і памочнік. Калі мы з Іванам Сцяпанавічам

селі, столік аказаўся ўкамплектаваным. Любы з нас мог выйсці, падняўшы са свайго месца памочніка Руцкога, які сядзеў на чале стала плячыма да дзвярэй.

Сцюардэса паставіла на столік пляшку гарэлкі «Smirnoff», прынесла хлеб, халодныя закускі. Чаркі былі ўстойлівымі і ёмістымі. Пасля першага тосту ў бутэльцы 0,8 літра засталося менш за палову. Не памятаю, якімі былі першы і астатнія тосты, але добра памятаю, што актыўна пілі толькі віцэ-прэзідэнт Расіі і яго памочнік. Астатнія прыгублівалі. Спачатку Руцкой дакараў нас за стрыманасць, потым перастаў яе заўважаць. Час ад часу ён ужываў недапушчальныя ў прыстойнай кампаніі выказванні, у тым ліку і на адрас вельмі мілых жанчынаў – сваёй жонкі і сцюардэсы, якая сістэматычна наведвала нас то з чарговай пляшкай, то з новай закускай.

Я ўспомніў чамусьці Ельцына і кітайскую прыказку: «Бяда, калі пігмеі спрабуюць выглядаць тытанамі». Барыс Мікалаевіч мог выпіць лішняе, і неаднойчы я быў сведкам гэтага, але каб брыдкасловіць або змяніць рашэнне пад уздзеяннем выпітага – ніколі!

Становішча ў нас з Плюшчом незайздроснае. Пярэчыць бессэнсоўна – віцэ-прэзідэнт абсалютна ўпэўнены ў сваёй рацыі і ўжо даўно нікога не слухае і не спрабуе пачуць. Уцячы няма куды, абараняць жанчынаў словамі – не па-мужчынску. Маўчым, не п'ём, хоць я ўжо і не супраць выпіць, каб зняць стрэс, але Іван Сцяпанавіч – скала! Ні грама, а ведаю, што ўмее і можа выпіць. Бяру з яго прыклад.

Віцэ-прэзідэнт Расіі важнічае і працягвае несці несусветную лухту:

– Дамовіўся ў Венесуэле аб пастаўках трапічнай садавіны ў Расію. Нарэшце расіяне атрымаюць неабходныя ім вітаміны. І даўно б мелі, але вось Гайдар... Колькі яго на шлях ісціны ні ставіў, ён так і не зразумеў падчас свайго прэм'ерства важнасці садавіны з тропікаў. Ён наогул у эканоміцы нічога не разумее, колькі яго ні вучыў. Не дагледзь я, нападпісваў бы лістоў з арыфметычнымі памылкамі, хоць сам – чалавек сумленны, але няўважлівы, а асяроддзе – яшчэ тое! Палец дай – руку адкусяць!

Маналог перапыніла прызямленне на выспе Саале. Віцэ-прэзідэнта Расіі сустракаў прэм'ер астраўной дзяржавы Каба-Вердэ – былой партугальскай калоніі Астравы Зялёнага Мыса з насельніцтвам меншым, чым збіраецца ў святочны дзень на Краснай Плошчы.

Да справы падключыўся памочнік Руцкога, які да гэтага часу піў у нашай кампаніі моўчкі:

– Павітайце прэм'ера, падкрэсліце важнасць нашых з яго краінай кантактаў.



*2011 год, «Масфільм». У перапынку паміж здымкамі тэлеперадачы аб распадзе СССР, у якой С.Б. Станкевіч і я – па адзін, а А.У. Руцкой – па другі бок бар'ера*

І віцэ-прэзідэнт Расіі пачаў тлумачыць прэм'еру Каба-Вердэ важнасць расійска-каба-вердэйскіх адносінаў з такім пафасам і натхненнем, з якім нядаўна расказваў нам з Іванам Сцяпанавічам Плюшчом аб уплыве трапічнай садавіны з Венесуэлы на жыццё расійскіх грамадзянаў. На шчасце, абмен думкамі з прэм'ерам астраўной дзяржавы (дарэчы, выпускніком Гарварда, як мне паведаміў ягоны дарадца) быў нядоўгім.

Паехалі на пляж па адзінай на востраве вузкай асфальтавай дарозе, якая вядзе ад аэрапорта да адзінага на востраве паселішча з пяццю тысячамі жыхароў і з бясконцымі «пляжамі» навокал. Ахоўнікі віцэ-прэм'ера – атлетычнага целаскладу, вясёлыя і разам з тым вельмі сур'ёзныя і адказныя хлопцы – імкнуліся засцерагчы Аляксандра Уладзіміравіча ад акіянскіх хваляў, а ён, усклікаючы: «будет буря, мы поспорим и поборемся мы с ней», ірваўся ў ваду. Супакоіўся толькі тады, калі яго выкінула хваляй на бераг...

Пасля ўзлёту Руцкой папрасіў паклікаць камандзіра самалёта.

– Да Масквы зрабіце пасадку ў Кіеве.

– Таварыш генерал, ёсць праблемы...

Камандзір не паспеў дагаварыць, віцэ-прэзідэнт перабіў яго:

– Загадваю зрабіць пасадку ў Кіеве!

– Слухаюся, дазвольце выконваць?

– Выконвайце!

Пасадку ў Кіеве Руцкой вырашыў зрабіць дзеля Івана Сцяпанавіча Плюшча, якому з-за такога жэста стала сорамна. Ён паспрабаваў запярэчыць, маўляў, дзеля чаго такія клопаты? Навошта садзіць самалёт з амаль сотняй чалавек на борце для высадкі аднаго? Але генерал заўпарціўся. У Кіеве мы селі, Плюшча высадзілі і паляцелі ў Маскву.

* * *

Дэталі палёту ў Бразілію ў 1992 годзе я ўзнавіў па нататках у старым рабочым сшытку, рыхтуючыся да паездкі ў польскі Гданьск у верасні 2011 года. Штогод там 29 верасня ў дзень нараджэння першага прэзідэнта постсавецкай Польшчы Леха Валэнсы адбываецца ўручэнне міжнароднай прэміі яго імя. Як сябра журы па прысуджэнні гэтай прэміі я заўсёды з задавальненнем лётаю ў Гданьск на пасяджэнні журы і ўрачыстасці ў старадаўнім палацы Артус. Акрамя таго, не магу адмовіцца ад задавальнення яшчэ раз зірнуць на старадаўні Гданьск – калыску польскай «Салідарнасці», адчуць радасць сустрэчаў са старымі знаёмымі і сябрамі журы, такімі, як былы прэзідэнт Чэхаславакіі Гавел, Румыніі – Канстанцінеску, Балгарыі – Жэлеў .



*2011 год, 29 верасня, Гданьск, палац Артус. З былымі прэзідэнтамі Луісам Ігнацыо Лула да Сільва (Бразілія), Андрэа Канстанцінэску (Румынія), Лехам Валэнсай (Польшча)*

Прэмія 2011 была прысуджаная намі быломупрэзідэнту Бразіліі Луісу Ігнацыю Лула да Сільва, якога мы коратка называлі Сільва. Галоўная яго заслуга на пасадзе прэзідэнта – рашучае змяншэнне колькасці насельніцтва, якое знаходзіцца на мяжы беднасці. Працэс гэты працягвае яго пераемніца прэзідэнт Дылма Вана Русеф. Па меркаваннях экспертаў набліжаецца час, калі ў гэтай краіне не трэба будзе адгароджваць бронемашынамі хаціны беднякоў (фавелы) ад міжнародных мерапрыемстваў накшталт саміту 1992 года. Тады ўдзельнікі саміту і кіламетра не маглі праехаць па горадзе без бронемашынаў суправаджэння, а за горадам – без узнятых у паветра верталётаў са снайперамі пры адчыненых люках.

## Манголія

Прыемная неспадзяванка чакала мяне ўвосень 2008 года – запрашэнне на адкрыццё фестывалю культуры і спорту ва Улан-Батар – сталіцу Манголіі. Многія кіраўнікі гэтай краіны атрымалі адукацыю ў СССР. Некаторых з іх я ведаю яшчэ з савецкіх часоў.

Звесткі аб даўняй гісторыі Манголіі, прыведзеныя ў БСЭ і школьных падручніках савецкага часу, істотна адрозніваюцца ад тых, якія давялося нам пачуць ад музейных гідаў і палітыкаў гэтай краіны. Раней я быў упэўнены, што шляхам ваенных кампаній, якія вызначаліся нябачанай дагэтуль жорсткасцю, Чынгіс-хан (кіраваў Манголіяй з 1206 па 1227 год) стварыў самую буйную імперыю ва ўсёй сусветнай гісторыі. Яе насельніцтва складала больш за траціну тагачаснага 300-мільённага насельніцтва Зямлі. Аднак мае старыя і новыя мангольскія знаёмцы адзінадушна сцвярджалі, што Чынгіс-хан – далікатны кіраўнік, які праводзіў мудрую палітыку, пакідаючы на заваяваных землях ранейшых кіраўнікоў. Ён толькі ўскладаў на іх абавязак плаціць сціплую даніну. Караліся толькі тыя, хто рабіў гэта не так, як было загадана.

Культ Чынгіс-хана ва Улан-Батары уражвае. Аэрапорт – «Чынгіс-хан», лепшы гатэль – «Чынгіс-хан», гіганцкая скульптура ля ўваходу ў парламент – Чынгіс-хан, у музеях і галерэях – геаграфічныя карты імперыі 1227 года і той жа Чынгіс-хан на палотнах і ў скульптурных выявах.

Вельмі хацелася як мага лепш ва ўсім гэтым разабрацца, але мне не пашанцавала. Я моцна атруціўся і не змог не толькі ўсюды пабываць, але і выступіць у мангольскім парламенце – Вялікім дзяржаўным хурале. Аднак хвароба дазволіла мне дэталёва пазнаёміцца з тым, што не ўваходзіла першапачаткова ў праграму паездкі. Левамецытын паставіў мяне на ногі праз суткі, і месцам майго выступу стаў урадавы прыём у гонар міжнароднага фестывалю.



*2013 год, 23 лютага. Саміт у Сеуле «Мір, бяспека і развіццё». З першым Прэзідэнтам Манголіі (1990-1997) Очырбатам Пунсалмаагіінам*

Прыём ладзіўся на былым лецішчы Чойбалсана. Мае мангольскія сябры ўспаміналі яго нядобрым словам: знішчыў 36 000 «ворагаў народа», разбурыў сотні манастыроў і храмаў. Усё як у СССР у тыя ж 1937–1938 гады, толькі насельніцтва менш, таму і ахвяраў менш. Пры Чойбалсане была забароненая рэлігія. Не ведаю, як выглядала ў той час ягонае лецішча, цяпер жа гэта – раскошны палац. Вялізны земляны надзел у лясістым перадгор'і, што ва ўмовах Манголіі – вялікая рэдкасць. Тэрыторыя, як мне растлумачылі, была капітальна адгароджаная ад астатняга свету яшчэ пры Чойбалсане.

Даволі цікавым быў для мяне напамін, што Манголія шмат чым абавязаная СССР і Расіі. Мог толькі дадаць – не толькі ў добрым, але і ў дрэнным сэнсе. У мініяцюры тут было паўтарэнне падзеяў у СССР. У 1952 годзе да ўлады прыйшоў паплечнік Чойбалсана Цэдэнбал, у 1956 і 1962 гадах быў асуджаны культ асобы Чойбалсана, у 1984 годзе Цэдэнбал пры садзейнічанні ЦК КПСС быў зняты з усіх пасадаў «па хваробе» і да смерці ў 1991-м жыў «на пенсіі» ў Маскве.

Да 1990 года Манголія была сацыялістычнай краінай з адзінай кіроўнай Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыяй (МНРП). Цяпер не без цяжкасцяў Манголія будуе парламенцкую рэспубліку. Дэмакратыі і правоў чалавека ў ёй непараўнальна больш, чым у Беларусі.

Па Канстытуцыі 1992 года кіраўнік дзяржавы – прэзідэнт, які выбіраецца на альтэрнатыўнай аснове шляхам усеагульнага прамога і патаемнага галасавання тэрмінам на 4 гады. Прэзідэнт можа перавыбірацца яшчэ на адзін тэрмін. Заканадаўчую ўладу ажыццяўляе парламент – Вялікі дзяржаўны хурал (ВДХ) у складзе 76 чальцоў, якія выбіраюцца ўсенародна шляхам патаемнага галасавання таксама на 4 гады. Выканаўчую ўладу ажыццяўляе ўрад, фармаваны ВДХ па прапанове прэм'ер-міністра і ўзгоднены з прэзідэнтам. Кандыдатуру кіраўніка Кабінета міністраў прадстаўляе на разгляд ВДХ прэзідэнт. Урад падсправаздачны ВДХ. На месцах уладу ажыццяўляюць органы мясцовага самакіравання.

Я адмыслова падрабязна апісаў палітычную сітуацыю ў былой сацыялістычнай МНР, якая стала дэмакратычнай Манголіяй, каб адзначыць, што і ў Азіі паміж камуністычным Кітаем і даволі далёкай ад дэмакратыі Расіяй будуецца дэмакратычная дзяржава. Тут некалькі партый, яны змагаюцца на выбарах за месцы ў парламенце, ствараюць кааліцыйныя ўрады. Масы пратэстуюць, калі лічаць, што мае месца несумленнасць выбарчых камісій ці іншая фальсіфікацыя. Выходзяць на плошчу. На гэта не трэба атрымліваць дазвол.

Наяўнасць мноства карысных выкапняў у Манголіі зрабіла Улан-Батар месцам размяшчэння офісаў замежных фірмаў, а сам горад стаў спалучэннем хмарачосаў, раскошных катэджаў, юртаў і старой гарадской інфраструктуры. Насельніцтва яго вырасла



*2008 год, Улан-Батар. Удзельнікі Фестывалю культуры і спорту з СНД*

за апошнія 20 гадоў амаль у тры разы, а дарогі і вуліцы амаль не пашыраліся. Такіх беспрасветных аўтамабільных затораў, як ва Улан-Батары, я нідзе не бачыў. Калі ўначы з аэрапорта да гасцініцы мы прыехалі за няпоўных 20 хвілінаў, то днём на зваротны маршрут нам спатрэбілася больш за тры гадзіны!

Манголы – людзі спакойныя, добразычлівыя, ветлівыя. Калі па-руску нешта спытаеш на вуліцы, абавязкова прыцягнуць тых, хто рускую мову ведае і з імі разам усё дэталёва растлумачаць, пакажуць і пажадаюць поспеху. Разнастайных легкавікоў – незлічонае мноства: з правым і левым рулём, пераважна ўжываныя японскія і карэйскія, але сустракаюцца і раскошныя лімузіны прадстаўнічага класу.

## Японія

Японіяй нельга не захапляцца. Аднак зразумець, хто такія японцы і што такое Японія, няпроста. Для гэтага трэба з японцамі і абавязкова ў Японіі «пуд солі з'есці», а яны соляць ежу як мага меней. Быў я ў Японіі зусім нядоўга: за пяць паездак набралася дзён трыццаць. Але і за гэты кароткі час уражанняў назбіралася шмат, хочацца імі падзяліцца.

Японцы любяць прыгажосць, дысцыплінаванасць і пунктуальнасць. Доктар Кван – карэец, шмат гадоў пражыў у Японіі, добра ведае гэтую краіну і яе звычаі. У 128-мільённай Японіі ёсць адзіная



*Прыгожых месцаў у Японіі – безліч*

дыяспара замежнікаў – карэйская. У ёй каля 600 тысячаў чалавек. І хоць з прыведзеных лічбаў вынікае, што на аднаго карэйца ў Японіі прыходзіцца больш за 210 японцаў, доктар Кван арганізаваў маю паездку па паўднёвай Японіі для чытання публічных лекцый, як ён сказаў, абапіраючыся на карэйскую дыяспару. Ён суправаджаў мяне з маёй жонкай падчас усёй паездкі, загадзя дамовіўся аб маіх сустрэчах ва ўніверсітэтах, парламенце Токіо, з некалькімі губернатарамі, кожны вечар уручаў мне дэталёвы план наступнага дня.

– Я планую так, як прынята ў Японіі, – казаў ён.

Не адразу я адчуў, што Кван – прафесійны менеджэр, паспяхова займаецца рознага роду бізнесам, у тым ліку і арганізацыяй публічных лекцый. Калі першы раз я з Сеула ляцеў у Токіо на канферэнцыю і меў там пасля заканчэння канферэнцыі вольны дзень, доктар Кван прапанаваў мне прачытаць у гэты дзень, як ён сказаў, «пробную публічную лекцыю на тэму «Куды ідуць былыя рэспублікі Савецкага Саюза».

– У вашай кнізе «Неокоммунизм в Беларуси» гэтая тэма раскрыта па стане на 2000–2001 гады. Упэўнены, што вы і далей сочыце за падзеямі на постсавецкай прасторы.

– Сачу.

– Тады дамовіліся. Арганізацыю я бяру на сябе. Перакладаць, як і ў Карэі, будзе спадар Хіроюкі.

Дэталі арганізацыі і правядзення гэтай лекцыі я высветліў пазней. А пачыналася ўсё так. Мы пад'ехалі да невялікага будынку,



*Першы сакратар расійскай амбасады ў Японіі Уладзіслаў Ясенеў пазнаёміў нас з цікавосткамі Токіо*



*2003 год, Токіо. Прыемна выступаць перад такімі слухачамі*

размешчанага на гары. Да ўваходу вяла шырокая доўгая лесвіца. На яе прыступках стаяла незлічоная колькасць абутку. Я таксама зняў туфлі, зразумеўшы, што ў гэтае памяшканне ў абутку не ўваходзяць. Не пабаяўся пераблытаць свае туфлі з іншымі пры выхадзе – мае былі сантыметраў на пяць даўжэйшыя. У памяшканні, якое лагічна назваць вялікім прылазнікам, таксама стаяла мноства абутку. Прайшоў у залу, дзе, падумаў, будзе лекцыя. На падлозе ў ёй перад вялізным плазменным экранам сядзелі чалавек 200. Аказалася, што гэта хол, у якім наведнікі імпрэзаў звычайна праводзяць перапынкі. Мне растлумачылі, што з другога боку ёсць такі ж хол і што ў ім таксама на падлозе сядзяць людзі. Далей была галоўная зала. І там усе сядзелі на падлозе.

Аказваецца, мой дарагі доктар Кван так разрэкламаваў лекцыю, што на яе купілі квіткі значна больш людзей, чым магла змясціць зала. Больш за тое, першапачаткова меркавалася, што слухачы будуць сядзець на крэслах. Уяўляю, якая праблема ў падобнай сітуацыі ўзнікла б у нас!

А японцы ўтварылі ланцужок і выдалілі 300 крэслаў з залы, каб вызваліць дадатковае месца. Селі на падлогу чалавек 600. Астатнія размясціліся ў двух холах перад плазменнымі экранамі. Усюды меліся мікрафоны для таго, каб з дазволу вядоўцы задаць пытанне або зрабіць кароткую рэмарку. Я ніколі не забуду гэтую лекцыю і гэтую аўдыторыю. Больш уважлівых, дабразычлівых і дысцыплінаваных слухачоў у мяне не было і, думаю, ніколі не будзе, тым больш, ва ўмовах, далёкіх ад камфорту.

Арганізатарам усіх маіх лекцый у Японіі быў, паўтараю, карэец доктар Кван, а перакладчыкам у Японіі і Карэі – японец Хіроюкі Ямакава, які стала жыве ў Карэі. Ён скончыў у Маскве ўніверсітэт імя Патрыса Лумумбы.

План майго чарговага дня заўсёды складаўся з мінімальнай дыскрэтнасцю да дзвюх хвілінаў, г. зн. адну справу ад іншай маглі аддзяляць толькі дзве хвіліны. Выконваўся план, практычна, без спазненняў і збояў, нягледзячы на капрызы надвор'я і аўтамабільныя заторы. І толькі аднойчы ў апошні дзень нашага знаходжання ў Японіі на востраве Акінава план быў парушаны – праз залеву, якая распачалася на некалькі гадзінаў раней, чым вынікала з прагнозаў. Кван палічыў, што за сем публічных лекцый у розных гарадах Японіі я заслужыў дзве гадзіны адпачынку – развітальнае купанне ў моры. Але яго прыйшлося замяніць наведваннем акіянанарыя. Там за шклом велізарнага памеру і дзесяціцалевай (!), г.зн. 25-сантыметровай, таўшчыні, плавалі экзатычныя рыбы, сярод якіх – сямітонная акула-молат.

Пра ўніверсітэты. На жаль, я пазнаёміўся толькі з адным з іх – універсітэтам Васэда ў Токіо. Уступныя іспыты ва ўніверсітэт здаюцца ў сакавіку, навучальны год пачынаецца 1 красавіка. Староннякму ўвайсці на тэрыторыю ўніверсітэта ў сакавіку немагчыма. Для нас па папярэдняй дамоўленасці з прафесарскай лігай (клубам) Токіо зрабілі вынятак. Паліцыянты, якім пры нясенні службы і наогул у форменнай вопратцы забаронены ўваход на тэрыторыю ўніверсітэта, прапускаюць туды ў сакавіку толькі абітурыентаў і супрацоўнікаў, якія прымаюць іспыты.

На помніку 1847 года першаму рэктару надпіс: «Ён зрабіў Шэкспіра зразумелым японцам». Выкладчыкі, якія паказвалі ўніверсітэт, былі нешматслоўныя. Універсітэт – як універсітэт. У ім створаныя ўсе ўмовы для заняткаў, самастойнай працы, спорту і адпачынку студэнтаў. Па нашых беларускіх мерках – вельмі шмат кампутараў. Што яшчэ можна даведацца, калі ў сакавіку няма ні заняткаў, ні студэнтаў...

Але сапраўдным універсітэтам у спасціжэнні гэтай краіны сталі для мяне сама Японія і самі японцы.

Пачалося з наведвання парламента ў Токіо. Прыязджаем туды ў дакладна вызначаны час. Сустракае старшыня камісіі па міжнародных справах. У зале камісіі пачынаецца дзелавая размова. Першыя словы старшыні камісіі для мяне – нечаканасць:

– Чаму ў Токіо няма амбасады Беларусі?

– Як гэта няма? Ёсць амбасада і амбасадар ёсць – Пётр Краўчанка.

Кароткае маўчанне. Пасля чаго старшыня камісіі па замежных справах парламента горада Токіо тлумачыць, што ў іх існуе вядомая ўсім традыцыя, якую даводзіць да ведама амбасадараў кіраўнік дыпламатычнага корпусу – дуаен. Пасля прыбыцця ў Японію амбасадары замежных краінаў наносяць візіт ветлівасці ў камісію такійскага парламента па замежных справах. Візіт дапама-

гае наладзіць дзелавое супрацоўніцтва. Аднак амбасадар Беларусі такога візіту не зрабіў, таму мы не ведаем, што тут ёсць вашая амбасада.

Я ўспомніў вядомую ў Менску показку.

– Як гэта Краўчанка дамогся ў Лукашэнкі прызначэння яго амбасадарам? Няўжо прэзідэнт не ведае, што Краўчанка прасоўвае толькі асабістыя справы і каго заўгодна прадасць?

– Краўчанка паабяцаў арганізаваць трыумфальны прыезд Лукашэнкі ў Японію на зімовую алімпіяду, а таксама сустрэчу з імператарам. І дадаў, што гэта толькі яму пад сілу.

У іранічнай форме я паведаміў пра гэта майму суразмоўцу. Той усміхнуўся:



*Каля помніка рэктару, які зрабіў Шэкспіра зразумелым для японцаў*

– Іх Вялікасць імператар Акіхіто і імператрыца Міціко з замежнымі палітыкамі не сустракаюцца.

Падчас нашай гутаркі ішло паседжанне парламента. У перапынку ў залу камісіі зайшоў спікер і звярнуўся да мяне:

– Вы ўзначальвалі парламент краіны, а я – толькі парламент горада. Але мы таксама вырашаем даволі сур'ёзныя задачы. Размяркоўваем, да прыкладу, бюджэт Токіо, які значна перавышае, скажам, бюджэт Канады.

– Паважаны спадар старшыня, я разумею ваш гумар. У мяне няма падставаў важнічаць. Бюджэт, які зацвярджаў падчас майго старшынёўства Вярхоўны Савет Беларусі, быў вельмі і вельмі маленькім у параўнанні са згаданым вамі бюджэтам Канады, ды і жыхароў у Беларусі меней, чым у Токіо.

– Але вашая рэспубліка сёння – незалежная краіна, а вы асабіста вядомыя ва ўсім свеце. У лясах Беларусі, у пушчы (гэтае слова спікер прамовіў на рускай мове, прычым, літара «щ» гучала як «з») было знойдзенае выдатнае палітычнае рашэнне, якое прывяло да бяскроўнага падзелу імперыі з ядзернай зброяй на незалежныя дзяржавы.

Пасля яшчэ некалькіх кампліментаў спікер папрасіў прабачэння і сказаў, што яму пара ісці працаваць. Запрасіў нас зазірнуць у залу, дзе ён будзе весці сесію. Туды, дарэчы, можа зайсці і сесці на адмыслова прадугледжаныя месцы для гасцей любы чалавек, які знаходзіцца ў будынку парламента. Увайсці ў будынак парламента таксама можа хто заўгодна, прад'явіўшы дакумент з фатаграфіяй.



*Старшыня камісіі па міжнародных справах парламента Токіо вырашыў, што найлепшым падарункам для мяне будзе японскае саке*



*У сакавіку Акінава патанае ў кветках*

Мы зайшлі ў залу. Пасядзеўшы хвіліны тры, я сабраўся сыходзіць, але Хіроюкі Ямакава сказаў, што з меркаванняў ветлівасці трэба застацца яшчэ на пэўны час, і працягнуў пераказваць сутнасць прамоваў выступоўцаў. І раптам:

– Цяпер вам трэба ўстаць і пакланіцца.

Устаю, кланяюся зале. Дэпутаты і спікер таксама ўсталі і віталі мяне апладысментамі. Аказалася, што спікер расказаў дэпутатам пра мяне, пра тое, што мой подпіс стаіць пад Белавежскім пагадненнем. Сказаў, што я знаходжуся ў зале ў ложы для гасцей.

Бібліятэкі, музеі і іншыя культурныя цэнтры ў Токіо бясплатныя. Не раскажы нам пра гэта першы сакратар амбасады Расійскай Федэрацыі, мы б, напэўна, задумаліся, што наведаць, а што – не варта. Мне добра помнілася, колькі каштавала наведванне пляцоўкі на даху хмарачоса The Empire State Building або пляцоўкі на даху гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку, разбуранага 11 верасня 2001 года тэрарыстамі, ці, напрыклад, плата за ліфт і 10-хвіліннае знаходжанне на пляцоўцы тэлевышкі ў Таронта.

А тут – усё бясплатна. Вас ласкава запрашаюць на аглядавую крытую (усепагодную!), са шклянымі сценамі пляцоўку-перамычку паміж 42-мі паверхамі двух хмарачосаў, уручаюць маляўнічы буклет. Гіды па-японску, па-кітайску, па-карэйску, па-англійску распавядаюць пра Токіо, прапануюць паглядзець у бусоль на горад, на наваколле і нават на Фудзіяму, якая відаць, калі бачнасць добрая. Затым вас спускаюць долу і, усміхаючыся, глядзяць вам у вочы,

як быццам вы іх ашчаслівілі. І міжволі верыш: персанал сапраўды шчаслівы, што прынёс вам радасць.

Ну чым не ўзорны ўніверсітэт добрых манераў і дабразычлівасці?

Японія здзіўляе шмат чым. Краіна размешчаная на Японскім архіпелагу, які складаецца з больш чым 6800 астравоў. Чатыры найбуйнейшыя – Хансю, Хакайда, Кюсю, Сікоку – складаюць 97% яе агульнай плошчы, якая, дарэчы, толькі ў няпоўныя два разы большая за тэрыторыю Беларусі. Самы вялікі востраў на поўдні – Акінава. Ён знаходзіцца прыкладна на аднолькавай адлегласці паміж Кюсю і Тайванем. Да 1972 года ім распараджаліся амерыканцы. Сёння на востраве ёсць амерыканскія вайскоўцы, у прыватнасці, авіяцыйная база Кадэна, але кіраванне Акінавай перайшло ў рукі японцаў.

Нельга не згадаць пра тое, што жыхары Акінавы – рэкардсмены па працягласці жыцця: мужчыны жывуць тут у сярэднім 88 гадоў, жанчыны – 92 гады, на 10-12 гадоў больш, чым у астатняй Японіі! На Акінаве ў мяне былі дзве публічныя лекцыі. Адна – у сталіцы прэфектуры Акінавы – горадзе Наха, другая – у горадзе Акінава. Абедзве прайшлі добра, як і астатнія лекцыі ў Японіі.



*У пашчы акулы ў Марскім музеі Акінавы*

Больш за ўсё мяне ўразіў на Акінаве мемарыял загінулым падчас Другой сусветнай вайны японцам. Справа ў тым, што японцы не ведаюць, што такое магіла невядомага салдата. Кожны вайсковец мае металічны куленепрабівальны нагрудны медальён, дзе выгравіраваныя звесткі пра яго ўладальніка. Дзякуючы гэтаму, усе загінулыя вайскоўцы японскай арміі ідэнтыфікаваныя. Імёны ўсіх загінулых на Акінаве, а гэта больш чым 238 000 чалавек, высечаныя на плітах з чорнага граніту каля мемарыяльнага палацу. Сам храм са скульптурай смуткуючага Буды збудаваны архітэктарам Шынзанам Ямадай (Shinzan Yamada), два сыны якога загінулі на Акінаве – адзіным месцы амерыкана-японскай наземнай бітвы падчас Другой сусветнай вайны. Захапіўшы востраў, амерыканцы пераўтварылі яе ў стратэгічна важную ваенную базу. Маючы больш дасканалае ўзбраенне, артылерыйскую і авіяцыйную падтрымку з мора, амерыканцы страцілі на Акінаве больш за 70 тысячаў чалавек, прыкладна ў тры разы менш, чым японцы.

З Акінавы мой шлях ляжаў на поўнач, на востраў Сікоку, у адміністрацыйны цэнтр прэфектуры Эхімэ горад Мацуяму. Горад здаўна вядомы сваімі лекавымі мінеральнымі водамі. У ім падчас Руска-японскай вайны 1904–1905 гадоў лекавалі параненых рускіх



*Мемарыяльны палац міру на Акінаве з 8-мятровай бронзавай скульптурай смуткуючага Буды – помнік загінулым тут японскім вайскоўцам*

ваеннапалонных. Памерлых хавалі на могілках на скалістай гары. У дзень нашага прылёту ў Мацуяму споўнілася сто гадоў з дня першага пахавання, і прэфект падчас нашай з ім сустрэчы спытаў, ці не хачу я ўскласці кветкі да падножжа абеліска. Я падзякаваў за прапанову, і мы з жонкай паехалі на могілкі. Усклалі вянкі і кветкі, удзельнічалі ў жалобным, баюся гэтага слова, мітынгу, прысвечаным памяці воінаў.

Каб жа магілы савецкіх воінаў былі ў такім стане, як пахаванні больш чым стогадовай даўніны ў Мацуяме! Ідэальная чысціня, ідэальны парадак, ідэальны стан надмагілляў з надпісамі на рускай і японскай мовах: хто пахаваны, калі, кім служыў на флоце, калі і дзе нарадзіўся. На шыльдачках запісаныя дадзеныя са словаў параненых, многія з якіх, служачы на расійскім флоце, заставаліся непісьменнымі. Таму тое-сёе ў асобных надпісах можа выклікаць пытанні. Я ж зразумеў, што як найменей з 94 памерлых ад ранаў і пахаваных тут – 7 беларусаў.

Навучэнцы гімназій Мацуямы, а такіх устаноў у горадзе 22, спаборнічаюць за права даглядаць пахаванні воінаў. Тыя, хто заняў першае месца, даглядаюць магілы японскіх вайскоўцаў, хто другое – магілы расійскіх ваеннапалонных. Мне японцы падаравалі бра-




*Вокладка даведніка аб пахаваных у Мацуяме*



*Жонка даведалася, што некаторым рыбам больш за 50 гадоў*

шуру са спісам пахаваных і перадрукам надпісаў на надмагіллях. Прыехаўшы дадому, я перадаў брашуру ў Інстытут гісторыі нашай Акадэміі навук.

Мацуяма – горад студэнтаў; у 1923 годзе тут адкрыты ўніверсітэт. Але Мацуяма здаўна – і горад паэтаў. 3 000 паэтаў штогод спаборнічаюць у Мацуяме ў мастацтве хайку – уменні імгненна напісаць трохрадковы верш. У такім лаканічным творы кожнае слова і кожны вобраз – на вагу золата. Сказаць пра многае, выкарыстаўшы мінімум словаў, – галоўны прынцып хайку.

Даведаўшыся пра ўсё гэта, я стаў пабойвацца – а як успрымуць японцы маю шматслоўную лекцыю? Але ўсё скончылася добра, і з грамадкай слухачоў і маім паважаным перакладчыкам мы адправіліся ў батанічны сад. У Мацуяме ён мае раўнінную частку з невялікай рачулкай і старадаўняй рукатворнай дамбай, што ўтварае сажалку, а таксама частку горную. Таму ў ім растуць расліны некалькіх кліматычных паясоў.

У сажалцы – рознакаляровыя вялікія карпы, якіх дазваляецца карміць толькі прадаванымі тут «пірагамі» – порыстымі пліткамі. Па вазе яны мала адрозніваюцца ад дзіцячых паветраных шарыкаў, а каштуюць нямала. Улічваючы шчыльнасць плітак і іх кошт, можна быць упэўненым, што карпаў, якія па сваёй камплекцыі нагадваюць ніштаватых парсючкоў, імі не перакорміш. У батанічным садзе ўсё прыгожа, дагледжана. Гэта і не дзіўна, бо сад мае ажно 400-гадовую гісторыю. Наступны пункт, дзе доктар Кван арганізаваў

маю публічную лекцыю і сустрэчу з мэрам, – горад Фукуока, самы вялікі на востраве Кюсю. Фукуока азначае «шчаслівы пагорак». У рэкламных праспектах пералічаны цэлы шэраг знакавых для горада рэчаў: камфорнае дрэва, камелія алейная, чайка звычайная, аўсянка чырвонавухая. За кароткі час знаходжання ў Фукуока ні я, ні мая жонка Ірына, не зразумелі, чым яны знакавыя для горада, а мэр на сустрэчы нічога пра гэта не сказаў. Ён адзначыў, што Фукуока – чацвёрты па значэнні горад Японіі, пасля Токіо, Осака і Нагоя. Паведаміў таксама, што Фукуока лічыцца лепшым у свеце месцам для шопінгу. Сам ён у гэтым не сумняваецца, але не ён гэта прыдумаў, а аўтарытэтны брытанскі часопіс Monocle, які правёў па гэтым пытанні спецыяльнае даследаванне.

Лекцыя мая прайшла нармальна, было шмат пытанняў і адна просьба – зрабіць агульны здымак. Я пераадрасаваў просьбу доктару Квану, бо не мог сабе ўявіць агульны здымак прыкладна з 1000 слухачоў, якія знаходзіліся ў зале. Кван сказаў, што просьба зразумелая, і здымак будзе зроблены адразу ж пасля адказаў на пытанні.

На сцэне залы, дзе я выступаў, знаходзіліся чатырохприступкавыя ўзвышэнні для хору. Доктар Кван узяў мікрафон і пачаў камандаваць. Запрасіў на сцэну мужчынаў, якія прынеслі прыстаўленыя крэслы, на якіх сядзелі. Іх аказалася чалавек дваццаць. Папрасіў



*Гранітная пліта з павучальнымі наказамі продкаў для Японіі – не рэдкасць*

іх пераставіць узвышэнні для хору. Утварылася чатырохпрыступкавая лесвіца шырынёй метраў сем-восем. Перад ёй паставілі шэраг прынесеных крэслаў. Пасля Кван скамандаваў: шэрагі ад першага да пятага – на сцэну. Затым – ад шостага да дзесятага і г.д. Нязменнымі на ўсіх фота мусілі застацца чатырохпрыступкавы подыум з крэсламі, сам доктар Кван, перакладчык Хіроюкі Ямакава, мая жонка Ірына і я. Мы займалі 4 цэнтральныя крэслы.

Тады, у 2004 годзе, лічбавых фотакамераў для такіх «плакатных» здымкаў яшчэ не было. Мясцовы фатограф рабіў здымкі высокаякаснай шырокастужкавай камерай. Абяцаў даслаць адзін са здымкаў і мне, але я яго так і не атрымаў. Мяркую, што ў гэтым вінаваты не ён, бо японцы звычайна не парушаюць дадзенае слова.

Горад, куды мы адпраўляліся наступным днём, вядомы ва ўсім свеце – Хірасіма. Хірошіма, як кажуць японцы, робячы націск на «о». Не адзін раз даводзілася мне расказваць пра бомбу, якую скінулі на Хірасіму амерыканцы, пра тое, як вялікія фізікі гэтую бомбу прыдумалі і да чаго прывялі іх геніяльныя адкрыцці і знаходкі. Для скінутай на Хірасіму бомбы спатрэбілася сто кілаграмаў узбагачанага ўрану. А магутнасць выбуху была эквівалентная выбуху дванаццаці з паловай тысячаў тонаў трацілу. Убачыўшы ў музеі Хірасімы вынікі гэтага выбуху, здрыганецца кожны. Загінулі адразу ж і памерлі неўзабаве, зведаўшы жахлівыя пакуты, 130 тысячаў чалавек, пераважна мірных грамадзянаў, дзяцей, жанчынаў, старых. Яшчэ 140 тысячаў чалавек памерлі неўзабаве ад прамянёвай хваробы.

Пасля знаёмства з музеем ядзернага бамбавання і агляду мемарыяльнага парку Міру я зразумеў, што чытаць лекцыю на тэму «Хірасіма і Чарнобыль» у Хірасіме, у зале, размешчаным у 500-700 метрах ад эпіцэнтра выбуху, нельга так, як я рабіў гэта ў іншых месцах.

Перад пачаткам лекцыі я папрасіў ушанаваць хвілінай маўчання памяць загінулых ад ядзерных бамбаванняў, ядзерных катастрофаў і ядзерных аварый. Далей расказаў пра маё бачанне прычынаў Чарнобыльскай катастрофы. Расказаў прыкладна так, як напісана ў раздзеле пра Чарнобыль гэтай кнігі. А потым размова была пра тое, што мы называем духоўным Чарнобылем, а японцы – безадказнасцю палітыкаў пры прыняцці стратэгічных рашэнняў. Лекцыю ў цэлым я прачытаў не так, як звычайна, амаль на адных эмоцыях, але, прабачце за нясціпласць, думаю, што атрымалася нармальна. Жадаючых атрымаць аўтограф было безліч.

Дзякуючы аднаму аўтографу, тое-сёе для мяне канчаткова высветлілася. Справа ў тым, што я ніяк не мог зразумець, што адбываецца насамрэч. Менеджэрам аплочаны мой з жонкай пералёт-адлёт, мы ездзім у першакласных аўтамабілях, лётаем самалётамі,



*Здымак на памяць з найбольш актыўнымі слухачамі*

спыняемся ў шыкоўных гатэлях, нарэшце, я атрымліваю прыстойны па маіх панятках (і нават вельмі прыстойны – па панятках маёй жонкі) ганарар...

Дык пры чым тут аўтограф?

А справа была гэткая. Аб аўтографе папрасіў па-руску выпускнік Універсітэта імя Патрыса Лумумбы. За пяць гадоў вучобы ў Маскве ён, відаць, крыху адвык ад добрых японскіх традыцый і, у адрозненне ад іншых, якія працягвалі для подпісу паштоўкі, каляндарыкі, запісныя кніжкі, яшчэ нейкія прыгожыя карткі, папрасіў распісацца на ўваходным квітку на лекцыю. Я паглядзеў квіток. Натуральна, нічога, напісанага іерогліфамі, не зразумеў. Але кошт квітка быў надрукаваны арабскімі лічбамі са значком за імі «YEN». Гэта я зразумеў адразу. Успомніўшы колькасць слухачоў на лекцыях, таксама зразумеў, што ніякага таямнічага фундатара маіх паездак няма. Ёсць толькі разумны менеджэр, які прафесійна ўсё плануе, арганізуе, сумленна плаціць памагатым, памятае аб падатках, не забывае пра сябе і пра мой ганарар.

## Паўднёвая Карэя

У красавіку 1992 года на маё імя прыйшло запрашэнне з папярэдняй праграмай запланаванай у Сеуле канферэнцыі па праблеме аб'яднання Карэі. Тады я не ведаў парадку планавання такіх канферэнцый і абурыўся тым фактам, што ў праграме я фігураваў у якасці выступоўцы на тэму «Аб'яднанне Карэі. Погляд з Еўропы». Потым заўважыў, што каля некаторых прозвішчаў, у тым ліку і каля

майго, пазначана «no confirmed» – не пацверджана. Паколькі мне не дазволена было выязджаць за мяжу без рашэння Вярхоўнага Савета, я папрасіў памочніка падрыхтаваць ветлівы ліст-адмову, маўляў, з-за вялікай занятасці неадкладнымі дзяржаўнымі справамі прыехаць не магу.

Наступным днём памочнік прынёс праект ліста і вялікі, шчыльна запячатаны канверт ад той жа арганізацыі. У канверце былі два камплекты авіябілетаў туды і назад на рэйсы Мінск-Франкфурт-на-Майне-Сеул. У прыкладзеным да квіткоў пасланні гаварылася, што Федэрацыя за мір ва ўсім свеце будзе радая вітаць на канферэнцыі мяне і «суправаджальную мяне асобу», бярэ на сябе ўсе выдаткі, а візавыя пытанні будуць без затрымкі вырашаныя проста ў аэрапорце Сеула.

Што і казаць, спакуса злётаць у Карэю на такіх умовах, ды яшчэ першым класам ад Франкфурта-на-Майне да Сеула, была вялікай. Мой спрактыкаваны ў падобных справах памочнік Леанід Захаравіч Камароў параіў не перажываць з нагоды таго, што цяпер акурат перапынак паміж сесіямі ВС, і я не магу атрымаць дазвол на паездку.

– Трэба проста сысці на час паездкі ў кароткатэрміновы чарговы адпачынак, – падказаў ён.

Так я і зрабіў.

Паездка ў Сеул і падрыхтоўка да яе сталі яшчэ адным жыццёвым універсітэтам, практычнымі заняткамі па правілах зносінаў на высокім узроўні. Застаючыся ў палоне савецкіх уяўленняў, я не ведаў тады, што ў капіталістычным свеце «суправаджальнай асобай» бывае звычайна жонка або ахоўнік. Жонка, на шчасце, таксама не ведала. Дакладней, і падумаць не магла, бо разважала таксама па-савецку: уявіце сабе, што на навуковую канферэнцыю ў СССР я прыехаў бы з суправаджальнай асобай – жонкай! У кулуарах так бы і сказалі: звар'яцеў прафесар, без жонкі ўжо і прыехаць не ў стане.

Карэйцы забяспечвалі перакладчыкам, але я вырашыў паехаць са сваім, да таго ж, з кампетэнтным у міжнародных справах. Так «суправаджальнай асобай» стаў мой дарадца акадэмік Анатоль Арсеньевіч Міхайлаў.

Акрамя Сеула, дзе праходзіла канферэнцыя, мы мелі магчымасць пабываць у Пусане і азнаёміцца з шэрагам заводаў фірмы DEWOO. Ад завода да завода ляцелі на верталёце карэйскай вытворчасці «Сікорскі», у кабіне якога можна спакойна размаўляць. Прадстаўнік фірмы DEWOO звярнуў на гэта нашую ўвагу, сказаўшы, што менавіта карэйцам удалося так удасканаліць амерыканскую мадэль верталёта. Ён даволі добра гаварыў па-руску, расказваў нам падчас чарговага пералёту аб новым месцы




*Стэнд з прывітаннем у холе адміністрацыі завода (мова – англійская, «акцэнт» – мясцовы)*

наведвання. Праўда, лінгвістычная і наогул сэнсавая дапамога акадэміка Міхайлава была вельмі дарэчы.

У Карэі я хутчэй як фізік, а не як Старшыня ВС Беларусі, знаходзіў для сябе шмат новага. Быў прыемна здзіўлены, убачыўшы рэалізацыю на практыцы найноўшых тэхналагічных працэсаў, напрыклад, рэзку цалевай таўшчыні сталёвага ліста плазматронам з дакладнасцю да доляў міліметра – для карпусоў марскіх нафтаналіўных танкераў. Калі ў палёце прадстаўнік фірмы сказаў, што мы такое ўбачым, я, мяркуючы, што рэзка адбываецца ў цэху, спытаў:

– А як вы абараняеце персанал ад спадарожнага магутнага рэнтгенаўскага выпраменьвання?

Ён імгненна адказаў:

– Самай надзейная абарона – квадратам адлегласці.

Сапраўды, выпраменьванне слабее прапарцыянальна адлегласці ад крыніцы ў квадраце, але я ніяк не мог здагадацца, што цэхам служыць намытая пляцоўка сушы, якая выступае ў плыткую марскую затоку. Ад месца рэзкі, дзе ўсім кіруе камп'ютэр, да памяшканняў з персаналам – метраў 250-300. Сапраўды надзейная абарона ад выпраменьвання.

Тут жа мы ўбачылі, як з нарэзаных плазматронам дэталяў звараюцца секцыі самых вялікіх у свеце танкераў, а з іх збіраецца і сам танкер. Ужываны для гэтых мэтаў адмысловы кран, які падымае грузы да 10 000 тонаў (!), дэманстраваў поспехі міжнароднага

супрацоўніцтва: стаяў на *заходнегерманскіх* нагах, меў *японскую* перамычку і *карэйскае* кампутарнае кіраванне.

Паказаны нам аўтазборачны завод таксама прымусіў задумацца. У Карэйскай Рэспубліцы, дзе згодна з законам працоўны дзень не павінен перавышаць 8 гадзінаў, праца доўжылася 10 гадзінаў у дзень – ад панядзелка да пятніцы і 8 гадзінаў – у суботу. Даведаўшыся пра гэта ад работнікаў, я спытаў у прадстаўніка адміністрацыі:

– Хто дазваляе вам парушаць заканадаўства?

– Мы яго не парушаем. Усе без вынятку работнікі падалі заявы з просьбай дадатковага заробку. Прафсаюз падтрымаў просьбу. Адміністрацыя пайшла насустрач. Выйграе і фірма ў сувязі з больш эфектыўным выкарыстаннем абсталявання і павялічаным попытам, і работнікі – дадатковы час аплочваецца па больш высокім тарыфе.

Можна прывесці і іншыя прыклады, калі заваяванае прафсаюзамі, рэвалюцыямі і левымі ўрадамі права на абмежаваную працягласць працоўнага дня спараджае падобныя праблемы. 35-гадзінны працоўны тыдзень у Францыі і 40-гадзінны ў Нямеччыне абавязваюць французаў увесь час працаваць з эфектыўнасцю на 12,5% больш высокай, чым працуюць немцы, каб мець аднолькавыя вынікі ў Еўрасаюзе. Гэта няпроста!



*У Карэі існуе павер'е: немаўлятка, пабываўшы на руках вядомага чалавека, будзе шчаслівым*




*Калі вас запрасілі карэйцы, абавязкова будуць кветкі*

Але вернемся да Карэі.

Кожная новая паездка ў гэтую краіну ўзмацняла маё перакананне ў тым, што многія яе дасягненні абумоўленыя старажытнай традыцыяй выкарыстоўваць любую магчымасць вучыцца. Карэйскія бацькі гатовыя ахвяраваць усім, каб толькі дзеці атрымалі як мага лепшую адукацыю.

«Сярод адукаваных няма бедных», – самыя «крылатыя» словы ў карэйскім грамадстве, нават сярод тых, каго прынята называць простымі людзьмі. З гледзішча майго асабістага досведу зносінаў з карэйцамі я б назваў адной з іх нацыянальных рысаў прагу ведаў.

Гадзіны праз дзве пасля маёй лекцыі ў Сеульскім лінгвістычным універсітэце мне патэлефанаваў у нумар работнік гасцініцы і спытаў, ці не адмоўлюся я сустрэцца з паважаным у Сеуле бізнесменам. Я спусціўся ў хол гасцініцы, дзе элегантны чалавек адразу ж выбачыўся за турботы.

– Мая дачка была на вашай лекцыі ва ўніверсітэце, і я ведаю, што заўтра вы едзеце ў Тэгу. Я прашу вас сустрэцца сёння ўвечары з бізнесменамі, якія працуюць ці жадаюць працаваць з Беларуссю і іншымі постсавецкімі краінамі і адказаць на нашыя пытанні.

– Я ніколі не займаўся бізнесам і не ўпэўнены, што змагу на пытанні бізнесменаў адказаць.

– У нас не будзе больш складаных пытанняў, чым былі сёння ва ўніверсітэце.

Урэшце мы дамовіліся аб чымсьці накшталт сустрэчы без гальштукаў, але і бізнесмены, і я прыйшлі на яе ў гальштуках. Атрымаўся вечар пытанняў і адказаў, пераважна пра Беларусь, пра сустрэчу ў Віскулях і Чарнобыль. Дзіўным было тое, што бізнесмены мелі добрае ўяўленне аб Беларусі, яе гісторыі і прынятых у нас парадках.

Паўднёвая Карэя не пераставала здзіўляць мяне падчас кожнай новай паездкі, а такіх паездак з 1992 года ў мяне было нямала. Найперш уражвала сталіца краіны – Сеул. Ён змяніў шмат назваў. Вірэсонам ён называўся яшчэ ў 18 годзе да нашай эры! У гады японскага каланіяльнага кіравання горад называўся Кенсон (па японску – Кэйдзе). Канчатковая назва гэтага старажытнага горада была зацверджаная толькі пасля вызвалення ў 1945 годзе. Сеул двойчы пераходзіў у рукі паўночнакарэйскіх войскаў у час вайны ў Карэі ў 1950–1951 гадах і быў моцна разбураны. Затым яго запоўнілі хвалі бежанцаў, большай часткай бяздомных. Пасля вайны Сеул быў адноўлены і зноў стаў палітычным і эканамічным



*Паўднёвая Карэя. Архітэктурныя дзівосы*

цэнтрам краіны. Сёння ўім жыве чвэрць насельніцтва Паўднёвай Карэі. У 1988 годзе Сеул стаў сталіцай XX летніх Алімпійскіх гульняў, а ў 2002 годзе – адным з месцаў правядзення чэмпіянату свету па футболе.

Карэйцы клапатліва захоўваюць усё, што можа лічыцца іх традыцыйнай і гістарычнай спадчынай. Тут шмат краязнаўчых музеяў пад адкрытым небам, рэстаўраваных старажытных будынкаў, такіх, напрыклад, як традыцыйная карэйская вёска з жыллём на драўляных палях і хаткамі з падаграванай ад прымітыўнай грубкі цаглянай падлогай.

## Францыя

13 траўня 1970 года ў Маскве ў дзень паспяховай абароны маёй доктарскай дысертацыі я запрасіў вечарам у рэстаран «Будапешт» сваіх паважаных апанентаў і некалькіх даўніх маскоўскіх сяброў і знаёмцаў. Банкетам у сувязі з абаронай гэта назваць было нельга – забаранялася. Сяброўскай вячэрай без прычыны – дазвалялася.

Я шчыра, ад душы падзякаваў вядомым вучоным – сваім апанентам, адзін з якіх – Герштэйн Сямён Самуілавіч – прысутнічаць не змог. Потым былі абвешчаныя абсалютна нечаканыя для мяне тосты. Першым прамаўляў дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР акадэмік Андрэй Капітонавіч Красін:

– Станіслаў Станіслававіч, не варта так старанна дзякаваць апанентам, бо яны мала чым адрозніваюцца ад жанчынаў лёгкіх паводзінаў. Па-першае, атрымліваюць задавальненне ад кліента, прабачце, дысертанта; па-другое – дваццаць рублёў (менавіта столькі атрымліваў апанент – С.Ш.); па-трэцяе, калі кліент, прабачце, дысертант прыстойны, апаненты запрашаюцца ў рэстаран. Я прапаную тост за вартасці кліента, прабачце, дысертанта!

З другім тостам выступіў прафесар Уладзімір Мікалаевіч Лаўрэнчык, з якім я пазнаёміўся ўсяго два месяцы таму. Даведаўся, што ён, аселы ў Маскве беларус, працуе ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце оптыка-фізічных вымярэнняў (ВНИИОФИ), дзе мелася адбыцца мая абарона, і чытае лекцыі ў Маскоўскім універсітэце. Я рызыкнуў папрасіць яго быць маім апанентам, і ён пагадзіўся.

– Андрэй Капітонавіч, вы дарма хваліце кліента, дакладней, дысертанта. Ён ніяк не можа зраўняцца з сапраўднымі дактарамі навук, якія адстойвалі права атрымаць чорную шапачку доктара ў дыскусіі з дваццаццю дыспутантамі на працягу 12 гадзінаў, не маючы ўвесь гэты час права на перапынак, глыток вады ці якуюнебудзь ежу. Так было ў Францыі ў XVI стагоддзі, калі коледж Сарбона аб'яднаўся з Парыжскім універсітэтам. А наш! Адказаў на тры дзесяткі пытанняў і – усё. Яшчэ і сямі гадзінаў не прай-

шло з пачатку абароны, а ён ужо не толькі есць, але і ад каньяку не адмаўляецца. Прапаную выпіць за Вучоны савет, які да яго так велікадушна паставіўся. Суадносіны цудоўныя: 16 – «за», 2 – «супраць». Такое ў нашым савеце рэдка здараецца.

Не думаў я тады, што мне, як і прафесару Лаўрэнчыку, які перад маёй абаронай лётаў у Парыж на навуковую канферэнцыю, пашчасціць калі-небудзь пабываць у Сарбоне. Але – пашчасціла. Аднак пабываць у сучаснай Сарбоне мне давялося толькі падчас паездкі ў Францыю ў сакавіку 2007 года. І ўжо не ў ролі фізіка, а ў непрадказальнай падчас нашай вячэры ў маскоўскім «Будапешце» ролі палітолага.

## Афіцыйны візіт

Мая першая паездка ў Францыю ўлетку 1992 года была афіцыйным дзяржаўным візітам па запрашэнні Старшыні Сената Алена Паэра.

Старшыня Сената – другая пасля Прэзідэнта асоба ў сістэме дзяржаўнай іерархіі Францыі. Ален Паэр правёў у Сенаце 24 гады, часова выконваў абавязкі Прэзідэнта, быў Старшынёй Еўрапарламента, балатаваўся на пасаду Прэзідэнта Францыі, але прайграў выбары Жоржу Пампіду. Гутарка з гэтым дабразычлівым чалавекам даставіла мне вялікае задавальненне.



*Перад ганаровай вартай са Старшынёй Сената Аленам Паэрам*



*Чалец дэлегацыі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч (крайні злева) нагадаў: першы запіс беларуса ў Ганаровай кнізе Сената павінен быць на беларускай мове*

Мы прайшлі з ім разам уздоўж ганаровай варты ў будынак Сената, дзе мне прапанавалі зрабіць запіс у кнізе ганаровых гасцей. Ален Паэр уручыў мне памятны медаль Сената, пасля чаго папрасіў вярнуць яго і сказаў, што ён абавязкова вернецца да мяне пасля таго, як на ім будзе выгравіраванае маё імя і дата наведвання. Перадчасна гэта ніколі не робіцца.

Ален Паэр паведаміў, што ўпаўнаважаны перадаць мне запрашэнне прэзідэнта Франсуа Мітэрана наведаць яго ў рэзідэнцыі ў Елісейскім палацы, куды я і накіраваўся.

Апісваць справы дзяржаўныя дваццацігадовай даўніны наўрад ці мае сэнс. Скажу толькі, што ўся праграма візіту была паспяхова ажыццёўленая. Тым не менш, культурныя аспекты паездкі і цікавыя асабістыя кантакты ў Францыі не магу не ўспомніць.

У Сенаце мне здалося, што прыгожая маладзіца, якая бойка размаўляла з Аленам Паэрам на французскай мове, – мая даўняя знаёмая. Але як такое можа быць? Я сустракаўся з ёю як з прафесійным перакладчыкам-сінхраністам з англійскай мовы на савецка-індыйскім сімпозіуме па спінавым рэзанансе ў Душанбе ў 1982 годзе, а тут – французская мова, Парыж. Але да чаго падобная! Зрэшты, прайшло дзесяць гадоў! Наўрад ці яна. У памяшканні Сената мне так і не ўдалося да яе звярнуцца.

І вось у прэзідэнта Франсуа Мітэрана – зноў яна, і зноў французская мова! Я не вытрымаў.

– Прабачце, а вы, выпадкова, не Ірына?

– Ірына, і не выпадкова. Памятаю вас, Станіслаў Станіслававіч, па дзвюх навуковых канферэнцыях – у Душанбэ і Маскве. З вамі

няпроста працаваць, вы не любілі гаварыць павольна, колькі вас ні прасілі. Для сінхраніста вы былі моцным арэшкам. А цяпер, гляджу, і ўгаворваць не трэба – ніякай паспешлівасці. Я ўжо пяць гадоў у Парыжы. Выйшла замуж за грамадзяніна Францыі.

– Шкада, што такія ад'язджаюць у замежжа, вы і тут у ліку лепшых. Я ж нават не здагадваўся, што ў вас і французская мова – рабочая.

– А таксама нямецкая, іспанская, партугальская і італьянская.

Чарговым разам лаўлю сябе на думцы, што нічога не магу з сабой зрабіць. Зайздрасць – агідная якасць, а я, як ні сорамна, зайздрошчу, зайздрошчу сапраўдным прафесіяналам. На шчасце – белай, добрай зайздрасцю.

## Пра годнасць і гонар

Пасля была сустрэча з прэм'ер-міністрам П'ерам Берагавуа – сынам Андрыяна Берагавога, эмігранта з Украіны, які, патрапіўшы ў Францыю, не захацеў вяртацца ў сваю ахопленую грамадзянскай вайной краіну, закахаўся ў прыгажуню-француженку Ірэн Бадэлін, абвянчаўся з ёй і пасяліўся ў Францыі, змяніўшы імя і прозвішча на французскі манер. Наступныя трагічныя падзеі не пакінулі мяне і наўрад ці могуць пакінуць кагосьці абыякавым.

Пятру Берагавому, які стаў П'ерам Берагавуа, споўнілася 14 гадоў, калі пачалася Другая сусветная вайна. У свае 17 ён стаў удзельнікам Супраціву, а ў 20 уступіў у французскую секцыю Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу. І толькі ў 20 ён атрымлівае спе-



*Мая знаёмая маскоўская перакладчыца Ірына (злева) стала памочніцай Прэзідэнта Франсуа Мітэрана*



*З П'ерам Берагавуа – прэм'ер-міністрам Францыі*

цыяльнасць фрэзероўшчыка – першую і апошнюю сваю адукацыю. Усе астатнія веды ён набывае самастойна, таму да канца жыцця яго называлі «самавукам», хоць правільней было б называць «чалавекам, які сам сябе зрабіў».

Пасля перамогі сацыялістаў на выбарах у 1981 годзе Мітэран прызначае П'ера Берагавуа Генеральным сакратаром Елісейскага палаца, у 1984-м ён становіцца міністрам эканомікі, фінансаў і бюджэту. Яго дзейнасць дазволіла Францыі дасягнуць пэўных эканамічных поспехаў, у Францыі і і сярод замежных фінансістаў ён займеў неймаверна высокі аўтарытэт. У 1992 годзе Мітэран, як лічаць многія, жадаючы ўмацаваць пазіцыі сацыялістаў напярэдадні маючых адбыцца парламенцкіх выбараў 1993 года, прызначыў Берагавуа прэм'ерам. Яго прэм'ерства ацэньваюць па-рознаму. Тым не менш, сацыялісты выбары прайгралі, і ў сакавіку 1993 года П'ер Берагавуа падае ў адстаўку.

Падчас выбараў нярэдка маюць месца скандалы з несумленнай аргументацыяй. Экс-прэм'ер быў звінавачаны ў карупцыі. Пасля была цалкам даказаная яго невінаватасць, але – позна. 1 траўня 1993 года П'ер Берагавуа прыехаў у сваю выбарчую акругу, дзе, дарэчы, перамог і на выбарах 1993 года, сустрэўся з выбаршчыкамі. Увечары папрасіў кіроўцу адвезці яго на ўскраіну горада, дзе хацеў паблукаць на адзіноце. Праз паўгадзіны ён стрэліў сабе ў галаву з пісталета, узятага з патайніка ахоўніка, а яшчэ праз чатыры гадзіны памёр у шпіталі, не прыходзячы ў прытомнасць. Так трагічным чынам пацвердзіў Пётр Берагавы свой гонар, годнасць і незаплямленую рэпутацыю.



*Са Старшынёй Еўрапейскага парламента Эдганам Клепшам*

Афіцыйны візіт у Францыю працягваўся. З Парыжа мы вылецелі ў Страсбург для сустрэчаў з еўрапарламентарыямі. Там мне далі слова на сесіі Еўрапарламента, які вітаў нашую дэлегацыю стоячы. Я пастараўся як мага карацей расказаць пра тое, як працуе Вярхоўны Савет Беларусі, і запэўніў парламентарыяў, што мы маем намер ісці па шляху прававой дзяржавы, дэмакратыі, правоў чалавека, рынкавай эканомікі. Не хаваў і тое, што перажываем складанасці. Было зададзена нямала пытанняў. У сваім слове Старшыня Еўрапарламента Эдган Клепш запэўніў нас, што еўрапарламентарыі будуць імкнуцца дапамагаць Беларусі і садзейнічаць яе прагрэсіўнаму рэфармаванню.

## Сустрэча з пракорам

Наступная мая паездка ў Францыю была чыста самадзейнай. Захацелася асабіста сустрэцца з чалавекам-легендай, які нарадзіўся ў Мінску, – Ежы Гедройцам. Упершыню я пачуў пра яго ў 1974 годзе, падчас маёй працы ў якасці візіт-прафесара ў Ягелонскім універсітэце. Адзін з супрацоўнікаў шэптам сказаў мне, што ёсць такі несур'ёзны паляк у Парыжы, які яшчэ ў 1946 годзе навыдумляў, што Польшча, Украіна, Літва і Беларусь абавязкова стануць незалежнымі суверэннымі дзяржавамі, але сёй-той ва ўніверсітэце ў гэта верыць. Мне такі пачатак размовы здаўся правакацыйным, і я нічога не адказаў.

Пазней, атрымаўшы доступ да забароненых у савецкі час публікацый, я адкрыў для сябе Ежы Гедройца як чалавека, які адна-

часова быў і мысляром, і рэдактарам, і палітолагам, і арганізатарам апазіцыйнай эліты, і настаўнікам новых пакаленняў, і канструктарам новай знешняй палітыкі, найперш, вядома ж, Польшчы. Ён быў унікальнай для нашага часу асобай, вялікім інтэлектуалам, які ўмеў дапасоўвацца да рэальнасці, не спрабуючы яе перарабіць, і стаў для многіх узорам маральнасці.

Гедройц – чалавек ідэй і прадбачанняў, ён адпрэчыў звыклыя стэрэатыпы мыслення, паказаў прыклад, як трэба вызваляцца ад міфаў у міжнацыянальных адносінах паміж палякамі, украінцамі, беларусамі, літоўцамі, рускімі. Ён здолеў прапанаваць польскай і іншым нацыянальным элітам зусім новае бачанне міжнародных стасункаў і новы тып еўрапейскага парадку. Ён заклікаў, перш за ўсё палякаў, прызнаць права ўкраінцаў, літоўцаў і беларусаў на самастойную дзяржаву тады, калі польскае грамадства было прасякнутае ідэяй «Вялікай Польшчы». Гэта азначала непазбежны распад СССР, што здавалася поўным абсурдам нават для большасці крытыкаў СССР і савецкіх дысідэнтаў. Гедройц аказаўся празорцам, які апярэдзіў палітычных лідэраў свету, здолеўшы прадбачыць тое, што здавалася немагчымым. Раней за французаў і немцаў ён пачаў разважаць пра еўрапейскае яднанне.

Свае ідэі Гедройц публікаваў у выдаваным ім у Парыжы часопісе «Культура» («Kultura») і кнігах, якія сталі неацэнным унёскам у культурнае жыццё польскага і еўрапейскага грамадства. Не баючыся большасці, ён вучыў не баяцца супрацьстаяць «агульнапрынятым ісцінам». Вакол яго гуртаваліся вялікія людзі, такія, як Юзаф Чапскі, Чэслаў Мілаш, які стаў пазней Нобелеўскім лаўрэатам, Юліюш Мерашэўскі. З апошнім Гедройц сфармуляваў сваё бачанне будучыні незалежных Украіны, Беларусі і Літвы. Гедройц і яго «Культура» дапамаглі Уладзіміру Максімаву пачаць выданне «Кантынента», паказалі прыклад, як можна аб'яднаць і савецкае дысідэнцтва вакол друкаванага органа, як ствараць інстытуты ўплыву.

Цяжка было паверыць, што Ежы Гедройц па-ранейшаму жыве ў Парыжы. Мяне ахапіла гарачае жаданне яго ўбачыць. А калі я чаго хачу, і гэта можна ажыццявіць, то абавязкова ажыццяўляю. Даведаўся тэлефоны, адрас, стэлефанаваўся і пачуў: «Буду рады вас бачыць». І – у Парыж.

Францыя робіць неаднолькавае ўражанне на тых, хто прылятае ў аэрапорт Орлі ўрадавым самалётам (як гэта было са мною раней), і на тых, хто прыязджае звычайным цягнікам па льготным чыгуначным тарыфе на Усходні вакзал Парыжа (як сталася са мною ў дадзеным выпадку). У першым выпадку ўражваюць прыгажосць і раскоша, у другім – аб раскошы і не ўспомніш. На шчасце, я не прывык да раскошы. Зняўшы ў гасцініцы каля чыгуначнага вакзала танны нумар са сціплым сняданкам, я адправіўся на аўтастаянку, дзе дамовіўся аб су-

стрэчы з маім даўнім прыяцелем, акрэдытаваным у Парыжы чэшскім журналістам. Замест прывітання ён развёў рукамі:

– Бяда! Я вас недаравальна падвёў. Ні на адной са станцый абслугоўвання няма накрыўкі, якую я згубіў. Мая таёта плюецца алеем, даводзіцца ўвесь час яго даліваць. Прабачце, але я не магу адвезці вас у Мезон-Лафіт, як абяцаў.

– Не хвалюйся, Іржы. Адкрый капот.

Ён адкрыў, а я чарговым разам успомніў, чым адрозніваемся мы, грамадзяне савецкага паходжання, ад заходніх абываталяў. Пашкадаваў толькі аб тым, што апрануты для сустрэчы з вялікім Гедройцам. Рызыка страціць белізну кашулі і свежасць гальштука была вялікая, але не трапіць на жаданую сустрэчу было яшчэ страшней.

– Ці ёсць у цябе свежы нумар тваёй улюбёнай парыжскай газеты? Зрэшты, можна і нясвежы любой газеты.

– Ёсць.

– Дай сюды.

Скруціўшы з газетнай паперы затычку накшталт той, якою ў вёсках затыкалі пляшкі з самагонам, я заткнуў ёю адтуліну для заліўкі алею ў рухавік таёты. Іржы спытаў, ці бяспечна гэта, ці не вырве затычку падчас руху?

– Не бойся, твая таёта не горшая за мае жыгулі, а ў іх не вырывае. Ціск пад затычкай – нікчэмны, а пырскі не выштурхнуць.

Так і прыехалі мы ў прадмесце Парыжа Мезон-Лафіт, дзе я і сустрэўся з Гедройцам. Прадстаўнік старадаўняга княскага роду, публіцыст, палітык, мемуарыст, заснавальнік і рэдактар часопіса «Культура» – шляхаводнай зоркі польскіх інтэлектуалаў камуністычнага перыяду – аказаўся ў свае 93 дапытлівым чалавекам, які больш пытаўся, чым можна было чакаць. Выклікалі прыхільнасць яго вялікія добрыя вочы, якія свяціліся цікавасцю. Гледзячы ў іх і падпарадкоўваючы гаворку зададзенай Гедройцам схеме, я ўсё ж злавіў момант і спытаў:

– Пане Гедройц, як вам удалося прадказаць тое, з чым не пагаджалася большасць польскіх інтэлектуалаў, – незалежнасць Літвы, Украіны і Беларусі?

– Гэта было непазбежна, і пацвердзілі гэтую непазбежнасць у тым ліку і вы, мабыць, не пазней, чым я чакаў. У гэтым месцы Еўропы і з гэтымі народамі іначай быць не можа. Беларусь мае даўні досвед дзяржаўнасці, і гэта не сцерці з народнай памяці.

Як, аказваецца, усё проста! Для генія.

* * *

Праз год прыйшла сумная вестка – 14 верасня 2000 года Ежы Гедройц памёр. Сейм Польшчы абвясціў 2006 год (калі адзначаліся

сотыя ўгодкі з дня яго нараджэння) Годам Ежы Гедройца, а UNESKO ўключыла яго 100-годдзе ў каляндар сусветных памятных датаў.

## Парыж. Нармальная палітычная школа

Гэтую школу скончылі ўсе прэм'ер-міністры Францыі, акрамя Берагавуа. Натуральна, я быў узрадаваны, атрымаўшы запрашэнне прыняць удзел у арганізаваным гэтай школай «круглым стале» і прачытаць у ёй лекцыю. Калі б я захацеў зрабіць інакш, то не пазбегнуў бы сямейнага скандалу. Галантныя французы запрашалі мяне разам з жонкай і бралі на сябе ўсе выдаткі.

Падчас «круглага стала» на подыуме знаходзіліся трое асноўных удзельнікаў – амбасадар Францыі ва Украіне, прафесар-палітолаг Нармальнай школы і я. У зале – чалавек 150, тэма – «Францыя і ўсходняя палітыка Еўрасаюза». Вядоўца – амбасадар, выпускнік Нармальнай школы. Да мяне спачатку звярталіся рэдка. Яно і зразумела, адносіны з 40-мільённай Украінай для Захаду важней за адносіны з 10-мільённай Беларуссю. Але калі, адказваючы на пытанні, мне прыйшлося запэўніць залу, што Белавеж-



*2006 год, 29 сакавіка. На плошчы Дэвіль у Парыжы*

скае пагадненне падпісанае людзьмі цвярозымі, я стаў галоўным адказнікам.

– Такога не можа быць. Як жа вы не спалохаліся КДБ?

– Як вы не пабаяліся замахнуцца на ядзерную краіну?

– Што, нават Ельцын быў цвярозы?

Вядоўца хутка вярнуў дыскусію ў безалкагольнае рэчышча, і тут здарылася тое, чаго ні я, ні мая жонка не можам успомніць без радасці. У залу ўвайшла прыгожая, элегантна апранутая жанчына (мне падумалася – адна з кіраўнікоў школы) і папрасіла ў вядоўцы дазволу зрабіць тэрміновую абвестку. Той дазволіў.

Сутнасць абвесткі зводзілася да таго, што студэнты прынялі рашэнне застрайкаваць, таму ніякіх заняткаў ад панядзелка да чацвера ўключна не будзе. Страйк навучэнцаў, аказваецца, дапускаюць і французскае заканадаўства, і статут Нармальнай школы, калі рашэнне прымаецца афіцыйным студэнцкім органам самакіравання.

Успамінаю ўсё гэта з радасцю, бо дзякуючы студэнцкаму бунту, былі створаныя непаўторныя ўмовы для майго знаёмства з Парыжам. Мая лекцыя, прызначаная на панядзелак, сарвалася. Кіраўніцтва школы прынесла мне прабачэнні і прапанавала прачытаць лекцыю ў наступную суботу, пакінуўшы за мной на ўвесь гэты час кватэру візіт-прафесара за 200 метраў ад Пантэона.

Такім чынам – добраўпарадкаваная кватэра ў цэнтры Парыжа і поўная свабода дзеянняў! Плюс – спрыяльнае надвор'е, за ўвесь тыдзень быў толькі адзін дажджлівы дзень. Так і хацелася выгукнуць: сцеражыся Парыж, я на цябе нагледжуся ўдосталь! І сапраўды, пабачыў я шмат, але міжволі пераканаўся – толькі вяршыню айсберга. Магу толькі паўтарыць тое, што шмат разоў чуў ад іншых і ў чым сам яшчэ не раз змог пераканацца потым: Парыж не перастане ўражваць сваёй прыгажосцю, колькі б часу ты ні прысвяціў агляду яго вуліцаў, будынкаў, паркаў, музеяў, галерэяў і выставаў.

## Іспанія. Мексіканскае вяселле

У 1996 годзе я пазнаёміўся з цікавым маладым чалавекам, грамадзянінам Мексікі Фрэда Арыас Кінгам, які атрымаў на пачатку 1990-х гадоў вышэйшую тэхнічную адукацыю ў Валгаградзе. Нашыя шляхі нечакана перасякаліся то ў Варшаве, то ў Празе, то ў Таронта, то ў Вашынгтоне. Ён даволі добра ведае рускую мову і падчас гаворкі калі і робіць невялічкія памылкі, то імгненна іх выпраўляе. У прысутнасці вельмі паважаных людзей Фрэда называе мяне сваім настаўнікам, на што я ніяк не прэтэндую, бо ніколі нічому яго не вучыў. Але ён упарта настойвае на маім настаўніцтве і





*У 220-тысячным Аўеда гарманічна спалучаюцца традыцыйнае і мадэрн*

даволі добра ведае мае палітычныя прыгоды – ад першых выбараў і падпісання Белавежскага пагаднення да справаў сённяшніх. Сцвярджае, што ўсе звесткі адшуквае ў сеціве. Сваё паважлівае да мяне стаўленне Фрэда выказаў у аўтографе на сваёй кнізе «Transiciones la experiencia de Europadel este».

Вось гэты надпіс: *«Станислау! Спасибо за всё то что Вы вкладываете на освобождению и трансформацию Беларуси и других стран. Ваш учитель и друг, Фредо».*

Трансфармацыя вучня ў настаўніка мяне не збянтэжыла і папоўніла маю калекцыю «Фрэда-афарызмаў». Паколькі кніга

напісаная на недаступнай мне іспанскай мове, я толькі паглядзеў змешчаныя ў ёй фатаграфіі. Фотагалерэя даволі ўражлівая: Фрэда з Гарбачовым, Фрэда з Валэнсай, Фрэда з Ландсбергісам, з Аляксандрам Якаўлевым, з Ягорам Гайдарам, з Галінай Старавойтавай, з прэм'ерам Эстоніі Марці Лары, з Івонкай Сурвілай, з сенатарамі і кангрэсменамі ЗША, з прэзідэнтам Мексікі Вінцэнтам Фоксам, выбарчы штаб якога Фрэда Арыас Кінг узначальваў на прэзідэнцкіх выбарах 2000 года.

І вось улетку 2011 года электронная пошта прыносіць мне запрашэнне на вяселле Фрэда ў Іспанію. Затым адзін за адным прыходзяць зноў жа вясёлыя лісты, з якіх можна зразумець наступнае. Грамадзянін Мексікі Фрэда вырашыў пашлюбавацца з грамадзянкай Славакіі Данай, вяселле адбудзецца ў іспанскай правінцыі Астурыя ў старажытным замку XIV стагоддзя, які належыць роднай цётцы Фрэда. Нягледзячы на тое, што Фрэда і Дана – каталікі, паводле царкоўных канонаў шлюб не можа быць афіцыйна зарэгістраваны і асвечаны каталіцкай царквой у Іспаніі. Такое адбываецца толькі ў тых выпадках, калі хоць бы адзін з маладых з'яўляецца грамадзянінам гэтай краіны. Таму цырымонія шлюбу Фрэда і Даны мелася быць чыста свецкай.

Пры маіх вандроўніцкіх захапленнях адмовіцца ад прапановы пагасцяваць на інтэрнацыянальным вяселлі ў старадаўнім іспанскім замку было б падобным на самабічаванне. І вось мы з жонкай у Астурыі, у казачным горадзе Аўеда.

Калі Мінск славіцца сваёй чысцінёй, то ўвесь 220-тысячны горад Аўеда – вуліцы, паркі, дамы, двары, крамы – можна аднесці



*Маладыя з бацькамі перад старажытным замкам*

да катэгорыі стэрыльных. За многія стагоддзі ўсе заўважаныя крыніцы пылу накрытыя газонамі, кустоўем, каменнымі плітамі. Уваходзячы ў дом, недарэчна здымаць абутак – невядома, дзе чысцей – у кватэры ці на вуліцы. Немаўля ў беласнежнай вопратцы, якое поўзае па падлозе ў супермаркеце, нікога не здзіўляе. Маці можа спакойна выбіраць для яго гародніну і садавіну. Дзіця не запэцкаецца.

Мы прыехалі з аэрапорта ў Аўеда ў сярэдзіне дня 13 кастрычніка 2011 года. Вясельная цырымонія пачалася ў пятніцу 14 кастрычніка ў 20.00 на пляцоўцы і газонах перад замкам. Каля гадзіны доўжыліся прывітанні і віншаванні сваякоў і гасцей. Затым тут жа каля замка пачаўся фуршэт і з'явіўся мексіканскі ансамбль спевакоў і музыкаў. Ґралі і спявалі прафесіяналы, без дапамогі электронікі, таму гучнасць была ўмеранай. Гэта спрыяла спакойным, без напругі галасавых звязак, размовам, чаго я даўно не сустракаў у Беларусі на падобных імпрэзах. Усё гэта добра спалучалася з выдатным астурыйскім віном і стравамі астурыйскай кухні, дарэчы, вельмі падобнай на беларускую. Астурыйцы, як і нашыя вяскоўцы, добра вэндзяць свіныя кумпякі, але кумпякі гэтыя ў Астурыі мясістыя, амаль без сала.

Я быў упэўнены, што апоўначы ўсё скончыцца, і мы паедзем у Аўеда спаць. Але аказалася, што ўсё толькі пачынаецца. Нас запрасілі ў накрыты павільён побач з замкам. Каля ўваходу вісеў надрукаваны вялікімі літарамі спіс гасцей у алфавітным парадку –



*Першым павіншаваць маладых запрасілі мяне; перакладала варшавянка Агнешка Гранткевіч*



*Пакуль не ўключанае асвятленне, на фоне палаца XIV стагоддзя можна заўважыць толькі маладую*

з нумарамі сталоў, за якімі ім прапаноўвалася месца. У 0.30 пачалася святочная вячэра, загучалі тосты-віншаванні і цудоўныя песні ўсё таго ж мексіканскага ансамбля. Гадзіне а трэцяй начы пачаліся танцы, якімі кіраваў дыск-жакей. Дзесьці праз гадзіну палова з прыкладна 300 гасцей з'ехала ў Аўеда спецыяльна арандаванымі аўтобусамі. Прыйшоў час і нам пакінуць веселле, але яно працягвалася.

Працягвалася яно і наступным днём. Усе госці паехалі ў Кавадонга, дзе на вяршыні невысокай гары ў атачэнні гораў больш высокіх знаходзіцца пабудаваны ў 14-м і мадэрнізаваны ў 15 стагоддзі касцёл, збудаваны ў гонар хрысціянаў, якія адстаялі незалежнасць Астурыі ў барацьбе з арабамі і не дазволілі заваёўнікам ступіць на астурыйскую зямлю. Увечары таго ж дня ўсе сталі ўдзельнікамі застолля ў вінным сховішчы, дзе ў велізарным халаднаватым павільёне вытрымліваецца знакамітае астурыйское віно ў дубовых бочках, якія змяшчаюць да 35 000 літраў. І, нарэшце, у апошні – трэці дзень – вяселля для гасцей, якія захавалі сілы і маглі далей весяліцца, быў прыём у старадаўнім рэстаране «Аўеда Асур».

Што яшчэ сказаць пра астурыйцаў? Яны – тыя ж беларусы, па волі лёсу змешчаныя ў больш цёплае месца. Астатняе – як і ў нас: талерантнасць, на вяселле – тры дні, дабразычлівасць, танцы, вельмі падобныя на беларускія народныя. Але ўсё ж ёсць





*Мексіканскія спевакі-музыкі цешылі ўсіх гасцей без утомы*

адно істотнае адрозненне. На вяселлі за ўсе тры дні я не пабачыў ніводнага чалавека, які выпіў бы лішні келіх. Відаць, вельмі часта п'юць віно і ведаюць норму, карысную для здароўя.

Такая ў іх завядзёнка.

# XV. ПАТАЛОГІЯ

## Ніякай годнасці

Паталогіяй называюць любое адхіленне ад нормы. Больш адпаведнае слова для характарыстыкі дзеянняў Аляксандра Лукашэнкі наўрад ці можна знайсці. Спадчыннае гэта ў правадыра ці набытае – вызначыць складана. У пачатку 1990-х гадоў ён часта ўспамінаў аб цяжкім дзяцінстве, аб тым, што нацярпеўся крыўдаў ад аднагодкаў. Такое ўражанне, што ён увесь час помсціць за сваё пакутнае дзяцінства ўсім, хто не прыніжаецца перад ім, не ўсхваляе яго дзеянні. Мне не ўдалося знайсці, убачыць або пачуць прызнанне хоць бы аднаго ягонага настаўніка, выкладчыка ВНУ, аднакласніка, аднакурсніка ці вайсковага камандзіра, які б сказаў, што ён быў не тое што добрым, а проста звычайным талковым студэнтам, працаўніком, вучнем, вайскоўцам.

Дэфекты адукацыі і выхавання вельмі складана выправіць пазней. Гэта пацвярджаецца і нашым выпадкам. Пасля многіх гадоў прэзідэнцтва Лукашэнка працягвае сцвярджаць, што вучыўся на вершах Васіля Быкава, які, як усім вядома, вершаў не пісаў. Узнагароджвае ордэнам Францыска Скарыны і ўдакладняе, што Скарына жыў і працаваў у Пецярбургу, хоць беларускі асветнік памёр больш чым за 150 гадоў да ўзнікнення Пецярбурга. Усё гэта зафіксавана тэлекамерамі карэспандэнтаў, якія за фіксацыю падобных «адкрыццяў» пазбаўленыя акрэдытацыі ў Беларусі.

Лукашэнка сістэматычна хлусіць і, падобна, сам у сваю хлусню верыць. Сцвярджае, напрыклад, што быў рэцэнзентам эканамічнай праграмы «500 дзён». Магчыма, што дзесьці абмяркоўваў тую праграму на кухні і лічыць гэта рэцэнзаваннем, але аўтар праграмы Р.А. Яўлінскі не толькі не чуў, але і паняцця не мае пра такога рэцэнзента. Спіс прыкладаў ваяўнічага невуцтва правадыра вялікі, але іх пералік – не мая мэта. Нагадаю толькі пра выпадкі, што спрычыніліся да сур'ёзнага разбіральніцтва.

Прыехаўшы ў Вільню ўвесну 2010 года, Лукашэнка публічна заявіў перад тэлекамерамі прэзідэнту Далі Грыбаўскайтэ, што быў у гэтым горадзе падчас супрацьстаяння савецкім вайскоўцам, дапамагаў літоўцам адстойваць незалежнасць у абложаным парламенце. Выдумка гэтая мела зусім нечаканы для мяне фінал. Камісія Сейма Літвы высветліла, што сённяшні кіраўнік Беларусі

не быў у цяжкі для літоўцаў час у Вільні і не мог дапамагаць літоўцам адстойваць незалежнасць, але быў іншы чалавек – Шушкевіч, і прадставіла мяне да ўзнагароды за садзейнічанне дэмакратызацыі Літоўскай рэспублікі. Так, дзякуючы Лукашэнку, літоўцы ўспомнілі пра маё наведванне Літвы ў напружаны для краіны час. Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ палічыла неабходным узнагародзіць мяне Крыжам Вітаўта – вышэйшым ордэнам Літвы для замежнікаў.

Самы ўлюбёны метад кіравання нашага правадыра – публічна зняважыць падначаленага, пераканацца, што і пасля гэтага ён застаўся вернападданым, і менавіта за гэта «велікадушна» яго прабачыць. Аказалася, што даволі многа людзей у прэзідэнцкім атачэнні гатовыя ператрываць і такое публічнае прыніжэнне, толькі б застацца на пасадзе. Вось яскравы прыклад. Міністр абароны Леанід Мальцаў у перапоўненай зале чуе, яшчэ стоячы на трыбуне: «Перад вамі выступаў былы міністр абароны!» Назаўтра падпісваецца ўказ аб вызваленні Мальцава ад пасады міністра. Праз некаторы час за бязмежную ўслужлівасць Леанід Мальцаў атрымлівае «адпушчэнне грахоў» і зноў становіцца міністрам.

Марна пытацца, ці ёсць у гэтага афіцэра, нават генерала, гонар і годнасць? Ці не сорамна яму перад падначаленымі? Дзе слаўныя традыцыі, дзе афіцэрскае «маю гонар!»?

Кіраўніку Магілёўскай вобласці Аляксандру Кулічкову перад тэлекамерамі таксама было абвешчана: «Вы ўжо не губернатар!». І што? Акрыяў, паплакаўся, стаў міністрам.

Тым не менш, аб ганебных учынках нашага нелегітымнага прэзідэнта і аб злоўжыванні ім уладай пацярпелыя чыноўнікі стараюцца не гаварыць. Наадварот, сам Лукашэнка разважае аб нездаровым маральна-псіхалагічным клімаце ў структурах дзяржаўнай бяспекі, звінавачвае ў гэтым, напрыклад, адхіленага ім ад пасады ў лістападзе 2012 года кіраўніка КДБ генерала Зайцава і, як у старыя савецкія часы, лічыць, што ў КДБ дрэнна вялася ідэалагічная праца. Вось яго словы: *«У першую чаргу склалася нездаровая маральна-псіхалагічная абстаноўка ў асобных падраздзяленнях КДБ. Яна выкліканая недахопамі як кадравай, так і ідэалагічнай працы, а таксама перакосамі пры забеспячэнні ўласнай бяспекі»*.

Але як можа быць здаровым маральна-псіхалагічны стан у дзяржаўнай структуры, якая вымушаная ўжываць антыканстытуцыйныя незаконныя захады і займацца махлярствам дзеля захавання і ўмацавання ўлады кіроўнай асобы замест таго, каб ахоўваць грамадзянаў і законнасць? У Беларусь вярнуліся часы, калі найбольш важнай рысай супрацоўніка праваахоўных органаў лічылася: «палітыку партыі разумее правільна». Фактычна, сёння гэта гучыць так: «гатовы выканаць любое даручэнне прэзідэнта».

Я ні на хвіліну не сумняваюся, што бясследныя знікненні генерала Юрыя Захаранкі, які ўваходзіў у выбарчую каманду Лукашэнкі ў 1994 годзе, і віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара, звязаныя з паталагічнай помслівасцю кіраўніка краіны. Ён ненавідзеў іх за тое, што яны вельмі хутка ўсвядомілі, кім насамрэч з'яўляецца Лукашэнка. Ён ненавідзеў іх за тое, што былі разумнейшымі, прыгажэйшымі, сапраўды адукаванымі, сапраўды інтэлігентнымі людзьмі, што для яго самога, вядома ж, недасягальна.

Успамінаю выступ на з'ездзе народных дэпутатаў СССР старшыні савецкага Фонду культуры акадэміка Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова, які літаральна раз'ятрыў добрую траціну народных дэпутатаў, сказаўшы прыкладна наступнае:

– Можна заняць высокую пасаду, прыкінуцца навукоўцам, інжынерам, спецыялістам у любой галіне навукі або тэхнікі, выкладчыкам, кім заўгодна, але нельга, немагчыма прыкінуцца інтэлігентам!

Ліхачоў не называў канкрэтных прозвішчаў, але многія з народных дэпутатаў рэагавалі ў перапынку прыкладна так:

– Вось дык лупянуў і па Хрушчове, і па Брэжневе, і па Гарбачове!



Управление
социальной защиты
администрации
Центрального района
г.Минска
№ 1-2?/ от 30.01.2013
124

СПРАВКА

Дана настоящая гр. ШУШКЕВИЧ СТАНИСЛАВ СТАНИСЛАВОВИЧ
Номер ПД 46531 ПЕНСИЯ ПО ВОЗРАСТУ ,шифр 11012100
проживающему(щей) по адресу:г. МИНСК, ПР-Т МАШЕРОВА, Д.78, кв.14, в том, что размер полученной им (ею) пенсии (пособия,других социальных выплат) с ЯНВАРЯ 2012г. по ДЕКАБРЬ 2012г. составил 38400 (Тридцать восемь тысяч четыреста рублей 00 коп.)

в том числе:

за 2012г.

| ист.финанс.- | ПЕНСИЯ |
|---|---|
| 1. январь | 3200 |
| 2. февраль | 3200 |
| 3. март | 3200 |
| 4. апрель | 3200 |
| 5. май | 3200 |
| 6. июнь | 3200 |
| 7. июль | 3200 |
| 8. август | 3200 |
| 9. сентябрь | 3200 |
| 10. октябрь | 3200 |
| 11. ноябрь | 3200 |
| 12. декабрь | 3200 |

Справка дана для предоставления по месту требования.

М.П.
Начальник Управления (подпись) Авдеева Л.М.
Специалист (подпись) Цвирко С.Я.

*Даведка аб атрыманай мною пенсіі «за выключныя заслугі перад беларускім народам» за 2012 г.*

Натуральна, што ў трацїну раз'ятраных патрапіў бы і Лукашэнка, калі б не прайграў у 1989 годзе выбары ў народныя дэпутаты СССР Вячаславу Кебічу.

У 1995 годзе Лукашэнка, тады яшчэ законна абраны прэзідэнт Беларусі, дазволіў сабе захапляцца Гітлерам. Вось яго словы пра гэтую асобу. «Гісторыя Германіі — гэта злепак у нейкай ступені гісторыі Беларусі на пэўных этапах. У свой час Нямеччына была паднятая з руінаў, дзякуючы вельмі жорсткай уладзе вядомага Адольфа Гітлера... Не ўсё толькі дрэннае было звязана ў Нямеччыне з вядомым Адольфам Гітлерам. Нямецкі парадак фармаваўся стагоддзямі, пры Гітлеры гэтае фармаванне дасягнула найвышэйшай кропкі. Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта... Гітлер сфармаваў магутную Нямеччыну, дзякуючы моцнай прэзідэнцкай уладзе... Германія паднялася, дзякуючы таму, што ўся нацыя здолела скансалідавацца і аб'яднацца вакол моцнага лідэра... Кіраўнік дзяржавы — прэзідэнт, яго аўтарытэт, яго вядучая роля выходзяць на гэтым этапе на першае месца... Гэтаму вучыць нас нямецкая гісторыя».

Не ўтойвае, як бачыце, Лукашэнка, што прэтэндуе на ролю кіраўніка, які гатовы дзейнічаць гітлераўскімі метадамі, г.зн. крочыць па галовах усіх тых, хто мае іншае бачанне дзяржавы і ўлады. Знішчэнне найбольш аўтарытэтных іншадумцаў, рэпрэсіі, помста за адкрытае асуджэнне яго невуцтва або сумнеў у яго надзвычайнасці — спосабы дзеяння цемрашала, які дарваўся да ўлады на глебе ўсё яшчэ паноўнай і падмацаванай дзяржаўнай прапагандай старой савецкай ментальнасці.

Надзвычайную помслівасць праявіў Лукашэнка ў адносінах да мяне і да іншых асобаў, што займалі кіроўныя пасады і мелі гонар не прынізіцца да вернападданніцтва. Тое, што пры гэтым ён груба парушыў Канстытуцыю і законы, можа афіцыйна пацвердзіць толькі Канстытуцыйны Суд (КС), але звяртацца ў КС грамадзяне не маюць права наогул, у тым ліку і тыя, у адносінах да якіх парушэнне здзейсненае. Па сваёй ініцыятыве Канстытуцыйны Суд таксама не можа разгледзець якое-небудзь пытанне. Больш проста: КС можа разглядаць толькі пытанні, ініцыяваныя прэзідэнтам ці дзяржаўнымі інстытутамі, кіраўнікоў якіх прызначае прэзідэнт. Гэтых інстытутаў пяць: Савет Міністраў, дзве палаты «парламента», Вярхоўны Суд і Вышэйшы Гаспадарчы Суд.

Сваім дэкрэтам № 16 ад 9 верасня 1997 года Лукашэнка захаваў маю пенсію «за выключныя заслугі перад беларускім народам» у памеры, які быў на дзень увядзення ў дзеянне гэтага ж дэкрэта (11 верасня 1997 года). Яна складала тады 3 196 000 рублёў. Сёння, пасля дэнамінацыі і выключэння з абароту дробных купюраў, мая

пенсія складае 3 200 беларускіх рублёў у месяц – менш за паўдаляра ЗША па курсе Нацыянальнага банка Беларусі.

Мае звароты ў суды і ва ўсе структуры, якія маюць права звярнуцца па гэтым пытанні ў Канстытуцыйны Суд, не кажучы ўжо пра апублікаваны ў «Народнай волі» адкрыты ліст, як і варта было чакаць, аказаліся безвыніковымі.

Паталогія, сервілізм ва ўсіх структурах на ўсіх вышэйшых узроўнях. Адказы згаданых дзяржаўных інстытутаў – Савета Міністраў, абедзвюх палатак «парламента», Вярхоўнага Суда і Вышэйшага Гаспадарчага Суда (праўда, у большасці выпадкаў іх падпісалі намеснікі, кіраўнікі «саромеюцца») – крывадушныя і перакканальна гучаць толькі ў перакладзе на агульназразумелую мову. Ён – начальнік, мы – дурні. Апраўдаць можна толькі адказ Вышэйшага Гаспадарчага Суда, у якім выразна сказана, што ў падобных выпадках Саўмін ***абавязаны*** звярнуцца ў Канстытуцыйны Суд.

Дзе ж тая прававая дзяржава, пра якую напісана ў Канстытуцыі? Адкуль гэтулькі ідалапаклонства перад начальнікам, які насаджае беззаконне дзеля самазадавальнення і асабістай нажывы? Што за нелюдзі выбіліся ў кіраўнікі, адкуль іх столькі ўзялося? Глядзіш на іх, слухаеш і думаеш пра іх нізкую (ніжэй не бывае) палітычную культуру. А адкуль ёй, высокай палітычнай культуры, узяцца? Інтэлігенцыя яе не імкнецца прышчапляць, ды і сама, калі шчыра гаварыць, не прасякнутая ёю. Не ўсвядоміла, як у іншых краінах Еўропы, сваёй гістарычнай ролі. Не прэтэндуе быць на ўзроўні еўрапейскіх інтэлектуалаў у палітычным сэнсе, кіруецца старымі пастулатамі ўлады, убітымі ў галовы ў савецкі перыяд. Каб у галовах людзей не ўзнікала іншадумства і не авалодвала масамі, у краіне створана мноства сілавых структураў. Галоўнае патрабаванне да сілавікоў – здольнасць да жорсткіх дзеянняў.

Успамінаю выступ на сесіі супрацоўніка міліцыі, дэпутата, намесніка старшыні Вярхоўнага Савета 13 скліканьня Малумава Юрыя Георгіевіча:

– Пра якую свядомасць і захаванне законнасці намі, міліцыянтамі, можна гаварыць, калі мы стаім у ачапленні, а супраць нас – вялізны натоўп, гатовы разарваць нас на кавалкі. У такіх выпадках любую каманду я ўспрымаю, як: біць, біць і біць! І б'ю разам з усімі астатнімі міліцыянтамі, б'ю і б'ю!

Хто ўбіў у галаву Малумаву, што бяззбройныя людзі, у тым ліку жанчыны, старыя і дзеці, якія выйшлі на мірную дэманстрацыю пратэсту, гатовыя разарваць яго на кавалкі? І гэта на трыбуне законна абранага парламента гаворыць законна абраны дэпутат Вярхоўнага Савета 13 скліканьня, які мае юрыдычную адукацыю! Ён быў апошнім выступоўцам пры разглядзе пытання аб неправамерных дзеяннях міліцыі. Даць ацэнку выступу мог толькі Стар-

шыня ВС Сямён Георгіевіч Шарэцкі, але ён прамаўчаў. А што ж рабіць тым зялёным і ненавучаным, якія трапілі пад камандаванне сіваковых, паўлючэнкаў, навумавых, малумавых?

Вярхоўны Савет 13 склікання быў разагнаны ваяўнічым правадыром, дакладней, быў ператорваны ў новы «парламент», у якім з 220 былі пакінутыя толькі 110 дэпутатаў, якія заявілі аб сваёй адданасці Лукашэнку. Малумаў, натуральна, застаўся, бо папранейшаму быў гатовы біць, біць і біць. Зборышча адданых правадыру дэпутатаў атрымала назву «ніжняя палата». Для стварэння так званай «верхняй палаты» і ўрада ніякага абрання дэпутатам не трэба было, і правадыр ўключае ў іх асобаў па сваім асабістым меркаванні.

## Крыніцы і складнікі беларускай дзяржаўнасці

Колькасць анекдотаў аб сённяшнім кіраўніку Беларусі не меншая за колькасць анекдотаў аб Брэжневе часоў яго дэградацыі на пасадзе генеральнага сакратара. Адзін з іх – расшыфроўка абрэвіятуры ГУЛАГ  як «Государство, Управляемое Лукашенко Александром Григорьевичем».

І сапраўды, крыміналізаваная структура кіравання беларускімі дзяржаўнымі органамі і інстытутамі пабудаваная па схеме адной з апораў сацыялізму і савецкай дзяржаўнасці. Такой апорай служыла наўмысна не заўважаная турэмнымі наглядчыкамі і начальствам вельмі лютая сістэма самакіравання зняволеных у турмах, у лагерах і зоне іх «вольнага» пасялення. Над вязнямі заўсёды вісела пагроза адпраўкі іх у камеры з крымінальнікамі, асуджанымі за найцяжэйшыя злачынствы, якія атрымлівалі асалоду ад здзеку над сукамернікамі. У такія камеры з «выхаваўчымі» мэтамі пераводзілі палітычных асуджаных ці, напрыклад, тых, хто не згаджаўся стаць «падсаднымі качкамі» ў камерах з падследнымі вязнямі.

У месцах пазбаўлення волі абсалютная ўлада належыць таму, каго называюць паханом, якому ўсё дазволена. Аналогія з сённяшняй Беларуссю поўная, толькі афіцыйныя мянушкі адрозніваюцца, а што да неафіцыйных, то тэрміналагічных адрозненняў няма.

Такім чынам, пахану дазволена ўсё. Усе астатнія ў дзяржаўных органах і інстытутах краіны шасцёркі двух тыпаў – звычайныя і казырныя. І тыя, і другія пакорліва падпарадкоўваюцца пахану, безумоўна падтрымліваюць усе яго дзеянні і патрабаванні, таму дапушчаныя да кармушкі, што напаўняецца з дзяржаўнага бюджэту, кантраляванага толькі паханом. Пахан надае шасцёркам вартасць тузоў, каралёў, валетаў і г.д., г.зн. дае пасады міністраў, старшыняў судоў, пракурораў, кіраўнікоў арганізацый і т.п. Аднак казырная шасцёрка, г. зн. найбольш набліжаная да пахана асоба, мае



*В. Шэйман узнагароджаны 18-цю ардэнамі і 86-цю медалямі*

права замахвацца, а часам і пабіць больш буйную карту, нават туза, г. зн. міністра, старшыню суда, старшыню Савета рэспублікі, калі пахан будзе не супраць. За спробу непадпарадкавання казырная шасцёрка перастае быць казырнай ці наогул выганяецца з зоны, г. зн. з сістэмы кіравання дзяржавай. Часцей за ўсё пасля адхілення ад улады шасцёрка, якая займала высокую пасаду, як былыя шэфы КДБ Рэспублікі Беларусь, едзе ад граху далей – у Расію. На пытанне, хто якой шасцёркай з'яўляецца, не заўсёды проста знайсці адказ. Казырнасць трэба заслужыць вялікім дагодніцтвам, а надзейней за ўсё – крывёй, як у сапраўдным злачынным свеце, як у крымінальнай зоне.

Адзіная вядомая ўсім стабільная казырная шасцёрка – Віктар Шэйман. Ён, без сумневу, мае дачыненне да шматлікіх нячыстых дзеянняў пахана. Як кажуць у злачынным свеце, павязаны з ім крывёй. У свой час любоў пахана да яго была бязмернай. Ён нават прызначыў яго генеральным пракурорам, хоць той не меў адпаведнай юрыдычнай адукацыі, узвёў з маёра ў генерал-палкоўнікі, адарыў мноствам ардэноў і медалёў. Разам з тым, пахан не дазваляе казырнай шасцёрцы ўзвысіцца да ўзроўню канкурэнта.

Знайшлася нагода і для паніжэння статусу В.У. Шэймана. Правадыр паведаміў аб жаданні адхіліць яго ад пасады дзяржаўнага

сакратара Савета бяспекі Беларусі за выбух у Мінску ў 2008 годзе. 8 ліпеня таго ж года з'явіўся ўказ № 368 аб вызваленні Шэймана ад пасады ў сувязі з пераводам на іншую працу. Указ як бы дэманстраваў высокую прынцыповасць правадыра: маўляў, не ўмееш забяспечыць бяспеку людзей, дазваляеш усумніцца людзям у стабільнасці ў краіне – ідзі на іншую працу. Аднак наступныя падзеі зноў вярнулі Шэймана ў ранг казырнай шасцёркі.

11 красавіка 2011 года ў мінскім метро на станцыі «Кастрычніцкая» ў 17 гадзінаў 55 хвілінаў адбываецца новы выбух, які забраў жыцці 15 чалавек. Колькасць пацярпелых перавысіла 200 чалавек. Лукашэнка адразу ж выказаўся аб дачыненні да тэрарыстычнага акту апазіцыі: *«Я даручыў разгледзець усе заявы ад палітычных дзеячаў. Гэтыя дзеячы ад так званай пятай калоны, можа, раскрыюць карты і пакажуць, хто заказчык»*. Далей, як і заўсёды, правадыр прагаварыўся аб сваіх сапраўдных адносінах да дэмакратыі: *«Усіх прыцягнуць і дапытаць, нягледзячы ні на якую дэмакратыю і вой замежных пакутнікаў»*.

Праз дзень пасля выбуху ў метро – 13 красавіка – Лукашэнка заяўляе: *«Затрыманыя прызналіся не толькі ў здзяйсненні тэракту ў метро, на іх сумленні тэракты ў Дзень незалежнасці 3 ліпеня і ў Віцебску»*. Такім чынам, імгненна знайшліся асобы, на якіх былі павешаныя ўсе тэрарыстычныя акты і выбухі, якія мелі месца ў Беларусі. Імі аказаліся Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў, асуджаныя 30 лістапада 2011 года да расстрэлу. Многія, у тым ліку і сваякі загінулых падчас тэракту, сумняваюцца ў тым, што былі асуджаныя сапраўдныя злачынцы. У справядлівасці вынесенага прысуду не сумняваюцца толькі дзяржаўныя прапагандысты. Неадкладна выкананы прысуд – расстрэл асуджаных Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва – надзвычай ускладніў магчымасць доказнага ўстанаўлення ісціны.

Аб крымінальных метадах кіравання дзяржавай Лукашэнка прагаварыўся падчас другога тэрміну свайго прэзідэнцтва, выступаючы ў Гомелі. Ён фактычна пацвердзіў сваё дачыненне да фізічнай ліквідацыі крымінальных аўтарытэтаў дзяржаўнымі службамі. Вось фанаграма яго выступу: *«У нас ніхто страляць не будзе. А чаму? А таму, што прэзідэнт расставіў усё на месца і кажа: глядзіце, мужыкі, не дай Бог! Усім будзе! Я забяспечыў гэта пераважна ў Мінску, у Гомелі, напэўна, менш. Праз пэўных мужыкоў паставіў у вядомасць 5 гадоў таму: не дай Бог толькі дзесьці вы створыце абстаноўку крымінальную, я вам паадрываю галовы. А мы ведаем, колькі іх і хто яны. Гэтых зладзюг у законе мы ведаем. Уся міліцыя іх ведае. Вось сядзіць наш міліцыянт. Ён працуе ў Мінску. Што, ты не ведаеш? Ведаеш усе групы ў Мінску* (смех у зале). *Я вам нават больш скажу. Калі я стаў прэзідэнтам, запатрабаваў ад міністра*

*ўнутраных справаў прынесці мне спісы, пакласці на стол усе злачынныя крымінальныя элементы ў Мінску. А потым пайшоў па Гомелі, па абласцях і склаў каталог. Да гэтага часу ў сейфе ляжыць. Мы іх ведаем усіх, і яны ведаюць, што мы іх ведаем. І не дай Бог толькі ён зварухнецца, а ён не дурань. Калі ўлада крымінальная, калі ўлада пракралася, як ён, нічога не ўтрымаеш. Гэтак жа? Калі ты сумленна праводзіш палітыку, калі сам не зладзюга, яны гэтага жудасна баяцца. І яны думаюць: хлопцы, бацька сказаў – замочыць* (смех у зале). *Быў выпадак, калі яны няправільна сябе павялі. Памятаеце гэтых Шчаўлікаў і іншых. Дзе яны цяпер? Таму ў краіне парадак, і ўсе задаволеныя. І дакладваюць праз службу бяспекі: тры тысячы галоў за вас прагаласавала!*»

Напрошваецца пытанне, хто мог ліквідаваць Шчаўліка і іншых? Адказ зразумелы: у беларускай дзяржаве, як у дыктатарскіх краінах Лацінскай Амерыкі, маюцца гэтак званыя «легіёны смерці». Відавочна і тое, што такі легіён можа па ўказанні пахана ліквідаваць, г. зн. забіць без суда і следства, прафесійна знішчаючы сляды дзяржаўнага тэрарызму, не толькі аўтарытэтаў злачыннага свету, але і палітычных лідэраў.

Верагодней за ўсё, знікненне былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, былога дэпутата і віцэ-прэм'ера Віктара Ганчара – справа рук патаемнага дзяржаўнага тэрарыстычнага падраздзялення – «легіёна смерці».

Не падлягае сумневу, што функцыі крымінальных бандаў выконваюць і іншыя падраздзяленні сілавікоў, якія знаходзяцца на дзяржаўнай службе. Маладых людзей запалохваюць людзі ў цывільным, завязваюць ім вочы, вывозяць у лес, пагражаюць забойствам і пакідаюць удалечыні ад населеных пунктаў ноччу. 20 снежня 2011 года такое здарылася і з групай украінскіх дзяўчат, якія пратэставалі ў Мінску каля будынку КДБ 19 снежня – у гадавіну брутальнага разгону мірнай дэманстрацыі супраць татальнай фальсіфікацыі выбараў. Іх высачылі і захапілі пры пасадцы ў цягнік. Гэтым разам пагрозы перараслі ў вычварэнні. Людзі ў масках аблілі ўкраінак машынным алеем і пагражалі падпаліць.

Крыміналізацыя ў кіроўных органах закранула і зоны зняволеных. Наганяючы страх на грамадзянаў, пахан і яго шасцёркі, уключаючы тых, хто працуе ў ведамстве дзяржаўнай прапаганды, не абмяжоўваюцца антыпраўнымі выракамі для палітычных і грамадскіх лідэраў і адпраўкай іх у месцы зняволення. У турмах, ізалятарах і зонах працягваецца ціск на зняволеных з мэтай напісання імі прашэнняў аб памілаванні. Адмова ад напісання прашэння аб памілаванні чалавекам, асуджаным без усякай віны, выклікае адпраўку яго ў камеру да асуджаных за найцяжэйшыя злачынствы. Кіраўніцтвам турмаў гэтае ашмоцце заахвочваецца да

гвалтоўных дзеянняў супраць палітычных вязняў. Зразумець, што ўсё гэта – звенчакі аднаго ланцуга застрашвання, дапамагаюць і іншыя факты. Скажам, у сродкі дзяржпрапаганды «прасачыліся» з месцаў утрымання зняволеных звесткі «пра адмоўнае стаўленне да палітычных зняволеных нават крымінальных аўтарытэтаў», якія адбываюць пакаранне за цяжкія злачынствы.

Кіроўны рэжым і яго правадыр асуджаныя трымацца за ўладу. Страта ўлады і дэмакратызацыя краіны непазбежна вядзе да таго, што большасць сённяшніх чыноўнікаў павінны будуць адказаць за здзейсненыя імі беззаконні. Найбольш заўзятых чакае лава падсудных. Відаць, не ўдасца пазбегнуць і перагібаў у іншы бок: у людзей назапасілася шмат крыўдаў за татальную несправядлівасць, за здзекі над невінаватымі грамадзянамі. Прадстаўнікі нашай інтэлектуальнай эліты і контрэліты не дараслі, каб прапанаваць пасля краху рэжыму «мірную грамадскую дамову» і ўзвядзенне помніка ахвярам і пацярпелым з абодвух бакоў, як гэта зроблена, напрыклад, у Іспаніі.

Уседазвол стаў нормай для апрычнікаў рэжыму, г. зн. для супрацоўнікаў сілавых структураў, якія павінны ахоўваць грамадзянаў. Яны ж ідуць на розныя парушэнні, прымаюць прэвентыўныя меры для задушэння ў зародку любога вальнадумства. Іх дзеянні набываюць формы, немагчымыя нават у часы сталінізму і андропаўшчыны, калі людзей затрымлівалі на вуліцы або ў кіно і высвятлялі, чаму нехта не на працоўным месцы. Беларускі АМАП і асобы ў цывільным урываюцца ў кватэры і дамы грамадзянаў на падставах накшталт: «паступіў сігнал, што тут рыхтуюць наркотыкі». Уварваўшыся, шайка крышыць усё, не зважае на адчыненыя дзверы, выбівае вокны і вязе ўсіх у пастарунак.

Прывяду толькі адзін прыклад. Увечары 8 лютага 2012 года «Ліцвінскі клуб» праводзіў штотыднёвы сход інтэлектуальна-рэлігійнага характару ў прыватным доме, размешчаным у Загарадным завулку Мінска. Супрацоўнікі спецназу ў масках уварваліся ў памяшканне праз акно. Былі затрыманыя 32 удзельнікі клуба. Пасля ўсіх іх адпусцілі без складання пратаколаў. Асобы ў цывільным не прадстаўляліся, мэту пранікнення ў дом не тлумачылі, выбілі дзве аконныя шыбы, адну з якіх выламалі цалкам разам з пластмасавай асновай, патрушчылі посуд. Гаспадар дома лічыць, што дзеянні супрацоўнікаў міліцыі «парушылі яго правы і законныя інтарэсы, нанеслі шкоду яго маёмасці, нанеслі маральныя страты». Ён патрабуе даць прававую ацэнку дзеянням супрацоўнікаў УУС Маскоўскага раёна Мінска, прыцягнуць да адказнасці асобаў, вінаватых у парушэнні правоў і законных інтарэсаў грамадзянаў згодна з законам Рэспублікі Беларусь. Аднак, як і заўсёды, нічога падобнага не было зроблена.

## Кандыдаты ў прэзідэнты на выбарах 2010 года

*Калі чалавек думае, што можа бясконца кіраваць, то ён небяспечны для грамадства.*

*Дз. Мядзведзеў, будучы прэзідэнтам РФ.*

Павучальным прыкладам для аўтарытарных кіраўнікоў СНД, якія забяспечылі сабе трэці і наступныя тэрміны праўлення шляхам змены канстытуцый сваіх краін, стала расійская ракіроўка Пуцін-Мядзведзеў-Пуцін. Мядзведзеў вельмі галантна выказаў словамі, вынесенымі ў эпіграф гэтага раздзела, сваю ўдзячнасць Пуціну: цяжкая, маўляў, для такіх, як я, шапка Манамаха, на другі тэрмін прэтэндаваць не стану, дзякуй за давер, ідзіце, дарагі Уладзімір Уладзіміравіч, на трэці і чацвёрты тэрміны. Мала, хто здагадваўся, чаму Пуцін рэкамендаваў у 2008 годзе Мядзведзева на вышэйшую пасаду ў Расіі. Аказваецца, былы рэзідэнт КДБ у ГДР выдатна разбіраўся ў людзях і вылічыў, каму можна даверыць захаванне для сябе вышэйшай пасады Расіі, не парушаючы Канстытуцыю РФ і не баючыся, што пераемнік захоча сам пераабрацца.

Беларускі правадыр пераканаHы, што будзе прэзідэнтам вечна. Ён нікому не можа даверыць сваю пасаду нават на кароткі час, бо нікому не давярае наогул. Ён асуджаны на вышэйшую ўладу ў краіне, а большасць насельніцтва – на пакуты ад крывадушнай улады. Страта ўлады абавязкова абернецца для Лукашэнкі сумным фіналам за здзейсненыя злачынствы. Ён вымушаны працягваць дзейнічаць метадамі, супрацьпраўнасць якіх увесь час узрастае. Інфармацыю для роздуму павінны даваць яму афрыканскія дыктатуры, але ён думае, што пазбегне лёсу Кадафі, Мубарака або прыгрэтага ім былога кіргізскага прэзідэнта Курманбека Бакіева. Марныя спадзяванні!

Найбольшую небяспеку для Лукашэнкі на выбарах 2010 года стварылі кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саннікаў і Уладзімір Някляеў. Пры сумленным падліку галасоў адзін з іх быў бы сёння прэзідэнтам Беларусі. Такія дадзеныя патаемных сацыялагічных даследаванняў, якія заслугоўваюць даверу. Яны не афішуюцца таму, што адкрытыя сацыялагічныя даследаванні ў Беларусі дазволеныя толькі прыдворным службам, астатніх за гэта жорстка караюць.

Сённяшнюю беларускую сацыялогію прыбрала да сваіх рук дзяржаўная служба прапаганды. Вынікі такіх «даследаванняў» вядомыя, як правіла, ужо загадзя. Больш за тое, для таго, каб зняпраўдзіць любы падпольны зандаж, выкарыстоўваюцца аўтарытэтныя ў мінулым «незалежныя сацыёлагі», якія сёння знаходзяцца «пад каўпаком» улады. Сярод іх тыя, хто спачатку

спрабаваў быць незалежным і нават публікаваў вынікі, якія не падабаліся ўладзе, а потым не вытрымаў спакусы дагаджаць уладзе і мець за гэта адчувальныя выгоды.

Пасля з'яўлення інфармацыі аб неафіцыйным даследаванні выступае, напрыклад, прафесар Алег Манаеў з заявай аб тым, што, па яго дадзеных, рэйтынг Лукашэнкі ў дзень выбараў быў 53%, але чамусьці не здзіўляецца і, вядома ж, не пратэстуе з нагоды 82%, прыпісаных правадыру Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Пасля такой заявы афіцыйная прапаганда пачынае на ўсе лады перапяваць: бачыце, прафесіяналы-сацыёлагі, хоць і апазіцыянеры, але вымушаныя прызнаць, што Лукашэнка выбары выйграў.

Падобныя дзеянні высока ацэньваюцца уладай. Прафесару Манаеву дазволена нават працаваць у Беларусі і чытаць лекцыі студэнтам. Больш за тое, яму зноў жа дазволенаназвацца незалежным і нават заявіць, што рэйтынг Лукашэнкі стаў самым нізкім за ўвесь час яго кіравання. Але ніхто ў апазіцыі не мае сумневу, што ў патрэбны для кіраўніка час прафесар знойдзе спосаб падтрымаць яго сваім «незалежным» даследаваннем.

Ва ўмовах фактычна перакрытага доступу да СМІ апазіцыя вылучыла некалькі кандыдатаў, каб ахапіць перадвыбарнай агітацыяй як мага больш грамадзянаў. У выніку былі зарэгістраваныя кандыдатамі Андрэй Саннікаў, Уладзімір Някляеў, Мікалай Статкевіч, Яраслаў Раманчук, Віктар Цярэшчанка, Рыгор Кастусёў, Аляксандр Міхалевіч, Дзмітрый Ус, Віталь Рымашэўскі. Без сумневаў сабралі больш чым па 100 тысячаў подпісаў Саннікаў, Някляеў, Статкевіч і Раманчук. Каманды астатніх патэнцыйных кандыдатаў самі сумняваліся, ці маюць неабходныя сто тысячаў, аднак ЦВК зарэгістравала ўсіх. Мэта зразумелая: выкарыстоўваючы слабых кандыдатаў, заявіць, што ўсе яны аднолькавыя і не маюць ніякіх шанцаў на перамогу.

Спецслужбам гэта ўдалося. Кастусёў абсалютна бяздоказна заявіў, што ўсе, акрамя яго, атрымлівалі незаконную фінансавую дапамогу. Раманчук пакляўся ў вернасці Лукашэнку. Цярэшчанка падчас разгулу АМАПа на плошчы заляцаўся з уладай на дзяржаўным тэлебачанні. Рымашэўскі і Міхалевіч пісьмова пацвердзілі згоду стаць сексотамі КДБ, што самі і прызналі.

Годна і мужна паводзілі сябе кандыдаты Саннікаў, Статкевіч і Някляеў, а таксама Зміцер Бандарэнка – знакавая постаць у камандзе Саннікава. Іх не зламалі ні турма, ні здзекі.

Сапраўдны паэт і абсалютна неспрактыкаваны палітык Някляеў і высокаадукаваны былы дыпламат і чыноўнік, дасведчаны палітык Саннікаў былі апантаныя адзіным памкненнем – супрацьстаяць хлусні, фальшу, знявазе чалавечых правоў і годнасці грамадзянаў Беларусі. У абодвух – моцныя групы падтрымкі, і не



*У студзені 2010 года. Уладзімір Някляеў падараваў мне сваю новую кнігу «Цэнтр Еўропы»*

дзіўна, што яны займалі першыя пазіцыі сярод дзевяці апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты.

Разумеючы, што пры падліку галасоў ён выбары прайграе, а ў адказ на татальную фальсіфікацыю будзе масавы пратэст, Лукашэнка прыняў прэвентыўныя меры, каб на самым пачатку патушыць агмень чарговай каляровай рэвалюцыі на тэрыторыі СНД. У Мінск былі сцягнутыя падраздзяленні АМАПа з усіх абласцей краіны. Яшчэ да заканчэння выбараў пачаліся затрыманні і збіванні кандыдатаў і грамадскіх лідэраў. Увечары 19 снежня былі затрыманыя сем з дзевяці кандыдатаў у прэзідэнты, прычым найбольш папулярныя з іх – Саннікаў і Някляеў – былі бязлітасна збітыя людзьмі, дакладней, нелюдзямі ў цывільным, яшчэ да заканчэння галасавання.

На Кастрычніцкую плошчу і мірнае шэсце па праспекце Незалежнасці выйшла ад 40 да 70 тысячаў чалавек. Далей усё развівалася па стандартнай схеме, распрацаванай спецслужбамі. Правакатары разбілі некалькі вокнаў. АМАП не перашкаджаў гэтаму, хутчэй спрыяў. Затым паступіла каманда «біць», і добра экіпаваныя АМАПаўцы пачалі дручкамі па-зверску збіваць усіх, хто трапляў пад руку. Акцыя пратэсту закончылася затрыманнем амаль тысячы грамадзянаў.

Паэты, як вядома, кіруюцца поклічам сэрца, пачуццямі ўзнёслымі; дыпламаты і палітыкі – разлікам, заснаваным на рэаліях. Здарылася так, што да Уладзіміра Някляева, арыштаванага без усялякіх падставаў і зняволенага ў турме КДБ, дайшла вестачка з-за мяжы: «Трымайся, Валодзя! Твой брат Яўген Еўтушэнка». І ў калядную ноч 25 снежня 2010 года ў турэмнай камеры Някляеў

пацвердзіў, што застаецца паэтам, напісаў пра тое, як у Беларусі ізноў

*«Пророс 37-й гадючий год*
*из ненависти подлецов к поэтам».*

Праз месяц з гакам Някляева перавялі пад хатні арышт і забаранілі пакідаць не толькі краіну, а нават і Мінск. Паэзія – мастацтва незразумелае таму клану, які пануе ў Беларусі сёння, паэтаў там не любяць, але пакуль не баяцца.

Палітычныя зняволеныя Саннікаў і Бандарэнка знаходзіліся ў турме паўтара года і выйшлі на волю толькі дзякуючы санкцыям краінаў Еўрасаюза. Лукашэнка працягвае іх баяцца, лічыць іх небяспечнымі для сваёй нелегітымнай улады, таму і падпалі яны пад самыя жорсткія фізічныя і маральныя катаванні. Дэманструе стойкасць і сапраўдную мужнасць палітвязень Мікалай Статкевіч, кінуты ў турму без усялякай віны. Ён катэгарычна адмаўляецца пісаць прашэнне аб памілаванні, бо справядліва лічыць сябе ні ў чым не вінаватым. Падступнасць карнікаў сённяшняга беларускага рэжыму, якія вымагаюць ад яго такое прашэнне, пераўзыходзіць гэткія ж якасці катаў-энкавэдыстаў 1937 года. У камеру да Статкевіча падсаджваюць псіхічна хворага, інфіцыраванага СНІДам, які пагражае яго заразіць, ускрывае сабе вены...

Салідарызуецца з кіроўным рэжымам у Беларусі і расійскі амбасадар у Беларусі Аляксандр Сурыкаў, безапеляцыйна заяўляючы, што ў Беларусі няма палітвязняў. На адным з дыпламатычных прыёмаў да яго падышоў Зміцер Бандарэнка, які выйшаў з турмы, і сказаў: «Аляксандр Аляксандравіч, я той, каго, на вашую думку, у Беларусі няма». Сурыкаў паспяшаўся сысці, бо адказаць нічога не мог. Наогул жа, гэты былы расійскі губернатар, які здолеў за час свайго кіравання грунтоўна апусціць эканоміку Алтайскага краю (78 месца ў рэйтынгу расійскіх рэгіёнаў!), адчуў сябе ў Беларусі паўнапраўным генерал-губернатарам і заявіў, што ў адказ на размяшчэнне ў Еўропе амерыканскіх сістэмаў супрацьракетнай абароны ў Беларусі могуць з'явіцца новыя ваенныя аб'екты, у тым ліку і ядзерныя. Нават МЗС Беларусі 7 лютага 2009 года выступіла з крытыкай заявы Сурыкава, які ў сваё апраўданне сказаў, што яго «няправільна інтэрпрэтавалі».

## Надзея на выратаванне

Перамагчы дыктатуру на выбарах нельга. Старое сталінскае правіла «няважна, як галасуюць, важна, як лічаць», спрацоўвае безадказна. Аднак выбары могуць выклікаць імпульс, які можа



*2010 год, верасень, Варшава. Справа налева: Старшыня Еўрапарламента Ежы Бузэк, Станіслаў Шушкевіч і Андрэй Саннікаў*

прывесці да зрынання канкрэтнага дыктатара, але далёка не заўсёды – да змены палітычнай сістэмы. У Беларусі, за неістотным выняткам, – манаполія дзяржавы на СМІ. Яны ператвораныя ў прапагандысцкія структуры. Перадвыбарчыя кампаніі даюць магчымасць мець больш шырокія зносіны з людзьмі.

З гэтага гледзішча наяўнасць шматлікіх кандыдатаў, якія супрацьстаяць дзейнаму прэзідэнту, – фактар станоўчы. Але толькі ў тым выпадку, калі кандыдаты не крытыкуюць адзін аднаго, а выступаюць супраць дыктатара. Так пераважна і было на выбарах 2010 года. Ніяк не прыніжаючы годнасці іншых кандыдатаў, я лічу, што лепшым сярод іх быў Андрэй Алегавіч Саннікаў. Практычна ўсе сябры партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» (БСДГ), старшынёй Цэнтральнай Рады якой я з'яўляюся, яго падтрымлівалі. Ён несувымерна лепш за іншых быў гатовы да сур'ёзнай дзяржаўнай дзейнасці, меў досвед працы на ўзроўні намесніка міністра, досвед працы на розных пасадах за мяжой, свабодна валодае англійскай і французскай мовамі, нядрэнна ведае польскую, паспяхова супрацоўнічаў з грамадскімі арганізацыямі.

Нарэшце, Саннікаў быў шырока вядомы за мяжой – у ЗША, Польшчы, Эстоніі, Латвіі, Літве, Германіі, Чэхіі і іншых краінах.

Не будзе перабольшваннем сказаць, што першым крокам да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах сталі больш за сто тысячаў подпісаў, якія сабраў Андрэй Саннікаў са сваімі аднадумцамі ў 1997 годзе пад распрацаваным ім дакументам «Хартыя-97». Афіцыйнай перадвыбарчай кампаніі Саннікава папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца «Еўрапейскай Беларусі», якую ён узначальваў. Андрэй Алегавіч сфармаваў выдатную каманду маладых, таленавітых, працавітых людзей: Зміцер Бандарэнка, Алег Бябенін, Павел Марыніч, Наталля Радзіна, Яўген Афнагель, Улад Кобец, нарэшце, яго жонка Ірына Халіп і многія іншыя.

На найбольш папулярным апазіцыйным сайце charter97.org змяшчаліся інфармацыйныя матэрыялы пра Саннікава, заклік выйсці на Кастрычніцкую плошчу Мінска пасля заканчэння галасавання 19 снежня 2010 года. Выйсці мірна і паказаць, як шмат тых, хто галасаваў за перамены, г.зн. супраць Лукашэнкі. Да мірнага выхаду на плошчу пасля заканчэння галасавання кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў заклікаў і падчас афіцыйных сустрэчаў з выбаршчыкамі па ўсёй Беларусі.

* * *

У 1974 годзе англійскі прафесар задаў мне ў Кракаве простае пытанне:

– Як вы ставіцеся да вашай арыстакратыі?

У адпаведнасці з указаннямі, атрыманымі пры інструктажы перад ад’ездам за мяжу, а таксама згодна са сваімі тагачаснымі перакананнямі, я горда заявіў:



*2010 год, 7 ліпеня, Вільня. Андрэй Саннікаў з жонкай Ірынай Халіп – госці прэзідэнта Літвы Далі Грыбаўскайтэ на цырымоніі ўручэння мне ордэна Крыж Вітаўта*

– Паважаны прафесар, у СССР з арыстакратыяй скончана яшчэ ў 1917 годзе. У нас арыстакратыі няма.

– Грамадства без арыстакратыі не бывае. Мы, англічане, пашанліва ставімся да нашай старой родавай знаці – арыстакратыі. ***Няма нічога горш за арыстакрата ў першым пакаленні!***

Апошнія словы прафесара надоўга ўрэзаліся ў маю памяць. Час пацвердзіў іх слушнасць. Не раз мне ўспаміналіся самазадаволеныя партыйныя начальнікі, з якімі даводзілася сутыкацца, надзеленыя правам кіраваць і патрабаваць. Мала хто з іх мог быць аднесены да людзей высокай культуры. Але толькі гадоў праз 25-30 я зразумеў, наколькі далікатным і ветлівым быў мой суразмоўца – прафесар з Англіі, калі не папракнуў мяне за маё няведанне элементарных паняткаў, з якімі знаёмяць школьнікаў у цывілізаваных краінах. Адкуль мне было ведаць, напрыклад, пра вялікага рускага філосафа Мікалая Аляксандравіча Бярдзяева (1864–1948), высланага ў 1922 годзе бальшавікамі з Савецкай Расіі. А ён даўно адказаў на ўсе ўзніклыя ў мяне з гэтай нагоды пытанні.

*«Арыстакратычная ідэя патрабуе рэальнага панавання лепшых, дэмакратыя – фармальнага панавання ўсіх. Арыстакратыя як кіраванне і панаванне лепшых, як патрабаванне якаснага падбору, застаецца на вякі вякоў вышэйшым прынцыпам грамадскага жыцця, адзінай годнай чалавека ўтопіяй.»*

Падчас размовы з англійскім прафесарам я быў саўком, які не толькі засвоіў, але і верыў у вызначэнні, створаныя бальшавіцкай прапагандай. Аб шляхце, аб арыстакратыі я ведаў толькі адно – гэта эксплуататары, бязлітасныя прыгнятальнікі. А пра тое, што прадстаўнікі арыстакратыі захоўвалі культурную спадчыну, бераглі традыцыі, стваралі літаратуру, музыку, жывапіс, у савецкіх крыніцах не гаварылася ні слова.

Пазней я сто разоў пераконваўся ў рацыі прафесара – сапраўды, няма нікога горшага за арыстакрата ў першым пакаленні! Асабліва ва ўладзе.

На заканчэнне хачу прывесці яшчэ адну цытату з таго ж Бярдзяева: *«Калі парушаныя сапраўдныя іерархіі і знішчаная сапраўдная арыстакратыя, то з'яўляюцца ілжывыя іерархіі і ўтвараецца ілжывая арыстакратыя. Хеўра ашуканцаў і забойцаў з адкідаў грамадства можа ўтварыць новую ілжывую арыстакратыю і прадставіць іерархічны пачатак у грамадскім ладзе»*. Сказана – як пра сённяшнюю Беларусь.

# XVI. ПРАЗ ГАДЫ І АДЛЕГЛАСЦІ, або Мікра-эсэ са здымкамі пераважна з майго жыцц .



*У снежні 1991 г. гэты здымак з'явіўся ў сотнях перыёдыкаў свету. Дзякуючы яму распаўсюдзілася недакладнае меркаванне аб тым, што пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў падпісалі ў Віскулях тры чалавекі: Леанід Краўчук, Станіслаў Шушкевіч і Барыс Ельцын. Насамрэч пад Пагадненнем стаяць таксама подпісы дзяржсакратара Расіі Генадзя Бурбуліса, прэм'ера Украіны Вітольда Фокіна і прэм'ера Беларусі Вячаслава Кебіча*



*1992 год, аэрапорт Мінск-2. Афіцыйны візіт лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы ў Рэспубліку Беларусь*



*У Гданьску ў палацы Артус на ўручэнні Міжнароднай прэміі імя Леха Валэнсы. 29 верасня 2012 г.*



*Свабоды без ахвяраў не бывае. 16 студзеня 1969 г. студэнт Карлавага ўніверсітэта Ян Палах на Вацлаўскай плошчы ў Празе ўчыніў акт самаспалення, пратэстуючы супраць акупацыі Чэхаславакіі войскамі Савецкага Саюза і іншых краінаў Варшаўскай дамовы. Пасля яго смерці да красавіка 1969-га яшчэ 26 чалавек у Чэхаславакіі зрабілі спробы самаспалення на знак пратэсту супраць савецкай інтэрвенцыі. Ян Заіц паўтарыў самаахвярны подзвіг Яна Палаха на той самай Вацлаўскай плошчы*



*Таленавітая журналістка Наталля Радзіна (другая справа) пісала праўду пра дыктатарскі рэжым і змушаная была пакінуць Беларусь. Сёння яна не можа наведаць сваіх бацькоў на радзіме. На гэтым здымку яе апошняя сустрэча з сям'ёй у родным Кобрыне, куды разам з намі прыехала і жонка палітвязня Змітра Бандарэнкі Вольга*



*Страсбург, кастрычнік 2009 г. Тады і ў думках не было, што мы з Ягорам Гайдарам сустракаемся апошнім разам. Праз два месяцы, у дзень майго 75-годдзя, знаходзячыся ў ЗША, я ўзрадаваўся званку мабільніка, бо на дысплеі высвецілася імя Міхаіла Слабадзінскага – памочніка Гайдара. Чакаў віншаванняў з юбілеем, а атрымаў паведамленне аб раптоўнай смерці выдатнага чалавека, сапраўднага інтэлігента, аднаго з галоўных аўтараў Белавежскага пагаднення аб стварэнні СНД*



*Санкт-Пецярбург, кастрычнік 2010 г. У Федэральнай бібліятэцы імя Першага Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына з расійскімі студэнтамі*



*Паміж двух народных... З пісьменнікамі Васілём Быкавым і Нілам Гілевічам. Паноўны ў Беларусі дыктатарскі рэжым не ўвекавечыў памяць першага і зневажае другога*



*Станцыя Гудагай, 2011 г. Ноччу пільныя беларускія памежнікі высадзілі з цягніка Вільня-Мінск групу студэнтаў ЕГУ і мяне, мяркуючы, што моладзь пад маім кіраўніцтвам едзе ў Мінск на пратэстную акцыю. Афіцыйная падстава для затрымання – «старанная праверка дакументаў», якая цягнулася пяць гадзінаў. Нікога з затрыманых я раней не ведаў. ЕГУ быў заснаваны ў 1992 годзе ў Мінску, але беларускі рэжым палічыў неабходным яго ліквідаваць, таму з 2004 г. універсітэт функцыянуе ў сталіцы Літвы*



*Гданьск, верасень 2010 г. У дэпутацкай прыёмнай старшыні Сената Рэспублікі Польшча Богдана Барусевіча. Справа налева: Зміцер Бандарэнка, Андрэй Саннікаў, Богдан Барусевіч, Станіслаў Шушкевіч*



*У Беларускім акадэмічным цэнтры ў Вінсфілдзе (ЗША, штат Канзас) перыядычна збіраюцца навукоўцы, выкладчыкі, палітыкі і грамадскія дзеячы, якія займаюцца беларускай праблематыкай. На здымку можна знайсці Івонку і Паўлінку Сурвілаў, экс-амбасадараў ЗША ў Беларусі Дэвіда Суорца і Кенета Ялавіца, экс-рэктара БДУ прафесара Аляксандра Казуліна, прарэктара ЕГУ Аляксандра Калбаску і многіх іншых*



*Франкфурт-на-Майне, снежань 2009 г. Са славутым навукоўцам беларусам Барысам Кітом і яго жонкай Тамарай. 6 красавіка 2010 г. Барыс Кіт, матэматык па ўніверсітэцкай адукацыі, адзначыў сваё 100-годдзе. Падчас працы ў ЗША ён зрабіў важкі ўнёсак у развіццё амерыканскай і сусветнай астранаўтыкі*



*На Міжнародным фестывалі культуры і спорту ў Наміанджу Сіці (Паўднёвая Карэя) мяне запрасілі выступіць з прывітальным словам*



*Прафесар Лешак Бальцэровіч – аўтар і адзін з галоўных рэфарматараў польскай эканомікі. Яго «шокавая тэрапія» была з разуменнем успрынятая палякамі і вывела Польшчу на ўзровень развітых краінаў Еўропы*




*ЗША, 2009 г. Самае паўднёвае паселішча штата Фларыда – горад Кі Вест. Каля дома-музея Эрнеста Хемінгуэя*



*ЗША, Касмічны цэнтр імя Кэнэдзі на мысе Канаверал. Едучы на аўтамабілі па Фларыдзе, туды нельга не зазірнуць*




*Екацярынбург, студзень 2011 г. У Федэральным універсітэце імя Першага Прэзідэнта Расіі Б. М. Ельцына праходзіць канферэнцыя «Грамадзянскі дыялог пакаленняў». У прэзідыуме (справа налева): былы кіраўнік міліцыі Масквы Мурашоў, адзін з аўтараў расійскай Канстытуцыі Леў Шэйніс, Генадзь Бурбуліс, рэктар універсітэта Какшароў, Станіслаў Шушкевіч. На радзіме Першага Прэзідэнта Расіі сцвярджаюць, што калі Ельцын быў прэзідэнтам, Расія ішла па шляху дэмакратызацыі*



*Браціслава, красавік 2011 г. Мікулаш Дзурында – сын этнічнага русіна, з 2010 г. – міністр замежных справаў Славакіі. Быў прэм'ер-міністрам (1998–2006), выконваў абавязкі прэзідэнта (1998–1999). Яго лічаць палітыкам, які прывёў Славакію ў Еўрасаюз*



*Браціслава. Міністр замежных справаў Славакіі Мікулаш Дзурында сярод пікетчыкаў, якія патрабуюць вызвалення палітзняволеных у Беларусі*



*Прэзідэнт Уроцлава Рафал Дуткевіч – вядомы мэр-рэфарматар у Польшчы. Горад славіцца стварэннем шматлікіх новых працоўных месцаў, масавымі культурнымі, мастацкімі і спартыўнымі імпрэзамі, удумлівай рэстаўрацыяй гістарычных помнікаў, сваім турыстычным сервісам*



*Студэнты-замежнікі БДУ, якія спецыялізаваліся на «маёй» кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі, паспяхова працягваюць навуковую і педагагічную працу на радзіме. Прафесар Міраслаў Машлан – рэктар Палацкага ўніверсітэта ў Аламоўцы (Чэхія)*





*На канферэнцыях у Сеуле можна пазнаёміцца з першай лэдзі Танзаніі і экс-прэзідэнтам Сэйшэльскіх астравоў сэрам Джэймсам Р. Манчамам*



*Прага, сакавік 2011 г. Міністр замежных справаў Чэхіі Карл Шварцэнберг пераконваў нас, што дэмакратызацыі Беларусі можа быць аказаная сур'ёзная падтрымка ў межах праграмы "Усходняе партнёрства"*




*Сустрэча ў МЗС Чэхіі*



*З сапраўдным нашчадкам Радзівілаў мы з Ірынай сустрэліся ў рэзідэнцыі амбасадара Францыі ў Мінску. Яго сур'ёзна хвалявала пытанне, ці заўсёды мае высокую якасць хлеб «Радзівілаўскі», на пакоўку якога без дазволу ставіцца іх родавы герб*




*Паўднёва-усходняя правінцыя Рэспублікі Карэя Джаланамда неўзабаве стане ўзорам экалагічнасці і камфорту. Фота на памяць з губернатарам доктарам Джун Ян Паркам і ягонай жонкай каля гасцявога дому мэрыі*



*У 2009 годзе мне прыйшлося прачытаць інаўгурацыйную лекцыю па фізіцы «Тэрмаядзерны сінтэз» у Політэхнічным інстытуце Кашаліна (Польшча)*



*На колькасць студэнтаў, якія пажадалі прысутнічаць на маіх лекцыях, грэх скардзіцца*



*20-годдзе кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі БДУ. На жаль, не ўсе супрацоўнікі змаглі стаць удзельнікамі сяброўскай вячэры і апынуцца на гэтай фатаграфіі, зробленай у Соснах на подыуме з бетонных блокаў для будаўніцтва чарговага корпуса Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР. 1981 г.*



*Чыкага, студзень 2004 г. Таленавіты, сціплы і працавіты літаратар Ванкарэм Нікіфаровіч, сын дырэктара 42-й школы Мінска, у якой вучыліся дзеці савецкай беларускай эліты, эміграваў у ЗША ў пачатку 1990-х. Ён палюбіў Чыкага і ведаў яго не горш за Мінск. Як і многім прыез-джым з Беларусі, Ванкарэм і мне быў выдатным экскурсаводам па горадзе*



*За 20 кіламетраў ад Сеула ўніз па цячэнні ракі Ханган на яе беразе пабудаваныя камфартабельныя дамкі для сямейнага адпачынку. Іх унутраныя сцены і перагародкі зробленыя з натуральнага дрэва. Кошт пражывання ў такім доме амаль гэткі ж, як у фешэнебельным сеульскім гатэлі. Гаспадары будынкаў доўга пераконвалі нас, што жыць у такіх дамах дужа карысна для здароўя*



*Сеул, 1996 г. Падлеткавы калектыў «Маленькія анёлы» вядомы ва ўсім свеце. Ён з вялікім поспехам выконвае традыцыйныя карэйскія, класічныя і сучасныя песні і танцы*




*З рэктарам на вучоным савеце ўніверсітэта ў Тэгу*




*Гэты сікх вельмі дабразычлівы, ён ніколі не падстрыгаў валасы і там, дзе гэта афіцыйна не забаронена, мае пры сабе традыцыйную халодную зброю – кінжал*



*1991 год. Я вырашыў азнаёміцца з «нашай» стратэгічнай ядзернай зброяй. На той час Беларусь была самай ядзернай дзяржавай свету: у пераліку на адзінку плошчы яе тэрыторыі або на тысячу яе грамадзянаў прыходзілася больш адзінак ядзернай зброі, чым у любой іншай краіне на планеце Зямля*



*У 1993 годзе вядомы амерыканскі пісьменнік Норман Майлер (у цэнтры) папрасіў мяне яго прыняць. У свайго дарадцы Сяргея Панькоўскага (першы злева) я даведаўся, што на рускую мову перакладзеная толькі адна кніга Н. Майлера аб карэйскай вайне. Каб не выглядаць недасведчаным, за ноч я яе прачытаў. Я лічыў, што аўтар павінен добра ведаць сусветна вядомых В. Быкава і К. Сіманава, спытаў, як ён да іх ставіцца. А ён пра іх нават не чуў... Майлер змог азнаёміцца ў КДБ Беларусі з асабістай справай Лі Харві Освальда, папрасіў мяне адказаць на шэраг пытанняў і неўзабаве выдаў кніжку «Oswald's Tale», якую даслаў мне з аўтографам. На жаль, прыпісаў мне ў гэтай кніжцы тое, чаго я яму не гаварыў. Але Освальдыяда працягваецца, і многія цытуюць Майлера, лічачы яго «Oswald's Tale» гістарычнай праўдай*



*Падчас візіту ў Хельсінкі я запрасіў прэзідэнта Фінляндыі Маўна Койвіста наведаць з афіцыйным візітам Мінск. Ён пагадзіўся прыехаць, але толькі на сустрэчу «без гальштукаў». Поўнай нечаканасцю стаў для мяне прылёт спадара Койвіста ў Мінск толькі на некалькі гадзінаў са сваім кухарам і прадуктамі, «каб перагаварыць са мной аб справах і пазнаёміць кіраўнікоў Беларусі з сапраўднай фінскай кухняй»*



*Іён Іліеску – вясёлы суразмоўца. У 1965–1968 гадах ён кіраваў аддзелам прапаганды ЦК Румынскай кампартыі, быў першым сакратаром ЦК Саюза камуністычнай моладзі. У сярэдзіне 70-х Чаўшэску ўбачыў у ім канкурэнта, зняў з усіх пасадаў, але не праследаваў. У 1989 г. Іліеску ўзначаліў выступ супраць Чаўшэску, а пасля яго зрынання двойчы абіраўся на пасаду прэзідэнта Румыніі (1990, 2000). Не адрокся ад метадаў, якія выкарыстоўваліся пры Чаўшэску: прывозіў у Бухарэст шахцёраў, узброеных жалезнай арматурай, для разгону апазіцыйных дэманстрацый*



*Бон, 15 верасня 1992 г. Трэба валодаць надзвычайнымі здольнасцямі фантаста, каб уявіць, што ў гонар чалавека, які падчас Другой сусветнай вайны атаясамліваў паняткі «немец» і «вораг», у гонар Беларусі, якая страціла ў барацьбе з нямецкімі фашыстамі кожнага чацвёртага жыхара, будзе пашыхтаваная ганаровая варта ўзброеных сіл Германіі, а суправаджаць мяне будзе прэзідэнт Нямеччыны Рыхард фон Вайцзэкер*



*Першая лэдзі Германіі Марыяна фон Вайцзэкер і першая лэдзі Беларусі Ірына Шушкевіч на тэрасе вілы Хамершмідт*



*Сафія, 19 кастрычніка 1993 г. Першы дэмакратычна абраны прэзідэнт Балгарыі Жэлю Жэлеў сустрэў афіцыйную дэлегацыю Беларусі ў аэрапорце. У складзе дэлегацыі былі Патрыяршы экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт, народны паэт Ніл Гілевіч, дэпутаты і ўрадоўцы*



*З экс-прэзідэнтам Балгарыі доктарам філасофскіх навук, цікавым суразмоўцам, пісьменнікам і аналітыкам Жэлю Жэлевым на тэрасе прэзідэнцкага палаца ў Варшаве падчас канферэнцыі па праблемах Усходняй Еўропы, якая праходзіла ў жніўні 2005 г. Там не раз успаміналі аб выдадзенай у 1982 г. (праз 15 гадоў пасля напісання!) яго кнізе «Фашызм». Праз некалькі дзён пасля таго, як былі надрукаваныя 10 000 асобнікаў, кніга падпала пад забарону і знішчэнне: балгарскі камуністычны рэжым аказаўся ідэнтычным фашысцкаму, дэталёва апісанаму ў кнізе Ж. Жэлева*



*Анкара, травень 1993 г. Перамовы са спікерам Хюсамеддзінам Джындурукам на святкаванні 72-х угодкаў меджліса (парламента). Дата, кратная 12 і 6, лічыцца ў Турцыі юбілейнай. У парламенце Турцыі 550 дэпутатаў, у ім прадстаўленыя толькі партыі, якія набралі не менш за 10% галасоў на выбарах*




*Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка былі кінутыя беларускім дыктатарам у турму за тое, што іх адрознівае ад нелегітымнага прэзідэнта прафесіяналізм, ясны розум, прыстойнасць, сумленнасць і годнасць*




*Кітай, студзень 1993 г. У аэрапорце Гаоці горада Сямэнь у раёне Тайваньскай пратокі мы пасля студзеньскага холаду Мінска і Пекіна нечакана трапілі ў 25-градусную спякоту. Нам з Ірынай не ўдалося зняць паліто, бо ў нашых руках былі кветкі, якія ўручылі нам гэтыя чароўныя дзеці*



*Рыга, 2010 г. Не магу не скарыстацца магчымасцю яшчэ раз паціснуць руку сенатару Дж. Макейну, шматгадоваму вязню в'етнамскай турмы, сусветна вядомаму змагару за правы чалавека і дэмакратызацыю, сапраўднаму сябру Беларусі*



*Амстэрдам, 18 траўня 1992 г. У выставачным павільёне фірмы «Philips» яе прадстаўніца знаёміць Наіну Ельцыну, дэпутата Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Галіну Старавойтаву і Ірыну Шушкевіч з найноўшай прадукцыяй*



*Курапаты, 15 студзеня 1994 г. Як ні перашкаджаў кебічаўскі ўрад, паездка прэзідэнта ЗША Біла Клінтана на месца расстрэлу бязвінных людзей адбылася. Тлумачэнні амерыканскаму прэзідэнту даваў Зянон Станіслававіч Пазняк, які адыграў галоўную ролю ў адкрыцці Курапатаў*




*Адміністрацыі запаведніка «Белавежская пушча» загадана не паказваць турыстам і журналістам месца падпісання дакумента аб стварэнні СНД, згодна з якім Беларусь была прызнаная Расіяй незалежнай дзяржавай. 10 лістапада 2011 г. наведванне Віскулёў забаранілі здымачнай групе расійскага тэлеканала ОРТ у складзе Кацярыны Грыцэвіч, Андрэя Сысоева і Міхаіла Сысоева*



*Калі я дапісваў гэтую кнігу, лідэр фракцыі Прагрэсіўны альянс сацыялістаў і дэмакратаў (ПАСД) у Еўрапарламенце Марцін Шульц (Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі) быў вылучаны на пасаду старшыні Еўрапарламента. І — быў абраны*



*У ліпені 1992 г. па просьбе Старшыні Сейма Літвы Вітаўтаса Ландсбергіса мы абралі месцам перамоваў Віскулі і селі за стол, за якім было падпісанае Пагадненне аб стварэнні СНД. Нашыя ахоўнікі, ведаючы, што вакол – пушча, спакойна гулялі ў суседняй зале ў більярд. Я папрасіў іх прыглядзець за маім сямігадовым сынам, бо жонка ў гэты час знаёміла спадарыню Гражыну Ландсбергіс з рэзідэнцыяй. Дзверы більярднай былі зачыненыя, ключ тырчаў у дзвярах. Сын спрабаваў выбегчы ў хол, але яго адразу ж вярнулі. Правільна ацаніўшы сітуацыю, мой Стась дастаў ключ з дзвярэй і хуценька замкнуў іх звонку. Прафесіяналы спецслужбаў Літвы і Беларусі апынуліся ў ізаляцыі. Прыйшлося ім выбірацца праз фортку і доўга шукаць вінаватага...*



*Кастрычнік 2011 года. У шведскім Гётэборгу з дэпутатам Еўрапарламента ад Літвы прафесарам Вітаўтасам Ландсбергісам мы ўспомнілі пацешны выпадак у Віскулях 19-гадовай даўніны. На трохдзённы форум «XX-годдзе распаду СССР» нас запрасілі МЗС Швецыі, мэрыя Гётэборга і Гётэборгскі ўніверсітэт*



*З Вігдзіс Фінбагадоцір — першай жанчынай у свеце, абранай на пасаду кіраўніка дзяржавы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй краіны, я пазнаёміўся ў Швецыі ў Гётэборгскім універсітэце. Яна не рыхтавалася да палітычнай кар'еры, вывучала французскую мову і літаратуру ў Сарбоне і ўніверсітэце Грэнобля, гісторыю тэатра ва ўніверсітэце Капенгагена. Будучы абранай Прэзідэнтам Ісландыі ў 1980 годзе, чатыры разы пераабіралася на гэтую ж пасаду і адмовілася ўдзельнічаць у наступных выбарах. Заўсёды надавала вялікую ўвагу развіццю ісландскай мовы, культуры Ісландыі, інтарэсам моладзі, жаночаму лідэрству*



*На вышэйшых дзяржаўных пасадах Літвы — жанчыны. Даля Грыбаўскайтэ — усенародна абраны прэзідэнт*



*Ірэна Дэгутэне – з 17 верасня 2009 г. старшыня Сейма Літвы*



*Рэктар Гётэборгскага ўніверсітэта прафесар Пам Фрэдман растлумачыла: пяцьдзесят адсоткаў рэктараў вышэйшых навучальных установаў Швецыі – жанчыны*




*Паўднёвая Карэя, 2003 г. Прыемна атрымаць дыплом ганаровага доктара філасофіі ў далёкім Сеуле з жаночых рук прафесара Куанг Юн Лі – прэзідэнта ўніверсітэта, у якім вучацца і студэнты з Беларусі*



*Удава легендарнага акадэміка Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава Алена Бонэр прыклала нямала намаганняў, каб у Мінску з'явіўся Сахараўскі коледж.*



*З Галінай Старавойтавай у Санкт-Пецярбургу, 1996 г.*
*Расіі складана зберагчы яе нацыянальны гонар — годных, таленавітых, высокаадукаваных палітыкаў. Добрыя словы пра іх застаюцца ў памяці і на помніках:* ***«Галіна Васільеўна Старавойтава — навуковец, праваабаронца, народны дэпутат СССР, РСФСР, дэпутат Дзяржд умы РФ, дарадца Прэзідэнта Расіі, старшыня партыі «Дэмакратычная Расія». Загінула 20 лістапада 1998 г. у выніку тэрарыстычнага акту ад рук нанятых забойцаў».***



***Рыга, кастрычнік 2010 г. З Прэзідэнтам Польшчы Бранiславам Камароўскім. Мне шанцуе на нечаканыя сустрэчы з гэтым чалавекам, які на ўсіх высокіх пасадах у Польшчы застаецца вялікім сябрам Беларусі і ўпэўнены ў яе дэмакратычнай будучыні***



*Талін, 6 снежня 2011 г. Прэзідэнт Эстоніі Томас Хендрык Ілвес прытрымліваецца таго ж меркавання, што і іншыя кіраўнікі краінаў Еўрасаюза: адносіны з Рэспублікай Беларусь могуць атрымаць развіццё толькі пасля вызвалення і афіцыйнай рэабілітацыі ўсіх палітычных вязняў*



*З дваццаць другім генерал-губернатарам Канады Эдвардам Рычардам Шраерам (з 1979 па 1984 г.) лёс звёў мяне ў Сеуле ў канцы 1990-х гадоў на канферэнцыях па мірным аб'яднанні Карэі*



*У канадскім Таронта вясна часам сустракаецца з зімой: гэтыя здымкі зробленыя на двух розных схілах аднаго і таго ж пагорка*





*Прафесар Сяргей Пятровіч Капіца — навуковец, тэлевядоўца, галоўны рэдактар часопіса «В мире науки» — належыць да славутай дынастыі рускіх навукоўцаў. Ён сын нобелеўскага лаўрэата па фізіцы П.Л. Капіцы, унук А.Н. Крылова — вядомага матэматыка і караблебудаўніка. Я пазнаёміўся з ім у Сеуле, затым сустракаўся ў Вашынгтоне, пазней у Маскве, дзе ён жыў і працаваў*



*Сеул, 2010 г. У парламенце Рэспублікі Карэя са спікерам Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША Дж. Дэнісам. Тады многія меркавалі, што ён будзе балатавацца ў прэзідэнты ЗША ў 2012 годзе*



*Пасля гэтай сустрэчы канцлер ФРГ Ангела Меркель прадэманстравала выдатнае разуменне таго, што адбываецца ў Беларусі. Я перакананы, што гэта адбылося дзякуючы сур'ёзнаму папярэдняму абмеркаванню беларускіх праблемаў міністра Рональда Пафалы з прадстаўнікамі дэмакратычнай апазіцыі Беларусі. На здымку (злева направа): Сяргей Калякін, Аляксандр Казулін, Ева Някляева, Рональд Пафала, Юлія Слуцкая, Дзяніс Садоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Віктар Івашкевіч. Берлін, 11 студзеня 2011 г.*

*Смеху варта! Мэру Вільні Артурасу Зуокасу адмоўлена ў візе ў Рэспубліку Беларусь з-за яго сустрэчы ў мэрыі з беларускай дэмакратычнай апазіцыяй. І гэта пасля таго, як амбасадар Беларусі ў Літве У. Дражын нанёс А. Зуокасу «візіт ветлівасці» і запэўніў яго «ў найвышэйшай да яго павазе»*






*На пытанне пра мэту паездкі ў Парыж прэзідэнт Дж. Ф. Кенэдзі адказаў: «Суправаджаю першую лэдзі ЗША». Я магу адказваць, што суправаджаю першую лэдзі Беларусі ўжо больш за 20 гадоў. Новай першай лэдзі ў нас няма... У Сеуле і Вашынгтоне, запрашаючы маю жонку выступіць, так і абвяшчаюць: «Слова даецца першай лэдзі Рэспублікі Беларусь»*

*Наш вясёлы суразмоўца на канферэнцыі ў Маскве – бацька васьмярых дзяцей Исмагіл Каляметдзін Шангарэеў. Ён быў муфтыем Арэнбурга, старшынёй Асацыяцыі мячэцяў Расіі, падвяргаўся крымінальнаму пераследу, быў апраўданы. 11 верасня 2005 года – у гадавіну трагедыі ў Нью-Ёрку – узначаліў дэлегацыю расійскіх мусульманаў, якая прыляцела выказаць свае спачуванні амерыканскаму народу і памаліцца аб выратаванні душаў загінулыых у тэрактах*





*Паўднёвая Карэя, 30 верасня 2003 г. У гэты дзень парламент горада Пачона, прысвоіў мне званне ганаровага грамадзяніна*



*Першы Надзвычайны і Паўнамоцны амбасадар Славакіі ў Беларусі Марыян Серватка сустракаў гасцей на афіцыйным прыёме з нагоды Дня канстытуцыі Славацкай Рэспублікі ў нацыянальным строі*



*Любамір Рэгак – Часовы Паверaны ў справах Славакіі – за час працы ў Беларусі вывучыў беларускую мову*



*Беларуская прырода была даспадобы Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Амбасадару Швецыі ў Беларусі Стэфану Эрыксану, яго жонцы Вераніцы і сыну Эрыку, якому толькі ў лесе дазвалялася парушаць дыпламатычны этыкет*




*З дыпламатычнымі прадстаўнікамі Вялікабрытаніі, ЗША...*



*...Сербіі*



*...Украіны*



*...Румыніі,*



*...Літвы,*



...Ізраіля.



Побач з А. Саннікавым і І. Халіп амбасадар Венгрыі Ферэнц Контра



*У Каларада*



*У падарожжах я быў шчаслівы, бо мог надоўга даверыць стырно жонцы, для якой кіраваць аўтамабілем – улюбёны занятак. Сад багоў каля Каларада-Спрынгс*



*З Ёганесам Раў*



*З Іахімам Гаўкам*



*З Рыхардам фон Вайцзэкерам*

*Мне давялося пазнаёміцца і весці перамовы з трыма прэзідэнтамі ФРГ. На момант знаёмства Рыхард фон Вайцзэкер быў дзейным прэзідэнтам, а Ёганес Раў і Іахім Гаўк толькі меліся ў будучыні стаць першымі асобамі Федэратыўнай Рэспублікі Германія*



*ЗША, Каліфорнія, 2005 г. У Нацыянальным парку Red Wood створаныя цудоўныя ўмовы для захавання дрэваў секвоі і для камфортнага знаходжання ў ім турыстаў. Я сфатаграфаваў Ірыну са знакамітым амерыканскім пісьменнікам Рычардам Роўдсам, яго жонкай Джынджэр і перакладчыцай Марыяй каля секвоі, зламанай ураганам ва ўзросце больш за 2000 гадоў. На зрэзе пазначаныя гадавыя кольцы – заканчэнне Другой сусветнай вайны, прыняцце Дэкларацыі аб незалежнасці ЗША, адкрыццё Калумбам Амерыкі і нараджэнне Хрыста*




*10 і 24 снежня 2011 г. масквічы ўспомнілі, што падчас прэзідэнцтва Б.М. Ельцына выбары былі сумленнымі*



*Крывадушша і хлусня дзяржаўных сродкаў прапаганды пераходзіць усе межы. «Праз гучныя скандалы як унутры партый, так і паміж імі,«нязгодныя» не змаглі напярэдадні арганізавана правесці мітынг на праспекце Сахарава ў Маскве. На акцыю — яна анансавалася як шматтысячная — прыйшлі толькі сотні», — было сказана ў рэпартажы Беларускага дзяржаўнага тэлебачання 24 снежня 2011 г.*




*2011 год. Беларусь – апошняя дыктатура ў Еўропе. Такі лейтматыў міжнароднай канферэнцыі ў Вільні. У прэзідыуме – В. Станкявічус (Літва), А. Гарбуноў (Латвія), А. Руйтэль (Эстонія), С. Шушкевіч (Беларусь)*



*Парыж, 30 студзеня 2011 г. Фонд Ельцына і асацыяцыя «Францыя-Урал» правялі круглы стол па геапалітычнай праблематыцы, прымеркаваны да 80-й гадавіны з дня нараджэння Першага Прэзідэнта Расіі. Для грунтоўнай гутаркі ў камуне Крэмлін-Бісэтр сабраліся эксперты з былога СССР і Францыі*



*Патрыяршы экзарх і мітрапаліт Філарэт быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня. Я лічыў для сябе гонарам запрашаць яго ў склад парламенцкіх дэлегацый пры замежных паездках. Удумлівым удзелам у перамовах і самой сваёй прысутнасцю ўладыка пацвярджаў, што Рэспубліка Беларусь імкнецца да сапраўднай свабоды сумлення, да роўных правоў вернікаў усіх канфесій*



На міжнароднай канферэнцыі ў Маскве я пераканаўся, што актыўны прапагандыст музычнага мастацтва Раксана Мікалаеўна Сац атрымала ў спадчыну ад сваёй маці Наталлі Іллінічны Сац – стваральніка і шматгадовага кіраўніка першага ў свеце дзіцячага опернага тэатра – уменне прывіваць любоў да сапраўднага мастацтва не толькі дзяцям



Кіеў, сакавік 1997 г. Урачыстае паседжэнне ў сувязі з уручэннем Міжнароднай прэміі імя Піліпа Орліка кіраўніку Нацыянальнага банка Украіны Віктару Юшчанку (другі справа) і мне. Выступае старшыня журы Уладзімір Яварыўскі



*Кіеў, сакавік 2011 г. На прыёме ў расійскай амбасадзе, прысвечаным 80-й гадавіне з дня нараджэння Б.М. Ельцына, прыемна было бачыць экс-прэзідэнта Украіны Леаніда Данілавіча Кучму з жонкай і народнага артыста Расіі Валерыя Аляксандравіча Барынава*







*Вялікім гонарам для мяне было запрашэнне прачытаць інаўгурацыйную лекцыю ў сувязі з адкрыццём у штаце Канзас Беларускага акадэмічнага цэнтра, створанага намаганнямі былых амбасадараў ЗША ў Беларусі Дэвіда Суорца і Кенета Ялавіца сумесна з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, дзеячамі беларускай дыяспары і энтузіястамі коледжа ў Вінсфілдзе. Урачыстае адкрыццё цэнтра адбылося на сходзе ў самым вялікім горадзе штата Канзас Вічыта ў канферэнц-зале гасцініцы «Hyatt» 19 красавіка 2008 г.*



*Маё жыццёвае крэда: як бы ні ўзносіў і як бы ні апускаў мяне лёс, ганаруся, што не страціў ніводнага са сваіх сяброў, і ніводзін з іх мне не здрадзіў. Вядомы матэматык прафесар Якаў Валянцінавіч Радына і яго жонка Алена Аляксандраўна – у іх ліку*



*Гэты здымак зроблены каля ўваходу ў гасцявы дом Прэзідэнта ЗША Блэйр-Хаўз 22 ліпеня 1993 г. – падчас майго афіцыйнага візіту ў ЗША. Злева направа: старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч, віцэ-прэм'ер Міхаіл Чыгір, Юлія Бураўкіна, Міхаіл Мясніковіч, прадстаўнік Беларусі пры ААН Генадзь Бураўкін, Ірына Шушкевіч, Станіслаў Шушкевіч і амбасадар Беларусі ў ЗША Сяргей Мартынаў. Усе былі, здавалася, змагарамі за дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, за справядлівасць, дэмакратыю, правы чалавека, рынкавую эканоміку. Вернасць гэтым прынцыпам захавалі толькі шасцёра з васьмі, прычым М. Чыгіра не зламала і турма, а астатнюю пяцёрку – рэпрэсіі. Мясніковіч і Мартынаў сталі прыхільнікамі аўтарытарызму і верай і праўдай служаць апошняму дыктатару Еўропы*




*Ганover, выстава ЭКСПА-2000. Канферэнцыя па правах чалавека ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. У прэзідыуме – Іахім Гаўк (ФРГ), Марыян Кшаклеўскі (Польшча), Сяргей Кавалёў (Расія), Станіслаў Шушкевіч (Беларусь)*



*Я сфатаграфаваў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Амбасадара Яе Вялікасці Каралевы Вялікабрытаніі доктара Найджэла Гулд-Дэвіса на сваім лецішчы. У неафіцыйнай абстаноўцы мая суседка прыняла яго за звычайнага беларускага дачніка*




*Парыж, 30 студзеня 2012 г. Фота на памяць перад уваходам у актавую залу ўніверсітэцкай бібліятэкі замежных моваў і цывілізацый. Поруч абвестка аб круглым стале на тэму «СССР праз 20 гадоў», арганізаваным асацыяцыяй «Францыя – Урал»*



*Страсбург, 2009 г. З дэпутатам Еўрапарламента Яцэкам Пратасевічам (у цэнтры), які ўзначальваў парламенцкую групу па Беларусі, і Мікалаем Статкевічам – кандыдатам у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 г. Лукашысты кінулі Статкевіча ў турму ў дзень выбараў 19 снежня*



*Як я ні пазбягаў гэтага слова, але атрымаліся мемуары. Чаму ж у фінале – фота нейкай рэспектабельнай сям'і на прыступках майго загараднага дамка за 55 кіламетраў ад Мінска?*
*Крайні справа на здымку – муж гэтай чароўнай жанчыны і бацька гэтых радасных дзяцей – Дэніэл Спекхард, Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь у 1998–2002 гг. Ён выратаваў мне жыццё. Аб гэтым – у раздзеле «Аб універсітэтах і ВНУ, ступенях і лекцыях». Я даведаўся пра яго ўчынак даволі позна і не змог падзякаваць спадару Дэніэлу Спекхарду. Выпраўляю сваю памылку: ДЗЯКУЙ, ДЭНІЭЛ!*



*Вашынгтон, Універсітэт імя Джорджа Вашынгтона, 25 Сакавіка 2012 г. Са студэнтамі і выкладчыкамі пасля маёй лекцыі, прысвечанай 94-й гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі. Трэцяя злева ў першым шэрагу выкладчыца Алеся Кіпель – дачка вядомага дзеяча беларускай дыяспары Вітаўта Кіпеля. Як падобныя амерыканскія студэнты на беларускіх, але якія розныя ў іх правы і магчымасці!*



*Вашынгтон, 26 сакавіка 2012 г. Здымак на памяць пасля ўручэння мне Медаля Свабоды імя Трумана-Рэйгана. Злева ад мяне прэзідэнт Фонду «The Victim of Communism Memorial Foundation» доктар Лі Эдвардс, справа — вядомы саветолаг доктар Арыэль Коэн*





*Высокапастаўленыя супрацоўнікі Дзяржэпартамэнту ЗША Дэніэл Расэл і былы Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Майкл Козак займаюцца праблемамі Усходняй Еўропы. Яны перакананыя, што праблемы ў адносінах Беларусь — ЗША, спароджаная беларускім кіроўным рэжымам, непазбежна адступяць перад канструктыўным ўзаемавыгодным супрацоўніцтвам*





*Такога ж меркавання прытрымліваюцца сенатар ад штата Ілінойс Рычард Дурбін і сенатар ад штата Мерылэнд Бен Кардзін – віцэ-прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і сустаршыня Хэльсінскай камісіі Сената ЗША па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе*



*Вашынгтон, 27 сакавіка 2012 г. З Ірынай і палітолагамі Ані Сміт і Фрэдам Арыас Кінгам ля мемарыяла ахвярам Другой сусветнай вайны. ЗША страцілі ў гэтай вайне 420 000 са 132 млн. сваіх грамадзян, Беларусь – 2 500 000 з 10 млн.*



*Мой малады сябра мексіканскі палітолаг і палітык Фрэд Арыас Кінг арганізаваў маё знаходжанне ў Вашынгтоне так, што за 6 дзён я прачытаў 7 лекцый, меў шмат выступаў і інтэрв'ю, абмяняўся меркаваннямі на Капіталійскім узгорку з сенатарамі Бенам Кардзінам і Рычардам Дурбінам, сустрэўся са шматлікімі супрацоўнікамі Сената, Кангрэса і Дзярждэпартамента, усклаў кветкі да помніка ахвярам таталітарызму*



*Увечары 28 сакавіка 2012 г. пасля маёй лекцыі ва Універсітэце Джорджа Вашынгтона найскладаней было адшукаць месца ў які-небудзь недалёкім пабе, каб працягнуць пачатую ў аўдыторыі размову. У сераду (!) усе пабы паблізу Белага дома і ўніверсітэта былі перапоўненыя студэнтамі, маладымі супрацоўнікамі Дзяржэпартамента і... прыгнечанымі працай прафесарамі, якія, аказваецца, таксама прагнуць зносінаў. Нам пашанцавала ўсё ж знайсці ўтульнае месца, і аматары піва (прафесар Генры Хэйлі, прафесар Роберт Ортунг, перакладчык Аляксей Собчанка, Фрэд Арыас Кінг і я), і аматары колы (стажор-даследчык Суф'ян Жэмухаў, мусульманін), і аматарка соку – мая жонка Ірына – змаглі працягнуць нашу гутарку. Усе мы яшчэ раз пагадзіліся з Антуанам дэ Сент-Экзюперы: «Самая вялікая раскоша – раскоша чалавечага сумоўя»*



*На сустрэчы "без гальштукаў" старшыня Камітэта па замежных справах Сейма Літвы, старшыня Міжнароднага форуму "Парламентарыі за дэмакратыю", намеснік старшыні Камітэта па міжнародных справах Еўрапарламента Эмануэліс Зінгерыс такі непасрэдны і адкрыты, што гутарка з ім прыносіць вялікае задавальненне*





*Штогод 25 сакавіка ў Дзень памяці ахвяраў таталітарызму ў Вашынгтоне каля помніка загінулым у барацьбе за свабоду праходзіць жалобны мітынг. Людзі запальваюць ля помніка свечкі. У памяць аб вялікім паэце Беларусі запаліў свечку і ўнук Янкі Купалы Вісвідас Матуліс (у цэнтры на правым здымку), які жыве ў ЗША. Арганізатары мітынгу запрасілі выступіць і мяне – як лаўрэата Медаля Свабоды 2012 года. Перакладала Алеся Кіпель (на левым здымку са сцягам)*



*Нямала выдатных беларусаў – людзей высокай кваліфікацыі – перakаналіся: у лукашэнкаўскай Беларусі добрасумленным настаўнікам, навукоўцам, лекарам, прадпрымальнікам, вайскоўцам немагчыма прыстойна жыць і забяспечваць сям'ю. Многія з'ехалі працаваць за мяжу, у тым ліку ў Расію. У іх ліку генерал-палкоўнік у адстаўцы Іван Уладзіміравіч Пасека*



*Беларусь працягваюць пакідаць таленавітыя навукоўцы вышэйшай кваліфікацыі. Сярод іх – мой калега па БДУ, фізік, доктар фізіка-матэматычных навук А. Патрын, сын Героя Савецкага Саюза Аляксея Патрына, які першым пераправіўся праз Дняпро падчас вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ён – прафесар, загадчык кафедры, віцэ-дэкан Політэхнічнага інстытута ў Кашаліне (Польшча), дзе мы і сустрэліся. Яго наўрад ці можна падазраваць у памяркоўным беларускім патрыятызме. Але немагчыма займацца навукай у краіне, якая больш выдаткоўвае сродкаў на ўтрыманне рэпрэсіўнага апарату, чым на падтрымку навукі*



*У мае студэнцкія гады дасціпныя выкладчыкі гісторыі КПСС расказвалі пра “агалцелага антысаветчыка” Рычарда Пайпса, які з-за акіяна палівае брудам будаўнікоў камунізму ў СССР. Мне не ўдалося сустрэць прафесара Пайпса ў час майго побыту ў Гарвардскім універсітэце, дзе ён працуе, але пашанцавала ў Варшаве і Маскве, куды яго запрашаюць як аўтарытэтнага даследчыка гісторыі СССР і Расіі*



*З Алесем Бяляцкім, асуджаным у Беларусі за праваабарончую дзейнасць на 7,5 гадоў пазбаўлення волі, мы адшукалі на могілках у Празе магілу вядомага беларускага опернага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Ён нарадзіўся ў 1900 г. у вёсцы Несцяровічы на Гродзеншчыне. Падчас расійска-польскай вайны пераехаў у Барнаул, затым у Харбін. Дэбютаваў у партыі Ленскага ў оперы «Яўгеній Анегін», вучыўся ў знакамітага Фернанда Карпі. Стажаваўся ў Мілане. У тэатры Ла-Скала пазнаёміўся з Фёдарам Шаляпіным і Леанідам Собінавым. Кар'еру спевака працягваў у Познані, Варшаве і Празе, дзе часта ўключаў у свой рэпертуар беларускія народныя песні, пачутыя ў дзяцінстве ад маці. Знаёміў з імі тысячныя аўдыторыі. Толькі ў 1963 г. яму дазволілі наведаць БССР і выступіць з канцэртамі ў Мінску і Гродне*



*Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) пачала фармавацца яшчэ ў 1975 г. У яе ўваходзяць 56 дзяржаваў: усе еўрапейскія краіны, ЗША, Канада, дзяржавы Цэнтральнай Азіі і Закаўказзя. Статус партнёраў маюць міжземнаморскія краіны Ізраіль, Іярданія, Егіпет, Туніс, Алжыр і Марока. Азіяцкімі партнёрамі з'яўляюцца Японія, Паўднёвая Карэя, Тайланд, Афганістан і Манголія. Фактычна, сфера дзейнасці АБСЕ ахоплівае прастору ад Ванкувера да Уладзівастока. Вышэйшым органам АБСЕ з'яўляюцца саміты, якія праводзяцца па дамоўленасці дзяржаваў, як правіла, адзін раз у два-тры гады. Першы саміт адбыўся ў Хельсінкі ў 1975 г. На здымку – удзельнікі саміта 1992 г. ў Хельсінкі, дзе я паставіў подпіс пад дакументам аб далучэнні Беларусі да АБСЕ. Хацеў зрабіць гэта той жа асадкай, якой падпісаў Белавежскае пагадненне, але пратакалісты Міністэрства замежных справаў Фінляндыі не дазволілі. Як і ўсім іншым падпісантам яны ўручылі мне спецыяльную асадку і заверылі, што подпіс, зроблены запраўленым у яе атрамантам, ніколі не паблякне і не знікне*



*3 лістапада 2012 года ў Вільні адбылося паседжанне Рады БНР, на якое былі запрошаныя прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі Беларусі, вядомыя беларусы замежжа і грамадзяне Беларусі, вымушаныя ў апошнія гады пакінуць Радзіму з-за палітычнага пераследу . На здымку: Уладзімір Колас, Сяргей Навумчык, Аляксандр Старыкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Старшыня Рады Івонка Сурвіла, Вінцук Вячорка, Уладзімір Барадач, Хведар Нюнька, Лявон Шыманец. Усе пагадзіліся з тым, што Рада па-ранейшаму павінна працаваць у адпаведнасці са сваімі статутнымі абавязкамі да моманту перадачы сваіх паўнамоцтваў дэмакратычнаму ўраду Беларусі*



*Аднаго паходжання гора ў Алы Уладзіміраўны Саннікавай, Міланы Міхалевіч і Насты Палажанкі, якіх я сфатаграфаваў увесну 2012 года. Сын першай, мужы другой і трэцяй – палітвязні. Па сфабрыкаваных даносах іх кінулі за краты*

# Паказнік імёнаў

## А



## Б

## В

## Г

## Д



## Е



## Ж

## З



## І



## К

## Л

## М

## Н



## О



## П

# Р

## С

## Т



## У

## Ф



## Х



## Ц



## Ч

## Ш



## Э

## Ю



## Я

*Навукова-папулярнае выданне*

Станіслаў Шушкевіч

# Маё жыццё,
# крах і ўваскрошанне СССР

Рэдактар
Міхась Скобла

Дызайн
і кампутарная вёрстка
Алены Зубаравай

Падпісана ў друк 01.06.2013. Фармат 60x90 1/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 29,5. Ум.-выд. арк. 29,5. Тыраж 1000 экз.
Printed by www.draugustudija.lt

Палітычная аўтабіяграфія спалучаная ў кнізе з ацэнкай і аналізам значных падзеяў, удзельнікам ці сведкам якіх быў аўтар. Абмінуўшы наменклатурныя прыступкі камуністычнай іерархіі, ён – універсітэцкі прафесар фізікі – апынуўся ў складзе палітычнай эліты спачатку безнадзейна зачаўрэлага СССР, а затым і на дзяржаўнай пасадзе першага кіраўніка незалежнай Беларусі. Магчыма, гэтым вызначаецца нетрывіяльная ацэнка аўтарам дзейнасці сусветна вядомых палітыкаў, грамадскіх, культурных і рэлігійных дзеячаў, з якімі звёў яго лёс, а таксама яго бачанне перспектыў палітычнага і геапалітычнага развіцця постсавецкай прасторы.